# НОВЫ ЗАКОН
# СПАДАРА А СПАСА НАШАГА
# ІСУСА ХРЫСТА

**З МОВЫ ГРЭЦКАЕ НА ВЯЛІКАЛІТОЎСКУЮ (БЕЛАРУСКУЮ)
НАНАВА ПЕРАКЛАДЗЕНЫ**

---

ВЯЛІКАЛІТОЎСКАЕ (БЕЛАРУСКАЕ) НАВУКОВАЕ ТАВАРЫСТВА
ПРАНЦІША СКАРЫНЫ
У НЮ ЁРКУ 1970

## КНІГІ НОВАГА ЗАКОНУ

## ЕВАНГЕЛЯ ПОДЛЕ СЬВЯТОГА МАЦЬВЕЯ

1 Сувой радаводу Ісуса Хрыста, Сына Давідавага, сына Абрагамовага.

2 Абрагам нарадзіў Ісака́; а Ісак нарадзіў Якава; а Якаў нарадзіў Юду а братоў ягоных; 3 А Юда нарадзіў Фарэса а Зару ад Тамары; а Фарэс нарадзіў Есрома; а Есром нарадзіў Арама; 4 А Арам нарадзіў Амінадава; а Амінадаў нарадзіў Наассона; а Наассон нарадзіў Салмона; 5 А Салмон нарадзіў Вооза ад Рахавы; а Вооз нарадзіў Овіда ад Руты; Овід жа нарадзіў Еса; 6 А Есэ нарадзіў караля Давіда;

Давід жа нарадзіў Салямона ад Урыхі; 7 Салямон жа нарадзіў Ровоама; а Ровоам нарадзіў Аву; а Ава нарадзіў Асу; 8 А Аса нарадзіў Ясапата; а Ясапат нарадзіў Ёрама; а Ёрам нарадзіў Узю; 9 А Узя нанарадзіў Ёфама; а Ёфам нарадзіў Агаза; а Агаз нарадзіў Гэзэку; 10 А Гэзэка нарадзіў Манаса; а Манас нарадзіў Амона; а Амон нарадзіў Ёсю; 11 А Ёся нарадзіў Ехоню а братоў ягоных, у часе калі былі выселены да Бабілёну. 12 А па бабілёнскім высяленьню Ехоня нарадзіў Шэалфіеля; Шэалфіель нарадзіў Зэрувавеля; 13 Зэрувавель нарадзіў Авуда; а Авуд нарадзіў Елякіма; а Елякім нарадзіў Азора; 14 А Азор нарадзіў Садока; а Садок нарадзіў Ахіма; а Ахім нарадзіў Елюда; 15 А Елюд нарадзіў Елеазара; а Елеазар нарадзіў Матфана́; а Матфан нарадзіў Якава; 16 А Якаў нарадзіў Язэпа, мужа Марыі, з каторае нарадзіўся Ісус, званы Хрыстос.

17 А ўсіх пакаленьняў ад Абрагама аж да Давіда — чатырнанцаць пакаленьняў; і ад Давіда аж да бабілёнскага высяленьня — чатырнанцаць пакаленьняў; і ад бабілёнскага высяленьня да Хрыста — чатырнанцаць пакаленьняў.

18 Нараджэньне ж Ісуса Хрыста сталася гэтак: па заручынах Маці Ягонае Марыі зь Язэпам, перад тым чымся злучыліся, выявілася, што Яна мае ў жываце з Духа Сьвятога. 19 А Язэп, муж ейны, будучы справядлівым, і ня хочучы Яе зьняславіць, хацеў патáй адпусьціць Яе. 20 Але як ён гэта падумаў, — вось, ангіл Спадароў зьявіўся яму ў сьненьню, кажучы: „Язэпе, сыну Давідаў, ня бойся прыняць Марыю, жонку сваю, бо зачатае ў ёй — з Духа Сьвятога ёсьць. 21 І народзе яна Сына, і назавеш імя Ягонае: Ісус, бо Ён спасець люд Свой ад грахоў іхных". 22 А ўсе гэта сталася, каб спаўнілася сказанае Спадаром прарокам; 23 „Вось, Дзявушчая зацяжарыць а народзе Сына, і назавуць імя Яго Емануель", што знача: з намі Бог. 24 Прачхнуўшыся зо сну, Язэп зрабіў, як расказаў яму ангіл Спадароў, і прыняў жонку сваю. 25 І ня знаў Яе, пакуль не нарадзіла Яна Сына, і ён назваў імя Ягонае: Ісус.

2 Як жа нарадзіўся Ісус у Бэтлееме Юдэйскім, за дзён караля Гірада, вось, мудрыцы з усходу прыбылí да Ерузаліму й сказалі: 2 „Ідзе кароль Юдэйскі, што нарадзіўся? бо мы бачылі на ўсходзе зорку Ягоную і прышлі пакланіцца Яму". 3 Пачуўшы гэта, кароль Гірад парушыўся, і ўвесь Ерузалім із ім. 4 І, зьбершы ўсіх найвышшых сьвятароў а кніжнікаў люду, распытаваў у іх, ідзе меў Хрыстос нарадзіцца. 5 І яны сказалі яму: „У Бэтлееме Юдэйскім, бо так напісаў прарока: 6 ‚І ты, Бэтлееме, зямля Юдзіна, ані ня меншы памеж правадыроў Юдзіных, бо зь цябе выйдзе правадыр, што будзе пасьціць люд Мой — Ізраеля'".

7 Тады Гірад патáй прыгýкаў мудрыцоў і дакладна ў іх выведаў

праз час, калі зьявілася зорка. 8 І, пасылаючы іх да Бэтлеему, сказаў: „Ідзіце і ўсё дакладна даведайцеся празь Дзецянё; і, як толькі знойдзеце Яго, накажыце імне, каб і я прышоў а пакланіўся Яму". 9 Яны ж выслухалі караля й пайшлі. І вось, зорка, што яны бачылі на ўсходзе, ішла перад імі, аж пакуль, прыйшоўшы, ня стала над местам, ідзе было Дзецянё. 10 І, абачыўшы зорку, яны ўзрадаваліся радасьцяй надзвычайнай. 11. І, увыйшоўшы ў хату, абачылі Дзецянё з Марыяю, Маткаю Ягонай, і, паўшы, пакланіліся Яму; і адчыніўшы скарбы свае, абраклі Яму дары: золата, кадзіла а міру. 12 І, перасьцярэжаныя Богам у сьне, каб не зварачаліся да Гірада, адышлі яны іншай дарогаю да краю свайго.

13 І, як яны адышлі, вось, ангіл Спадароў зьявіўся Язэпу ў сьненьню, кажучы: „Устань, вазьмі Дзецянё а Маці Ягоную, і ўцякай да Ягіпту, і будзь там, пакуль Я не скажу табе; бо Гірад будзе шукаць Дзецяняці, каб загубіць Яго". 14 І. ён устаў, узяў Дзецянё а Маці Ягоную ночы, і здаліўся да Ягіпту. 15 І быў там аж да сьмерці Гірада, каб спаўнілася сказанае Спадаром прарокам: „Зь Ягіпту Я прыгукаў Сына Свайго".

16 Тады Гірад, абачыўшы, што мудрыцы насьміяліся зь яго, надта загневаўся, і паслаў, і забіў усі дзеці, што былі ў Бэтлееме а ў вусіх аколіцах яго, ад двух год і ніжэй, подле часу, каторы ён распытаў у мудрыцоў. 17 Тады спаўнілася сказанае Ярэмам прарокам: 18 „Быў чуваць голас у Раме, галашэньне а плач а шмат жалобы: Рахіль плача па дзяцёх сваіх і не даецца пацешыць, бо іх няма".

19 Але, як Гірад памер, вось, ангіл Спадароў зьявіўся ў сьненьню Язэпу ў Ягіпце, 20 Кажучы: „Устань, вазьмі дзецянё а маці Ягоную і йдзі да зямлі Ізраелявае, бо памерлі тыя, што шукалі жыцьця Дзецяняці". 21 І ён устаў, і ўзяў Дзецянё а Маці Ягоную, і прышоў да зямлі Ізраелявае. 22 Але пачуўшы, што каралюе ў Юдэі Архелай, — замест Гірада, бацькі свайго, — пабаяўся йсьці туды; а ў сьненьню перасьцярэжаны, адыйшоў да зямлі Ґалілейскае. 23 І прыйшоў, і жыў у месьце, званым Назарэт, каб спаўнілася сказанае пракокамі, што Ён Назарэцянінам будзе названы.

3 Тых дзён Яан Хрысьціцель, абяшчаючы, прыбыў на пустыню Юдэйскую, 2 Кажучы: „Кайцеся, бо дабліжылася гаспадарства нябёснае!" 3 Бо ён тый, праз каго сказана Ісаям прарокам, кажучы: „Голас гукаючага на пустыні: гатуйце дарогу Спадарову, раўнуйце сьцежкі Ягоныя!" 4 А тый Яан меў адзецьце сабе зь вярблюджае поўсьці й дзягу на сьцёгнах сваіх; і ежаю яму была шаранча а дзікі мёд. 5 Тады выходзіў да яго Ерузалім а ўся Юдэя а ўся аколіца ёрданская. 6 І хрысьціліся ў яго ў Ёрдане рацэ, спавядаючыся з грахоў сваіх. 7 І як ён бачыў шмат каго з фарысэяў а садукеяў, што прыходзілі да яго хрысьціцца, ён казаў ім: „Родзе гадавы, хто перасьцярог вас уцякаць ад надыходзячага гневу? 8 Дык давайце плады годныя каяты; 9 І ня думайце казаць самым сабе: ,Айцец у нас Абрагам', бо кажу вам, што можа Бог із камянёў гэтых узьняць дзеці Абрагаму. 10 І цяпер таксама сякіра да караня дзерваў прыложана; дык кажнае дзерва, што не даець добрага плоду, будзе сьсечана й кінена ў цяпло. 11 Я хрышчу вас у вадзе на каяту, але Тый, што йдзець просьле мяне, дужшы за мяне, чыйго вобую я ня годны панесьці; Ён будзе хрысьціць вас у Духу Сьвятым а агню. 12 Веялка Ягоная ў руццэ Ягонай, і ачысьцець ток Свой, і зьбярэць пшонку Сваю



да сьвірна, а ўмецьце спале агнём нязгасным".

13 Тады прыбывае Ісус із Ґалілеі на Ёрдан да Яана, каб прыняць хрэст ад яго. 14 Але Яан забараніў Яму, кажучы: „Я патрабую быць хрышчаным Табою, а Ты прыходзіш да мяне". 15 Але Ісус, адказуючы, сказаў яму: „Дазволь цяпер, бо належа нам выпаўніць усю справядліваcьць". Тады ён дазволіў Яму. 16 І, ахрысьціўшыся, Ісус зараз вышаў з вады; і, гля, рашчыніліся нябёсы над Ім, і абачыў Духа Божага, што спушчаўся, як галуба, і зыходзіў на Яго. 17 І, гля, голас ізь нябёсаў, кажучы: „Гэта Сын Мой умілаваны, Каторага Я ўпадабаў!"

4 Тады Ісус быў узьведзены Духам на пустыню дзеля спакусы д'явалам. 2 І паставаў Ён сорак дзён і сорак ночаў а наапошку запрагнуў. 3 І, дабліжыўшыся, спакусіцель сказаў Яму: „Калі Ты Сын Божы, скажы, каб камяні гэтыя абярнуліся ў букаткі". 4 Але Ён, адказуючы, адказаў: „Напісана: ,Не адзіным хлебам жыва будзе людзіна, але кажным словам, што выходзе з вуснаў Божых'". 5 Тады бярэць Яго д'явал да сьвятога места, і станове Яго на крыле сьвятыні, 6 І кажа Яму: „Калі ты Сын Божы, кінься далоў, гэта ж напісана: ,Ангілам Сваім раскажа Ён празь Цябе, і на руках панясуць Цябе, каб ты не спатыкнуўся аб камень нагою Сваей'". 7 Сказаў яму Ісус: „Напісана яшчэ: ,Не спакушай Спадара Бога свайго'". 8 Ізноў бярэць Яго д'явал на гару надзвычайна высокую, і паказуе Яму ўсі гаспадарствы сьвету й славу іх, 9 І кажа Яму: „Усё гэта дам Табе, калі, паўшы, паклонішся імне". 10 Тады кажа яму Ісус: „Вон, шайтане, бо напісана: ,Спадару Богу свайму кланяйся й Яму адзінаму служы'" 11 Тады кідае Яго д'явал,— і вось, ангілы прыступілі й служылі Яму.

12 Як Ісус дачуўся, што Яан аддалены пад нагляд, Ён адыйшоў да Ґалілеі. 13 І, пакінуўшы Назарэт, прышоў і асяліўся ў Капэрнауме ўзморскім у граніцах Завулонавых а Наффалімовых, 14 Каб спаўнілася сказанае Ісаям прарокам, што кажа: 15 „Зямля Завулонава а зямля Наффалімова, ля дарогі морскае, за Ёрданом, Ґалілея паганская, 16 Люд, што сядзеў у цямноце, абачыў вялікае сьвятло, і тым, што сядзелі ў краіне сьценю сьмерці, сьвятло зазьзяла".

17 Адгэтуль Ісус пачаў навучаць а казаць: „Кайцеся, бо гаспадарства нябёснае дабліжылася".

18 І, праходзячы ля мора Ґалілейскага, Ісус абачыў двух братоў: Сымона, званага Пётрам, а Андрэя, брата ягонага, што закідалі сетку ў мора, бо былі рыбнікі; 19 І кажа ім: „Ідзіце за Імною, і Я ўчыню вас лаўбітамі, людзёў". 20 І яны зараз пакінулі сеткі й пайшлі за Ім.

21 І, ідучы стуль, Ён абачыў іншых двух братоў, Якава Заведэявага а Яана, брата ягонага, у струзе із Заведэям, айцом іхным, каторыя правілі сеткі свае, і гукнуў іх. 22 Яны ж зараз, пакінуўшы струг і айца свайго, пайшлі за Ім.

23 І хадзіў Ісус па ўсёй Ґалілеі, навучаючы ў бажніцах іхных, і абяшчаючы Евангелю гаспадарства, і ўздараўляючы ўсялякую хваробу а ўсялякае няўздоленьне памеж людзёў. 24 І галасы празь Яго разышліся па ўсёй Сыры; і прыводзілі да Яго ўсіх хворых, у каторых розныя хваробы, і мучаных рознымі болямі, і апанаваных д'явалам, і люнатыкаў, і з палярушам, і Ён уздараўляў іх. 25 І йшоў за Ім чысьлены груд із Ґалілеі а Дзесяцімесьця а Ерузаліму а Юдэі а з-за Ёрдану.

5 І, бачачы груды, узышоў Ён на гару; і, як сеў, падышлі да Яго вучанікі Ягоныя. 2 І, адчыніўшы вусны Свае, Ён навучаў іх, кажучы:

3 „Шчасьлівыя ўбогія духам, бо
іх ё гаспадарства нябёснае. 4 Шча-
сьлівыя засмучоныя, бо яны будуць
пацешаны. 5 Шчасьлівыя лагодныя,
бо ім спадзець зямля. 6. Шчасьлівыя
прагнучыя й сьмягнучыя справядлі-
васьці, бо яны будуць насычаны.
7 Шчасьлівыя міласэрныя, бо яны
адзяржаць міласэрдзе. 8 Шчасьлівыя
чыстыя сэрцам, бо яны абачаць
Бога. 9 Шчасьлівыя чынячыя супа-
кой, бо яны сынамі Божымі названы
будуць. 10 Шчасьлівыя перасьледа-
ва́ныя за справядлівасьць, бо іх ё
гаспадарства нябёснае. 11 Шчасьлі-
вы вы, калі будуць вярнуць на вас
і перасьледава́ць, і будуць, манячы,
мовіць на вас усялякае ліха дзеля
Мяне. 12 Раду́йцеся а весяліцеся, бо
нагарода ваша вялікая на нябёсах,
бо так перасьледава́лі прарокаў, што
былі перад вамі.

13 „Вы — соль зямлі. Калі ж соль
згубе свой смак, чым пасаліць яе?
Бо яна ня мае моцы свае, хіба толь-
кі выкінуць яе вон, каб таптапі яе
людзі. 14 Вы — сьвятло сьвету. Ня
можа места схавацца, стоячы на вер-
се гары. 15 І, як паляць ляпу, ня
ставяць яе пад карэц, але на пад-
станоўку, і сьвеце ўсім у хаце. 16 Гэ-
так няхай сьвеце сьвятло вашае пе-
рад людзьмі, каб яны бачылі доб-
рыя ўчынкі вашыя і ўславілі Айца
вашага, Каторы на нябёсах.

17 „Ня думайце, што Я прышоў
узрушыць закон альбо прарокаў; Я
ня прышоў узрушыць, але спаўніць.
18 Бо запраўды кажу вам: пакуль
ня мінець неба й зямля, ні водная
ёта альбо ні водная рыска ня мінець
із закону, аж пакуль усё ня станец-
ца. 19 Дык хто ўзруша адно з рас-
казаньняў гэтых найменшых і так
навуча людзёў, — найменшым будзе
названы ў гаспадарстве нябёсным;
а хто спаўне а навуча, тый вялікім
будзе названы ў гаспадарстве нябёс-
ным. 20 Бо кажу вам: калі справяд-
лівасьць ваша не пярэйдзе справяд-
лівасьці кніжнікаў а фарысэяў, дык
ніяк ня ўвыйдзеце ў гаспадарства
нябёснае.

21 „Вы чулі, што сказа́на стара-
вечным: ‚Не забівай; а хто заб'ець,
падпадзець пад суд'. 22 А я кажу
вам, што кажны, хто злуецца на бра-
та свайго дарма, падпадзець пад суд;
а хто скажа брату свайму ‚рака',*)
падпадзець пад сьнэдрыён; а хто
скажа‚дурань', падпадзець пад пек-
ляное цяпло. 23 Дык, калі ты пры-
нясеш дар свой да аброчніка і там
успомніш, што брат твой мае штось
на цябе; 24 Пакінь там дар свой пе-
рад аброчнікам, і пайдзі, уперад па-
гадзіся з братам сваім, і тады пры-
йдзі й абрачы дар свой. 25 Пагадзі-
ся з праціўнікам сваім борзда, па-
куль ты яшчэ ў дарозе зь ім, каб
праціўнік рэдчас не аддаў цябе су-
дзьдзі, а судзьдзя — слузе, і ня ўкі-
нулі цябе ў вязьніцу. 26 Запраўды
кажу табе: ня выйдзеш стуль, па-
куль не аддасі апошняга шэляга.

27 „Вы чулі, што сказа́на спра-
вядлівым: ‚Не чужалож'. 28 А Я
кажу вам, што кажны, хто гля-
дзіць на жонку із жадлівасьцяй,
ужо шчужаложыў зь ёй у сэрцу
сваім. 29 Калі правае вока тваё
спакушае цябе, вылупі яго й кінь
ад сябе, бо валей табе, каб за-
гінуў адзін із чаланоў тваіх, а ня
ўсё цела твае было ўкінена ў ґегену.
30 І калі правая рука твая спаку-
шае цябе, адатні яе й кінь ад сябе,
бо валей табе, каб загінуў адзін із
чаланоў тваіх, а ня ўсё цела твае
было ўкінена ў ґегену.

31 „І сказана: ‚Калі хто адпушчае
жонку сваю, няхай дасьць ёй раз-
водны ліст'. 32 А Я кажу вам, што
кажны, хто адпушчае жонку сваю,
апрача віны чужалоства, тый даець
прычыну да яе чужалоства; і хто
ажэніцца з разьведзенай, тый чужа-
ложа.

---

*) Пустыня.



33 „Ізноў вы чулі, што сказа́на ста-
равечным: ‚Не прысягай хвальшы-
ва, але паўні прысягі свае Спада-
ру'. 34 А Я кажу вам: не прысягай-
це сусім: ані небам, бо яно пасад
Божы; 35 Ані зямлёю, бо яна ка-
зюлька пад ногі Ягоныя; ані Еру-
залімам, бо ён места вялікага Ка-
раля; 36 Ані галавою сваёй не пры-
сягай, бо ня можаш ні воднага во-
ласа зрабіць белым альбо чорным.
37 Але няхай будзе слова вашае:
‚але, але', ‚не, не'; а што звыш гэ-
тага — ад злога.

38 „Вы чулі, што сказа́на: ‚Вока
за вока і зуб за зуб'. 39 А Я кажу
вам: не праціўся благому. Але хто
вытне цябе ў правую шчаку тваю,
абярні да яго й другую; 40 І хто
захоча прававацца з табою і ўзяць
у цябе сарочку, аддай яму й вop-
ратку; 41 І хто прысіле цябе йсьці
зь ім адну мілю, ідзі зь ім і дзьве.
42 Хто просе ў цябе, дай, і хто хоча
пазычыць у цябе — не адварачайся.

43 „Вы чулі, што сказа́на: ‚Любі
прыяцеля свайго, і ненавідзь не́-
прыяцеля свайго: 44 А Я кажу вам:
любіце не́прыяцеляў сваіх, дабра-
слаўце клінучых вас, рабіце дабро
ненавідзячым вас і маліцеся за
крыўдзячых вас і перасьляду́ючых
вас, 45 Каб вы былі́ сынамі Айца
вашага Нябёснага, бо Ён расказуе
сонцу Свайму ўсходзіць над благімі
й добрымі і пасылае дождж на спра-
вядлівых і несправядлівых. 46 Бо,
калі вы будзеце любіць любячых
вас, якая вам нагарода? Ці ня тое ж
робяць і мытнікі? 47 І калі вы ве-
ціце толькі братоў сваіх, што асаблі-
вага робіце? Ці ня так робяць і па-
гане? 48 Дык будзьце дасканаль-
ныя, як дасканальны Айцец ваш
нябёсны.

6 „Сьцеражыцеся рабіць сваю спра-
вядлівасьць перад людзьмі, каб
бачылі вас, бо ня будзе вам нагаро-
ды ад Айца вашага, Каторы на ня-
бёсах. 2 Дык, калі даеш убожніну,
ня трубі перад сабою, як робяць
двудушнікі ў бажніцах і на вуліцах,
каб хвалілі іх людзі. Запраўды ка-
жу вам: яны ўжо адзержуюць нага-
роду сваю. 3 У цябе ж, як ты даеш
убожніну, няхай лявіца твая ня ве-
дае, што робе правіца, 4 Каб убож-
ніна твая была патаі́й; і Айцец твой,
што бача тайнае, аддасьць табе яўна.

5 „І калі молішся, ня будзь, як
двудушнікі, што любяць у бажніцах
і на рагох вуліцаў адзержуючыся,
маліцца, каб паказацца перад лю-
дзьмі. Запраўды кажу вам, што яны
ўжо адзержуюць нагароду сваю.
6 Ты ж, як молішся, увыйдзі ў па-
кой свой і, зачыніўшы дзьверы свае,
памаліся Айцу свайму, Каторы ўтай-
не; і Айцец твой, што бача ўтоенае,
аддасьць тэ яўна. 7 А молячыся, не
кажыце лішняга, як пагане; бо
яны думаюць, што ў шматслоўю бу-
дуць пачуты. 8 Ня будзьце падоб-
ныя да іх, бо ведае Айцец ваш, ча-
го вы патрабуеце, уперад, чымся вы
ў Яго папросіце. 9 Маліцеся ж гэ-
так: Войча наш, Каторы ёсьць у ня-
бёсах! сьвяціся імя Твае; 10 Пры-
йдзі гаспадарства Твае; будзь воля
Твая як на небе, так і на зямлі;
11 Хлеба нашага штадзеннага дай
нам сядні; 12 І даруй нам віны нашы,
як і мы даруем даўжбітом нашым;
13 І ня ўводзь нас у спакусу, але
збаў нас ад злога; бо Твае ё гаспа-
дарства а моц а хвала́ на векі. Амін.
14 Бо калі вы будзеце дараваць лю-
дзём выступы іхныя, то даруе й
вам Айцец ваш нябёсны. 15 А калі
ня будзеце дараваць людзём высту-
паў іхных, то й Айцец ваш не да-
руе вам выступаў вашых.

16 „І калі постуеце, ня будзьце,
як двудушнікі, хмарныя, бо яны
супяць від свой, каб паказацца пе-
рад людзьмі, што постуюць. Запраў-
ды кажу вам, што яны ўжо маюць
нагароду сваю. 17 А ты, калі посту-
еш, памаж галаву сваю і памый від
свой, 18 Каб стаць постуючым не

перад людзьмі, але перад Айцом
сваім, Каторы ўтайне; і Айцец твой,
што бача тайнае, аддасьць тэ яўна.
19 „Ня зьбірайце сабе скарбаў на
зямлі, ідзе моль а іржа нікбяць,
і йдзе зладзее падкопуюцца а кра-
дуць; 20 Але зьбірайце сабе скарбы
на небе, ідзе ані моль, ані іржа ня
нікбяць, і йдзе зладзее не падкопу-
юцца а не крадуць; 21 Бо, ідзе скарб
вашы, там будзе й сэрца вашае.

22 „Сьветачам целу ё вока. Дык
калі вока твае будзе чыстае, то ўсё
цела твае будзе сьветлае; 23 А калі
вока твае будзе благое, то ўсё цела
твае будзе цемнае. Дык калі сьвят-
ліня, што ў табе, цемнь, то якая ж
цемнь?

24 „Ніхто ня можа двум гаспада-
ром служыць, бо альбо аднаго зь-
ненавідзе, а другога будзе любіць;
альбо аднаму будзе прыяць, а праз
другога ня дбаць. Ня можаце слу-
жыць Богу й мамоне.

25 „Затым кажу вам: ня рупцеся
праз жыцьцё свае, што вам есьці
і што піць, ані праз цела свае, у
што адзецца. Ці ня большае жыць-
цё за ежу, а цела — за адзежу?
26 Гляньце на птушкі нябёсныя:
яны ня сеюць ані жнуць, ня зьбі-
раюць на ток, і Айцец ваш нябёсны
жыве іх. Ці ня шмат лепшыя вы за
іх? 27 Дый хто з вас, рупячыся, мо-
жа дадаць сабе росту на адзін ло-
каць? 28 І праз адзецьце нашто ру-
піцеся? Разважча праз палявыя лі-
лі, як яны растуць: не працуюць
ані прадуць; 29 Але кажу вам, што
й Салямон у ўсёй славе сваёй не
адзяваўся так, як кажная зь іх;
30 А калі траву палявую, што сядні
ё, а заўтра будзе кінена ў печ, Бог
так адзяець, ціж ня шмат балей
вас, малаверныя! 31 Дык ня руп-
цеся, кажучы: ‚Што нам есьці?’ аль-
бо: ‚Што піць?’ альбо: ‚У што адзец-
ца?’ 32 Бо ўсяго гэтага шукаюць
пагане, і затым што Айцец ваш ня-
бёсны ведае, чаго вы патрабуеце ў
вусім гэтым. 33 Шукайце ж най-
перш гаспадарства Божага і спра-
вядлівасьці Ягонае, і гэта ўсе дадас-
ца вам. 34 Дык ня рупцеся праз
заўтрашні дзень, бо заўтрашні будзе
рупіцца праз свае; досыць дню свай-
го ліха.

**7** „Ня судзіце, каб вас ня судзілі;
2 Бо якім судам судзіце, такім
і вас будуць судзіць; і якой мераю
мераеце, такой і вам адмераюць.
3 І чаму ты бачыш стрэмку ў воку
брата свайго, а бярна ў воку сваім
ня чуеш? 4 Або, як скажаш брату
свайму: ‚Дазволь, я выму стрэмку
з вока твайго’; а во, у воку тваім
бярно? 5 Двудушніча! вымі ўперад
бярно з вока свайго, і тады абачыш,
як вынясць стрэмку з вока брата
свайго.

6 „Не давайце сьвятасьці сабакам
і ня кідайце пэрлаў сваіх перад сьві-
ньмі, каб яны не патапталі іх на-
гамі сваімі і, абярнуўшыся, не раза-
рвалі вас.

7 „Прасіце, і дасца вам; шукайце,
і знойдзеце; стукайце, і адчыняць
вам; 8 Бо кажны просячы адзержуе,
і шукаючы знаходзе, і стукаючаму
адчыняюць. 9 Ці ё памеж вас такая
людзіна́, каторая, калі сын ейны
папросе ў яе хлеба, падасьць яму
камень? 10 І калі папросе рыбы,
падасьць яму гада?” 11 Дык, калі
вы, будучы благімі, умееце добрае
даваць дзяцём сваім, пагатове Айцец
ваш нябёсны дасьць добрае прося-
чым у Яго.

12 „Дык у вусім, чаго хочаце, каб
вам рабілі людзі, тое самае рабіце
вы ім; бо ў гэтым закон а пракокі.

13 „Уходзьце перазь цесную бра-
му, бо шырокая брама й прасторная
дарога тыя, што ўводзяць у загубу,
і шмат хто ўходзе перазь іх; 14 Бо
цесная брама й вузка́я дарога тая,
што вядзець да жыцьця, і мала хто
знаходзе іх.

15 „Сьцеражыцеся хвальшывых
пракокаў, што прыходзяць да вас



у вадзецьцю авечым, а ўнутры —
ваўкі дзярлівыя.

16 „Подле пладоў іхных пазнаеце
іх. Ціж зьбіраюць ізь церня віно
альбо з асоту фігі? 17 Гэтак усякае
дзерва добрае родзе й плады доб-
рыя, а благое дзерва родзе й плады
благія. 18 Ня можа дзерва добрае ра-
дзіць плады благія, ані дзерва бла-
гое радзіць плады добрыя. 19 Каж-
нае дзерва, што ня родзе плоду доб-
рага, сьцінаюць і кідаюць у цяпло.
20 Дык із пладоў іхных пазнаеце іх.

21 „Ня кажны, што кажа Імне:
‚Спада́ру!’ увыйдзе ў гаспадарства
нябёсное, але поўнячы волю Айца
Майго, што ў нябёсах. 22 Шмат хто
скажа Імне таго дня: ‚Спада́ру!
Спада́ру! ці не ад Твайго імені мы
прарокалі? і ці не Тваім імям ня-
чысьцікаў выганялі? і ці не Тваім
імям шмат магучых учынкаў чыні-
лі?’ 23 І тады азнаймлю ім: ‚Я ніко-
лі ня знаў вас; адыйдзіце ад Мяне,
дзеючыя бясправўе’.

24 „Дык кажны, хто слухае словы
Мае гэтыя і поўне іх, падобны да
мужа разумнага, што пастанавіў дом
свой на ска́ле; 25 І лінуў лівун,
і разьліліся рэкі, і павеялі вятры,
і рынуліся на дом тый, і ён не зава-
ліўся, бо закладзены быў на ска́ле.
26 А кажны, хто слухае гэтыя сло-
вы Мае і ня поўне іх, будзе падобны
да неразважнае людзіны, што па-
станавіла дом свой на пяску; 27 І лі-
нуў лівун, і разьліліся рэкі, і павея-
лі вятры, і рынуліся на дом тый;
і ён заваліўся, і быў пад яго вялікі.”

28 І сталася, як Ісус скончыў сло-
вы гэтыя, што люд дзіваваўся з на-
вукі Ягонае, 29 Бо Ён вучыў іх, як
уладу маючы, а не як іхныя кніж-
нікі а фарысэі.

**8** Як жа зышоў Ён із гары, за Ім
пайшло шмат грудоў. 2 І вось, па-
дышоў пракажаны і, кланяючыся
Яму, сказаў: „Спада́ру, калі хочаш,
можаш мяне ачысьціць”. 3 Ісус, вы-
цягнуўшы рукў, даткнуўся да яго
й сказаў: „Хачу, ачысьціся”. І ён
якга́ ачысьціўся ад пракзы. 4 І ка-
жа яму Ісус: „Глядзі, нікому не ка-
жы; але пайдзі, пакажыся сьвятару
і абрачы дар, які расказаў Масей,
на сьветчаньне ім”.

5 А як увыйшоў да Капернауму,
да Яго падышоў сотнік і прасіў Яго:
6 „Спада́ру! дзяцюк мой ляжыць до-
ма, у яго палярўш, і ён вельма му-
чыцца”. 7 Ісус кажа яму: „Я прыйду
і ўздараўлю яго”. 8 Сотнік жа адка-
заў і сказаў: „Спада́ру! я ня годзен,
каб Ты ўвыйшоў пад страху маю;
але скажы толькі слова, і ачуняе
слуга мой; 9 Бо я, і людзіна́ паду-
ладная, і маю пад сабой вояў, кажу
аднаму: ‚Пайдзі’, і йдзець; і друго-
му: ‚Прыйдзі’, і прыходзе; і слузе
свайму: ‚Зрабі гэта’, і робе”. 10 Па-
чуўшы гэта, Ісус зьдзіваваўся й ска-
заў ідучым за Ім: „Запраўды кажу
вам: у нікім такое веры ў Ізраелю
не знайшоў Я. 11 Кажу ж вам, што
шмат прыйдзе з усходу і із заходу
і засядуць із Абрагамам, Ісаком а
Якавам у гаспадарстве нябёсным;
12 А сынове гаспадарства выкінены
будуць у цемру навонную; там бу-
дзе плач а скрыгот зубамі”. 13 І ска-
заў Ісус сотніку: „Ідзі, і, як ты ўве-
рыў, няхай будзе табе”. І ачуняў
дзяцюк тае ж гадзіны.

14 І прыйшоўшы да дому Пятро-
вага, Ісус абачыў цешчу ягоную,
што ляжала й была́ ў гару́чцы. 15 І
даткнуўся да рукі ейнае, і гаручка
пакінула яе; і яна ўстала а паслу-
гавала ім.

16 Як жа настаў вечар, да Яго
прывялі шмат апанаваных злым ду-
хам, і Ён выгнаў духоў словам, і ўсіх
няўздолюючых уздаравіў, 17 Каб
спаўнілася сказа́нае Ісаям пракокам,
што кажа: „Ён узяў на Сябе няў-
здоленьні нашы і панёс хваробы”.

18 Як Ісус абачыў навокал Сябе
вялікія груды, расказаў адплысьці
на другі бок.

19 І дабліжыўся адзін із кніжні-

каў, і сказаў Яму: „Вучыцелю! я пайду за Табою, куды б Ты ні пайшоў”. 20 І кажа яму Ісус: „Лісы маюць норы, і птушкі нябёсныя — гнезды, а сын людзкі ня мае йдзе галавы прытуліць”.

21 Другі ж із вýчанікаў Ягоных сказаў Яму: „Спадáру! дазволь імне ўперад пайсьці і пахаваць айца свайго”. 22 Але Ісус сказаў яму: „Ідзі за Імною і пакінь мертвым хаваць памерлых сваіх”.

23 І як увыйшоў Ён у струг, за Ім пайшлі вýчанікі Ягоныя. 24 І вось, узьнялáся вялікая бура на мору, ажно хвалі залівалі струг; а Ён спаў. 25 І, дабліжыўшыся, яны пабудзілі Яго й сказалі: „Спадáру! ратуй нас — гінем!” 26 І кажа ім: „Чаму вы баязьлівыя, малаверныя?” Потым, устаўшы, зганіў вятры а мора, і стала вялікая цішыня. 27 Людзі ж дзіваваліся й сказалі: „Што за Гэты, што вятры а мора слухаюць Яго?”

28 І як Ён прыбыў на другі бок да зямлі Ґерґесынскае, Яго перанялі два апанаваныя д'яблам, вышаўшы з грабоў, надта злыя, ажно ніхто ня мог праходзіць тудэй. 29 І вось, яны закрычэлі: „Што Табе да нас, Ісусе, Сыну Божы? Ты прышоў сюды без пары мучыць нас”. 30 Далёка ж ад іх пасьцілася вялікая чарада сьвіньняў. 31 І нячысьцікі прасілі Яго, кажучы: „Калі выжанеш нас, то пашлі нас у чараду сьвіньняў”. 32 І сказаў ім „Ідзіце”. І яны, вышаўшы, пайшлі ў сьвіньні. І вось, уся чарада сьвіньняў кінулася із стромы ў мора і загінула ў вадзе. 33 Пасучыя ж іх уцяклі і, прышоўшы да места, павядалі праз усе і праз тых апанаваных нячысьцікам. 34 І вось, усё места вышла напярэймы Ісусу і, абачыўшы Яго, малілі, каб Ён адыйшоў ад граніцаў іхных.

9 І, уступіўшы ў струг, пераплыў і прышоў да места Свайго. 2 І вось, прынéсьлі да Яго хворага паляржаванага, на пасьцелі ляжачага. І Ісус, бачачы веру іхную, сказаў паляржаванаму: „Асьмелься, дзяцё! дараваны табе грахі твае”. 3 І, вось, некатрыя з кніжнікаў сказалі самы ў сабе: „Гэты блявузґае”. 4 А Ісус, ведаючы думкі іхныя, сказаў: „Чаму думаеце благое ў сэрцах сваіх? 5 Бо што лягчэй сказаць: ‚Дараваны табе грахі’, ці сказаць: ‚Устань а йдзі’? 6 Але каб вы ведалі, што Сын Людзкі мае ўладу на зямлі даравáць грахі” (тады кажа да паляржаванага): „Устань, вазьмі пасьцелю сваю і йдзі да дому свайго”. 7 І ён устаў, і пайшоў да дому свайго. 8 І як груды бачылі гэта, палохаліся й хвалілі Бога, Каторы даў такую моц людзём.

9 І як Ісус адыходзіў адгэнуль, Ён абачыў чалавека, ля збору мыта седзячага, званага Мацьвеям, і сказаў яму: „Ідзі за Імною”. І ён устаў а пайшоў за Ім.

10 І сталася, як Ісус узьляжаў за сталом у доме, і вось, шмат мытнікаў а грэшнікаў, прышоўшы, узьляжалі зь Ісусам а з вýчанікамі Ягонымі. 11 І як фарысэі абачылі гэта, яны сказалі вýчанікам Ягоным: „Чаму есьць Вучыцель ваш із мытнікамі а грэшнікамі?” 12 Ісус жа, пачуўшы гэта, сказаў ім: „Не здаровыя патрабуюць лекара, але хворыя. 13 Пайдзіце ж і наўчыцеся ж, што знача: ‚міласэрдзя хачу, а не аброку’? бо Я прышоў прыгýкаць не справядлівых, але грэшнікаў да кáяты”.

14 Тады дабліжыліся да Яго вýчанікі Яанавы, кажучы: „Чаму мы а фарысэі постуем часта, а вýчанікі Твае ня постуюць?”. 15 І сказаў ім Ісус: „Ці могуць смуціцца сынове вясельнага палацу, пакуль із імі малады? Але настануць дні, калі адыймуць у іх маладога, і тады будуць поставаць. 16 І ніхто да старога адзецьця не прышывае лапіка



зь няваленага сукна, бо нова прышытае сьцягнецца, і дзірка будзе горшая. 17 І не наліваюць віна маладога ў скураныя мяхі старыя, бо мяхі парвуцца, і віно выцякае, і мяхі гінуць; але наліваюць віно маладое ў мяхі новыя, і захаваецца адно й другое.

18 Як Ён казаў гэта ім, вось, некі старац прышоў і пакланіўся Яму, кажучы: „Дачка мая кагадзé памéрла, але прыйдзі і ўзлажы рукý Сваю на яе, і яна ажывець”. 19 І, устаўшы, Ісус пайшоў за ім, і вýчанікі Ягоныя.

20 І вось, жонка, дванаццаць год хворая на крывацеч, дабліжылася адзаду і даткнулася да кутасá адзецьця Ягонага; 21 Бо яна казала сама сабе: „Калі адно даткнуся да адзецьця Ягонага, ачуняю”. 22 Ісус жа, абярнуўшыся й абачыўшы яе, сказаў: „Асьмелься, дачка, вера твая ўздаравіла цябе”. І жонка з тае гадзіны былá ўздароўлена.

23 І як прышоў Ісус да дому старцовага і абачыў грыцоў на жалейцы а галасуючы люд, 24 Сказаў: „Адыйдзіце, бо дзеўка не памéрла, але сьпіць”. І сьмяяліся зь Яго. 25 Але як груд вывялі, Ён, увыйшоўшы, узяў яе за рукý, і дзеўка паднялáся. 26 І разыйшліся галасы праз гэта па ўсей зямлі тэй.

27 Як Ісус ішоў стуль, за Ім ішло двух нявісных, крычачы а кажучы: „Сыну Давідаў, зьмілýйся над намі!”. 28 А як Ён прышоў да дому, нявісныя дабліжыліся да Яго. І кажа ім Ісус: „Ці верыце, што Я магу гэта зрабіць?” Яны кажуць Яму: „Алé, Спадáру!”. 29 Тады Ён даткнуўся да ачоў іхных і сказаў: „Подле веры вашае няхай станецца вам”. 30 І адчыніліся вочы іхныя. І Ісус стродка сказаў ім: „Глядзіце, каб ніхто не даведаўся”. 31 А яны, вышаўшы, разгаласілі празь Яго па ўсéй зямлі тэй.

32 Як жа тыя выходзілі, то прывялі да Яго немага, апанаванага нячысьцікам. 33 І, як нячысьцік быў выгнаны, немы пачаў гýкаць. І груды, дзівуючыся, гýкалі: „Ніколі ня было такое зьявы ў Ізраелю”. 34 А фарысэі гýкалі: „Ён выганяе нячысьцікаў моцаю князя нячысьцікаў”.

35 І хадзіў Ісус па ўсіх местах а сёлах, вýчачы ў бажніцах іхных, абяшчаючы Евангелю гаспадарства і ўздараўляючы ўсялякую хваробу а ўсялякае няўздоленьне памеж люду.

36 Бáчачы груды, Ён зжаліўся над імі, што яны былí высіленыя а расьцярушаныя, як авечкі, пастырá ня маючыя. 37 Тады кажа Ён вýчанікам Сваім: „Жнівá запраўды шмат, але работнікаў мала; 38 Дык маліце Спадарá жнівá, каб высунуў работнікаў на жніво Свае”.

10 І пагукáўшы дванаццацёх вýчанікаў Сваіх, Ён даў ім моц над нячыстымі духамі, выганяць іх, і ўздараўляць усялякую хваробу і ўсялякае няўздоленьне.

2 Вось жа дванаццацёх апосталаў імёны гэткія: першы Сымон, званы Пётрам, і Андрэй, брат ягоны, Якаў Зэведэяў а Яан, брат ягоны, 3 Піліп а Варфаламей, Хама а Мацьвей мытнік, Якаў Алфеяў а Леўвей, катарага мянушка былá Хвадзей, 4 Сымон Канаянін а Юда Іскарыёт, што й ізрадзіў Яго. 5 Гэтых дванаццацёх паслаў Ісус і расказаў ім, кажучы:

„На дарогу да паган не хадзіце і да места Самарскага ня ўходзьце; 6 Але валéй ідзіце да загінулых авец дому Ізраелявага. 7 І ходзячы, абяшчайце, кажучы: ‚Дабліжылася гаспадарства нябёснае’. 8 Хворых уздараўляйце, пракажаных ачышчайце, мертвых ускрышайце, нячысьцікаў выганяйце; дармá адзяржалі, дармá давайце. 9 Не бярыце із сабою ані золата, ані срэбла, ані медзі ў чарэслы свае, 10 Ані хатуля

ў дарогу, ані дзьвюх сарочкаў, ані
вобую, ані посаха, бо працавéнь вар-
ты еміны свае. 11 Да якога места
альбо селішча ня ўвыйшлі б вы,
даведайцеся, хто ў ім годны, і там
заставайцеся, пакуль ня выйдзеце.
12 А ўходзячы ў дом, вітайце яго,
кажучы: ‚Супакой дому гэтаму'; 13
І калі дом будзе годны, то супакой
ваш зыйдзе на яго; а калі ня будзе
годны, то супакой ваш да вас зьвер-
нецца. 14 А калі хто ня прыйме вас
і ня будзе слухаць словаў вашых,
то, выходзячы з дому альбо зь места
таго, атрасіце пыл із ног сваіх. 15
Запраўды кажу вам: лягчэй будзе
зямлі Садомскай а Гоморскай у
дзень суду, чымся месту таму.

16 „Вось, я пасылаю вас, як авеч-
кі сярод ваўкоў; дык будзьце муд-
рыя, як гáды, і нявінныя, як галу-
бы. 17 Сьцеражыцеся ж людзёў, бо
яны будуць выдаваць вас радам і ў
бажніцах сваіх будуць біць вас. 18 І
павядуць вас да правадыроў а ка-
ралёў за Мяне, на сьветчаньне ім
а паганам. 19 Калі ж будуць выда-
ваць вас, не клапаціцеся, як або што
казаць; бо ў тым часе дана будзе
вам, што сказаць; 20 Бо ня вы бу-
дзеце гýкаць, але Дух Айца вашага
будзе гýкаць у вас.

21 „І выдасьць брат брата на
сьмерць, і айцец — дзяцё; і паўста-
нуць дзеці на бацькоў і заб'юць іх.
22 І будуць усі ненавідзіць вас за
імя Мае, але хто вытрывае да кан-
ца, спасецца.

23 „Калі ж вас будуць гнаць у
вадным месьце, бяжыце да другога.
Бо запраўды кажу вам: не пасьпе-
еце абыйсьці местаў Ізраелявых, як
прыйдзе Сын Людзкі. 24 Вýчанік не
пераходзе вучыцеля, ані слуга —
гаспадара свайго. 25 Досыць вýча-
ніку, каб ён быў, як вучыцель яго-
ны, і слузе, каб ён быў, як гаспадар
ягоны. Калі ж гаспадара дому на-
звалі вельзэвулам, пагатове — хат-
ніх ягоных. 26 Дык ня бойцеся іх,
бо няма нічога схаванага, што не
адкрылася б, і тайнага, праз што
не даведаліся б. 27 Што кажу вам
у цямноце, кажыце ў сьвятліні; і
што чуеце на вуха, разгалашайце
на стрэхах.

28 „І ня бойцеся забіваючых це-
ла, а душы ня могучых забіць; а
валéй бойцеся таго, хто можа душý
й цела загубіць у пекле. 29 Хіба
двух вераб'ёў не прадаюць за пе-
нязь, і ні водзін ізь іх ня зваліцца
на зямлю бяз волі Айца вашага; 30
У вас жа й валасы на галаве ўсі
палічаны; 31 Дык ня бойцеся ж, бо
вы пераходзіце шмат вераб'ёў. 32
Дык кажнага, хто вызнае Мяне пе-
рад людзьмі, таго вызнаю й Я пе-
рад Айцом Маім, што ў нябёсах;
33 А хто адрачэцца ад Мяне перад
людзьмі, ад таго адракуся й Я пе-
рад Айцом Сваім, што ў нябёсах.

34 „Ня думайце, што Я прышоў
прынéсьці супакой на зямлю; не су-
пакой прышоў Я прынесьці, але
меч; 35 Бо Я прышоў пастанавіць
чалавека супроці айца ягонага, і
дачку супроці маткі ейнае, і нявест-
ку супроці сьвякрыві ейнае. 36 І не-
прыяцелі людзіны хатнія яе. 37 Хто
любе айца альбо маці балей за Мя-
не, ня годны Мяне; і хто любе сына
альбо дачку балей за Мяне, ня
годны Мяне. 38 І хто не бярэць
крыжа свайго і ня йдзець за Імною,
тый ня годны Мяне. 39 Хто знойдзе
жыцьцё свае, згубе яго; а хто згубе
жыцьцё свае дзеля Мяне, знойдзе
яго. 40 Хто прыйме вас, прыймае
Мяне; а хто прыймае Мяне, прый-
мае таго, хто паслаў Мяне. 41 Хто
прыймае прароку ў імя прарокі,
адзяржыць нагароду прароцкую; і
хто прыймае справядлівага ў імя
справядлівага, адзяржыць нагароду
справядлівага. 42 І хто дасьць піць
аднаму з малых гэтых коўню сьцю-
дзёнае вады ў імя вýчаніка, запраў-
ды кажу вам аніяк ня згубе нага-
роды свае".



11 І сталася, як скончыў Ісус
расказаваць дванаццацём вýча-
нікам Сваім, перайшоў стуль ву-
чыць а абяшчаць у местах іхных.

2 Яан жа, пачуўшы ў вязьніцы
праз учынкі Хрыстовы, паслаў двух
із вýчанікаў сваіх, 3 Сказаць Яму:
„Ці Ты тый, што мае прыйсьці, ці
чакаць нам іншага?" 4 І, адказаў-
шы, Ісус сказаў ім: „Пайдзіце, на-
кажыце Яану, што чуеце а бачыце:
5 Нявісныя празіраюць і кульгавыя
ходзяць, пракажаныя ачышчаюцца
і глухія чуюць, мертвыя ўскрыса-
юць і ўбогім абяшчаюць Дабра-
весьць. 6 Шчасьлівы, хто не спа-
кушаецца перазь Мяне".

7 Як жа яны пайшлі, Ісус пачаў
гýкаць грудом празь Яана: „Чаго
глядзець вышлі вы на пустыню?
ці трысьціны, што хістае вецер? 8
Чаго ж глядзець вышлі вы? чала-
века, што адзеўшыся ў мяккія
адзецьці? Гля, у палацах каралеў-
скіх тыя, што носяць мяккія адзець-
ці. 9 Чаго ж глядзець вышлі вы?
пракокі? Але, кажу вам, і вялікша-
га за праpоку. 10 Бо ён тый, пра ка-
торага напісана: ‚Вось, Я пасылаю
ангіла Свайго перад відам Тваім,
каторы прыгатуе дарогу Тваю пе-
рад Табою'. 11 Запраўды кажу вам:
з народжаных жанкамі не паўстаў
вялікшы за Яана Хрысьціцеля, але
найменшы ў гаспадарстве нябёсным
вялікшы за яго. 12 Ад дзён жа
Яана Хрысьціцеля аж дагэтуль га-
спадарства нябёснае здабываюць сі-
лаю, і дужыя захапляюць яго; 13 Бо
ўсі пракокі а закон аж да Яана пра-
ракалі. 14 І калі хочаце прыняць,
ён Ільля, каторы мае прыйсьці.
15 Хто мае вушы слухаць, няхай
слухае! 16 Але да каго прыраўную
род гэты? Ён падобны да дзяцей,
што сядзяць на рынках і, гукáючы
таварышам, 17 Кажуць: ‚Мы гралі
вам на дудцы, і вы не скакалі; мы
пяялі пахоўныя песьні, і вы ня пла-
калі'. 18 Бо прышоў Яан, ані есьць,
ані п'ець; і кажуць: ‚У ім нячысь-
цік'. 19 Прышоў Сын Людзкі, есьць
і п'ець; і кажуць: ‚Во чалавек, жар-
ло й п'яніца, прыяцель мытнікаў а
грэшнікаў'. І апраўджана мудрасьць
учынкамі яе".

20 Тады пачаў Ён упікаць местам,
ідзе сталася вельмі шмат магучых
учынкаў Ягоных, за тое, што яны не
пакаяліся: 21 „Бяда табе, Хоразыне!
бяда табе, Віфсаіда! бо калі б у
Тыру а Сыдоне сталіся магучыя
ўчынкі, сталыя ў вас, то даўно б
яны ў зрэбніне а попеле пакаяліся б;
22 Але кажу вам: Тыру а Сыдону
лягчэй будзе ў дзень суду, чымся
вам. 23 І ты, Капернауме, ці не аж
да неба быў узьняты, аж да пеклы
сьkінены будзеш; бо калі б у Садо-
ме былí зьдзеяны магучыя ўчынкі,
сталыя ў табе, яна засталася б да-
гэтуль. 24 Але, кажу вам, што зям-
лі Садомскай лягчэй будзе ў дзень
суду, чымся табе".

25 У тым часе, адказуючы, Ісус
сказаў: „Слаўлю Цябе, Войча, Спа-
дáру неба й зямлі, што Ты схаваў
гэта ад мудрых а разумных і аб'я-
віў гэта бязьлеткам. 26 Але, Войча!
бо такое было зычэньне Твае. 27 Усе
перадаў Імне Айцец Мой, і ніхто
ня знае добра Сына, апрача Айца;
і Айца ня знае ніхто добра, апрача
Сына, і каму Сын хоча аб'явіць.
28 Прыйдзіце да Мяне ўсі спраца-
ваныя а абцяжараныя, і Я дам вам
супакой. 29 Вазьміце йго Мае на
сябе і навучыцеся ад Мяне, бо Я ціхі
й лагоднага сэрца, і знойдзеце су-
пакой душам сваім; 30 Бо йго Мае
прыемнае, і цяжар Мой лягкі".

12 У тым часе праходзіў Ісус у сы-
боту памеж збожжа; вýчанікі
Ягоныя запрáглі і пачалі каласаваць
а есьці. 2 Але фарысэі, згледзіўшы,
сказалі Яму: „Гля, вýчанікі Твае
робяць, чаго не дазволена рабіць у
сыботу". 3 Ён жа сказаў ім: „Хіба
вы ня чыталі, што зрабіў Давід, як
запрагнуў сам і бытыя зь ім? 4 Як

ён увыйшоў у дом Божы і еў хлябы Віду, каторыя не дазволена было есьці ані яму, ані былым із ім, а толькі адным сьвятаром? 5 Або ці ня чыталі вы ў законе, што ў сыботы сьвятарове будзеняць сыботу, адылі бязьвінныя? 6 Але кажу вам, што тут Тый, што вялікшы за сьвятыню. 7 Калі б вы ведалі, што знача: ‚міласэрдзя хачу, а не аброку', то ня судзілі б бязьвінных; 8 Бо Сын Людзкі ё спадаром і сыботы".

9 І, адыйшоўшы стуль, увыйшоў Ён у бажніцу іхнюю. 10 І вось, чалавек із сухою рукою. І папыталіся ў Яго, каб абвінаваць Яго: „Ці дазволена ўздараўляць у сыботы?" 11 Ён жа сказаў ім: „Хто з вас, маючы адну авечку, калі яна ўвалілася ў яму, не дасягне яе й ня выцягне? 12 Колькі ж лепшы чалавек за авечку! Дык у сыботы дазволена рабіць дабро. 13 Тады кажа чалавеку таму: „Выцягні рукý сваю"; І ён выцягнуў: і стала яна здаровая, як і другая.

14 Фарысэі ж, вышаўшы, зраджаліся на Яго, каб загубіць Яго. 15 Але Ісус, даведаўшыся, здáліўся стуль. І пайшлі за Ім чысьленыя груды, і Ён уздаравіў іх усіх. 16 І забараніў ім азнаймляць празь Яго, 17 Каб спаўнілася сказáнае Ісаям прарокам, што кажа: 18 „Во, служэц Мой, Каторага Я абраў, любовы Мой, Катораму прыяе душа Мая; палажу Дух Свой на Яго, і агалосе суд народам; 19 Ня будзе сьперачацца ані галёкаць, ніхто на вуліцах не пачуе голасу Ягонага; 20 Трысьціны наломленае не даломе і лёну тлеючага ня згасе, пакуль не давядзець суду да перамогі; 21 І на імя Ягонае спадзявацца будуць народы".

22 Тады прывялі да Яго апанаванага нячысьцікам нявіснога й немага; і ўздаравіў яго, так што нявісны й немы пачаў гýкаць і бачыць. 23 І зумеўся ўвесь груд, і гýкаў: „Ці ня гэта Сын Давідаў?" 24 Фарысэі ж, пачуўшы, сказалі: „Ён выганяе нячысьцікаў ня накш, як вельзэвулам, князям нячысьцікаў". 25 Але Ісус, ведаючы думкі іхныя, сказаў ім: „Кажнае гаспадарства, падзяліўшыся само супроці сябе, спусьцее; і кажнае места альбо дом, падзяліўшыся сам супроці сябе, ня ўстое. 26 І калі шайтан шайтанá выганяе, то ён падзяліўшыся сам супроці сябе: як жа ўстое гаспадарства ягонае? 27 І калі Я вельзэвулам выганяю нячысьцікаў, то сынове вышыя кім выганяюць? Дык яны будуць вам судзьдзямі. 28 Калі ж Я духам Божым выганяю нячысьцікаў, тады дайшло да вас гаспадарства Божае.

29 „Або, як можа хто ўвыйсьці ў дом дужасіла і паграбіць рэчы ягоныя, калі пярвей ня зьвяжа дужасіла? і тады паграбе дом ягоны. 30 Хто ня з Імною, тый супроці Мяне; і хто ня зьбірае з Імною, тый раськідае. 31 Дык кажу вам: кажны грэх а блявузґаньне будуць дараваны людзём, але блявузґаньне на Духа ня будзе даравана людзём. 32 Калі хто скажа слова на Сына Людзкога, будзе даравана яму; калі ж скажа на Духа Сьвятога, ня будзе даравана ані ў гэтым веку, ані ў прыйдучым.

33 „Або прызнайце дзерва за добрае і плод яго за добры; або прызнайце дзерва за папсаванае і плод яго за папсаваны; бо пазнаюць дзерва з плоду. 34 Родзе гáдавы! як вы можаце гýкаць добрае, будучы благімі? Бо ад паўніні сэрца гýкаюць вусны. 35 Добрая людзінá з добрага скарбу выносе добрае; а благая людзінá з благога скарбу выносе благое. 36 Кажу ж вам, што за кажнае пустое слова, якое скажуць людзі, здадуць яны лічбу ў дзень судны; 37 Бо із словаў сваіх апраўвішся і із словаў сваіх будзеш засуджаны".



38 Тады некатрыя з кніжнікаў а фарысэяў адказалі, кажучы: „Вучыцелю! хочам ад Цябе пазнаку бачыць". 39 Але Ён, адказуючы, кажа ім: „Род благі а чужаложны шукае пазнакі, і пазнака ня дасца яму, апрача пазнакі Ёны прарокі; 40 Бо як Ёна быў у бруху кіта тры дні і тры ночы, так і Сын Людзкі будзе ў сэрцу зямлі тры дні і тры ночы. 41 Нінявяне стануць на суд із родам гэтым і засудзяць яго, бо яны пакаяліся ад кáзані Ёнінае; а вось, тут вялікшы за Ёну. 42 Караліца паўднявая стане на суд із родам гэтым і засудзе яго, бо яна прыходзіла з канцоў зямлі паслухаць мудрасьць Салямонаву; і вось, тут вялікшы за Салямона.

43 „Калі нячысты дух выйдзе зь людзіны, то ходзе па бязводных месцах, шукаючы супачынку, і не знаходзе; 44 Тады кажа: ‚Зьвярнуся да дому свайго, скуль я вышаў'; і, прышоўшы, знаходзе незанятым, замеценым а прыбраным; 45 Тады йдзець і бярэць із сабою сямёх іншых духоў, негаднейшых за сябе, і, увыйшоўшы, жывуць там; і бывае людзінé тэй апошняе горшае за першае. Гэтак будзе і з гэтым родам благім".

46 Вось, як Ён яшчэ гýкаў да грудоў, Маці а браты ягоныя стаялі вонках, шукаючы гутарыць із Ім. 47 І хтось сказаў Яму: „Вось, Маці Твая а браты Твае стаяць вонках, шукаючы гутарыць із Табою". 48 Ён жа адказаў таму, хто казаў Яму: „Хто маці Мая? і хто браты Мае?" 49 І, паказаўшы рукою Сваёй на вýчанікаў Сваіх, сказаў: „Во маці Мая а браты Мае; 50 Бо хто будзе паўніць волю Айца Майго Нябёснага, тый Імне брат а сястра а маці".

13 І таго ж дня, вышаўшы з дому, Ісус сеў ля мора. 2 І зьберліся да Яго чысьленыя груды, так што Ён увыйшоў у струг і сеў, а ўвесь груд стаяў на беразе. 3 І гýкаў ім шмат прыпавесьцьмі, кажучы: „Вось, вышаў сяўбіт сеяць; 4 І як ён сеяў, адныя палі край дарогі, і наляцелі птушкі, і паклявалі іх; 5 А другія палі на месцы камяністыя, ідзе ня шмат было зямлі, і неўзабаве абышлі, бо зямля былá няглыбокая; 6 Як жа ўзышло сонца, зьвялі і, ня маючы карэньня, ссохлі; 7 А іншыя палі ў церне, і вырасла церне, і заглушыла іх; 8 Але іншыя палі ў добрую зямлю й далі плод: адно сто разоў, другое шасьцьдзясят, іншае трыццаць. 9 Хто мае вушы, няхай слухае!"

10 І, прыступіўшы, вýчанікі сказалі Яму: „Чаму гýкаеш ім прыпавесьцьмі?". 11 Ён, адказуючы, сказаў: „Бо вам дана ведаць тайны гаспадарства нябёснага, але ім ня было дана; 12 Бо хто мае, таму дасца, і ў яго будзе збытак; а хто ня мае, у таго будзе нават аднята й тое, што мае. 13 Затым кажу ім прыпавесьцьмі, што яны, гледзячы, ня бачаць, і, слухаючы, ня чуюць ані разумеюць. 14 І споўніцца на іх прароцтва Ісаі, што кажа: ‚Прыслухáючыся, будзеце слухаць, і не зразумееце; і прыглядаючыся, глядзець будзеце, і не зацеміце; 15 Бо абрасло тукам сэрца люду гэтага, і вушамі яны ледзь чуюць, і вочы свае яны зачынілі, каб не абачыць ачыма, і вушамі не пачуць, і сэрцам не зразумець, і не навярнуцца, каб Я не ўздаравіў іх'. 16 Вашы ж вочы шчасьлівыя, бо бачаць, і вушы вашы, бо чуюць; 17 Бо запраўды кажу вам, што шмат прарокаў а справядлівых жадала бачыць тое, што вы аглядаеце, і не абачылі, і чуць тое, што вы чуеце, і не пачулі.

18 „Вы ж услýхайцеся ў прыпавéсьць праз сяўбіта. 19 Да кажнага, хто чуе слова праз гаспадарства і не разумее, прыходзе злы й хапае пасеянае ў сэрцу ягоным: гэта пасеянае край дарогі. 20 А пасеянае на скалістых месцах — гэта тый,

хто чуе слова і неўзабаве з радась-
цяй прыймае яго; 21 Але ня мае
караня ў сабе і часны, а як настаець
уціск альбо перасьледаваньне за
слова, неўзабаве спатыкаецца. 22 А
пасеянае ў церню — гэта, хто чуе
слова, але клопат гэтага веку й
спадман багацьця глуша слова, і
яно робіцца бясплодным. 23 Пасея-
нае ж у добрую зямлю — гэта, хто
чуе слова й разумее, гэты родзе
плод і даець: хто сто, хто шасьць-
дзясят, хто трыццаць".

24 Другую прыпавесьць прывёў
Ён ім, кажучы: „Падобнае гаспа-
дарства нябёснае да чалавека, што
пасеяў добрую сяўбу на полю сваім;
25 Але, як людзі спалі, прышоў нé-
прыяцель ягоны, і насеяў кукелю
памеж пшонкі, і адышоў. 26 Як
жа збожжа абышло й наліло й да-
ло плод, тады выявіўся й кукель.
27 І, прышоўшы, чаляднікі гаспа-
даровы сказалі яму: ‚Спадáру, ці ня
добрую сяўбу пасеяў ты на полю
сваім? скуль жа ў ім кукель?' 28
Ён сказаў ім: ‚Нéпрыяцель зрабіў
гэта'. Чаляднікі ж яму кажуць: ‚Ці
хочаш, каб мы пайшлі й выпалалі?'
29 Але ён кажа: ‚Не, каб, вырываю-
чы кукель, вы ня вырвалі зь ім ра-
зам і пшонкі. 30 Пакіньце расьці
абое да жніва, і ў жніво я скажу
жнеям: вырвіце ўперад кукель
і зьвяжыце ў вязанкі, каб спаліць
іх; а пшонку зьбярэце на ток мой'".

31 Іншую прыпавесьць сказаў Ён
ім: „Падобнае гаспадарства нябёс-
нае да зярняці гарчычнага, каторае
чалавек узяў пасеяў на полю сваім.
32 Яно запраўды наймешшае за ўсю
сяўбу, але, як вырасьце, яно най-
большае сярод зельля і стаецца
дзервам, так што птушкі нябёсныя
прылятаюць і віюць гнезды ў голь-
лю яго".

33 Іншую прыпавéсьць сказаў Ён
ім: „Падобнае гаспадарства нябёс-
нае да рашчыны, каторую, узяўшы,
жонка замясіла ў тры меркі мукі,
пакуль ня ўкісла ўсе".

34 Усе гэта Ісус гýкаў грудом
прыпавесьцямі, а без прыпавесьці ня
гýкаў ім; 35 Каб спаўнілася сказá-
нае прарокам, што кажа: „Адчыню
прыпавесьцьмі вусны Свае; вымаў-
лю схаванае ад закладзінаў сьвету".

36 Тады, адаслаўшы груды, Ісус,
увыйшоў у дом. І прыступілі да Яго
вýчанікі Ягоныя, кажучы: „Зьясьні
нам прыпавесьць праз палявы ку-
кель". 37 Ён жа, адказуючы, ска-
заў: „Сяўбіт добрае сяўбы ё Сын
Людзкі; 38 Поле ё сьвет; добрая
сяўба, гэта — сынове гаспадарства,
а кукель — сынове злога; 39 Нé-
прыяцель, што пасеяў яго, ё д'ябал;
жніво ё, канчатак веку, а жнеі —
ангілы. 40 Затым, як вырываюць
кукель і паляць цяплом, так будзе
пры канчатку гэтага веку: 41 Па-
шлець Сын Людзкі ангілаў Сваіх,
і зьбяруць із гаспадарства Ягонага
ўсі спадманы і робячых бяспраўе,
42 І ўкінуць іх у печ агняную; там
будзе плач а скрыгот зубамі. 43 Та-
ды справядлівыя будуць зьзяць, як
сонца, у гаспадарстве Айца свайго.
Хто мае вушы, няхай слухае!

44 „Падобнае гаспадарства нябёс-
нае да скарбу, схаванага на полю,
каторы, знайшоўшы, людзінá тое, і з
радасьці зь яго йдзець і прадаець
усе, што мае, і купляе поле тое.

45 „Яшчэ падобнае гаспадарства
нябёснае да купца, што шукае ха-
рошых пэрлаў, 46 Каторы, знайшоў-
шы адну дарагую пэрлу, адыйшоў-
шы, прадаў усе, што меў, і купіў яе.

47 „Яшчэ падобнае гаспадарства
нябёснае да неваду, закіненага ў мо-
ра, што захапляе ўсячыну, 48 Като-
ры, як напаўніўся, выцягнулі на бе-
раг і, сеўшы, добрую зьберлі ў судзь-
дзе, а благую выкінулі вон. 49 Гэ-
так будзе пры канчатку веку: пой-
дуць ангілы, і вылучаць благіх з
пасярод справядлівых, 50 І ўкінуць



іх у печ агняную: там будзе плач
а скрыгот зубамі".

51 І папытаўся ў іх Ісус: „Ці зра-
зумелі вы ўсе гэта?" Яны адказалі
Яму: „Але, Спадáру!" 52 Ён жа ска-
заў ім: „Затым кажны кніжнік, на-
вучаны гаспадарства нябёснага, па-
добны да дамовага гаспадара, што
выносе із скарбніцы свае новае й
старое".

53 І сталася, як скончыў Ісус пры-
павесьці гэтыя, Ён пайшоў стуль.
54 І, прыйшоўшы да краіны Свае,
вучыў іх у бажніцы іхнай, так што
зумяваліся яны й казалі: „Скуль
у Яго мудрасьць гэтая й магучыя
ўчынкі? 55 Ці ня Ён сын цесьлі? Ці
ня Маці Ягоная завецца Марыя,
і браты Ягоныя Якаў, Язэп, Сымон
а Юда? 56 І сёстры Ягоныя ці ня
ўсі з намі? У Яго ж скуль усе гэ-
та?". 57 І мелі спаткненьні з пры-
чыны Яго. Ісус жа сказаў ім: „Няма
пракорі бязь сьці, хіба адно ў краю
сваім а ў доме сваім". 58 І ня зьдзе-
яў там шмат магучых учынкаў з
прычыны няверы іхнае.

14 У тым часе тэтрах Гірад пачуў
ведамкі праз Ісуса. 2 І сказаў
служцом сваім: „Гэта Яан Хрысьці-
цель; ён ускрэс із мертвых і за-
тым магучыя ўчынкі дзеюцца Ім.
3 Бо Гірад няў Яана, зьвязаў яго й
пасадзіў у вязьніцу за Гіродыяду,
жонку Пìліпаву, брата свайго; 4 Бо
Яан казаў яму: „Ня маеш права ты
мець яе". 5 І хацеў забіць яго, але
баяўся гурбы, бо мелі яго за пра-
року. 6 На ўгодкі радзінаў Гірада-
вых, дачка Гіродыяды скакала ся-
род іх і ўпадабаў яе Гірад. 7 Затым
ён пад прысягаю абяцаў ёй даць,
чаго толькі яна папросе. 8 А яна,
падвучаная маткаю сваёй, сказала:
„Дай імне тут на талерцы галаву
Яана Хрысьціцеля". 9 І засмуціўся
кароль; але, дзеля прысягі і ўзьля-
жачых із ім, расказаў ёй даць.
10 І паслаў, і сьцялі галаву Яана
ў вязьніцы, 11 І прынéсьлі галаву
ягоную на талерцы, і далі дзеўцы,
а яна занéсла яе маці сваёй. 12 Вý-
чанікі ж ягоныя, прыступіўшы, ўзя-
лі цела і пахавалі яго; і пайшлі,
наказалі Ісусу. 13 Ісус, пачуўшы,
адплыў стуль стругам адзін на пу-
стыннае месца; а груды, пачуўшы
праз гэта, пайшлі за Ім із мест
пехатой. 14 І, вышаўшы, Ісус аба-
чыў чысьлены груд людзёў, і зжа-
ліўся над імі, і ўздаравіў хворых
іхных.

15 А як настаў вечар, прыступілі-
ся да Яго вýчанікі Ягоныя, кажу-
чы: „Пустыня тутака, дый час ужо
позны, адпусьці груды, каб яны
пайшлі да сёлаў і купілі сабе ежы".
16 Але Ісус сказаў ім: „Ня нада-
бе ім ісьці; вы дайце ім есьці".
17 Яны ж кажуць Яму: „Мы ня маем
нічога, апрача пяцёх букаткаў і
дзьвюх рыбаў". 18 Ён сказаў: „Пры-
нясіце іх Імне сюды". 19 і расказаў
грудом сесьці на траву, і, узяўшы
пяць букаткаў і дзьве рыбы, гля-
нуў на неба, дабраславіў і, паламіў-
шы, даў букаткі вýчанікам, а вýча-
нікі — грудом. 20 І елі ўсі, і пад'елі;
і набралі засталых кавалкаў дванан-
цаць кашоў поўных. 21 А тых, што
елі, было каля пяцёх тысячаў чала-
векаў, апрача жанок а дзяцей.

22 І зáраз прысіліў Ісус вýчані-
каў сваіх увыйсьці ў струг і пера-
плысьці ўперад за Яго на другі бок,
пакуль Ён адпусьце груды. 23 І ад-
пусьціўшы груды, Ён узышоў на
гару памаліцца на адзіноце; і ўвеча-
ры заставаўся там адзін. 24 А струг
пасярод мора быў кіданы хвалямі,
бо вецер быў праціўны.

25 Чацьвертае варты ночы пай-
шоў да іх Ісус, ідучы па мору. 26 І
вучанікі, бачачы Яго йдучага па мо-
ру, спалохаліся й сказалі: „Гэта
здань"; і із страху закрычэлі. 27 Але
Ісус якга загýкаў да іх, кажучы:
„Асьмельцеся; гэта Я, не палохай-
цеся". 28 І, адказуючы Яму, Пётра
сказаў: „Спадáру, калі гэта Ты, рас-

кажы імне прайсьці да Цябе па ва-
дзе". 29 Ён сказаў: „Ідзі". І, зы-
шоўшы із струга, Пётра пайшоў па
вадзе і падышоў да Ісуса; 30 Але,
бачачы вялікі вецер, спалохаўся
і, пачаўшы тапіцца закрычэў, ка-
жучы: „Спадáру! ратуй мяне".
31 Ісус якга выцягнуў рукý, ухапіў
яго й кажа яму: „Малаверны, чаму
ты суміўся?" 32 І як увыйшлі яны
ў струг, вецер сьціх. 33 Былыя ў
струзе падышлі, пакланіліся Яму й
сказалі: „Запраўды Ты Сын Божы".
34 І, пераплыўшы, прыбылі да
зямлі Генісарэцкае. 35 І як людзі
таго месца добра пазналі Яго, яны
паслалі да ўсяе зямлі навокал,
і прынéсьлі да Яго ўсіх хворых,
36 І прасілі Яго, каб толькі даткнуц-
ца да кутаса адзецьця Ягонага; і
тыя, што даткнуліся, былі сусім уз-
дароўлены.

15 Тады прышлі да Ісуса ерузалім-
скія фарысэі а кніжнікі, кажу-
чы: 2 „Чаму вýчанікі Твае ўзру-
шаюць паданьне старых? бо ня
мыюць рук сваіх, як толькі ядуць
хлеб". 3 Але Ён, адказаўшы, сказаў
ім: „Чаму й вы ўзрушаеце раска-
заньне Божае дзеля паданьня свай-
го? 4 Бо Бог расказаў: ‚Сьці айца
а маці, а хто б абмаўляў айца
альбо маці, сьмерцю хай пам-
рэць'. 5 А вы кажаце: ‚Калі хто
скажа айцу альбо маці: дар тое,
што-лень ёсьць ад мяне карыс-
нае табе, 6 Дык такім парадкам ня
сьціць айца свайго альбо маці сваю'.
Гэтак узрушылі вы слова Божае
дзеля паданьня свайго. 7 Двудуш-
нікі! добра праракаў праз вас Ісая:
8 ‚Люд гэты вуснамі Мяне сьціць,
але сэрца іхнае далёка ад Мяне;
9 Але дармá кланяецца Імне, вуча-
чы навукаў, расказаньняў людзкіх'".
10 І прыгýкаўшы груд, сказаў ім:
„Слухайце й разумейце: 11 ня тое,
што ўходзе ў рот, брудзяне людзі-
нý; але тое, што выходзе з роту,
брудзяне людзінý".

12 Тады вýчанікі Ягоныя, прысту-
піўшыся, сказалі Яму: „Ці ведаеш,
што фарысэі, пачуўшы слова гэтае,
абурыліся?" 13 Але Ён, адказуючы,
сказаў: „Кажная расьліна, што Ай-
цец Мой нябёсны не садзіў, будзе
выкаранена; 14 Пакіньце іх, яны —
нявісныя павадыры нявісных; а ка-
лі нявісны вядзець нявісного, то
абодва ўваляцца ў яму".
15 Пётра ж, адказуючы, сказаў
Яму: „Зьясьні нам прывавесьць гэ-
тую". 16 Ісус сказаў: „Нягож і вы
яшчэ не разумееце? 17 Ці яшчэ не
разумееце, што ўсе, што ўходзе ў
рот, праходзе ў жывот і выкідаецца
вон? 18 А выходзячае з роту — із
сэрца выйдзе; гэта брудзяне людзі-
нý; 19 Бо із сэрца выходзяць бла-
гія падýмкі, забіўствы, чужалоствы,
бязулствы, зладзействы, хвальшы-
выя сьветчаньні, блявузґаньні. 20 Гэ-
та брудзяне людзінý; а есьці нямы-
тымі рукамі ня брудзяне людзіны".
21 І, вышаўшы стуль, Ісус здáліў-
ся ў краіны тырскія а сыдонскія.
22 І вось, жонка Канаанянка, вышаў-
шы з тых месцаў, крыкнула, ска-
заўшы: „Зьмілýйся над імною, Спа-
дáру, сыну Давідаў! нячысьцік
вельмі замеў дачку маю". 23 Але Ён
не адказаў ані слова. І вýчанікі Яго-
ныя, прыступіўшыся, прасілі Яго:
„Адпусьці яе, бо яна крычыць за
намі". 24 Ён жа, адказуючы, сказаў:
„Я пасланы толькі да загінулых
авец дому Ізраелявага". 25 А яна,
падышоўшы, кланялася Яму і ка-
зала: „Спадáру! памажы імне".
26 Ён жа, адказуючы, сказаў: „Ня
добра ўзяць хлеб у дзяцей і кінуць
шчанятам". 27 Яна ж сказала:
„Але, Спадáру! нават шчаняты
ядуць крошкі, што валяцца із столу
гаспадароў іхных". 28 Тады, адка-
зуючы, Ісус сказаў ёй: „О, жонка!
вялікая вера твая; няхай будзе та-
бе подле жаданьня твайго". І ўзда-
роўлена дачка ейная тае ж гадзіны.
29 І, адыйшоўшы адгэнуль, Ісус



пайшоў у кірунку мора Ґалілейска-
га, і ўзыйшоў на гару, і сеў там.
30 І прышло да Яго шмат грудоў,
маючы із сабой кульгавых, абязь-
вечаных, нявісных, немых і шмат
якіх іншых, і клалі іх да ног Ісуса-
вых; і Ён уздараўляў іх; 31 Так што
дзіваваліся груды, бачачы немых
гýкаючых, калекіх здаровых, куль-
гавых ходзячых і нявісных бача-
чых, і славілі Бога Ізраелявага.
32 Ісус жа, прыгýкаўшы вýчані-
каў Сваіх, сказаў: „Жаль Імне гру-
ду, бо яны з Імною ўжо тры дні,
і ня маюць чаго есьці; адпусь-
ціць жа іх безь яды не хачу, каб
не замлелі ў дарозе". 33 І кажуць
вýчанікі: „Скуль нам узяць на пу-
стыні толькі букаткаў, каб накар-
міць такі вялікі груд?". 34 І сказаў
ім Ісус: „Колькі маеце букаткаў?"
А яны кажуць: „Сем і колькі ры-
бак". 35 І Ён расказаў грудом сесьці
на зямлі. 36 І ўзяў Ён сем букаткаў
а рыбу, і ўчыніў падзяку, і ламіў,
і даваў вýчанікам Сваім, а вýчанікі
— груду. 37 І елі ўсі, і пад'елі, і на-
бралі засталых кавалкаў сем кашоў
поўных; 38 А тых, што елі, было
чатыры тысячы мужчынаў, апрача
жанок а дзяцей. 39 І, адпусьціўшы
груды, увыйшоў у струг, і прыбыў
да краіны Маґдальскае.

16 І прыступіліся фарысэі а са-
дукеі і, спакушаючы Яго, пра-
сілі паказаць ім знак із неба.
2 Ён жа, адказуючы, сказаў ім: „Як
вечарэе, вы кажаце: ‚Будзе пагода,
бо неба чырвонае'; 3 І нараніцы:
‚Сядні нягода, бо неба хмарна чыр-
ванее!' Двудушнікі! відзеньне неба
вы ведаеце, як адрозьніць, а знакоў
пораў ня можаце?4 Род нягодны а
чужаложны знаку шукае, і знак ня
дасца яму, апрача знаку Ёны пра-
рокі". І, пакінуўшы іх, адыйшоў.
5 Перабавіўшыся на другі бок, вý-
чанікі Ягоныя забыліся букатак
узяць. 6 Ісус сказаў ім: „Глядзіце
а сьцеражыцеся закісі фарысэй-
скае а садукейскае". 7 А яны
разважалі мяжсобку, кажучы: „Гэ-
та значыцца, што хлеба мы не
ўзялі!" 8 Ведаючы гэта, Ісус ска-
заў ім: „Чаму разважаеце мяж-
собку, о малаверныя, што ня пры-
нéсьлі букаткаў? 9 Ці яшчэ не
разумееце і ня помніце пяцёх букат-
каў на пяць тысячаў, і колькі кашоў
вы набралі? 10 Ані сямёх букаткаў
на чатыры тысячы, і колькі кашо-
лак вы набралі? 11 Як не зацямляе-
це, што не праз букаткі сказаў Я
вам ‚Сьцеражыцеся закісі фарысэй-
скае а садукейскае'? 12 Тады яны
ўцямілі, што Ён сказаў ім не сьце-
рагчыся закісі букатак, але навукі
фарысэяў а садукеяў.
13 Прышоўшы ж да зямлі Цэсары
Піліпавае, Ісус пытаўся ў вýчанікаў
Сваіх, кажучы: „За каго людзі
маюць Мяне, Сына Людзкога?"
14 Яны сказалі: „Адныя за Яна
Хрысьціцеля, другія за Ільлю, а ін-
шыя за Ярэму альбо за аднаго з
пракокаў".
15 Ён кажа ім: „А вы за каго
Мяне маеце?" 16 Адказуючы, Сы-
мон Пётра сказаў: „Ты — Хрыстос,
Сын Бога жывога". 17 І, адказую-
чы, Ісус сказаў яму: „Шчасьлівы
ты, Сымоне, сыну Ёнін! бо ня цела
а кроў аб'явілі табе гэта, але Айцец
Мой, што на нябёсах. 18 І Я такса-
ма кажу табе: ты — Пётра, і на гэ-
тай скáле Я пастанаўлю Царкву
Сваю, і брамы пекляныя ня здо-
леюць яе; 19 І дам табе ключы
гаспадарства нябёснага; і што зьвя-
жаш на зямлі, тое будзе зьвязáна
на нябёсах; і што разьвяжаш на
зямлі, тое будзе разьвязáна на нябё-
сах". 20 Тады расказаў Ён вýчані-
кам Сваім, каб нікому не казалі,
што Ён ё Ісус Хрыстос.
21 Адгэнуль пачаў Ісус Хрыстос
паведамляць вýчанікам Сваім, што
Ён мае йсьці да Ерузаліму, і шмат
цярпець ад старцоў а найвыш-
шых сьвятароў а кніжнікаў, і быць

забітым, а на трэйці дзень ускрэс-
нуць.
22 І, узяўшы Яго, Пётра пачаў
Яго ганіць: „Зьмілу́йся над Сабою,
Спада́ру! няхай ня будзе гэта з та-
бою!" 23 Ён жа, абярнуўшыся, ска-
заў Пётру: „Адыйдзі назад ад Мяне,
шайта́не! ты Імне спатыкненьне, бо
ты думаеш не праз тое, што Божае,
але што людзкое".
24 Тады Ісус сказаў ву́чанікам
Сваім: „Калі хто хоча йсьці за Ім-
ною, адрачыся сябе, і вазьмі крыж
свой, і йдзі за Імною; 25 Бо хто хоча
ўсьерагчы жыцьцё свае, згубе яго;
а хто згубе жыцьцё свае дзеля Мяне,
знойдзе яго. 26 Якая карысьць лю-
дзіне́, калі прыдбáе ўвесь сьвет, а
душы сваёй пашкодзе? Або якую
адмену дасьць людзіна́ за душу́
сваю? 27 Бо неўзабаве прыйдзе Сын
Людзкі ў славе Айца Свайго з ангі-
ламі Сваімі, і тады аддасьць кажна-
му подле ўчынкаў ягоных.
28 „Запраўды кажу вам: ё некат-
рыя із стаячых тут, што не паспы-
таюцца сьмерці, як ужо абачаць Сы-
на Людзкога, у гаспадарстве Сваім
ідучага.
17 А дзён за шэсьць бярэць Ісус
Пётру, Якава а Яана, брата яго-
нага, і ўзводзе іх асобна на гару
высокую. 2 І адмяніўся перад імі:
і зазьзяла відзеньне Ягонае, як сон-
ца, адзецьці ж Ягоныя сталі белыя,
як сьвятліня. 3 І вось, паказаліся ім
Масей а Ільля, гу́каючы зь Ім. 4 І,
адказуючы, Пётра сказаў Ісусу:
„Спада́ру! добра нам тут быць; калі
хочаш, зробім тут тры буданы: Табе
адзін, і Масею адзін, і адзін Ільлі".
5 Як ён яшчэ гу́каў, вось, булак
сьветлы ахінуў іх; і вось, голас із
булаку кажучы: „Гэта ё Сын Мой
Умілаваны, Каторага Я вельмі ўпа-
дабаў; Яго слухайце". 6 І, пачуўшы,
ву́чанікі палі ніцма, і вельма спало-
халіся. 7 Але Ісус, прыступіўшыся,
даткнуўся да іх і сказаў: „Устаньце
й не палохайцеся". 8 І ўзьняўшы
вочы свае, яны нікога не абачылі,
апрача аднаго Ісуса.
9 І як яны зыходзілі з гары, Ісус
забараніў ім, кажучы: „Нікому не
кажыце пра гэту ві́дзень, пакуль
Сын Людзкі ня ўскрэсьне зь мерт-
вых".
10 І папыталіся ў Яго ву́чанікі
Ягоныя: „Як жа кніжнікі кажуць,
што Ільля мае прыйсьці ўперад?"
11 І, адказуючы, Ісус сказаў ім:
„Запраўды, Ільля мае прыйсьці ўпе-
рад і ўладзіць усе; 12 Але кажу
вам, што Ільля ўжо прышоў, і не
пазналі яго, а зрабілі зь ім, што ха-
целі; гэтак і Сын Людзкі будзе цяр-
пець ад іх". 13 Тады ву́чанікі зразу-
мелі, што Ён казаў ім праз Яана
Хрысьціцеля.
14 І як яны прышлі да груду, то
прыступіў да Яго чалавек і, укляк-
шы перад Ім, 15 Сказаў: „Спада́ру!
зьмілу́йся над сынам маім, бо ён
люнатык, і вельма мучаецца, бо час-
та валіцца ў вагонь і часта — ў ва-
ду. 16 І я быў прывёўшы яго да ву́-
чанікаў Тваіх, але яны не маглі
ўздаравіць яго". 17 І Ісус, адказую-
чы, сказаў: „О родзе няверны а кру-
тадушны! пакуль буду з вамі? па-
куль буду цярпець вас? прывядзіце
яго да Мяне сюды". 18 І зганіў яго
Ісус; і нячысьцік вышаў зь яго;
і дзяцюк ачуняў тае ж гадзіны.
19 Тады ву́чанікі, прыступіўшыся
да Ісуса наадзіноце, сказалі: „Чаму
мы не маглі выгнаць яго?" 20 Ісус
жа сказаў ім: „З прычыны няве-
ры вашае; бо запраўды кажу вам:
калі вы будзеце мець веру з гар-
чычнае зярнё і скажаце гары гэтай:
‚Перайдзі адгэтуль туды', і яна
пярэйдзе; і нічога ня будзе немаг-
чымага вам. 21 Гэты ж род выганя-
ецца адно малітваю а постам".
22 І як яны перабывалі ў Галілеі,
Ісус сказаў ім: „Сын Людзкі неўза-
баве выданы будзе ў рукі людзкія́;
23 І заб'юць Яго, і на трэйці дзень



ускрэсьне". І яны вельмі засмуці-
ліся.
24 І прышлі яны да Капернауму,
і падышлі да Пётры зьбіраньнікі
дыдрахмаў, і сказалі: „Ці ня дасьць
Вучыцель ваш дыдрахмы?" 25 Ён
адказаў: „Але́". І як увыйшоў ён у
дом, то Ісус, выпярадзіўшы яго, ска-
заў: „Як табе здаецца, Сымоне, ка-
ралёве земныя з каго бяруць мыта
альбо падачкі: із сыноў сваіх, ці з
чужых?" 26 Пётра кажа Яму: „З
чужых". Ісус сказаў яму: „Значыц-
ца, сынове вольныя. 27 Але каб нам
не зрабіць спадману ім, пайдзі да
мора, закінь вуду, і першую рыбу,
каторую зловіш, вазьмі, і, рашчы-
ніўшы ў яе рот, знойдзеш статыр;
вазьмі яго і аддай ім за Мяне й за
сябе".
18 У тым часе ву́чанікі прыступілі-
ся да Ісуса, кажучы: „Хто найвя-
лікшы ў гаспадарстве нябёсным?"
2 Ісус, прыгу́каўшы дзецянё, паста-
навіў яго сярод іх 3 І сказаў: „За-
праўды кажу вам, калі не наверне-
цеся й ня будзеце як дзеці, ніякім
парадкам ня ўвыйдзеце да гаспадар-
ства нябёснага; 4 Дык, хто пані-
жыцца, як гэта дзецянё, тый най-
вялікшы ў гаспадарстве нябёсным;
5 І хто прыйме адно такое дзецянё
ў імя Мае, тый Мяне прыймае; 6 А
хто спадманець аднаго з малых гэ-
тых, што вераць у Мяне, вале́й, каб
таму павесілі млынавы жоран на
шыі і ўтапілі яго ў глыбіні морскай.
7 Бяда сьвету ад спадманоў, бо му-
сяць спадманы прыходзіць; адылі
бяда людзіне́, ад каторае спадман
прыходзе. 8 Калі ж рука твая альбо
нага твая спадмануе цябе, адатні іх
а кінь ад сябе: вале́й табе ўвыйсьці
ў жыцьцё бяз рукі альбо без нагі,
чымся зь дзьвюма рукамі і зь дзьвю-
ма нагамі быць укіненым у вагонь
вечны; 9 А калі вока твае спадма-
нуе цябе, вырві яго а кінь ад сябе:
валей табе з адным вокам увыйсьці
ў жыцьцё, чымся з двума ачыма
быць укіненым у ґегенну агняную.
10 Глядзіце, ня грэбуйце ніводным
із малых гэтых, бо кажу вам, што
ангілы іхныя на нябёсах заўсёды
бачаць від Айца Майго, што ў ня-
бёсах. 11 Бо Сын Людзкі прышоў
спасьці загінулае.
12 „Як вам здаецца? Калі б у ка-
го было сто авец, і адна зь іх за-
блудзіла, то ці не пакіне ён дзевяць-
дзясят дзевяць у гарах і ці ня пой-
дзе шукаць заблуднае? 13 І калі
прылучыцца знайсьці яе, то, запраў-
ды кажу вам, ён цешыцца зь яе
балей, чымся зь дзевяцьдзясят дзе-
вяцёх не заблудных. 14 Дык няма
волі Айца вашага нябёснага, каб за-
гінуў адзін із малых гэтых.
15 „Калі ж ізгрэша супроці цябе
брат твой, пайдзі й выкажы яму
віну ягоную памеж сябе й яго ад-
наго; калі ён паслухае цябе, ты
прыдбаў брата свайго. 16 Калі ж не
паслухае, вазьмі із сабою яшчэ ад-
наго або двух, каб вуснамі дзьвюх
альбо трох сьветак пацьвердзілася
кажнае слова. 17 Калі ж не паслу-
хае іх, скажы царкве; а калі й царк-
вы не паслухае, то хай будзе ён та-
бе, як паганін а мытнік. 18 Запраў-
ды кажу вам: што вы зьвяжаце на
зямлі, тое будзе зьвяза́на на небе;
і што разьвяжаце на зямлі, тое бу-
дзе разьвяза́на на небе. 19 Ізноў за-
праўды кажу вам, што калі двух із
вас згодзяцца на зямлі прасіць якое
рэчы, то чаго б папрасілі, будзе ім
ад Айца Майго нябёснага. 20 Бо,
ідзе двух альбо трох зьберыцца ў
імя Мае, там і Я сярод іх".
21 Тады Пётра прыступіўся да
Яго й сказаў: „Спада́ру! колькі ра-
зоў дараваць брату майму, калі ён
ізгрэша супроці мяне? ці да сямёх
разоў?" 22 Ісус сказаў яму: „Не ка-
жу табе: да сямёх, але аж да сем-
дзясят разоў сем".
23 „Затым гаспадарства нябёснае
падобнае да караля, што захацеў
разьлічыцца із слугамі сваімі. 24 Як

пачаў ён разьлічацца, прывялі да
яго кагось, што вінен быў яму дзе-
сяць тысячаў таланёў; 25 А як ён
ня меў чым заплаціць, то гаспадар
ягоны загадаў прадаць яго а жонку
ягоную а дзеці а ўсе, што ён меў,
і заплаціць. 26 Тады слуга тый паў
і, кланяючыся яму, казаў: ‚Спада́-
ру! май цярплівосьць да мяне, і я
ўсе табе заплачу’. 27 Гаспадар, зжа-
ліўшыся над слугою тым, адпусьціў
яго і доўг яму дараваў. 28 Тый жа
слуга, вышаўшы, знайшоў аднаго із
службовых сяброў сваіх, што вінен
быў яму сто дынароў, і, схапіўшы
яго, душыў, кажучы: ‚Аддай імне,
што вінен’. 29 Тады службовы сяб-
ра ягоны, паўшы ў ногі яму, маліў
яго й казаў: ‚Май цярплівосьць да
мяне, і ўсе табе аддам’. 30 Тый, ады-
лі, не захацеў, але адыйшоў і па-
садзіў яго ў вязьніцу, пакуль не
аддасьць доўгу. 31 Службовыя ся-
брове ягоныя, бачыўшы сталае,
вельмі зьнéмарасьціліся і, прышоў-
шы, зьясьнілі гаспадару свайму ўсе
бытае. 32 Тады гаспадар ягоны гу-
кáе яго й кажа: „Нягодны слуга!
увесь доўг гэны я дараваў тэ, бо ты
прасіў мяне; 33 Ці не належылася
й табе зьмілава́цца над сябрам сва-
ім, як і я зьмілаваўся над табою?’
34 І, угневаўшыся, гаспадар яго-
ны аддаў яго катам, пакуль не ад-
дасьць яму ўсяго доўгу. 35 Гэтак
і Айцец Мой нябёсны ўчыне з вамі,
калі кажны з вас не даруе із сэрца
свайго брату свайму выступкаў яго-
ных".

19 Як Ісус скончыў словы гэтыя,
то адышоў з Ґалілеі і прышоў
да граніцаў юдэйскіх, на тый бок
Ёрдану. 2 За ім пайшло шмат гру-
доў, і Ён уздаравіў іх там.

3 І прыступіліся да Яго фарысэі,
і, спакушаючы Яго, казалі Яму: „Ці
з кажнае прычыны дазволена ка-
мусь адпушчаць жонку сваю?" 4 Ён,
адказуючы, сказаў ім: „Ці ня чыта-
лі вы, што Тый, Хто стварыў іх на
пачатку, мужчынаю й жонкаю ўчы-
ніў іх. 5 І сказаў: ‚Затым пакіне ча-
лавек айца й маці, і прыліпне да
жонкі свае, і будуць двое адным
целам’; 6 Так што яны ўжо ня двое,
але адно цела. Дык, што Бог злу-
чыў, таго людзіна́ хай не разлучае".
7 Яны кажуць Яму: „Як жа Масей
расказаў даваць разводны ліст і ад-
пусьціць яе?" 8 Ён кажа ім: „Масей
з прычыны калянасьці сэрца ваша-
га дазволіў вам адпушчаць жонкі
вашыя; а спачатку ня было гэтак.
9 Але Я кажу вам, што хто адпусьце
жонку сваю не за бязулства і ажэ-
ніцца з другой — чужаложа; і хто
жэніцца з адпушчанай — чужало-
жа. 10 Кажуць Яму вýчанікі Яго-
ныя: „Калі такая справа чалавека
із жонкаю, то валéй не жаніцца".
11 Але Ён сказаў ім: „Ня ўсі зьмяш-
чаюць гэтае слова, адно каторым
гэта дана; 12 Бо ё легчанцы, што
нарадзíліся таковымі із жывата
маці; і ё легчанцы, каторых людзі
вылягчалі; і ё легчанцы, што самы
сябе вылягчалі дзеля гаспадарства
нябёснага. Хто можа зьмяшчаць,
няхай зьмяшчае". 13 Тады прывялі
да Яго дзеці, каб Ён узлажыў на
іх рукі й памаліўся; вýчанікі ж сва-
рыліся на іх. 14 Але Ісус сказаў:
„Пусьціце дзеці, не перакажайце ім
прыходзіць да Мяне, бо гэткіх ё гас-
падарства нябёснае". 15 І, узлажыў-
шы на іх рукі, пайшоў стуль.

16 І вось, хтось, падышоўшы, ска-
заў Яму: „Вучыцелю добры! што
добрага імне зрабіць, каб мець жы-
цьцё вечнае?" 17 Ён жа сказаў яму:
„Чаму завеш Мяне добрым? Ніхто
ня добры, апрача аднаго — Бога.
Калі ж хочаш увыйсьці ў жыцьцё,
дзяржы расказаньні". 18 Кажа Яму:
„Якія?" Ісус жа сказаў: „Не забі-
вай; не чужалож; не крадзі; ня
сьветч хвальшыва; 19 Сьці айца й
маці, і любі прыяцеля свайго, як
самога сябе". 20 Маладзён кажа
Яму: „Усе гэта рабіў я з маладосьці



свае; чаго яшчэ не стаець імне?"
21 Ісус сказаў яму: „Калі хочаш
быць дасканальным, пайдзі, прадай
маемасьць сваю і раздай убогім;
і будзеш мець скарб на нябёсах;
і прыходзь а йдзі за Імною". 22 Па-
чуўшы слова гэтае, маладзён ады-
шоў смутны, бо ён меў вялікую мае-
масьць.

23 Ісус жа сказаў вýчанікам Сва-
ім: „Запраўды кажу вам, што цяж-
ка багатаму ўвыйсьці ў гаспадарст-
ва нябёснае. 24 І ўзноў кажу вам:
лягчэй вярблюду прайсьці праз
вушка голкі, чымся багатаму ўвый-
сьці ў гаспадарства Божае".

25 Пачуўшы гэта, вýчанікі Яго-
ныя вельмі зумеліся й сказалі:
„Дык хто ж можа спасьціся?" 26 А
Ісус, глянуўшы, сказаў ім: „Лю-
дзём гэта немагчыма, але Богу ўсё
магчыма".

27 Тады Пётра, адказуючы, ска-
заў Яму: „Вось, мы пакінулі ўсё
і пайшлі за Табою, што ж нам бу-
дзе?" 28 І сказаў ім Ісус: „Запраў-
ды кажу вам, што вы, каторыя пай-
шлі за Імною, у вадраджэньню, як
сядзе Сын Людзкі на пасадзе сла-
вы Свае, сядзеце й вы на дванаца-
цёх пасадах судзіць дванаццаць па-
каленьняў Ізраелявых. 29 І кажны,
хто пакіне дамы, альбо братоў, аль-
бо сёстры, альбо айца, альбо маці,
альбо жонку, альбо дзеці, альбо зем-
лі, дзеля імені Майго, адзяржыць
сто разоў, і жыцьцё вечнае спадзець
яму. 30 Шмат якія першыя будуць
апошнімі, і апошнія — першымі.

20 „Бо гаспадарства нябёснае па-
добнае да гаспадара дамовы, што
вышаў золкам наняць работнікаў на
вінішча свае. 2 І, згадзіўшы работ-
нікаў па дынару на дзень, паслаў
на вінішча свае. 3 Вышаўшы каля
трэйцяе гадзіны, ён абачыў другіх,
што стаялі на рынку дзяньгубчы.
4 І тым сказаў: „Ідзіце й вы на ві-
нішча мае, і што будзе належыцца,
дам вам". Яны пайшлі. 5 Ізноў вы-
шаўшы каля шостае а дзявятае га-
дзіны, зрабіў тое самое. 6 І каля
адзінаццатае вышаўшы, ён знайшоў
іншых, дзяньгубна стоячых, і кажа
ім: „Што вы стаіцé тут увесь дзень,
дзяньгубячы?" 7 Яны кажуць: „Ні-
хто нас не згадзіў". Ён кажа ім:
„Ідзіце й вы на вінішча мае,
і што будзе належыцца, адзяржы-
цé". 8 Як жа настаў вечар, кажа
гаспадар вінішча загадніку свайму:
„Гукні работнікаў і аддай ім плату,
пачаўшы з апошніх аж да першых".
9 І прышлыя каля адзінаццатае га-
дзіны адзяржалі па дынару. 10 Пры-
шлыя ж першыя падумалі, што яны
адзяржаць балей; але й яны адзяр-
жалі па дынару. 11 І, адзяржаўшы,
пачалі наракаць на гаспадара да-
мовы, кажучы: 12 „Гэтыя апошнія
рабілі адну гадзіну, і ты зраўнаваў
іх із намі, што перацярпелі цяжар
дня а вад". 13 Ён жа, адказуючы,
сказаў аднаму зь іх: „Прыяцелю!
я ня крыўджу цябе; ці не за дынар
ты згадзіўся з імною? 14 Вазьмі
свае і йдзі; я ж хачу даць гэтаму
апошняму, што й табе. 15 Ці ж не
дазволена імне зрабіць, што я хачу
з маім? Ці вока твае завіднае, што
я добры?" 16 Гэтак апошнія будуць
першымі, і першыя — апошнімі, бо
шмат пазваных, але мала абраных".

17 І манючыся неўзабаве ўзыхо-
дзіць да Ерузаліму, Ісус узяў два-
наццацёх вýчанікаў асобна й сказаў
ім: „Вось, мы ўзыходзім да Еруза-
ліму, і Сын Людзкі будзе выданы
найвышшым сьвятаром а кніжні-
кам, і засудзяць Яго на сьмерць;
19 І выдадуць Яго паганам на
зьдзек а біцьцё а ўкрыжаваньне; і
на трэйці дзень ускрэсьне".

20 Тады падышла да Яго маці
сыноў Зэведэевых із сынамі сваімі,
кланяючыся й чагось просячы ў
Яго. 21 Ён сказаў ёй: „Чаго ты хо-
чаш?" Яна кажа Яму: „Скажы, каб

гэтыя два сыны мае маглі сесьці ў
Цябе адзін із правага боку, а другі
зь левага ў гаспадарстве Тваім".
22 Ісус, адказуючы, сказаў ёй: „Ня
ведаеце, чаго просіце. Ці можаце
піць чару, каторую Я неўзабаве бу-
ду піць, альбо хрысьціцца хрыстом,
каторым Я хрышчуся?" Яны ка-
жуць Яму: „Можам". 23 І кажа ім:
„Чару маю будзеце піць і хрыстом,
каторым Я хрышчуся, будзеце хры-
сьціцца; але даць сесьці ў Мяне з
правага боку і зь левага — не маё
гэта даваць, але каму прыгатаваў
Айцец Мой".

24 Пачуўшы, дзесяцёх абурыліся
на двух братоў. 25 Ісус жа, паклі-
каўшы іх, сказаў: „Вы ведаеце, што
князі народаў пануюць над імі, і вя-
лікія маюць уладу над імі. 26 Але
памеж вас хай ня будзе гэтак: але
хто хоча памеж вас быць вялікім,
няхай будзе ваш слугачы; 27 І хто-
лень хоча памеж вас быць першы,
хай будзе вам за нявольніка; 28 Так-
сама як Сын Людзкі ня прышоў,
каб Яму служылі, але каб служыць
і аддаць жыцьцё Свае на выкуп за
шмат".

29 І як выходзілі яны зь Ерыхо-
ну, за Ім ішоў чысьлены груд. 30 І
вось, двух нявісных, што сядзелі ля
дарогі, пачуўшы, што Ісус праходзе
тудэй, загукáлі, кажучы: „Зьмілуйся
над намі, Спадáру, Сыну Давідаў!"
31 Груд сварыўся на іх, каб маў-
чэлі; але яны болей крычэлі: „Зьмі-
луйся над намі, Спадáру, Сыну Да-
відаў!" 32 Ісус, адзержыўшыся, па-
гукáў іх і сказаў: „Чаго хочаце, каб
Я зрабіў вам?" 33 Яны кажуць
Яму: „Спадáру, каб адчыніліся во-
чы нашы". 34 Ісус жа, зьмілаваў-
шыся над імі, даткнуўся да ачоў іх-
ных, і якга пачалí бачыць вочы іх-
ныя, і яны пайшлі за ім.

21 І як дабліжыліся да Ерузаліму,
і прышлі да Віффагі, у кірунку
гары Аліўнае, тады Ісус паслаў двух
вýчанікаў, 2 Кажучы ім: „Пайдзіце
да сяла, што проста перад вамі; і за-
раз знойдзеце асьліцу прывязáную
і асьлянё зь ею; адвязаўшы, прывя-
дзіце да Мяне. 3 І калі хто скажа
вам што-лень, скажыце: ‚Спадар
патрабуе іх', і як стой пашлець іх".
4 А сталася гэта, каб спаўнілася ска-
зáнае пракокам, каторы кажа:
5 „Скажыце дачцэ Сыёнскай: гля,
Кароль твой ідзець да цябе, лагод-
ны й сеўшы на асьліцы а на асьля-
няці, сыну пад ігом будучай". 6 Вý-
чанікі пайшлі й зрабілі так, як рас-
казаў ім Ісус: 7 Прывялі асьліцу а
асьлянё, і паклалі на іх адзецьці
свае, і Ён сеў на іх. 8 І бальшыня
груду слала адзецьці свае на дарозе,
а іншыя сьцінaлі галузкі зь дзерваў
і слалі на дарозе.9 А груды, што
йшлі сьпераду й адзаду за Ім, гу-
кáлі: „Госанна Сыну Давідаваму!
Дабраславёны Йдучы ў імя Спада-
рова! Гасанна ў вышах!" 10 І як
уступіў Ён у Ерузалім, усе места
ўзрушылася, кажучы: „Хто гэта?"
11 І груд казаў: „Гэта прарока Ісус
із Назарэту Галілейскага". 12 І
ўвыйшоў Ісус у сьвятыню, і выгнаў
усіх прадаючых і купляючых у сьвя-
тыні, і сталы пенезяменаў абярнуў,
і ўслоны прадаўнікоў галубоў. 13 І
кажа ім: „Напісана: ‚Дом Мой до-
мам малітвы будзе названы', вы ж
яго робіце пячораю грабежнікаў".

14 І дабліжыліся да Яго ў сьвяты-
ні нявісныя а кульгавыя, і Ён узда-
равіў іх.

15 Найвышшыя сьвятары а кніж-
нікі, абачыўшы чудосы, што Ён
учыніў, і дзеці каторыя гукáлі
ў сьвятыні й казалі: „Госанна
Сыну Давідаваму!" абурыліся. 16 І
сказалі Яму: „Ці чуеш, што яны ка-
жуць?" Ісус жа кажа ім: „Але! хібá
вы ніколі ня чыталі: ‚З вуснаў дзя-
цей а сыноў Ты ўладзіў хвалý'".

17 І, пакінуўшы іх, вышаў вонкі
зь места да Віфані, і пераначаваў
там.



18 Нараніцы ж, ідучы да места,
запрагнуў. 19 І абачыўшы ля даро-
гі адну фігу, падышоў да яе і, нічога
не знайшоўшы на ёй, апрача адных
лістоў, кажа ёй: „Хай і наперад ня
будзе ад цябе плоду на векі!" І фіга
якгá ссохла. 20 Абачыўшы гэта, вý-
чанікі дзіваваліся, кажучы: „Як гэ-
та якга ссохла фіга?" 21 Ісус жа, ад-
казуючы, сказаў ім: „Запраўды ка-
жу вам: калі будзеце мець веру і не
суміцéся, ня толькі зробіце тое, што
зь фігаю, але калі й гары гэтай
скажаце: ‚Падыйміся й кінься ў мо-
ра', — будзе; 22 І ўсе, чаго папросі-
це ў малітве, верачы, адзяржыцé".

23 І як прышоў Ён да сьвятыні
й вучыў, дабліжыліся да Яго най-
вышшыя сьвятары а старцы народу
і сказалі: „Якой уладаю Ты гэта ро-
біш? і хто Табе даў гэтую ўладу?"
24 Ісус, адказуючы, сказаў ім: „Па-
пытаюся й Я ў вас праз адно; калі
праз тое скажаце Імне, то й Я вам
скажу, якой уладаю гэта раблю.
25 Хрэст Яанаў скуль быў: зь ня-
бёсаў ці ад людзёў?" Яны ж разва-
жалі мяжсобку: „Калі скажам: ‚Зь
нябёсаў', то Ён скажа: ‚Чаму вы не
паверылі яму?' 26 А калі сказаць:
‚Ад людзёў', — баімся груду, бо ўсі
ўважаюць Яана за прароку". 27 І,
адказуючы Ісусу, яны сказалі: „Ня
ведаем". Сказаў ім і Ён: „І Я вам
не скажу, якой уладаю гэта раблю.

28 „А як вам здаецца? Якісь ча-
лавек меў двое дзяцей; і ён, пры-
ступіўшы да першага, сказаў: ‚Дзя-
цё! пайдзі, сядні рабі на вінішчу ма-
ім'. 29 Але яно, адказуючы, сказа-
ла: ‚Не хачу'; а потым, пакаяўшы-
ся, пайшло. 30 І падышоўшы да
другога, ён сказаў тое самае. Гэта,
адказуючы, сказала: ‚Іду, спадáру'; і
не пайшло. 31 Каторае з дваіх спаў-
ніла волю айцову?" Кажуць Яму:
„Першае". Ісус кажа ім: „Запраўды
кажу вам, што мытнікі а бязулі
йдуць сьпераду вас да гаспадарства
Божага. 32 Бо прышоў да вас Яан
дарогаю справядлівасьці, і вы не
паверылі яму; але мытнікі а бязулі
паверылі яму; вы ж, і бачыўшы гэ-
та, не пакаяліся потым, каб паве-
рыць яму.

33 „Паслухайце другую прыпаве-
сьць. Быў адзін гаспадар дамовы,
каторы засадзіў вінішча, агарадзіў
яго навокал і выкапаў таўчэльню,
пастанавіў вежу і, паручыўшы яго
вінаром, адышоў. 34 І як дабліжыў-
ся час пладоў, ён паслаў служцоў
сваіх да вінароў узяць плады свае.
35 Вінары, схапіўшы служцоў яго-
ных, аднаго набілі, другога забілі а
іншага ўкаменавалі. 36 Ізноў паслаў
ён іншых служцоў, балей за пер-
шых; і яны зрабілі ім тое самае.
37 Наапошку, паслаў ён ім сына
свайго, кажучы: ‚Будуць мець па-
вагу да сына майго'. 38 Але вінары,
абачыўшы сына, сказалі адзін ад-
наму: ‚Гэта спадкаемца; пайдзíма,
забіма яго, і нам спадзець спадак'.
39 І, узяўшы яго, выкінулі зь вініш-
ча й забілі. 40 Дык, як гаспадар
вінішча прыйдзе, што зробе ён гэ-
ным вінаром?" 41 Кажуць яму: „Ён
неміласьціўна выгубе гэных нягод-
нікаў, а вінішча сваё паруча іншым
вінаром, што будуць плады адда-
ваць яму ўпару". 42 Ісус кажа ім:
„Хібá вы ніколі ня чыталі ў Пісь-
ме: ‚Камень, што адкінулі будаўні-
чыя, тый самы стаў галавою вугла;
ад Спадара гэта, і дзіўна ў вачох
нашых'? 43 Дык кажу вам: гаспа-
дарства Божае будзе адната ў вас
і дана народу, плады даючаму. 44 І
тыя, што зваляцца на гэты камень,
разаб'юцца; а на каго ён зваліцца,
таго зьмяжджуле".

45 І чуўшы прыпавесьці Ягоныя,
найвышшыя сьвятары а фарысэі
ўцямілі, што Ён празь іх гукае,
46 І як стараліся схапіць Яго, баялі-
ся груду, бо мелі Яго за прароку.

22 І, адказуючы, Ісус гýкаў ім із-
ноў прыпавесьцьмі, кажучы:
2 „Падобнае гаспадарства нябёснае

да караля, што справіў вясельную
чэсьць сыну свайму. 3 І паслаў слу-
гаў сваіх, каб пагукáлі пазваных на
вясельле; і не хацелі прыйсьці. 4 Із-
ноў паслаў іншых слугаў, сказаў-
шы: ‚Скажыце пазваным: вось я
прыгатаваў вячэру сваю, валы свае
і што ўкормлена, зарэзана, і ўсе га-
това; прыходзьце на вясельную чэ-
сьць'. 5 Але яны ўлегцы замелі тое,
пайшлі, хто на поле сваё, а хто да
гандлю свайго. 6 Засталыя, схапіў-
шы слугаў ягоных, зьняважылі іх
і забілі. 7 І, пачуўшы гэта, кароль
угневаўся; і, паслаўшы войска сваё,
выгубіў убіўцаў тых, а места іхнае
спаліў. 8 Тады кажа ён слугам сва-
ім: ‚Вясельная чэсьць гатова, а паз-
ваныя ня былí годныя; 9 Дык ідзі-
це на ростані і ўсіх, каго знойдзеце,
гукáйце на вясельле'. 10 І слугі тыя,
вышаўшы на дарогі, зьберлі ўсіх,
каго толькі знайшлі, і благіх і доб-
рых, і вясельная хароміна напаўні-
лася ўзьляжачымі. 11 Кароль, увый-
шоўшы паглядзець узьляжачых,
абачыў там чалавека, што ня быў
адзеўшыся ў вясельным адзецьцю;
12 І кажа яму: ‚Прыяцелю! як ты
ўвыйшоў сюды не ў вясельным адзе-
цьцю?' Ён жа маўчаў. 13 Тады ска-
заў кароль служцом: ‚Зьвязаўшы
яму рукі й ногі, вазьміце яго й кінь-
це ў цемру навонную; там будзе
плач а скрыгот зубамі; 14 Бо шмат
пазваных, але мала абраных".

15 Тады фарысэі пайшлі й рáдзі-
ліся, як бы злавіць Яго ў гаворцы.
16 І пасылаюць да Яго вýчанікаў
сваіх із Гіродыянамі, кажучы: „Ву-
чыцелю! мы ведаем, што Ты праў-
дзівы, і дарогі Божае праўдзіва ву-
чыш, дый на нікога не зважаеш,
бо не аглядаешся на асобу людз-
кýю; 17 Дык скажы нам: як табе
здаецца? ці дазволена даваць па-
дачкі цэсару, ці не?" 18 Але Ісус,
бачачы нягоднасьць іхную, сказаў:
„Нашто спакушаеце Мяне, двудуш-
нікі? 19 Пакажыце Імне манэту, ка-
торай плаціце падачкі". Яны пры-
нéсьлі Яму дынар. 20 І кажа ім:
„Чый абраз тут а напіс?" 21 Кажуць
Яму: „Цэсаравы". Тады кажа ім:
„Дык аддайце цэсарава цэсару, а
Божае — Богу". 22 Пачуўшы гэта,
яны зьдзівіліся і, пакінуўшы Яго,
пайшлі.

23 Таго ж дня дабліжыліся да
Яго садукеі, каторыя кажуць, што
няма ўскрысеньня, і папыталіся ў
Яго: 24 „Вучыцелю, Масей сказаў:
‚Калі хто памрэць, ня маючы дзя-
цей, то брат ягоны хай ажэніцца із
жонкаю ягонай і прыдбáе насеньне
брату свайму'. 25 Было ў нас сямёх
братоў: і першы, ажаніўшыся, па-
мер і, ня маючы дзяцей, пакінуў
жонку сваю брату свайму. 26 Падоб-
на й другі й трэйці аж да сёмага.
27 Просьле ж усіх памéрла й жонка.
28 Дык у часе ўскрысеньня, катора-
га із сямёх будзе яна жонкаю? бо
ўсі мелі яе". 29 Ісус, адказуючы, ска-
заў ім: „Мыляецеся, ня ведаючы
Пісьма ані моцы Божае; 30 Бо ў ча-
се ўскрысеньня ані жэняцца, ані вы-
ходзяць замуж, але будуць, як ан-
гілы Божыя на нябёсах. 31 А праз
ускрысеньне мертвых ці ня чыталі
вы, што сказаў вам Бог: 32 ‚Я Бог
Абрагамоў, і Бог Ісакоў, і Бог Яка-
ваў'? Бог ня ё Бог мертвых, але жы-
вых". 33 І як груды чулі, яны зу-
мяваліся з навукі Ягонае.

34 А фарысэі, пачуўшы, што Ён
прысíліў садукеяў змоўкці, зьберлі-
ся разам. 35 І, пытаючы адзін із
іх, законьнік, спакушаў Яго: 36 „Ву-
чыцелю, якое найвялікшае расказа-
ньне ў Законе?" 37 Ісус сказаў яму:
„Любі Спадара Бога свайго з усяго
сэрца, і з усяе душы свае, і з усяе
думкі свае. 38 Гэта вялікае а пер-
шае расказаньне. 39 Другое ж па-
добнае да яго: любі прыяцеля свай-
го, як самога сябе. 40 На гэтых двух
расказаньнях увесь Закон а прарокі
дзяржацца".



41 А як зьберліся фарысэі, Ісус
папытаўся ў іх: 42 „Што вы думае-
це праз Хрыста? чый Ён сын?" Ка-
жуць Яму: „Давідаў". 43 Кажа ім:
„Як жа Давід у духу завець Яго
Спадаром, кажучы: 44 ‚Сказаў Спа-
дар Спадарý майму: Сядзі па пра-
віцы Маей, пакуль палажу нéпрыя-
целяў Тваіх пад ногі Твае'? 45 Дык
калі Давід завець Яго Спадаром,
як жа Ён сын яму?" 46 І ніхто ня
мог адказаць Яму ані слова; і ад-
гэнуль ніхто ўжо ня важыўся пы-
тацца ў Яго.

23 Тады Ісус пачаў гýкаць грудом
а вýчанікам Сваім, 2 Кажучы:
„На пасадзе Масеявым селі кніжні-
кі а фарысэі; 3 Дык усе, што-лень
яны кажуць вам дзяржаць, дзяржы-
це й рабіце; але подле ўчынкаў іх-
ных не рабіце, бо яны кажуць, а ня
робяць: 4 Вяжуць цяжары цяжкія
а нязручныя і кладуць на плечы лю-
дзём, а самы ня хочуць і палцам
крануць іх; 5 Усі ж учынкі свае ро-
бяць, каб бачылі іх людзі; пашы-
раюць начэльнікі і доўжаць кутасы
адзецьцяў сваіх; 6 І любяць першыя
месцы на чэсьцях, і пярэднія лаўкі
ў бажніцах, 7 І здарованьні на рын-
ках, і каб звалі іх людзі: ‚Раббі,
раббі!' 8 А вы не завіцеся ра-
бінамі, бо адзін правадыр у вас
— Хрыстос, усі ж вы — браты;
9 І айцом не завíце нікога на зямлі,
бо адзін у вас Айцец, каторы на ня-
бёсах; 10 І не завіцеся правадырамі,
бо адзін у васПравадыр — Хрыстос.
11 Вялікшы з вас хай будзе вам
слуга; 12 Бо хто павышае сябе, тый
паніжаны будзе; а хто паніжае сябе,
тый павышаны будзе.

13 „Бяда вам кніжнікі а фарысэі,
двудушнікі, бо замыкаеце гаспадар-
ства нябёснае перад людзьмі; бо са-
мы ня ўходзіце і тых, што хочуць
увыйсьці, ня пушчаеце. 14 Бяда вам
кніжнікі а фарысэі, двудушнікі, што
зьядаеце дамы ўдовіны, ды пад пры-
клепам даўгое малітвы, — за тое
адзяржыцé большае засуджэньне.
15 Бяда вам кніжнікі а фарысэі, дву-
душнікі, што абходзіце мора й сушу,
каб прыдбаць аднаго новага верні-
ка; і як ён стане таковым, робіце
яго сынам ґегенны, удвая горшым
за сябе.

16 „Бяда вам, правадыры нявіс-
ныя, каторыя кажаце: ‚Калі хто
прысягае на дом Божы, то дармá; а
калі хто прысягае золатам дому Бо-
жага, то вінен'. 17 Дурныя а нявіс-
ныя! што большае: золата ці дом Бо-
жы, пасьвячаючы золата? 18 Такса-
ма: ‚Калі хто прысягае на аброчнік,
то дармá; калі ж хто прысягае на
дар, што на ім, то вінен'. 19 Дурныя
а нявісныя! што большае: дар ці аб-
рочнік, пасьвячаючы дар? 20 Дык
хто прысягае на аброчнік, прысягае
на яго і на ўсе, што на ім; 21 І хто
прысягае на дом Божы, прысягае
на яго й Жывучага ў ім; 22 І хто
прысягае на неба, прысягае на па-
сад Божы і Седзячага на ім.

23 „Бяда вам, кніжнікі а фарысэі,
двудушнікі, што даіцé дзесяціну зь
мяты, кропу а кмену, і пакінулі цяж-
шае ў Законе: суд, міласэрдзе а ве-
ру; гэта належыла рабіць, і гэнага
не пакідаць. 24 Правадыры нявіс-
ныя, што цэдзіце камара, а вярблю-
да глытаеце!

25 „Бяда вам, кніжнікі а фарысэі,
двудушнікі, што чысьціце звонку
коўні а місы, прымеж таго ўнутры
поўныя дзярлівасьці а няўзьдзержлі-
васьці. 26 Фарысэю нявісны! ачы-
сьці ўперад нутр коўні а місы, каб
чыстай былá й навоннасьць іх.

27 „Бяда вам, кніжнікі а фарысэі,
двудушнікі, што падобныя да пабя-
ляных грабоў, каторыя знадворку
здаюцца харошыя, а ўнутры поўныя
касьцей памерлых і ўсялякае бры-
ды. 28 Гэтак і вы з выгляду здаі-
цéся людзём справядлівымі, а ўнут-
ры поўныя двудушнасьці а бяс-
праўя.

29 „Бяда вам, кніжнікі а фарысэі,

двудушнікі, што становіце грабы
прарокам, і прыбіраеце помнікі спра-
вядлівых, 30 І кажаце: ‚Калі б мы
былі за дзён айцоў нашых, то ня
былі б сябрамі іх у крыві праро-
каў’. 31 Гэткім парадкам вы самы
на сябе сьветчыце, што вы сынове
тых, каторыя прарокаў пазабівалі.
32 Дапаўняйце ж і вы меру айцоў
сваіх.
33 „Гáды, родзе, яшчарыны! як
уцячыцé вы ад засуджэньня да Ге-
генны?
34 „Затым, вось, Я пасылаю да
вас прарокаў а мудрыцоў а кніжні-
каў; і вы іншых заб’іцé а ўкрыжуе-
це, а іншых будзеце біць у школах
сваіх і гнаць із места да места.
35 Так прыйдзе на вас уся кроў спра-
вядлівая, разьлітая на зямлі, ад
крыві Авеля справядлівага аж да
крыві Захары Варашонка, каторага
вы забілі памеж дому Божага і аб-
рочніка. 36 Запраўды кажу вам, усе
гэта прыйдзе на род гэты.
37 „Ерузаліме, Ерузаліме, што
забіваеш прарокаў і камянуеш па-
сланых да цябе; колькі разоў Я ха-
цеў зьберці дзеці твае, як кураводка
зьбірае кураняты свае пад крылы,
і вы не захацелі! 38 Вось, застанéц-
ца вам дом вашы пусты. 39 Бо ка-
жу вам: ніяк не абачыце Мяне ад-
гэтуль, пакуль не гукніцé: ‚Шчась-
лівы Ідучы ў імя Спадарова!’”
24 І Ісус, вышаўшы із сьвятыні,
пайшоў; і дабліжыліся вýчанікі
Ягоныя, каб паказаць Яму будынкі
сьвятыні. 2 Ісус жа, адказуючы, ска-
заў ім: „Ці бачыце ўсе гэта? Запраў-
ды кажу вам: не застанéцца тут ка-
меня на каменю, каторы ня будзе
сьцінены”.
3 Як жа сядзеў Ён на гары Аліў-
най, то дабліжыліся да Яго вýчані-
кі асобна й пыталіся: „Скажы
нам, калі гэта будзе? і якая пазнака
Твайго прыходу й сканчэньня ве-
ку?”
4 І, адказуючы, Ісус сказаў ім:
„Сьцеражыцеся, каб хто ня зьвёў
вас; 5 Бо шмат хто прыйдзе пад
імям Маім і будуць казаць: ‚Я Хрыс-
тос’, і шмат зьвядуць. 6 Таксама бу-
дзеце чуць войны а дзейкі праз вой-
ны. Глядзіце, не лякайцеся, бо на-
лежа ўсяму гэтаму быць; але гэта
яшчэ не канец.
7 „Бо паўстане народ на народ,
і гаспадарства на гаспадарства, і бу-
дуць галадові, мор а трасеньне зям-
лі ў розных месцах. 8 Усе гэта па-
чатак трýдненьня. 9 Тады будуць
аддаваць вас на мукі й забіваць вас;
і вас будуць ненавідзіць усі народы
за імя Мае. 10 І тады спакусіцца
шмат хто; і адзін аднаго ізрадзяць,
і зьненавідзяць адзін аднаго.
11 „І паўстане шмат хвальшывых
прарокаў, ды зьвядуць шмат каго;
12 І, з прычыны памнажэньня бяс-
праўя, у шмат каго асьцюдзянее лю-
боў. 13 Хто вытрывае да канца, спа-
сецца. 14 І будуць пашырáць гэтую
Евангелю гаспадарства па ўсім сьве-
це, на сьветчаньне ўсім народам;
і тады настане канец.
15 „Дык як абачыце гідоту спу-
стошаньня, сказáную прарокам Да-
нелям, на сьвятым месцу стаячую,
— чытаючы хай разумее, — 16 Та-
ды тыя, што ў Юдэі, хай уцякаюць
у горы; 17 І хто на страсе, тый хай
ня сходзе ўзяць што-лень із дому
свайго; 18 І хто на полю, тый хай
не зварачаецца назад узяць адзець-
ці свае.
19 „Бяда цяжарным а союючым
тых дзён! 20 Маліцеся, каб ня пры-
лучыліся ўцекі вашы ўзімку альбо
ў сыботу; 21 Бо тады будзе вялікая
атуга, якое ня прылучылася ад па-
чатку сьвету дагэтуль, і ніяк ня ста-
нецца. 22 І калі б не скараціліся тыя
дні, то не ўратавалася б ніякае це-
ла; але дзеля абраных скароцяцца
тыя дні.
23 „Тады, калі хто скажа вам:
‚Во тут Хрыстос’, альбо ‚во тут’, —
ня верце; 24 Бо паўстануць хваль-



шывыя хрысты а хвальшывыя пра-
рокі і дадуць вялікія знакí а дзівы,
каб спадмануць, калі магчыма, і аб-
раных. 25 Вось, Я наперад сказаў
вам.
26 „Дык, калі скажуць вам: ‚Вось,
Ён на пустыні’, — ня выходзьце;
‚вось, у сховах’, — ня верце; 27 Бо,
як маланьня выходзе з усходу і
бывае відаць ажно на захадзе, так
будзе прыход Сына Людзкога. 28 Бо,
ідзе будзе труп, там зьбяруцца й
арлы.
29 „І зараз, па атузе тых дзён,
сонца зацьмее, і месяц ня дасьць
сьвятліні свае, і зоры зваляцца зь
неба, і сілы нябёсныя захістаюцца.
30 Тады зьвіцца знак Сына Людз-
кога на небе; і тады заплачуць усе
плямёны земныя і абачаць Сына
Людзкога, на булакох нябёсных іду-
чага з моцаю а сілаю вялікай. 31 І
пашлець ангілаў Сваіх із трубою
вялікаю, і зьбяруць абраных Яго-
ных ад чатырох вятроў, ад аднаго
канца нябёсаў аж да другога.
32 „Вучыцеся падобнасьці зь фігі:
як галуза яе мякчэе й пушчае лісь-
цё, вы ведаеце, што лета блізка;
33 Дык, як вы абачыце ўсе гэта,
ведайце, што блізка, у дзьвярох.
34 Запраўды кажу вам: ня мінець
род гэты, як усе гэта станецца;
35 Неба й зямля прамінуць, але сло-
ва Мае не прамінець.
36 „Праз дзень жа тый а гадзіну
ніхто ня ведае, ані ангілы нябёсныя,
ані Сын, адно Айцец Мой адзін.
37 Але як было за дзён Ноя, так
будзе і ў прыход Сына Людзкога;
38 Бо як за дзён перад патопаю елі,
пілі, жаніліся й выходзілі замуж да
таго дня, калі ўвыйшоў Ной у ка-
раб, 39 І ня зналі, пакуль ня пры-
шла патопа і не забрала ўсіх, —
так будзе й прыход Сына Людзкога.
40 Тады будзе двух на полю:
адзін будзе ўзяты, а другі пакінены.
41 Дзьве мелючыя ў жорнах: адна
будзе ўзята, а другая пакінена.
42 „Дык будзьце чукáвыя, бо ня
ведаеце, каторае гадзіны Спадар
ваш прыйдзе. 43 Але гэта вы веда-
еце, што калі б ведаў дамовы гаспа-
дар, каторае варты прыйдзе зло-
дзей, то быў бы чукавы і ня даў бы
падкапацца пад дом свой. 44 Дык
і вы будзьце гатовы, бо, каторае га-
дзіны ня думаеце, прыйдзе Сын
Людзкі.
45 „Дык хто верны а разумны
слуга, каторага гаспадар прызна-
чыў над дамоваю сваёй, даваць ежу
ў пару? 46 Шчасьлівы тый слуга,
каторага гаспадар ягоны, прышоў-
шы, засьпее так робячы. 47 Запраў-
ды кажу вам, што ён прызнача яго
над усёй маемасьцяй сваёй.
48 „Калі ж благі слуга тый ска-
жа ў сэрцу сваім: ‚Длякаецца гас-
падар мой прыйсьці’; 49 І пачнець
біць сяброў сваіх, і есьці а піць із
п’яніцамі, — 50 То прыйдзе гаспа-
дар слугі таго дня, каторага ён не
спадзяецца, і гадзіны, каторае ня
ведае, 51 І разатнець яго на часьці,
і прызнача дзель ягоную з двудуш-
нікамі; там будзе плач а скрыгот
зубамі.
25 „Тады падобнае будзе гаспадар-
ства нябёснае да дзесяцёх дзя-
вушчых, што, узяўшы лямпы свае,
вышлі на пярэймы маладому. 2 Зь
іх пяць было мудрых і пяць нера-
зумных. 3 Неразумныя, узяўшы
лямпы свае, не ўзялі із сабою алівы.
4 Мудрыя ж узялі алівы ў судзінах
із лямпамі сваімі. 5 І як малады
задлякаўся, то задрымалі ўсі й па-
снулі. 6 І а поўначы разьлёгся
крык: ‚Гля, малады йдзець, вы-
ходзьце на пярэймы яму!’ 7 Тады
ўсталі дзявушчыя тыя і аглéдзелі
лямпы свае. 8 Неразумныя ж сказа-
лі мудрым: „Дайце нам алівы ва-
шае, бо лямпы нашыя гаснуць’. 9 А
мудрыя адказалі: ‚Калі б нам і вам
ня стала, валей пайдзіце да прадаў-
нікоў і купіце сабе’. 10 А як пайшлі
яны купляць, прышоў малады, і га-

товыя ўвыйшлі зь ім на вясельную
чэсьць, і дзьверы замкнуліся. 11 По-
тым прыходзяць і іншыя дзявуш-
чыя, кажучы: ‚Спада́ру, спада́ру!
адчыні нам'. 12 Ён жа адказаў ім
і сказаў: ‚Запраўды кажу вам: ня
знаю вас'. 13 Дык будзьце чука́выя,
бо ня ведаеце ані дня, ані гадзіны,
каторае прыйдзе Сын Людзкі.

14 „Бо Ён учыне, як чалавек, што,
пакідаючы дом, гукну́ў слугаў сваіх
і паручыў ім маемасьць сваю: 15 І
аднаму даў ён пяць таланёў, друго-
му два і іншаму адзін, кажнаму под-
ле здольнасьці ягонае; і зараз пакі-
нуў дом. 16 Тый, што адзяржаў пяць
таланёў, зараз пайшоў, і таргаваў
на іх, і прыдбаў другія пяць тала-
нёў. 17 Чыста так і тый, што адзяр-
жаў два талані, прыдбаў другія два.
18 Тый жа, што адзяржаў адзін та-
лань, пайшоў, і пакапаў зямлю, і
схаваў срэбла спадара свайго. 19 Па
даўгім часе, прыходзе спадар слугаў
тых і вымагае ў іх лічбы. 20 І тый,
што адзяржаў пяць таланёў, па-
дышоўшы, прынёс другія пяць та-
ланёў, кажучы: ‚Спада́ру! пяць та-
ланёў ты перадаў імне; во дру-
гія пяць таланёў я прыдбаў'. 21 Спа-
дар ягоны сказаў яму: ‚Добра,
добры а верны слуга! у нячысь-
леным ты быў верны, над чысь-
леным пастанаўлю цябе; увыйдзі
ў радасьць спадара свайго'. 22 Пры-
шоў і тый, што адзяржаў два та-
лані, і сказаў: „Спадару! два та-
лані ты перадаў імне; во другія два
талані я прыдбаў на іх'. 23 Спадар
ягоны сказаў яму: ‚Добра, добры а
верны слуга! у нячысьленым ты
быў верны, над чысьленым паста-
наўлю цябе; увыйдзі ў радасьць спа-
дара свайго'. 24 Падыйшоў і тый,
што адзяржаў адзін талань, і ска-
заў: ‚Спада́ру! я знаў цябе, што ты
чалавек стродкі, жнеш, ідзе ня сеяў,
і зьбіраеш, ідзе не рассыпаў; 25 І,
баяўшыся, пайшоў і схаваў талань
твой у зямлі; во табе твае'. 26 Спа-
дар жа, адказуючы, сказаў яму:
‚Нягодны а ляны слуга! ты ведаў,
што я жну, ідзе не пасеяў, і зьбі-
раю, ідзе не рассыпаў; 27 Затым на-
лежыла табе аддаць срэбла мае пе-
нязяменам, і я прышоўшы, адзяр-
жаў бы маё з прыбыткам. 28 Дык
вазьміце ў яго талань і дайце ма-
ючаму дзесяць таланёў, 29 Бо каж-
наму маючаму дасца, і ён будзе
мець дастатак, а ў нямаючага адый-
мецца й тое, што мае. 30 А нека-
рыснага слугу кіньце да цемрадзі
навоннае; там будзе плач а скрыгот
зубамі'.

31 „Як Сын Людзкі прыйдзе ў
славе Сваёй, і ўсі сьвятыя ангілы
зь Ім, тады сядзе на пасадзе славы
Свае; 32 І зьбяруцца перад Ім усі
народы; і адлуча адны ад адных,
як пастыр адлучае авечкі ад каз-
лоў; 33 І пастанове авечкі па праві-
цы Свае, а казлы — па лявіцы.
34 Тады скажа Кароль тым, што па
правіцы Ягонае: „Прыйдзіце, дабра-
славёныя Айца Майго, адзяржыце
на спадак гаспадарства, прыгатава-
нае вам ад стварэньня сьвету; 35 Бо
Я прагнуў, і вы далі́ Імне есьці;
сьмяг, і вы далі́ Імне піць; быў чу-
жані́нам, і вы частавалі Мяне;
36 Быў голы, і вы адзелі Мяне; быў
хворы, і вы даведаліся Мяне; у вязь-
ніцы быў, і вы прышлі да Мяне".
37. Тады адкажуць Яму справядлі-
выя, кажучы: „Спада́ру! калі мы
бачылі Цябе прагнучага, і далі́ есь-
ці? альбо ўсьмяглага, і далі́ піць?
38 Калі мы бачылі Цябе чужані́нам,
і частавалі? альбо голага, і аддзелі?
39 Калі мы бачылі Цябе хворага
альбо ў вязьніцы, і даведаліся Ця-
бе?' 40 І, адказуючы, Кароль скажа
ім: ‚Запраўды кажу вам: на колькі
вы зрабілі гэта аднаму з гэтых бра-
тоў Маіх найменшых, то зрабілі
Імне'. 41 Тады скажа й тым, што па
лявіцы: ‚Ідзіце ад Мяне, пракля-
тыя, у вагонь вечны, прыгатаваны
нячысьціку а ангілам ягоным; 42 Бо



Я прагнуў, і вы не далі́ Імне есьці;
сьмяг, і вы не далі́ Імне піць;
43 Быў чужані́нам, і не пачаставалі
Мяне; быў голы, і не адзелі Мяне;
хворы і ў вязьніцы, і не даведаліся
Мяне'. 44 Тады й яны, адказуючы,
скажуць: ‚Спада́ру! калі мы бачылі
Цябе прагнучага, альбо сьмягнуча-
га, альбо як чужані́на, альбо голага,
альбо хворага, альбо ў вязьніцы, і не
паслужылі Табе?' 45 Тады, адкажа
ім, кажучы: ‚Запраўды кажу вам:
як не зрабілі гэтага аднаму з гэтых
найменшых, то не зрабілі Імне'. 46 І
пойдуць гэтыя на кару вечную, а
справядлівыя да жыцьця вечнага".

26 І сталася, як Ісус скончыў усі
гэтыя словы, што сказаў ву́ча-
нікам сваім: 2 „Вы ведаеце, што за
два дні будзе Пасха, і Сын Людзкі
будзе ізраджаны, каб быў укрыжа-
ваны".

3 Тады зьберліся найвышшыя
сьвятары а кніжнікі а старцы люду
да двору найвышшага сьвятара, зва-
нага Каяфаю. 4 І зрадзіліся ўзяць
Ісуса хітрынёю й забіць; 5 Але гу́-
калі: „Адно ня ў сьвята, каб ня бы-
ло ўзрушэньня ў люду".

6 Як жа Ісус быў у Віфані, у до-
ме Сымона пракажанага, 7 Даблі-
жылася да Яго жонка з алябастро-
вым слоікам вельма дарагога алею
і ўзьліла Яму ўзьляжачаму на га-
лаву. 8 Абачыўшы гэта, ву́чанікі
абурыліся, кажучы: „Нашто гэтае
раскідонства? 9 Бо можна было б
прадаць гэта за шмат і даць убо-
гім". 10 А, ведаючы гэта, Ісус кажа
ім: „Нашто робіце прыкрасьць жон-
цы? Яна добры ўчынак учыніла
Імне; 11 Бо ўбогіх заўсёды маеце із
сабою, а Мяне не заўсёды маеце.
12 Узьліўшы алей гэты на цела Мае,
яна прыгатавала Мяне да пахову.
13 Запраўды кажу вам: ідзе-лень
будзе абвяшчана Евангеля гэта на
цэлым сьвеце, сказа́на будзе такса-
ма, што зрабіла гэтая — на памятку
празь яе".

14 Тады адзін із дванаццаёх,
званы Юда Іскарыёт, падышоў да
найвышшых сьвятароў. 15 Ён ска-
заў: „Што хочаце імне даць, і я вам
выдам Яго?" Яны адважылі яму
трыццаць срэбнікаў. 16 І адгэнуль
ён шукаў прылучаю ізрадзіць Яго.

17 На першы дзень Праснакоў
дабліжыліся ву́чанікі да Ісуса, ка-
жучы: „Ідзе хочаш Ты прыгатаваць
табе есьці пасху?" 18 Ён сказаў:
„Пайдзіце да места да таго а таго
і скажыце яму: ‚Вучыцель кажа:
час Мой блізка, у цябе спраўлю пас-
ху з ву́чанікамі Сваімі'". 19 Ву́чанікі
зрабілі, як загадаў ім Ісус, і прыга-
тавалі пасху.

20 Як жа настаў вечар, Ён сеў за
стол із дванаццацьма ву́чанікамі.
21 І, як яны елі, сказаў: „Запраўды
кажу вам, што адзін із вас ізрадзе
Мяне". 22 Яны вельма засмуціліся
й пачалі казаць Яму, кажны зь іх:
„Ці ня я, Спада́ру?" 23 Ён жа, ад-
казуючы, сказаў: „Хто мачае з Ім-
ною руку ў місе, тый ізрадзе Мяне.
24 Запраўды Сын Людзкі йдзець, як
напісана празь Яго, але бяда таму
чалавеку, што ізраджае Сына Людз-
кога; валей было б не радзіцца таму
чалавеку". 25 Пры гэтым і Юда,
што ізраджаў Яго, сказаў: „Ці ня я,
Раббі?" Кажа яму: „Ты сказаў".

26 І як яны елі, Ісус узяў букат-
ку і дабраславіў, паламіў, і даў ву́-
чанікам, і сказаў: „Вазьміце, ежча,
гэта ё цела Мае". 27 І, узяўшы чару,
і падзяку ўчыніўшы, падаў ім і ска-
заў: „Піце зь яе ўсі; 28 Бо гэта ё
кроў Мая новага Закону, за шмат
каго выліваная на дараваньне гра-
хоў. 29 Кажу ж вам, што адгэтуль
ніяк ня буду піць із плоду гэтага
віна аж да таго дня, калі буду піць
із вамі новае ў гаспадарстве Айца
Свайго".

30 І, запяяўшы, пайшлі на гару
Алі́ўную.

31 Тады кажа ім Ісус: „Усі вы
празь Мяне спакусіцеся гэтае ночы,

бо напісана: ‚Вытну пастырá, і рас-
сыпяцца авечкі чарады‘. 32 Па
ўскрысеньню ж Сваім выпераджу
вас у Ґалілеі”. 33 Пётра ж, адказую-
чы, сказаў Яму: „Калі ўсі спаку-
сяцца праз Цябе, я ніколі не спа-
кушуся”. 34 Ісус сказаў яму: „За-
праўды кажу табе, што гэтае ночы
ўперад, чымся запяець пятух, трэй-
чы запрэшся Мяне”. 35 Кажа Яму
Пётра: „Хоць бы я меў памéрці з Та-
бою, ніяк не запруся Цябе”. Падоб-
на казалі і ўсі вýчанікі.

36 Потым прыходзе зь імі Ісус на
месца, званае Гефсымання, і кажа
вýчанікам: „Пасядзіце тут, пакуль
Я пайду памаліцца там”. 37 І, узяў-
шы із Сабою Пётру а абодвых сы-
ноў Зэведэевых, пачаў смуціцца а
тужыць. 38 Тады кажа ім: „Глыба-
ка смутная душа мая аж да сьмерці,
пабудзьце тут з Імною і будзьце чу-
кáвыя”. 39 І, адышоўшыся крыху,
паў на від Свой, маліўся й казаў:
„Войча Мой! калі льга, няхай абмі-
неć Мяне чара гэтая; ня як Я
хачу,адылí, але як Ты”. 40 І пры-
ходзе да вýчанікаў, і засьпяець іх
сьпячых, і кажа Пётру: „Ці так не
маглі вы вытрываць адну гадзіну з
Імною, каб ня спаць? 41 Будзьце
чукавыя й маліцеся, каб ня ўвый-
сьці ў спакусу. Запраўды дух ба-
дзёры, але цела млявае”. 42 Яшчэ,
адышоўшыся ўдрýгава, маліўся, ка-
жучы: „Войча Мой! калі ня можа
чара гэтая абмінуць Мяне, каб Імне
ня піць яе, няхай станецца воля
Твоя”. 43 І, прышоўшы, засьпяець
іх ізноў сьпячых, бо ў іх вочы аця-
жэлі. 44 І, пакінуўшы іх, адышоў
ізноў і маліўся трэйці раз, кажучы
йзноў гэта самае слова. 45 Тады
прыходзе да вýчанікаў Сваіх і ка-
жа ім: „Сьпіце ж а супачывайце,
вось, дабліжылася гадзіна, і Сын
Людзкí будзе выданы ў рукі грэшні-
каў. 46 Устаньце, ідзіма: вось, даблі-
жыўся тый, што Мяне ізраджае”.

47 І, як яшчэ гýкаў Ён, во, Юда,
адзін із дванаццёх, прышоў, і зь
ім вялікі груд ізь мячамі а кіямі ад
найвышшых сьвятароў а старцоў
люду.

48 А ізраджаючы Яго даў ім знак,
сказаўшы: „Каго я пацалую, Тый
і ё, схапіце Яго”. 49 І, якга пады-
шоўшы да Ісуса, сказаў: „Здароў
будзь, Раббі!” і горача пацалаваў
Яго. 50 Ісус жа сказаў яму: „Прыя-
целю, чаго прышоў ты?”

Тады падышлі й налажылі рукі
на Ісуса і ўзялí Яго.

51 І вось, адзін із былых ізь Ісу-
сам, выцягнуўшы рукý, агаліў меч
свой і, выцяўшы слугу найвыш-
шага сьвятара, адцяў яму вуха.
52 Тады кажа яму Ісус: „Зьвярні
меч свой на месца яго, бо ўсі
тыя, што бяруць меч, ад мяча
загінуць. 53 Ці думаеш, што Я ця-
пер ня мог бы прасіць Айца Свайго,
і Ён даў бы Імне балей, чымся два-
наццаць легіёнаў ангілаў? 54 Як жа
споўняцца Пісьмы, што так мае
быць?”.

55 Тае ж гадзіны сказаў Ісус гру-
дом: „Бы на разбойніка вышлі вы
зь мячамі а кіямі ўзяць Мяне; кож-
ны дзень у сьвятыні Я сядзеў, вуча-
чы, і вы не схапілі Мяне.

56 „Гэта ж усе было, каб споўні-
ліся пісаньні прарокаў”. Тады ўсі
вýчанікі, пакінуўшы Яго, уцяклі.

57 А тыя, што ўзялí Ісуса, завялі
Яго да Каяфы, найвышшага сьвята-
ра, ідзе зьберліся кніжнікі а старцы.

58 Пётра ж ішоў за ім здáлеку,
аж да двору найвышшага сьвятара;
і, увыйшоўшы ўнутр, сеў із паслуга-
чымі, каб бачыць канец.

59 Найвышшыя сьвятары а
старцы а ўвесь сынэдрыён шукалі
хвальшывага сьветчаньня на Ісуса,
каб зрабіць Яму сьмерць; 60 І не
знаходзілі; і не знайшлі, дармá што
шмат хвальшывых сьветак прыхо-
дзіла. Але, наапошку, прышло двух
хвальшывых сьветак. 61 І сказалі:



„Ён казаў: ‚Магу абурыць дом Бо-
жы і за тры дні пастанавіць яго‘”.

62 І, устаўшы, найвышшы сьвя-
тар сказаў Яму: „Нічога не адка-
зуеш на тое, што яны на Цябе сьвет-
чаць?” 63 Ісус маўчаў. І найвышшы
сьвятар сказаў Яму: „Запрысягаю
Цябе Богам жывым, скажы нам, ці
Ты Хрыстос, Сын Божы?” 64 Ісус
сказаў яму: „Ты сказаў; нават кажу
вам: адгэтуль абачыце Сына Лю-
дзкога, на правіцы моцы седзячага
і прыходзячага на булакох нябёс-
ных”. 65 Тады найвышшы сьвятар
разьдзер адзецьці свае й сказаў: „Ён
блявузґае! нашто яшчэ нам сьвет-
кі? во, цяпер вы чулі блявузґаньне
Ягонае! 66 Як вам здаецца?” Яны ж,
адказуючы, сказалі: „Вінен сьмер-
ці”.

67 Тады плівалі Яму ў від і поў-
шылі Яго; а іншыя білі далонямі
рук сваіх, 68 Кажучы: „Прарачы
нам, Хрысьце, хто выцяў Цябе?”

69 А Пётра сядзеў у дварэ вонках.
І падышла да Яго адна паслужніца,
кажучы: „І ты быў зь Ісусам Ґалі-
леянінам”. 70 Але ён заперачыў пе-
рад усімі, сказаўшы: „Ня ведаю,
што ты кажаш”. 71 Як жа ён вы-
ходзіў на ґанак, абачыла яго другая,
і кажа бытым там: „І гэты быў зь
Ісусам Назарэцянінам”. 72 І ён із-
ноў заперачыў з прысягаю, што ня
знае гэтага чалавека. 73 За часінку,
падышоўшы тыя, што там стаялі,
сказалі Пётру: „Запраўды й ты зь
іх, бо й мова твая выдаець цябе”.
74 Тады ён пачаў клясьціся а пры-
сягаць: „Я ня знаю гэтага чалаве-
ка”. І якга пятух запяяў. 75 І Пётра
ўспомнеў слова Ісусава, што сказаў
яму: „Уперад чымся пятух запяець,
трэйчы запрэшся Мяне”. І, вышаў-
шы вонкі, плакаў горка.

27 Як настала раніца, усі найвыш-
шыя сьвятары а старцы люду
мелі нараду праз Ісуса, каб зрабіць
Яму сьмерць. 2 І, зьвязаўшы Яго,
завялі й выдалі Пілату Понцкаму,
намесьніку.

3 Тады Юда, што ізрадзіў Яго,
абачыўшы, што Ён засуджаны, і
каючыся, зьвярнуў трыццаць срэбні-
нікаў найвышшым сьвятаром а стар-
цом, 4 Кажучы: „Ізграшыў я, ізра-
дзіўшы кроў нявінную”. А яны ска-
залі яму: „Што нам да таго? ты
абачыш”. 5 І, кінуўшы срэбнікі ў
доме Божым, ён вышаў і, адышоў-
шыся, засіліўся. 6 Сьвятары ж, узяў-
шы срэбнікі, гýкалі: „Нельга ўкі-
нуць іх да скарбніцы царкоўнае, бо
гэта цана крыві”. 7 Парадзіўшыся,
купілі за іх поле ганчарова на пахоў
чужáн. 8 Затым і завецца поле тое
„Поле Крыві” дагэтуль. 9 Тады
спаўнілася сказáнае пракокам Ярэ-
мам, што кажа: „І ўзялі трыццаць
срэбнікаў, цану Ацанаванага, Като-
рага аценавалі сынове Ізраеля, 10 І
далí іх за поле ганчарова, як Спа-
дар прызначыў імне”.

11 Ісус жа стаў перад намесьнікам.
І папытаўся ў Яго намесьнік, ка-
жучы: „Ці ты Кароль Юдэйскі?”
Ісус сказаў яму: „Ты кажаш”. 12 І
як вінавалі Яго найвышшыя сьвя-
тары а старцы, Ён нічога не адказа-
ваў. 13 Тады кажа Яму Пілат: „Ня
чуеш, колькі сьветчаньняў на Ця-
бе?” 14 І не адказаваў яму на ні вод-
нае слова, ажно намесьнік вельма
дзіваваўся. 15 На сьвята ж Пасхі
намесьнік меў звычай выпушчаць
народу аднаго вязьня, каторага ха-
целі. 16 Быў тады ў іх ведамны аст-
рожнік, званы Вараўва. 17 Дык, як
былí зьбершыся, сказаў ім Пілат:
„Каго хочаце, каб я выпусьціў вам:
Вараўву, ці Ісуса, званага Хры-
стом?” 18 Бо ведаў, што із зáвідасьці
Яго выдалі.

19 Прымеж таго, як сядзеў ён на
судовым седаве, жонка ягоная па-
слала яму сказаць: „Не рабі нічога
Справядліваму гэнаму, бо я сядні ў
сьне шмат цярпела за Яго”.

20 Але найвышшыя сьвятары а

старцы падвучылі груды прасіць
Вараўвы, а Ісуса загубіць. 21 Тады
намесьнік, адказуючы, сказаў ім:
„Каго з двух хочаце, каб я выпусь-
ціў вам?" Яны сказалі: „Вараўву".
22 Кажа ім Пілат: „Што ж я зраблю
Ісусу, званаму Хрыстом?" Кажуць
усі: „Хай будзе ўкрыжаваны!"
23 Намесьнік сказаў: „Якое ж ліха
зрабіў Ён?" Але яны яшчэ мацней
крычэлі: „Хай будзе ўкрыжаваны!"
24 Пілат, бачачы, што нічога не па-
можа, але паўстаець замятня, узяў
вады і ўмыў рукі перад грудам, ка-
жучы: „Ня вінен я ў крыві справяд-
лівага гэтага; абачыце вы". 25 І, ад-
казуючы, увесь люд сказаў: „Кроў
Яго на нас а на дзеці нашы". 26 Та-
ды выпусьціў ім Вараўву, а Ісуса,
біўшы пугамі, выдаў на ўкрыжава-
ньне.

27 Тады жаўнеры намесьнікавы,
узяўшы Ісуса да месцкае рады,
зьберлі на Яго цэлую вятку. 28 І,
разьдзеўшы Яго, надзелі на Яго
шкарлатны ахілім; 29 І, зьвіўшы
карону зь церні, узлажылі Яму на
галаву Ягоную, і далі Яму ў пра-
вую руку трысьціну; і, клякa-
ючы перад Ім, насьміхаліся зь
Яго, кажучы: „Здароў, Каролю
Юдэйскі!" 30 І плівалі на Яго, і,
узяўшы трысьціну, білі Яго па гала-
ве. 31 І, як назьдзекаваліся зь Яго,
зьнялі зь Яго шкарлатны ахілім,
і адзелі ў вадзецьці Ягоныя, і па-
вялі Яго на ўкрыжаваньне.

32 Выходзячы, яны стрэлі аднаго
Кірынеяніна, імям Сымона; гэтага
прысілілі несьці крыж Ягоны. 33 І,
прышоўшы на месца, званае Ґол-
ґота, што знача „Чарэпнішча",
34 Далі Яму піць віна, зьмешанага
з жоўцяй; і, паспытаўшыся, не хацеў
піць. 35 Тыя, што Яго ўкрыжавалі,
дзялілі адзецьці Ягоныя, кідаючы
на жэрабя; 36 І, седзячы, сьцераглі
Яго там. 37 І, прыбілі над галавою
Ягонай надпіс віны Ягонае: „Гэта
Ісус, Кароль Юдэйскі".

38 Тады ўкрыжавалі зь Ім двух
разбойнікаў: аднаго справа, а дру-
гога зьлева.

39 Праходзячыя ж насьміхаліся зь
Яго, ківаючы галавáмі сваімі, 40 І
кажучы: „Ты, што бурáеш Дом Бо-
жы і за тры дні становіш яго! спасі
Самога Сябе; калі Ты Сын Божы,
дык іступі з крыжа". 41 Падобна й
найвышшыя сьвятары з кніжнікамі
а старцáмі, насьміхаючыся, гýкалі:
42 „Іншых спасаў, а Сябе Самога ня
можа спасьці! калі кароль Ізраель-
скі Ён, хай цяпер іступе з крыжа,
і ўверым у Яго; 43 Спадзяваўся на
Бога: няхай цяпер выбаве Яго, калі
Ён любы Яму. Бо Ён Сказаў: ‚Божы
Я Сын'". 44 Таксама й разбойнікі,
укрыжаваныя зь Ім, вярнулі на Яго.

45 Ад шостае ж гадзіны цемра
стала па ўсёй зямлі да гадзіны дзя-
вятае. 46 А каля дзявятае гадзіны
загукáў Ісус голасам вялікім, кажу-
чы: „Ілі, Ілі, лэма савахфані", што
знача: „Божа Мой, Божа Мой, чаму
Ты Мяне пакінуў?" 47 Некатрыя з
тых, што стаялі, чуючы гэта, гýкалі:
„Ільлю гукáе Ён". 48 І якга пабег
адзін із іх, узяў губку, змачыў яе
воцтам і, насадзіўшы на трысьціну,
даў Яму піць. 49 А засталыя казалі:
„Пажджы, паглядзім, ці прыйдзе
Ільля спасьці Яго".

50 Ісус жа, ізноў загукáўшы гола-
сам вялікім, выпусьціў дух.

51 І вось, запона ў Доме Божым
разьдзерлася на дзьве часьці, з гары
аж да далоўя; і зямля затрэслася; і
скáлы раськоліліся; 52 І грабы раш-
чыніліся; і шмат якія целы засну-
лых сьвятых ускрэсьлі; 53 І, вы-
шаўшы з грабоў па ўскрысеньню
Ягоным, увыйшлі да сьвятога места,
і зьявіліся шмат каму.

54 Сотнік жа й тыя, што сьцераг-
лі зь ім Ісуса, бачачы трасеньне
зямлі і ўсе, што прылучылася, над-
та спалохаліся й казалі: „Запраўды
Сын Божы быў Ён".

55 Там былí таксама й глядзелі



зводдаль шмат якія жанкі, што йшлі
за Ісусам із Ґалілеі, паслугуючы
Яму; 56 Памеж іх былí Марыя Маг-
далена а Марыя маці Якавава а Язэ-
пава, і маці сыноў Зэведэевых.

57 Як жа настаў вечар, прышоў
багаты чалавек із Арымафеі, імям
Язэп, што таксама вучыўся ў Ісуса.
58 Ён, прыступіўшы да Пілата, пра-
сіў цела Ісусавага. Тады Пілат зага-
даў аддаць цела. 59 І, узяўшы цела,
Язэп завярцеў яго ў чыстае палат-
но; 60 І палажыў яго ў новым сваім
гробе, што высек ён у скáле; і, пры-
каціўшы вялікі камень да дзьвярэй
гробу, адышоў.

61 Былá ж там Марыя Магдалена
а другая Марыя, што сядзелі супро-
ці гробу.

62 Наступнога дня, што быў па
дню прыгатовы, зьберліся най-
вышшыя сьвятары а фарысэі да Пі-
лата, 63 Кажучы: „Спадáру! мы
ўспомнелі, што ашуканец гэны, яш-
чэ будучы жывы, сказаў: ‚За тры
дні ўскрэсну'. 64 Затым раскажы
абясьпечыць гроб да трэйцяга дня,
каб вучанікі Ягоныя, прышоўшы
ночы, ня ўкралі Яго й не сказалі на-
роду: ‚Ускрэс із мертвых'; і будзе
апошняя ашука горшая за першую".
65 Сказаў ім Пілат: „Маеце варту;
пайдзіце, абясьпечча, як знаеце".
66 Яны пайшлі, абясьпечылі гроб,
прыклаўшы да каменя пячаць, і вар-
таю.

28 Як мінула сыбота, золкам пер-
шага дня тыдня, прышла Ма-
рыя Магдалена а другая Марыя
глядзець гробу. 2 І вось, сталася вя-
лікае трасеньне зямлі, бо ангіл Спа-
дароў, зышоўшы зь неба, прысту-
піўшы, адкаціў камень ад дзьвярэй
і сядзеў на ім. 3 Від ягоны быў, як
маланьня, і адзецьце ягонае белае,
як сьнег. 4 І із страху яго вартаўні-
кі дрыжэлі й сталі, як мертвыя. 5 І,
адказуючы, ангіл сказаў жанкáм:
„Не лякайцеся, бо я ведаю, што Ісу-
са ўкрыжаванага шукаеце: 6 Яго
няма тут, бо Ён ускрэс, як сказаў.
Падыйдзіце, абачча месца, ідзе Спа-
дар ляжаў. 7 І борзда йдзіце, і ска-
жыце вýчанікам Ягоным, што Ён
ускрэс із мертвых, і вось, Ён вы-
перадзе іх да Ґалілеі; там абачыце
Яго. Вось, я сказаў вам".

8 І, вышаўшы борзда з гробу, яны
із страхам і радасьцяй вялікай па-
беглі наказаць вýчанікам Ягоным.
9 І як яны йшлі наказаць вýчанікам,
вось, Ісус пераняў іх, кажучы: „Зда-
ровы!" І яны, дабліжыўшыся, уха-
піліся за ногі Ягоныя, і пакланіліся
Яму. 10 Тады сказаў ім Ісус: „Не
палохайцеся; ідзіце, накажыце бра-
там Маім, каб ішлі да Ґалілеі, і там
яны абачаць Мяне".

11 Як жа яны адышлі, вось, не-
катрыя з вартаўнікоў, прышоўшы
да места, наказалі найвышшым
сьвятаром усе, што сталася. 12 І гэ-
тыя, зьбершыся із старцáмі й зра-
дзіўшыся, узяўшы досыць срэбла,
далі жаўнерам, 13 Кажучы: „Скажы-
це, што вýчанікі Ягоныя, прышоў-
шы ночы, укралі Яго, як мы спалі.
14 А калі дзейкі праз гэта дойдуць
да намесьніка, мы пераканаем яго
і вас абясьпечым". 15 Дык гэтыя
ўзялí срэбла й зрабілі, як гэныя
навучылі. І разьнéслася слова гэтае
памеж Юдэяў дагэтуль.

16 Адзінанцацёх жа вýчанікаў
пайшлі да Ґалілеі, на гару, куды
прызначыў ім Ісус. 17 І, абачыўшы
Яго, пакланіліся Яму; але нека-
тры сумляўся.

18 А Ісус, дабліжыўшыся, гута-
рыў зь імі, кажучы: „Уся ўлада да-
на Імне на нябёсах і на зямлі.
19 Дык ідзіце й рабіце ўсі народы
вýчанікамі Маімі, хрысьцячы іх у
імя Айца а Сына а Сьвятога Духа,
20 Вучачы іх захоўваць усе, што
Я расказаў вам; і вось, Я з вамі ўсі
дні аж да сканчэньня веку". Амін.

# ЕВАНГЕЛЯ ПОДЛЕ СЬВЯТОГА МАРКІ

1 Пачатак Евангелі Ісуса Хрыста,
Сына Божага.

2 Як напісана ў Ісаі прарокі:
„Вось, Я пасылаю ангіла Свайго пе-
рад відзеньням Тваім, каторы пры-
гатуе дарогу Тваю перад Табою.
3 Голас гукáючага на пустыні: га-
туйце дарогу Спадарову, раўнуйце
сьцежкі Яму!".

4 Сталася, што Яан хрысьціў на
пустыні, абяшчаючы хрэст кáяты
на дараваньне грахоў. 5 І выходзілі
да яго ўся краіна Юдэйская а Еру-
залімляне ўсі, і хрысьціліся ў яго
ўсі ў раццэ Ёрданé, вызнаючы грахі
свае.

6 Яан жа насіў адзецьце зь вярб-
люджае поўсьці і дзягу на сьцёгнах
сваіх, і еў шаранчу а дзікі мёд. 7 І
абяшчаў, кажучы: „Ідзець за імною
дужшы за мяне, Катораму я ня го-
жы, нахінуўшыся, разьвязаць рэ-
меньчык вобую Ягонага. 8 Я запраў-
ды хрысьціў вас вадою, але Ён бу-
дзе хрысьціць вас Духам Сьвятым".

9 І сталася тых дзён, што Ісус
прышоў з Назарэту Ґалілейскага
і хрысьціўся ў Яана ў Ёрданé. 10 І
зараз, выходзячы з вады, абачыў
нябёсы расьхіненыя і Духа, як га-
лубу, зыходзячага на Яго. 11 І быў
голас із нябёсаў: „Ты Сын Мой
любовы, у Табе Мае вялікае ўпада-
баньне".

12 І зáраз Дух павёў Яго на пу-
стыню. 13 І быў Ён там на пустыні
сорак дзён, спакушаны шайтаном,
і быў із зьверанятамі; і ангілы па-
слугавалі Яму.

14 І просьле таго, як Яан быў выда-
ны, прышоў Ісус да Ґалілеі, абяш-
чаючы Евангелю гаспадарства Бо-
жага, 15 І кажучы: „Выпаўніўся
час і дабліжылася гаспадарства Бо-
жае; пакайцеся а верце ў Еванге-
лю".

16 І праходзячы ж ля мора Ґалі-
лейскага, абачыў Сымона а Анд-
рэя, брата ягонага, што закідалі се-
ці ў мора, бо яны былі рыбнікі. 17 І
сказаў ім Ісус: „Ідзіце за Імною, і Я
зраблю, што вы станеце лаўбітáмі
людзёў". 18 І яны зáраз, пакінуў-
шы сеці свае, пайшлі за Ім.

19 І прайшоўшы стуль крыху, Ён
абачыў Якава Зэведэявага а Яана,
брата ягонага, што таксама былі ў
струзе, правячы сеці свае; 20 І зá-
раз пагукáў Ён іх, і, пакінуўшы
айца свайго Зэведэя ў струзе з най-
мітамі, пайшлі за Ім.

21 І прыйшлі да Капернауму; і
зáраз у сыботу ўвыйшоў Ён у баж-
ніцу, і навучаў. 22 І зумяваліся з
навукі Ягонае, бо Ён навучаў іх, як
уладу маючы, а не як кніжнікі.

23 І зáраз у бажніцы іхнай апы-
нуўся чалавек, маючы духа нячы-
стага, і закрычэў, 24 Кажучы: „Па-
кінь, чаго Табе да нас, Ісусе Наза-
рэцкі? ці Ты прышоў загубіць нас?
Знаю Цябе, хто Ты, Сьвяты Божы".

25 Але Ісус зганіў, кажучы:
„Змоўкні і выйдзі зь яго". 26 Тады
дух нячысты, скалатнуўшы яго й
закрычэўшы вялікім голасам, вы-
шаў зь яго. 27 І ўсі зжахнуліся, аж-
но адзін у ваднаго пыталіся: „Што
гэта? што гэта за новая навука, што
Ён і духом нячыстым расказуе з
уладаю, і яны слухаюць яго?" 28 І
ўборзьдзе разышлася празь Яго ве-
дамка па ўсёй аколіцы ў Ґалілеі.

29 Вышаўшы неўзабаве з бажні-
цы, прышлі да дому Сымонавага
а Андрэевага зь Якавам а Яанам.
30 Цешча ж Сымонава ляжала ў
гаручцы; і без адвалокі кажуць яму
празь яе. 31 І, дабліжыўшыся, Ён
падняў яе, узяўшы яе за рукý; і га-
ручка якга пакінула яе, і яна па-
слугавала ім.

32 І ўвечары заходам сонца пры-
носілі да Яго ўсіх хворых і апана-
ваных нячысьцікам. 33 І ўсе места
зьберлася да дзьвярэй. 34 І Ён узда-



равіў шмат якіх, хворых на розныя
хваробы, і выгнаў шмат нячысьці-
каў, і не дазваляў нячысьцікам гý-
каць, бо яны зналі Яго.

35 І нараніцы, устаўшы рана на
додніцы, вышаў, і адышоў на пу-
стыннае месца, і там маліўся. 36 Сы-
мон а бытыя зь Ім пайшлі глядзець
Яго. 37 І, знайшоўшы Яго, кажуць
Яму: „Усі шукаюць Цябе". 38 Ён
кажа ім: „Пайдзіма да іншае мяс-
цовасьці, да суседніх мястачкаў, каб
Імне й там абяшчаць, бо на тое Я
прышоў".

39 І Ён абяшчаў у бажніцах іх-
ных па ўсёй Ґалілеі, і выганяў ня-
чысьцікаў.

40 Прыходзе да Яго хворы на
праказу і, молячы Яго а клякаючы
перад Ім, кажа Яму: „Калі хочаш,
можаш мяне ачысьціць". 41 Ісус, па-
жалеўшы яго, выцягнуў рукý, да-
ткнуўся да яго й сказаў яму: „Хачу,
ачысьціся". 42 І якга зышла зь яго
праказа, і ён быў чысты. 43 І із
стродкім заказам зараз выслаў яго.
44 І сказаў яму: „Глядзі нікому ні-
чога не кажы, але йдзі, пакажыся
сьвятару і абрачы за ачышчэньне
свае тое, што расказаў Масей, на
сьветчаньне ім".

45 Але ён, вышаўшы, пачаў шмат
агалашаць праз сталае, ажно Ісус
ня мог ужо яўна ўвыйсьці ў места,
але быў вонках на месцах пустых.
І прыходзілі да Яго адусюль.

2 І ўзноў прышоў Ён да Капернау-
му за колькі дзён; і пачулі, што
Ён у доме. 2 Зáраз зьберлася шмат,
ажно ўжо й ля дзьвярэй ня было
месца; і Ён казаў ім слова.

3 І прышлі да Яго, нясучы хвора-
га на паляруш, каторага чатырох
нéсьлі. 4 І, як не маглі прынéсьці да
Яго з прычыны груду, раскрылі
страху, ідзе Ён быў, і, адкрыўшы,
спусьцілі ложак, на каторым ляжаў
паляржаваны. 5 Як Ісус абачыў ве-
ру іхную, Ён сказаў паляржавана-
му: „Дзяцё, дараваны табе грахі
твае". 6 Тут сядзелі некатрыя з
кніжнікаў і разважалі ў сэрцах сва-
іх: 7 „Чаму Ён так гýкае — бля-
вузґае? хто можа даруваць грахі,
толькі адзін Бог?" 8 Ісус, якгá па-
знаўшы ў Духу Сваім, што яны так
разважаюць у сабе, сказаў ім: „Ча-
му гэтак разважаеце ў сэрцах сваіх?
9 Што лацьвей? ці сказаць паляр-
жаванаму: ‚Даруюцца табе грахі'?
ці сказаць: ‚Устань, вазьмі ложак
свой і хадзі'? 10 Але каб вы ведалі,
што ўладу мае Сын Людзкі дара-
ваць грахі на зямлі, (кажа паляр-
жаванаму:) 11 Табе кажу: устань,
вазьмі ложак свой і йдзі да дому
свайго". 12 І ўстаў, і, якга ўзяўшы
ложак, вышаў перад усімі, так што
ўсі зумяваліся й славілі Бога, ка-
жучы: „Ніколі нічога такога мы ня
бачылі".

13 І вышаў ізноў над мора; і ўвесь
груд пайшоў да Яго, і Ён вучыў іх.

14 Праходзячы, абачыў Ён Лева
Алфеявага, што сядзеў ля збору
мыта, і кажа яму: „Ідзі за Імною".
І, устаўшы, пайшоў за Ім.

15 І сталася, як Ісус узьляжаў за
сталом у доме ягоным, што й шмат
якія мытнікі а грэшнікі ўзьляжалі
разам із Ісусам а з вýчанікамі Яго-
нымі, бо шмат было, і яны йшлі за
ім. 16 Кніжнікі а фарысэі, абачыў-
шы, што Ён есьць із мытнікамі а
грэшнікамі, гýкалі вýчанікам Яго-
ным: „Чаму Ён есьць а п'ець із мыт-
нікамі а грэшнікамі?" 17 Пачуўшы,
Ісус кажа ім: „Не здаровыя патра-
буюць лекара, але хворыя. Я ня
прышоў прыгýкаць справядлівых,
але грэшнікаў да кáяты".

18 Вýчанікі Яанавы а фарысэйскія
поставалі. Прыходзяць і кажуць
Яму: „Чаму вýчанікі Яанавы а фа-
рысэйскія постуюць, а твае вýчанікі
ня постуюць?" 19 І сказаў ім Ісус:
„Ці могуць поставаць сынове вясель-
нага палацу, як малады зь імі? Па-
куль із імі малады, яны ня могуць
поставаць. 20 Але настануць дні,

калі адыймуць у іх маладога, і та-
ды будуць паставаць таго дня.
21 „Ніхто ня прышывае лапіка зь
няваленага сукна да старога адзець-
ця, бо новапрышытае аддзярэцца ад
старога, і дзірка будзе яшчэ боль-
шая. 22 Ніхто ня іhьлець віна мала-
дога ў скураныя мяхі старыя, бо ма-
ладое віно прарвець мяхі, і віно вы-
цяча, і мяхі зглумяцца; але віно
маладое надабе ліць у мяхі новыя".
23 І прылучылася Яму прахо-
дзіць у сыботу пераз засеяньні, і ву́-
чанікі Ягоныя дарогаю пачалі ка-
ласаваць. 24 І фарысэі сказалі Яму:
„Глянь, чаму яны робяць у сыботу,
што бясправўна?" 25 Ён сказаў ім:
„Няго ж вы ніколі ня чыталі, што
зрабіў Давід, як меў патрэбу і быў
выгаладніўшыся сам а бытыя зь ім?
26 Як увыйшоў ён у дом Божы за
найвышшага сьвятара Авафара, і еў
букаткі пакладаныя, каторых ня меў
права есьці ніхто, апрача сьвятароў,
і даў таксама бытым із ім?" 27 І
сказаў ім: „Сыбота дзеля чалавека,
а не чалавек дзеля сыботы. 28 За-
тым Сын Людзкі ё Спадаром і сы-
боты".

**3** І ўвыйшоў ізноў у бажніцу. Там
быў чалавек із сухой рукою. 2 І
назіралі за Ім, ці не ўздарове яго ў
сыботу, каб абвінаваць Яго. 3 Ён жа
кажа сухарукаму: „Стань пасярэдзі-
не". 4 А ім кажа: „Ці праўна ў сы-
боту добра ці блага рабіць? Душу́
спасьці, ці загубіць?" Але яны маў-
чэлі. 5 І, глянуўшы на іх із гневам,
зьнéмарасьціўшыся з калянасьці
сэрцаў іхных, кажа таму чалавеку:
„Выцягні руку́ сваю". Ён выцягнуў,
і стала рука ягоная здаровая, як
другая. 6 Фарысэі, вышаўшы, без
адвалокі зрабілі зь гіродыянамі на-
раду супроці Яго, каб загубіць Яго.
7 А Ісус із ву́чанікамі сваімі ады-
шоў над мора; і вялікая множасьць
ішла за Ім із Ґалілеі а зь Юдэі 8 А
зь Ерузаліму а з Ідумеі а з-за Ёрда-
ну́. І з каля Тыру а Сыдону, пачуў-
шы, што Ён робе, вялікая множа-
сьць прышла да Яго.
9 І сказаў ву́чанікам Сваім, каб
гатова была Яму лодка, з прычыны
груду, каб ня сьціскалі Яго. 10 Бо
шмат каго Ён уздаравіў, так што
ціснуліся да Яго, хто меў хваробу,
каб даткнуцца да Яго. 11 І нячы-
стыя духі, як бачылі Яго, падалі
перад Ім і крычэлі, кажучы: „Ты
— Сын Божы!" 12 Але Ён шмат
перасьцерагаў іх, каб не выяўлялі
Яго.
13 Потым узышоў на гару і па-
гука́ў да Сябе, каго Сам хацеў; і
прышлі да Яго. 14 І прызначыў два-
нанцацёх, каб маглі быць ізь Ім, і
каб пасылаць іх на ка́зань, 15 І каб
яны мелі ўладу ўздараўляць ад хва-
робаў і выганяць нячысьцікаў:
16 Сымона, дадаўшы яму імя Пёт-
ра, 17 А Якава Зэведэявага а Яна,
брата Якававага, дадаўшы ім мя-
нушку Воанерґес, значыцца „Сыны
громавы",18 Андрэя а Піліпа а Вар-
фаломея а Мацьвея а Хаму а Якава
Алфеевага а Хвадзея а Сымона Ка-
нояні́на 19 А Юду Іскарыёта, като-
ры й ізрадзіў Яго. І прыходзяць да
дому.
20 І ўзноў зыходзіцца люд, ажно
нельга было ім хлеба ізьесьці. 21 І,
пачуўшы, свае Ягоныя пайшлі няць
Яго, бо дзейкалі, што Ён вонках ся-
бе. 22 А кніжнікі, што прышлі зь
Ерузаліму, дзейкалі, што Ён мае
веельзэвула, і што выганяе нячысь-
цікаў сілаю старшага нячысьцікаў.
23 І прыгу́каўшы іх, гутарыў ім
прыпавесьцьмі: „Як можа шайта́н
выганяць шайтана́? 24 Калі гаспа-
дарства падзеліцца само ў сабе, ня
можа ўстоіць гаспадарства тое. 25 І,
калі дом падзеліцца сам у сабе, ня
можа ўстоіць дом тый. 26 І калі
шайтан паўстаў на самога сябе й
падзяліўся, ня можа ўстоіць, але ка-
нец яму.
27 „Бо ніхто, увыйшоўшы ў дом
дужасіла, ня можа расхапаць ма-



масьці ягонае; хіба ўперад зьвяжа
дужасіла, і тады аграбе дом ягоны.
28 „Запраўды кажу вам: будуць
дараваны сыном людзкім усі грахі а
блявузґаньні, якімі б блявузґалі;
29 Але хто будзе блявузґаць на Ду-
ха Сьвятога, ніколі ня будзе мець
дараваньня, але ён у небясьпечна-
сьці вечнага засуджэньня". 30 Бо
гу́калі: „У Ім нячысты дух".
31 І прышлі Маці Ягоная а браты
Ягоныя і, стоячы вонках, паслалі
да Яго пагука́ць Яго. 32 А навокал
Яго сядзеў груд. І сказалі Яму:
„Гля, Маці Твая а браты Твае а
сёстры Твае вонках, шукаюць Ця-
бе". 33 І, адказаўшы ім, сказаў:
„Хто маці Мая або браты Мае?" 34 І
глянуўшы на тых, што сядзелі на-
вокал Яго, кажа: „Во маці Мая а
браты Мае! 35 Бо хто будзе паўніць
волю Божую, той Імне брат а сястра
а маці".

**4** І ўзноў пачаў вучыць ля мора;
і зьберся да Яго вельмі вялікі
груд, так што Ён увыйшоў у струг
і сядзеў на мору; а ўвесь груд быў
ля мора на зямлі. 2 І вучыў іх шмат
чаго прыпавесьцьмі, і гу́каў ім у на-
вуццы сваёй:
3 „Слухайце: вось, вышаў сяўбіт
сеяць. 4 І сталася, як сеяў, што адно
пала край дарогі, і птушкі нябёсныя
прыляцелі й паклявалі яго; 5 А
другое пала на скалісты ґрунт, ідзе
ня было шмат зямлі, і ўборзьдзе
абышло, бо зямля была ня глыбо-
кая; 6 Як жа ўзышло сонца, выга-
рала і, як ня мела карэньня, ссохла;
7 Іншае ж пала памеж церня, і вы-
расла церне, і заглушыла яго, і яно
не дало плоду; 8 Іншае ж пала на
зямлю добрую і дало плод, што абы-
шоў а вырас; і выдала іншае трыц-
цаць, а іншае шасьцьдзясят, а ін-
шае сто". 9 І сказаў ім: „Хто мае
вушы чуць, няхай чуе!".
10 І, як Ён быў адзін, пыталіся
ў Яго тыя, што навокал Яго былі,
з дванаццацьма, праз прыпавесьць.
11 І сказаў ім: „Вам дана ведаць
тайны гаспадарства Божага, але
тым, што вонках, усе ў прыпавесь-
цях, 12 Каб гледзячы глядзелі, і ня
бачылі; слухаючы чулі, і не разу-
мелі, каб часамі не навярнуліся, і ня
былі ім грахі дараваны".
13 І кажа ім: „Ня знаеце гэтае
прыпавесьці? А як жа вам знаць
усі прыпавесьці? 14 Сяўбіт гэты сее
словы. 15 А што край дарогі, ідзе
слова пасеянае, гэта тыя, да като-
рых, як пачуюць, за́раз прыходзе
шайтан і адбірае слова, пасеянае ў
сэрцах іхных. 16 Таксама й тыя,
што на скалістых месцах пасеяныя
— гэта тыя, каторыя, як пачуюць
слова, зараз із радасьцяй прыйма-
юць яго; 17 Але ня маюць у сабе
кораня і малачасныя; потым, як
прылучаецца атуга альбо перась-
ледава́ньне за словы, зараз спаты-
каюцца. 18 Пасеяныя ж памеж цер-
ня ё тыя, што слухаюць слова;
19 Але клопаты гэтага сьвету,
і спадман багацьцям, і жадоба ін-
шых рэчаў, уходзячы, глушаць сло-
ва, і робіцца бясплоднае. 20 А па-
сеяныя на добрай зямлі — тыя, што
чуюць слова, і прыймаюць, і даюць
плод, і трыццаць, і шасьцьдзясят,
і сто".
21 І сказаў ім: „Ці на тое прыно-
сяць ляпу, каб пастанавіць яе пад
карэц альбо пад ложак? ці не на
тое, каб пастанавіць яе на падста-
ноўку? 22 Бо няма нічога схавана-
га, што не адкрылася б; і нічога ня-
ма патайнога, што ня было б выяў-
лена. 23 Калі хто мае вушы слу-
хаць, няхай слухае!"
24 І сказаў ім: „Уважайце, што
чуеце: якой мераю мераеце, будзе
адмерана вам і дадана будзе вам
слухаючым. 25 Бо, хто мае, таму да-
на будзе; а хто ня мае, у таго ад-
нята будзе й тое, што мае".
26 І сказаў: „Так і гаспадарства
Божае, як калі чалавек кі́дае зярнё
ў зямлю; 27 І спаў бы, і ўставаў бы

ночы і ўдзень, насеньне ж абышло б
а вырасла б, а ён ня ведае як; 28. Бо
зямля сама із сябе выдаець най-
перш рунь, потым колас, потым
поўнае зярнё ў коласе. 29 Як жа
насьпее плод, без адвалокі пасылае
серп, бо настала жніво".

30 І сказаў: „Да чаго прыраўнуем
гаспадарства Божае? альбо якой
прыпавесьцяй выкажам яго? 31 Яно
— як зярнё гарчыцы, што, як сееш-
ца ў зямлю, найдрабнейшае з усяе
сяўбы на зямлі; 32 А як пасеяна,
абыходзе а вырастае большае за
ўсю гароднiну а пушчае вялікія га-
лузы, так што птушкі нябёсныя мо-
гуць жыць пад сьценям яго".

33 І шмат якімі гэткімі прыпаве-
сьцьмі абяшчаў ім слова, колькі яны
маглі чуць; 34 Без прыпавесьці ж ня
гу́каў ім, а ву́чанікам Сваім зьясь-
няў усе.

35 Увечары таго дня сказаў ім:
„Пераплыві́ма на тый бок". 36 І
яны, пакінуўшы груд, узялі́ Яго із
сабою, як Ён быў у струзе, зь Ім
былі й іншыя стругі.

37 І ўзьняла́ся вялікая бура; хвалі
білі ў струг, аж струг напоўніўся.
38 А Ён быў на задзе, спаў на па-
душцы. Яго будзяць а кажуць Яму:
„Вучыцелю! нягож Табе ня рупіць,
што мы гінем?" 39 І, устаўшы, Ён
забараніў ветру й сказаў мору:
„Змоўкні, сьціхні". І вецер сьціх, і
сталася вялікая цішыня. 40 І сказаў
ім: „Чаму вы такія палахлівыя? як
у вас няма веры?" 41 І ўлякаліся
лякам вялікім, і гу́калі адзін адна-
му: „Хто ж гэта, што вецер а мора
слухаюць Яго?"

**5** І прыбылі на другі бок мора да
краіны Ґадарынскае. 2І, як вы-
шаў Ён із струга, якга пераняў Яго
вышлы з грабоў чалавек із нячыс-
тым духам. 3 Ён жыў меж грабоў, і
ніхто ланцугом ня мог зьвязаць яго;
4 Бо шмат разоў ён быў скаваны
зялезамі а ланцугамі, але разрываў
ланцугі і ламіў зялезы; і ніхто ня
меў сілы ўслышыць яго. 5 Заўсёды,
ночы і ўдзень, памеж грабоў і ў га-
рах ён крычэў а рэзаўся каменьням.
6 Абачыўшы ж Ісуса зда́леку, пры-
бег і пакланіўся Яму. 7 І, закрычэў-
шы вялікім голасам, сказаў: „Што
Табе й імне, Ісусе, Сыну Бога На-
вышняга? Заклінаю Цябе Богам,
ня муч мяне!" 8 (Бо Ён сказаў яму:
„Выйдзі, душа нячыстая, з гэтага
чалавека"). 9 І пытаўся ў яго: „Што
за імя твае?" І сказаў Яму: „Легіён
імя мае, бо нас шмат". 10 І вельмі
прасілі Яго, каб не высылаў іх вон
із краіны гэтае.

11 Пасьцілася ж там ля гары вялі-
кая чарада сьвіньняў. 12 І малілі
Яго ўсі нячысьцікі, кажучы: „Паш-
лі нас у сьвіньне, каб нам увыйсьці
ў іх". 13 І Ісус за́раз дазволіў ім. І
нячыстыя духі, вышаўшы, увыйшлі
ў сьвіньне; і рынулася чарада із
стромы ў мора, а іх было каля
дзьвюх тысячаў; і заліліся ў мору.

14 А тыя, што пасьцілі сьвіньне,
уцяклі й наказалі ў месьце а ў па-
лёх. І вышлі паглядзець, што было,
што сталася. 15 І прыходзяць да
Ісуса, і бачаць таго, што быў апана-
ваны нячысьцікам, і ў каторым быў
легіён, сядзіць і адзеўшыся, і мае
добры розум, і спалохаліся. 16 Воч-
нікі паведамілі ім праз тое, як гэта
сталася з апанаваным нячысьцікамі,
і праз сьвіньне. 17 І пачалі маліць
Яго адыйсьці ад граніцаў іхных.
18 І як Ён увыйшоў у струг, прасіў
Яго тый, што быў апанаваны ня-
чысьцікам, каб быць із Ім. 19 Але
Ісус не дазволіў яму, але сказаў
яму: „Ідзі двору да сваіх і агаласі
ім, якія вялікія рэчы Спадар учы-
ніў табе і зьмілава́ўся над табою".
20 І пайшоў, і пачаў абяшчаць у
Дзесяцімесьцю, якія вялікія рэчы
Ісус учыніў яму. І ўсі дзіваваліся.

21 І як Ісус ізноў пераплыў у
струзе на другі бок, вялікі груд
зьберся да Яго; а Ён быў ля мора.
22 І вось, прыходзе адзін із стар-



шых бажніцы, імям Яір, і, абачыў-
шы Яго, падае да ног Ягоных, 23 І
моле Яго, кажучы: „Дачушка мая
канае; прыйдзі а ўзлажы на яе ру-
кі, каб яна ачуняла й засталася
жывая". 24 І Ісус пайшоў із Ім.

І вялікі груд пайшоў за Ім, і ціс-
нуліся да Яго. 25 І адна жонка, што
мела крыватак дванаццаць год, 26 І
шмат нацерпілася ад шмат якіх ле-
караў, высілілася з усяго, што ме-
ла, і не палепшала, але пагоршала.
27 Пачуўшы праз Ісуса, падышла
адзаду ў грудзе й даткнулася да
адзецьця Ягонага; 28 Бо казала:
„Калі хоць да адзецьця Ягонага
даткнуся, то ачуняю". 29 І якга вы-
сахла ў яе жарало крыві ейнае, і
яна пазнала ў целе, што ўздароўле-
на ад хваробы. 30 І якга Ісус, па-
знаўшы ў сабе, што вышла зь Яго
моц, абярнуўшыся да груду, сказаў:
„Хто даткнуўся да адзецьця Май-
го?". 31 І сказалі Яму ву́чанікі Яго-
ныя: „Ты бачыш, што груд цісьне
Цябе, і кажаш: ‚Хто даткнуўся да
Мяне?' 32 Але Ён глядзеў навокал,
каб бачыць тую, што зрабіла гэта.
33 Жонка ў ляку а дрыгоце, ведаю-
чы, што зь ёю сталася, падышла,
і пала перад Ім, і сказала ўсю праў-
ду. 34 Ён жа сказаў ёй: „Дачка! вера
твая ўздаравіла цябе; ідзі ў супакою
й будзь здаровая ад хваробы свае".
35 Як Ён яшчэ казаў гэта, пры-
ходзяць ад начэльніка бажніцы й
кажуць: „Дачка твая памерла; наш-
то парушаеш вучыцеля?" 36 Але,
як толькі Ісус пачуў гэтае слова,
кажа начэльніку бажніцы: „Ня бой-
ся, толькі вер". 37 І не дазволіў ні-
кому йсьці із Сабою, апрача Пётры,
Якава а Яна, брата Якававага.
38 Прыходзяць да дому начэльніка
бажніцы, і бача сумятню плачучых
і вельмі галосячых. 39 І ўвыйшоў-
шы, кажа ім: „Чаго галасуеце а
плачаце? дзяцё не памерла, але
сьпіць". 40 І сьміяліся зь Яго. Але
Ён, выправіўшы ўсіх, бярэць із Са-
бою айца дзіцяці а маці а бытых
із Ім, і ўходзе туды, ідзе дзяцё ля-
жала. 41 І, узяўшы дзяцё за руку́,
кажа ёй: „Таліфа кумі", значыцца:
„Дзевачка, табе кажу, устань". 42 І
дзевачка якга ўстала, і хадзіла, бо
было ёй дванаццаць год. І зумява-
ліся зуменьням вялікім. 43 І Ён
строгка расказаў ім, каб ніхто праз
гэта ня ведаў, і казаў даць ёй есьці.

**6** І Ён вышаў стуль, і прышоў да
Свае мясцовасьці; за Ім ішлі
ву́чанікі Ягоныя. 2 Як настала сы-
бота, Ён пачаў вучыць у бажніцы;
і шмат хто, чуўшы, із зуменьням
гу́калі: „Скуль у Яго гэта? што за
мудрасьць дана Яму, і як таковыя
магучыя ўчынкі дзеюцца рукамі
Ягонымі? 3 Ці ня цесьля Ён, сын
Марыі, брат Якава, Юды а Сымо-
на? Ці ня тут Ягоныя сёстры з на-
мі?" І абура́ліся на Яго. 4 І сказаў
ім Ісус: „Няма прарокі бязь сьці,
хіба ў мясцовасьці сваёй, у радні
сваёй а ў доме сваім". 5 І ня мог
тут чуда ніякага ўчыніць, адно мала
хворых, кладучы на іх рукі, узда-
равіў. 6 І дзіваваўся зь няверы іх-
нае, і абходзіў навокал па местач-
ках, вучачы. 7 І прыгу́каўшы да
Сябе тых дванаццацёх, пачаў іх па-
сылаць па двух, і даў ім уладу над
духамі нячыстымі, 8 І расказаў ім,
каб нічога ня бралі ў дарогу, адно
посах, ані хатуля, ані хлеба, ані
медзі ў капшуку; 9 Але абуваліся
ў хадакі і не адзявалі двух адзець-
цяў.

10 І казаў ім: „Калі йдзе ўвый-
дзеце ў дом, заставайцеся там, па-
куль ня выйдзеце з таго месца. 11 А
калі хто ня прыйме вас і ня будзе
слухаць вас, то, выходзячы стуль,
атрасіце пыл із пад ног сваіх, на
сьветчаньне на іх. Запраўды кажу
вам: лацьвей будзе Содоме а Ґоморы
ў дзень судны, чымся месту таму".

12 Яны пайшлі й абяшчалі, каб
каяліся. 13 І нячысьцікаў шмат вы-

ганялі, і шмат хворых мазалі алеям,
і ўздараўлялі.
14 І пачуў кароль Гірад (бо імя
Ягонае стала ведамым), і гу́каў:
„Гэта Ян Хрысьціцель ускрэс із
мертвых, і затым магучыя ўчынкі
дзее ён.” 15 Іншыя гу́калі: „Гэта
Ільля”; а іншыя гу́калі: „Гэта пра-
рока як адзін із прарокаў”. 16 Гі-
рад жа, пачуўшы, сказаў: „Гэта
Ян, каторага я сьцяў; ён ускрэс”.
17 Бо гэты Гірад, паслаўшы, няў
Яна і зьвязаў яго ў вязьніцы за
Гіродзяду, жонку Піліпаву, брата
свайго; бо жаніўся зь ёй. 18 Бо Ян
казаў Гіраду: „Ня маеш ты мець
жонкі брата свайго”. 19 А Гіродзяда
злавала на яго, хацела яго забіць,
але не магла. 20 Бо Гірад баяўся
Яна, ведаючы, што ён муж справяд-
лівы а сьвяты, і шчаджаў яго, і
шмат рабіў, слухаючы яго, і ахвот-
на яго слухаў.
21 І настаў дагодны дзень, калі
Гірад, з прыгоды радзінаў сваіх,
справіў вячэру вялікім сваім, ты-
сячнікам сваім а галоўным Галілей-
скім. 22 Дачка Гіродзяды ўвыйшла,
скакала, і заўпадабаў Гірад а тыя,
што ўзьляжалі зь ім. Кароль сказаў
дзеўцы: „Прасі ў мяне, чаго хочаш,
і я дам тэ”. 23 І ён прысяг ёй: „Ча-
го-колечы ты папросіш у мяне, я
дам тэ, ажно да палавіцы гаспадар-
ства майго”. 24 Яна ж, вышаўшы,
сказала маці сваёй: „Чаго я маю
прасіць?” А гэта сказала: „Галавы
Яна Хрысьціцеля”. 25 І яна якга
пайшла хапліва да караля й пра-
сіла, кажучы: „Хачу, каб ты даў
імне якга на місе галаву Яна Хры-
сьціцеля”. 26 І кароль вельма за-
журыўся; дзеля прысягі свае, адылí,
і дзеля тых, што ўзьляжалі зь ім,
не захацеў адмовіць ёй. 27 І зараз
кароль, паслаўшы ката, расказаў
прынесьці галаву ягоную. І ён пай-
шоў а сьцяў яго ў вязьніцы. 28 І
прынёс галаву ягоную ў місе, і даў
яе дзеўцы, а дзеўка дала́ яе маці
сваёй. 29 І як ву́чанікі пачулі, яны
прышлі, і ўзялí цела ягонае, і па-
хавалі яго ў гробе.
30 І зьберліся апосталы да Ісуса,
і паведамілі Яму ўсе, што рабілі й
чаго навучалі. 31 І сказаў Ён ім:
„Пайдзіце вы адны на пустыннае
месца і супачыньце крыху” Бо бы-
ло шмат прыходзячых і адыходзя-
чых, ажно пасілкавацца ім ня было
дагоднага часу. 32 І адплылí адны
стругам на пустыннае месца.
33 І бачылі іх адплываючых, і
шмат хто пазнаў іх, і пабеглі пеха-
тою з усіх местаў, і выперадзілі іх,
і прышлі перад імі. 34 І Ісус, вы-
шаўшы, абачыў вялікі груд, і зжа-
ліўся над імі, бо яны былí, як авеч-
кі без пастыра́; і пачаў вучыць іх
шмат чаго.
35 І, як мінула шмат часу, даблі-
жыліся да Яго ву́чанікі Ягоныя, і
сказалі: „Гэта пустыннае месца, і
пара ўжо позная; 36 Адпусьці іх,
каб яны пайшлі да акалічных па-
лёў а да сёлаў і купілі сабе есьці, бо
ня маюць чаго есьці”. 37 Ён, адка-
зуючы, сказаў ім: „Вы дайце ім есь-
ці”. І кажуць Яму: „Хіба пойдзем і
купім за дзьвесьце дынароў букат-
каў і дамо ім есьці?” 38 І кажа ім:
„Колькі букаткаў маеце? ідзіце й
абачча”. І, ведаючы, яны сказалі:
„Пяць і дзьве рыбы”. 39 І загадаў
ім расьсесьціся ўсім грудамі, груда-
мі на зялёнай траве. 40 І селі кара-
годамі па сто а па пяцьдзясят. 41 І,
узяўшы пяць букаткаў і дзьве ры-
бы, гледзячы на неба, дабрасла́віў,
і ламіў букаткі, і даў ву́чанікам Сва-
ім, каб сулілі ім; і дзьве рыбы па-
дзяліў усім. 42 І елі ўсі, і пад'елі.
43 І зьберлі кавалкаў двананцаць
кашоў поўных, і з рыбы. 44 А тых,
што елі хлеб, было каля пяцёх ты-
сячаў мужчынаў.
45 І зараз прысіліў ву́чанікаў Сва-
іх зыйсьці да струга й плысьці пе-
рад ім на другі бок да Віфсаіды,
пакуль Ён распусьце груд. 46 І,



разьвітаўшыся зь імі, пайшоў на га-
ру маліцца.
47 І, як зьвечарэла, струг быў па
сярэдзіне мора, а Ён адзін на зямлі.
48 І бачыў Ён іх, што былí стама-
ваўшыся вяслуючы, бо вецер быў
праціўны. Каля чацьвертае варты
ночы падышоў да іх, ідучы па мо-
ру, і хацеў мінуць іх; 49 Але яны,
абачыўшы Яго йдучага па мору, па-
думалі, што гэта здань, і закрычэлі,
50 Бо ўсі бачылі Яго й спалохаліся.
І якга Ён прамовіў да іх, і сказаў
ім: „Асьмельцеся; гэта Я, не лякай-
цеся”. 51 І ўвыйшоў да іх у струг;
і вецер сьціх. І яны надзвычайна
зумеліся ў сабе й дзіваваліся, 52 Бо
не разважалі праз букаткі, бо сэрца
іхнае было закалянелае.
53 І, пераплыўшы, прыбылí да
зямлі Ґенісарэцкае, і прымкнулі да
берагу. 54 І, як яны вышлі із стру-
га, якга іх пазналі, 55 І, бегаючы па
ўсей тэй краіне, пачалі прыносіць
у ложках хворых, ідзе пачулі, што
Ён быў. 56 І йдзе-колечы Ён увый-
шоў у сёлы альбо месты, альбо на
таргі, клалі хворых на таргох і пра-
сілі Яго, каб прынамся даткнуліся
да кутасоў адзецьця Ягонага; і кат-
рыя датыкаліся да Яго, былí ўзда-
роўлены.
7 Тады зьберліся да Яго фарысэі
й некатрыя з кніжнікаў, што
прышлі зь Ерузаліму, 2 І, бачачы
некатрых ву́чанікаў Ягоных, што
нячыстымі рукамі, значыцца непа-
мытымі, елі хлеб, упікалі. 3 Бо фа-
рысэі а ўсі Юдэі, дзержачы падань-
не старцоў, не ядуць, не памыўшы
ўважліва рук. 4 І, прышоўшы з тор-
гу, не ядуць не памыўшыся. Ё й
шмат чаго іншага, што яны прынялí
дзяржаць: абмываньне чараў, судзь-
дзя, мядзяных рэчаў а сталоў.
5 Потым пытаюць у Яго фарысэі
а кніжнікі: „Чаму ву́чанікі Твае ня
робяць подле паданьня старцоў, але
нячыстымі рукамі ядуць хлеб?”
6 Ён, адказуючы, сказаў ім: „Добра
праракаў праз вас двудушнікаў
Ісая, як напісана: ‚Людзі гэтыя
сьцяць Мяне вуснамі, сэрца ж іхнае
далёка ад Мяне; 7 Але дарма́ сьцяць
Мяне, вучачы навукаў, расказань-
няў людзкíх’; 8 Бо вы, пакінуўшы
расказаньне Божае, дзяржыце́ па-
даньне людзкое, абмываньне каза-
ноў а чараў і шмат чаго іншага,
падобнага да гэтага, робіце”.
9 І сказаў Ён ім: „Ці добра, што
адкладаеце расказаньне Божае, каб
дзяржаць свае паданьне? 10 Бо Ма-
сей сказаў: ‚Сьці айца свайго й маці
сва’; і: ‚Хто блага кажа праз айца
альбо маці, няхай сьмерцю пам-
рэць’. 11 Але вы кажаце: ‚Калі хто
скажа айцу свайму альбо маці:
„корбан” (значыцца дар), чым бы
ты мог карыстацца ад мяне’; 12 То
балей вы не дазваляеце яму што-
колечы рабіць дзеля айца альбо ма-
ці, 13 Аддаляючы слова Божае па-
даньням сваім, каторае вы адзяржа-
лі; і робіце шмат чаго, падобнага да
гэтага”.
14 І прыгу́каўшы йзноў груд, ка-
жа ім: „Слухайце Мяне ўсі й разу-
мейце. 15 Няма нічога звонку лю-
дзіны, што, уходзячы ў яе, можа яе
брудзяніць; але што зь людзіны вы-
ходзе, тое брудзяне людзіну́. 16 Калі
хто мае вушы слухаць, няхай слу-
хае!” 17 І як Ён ад гурбы ўвыйшоў
у дом, ву́чанікі Ягоныя папыталіся
ў Яго праз прыпавесьць. 18 І Ён
сказаў ім: „Дык і вы няцямлі-
выя? нягож ня цяміце, што нішто,
што звонку ўходзе ў людзіну́, ня мо-
жа збрудзяніць яе? 19 Бо ня ў сэрца
ягонае ўходзе, але ў жывот, і вы-
ходзе вон, ачышчаючы ўсю ежу”. 20
І сказаў Ён: „Што выходзе зь людзі-
ны, тое брудзяне людзіну́; 21 Бо з
нутра, із сэрца людзкога, выходзяць
благія падумкі, чужалоствы, бязул-
ствы, убіўствы, 22 Зладзейства, пра-
гавітасьць, нягоднасьць, ашука, бес-
сарамяжнасьць, благое вока, блявуз-
ґаньне, пыха, дурнота. 23 Усе гэтае

ліха з нутра выходзе й брудзяне
людзіну".

24 І, устаўшы адгэнуль, адыйшоў
да ўкраінаў Тырскіх а Сыдонскіх,
і увыйшоўшы ў дом, не хацеў, каб
хто ведаў, але ня мог стаіцца. 25 Бо
зараз пачула празь Яго адна жонка,
каторае маладая дачка мела нячы-
стага духа, і, прышоўшы, пала да
ног Ягоных. 26 Жонка тая былá
Грачыца, Сыра-Фінічанка подле на-
цанальнасьці; і прасіла яго, каб вы-
гнаў нячысьціка з дачкі ейнае.
27 Але Ісус сказаў ёй: „Дазволь
уперад насыціцца дзяцём, бо ня го-
жа ўзяць хлеб у дзяцей і кінуць
шчанятам". 28 Але яна, адказуючы,
сказала Яму: „Але, Спадáру; адылі
й шчаняты пад столам ядуць крош-
кі дзяціныя". 29 І сказаў ёй: „За
гэтае слова йдзі; вышаў нячысьцік
із дачкі твае". 30 І, прышоўшы да
дому свайго, яна засьпела дзяцё на
ложку, а нячысьцік вышаў.

31 І ўзноў, вышаўшы з аколіцаў
тырскіх а сыдонскіх, прышоў да мо-
ра Галілейскага пераз граніцы Дзе-
сяцімесьця. 32 І прывялі да Яго
глухога загіклівага, і прасілі Яго,
каб узлажыў рукý сваю на яго. 33 І,
адвёўшы яго аднаго на бок ад гур-
бы, улажыў палцы Свае ў вушы
яму і, плюнуўшы, даткнуўся да язы-
ка ягонага; 34 І, глянуўшы на неба,
уздыхнуў і сказаў яму: „Еффафа",
значыцца „адчыніся". 35 І адчыні-
ліся вушы ягонья, і якга разьвязаў-
ся зьвязак языка ягонага, і ён гý-
каў добра.

36 І заказаў ім казаць каму-лень;
але чым балей Ён бараніў, тым ба-
лей яны надзвычайна разгалашалі.
37 І надзвычайна зумяваліся, ка-
жучы: „Усе добра робе: і глухіх ро-
бе чуючымі, і немых — гýкаючы-
мі".

8 Тых дзён ізноў зьберся вялікі
груд, і ня было ім чаго есьці.
Ісус, прыгýкаўшы вýчанікаў Сваіх,
сказаў ім: 2 „Жаль Імне груду, бо
ўжо тры дні пры Імне, і няма ім
чаго есьці. 3 Калі постуючых адпуш-
чу іх да дамоў іхных, замлеюць у
дарозе, бо некаторыя зь іх прышлі
здáлеку. 4 І вýчанікі адказалі Яму:
„Скуль мог бы хто досыць учыніць
гэтым людзём хлебам на пустыні?"
5 І папытаўся ў іх: „Колькі ў вас
букаткаў?" Яны сказалі: „Сем". 6 І
расказаў людзём расьсесьціся на
зямлі; і ўзяўшы сем букаткаў, і даў-
шы падзякі, паламіў, і даў вýчані-
кам Сваім, паслужыць. І яны па-
служылі груду . 7 І мелі крыху рыб-
каў: дабраславіўшы, Ён расказаў
паслужыць ім. 8 І елі і пад'елі; і на-
бралі засталых кавалкаў сем кашоў.
9 Тых жа, што елі, было каля ча-
тырох тысячаў. І адпусьціў іх.

10 І без адвалокі ўвыйшоў у струг
з вýчанікамі Сваімі, і прыплыў у
часьці Далмануфскія.

11 І вышлі фарысэі, і пачалí сьпя-
рэчку зь Ім, шукаючы ў яго знаку
зь неба, спакушаючы Яго. 12 І Ён,
уздыхаючы ў духу Сваім, сказаў:
„Нашто род гэты шукае знаку? За-
праўды кажу вам, ня дасца роду гэ-
таму знак".

13 І, пакінуўшы іх, ізноў увый-
шоў у струг, і адплыў на тый бок.
14 І забыліся ўзяць хлеба, і ня мелі
ў струзе із сабою балей як адну бу-
катку. 15 А Ён расказаў ім, кажу-
чы: „Глядзіце, сьцеражыцеся закісі
фарысэйскае а закісі Гірадавае".
16 І, разважаючы мяжсобку, гýкалі:
„Хлеба ня маем". 17 А Ісус, пазнаў-
шы, кажа ім: „Чаму разважаеце
праз тое, што ня маеце хлеба? Ці
вы яшчэ ня цяміце а не разумееце?
ці яшчэ закалянена маеце сэрца
свае? 18 Маючы вочы, ня бачыце?
маючы вушы, ня чуеце? і ня па-
мятуеце? 19 Як Я пяць букаткаў
паламіў памеж пяцёх тысячаў, коль-
кі поўных кашоў набралі вы кавал-
каў?" Кажуць Яму: „Дванаццаць".
20 „А як сем памеж чатырох тыся-
чаў, колькі поўных кашоў набралі



вы кавалкаў?" І кажуць „Сем". 21 І
сказаў ім: „Як гэта, што вы не ра-
зумееце?".

22 І прыходзе да Віфсаіды; і пры-
водзяць да Яго нявіснога, і просяць
Яго дакрануцца да яго. 23 І Ён,
узяўшы нявіснога за рукý, вывеў
яго вонкі зь местачка, і, плюнуўшы
яму на вочы, узлажыў на яго рукі,
і папытаўся ў яго, ці бача што.
24 Ён, глянуўшы ўгару, сказаў:
„Бачу праходзячых людзёў, як дзер-
вы". 25 Потым ізноў узлажыў рукі
на вочы ягоныя і казаў яму гля-
нуць угару. І ён быў адноўлены, і
бачыў усе ясна. 26 І адаслаў яго
двору, кажучы: „Не заходзь да мес-
тачка ані расказуй нікому ў местач-
ку".

27 І вышаў Ісус а вýчанікі Яго-
ныя да местачкаў Цэсары Піліпа-
вае. І ў дарозе Ён пытаўся ў вýча-
нікаў Сваіх, кажучы ім: „За каго
Мяне маюць людзі?" 28 Яны ска-
залі Яму, кажучы: „За Яана Хрысь-
ціцеля, а некатрыя за Ільлю, а ін-
шыя за аднаго з пракаў". 29 І Ён
папытаўся ў іх: „А вы за каго Мяне
маеце?" Адказуючы, Пётра сказаў
Яму: „Ты — Хрыстос". 30 І забара-
ніў ім, каб нікому не казалі празь
Яго.

31 І пачаў вучыць іх, што Сыну
Людзкому належа шмат цярпець,
і быць адхіненым старцáмі а най-
вышшымі сьвятарамі а кніжнікамі,
і забітым быць, а за тры дні ўскрэс-
нуць. 32 І гýкаў гэта адкрыта.

І, узяўшы Яго на бок, Пётра па-
чаў ганіць Яго. 33 Але Ён, абярнуў-
шыся а глянуўшы на вýчанікаў Сва-
іх, зганіў Пётру, сказаўшы: „Адый-
дзі ад Мяне, шайтáне, бо ты думаеш
не праз тое, што Божае, але што
людзкое".

34 І, пагукáўшы груд із вýчані-
камі Сваімі, сказаў ім: „Калі хто
хоча йсьці за Імною, зрачыся сябе,
і вазьмі крыж свой, і йдзі за Імною;
35 Бо хто хоча жыцьцё свае заха-
ваць, згубе яго; а хто згубе жыць-
цё свае дзеля Мяне а Евангелі, тый
захавае яго. 36 А якая карысьць
людзінé, калі прыдбáе цэлы сьвет,
а душý сваю згубе? 37 Альбо якую
мену дасьць людзінá за душý сваю?
38 Бо хто будзе сароміцца Мяне а
словаў Маіх у родзе гэтым чужа-
ложным а грэшным, і Сын Людзкі
пасароміцца яго, як прыйдзе ў сла-
ве Айца Свайго ізь сьвятымі ангі-
ламі".

9 І сказаў ім: „Запраўды кажу
вам: ё некатрыя із стаячых гэт-
та, што ніяк не паспытаюцца сьмер-
ці, пакуль не абачаць гаспадарства
Божага, у магутнасьці прыходзяча-
га.

2 Дзён за шэсьць узяў Ісус Пётру,
Якава а Яана, і ўзьвёў іх на гару
высокую асобна адных, і адмяніўся
перад імі. 3 І адзецьці Ягоныя сталі
бліскучыя, вельмі белыя, як сьнег,
як на зямлі ніякі бяленьнік ня мо-
жа выбяліць іх. 4 І зьявіўся да іх
Ільля з Масеям, і яны мужавалі зь
Ісусам. 5 І, адказуючы, Пётра ска-
заў Ісусу: „Раббі! добра нам тут
быць; разапніма тры буданы: Табе
адзін, Масею адзін і адзін Ільлі".
6 Бо ня ведаў, што адказаць, бо яны
вельмі спалохаліся. 7 І зьявіўся бу-
лáк, ахінаючы іх, і з булакý вы-
шаў голас, кажучы: „Гэта Сын Мой
любовы; Яго слухайце!" 8 І якга,
глянуўшы навокал, нікога балей ня
бачылі, апрача Ісуса аднаго із са-
бою. 9 І як яны зыходзілі з га-
ры, Ён расказаў ім, каб яны нікому
не казалі праз тое, што бачылі, па-
куль Сын Людзкі ня ўскрэсьне зь
мертвых. 10 І гэтае слова дзяржалі
ў сябе, сьперачаючыся адзін із ад-
ным, што знача: „ускрэсьці зь мерт-
вых".

11 І пыталіся ў Яго, кажучы: „Ча-
му кніжнікі кажуць, што Ільля мае
пярвей прысьці?" 12 І Ён, адказую-
чы, сказаў ім: „Ільля запраўды пры-

йдзе пярвей і аднове ўсе; і як напісана праз Сына Людзкога, што мае шмат цярпець, і замеюць Яго за нішто. 13 Але кажу вам, што й Ільля прышоў, і зрабілі яму, што хацелі, як напісана празь яго”.

14 І, прышоўшы да ву́чанікаў, абачылі вялікі груд навокал іх і кніжнікаў, што сьперачаліся зь імі. 15 І зараз, абачыўшы Яго, увесь груд зумеўся, і, падбягаючы, віталі Яго. 16 Ён папытаўся ў кніжнікаў: „Праз што сьперачаецеся зь імі?” 17 І адзін із груду, адказуючы, сказаў: „Вучыцелю, я прывёў да Цябе сына свайго, у каторага дух нямоты. 18 І йдзе-лень імае яго, дзярэць яго, і ён пушчае пену, і скрыгоча зубамі сваімі, і сохне. І казаў я ву́чанікам Тваім, каб яны выгналі яго, і яны не маглі”. 19 Адказуючы яму, сказаў: „О родзе няверны! пакуль буду з вамі? пакуль буду цярпець вас? прывядзіце яго да Мяне”. 20 І прывялі яго да Яго; і як ён абачыў Яго, якга дух турзаў яго; і ён паваліўся на зямлю, і качаўся, пушчаючы пену. 21 І папытаўся ў вайца ягонага: „Як даўно гэта сталася зь ім?” Ён сказаў: „З маленства. 22 І шмат разоў дух кідаў яго ў вагонь і ў ваду, каб загубіць яго; але, калі што можаш, памажы нам, зжалься над намі”. 23 Ісус сказаў яму: „Калі можаш верыць, усе магчыма верачаму”. 24 І якга айцец дзяцюкоў гукну́ў із сьлязьмі: „Веру, Спада́ру! памажы маёй няверы”. 25 Ісус, бачачы, што зьбягаецца гурба, зганіў духа нячыстага, кажучы яму: „Немы й глухі душа! Я расказую табе, выйдзі зь яго і наперад ня ўходзь у яго”. 26 І, крыкнуўшы а шмат разоў турзануўшы яго, вышаў; і ён быў, бы мертвы, так што шмат хто казаў: „Ён памер”. 27 Але Ісус, узяўшы яго за ру́ку, падняў яго, і ён устаў.

28 І, як увыйшоў у дом, ву́чанікі Ягоныя асобна пыталіся ў Яго: „Чаму мы не маглі выгнаць яго?” 29 І сказаў ім: „Гэты род ня можа высьці ад нічога, адно ад малітвы а посту”.

30 І, вышаўшы стуль, праходзілі праз Галілею; і Ён не хацеў, каб хто ведаў. 31 Бо навучаў ву́чанікаў Сваіх і казаў ім, што Сын Людзкі будзе выданы ў рукі людзкія, і заб'юць Яго, і па забіцьцю на трэйці дзень ускрэсьне. 32 Але яны не разумелі гэтага слова і баяліся пытацца ў Яго.

33 І прышлі да Капернауму; і, будучы ў доме, папытаўся ў іх: „Праз што вы сьперачаліся мяжсобку ў дарозе?” 34 Але яны маўчэлі, бо ў дарозе сьперачаліся мяжсобку, хто найвялікшы. 35 І, сеўшы, гукну́ў дванаццацёх, і сказаў ім: „Калі хто хоча быць першы, няхай будзе з усіх апошні і ўсіх слугою”. 36 І, узяўшы дзецянё, пастанавіў яго сярод іх, і, абняўшы яго, сказаў ім: 37 „Хто прыйме адно з гэтых дзяцей у імя Мае, Мяне прыйме; а хто прыйме Мяне, не Мяне прыйме, але таго, хто паслаў Мяне”.

38 І Яан адказаў Яму, кажучы: „Вучыцелю! мы бачылі аднаго, каторы выганяе нячысьцікаў імям Тваім, а ён ня ходзе за намі; і забаранілі яму, бо ня ходзе за намі”. 39 Ісус жа сказаў: „Не бараніце яму, бо ніхто, што ўчыне магучы ўчынак у імя Мае, ня можа ўборзьдзе гу́каць блага на Мяне. 40 Бо хто ня супроці нас, тый з намі. 41 І хто дасьць вам піць коўню вады ў імя Мае, затым што вы Хрыстовы, запраўды кажу вам, ніяк ня страце заплаты свае. 42 А хто спадманець аднаго з малых гэтых, што верац у Мяне, вале́й было б таму, калі б павесілі яму жоран на шыю і кінулі яго ў мора. 43 А калі спакушае цябе рука твая, адатні яе: валей табе калекаму ўвыйсьці ў жыцьцё, чымся



зь дзьвюма рукамі ўвыйсьці ў Ґеенну, у вагонь няўгасны, 44 Ідзе чарвяк іх ня здыхае, і агонь ня гасьне 45 І калі нага твая спакушае цябе, адатні яе: валей табе ўвыйсьці ў жыцьцё кульгаваму, чымся зь дзьвюма нагамі быць укіненым у пеклу, у вагонь няўгасны, 46 Ідзе чарвяк іх ня здыхае, і агонь ня гасьне. 47 І калі вока твае спакушае цябе, вырві яго: валей табе з адным вокам увыйсьці ў гаспадарства Божае, чымся з двума ачыма быць укіненым у пеклу агняную, 48 Ідзе чарвяк іх ня здыхае, і агонь ня гасьне. 49 Бо кажны агнём пасоліцца, кажны аброк сольлю пасоліцца. 50 Соль — добрая; але, калі соль не салоная стане, чым вы яе пасоліце? Майце ў сабе соль, і супакой майце мяжсобку”.

10 І, устаўшы стуль, прышоў да граніцаў Юдэйскіх праз Заёрданьне. І ўзноў зьбіраюцца да Яго груды, і ўзноў, як было звычаём у Яго, Ён вучыў іх. 2 І дабліжыліся фарысэі да Яго і, прабуючы Яго, папыталіся ў Яго: „Ці мае права чалавек адпусьціць жонку?” 3 І, адказуючы, сказаў ім: „Што Масей расказаў вам?” 4 Яны сказалі: „Масей дазволіў напісаць разводны ліст і адпусьціць”. 5 І Ісус, адказуючы, сказаў ім: „З прычыны калянасьці сэрца вашага ён напісаў вам гэта расказаньне; 6 Але ад пачатку ствараньня Бог учыніў іх мужчыну й жонку. 7 Затым пакіне чалавек свайго айца а маці, і прыліпне да жонкі свае, 8 І гэтыя двое будуць адно цела; дык гэтак яны ўжо ня двое, але адно цела. 9 Дык, што Бог злучыў, няхай чалавек не разлучае”.

10 І ў доме ву́чанікі Ягоныя ізноў папыталіся ў Яго праз тое ж. 11 І Ён сказаў ім: „Хто адпусьце жонку сваю й ажэніцца з другою, чужаложа зь ёю. 12 І калі яна разьвядзецца з мужам сваім, і выйдзе замуж за другога, чужаложа”.

13 І прыносілі дзеткі да Яго, каб Ён даткнуўся да іх; ву́чанікі ж ганілі тых, каторыя прыносілі. 14 Але, абачыўшы, Ісус абурыўся й сказаў ім: „Дазвольце дзеткам прыходзіць да Мяне і не бараніце ім, бо таковых ё гаспадарства Божае. 15 Запраўды кажу вам: хто ня прыйме гаспадарства Божага, як дзецянё, тый ніяк ня ўвыйдзе ў яго”. 16 І,узяўшы іх на ўлоньне, узлажыў рукі на іх, і дабраславіў іх.

17 І, як выходзіў Ён у дарогу, падбег хтось, і, уклякшы перад Ім, папытаўся ў Яго: „Вучыцелю добры, што я маю рабіць, каб жыцьцё вечнае спала імне?” 18 І Ісус сказаў яму: „Чаму ты завеш Мяне добрым? Ніхто ня добры, толькі адзін Бог. 19 Ведаеш расказаньні: не чужалож; не забівай; не крадзі; ня сьветч хвалшыва; не ашу́куй; сьці айца свайго й маці.” 20 Ён жа, адказуючы, сказаў Яму: „Вучыцелю, усе гэта я захававаў з маладосьці свае”. 21 Тады Ісус, гледзячы на яго, палюбіў яго й сказаў яму: „Аднаго тэ не стаець: пайдзі, прадай, што маеш, і раздай бедным, і будзеш меці скарб у небе; і йдзі за Імною, узяўшы крыж свой”. 22 Ён жа, засмуціўшыся на гэтае слова, адышоў зьне́марашчаны, бо ён меў вялікую маемасьць.

23 І Ісус, глянуўшы навокал, кажа вучанікам Сваім: „Як цяжка тым, што маюць багацьце, увыйсьці ў гаспадарства Божае!” 24 І ву́чанікі зумеліся на гэтыя словы. Але Ісус, ізноў адказуючы, кажа ім: „Дзеці! як цяжка тым, што здаюцца на багацьце, увыйсьці ў гаспадарства Божае! 25 Лягчэй вярблюду прайсьці праз вушка голкі, чымся багатаму ўвыйсьці ў гаспадарства Божае”. 26 І яны былі́ надзвычайна зумеўшыся, гу́каючы мяжсобку: „Дык хто ж можа быць спасёны?”

27 I Ісус, глянуўшы на іх, кажа:
„Людзём нельга, але ня Богу, бо
Богу ўсе льга".

28 Тады Пётра пачаў казаць Яму:
„Гля, мы пакінулі ўсе й пайшлі за
Табою". 29 I Ісус, адказуючы, ска-
заў: „Запраўды кажу вам: няма ні-
кога, хто пакінуў дом, альбо братоў,
альбо сёстры, альбо айца, альбо ма-
ці, альбо жонку, альбо дзеці, альбо
землі дзеля Мяне а Евангелі, 30 I
не адзяржаў бы цяпер, у гэтым часе
перасьледава́ньняў, сто разоў балей
дамоў а братоў а сёстраў а маткаў
а дзяцей а земляў, а ў прыйдучым
веку жыцьця вечнага. 31 Але шмат
першых будуць апошнімі, і апошнія
першымі".

32 I былі яны ў дарозе, узыхо-
дзячы да Ерузаліму, і Ісус ішоў
сьпераду іх, а яны былі зумеўшыся
і, ідучы за Ім, баяліся. I, узяўшы
ізноў дванаццёх, пачаў паведам-
ляць ім, што мае неўзабаве стацца
Яму: 33 „Вось, мы ўзыходзім да
Ерузаліму, і Сын Людзкі будзе вы-
даны найвышшым сьвятаром а кні-
жнікам; і засудзяць Яго на сьмерць,
і выдадуць Яго народам; 34 I бу-
дуць зьдзекавацца зь Яго, і біць роз-
камі Яго, і пліваць на Яго, заб'юць
Яго; а на трэйці дзень ускрэсьне".

35 I прыступілі да Яго Якаў а
Яан, сыны Заведэявы, кажучы Яму:
„Вучыцелю! мы жадаем, каб Ты
ўчыніў нам, чаго мы папросім". 36 I
Ён сказаў ім: „Чаго жадаеце, каб
Я ўчыніў вам?" 37 Яны сказалі
Яму: „Дай нам сесьці аднаму па-
праве, а другому палеве ў славе
Тваёй". 38 I Ісус сказаў ім: „Ня ве-
даеце, чаго просіце. Ці можаце піць
чару, што Я п'ю, і хрысьціцца хрыс-
том, што Я хрышчуся?" 39 I яны
сказалі Яму: „Можам". Але Ісус
сказаў ім: „Запраўды чару, што Я
п'ю, будзеце піць, і хрыстом, што
Я хрышчуся, будзеце хрысьціцца;
40 Але сядзець у Мяне паправе й
палеве, не ад Мяне даць, але каму
прыгатавана".

41 I пачуўшы, дзесяцёх пачалі
абура́цца на Якава а Яана. 42 Але
Ісус, пагука́ўшы іх, сказаў ім: „Вы
ведаеце, што ўважаныя за валадароў
над народамі пануюць над імі, і вя-
лікія зь іх маюць уладу над імі. 43
Але ня так памеж вас: а хто жа-
дае быць вялікім, хай будзе вашым
слугою; 44 I хто з вас жадае быць
першым, хай будзе нявольнікам
усіх. 45 Бо навет Сын Людзкі ня
прышоў, каб Яму служылі, але слу-
жыць а даць жыцьцё Свае на выкуп
за шмат".

46 I прышлі да Ерыхону. А як
Ён выходзіў зь Ерыхону з ву́чані-
камі Сваімі а з ладным грудам, ня-
вісны Вартымей Тымяёнак сядзеў
ля гасьцінцу, просячы. 47 Пачуўшы,
што гэта Ісус Назарэцянін, ён пачаў
гука́ць а казаць: „Ісусе, Сыну Да-
відаў, зьмілуйся над імною!" 48
Шмат хто ганіў яго, кажучы маў-
чэць; але ён яшчэ балей пачаў гу-
ка́ць: „Сыну Давідаў! зьмілуйся над
імною". 49 Ісус адзе́ржаўся й ска-
заў: „Прыгу́кайце яго". I гука́юць
нявіснога, кажучы яму: „Пацешся,
уставай, гука́е цябе". 50 Ён сьпінуў
ізь сябе ахілім свой, устаў і пры-
шоў да Ісуса. 51 I, адказуючы, Ісус
сказаў яму: „Чаго ты хочаш, каб Я
зрабіў табе?" Нявісны сказаў яму:
„Вучыцелю, каб я празерыў". 52 I
Ісус сказаў яму: „Ідзі, вера твая
ўздаравіла цябе". I ён якга празе-
рыў, і пайшоў за Ісусам па дарозе.

11 Як дабліжыліся да Ерузаліму,
да Віффаґі а Віфані, да гары
Аліўнае, пасылае двух із ву́чанікаў
Сваіх 2 I кажа ім: „Ідзіце ў селішча,
што супроці вас, і за́раз, як увый-
дзеце ў яго, знойдзеце прывязанае
асьлянё, на каторае ніхто яшчэ не
садзіўся, адвяжыце яго й прывядзі-
це. 3 I калі хто скажа вам: ‚Нашто
вы гэта робіце?' скажыце, што Спа-
дар патрабуе яго, і ён зараз па-



шлець яго сюды". 4 I яны пай-
шлі, і знайшлі асьлянё вонках, пры-
вяза́нае ля варот на ростанях дзьвюх
дарогаў, і адвязалі яго. 5 А нека-
трыя з тых, што стаялі там, сказалі
ім: „Што вы робіце, адвязуеце ась-
лянё?" 6 I сказалі ім, як Ісус ім
расказаў; і тыя адпусьцілі іх. 7 I
прывялі асьлянё Ісусу, і накінулі
свае адзецьце на яго; і Ён сеў на
ім. 8 I шмат хто адзецьце свае слаў
на дарозе; а іншыя сьцінаілі галузкі
зь дзерваў і ўсьцілалі імі дарогу. 9
I йдучыя сьпераду і йдучыя адзаду
гука́лі, кажучы: „Госанна! Дабра-
славёны йду́чы ў імя Спадарова!
10 Дабраславёнае гаспадарства айца
нашага Давіда, што йдзець у імя
Спадарова! Госанна на вышыні!"

11 I Ісус увыйшоў у Ерузалім а
ў сьвятыню; і агледзеўшы ўсе на-
вокал, як ужо быў позны час, вы-
шаў да Віфані з дванаццацьма. 12
I назаўтрае, як яны вышлі зь Ві-
фані, запрагнуў. 13 I, бачачы зда́-
леку фіґу зь лісьцём, падышоў, ці
ня знойдзе магчыма чаго на ёй; і,
як прышоў да яе, не знайшоў нічога,
апрача́ лісьця, бо не пара была́ на
фіґі.14 I Ісус, адказуючы, сказаў
ёй: „Наперад ніхто зь цябе ня будзе
есьці плоду на векі!" I ву́чанікі Яго-
ныя чулі.

15 I прышлі да Ерузаліму. I Ісус,
увыйшоўшы ў сьвятыню, пачаў вы-
ганяць прадаючых і купляючых у
сьвятыні; і сталы пенязяменаў абяр-
нуў, і ўслоны прадаўнікоў галубоў;
16 I не дазваляў, каб хто пранёс пе-
разь сьвятыню якую-лень судзіну́.
17 I навучаў, кажучы ім: „Ці не
напісана: ‚Дом Мой домам малітвы
будзе названы ў вусіх народаў?' а
вы зрабілі яго пячораю разбойні-
каў". 18 А кніжнікі а найвышшыя
сьвятары чулі й шукалі, як бы ма-
глі загубіць Яго; бо баяліся Яго,
бо ўсі людзі зумяваліся з навукі
Ягонае.

19 I, як настў вечар, Ён вышаў зь
места.

20 I нараніцы, праходзячы, аба-
чылі, ажно фіґа ссохла ад карэнь-
ня. 21 I, успомнеўшы, Пётра кажа
Яму: „Раббі! глянь, фіґа, каторую
Ты пракляў, ссохла". 22 I, Ісус, ад-
казуючы, кажа ім: „Майце веру Бо-
жую. 23 Бо запраўды кажу вам:
калі хто скажа гары гэтай: ‚Скрані-
ся а кінься ў мора', і ня суміцца
ў сэрцу сваім, але будзе верыць, што
станецца, што ён сказаў, станецца
яму, што-лень кажа. 24 Дык Я ка-
жу вам, што ўсе, чаго жадаеце, як
моліцеся, верце, што адзяржыце́, —
і будзе вам. 25 I як стаіце́ на ма-
літве, даруйце, калі маеце штось на
каго, каб і Айцец ваш нябёсны да-
раваў вам выступы вашыя. 26 А
калі не даруеце, то й Айцец ваш
нябёсны не даруе вам выступаў ва-
шых".

27 I прышлі ізноў да Ерузаліму.
I, як Ён хадзіў у сьвятыні, падышлі
да Яго найвышшыя сьвятары а
кніжнікі а старцы. 28 I кажуць Яму:
„Якой уладаю Ты гэта робіш? і хто
Табе даў уладу рабіць гэта?" 29 I,
адка́зуючы, Ісус сказаў ім: „Папы-
таюся й Я ў вас адно; адкажаце Ім-
не, скажу й Я вам, якой уладаю
гэта раблю. 30 Хрэст Яанаў зь неба
быў ці ад людзёў? Адкажыце Імне".
31 Яны ж разважалі мяжсобку, ка-
жучы: „Калі скажам: ‚Зь неба', Ён
скажа: ‚Дык чаму вы не паверылі
яму?' 32 Але калі скажам: ‚Ад лю-
дзёў' ", — баяліся груду, бо ўсі мелі
Яана за запраўднага прароку. 33 I,
адказуючы, сказалі Ісусу: „Ня ве-
даем". I Ісус, адказуючы, сказаў ім:
„I Я таксама не скажу вам, якой
уладаю гэта раблю".

12 I пачаў гу́каць ім прыпавесьць-
мі: „Якісь чалавек засадзіў ві-
нішча, і агарадзіў яго агарожаю, і
выкапаў таўчэльню, і пастанавіў ве-
жу, і аддаў яго ў ранду вінаром, і
ад'ехаў. 2 I ў пару паслаў да віна-

роў слугу, каб адзяржаць ад вінароў
плады зь вінішча. 3 А яны, узяў-
шы, зьбілі й адаслалі бязь нічога.
4 І ўзноў паслаў да іх другога слу-
гу; і таго каменьням ранілі ў га-
лаву, і адаслалі асарамочанага. 5 І
ўзноў паслаў іншага; і таго забілі,
і шмат іншых, адных б'ючы, а дру-
гіх забіваючы. 6 Маючы ж яшчэ
адзінага сына, любовага свайго, па-
слаў таксама яго да іх, кажучы:
‚Усьцяць сына майго’. 7 Але тыя
вінарове сказалі мяжсобку: ‚Гэта
спадкаемца; пайдзіма, забіма яго,
і спадак будзе нашы”. 8 І ўзялі яго,
і забілі, і выкінулі зь вінішча. 9
Дык што зробе гаспадар вінішча?
Прыйдзе, і выгубе вінароў, і адда-
сьць вінішча іншым. 10 Ці ня чыталі
вы гэтага ў Пісьме: ‚Камень, што
адкінулі будаўнічыя, стаў галавою
вугла; 11 Гэта сталася ад Спадара,
і дзіўна ў вачох нашых’?” 12 І шу-
калі прыгоды няць Яго, бо ведалі,
што Ён празь іх сказаў прыпавесьць,
але баяліся груду. І пакінуўшы Яго,
адыйшлі.
13 І яны паслалі да Яго некатрых
із фарысэяў а гіродзян, каб злавіць
Яго ў слове. 14 Яны ж, прышоўшы,
кажуць Яму: „Вучыцелю, мы веда-
ем, што Ты праўдзівы, і не азіра-
ешся на нікога, бо не глядзіш на
асобу людзкую, але дарогі Божае
вучыш праўдзіва. Дазволена даваць
падачкі цэсару, ці не? 15 Маем мы
даваць, ці не даваць?” Але Ён, ве-
даючы двудушнасьць іхную, кажа
ім: „Чаму прабуеце Мяне? Прыня-
сіце Імне дынар, каб Я бачыў яго”.
16 І прынесьлі. А Ён кажа ім: „Чый
гэта абраз а напіс?” Яны сказалі
Яму: „Цэсаравы”. 17 І, адказуючы,
Ісус сказаў ім: „Цэсарава аддавайце
цэсару, а Божае Богу”. І дзівіліся зь
Яго.
18 Тады прышлі да Яго садукеі,
каторыя кажуць, што няма ўскры-
сеньня, і пыталіся ў Яго, кажучы:
19 „Вучыцелю! Масей напісаў нам:
‚Калі чый брат памрэць і пакіне
жонку, але не пакіне дзіцяці, гэты
брат ягоны мае ўзяць жонку ягоную
і даць насеньне брату свайму’. 20 І
было сямёх братоў: і першы ўзяў
жонку, і, паміраючы, не пакінуў на-
сеньня. 21 І другі ўзяў яе, і памер,
і ён не пакінуў насеньня, таксама
й грэйці. 22 І сямёх мела яе, і не
пакінулі насеньня. Просьле ўсіх па-
мерла й жонка. 23 Дык у ўскрысень-
ню, як ускрэснуць, чыёй зь іх будзе
яна жонкаю? Бо сямёх мелі яе за
жонку”. 24 І Ісус, адказуючы, ска-
заў ім: „Ці затым вы мыляецеся,
што ня знаеце Пісьмаў ані моцы Бо-
жае? 25 Бо як ускрэснуць із мер-
твых, ня будуць жаніцца ані выхо-
дзіць замуж, але будуць як ангілы
на нябёсах. 26 А што да мертвых,
што яны ўскрэснуць, ці ня чыталі
вы ў кнізе Масеявай, у кусьце, як
Бог казаў яму, кажучы: ‚Я Бог Аб-
рагамоў а Бог Ісакоў а Бог Якаваў’?
27 Ня ё Бог мертвых, але жывых.
Дык вы вельма мыляецеся”.
28 І дабліжыўся адзін із кніжні-
каў, чуючы сьпярэчку іхную, і пе-
раканаўшыся, што Ён адказаў ім
вельмі добра, папытаўся ў яго: „Ка-
торае расказаньне першае з усіх?”
29 І Ісус адказаў яму: „Першае з
усіх расказаньне: ‚Слухай Ізраелю!
Спадар Бог наш ё Спадар адзін; 30 І
любі Спадара Бога свайго з усяго
сэрца свайго, і з усяе душы свае,
і з усяе думкі свае, і з усяе моцы
свае’. Гэта першае расказаньне! 31
А другое падобнае да гэтага: ‚Лю-
бі прыяцеля свайго, як самога сябе’.
Няма іншага расказаньня большага
за гэтыя”. 32 І кніжнік сказаў Яму:
„Добра, Вучыцелю! Ты сказаў праў-
ду, бо адзін ё Бог, нямаш іншага,
апрача Яго; 33 І любіць Яго з усяго
сэрца, і з усяго розуму, і з усяе
душы, і з усяе моцы, і любіць прыя-
целя, як самога сябе, ё балей чымся
ўсі ўсепаленьні а аброкі”. 34 І Ісус,
бачачы, што ён разумна адказаў,



сказаў яму: „Недалёка ты ад гаспа-
дарства Божага”. І ніхто просьле гэ-
тага ня сьмеў пытацца ў Яго.
35 І Ісус, адказуючы, сказаў, як
вучыў у сьвятыні: „Як гэта кажуць
кніжнікі, што Хрыстос ё сын Даві-
даў? 36 Бо сам Давід сказаў у Духу
Сьвятым: ‚СПАДАР сказаў Спадару
майму: сядзі па правіцы Маёй, па-
куль Я зраблю нéпрыяцеляў Тваіх
казулькаю пад ногі Твае’. 37 Дык
Давід сам кажа Яму ‚Спадар’: як
жа Ён сын ягоны?”
І вялікі груд ахвотна Яго слухаў.
38 І казаў ім у навуццы Сваёй:
„Уважайце на кніжнікаў, што лю-
бяць хадзіць у даўгім адзецьцю, і
здарованьні на таргох, 39 І першыя
седавы ў бажніцах, і першыя месцы
на вячэрах; 40 Што зьядаюць дамы
ўдоваў ды пад прыклепам даўгіх ма-
літваў. Гэтыя адзяржаць цяжшае
засуджэньне”.
41 І Ісус сеў супроці скарбонкі,
і глядзеў, як людзі кідалі медзякі ў
скарбонку. І шмат хто багаты кідаў
шмат. 42 І прышла адна бедная ўда-
ва, і ўкінула два пенязі, што скла-
даюць шэляг. 43 Пагукáўшы вýча-
нікаў Сваіх, сказаў ім: „Запраўды
кажу вам, што гэтая бедная ўдава
ўкінула балей, чымся ўсі, што кідалі
ў скарбонку; 44 Бо ўсі кідалі з да-
статку свайго, але яна зь нястачы
свае ўкінула ўсе, што мела, усе, што
мела на жыцьцё свае”.
13 І, як выходзіў Ён із сьвятыні,
кажа Яму адзін із вýчанікаў
Ягоных: „Вучыцелю! глянь, што за
вялікія камяні а што за вялікія ха-
роміны!” 2 І Ісус, адказуючы, ска-
заў яму: „Бачыш гэтыя вялікія ха-
роміны? Ніякім парадкам не заста-
нéцца тут кáменя на каменю, што
ня будзе сьцінены далоў”. 3 І, як
Ён сядзеў на гары Аліўнай супроці
сьвятыні, пыталіся ў Яго на адзі-
ноце Пётра а Якаў а Яан а Андрэй:
4 „Скажы нам, калі гэта будзе,
і якая пазнака, што неўзабаве ўсе
гэта мае зьдзеяцца?” 5 І Ісус, ад-
казуючы, пачаў казаць ім: „Глядзі-
це, каб ніхто вас ня ізьвёў. 6 Шмат
хто прыйдзе ў імя Мае, кажучы:
‚Гэта Я’; і ізьвядуць шмат. 7 І як
пачуеце праз войны а дзейкі праз
войны, ня ўзрушайцеся, бо мусіць
гэта быць; але яшчэ не канец. 8 Бо
народ паўстане на народ, і гаспадар-
ства на гаспадарства; і будуць тра-
сеньні зямлі па розных месцах, і бу-
дуць галадові а замятні. Гэта пача-
так трудненьняў. 9 Але ўважайце
на сябе, бо будуць выдаваць вас на
рады, і будуць біць у бажніцах, і пе-
рад дзяржаўцамі а каралямі стане-
це за Мяне, на сьветчаньне ім. 10 І
ўсім народам уперад мае быць абе-
шчана Евангеля. 11 І як прывядуць,
выдаючы вас, не бядуйце зáгадзя,
што вам казаць, ані разважайце, але
што дана вам будзе тае гадзіны, тое
кажыце, бо ня вы будзеце казаць,
але Дух Сьвяты. 12 І выдасьць брат
брата на сьмерць, і бацька дзяцё;
і дзеці паўстануць на бацькоў, і зь-
дзеюць ім сьмерць. 13 і будуць не-
навідзіць вас усі за імя мае. Хто
вытрывае аж да канца, будзе спа-
сёны. 14 Як жа абачыце агіду спу-
сьценьня, менаваную Данелям пра-
рокам, ідзе ня мае быць стаячую,
(хто чытае, хай разумее), тады
тыя, што ў Юдэі, няхай уцякаюць
у горы; 15 А хто на страсе, ня-
хай ня зыходзе да дому ані ўхо-
дзе ўзяць што-колечы з дому свай-
го; 16 І хто на полю, не зва-
рачайся назад узяць адзецьце свае.
17 Бяда цяжарным а соячым тых
дзён! 18 І маліцеся, каб уцекі ва-
шы ня былí ўзімку. 19 Бо тых
дзён будзе такое няшчасьце, якога
ня было ад пачатку стварэньня, ка-
торае стварыў Бог, аж дагэтуль,
і ніяк ня будзе. 20 І калі б Спадар
не скараціў тых дзён, то не ўрата-
валася б ніякае цела; але дзеля
абраных, каторых Ён абраў, скара-
ціў тыя дні. 21 І тады, калі хто

скажа вам: ‚Гля, тут Хрыстос‘ або:
‚Гля, там‘; ня верце. 22 Бо паўста-
нуць хвальшывыя Хрысты а хваль-
шывыя прарокі, і пакажуць знакі
а чудосы, каб спадмануць, калі льга,
нават абраных. 23 Але ўважайце.
Вось, Я наперад сказаў вам усе.
24 Тых жа дзён, просьле гэтае ату-
гі, сонца зацьмее, і месяц ня дасьць
сьвятліні свае; 25 І зоры нябёсныя
будуць валіцца, і моцы нябёсныя
захістаюцца. 26 І тады абачаць Сы-
на Людзкога, у булакох прыходзя-
чага із вялікаю моцаю а славаю.
27 І тады Ён пашлець ангілаў Сваіх,
і зьбярэць абраных Сваіх із чатырох
вятроў, ад найдальшае ўкраіны зям-
лі аж да найдальшае ўкраіны неба.

28 Вучыцеся падобнасьці зь фігі:
калі гольле яе ўжо мякчэе й пушчае
лісьцё, то ведаеце, што лета блізка.
29 Дык таксама як абачыце, што
гэта дзеецца, ведайце, што блізка,
у дзьвярох. 30 Запраўды кажу вам,
што ніяк ня мінець род гэты, як усе
гэта станецца. 31 Неба й зямля мі-
нуць, але словы Мае ня мінуць.
32 Але дня таго а гадзіны ніхто ня
ведае, ані ангілы нябёсныя, ані Сын,
адно Айцец. 33 Уважайце, ня сьпіце
й маліцеся, бо ня ведаеце, калі бу-
дзе той час. 34 Як чалавек, што вы-
ходзе ў вялікую дарогу, каторы кі-
да́е дом свой, і даець уладу слугам
сваім, і кажнаму работу ягоную і
расказуе брамніку назіраць. 35 Дык
будзьце чукавыя, бо ня ведаеце, ка-
лі прыйдзе дамовы гаспадар, увеча-
ры, ці а поўначы, ці пятухамі, ці на-
раніцы; 36 Каб, прышоўшы зьнецi-
кі, не засьпеў вас сьпячых. 37 А што
вам кажу, кажу ўсім: будзьце чука-
вымі".

14 За два дні ж была́ Пасха а Пра-
снакі. І шукалі найвышшыя
сьвятары а кніжнікі, як бы няць
Яго падходам, каб маглі забіць; 2 Бо
гу́калі: „Ня ў сьвята, каб ня сталася
ўзрушэньне люду".
3 І як Ён быў у Віфані, у доме
Сымона пракажанага, і ўзьляжаў за
сталом, прышла жонка з алябастра-
вай судзіною нардавага алею, чы-
стага а вельмі дарагога; і, разьбіў-
шы алябастравую судзіну́, выліла
на галаву Яму. 4 А Некатрыя абу-
раліся мяжсобку: „Нашто гэтая
страта масьці? 5 Бо можна было б
прадаць яе балей, чымся за трыста
дынароў, і раздаць убогім". І гнева-
ліся на яе. 6 Але Ісус сказаў: „Па-
кіньце яе; нашто робіце ёй прык-
расьць? Яна добры ўчынак зрабіла
Імне. 7 Бо ўбогіх маеце заўсёды із
сабою і ў часе, калі захочаце, можа-
це рабіць ім дабро; а Мяне не заў-
сёды маеце. 8 Яна зрабіла, што маг-
ла: за́гадзя намасьціла цела Мае да
пахову. 9 Запраўды кажу вам: ідзе
толькі будзе абяшча́на Евангеля гэ-
тая па цэлым сьвеце, таксама, што
яна зрабіла, сказана будзе на па-
мятку яе".
10 І Юда Іскарыёт, адзін із два-
нанцацёх, пайшоў да найвышшых
сьвятароў, каб выдаць Яго ім.
11 Яны ж, пачуўшы, узрадава́ліся
і абяцалі даць яму срэбла. І ён шу-
каў, як бы прыгодна ізрадзіць Яго.
12 І на першы дзень Праснакоў,
як абракалі пасхальнага баранчы-
ка, ву́чанікі Ягоныя сказалі Яму:
„Ідзе хочаш, каб мы, пашоўшы,
прыгатавалі, каб Ты мог есьці пас-
ху?" 13 І паслаў двух із ву́чанікаў
Сваіх, і сказаў ім: „Ідзіце да места,
і стрэне вас чалавек, нясучы жбан
вады; ідзіце за ім. 14 І куды ўвый-
дзе, скажыце гаспадару дому таго:
‚Вучыцель кажа: ідзе гасьцінны па-
кой Мой, у каторым Я змог бы есьці
пасху з ву́чанікамі Сваімі?‘ 15 І ён
пакажа вам вялікі верхні пакой, за-
сланы, прыгатаваны; там прыгатуй-
це нам". 16 І ву́чанікі Ягоныя пай-
шлі, і прышлі да места, і знайшлі,
як Ён сказаў ім; і прыгатавалі пас-
ху.
17 І як зьвечарэла, Ён прыходзе
з двананцацьма. 18 І, як яны ўзьля-



жалі а елі, Ісус сказаў: „Запраўды
кажу вам, адзін із вас, каторы есьць
із Імною, ізрадзе Мяне". 19 І яны
пачалі смуціцца й казалі Яму адзін
за адным: „Ці ня я" і другі: „Ці ня
я?" 20 І Ён, адказуючы, сказаў ім:
„Адзін із двананцацёх, што мачае з
Імною ў місе. 21 Сын Людзкі запраў-
ды йдзець, як напісана праз Яго;
але бяда таму чалавеку, каторым
Сын Людзкі ізраджаецца; валей
было б не радзіцца таму чалавеку".
22 І як яны елі, Ісус, узяўшы
хлеб, дабрасла́віў, ламіў а даваў ім,
кажучы: „Вазьміце, ежча; гэта ё
цела Мае". 23 І ўзяўшы чару, і даў-
шы дзякі, падаў ім; і пілі́ зь яе ўсі.
24 І сказаў ім: „Гэта ё кроў Мая
Новага Закону, за шмат выліваная.
25 Запраўды кажу вам: Я ўжо ня
буду піці з плоду віннога аж да
таго дня, калі буду піць новае ў
гаспадарстве Божым".
26 І, запяяўшы псальму, вышлі
на гару Аліўную.
27 І Ісус кажа ім: „Усі вы спаку-
сіцеся з прычыны Мяне гэтае но-
чы; бо напісана: ‚Вытну пастыра́,
і рассыпяцца авечкі‘. 28 Але, як
ускрэсну, выпераджу вас да Ґалі-
леі". 29 І Пётра сказаў Яму: „Хоць
усі спакусяцца, але ня я". 30 І ска-
заў яму Ісус: „Запраўды кажу табе,
што сядні гэтае ночы, уперад чым-
ся пятух запяець двойчы, ты вы-
прашся Мяне трэйчы". 31 Але ён
станаўчэй казаў: „Калі б я меў па-
мерці з Табою, ніколі ня вырруся
Цябе". Гэтак і ўсі іншыя казалі.
32 І прышлі на месца, званае
Ґефсыманя; і Ён сказаў ву́чанікам
Сваім: „Пасядзіце тут, пакуль Я
памалюся". 33 І, узяўшы із Сабою
Пётру а Якава а Яана, пачаў жа-
хацца а не́марасьціцца. 34 І кажа
ім: „Надзвычайна смутная душа
Мая аж да сьмерці; пачакайце тут
і будзьце чукавыя". 35 І адышоўся
крыху, і паў на зямлю, і маліўся,
каб, калі б гэта было магчыма, мі-
нула Яго гадзіна гэтая. 36 І казаў:
„Аўва-Войча! усе магчыма Табе,
адда́ль ад Мяне чару гэтую, не чаго
Я хачу, адылі́, але чаго Ты". 37 І
прыходзе, і засьпяець іх сьпячых,
і кажа Пётру: „Сымоне, ты сьпіш?
ня мог ты аднае гадзіны ня спаць?
38 Будзьце чукавыя й маліцеся, каб
не паддацца спакусе. Дух, праўда,
імклі́вы, але цела млявае". 39 І
ўзноў адыйшоўся, і маліўся, і казаў
тыя самыя словы. 40 І ўзноў пры-
шоўшы, засьпеў іх ізноў сьпячых,
бо вочы ў іх ацяжэлі; і яны ня ве-
далі, што адказаць Яму. 41 І пры-
ходзе трэйці раз, і кажа ім: „Сьпі́це
ўжо а супачывайце. Годзе! настала
гадзіна; вось, Сын Людзкі выдаецца
ў рукі грэшнікаў. 42 Устаньце, ідзі-
ма; гля, бліжыцца тый, што із-
раджае Мяне".
43 І зараз, як Ён яшчэ гу́каў,
прыбывае Юда, што быў адзін із
двананцацёх, і зь ім груд вялікі зь
мячамі а кіямі ад найвышшых сьвя-
тароў а ад кніжнікаў а ад старцоў.
44 Ізраднік жа Ягоны даў ім знак,
кажучы: „Каго я пацалую, тый ё;
імайце Яго і вядзіце асьцярожна".
45 І, прышоўшы, зараз падышоў
да Яго, і кажа: „Раббі! Раббі!" і го-
рача пацалаваў Яго. 46 І яны ўзла-
жылі рукі свае на Яго, і нялі́ Яго.
47 І адзін із стаячых тут агаліў меч,
і выцяў слугу найвышшага сьвята-
ра, і адцяў яму вуха. 48 І Ісус, ад-
казуючы, сказаў ім: „Бы на раз-
бойніка, вы вышлі зь мячамі а кіямі
няць Мяне. 49 Што дня я быў з
вамі ў сьвятыні, навучаючы, і вы
ня бралі Мяне. Але каб выпаўніліся
Пісьмы". 50 Тады, пакінуўшы Яго,
усі ўцяклі.
51 Адзін жа маладзён, накінуўшы
палатніну́ на голага, ішоў за Ім;
і маладзёны нялі́ яго. 52 Але ён, па-
кінуўшы палатніну́, уцёк ад іх голы.
53 І завялі Ісуса да найвышшага
сьвятара; і ў яго былі́ зьбершыся
ўсі найвышшыя сьвятары а старцы

а кніжнікі. 54 А Пётра йшоў за Ім
воддаль, ажно на панадворак най-
вышшага сьвятара; і сядзеў із па-
слугачымі і грэўся ля цяпла. 55 А
найвышшыя сьвятары а ўвесь сы-
нэдрыён шукалі сьветчаньня на Ісу-
са, каб зрабіць Яму сьмерць; і не
знаходзілі. 56 Бо шмат было хваль-
шывых сьветак на Яго, але сьвет-
чаньні іхныя ня былі згодныя.
57 Тады некатрыя, устаўшы, хваль-
шыва сьветчылі на яго, кажучы:
58 „Мы чулі, што Ён казаў: ‚Я абу-
рў Дом Божы гэты, рукамі зробле-
ны, і за тры дні іншы, ня рукамі
зроблены, пастанаўлю' ". 59 Але й
гэта сьветчаньне іхнае ня было згод-
нае. 60 Тады найвышшы сьвятар
стаў пасярод і пытаўся ў Ісуса, ка-
жучы: „Не адказуеш Ты нічога, што
гэтыя на Цябе сьветчаць?" 61 Але
Ён маўчэў і нічога не адказаў. Ізноў
найвышшы сьвятар папытаўся ў
Яго і сказаў Яму: „Ці Ты Хрыстос,
Сын Дабраславёнага?" 62 І Ісус ска-
заў: „Я; і вы абачыце Сына Людз-
кога, на правіцы Моцы седзячага
і прыходзячага ў булакох нябёс-
ных". 63 Тады найвышшы сьвятар,
разьдзершы адзецьце свае, сказаў:
„Нашто яшчэ нам сьветкі? 64 Вы
чулі блявузґаньне. Як вам здаец-
ца?" Яны ж усі прызналі, што Ён
варты сьмерці. 65 І некатрыя пачалі
пліваць на Яго, і закрываць яму ві-
дзеньне, і поўшыць, і казаць Яму:
„Прарачы"; і слугі білі Яго дало-
нямі.

66 І як Пётра быў далавах на па-
надворку, прышла адна з паслуга-
чых найвышшага сьвятара 67 І,
абачыўшы Пётру, каторы грэўся,
яна глянула на яго й сказала: „І ты
быў зь Ісусам Назарэцкім". 68 Але
ён выперся, сказаўшы: „Ня ведаю
і не разумею, што ты кажаш". І вы-
шаў вонкі на пярэдні панадворак;
і запяяў пятух. 69 І паслугачая, аба-
чыўшы яго, ізноў пачала гукаць
тым, што стаялі там: „Гэты зь іх".
70 І ён ізноў выперся. І крыху пась-
лей, тыя, што стаялі там, ізноў ска-
залі Пётру: „Запраўды ты зь іх, бо
ты Ґалілеянін, і мова твая падоб-
ная". 71 Але ён пачаў клясьціся а
бажыцца: „Я ня знаю чалавека,
праз каторага вы гукаеце". 72 І
якга другі раз пятух запяяў І Пёт-
ра прыпомнеў слова, што Ісус казаў
яму: „Уперад чымся пятух двойчы
запяець, ты выпрашся Мяне трэй-
чы".

**15** І без адвалокі нараніцы най-
вышшыя сьвятары мелі нараду
із старцамі а кніжнікамі а з усім
сынэдрыёнам і, зьвязаўшы Ісуса,
завялі й выдалі Пілату. 2 І Пілат
папытаўся ў Яго: „Ці Ты кароль
Юдэйскі?" І, адказуючы, Ён казаў
яму: „Ты кажаш". 3 І найвышшыя
сьвятары вінавалі яго ў шмат чым,
але Ён нічога не адказаваў. 4 Але
Пілат ізноў пытаўся ў Яго, кажу-
чы: „Ты нічога не адказуеш? глянь,
як шмат яны вінуюць Цябе". 5 Але
Ісус, адылі, нічога не адказаў, так
што Пілат дзіваваўся.

6 На сьвята выпушчаў ён ім ад-
наго вязьня, праз каторага малілі.
7 І там быў адзін, імям Вараўва,
зьвязаны з тымі, каторыя зрабілі
паўстаньне зь ім, што за паўстаньня
зрабілі ўбіўства. 8 І гурба, узышоў-
шы, голасна крычачы, пачала пра-
сіць таго, што ён заўсёды рабіў ім.
9 І ён, адказуючы, сказаў ім: „Ці
хочаце, каб я выпусьціў вам Кара-
ля Юдэйскага?" 10 Бо ведаў, што
найвышшыя сьвятары выдалі Яго
із завідасьці. 11 Але найвышшыя
сьвятары падвучылі гурбу, каб ім
валей выпусьціў Вараўву. 12 І Пілат,
ізноў адказуючы, сказаў ім: „Дык
што ж хочаце, каб я зрабіў таму,
Каторага завіце Каралём Юдэй-
скім?" 13 А яны ізноў закрычэлі:
„Укрыжуй Яго?" 14 Пілат сказаў
ім: „Якое ж ліха зрабіў Ён?" Яны ж
балей крычэлі: „Укрыжуй Яго!"
15 Тады Пілат, хочучы люду до-



сыць учыніць, выпусьціў ім Вараў-
ву, а Ісуса, біўшы пугамі, выдаў, каб
быў укрыжаваны.

16 І жаўнеры завялі Яго да двору,
значыцца да ратушы, і згукалі
ўвесь аддзел. 17 І адзелі Яго ў шкар-
лат, і зьвілі карону зь церня, і ўзла-
жылі на Яго; 18 І пачалі веціць
Яго: „Здароў, Каролю Юдэйскі!"
19 І білі Яго трысьцінаю па галаве,
і плівалі на Яго, і, клякаючы, кла-
няліся Яму. 20 І як насьміяліся зь
Яго, зьдзелі зь Яго шкарлат, і адзе-
лі на Яго адзецьце Ягонае, і вывялі
Яго, каб укрыжаваць Яго.

21 І прысілілі якогась Сымона
Кірынеяніна, што йшоў з поля, ай-
ца Аляксандравага а Руфавага, не-
сьці крыж Ягоны. 22 І прывялі Яго
на месца Ґалґота, што знача Чарэп-
нішча. 23 І давалі Яму піць віно
зь міраю, але Ён ня прыняў. 24 І,
укрыжаваўшы Яго, падзялілі адзе-
цьце Ягонае, кідаючы на жэрабя,
каму што ўзяць. 25 І была гадзіна
трэйцяя, і Яго ўкрыжавалі. 26 І быў
напісаны напіс абвінаваньня Ягона-
га: „Кароль Юдэйскі".

27 Укрыжавалі таксама зь Ім
двух разбойнікаў, аднаго паправа, а
другога палева Яго. 28 І выпаўніла-
ся Пісьмо, што кажа: „І да бяспраў-
нікаў залічаны".

29 А праходзячыя блявузґалі на
Яго, ківаючы галавамі сваімі й ка-
жучы: „Ага, Ты, што бураеш Дом
Божы й за тры дні становіш! 30 Вы-
баў Самога Сябе і іступі з крыжа".

31 Падобна й найвышшыя сьвя-
тары, насьміхаючыся, гукалі з кніж-
нікамі: „Іншых спасаў, Сябе Самога
спасьці ня можа. 32 Хрыстос, Ка-
роль Ізраеляў, няхай цяпер іступе
з крыжа, каб мы абачылі; і ўве-
рым". І ўкрыжаваныя зь Ім вярнулі
на Яго.

33 А як была шостая гадзіна, на-
стала цямнота па ўсёй зямлі аж да
гадзіны дзявятае. 34 І а дзявятай
гадзіне загаласіў вялікім голасам,
кажучы: „Элоі! Элоі! ламма сава-
хфані?" Што знача: Божа Мой, Бо-
жа Мой, чаму Ты Мяне пакінуў?

35 І некатрыя із стаячых тут, па-
чуўшы, мовілі: „Вось, Ільлю гукае".
36 І адзін пабег, намачыў губку воц-
там і, насадзіўшы на трысьціну, да-
ваў Яму піць, кажучы: „Пажджыце,
паглядзім, ці прыйдзе Ільля зьняць
Яго".

37 І Ісус, загукаўшы вялікім го-
ласам, выпусьціў дух.

38 І запона разьдзерлася ў Доме
Божым на дзьве часьці, ад гары аж
да далоўя.

39 І сотнік, што стаяў насупроці
Яго, абачыўшы, што Ён, так загу-
каўшы, выпусьціў дух, сказаў: „За-
праўды чалавек гэты быў Сын Бо-
жы".

40 Былі й жанкі, што глядзелі
здалеку; памеж іх была й Марыя
Магдалена, і Марыя, маці Якава
меншага а Ёсі, і Салома, 41 Като-
рыя таксама, як Ён быў у Ґалілеі,
ішлі за Ім а паслугавалі Яму, і шмат
іншых жанок, што прышлі зь Ім да
Ерузаліму.

42 І цяпер, як настаў вечар, бо
гэта была прыгатова, значыцца
дзень перад сыботаю, 43 Прышоў
Язэп із Арымафеі, пачэсьлівы рай-
ца, што таксама чакаў гаспадарства
Божага, сьмела ўвыйшоў да Пілата
і папрасіў цела Ісусавага. 44 Пілат
зьдзіваваўся, што Ён ужо памер, і,
пагукаўшы сотніка, папытаўся ў
яго: „Ці даўно памер?" 45 І даве-
даўшыся ад сотніка, аддаў цела
Язэпу.

46 І ён купіў палатніну, і, зьняў-
шы Яго, завярцеў Яго ў палатніну,
і палажыў Яго ў гробе, што быў
высечаны ў скале, і прыкаціў ка-
мень да дзьвярэй гробу. 47 І Ма-
рыя Магдалена, і Марыя Ёсіна на-
зіралі, ідзе Яго палажылі.

**16** Як мінула сыбота, Марыя Маг-
далена а Марыя Якавава а Са-

лома купілі пахаў, каб ісьці, намасьціць Яго. 2 І вельма рана нараніцы, першага дня тыдня, прышлі да гробу ўсходам сонца. 3 І гу́калі мяжсобку: „Хто адкоце нам камень ад дзьвярэй гробу?” 4 І, глянуўшы, бачаць, што камень адкочаны; а ён быў вельма вялікі. 5 І, увыйшоўшы ў гроб, абачылі маладзёна, на правым баку седзячага, адзеўшыся ў даўгое белае адзецье; і зжахнуліся. 6 Ён жа сказаў ім: „Не жахайцеся. Ісуса шукаеце Назарэцяніна, што быў укрыжаваны; Ён ускрэс, Яго няма тут. Во месца, ідзе Ён быў пакладзены. 7 Але йдзіце, накажыце ву́чанікам Ягоным а Пётру, што Ён выперадзе вас да Ґалілеі; там абачыце Яго, як Ён сказаў вам”. 8 І яны борзда вышлі, і ўцяклі ад гробу, бо яны дрыжэлі й былі́ зумеўшыся, і нічога нікому не сказалі, бо баяліся.

9 Ускрэсшы рана першага дня тыдня, Ён сьпярша зьявіўся Марыі Магдалене, з каторае быў выгнаўшы сямёх нячысьцікаў. 10 Яна пайшла й наказала тым, што былі́ зь Ім, каторыя былі́ ў жалобе й плакалі. 11 Але тыя, пачуўшы, што Ён жывы, і яна бачыла Яго, не нялі́ веры.

12 Просьле гэтага Ён зьявіўся ў іншым выглядзе двум ізь іх на дарозе, як яны йшлі да сяла. 13 Яны йшлі й наказалі засталым; і гэтыя не нялі́ веры. 14 І потым зьявіўся адзінанцацём, як узьляжалі за сталом, і ўпікаў ім за няверу іхную а калянасьць сэрца, бо не нялі́ веры тым, каторыя бачылі Яго ўскрэслага. 15 І сказаў ім: „Ідучы па ўсім сьвеце, абяшчайце Евангелю ўсяму стварэньню. 16 Хто будзе верыць і ахрысьціцца, спасён будзе; а хто ня будзе верыць, будзе засуджаны. 17 І гэтыя знакі́ злучацца з тымі, што вераць: імям Маім будуць выганяць нячысьцікаў; будуць гу́каць новымі мовамі; 18 Будуць браць га́ды; а калі б што атрутнае пілі́, не пашкодзе ім; на хворых будуць ускладаць рукі, і добра ім будзе”.

19 Гэтак Спадар, просьле гутаркі зь імі, быў узяты на неба й сеў па правіцы Божай. 20 А тыя пайшлі й абяшчалі ўсюдых, і Спадар судзеяў зь імі, і слова іхнае мацніў знака́мі, злучанымі зь імі. Амін.

## ЕВАНГЕЛЯ ПОДЛЕ СЬВЯТОГА ЛУКІ

1 Як шмат хто ўзяўся напісаць нарыс праз сталыя здарэньні памеж нас, 2 Як перадалі нам тыя, што спачатку вочнікамі а слугачымі Слова былі́, — 3 Здалося й імне добрым, дасьледава́ўшы ўсе з належнага жарала, акуратна а з парадку напісаць тэ праз гэта, найпачэсьліўшы Хахілю, 4 Каб ты добра ведаў пэўнасьць таго, чаго ты быў навучаны.

5 За дзён Гірада, караля Юдэйскага, быў адзін сьвятар, імям Захара, зь дзяннное радоўкі Авінае, і жонка ягоная была́ з дачок Ааронавых, і імя ейнае Альжбета. 6 Яны абое былі́ справядлівыя перад Богам, ходзячы ў вусіх расказаньнях а пастановах Спадаровых без заганы. 7 Але ня мелі дзяцяці, бо Альжбета была бясплодная, і абое былі́ ацяжараныя гадамі. 8 І сталася, як ён правіў сьвятарскі ўрад перад Богам у парадку свае радоўкі, 9 Подле звыча́ю сьвятарскага ўраду, было яму жэрабя кадзіць, як ён увыйшоў у Дом Спадароў; 10 А ўся множасьць люду малілася вонках у часе кадзеньня, — 11 І зьявіўся яму ангіл Спадароў, стоячы паправе аброчніка кадзеньня. 12 І стрывожыўся Захара, абачыўшы, і ляк абняў яго. 13 Але ангіл Спадароў сказаў яму: „Не лякайся, Захара; бо



просьба твая пачута, і Альжбета, жонка твая, зачнець табе сына, і назавеш імя яго: Яан. 14 І табе будзе радасьць а весялосьць, і шмат хто будзе цешыцца з нараджэньня яго. 15 Бо ён будзе вялікі ў ваччу Спадаровым, і ня будзе піць віна ані хмельнага напітку, і напоўніцца Духам Сьвятым нават ад жывата маці свае. 16 І шмат каго зь дзяцей Ізраелявых наверне да Спадара, Бога іхнага. 17 І ён пойдзе перад Ім у духу а магутнасьці Ільлінае, каб зьвярнуць сэрцы бацькоў да дзяцей і няслухменых да мудрасьці справядлівых, каб выгадаваць Спадару люд прыгатаваны”. 18 І сказаў Захара ангілу: „З чаго я пазнаю гэта? бо я ўжо стары, і жонка мая вельма ацяжараная днямі”. 19, І, адка́зуючы, ангіл сказаў яму: „Я Гаўрэль, каторы стаю ў прытомнасьці Божай, і я быў пасланы казаць табе, і прынесьці табе дабравесьць. 20 І вось, ты будзеш бязмоўны, і ня будзеш магчы гу́каць аж да дня, калі гэта станецца, бо ты не паверыў словам маім, каторыя споўняцца ўпару”.

21 Люд жа чакаў Захары й дзіваваўся, што ён так длякаецца ў Доме Божым. 22 І, як ён вышаў, ня мог гу́каць да іх; і яны пазналі, што ён відзеў відзень у Доме Божым, бо ён ківаў ім; і застаўся немы.

23 І сталася, што, як скончыліся дні адправы ягонае, ён адышоў да дому свайго. 24 А па тых днёх зачала Альжбета, жонка ягоная, і таілася пяць месяцаў, кажучы: 25 „Гэтак імне ўчыніў Спадар за дзён, калі глянуў, каб зьняць ганьбу маю памеж людзёў”.

26 А шостага месяца пасланы быў ад Бога ангіл Гаўрэль да места Ґалілейскага, званага Назарэт, 27 Да дзявушчае, заручанае з чалавекам, каторага імя было Язэп, з дому Давідавага, а дзявушчае імя: Марыя. 28 І, увыйшоўшы да яе, ангіл сказаў: „Здарова, ласкаю абдараваная! Спадар із табою; дабраславёная ты памеж жанок”. 29 Яна ж, абачыўшы яго, парушылася на слова ягонае й разважала, што гэта было б за здарованьне. 30 І сказаў ёй ангіл: „Ня бойся, Марыя, бо ты прыдбала ласку ў Бога. 31 І вось, зачнеш у жываце, і народзіш Сына, і назавеш імя Ягонае: Ісус. 32 Ён будзе вялікі і назавецца Сынам Навышняга, і Спадар Бог дасьць Яму пасад Дывідаў, айца Ягонага; 33 І будзе гаспадарстваваць у доме Якававым навекі, і гаспадарству Ягонаму ня будзе канца”. 34 І сказала Марыя ангілу: „Як гэта будзе, калі я мужа ня знаю?” 35 І, адказуючы, ангіл сказаў ёй: „Дух Сьвяты зыйдзе на Цябе, і моц Навышняга засьціць табе; затым і народжанае сьвятое назавецца Сынам Божым. 36 І вось, сваячка твая Альжбета, званая бясплоднай, і яна зачала́ сына ў старасьці сваёй, і гэты ё шосты месяц ёй, званай бясплоднай. 37 Бо ў Бога нічога няма немагчымага”. 38 І Марыя сказала: „Вось, служэбка Спадарова; хай будзе імне подле слова Твайго”. І ангіл адышоў ад яе.

39 І ўстаўшы Марыя тых дзён, з пасьпехам пайшла да гаравое краіны, да места Юдзінага. 40 І ўвыйшла ў дом Захарын, і паздаровала Альжбету. 41 І сталася, як пачула Альжбета здарованьне Марыіна, што скрану́лася дзяцянё ў жываце ейным, і Альжбета напоўнілася Духам Сьвятым, 42 І загука́ла вялікім голасам, і сказала: „Дабраславёная ты памеж жанок, і дабраславёны плод жывата твайго. 43 І скуль гэта імне, што прышла маці Спадара майго да мяне? 44 Бо, гля, як толькі гук здарованьня твайго загучэў у вушшу маім, скранулася з радасьці дзецянётка ў жываце маім. 45 І дабраславёная тая, што паверыла, бо зьдзеецца сказа́нае ёй ад Спадара”.

46 I сказала Марыя: „Узьвялічае
душа мая Спадара; 47 I ўсьцешыў-
ся дух мой у Богу, Спасу маім;
48 Бо глянуў Ён на паніжэньне слу-
жэбкі Свае; вось, адгэтуль за шчась-
лівую мяне будуць мець усі роды;
49 Бо ўчыніў імне вялічча Дужы;
і сьвятое імя Ягонае; 50 I міласэрдзе
Ягонае ад роду да роду да тых, што
баяцца Яго. 51 Зьдзеяў моц цаўём
Сваім; расьцярушыў пыхатых па-
думкамі сэрца іхнага; 52 Ськівуў
дужых із пасадаў і павышыў пані-
жаных. 53 Напоўніў прагнучых даб-
ром, а багатых адаслаў пустых.
54 Памог Ізраелю, слузе Свайму,
памятуючы на міласэрдзе, 55 Як ка-
заў айцом нашым, Абрагаму а на-
сеньню ягонаму навекі".

56 I заставалася Марыя зь ёй
каля трох месяцаў, і зьвярнулася да
дому свайго.

57 Альжбеце ж выпаўніўся час
радзіць, і яна нарадзіла сына. 58 I
пачулі суседзі а сваякі ейныя, як
Спадар узьвялічыў міласэрдзе над
ёй, і цешыліся зь ёю.

59 I сталася, што на восьмы дзень
прышлі абразаць дзецянё і звалі
яго, подле імені айца ягонага, За-
хара. 60 Але маці ягоная, адказую-
чы, сказала: „Не, але названы бу-
дзе Янам". 61 I сказалі ёй: „Ніко-
га няма ў родзе тваім, каб быў на-
званы гэтым імям". 62 I паказвалі
зна́камі айцу ягонаму, як бы яго
хацеў назваць. 63 А ён, папрасіў-
шы дошчачкі, напісаў, кажучы:
„Яан імя ягонае". I дзіваваліся ўсі.
64 I якга адчыніліся вусны ягоныя
а язык ягоны, і ён гу́каў, хвалячы
Бога.

65 I напаў страх на ўсіх, што жы-
лі навокал іх, і па ўсёй гаравой
краіне Юдэі гу́калі ўсі гэтыя словы.
66 I ўсі, што чулі, складалі ў сэрцах
сваіх, кажучы: „Што за дзецянё
гэта будзе!" I запраўды рука Спада-
рова была зь ім.

67 I Захара, айцец ягоны, на-
поўніўся Духам Сьвятым і пра-
ракаў, кажучы: 68 „Дабраслаўлёны
Спадар, Бог Ізраеляў, што даведаў-
ся й зьдзеяў адкупленьне люду
Свайму; 69 I ўзьняў рог спа́сеньня
нам у доме Давіда, слугі Свайго;
70 Як казаў вуснамі сьвятых праро-
каў Сваіх, што былі ад веку, 71 Праз
спа́сеньне нас ад варагоў нашых і ад
рукі ўсіх ненавідзячых нас; 72 Што
зьдзее міласэрдзе айцом нашым
і ўспомне сьвятую ўмову Сваю,
73 Прысягу, што Ён прысягнуў Аб-
рагаму, айцу нашаму, даць нам,
74 Каб бяз страху, з рукі не́прыя-
целяў сваіх вывальненыя, служылі
Яму 75 Ў сьвятасьці а справядлі-
васьці перад Ім усі дні жыцьця свай-
го. 76 I ты, дзецянё, назавешся пра-
рокам Навышняга, бо пойдзеш пе-
рад відам Спадаровым, гатаваць да-
рогі Ягоныя, 77 Даць пазнаньне спа́-
сеньня люду Ягонаму ў дараваньню
грахоў іхных, 78 Пераз чульліваe
міласэрдзе Бога нашага, як із вы-
шыні Золак даведаўся да нас,
79 Даць сьвятло седзячым у цям-
ноце а ў сьценю сьмерці, кіраваць
ногі нашыя на дарогу супакою".

80 А дзяцё расло а дужэла ду-
хам, і было на пустынях аж да дня
паказаньня свайго Ізраелю.

2 I сталася тых дзён, што вышаў
пастаноў ад цэсара Аўгуста зра-
біць сьпісаньне ўсяго сьвету. 2 Гэтае
сьпісаньне было найперш за Квіры-
на, намесьніка Сыры. 3 I ўсі пайшлі
запісавацца, кажны да места свайго.
4 I Язэп таксама вышаў з Галілеі,
зь места Назарэту, да Юдэі, да места
Давідавага, званага Бэтлеем, бо ён
быў з дому а роду Давідавага, 5 За-
пісацца з Марыяю, заручанай яму,
цяжарнай.

6 I сталася, як яны былі там, вы-
паўніліся дні радзіць. 7 I нарадзіла
Сына свайго першака, і спавіла Яго,
і палажыла ў ясьлі, бо ня было ім
месца ў начулішчу.

8 I пастыры былі ў тэй самай



краіне на полю, сьцерагучы стаду
сваю ночы. 9 I вось, Ангіл Спада-
роў стаў перад імі, і слава Спадаро-
ва зазьзяла навокал іх; і баяліся бо-
язьняй вялікай. 10 I Ангіл сказаў
ім: „Ня бойцеся, бо вось, я прыно-
шу вам дабравесьць вялікай рада-
сьці, што будзе ўсім людзём; 11 Бо
нарадзіўся вам сядні ў месьце Даві-
давым Спас, Каторы ё Хрыстос Спа-
дар. 12 I гэта пазнака вам: вы знай-
дзеце дзецянётка, спавітае й лежа-
чае ў ясьлях. 13 I якга было з Ан-
гілам множасьць войска нябёснага,
хвалячы Бога й кажучы: 14 „Слава
Богу на вышах, а на зямлі супакой
у людзёх добрае волі".

15 I сталася, як ангілы адышлі ад
іх да неба, пастыры сказалі адзін
аднаму: „Пайдзіма аж да Бэтлеему
й абачма, што прыгадзілася, што
Спадар наказаў нам". 16 I прышлі
борзда, і знайшлі разам Марыю а
Язэпа а дзецянётка, у ясьлях лежа-
чае. 17 А абачыўшы, наказвалі
ўсюдых узглядам слова, сказа́нага
ім празь дзецянё гэтае. 18 I ўсі, што
чулі, дзіваваліся з таго, што мовілі
ім пастыры. 19 Але Марыя захова-
вала ўсе гэта, разважаючы ў сэрцу
сваім. 20 I зьвярнуліся пастыры,
славячы а хвалячы Бога за ўсе, што
чулі а бачылі, як было ім наказа́-
на.

21 I, як выпаўнілася восьмі дзён
да абразаньня дзецяняці, назвалі
Яго Ісус, як назваў Ангіл перад за-
чацьцям Яго ў жываце.

22 I, як мінулі дні ачышчэньня
ейнага, подле права Масеявага, пры-
не́сьлі Яго да Ерузаліму, каб абра-
чы Спадару, 23 Як напісана ў пра-
ве Спадаровым, што кажнае дзеця-
нё мужчынскае, дзетніцу рашчыня-
ючае, Сьвятым Спадару будзе звац-
ца; 24 I даць аброк, подле сказа́на-
га ў праве Спадаровым, пару тур-
коў альбо двое галубянят.

25 I вось, быў чалавек у Еруза-
ліме, катарага імя Сымон. Ён жа
муж справядлівы а набожны, што
спадзяваўся пацехі Ізраелявае; і
Дух Сьвяты быў на ім. 26 I было
яму аб'яўлена Духам Сьвятым, што
ён не абача сьмерці, пакуль не па-
бача Хрыста Спадаровага. 27 I пры-
шоў ён Духам да сьвятыні. I як
бацькі прыне́сьлі дзецянё Ісуса, каб
учыніць над Ім подле звыча́ю права,
28 Тады прыняў ён Яго на ўлоньне
свае, і дабраславіў Бога, і сказаў:
29 „Цяпер адпушчаеш слугу Свай-
го, Спада́ру, подле слова Свайго, у
супакою; 30 Бо вочы мае бачылі
спа́сеньне Твае, 31 Што Ты прыга-
таваў перад відзеньням усіх людзёў,
32 Сьвятло да аб'яўленьня народам і
славу люду Твайго Ізраеля". 33 I
Язэп і маці дзіваваліся з таго, што
было сказа́на празь Яго. 34 I дабра-
сла́віў іх Сымон, і сказаў Марыі,
маці Ягонай: „Вось, прызначана гэ-
та на ўпад і на паўстаньне шмат
каго ў Ізраелю і на знак, катораму
будуць перачыць, 35 Але меч прат-
нець таксама душу тваю, каб аб'яў-
лены былі падумкі шмат сэрцаў".

36 I там была Ганна Фануелішка,
прарока з пакаленьня Ашэравага.
Яна была́ стара́я, жыла́ ж із мужам
сем год ад дзявоцтва свайго, 37 Уда-
ва каля асьмідзясят чатырох год,
каторая не адходзіла ад сьвятыні,
але служыла постам а малітваю но-
чы і ўдзень. 38 I гэтая, тае ж часі-
ны прышоўшы, хваліла Спадара й
мовіла празь Яго ўсім, што чакалі
адкупленьня ў Ерузаліме. 39 I, як
яны зьдзеялі ўсе подле права Спа-
дарова, зьвярнуліся да Галілеі, да
места свайго Назарету.

40 I дзяцятка расло, і дужэла ў
духу, поўнае мудрасьці; і ласка Бо-
жая была на Ім.

41 А бацькі Ягоныя што году ха-
дзілі да Ерузаліму на сьвята Пасхі.
42 I як Яму было дванаццаць год,
яны ўзышлі да Ерузаліму подле
звыча́ю таго сьвята. 43 I, як, скон-
чыўшы тыя дні, зварачаліся, задля-

не прыказь гэтую: ‚Лекару, уздароў
самога сябе; тое, што мы чулі, што
сталася ў Капернауме, учыні такса-
ма тутака, у родным месцу Сваім'.”
24 І сказаў: „Запраўды кажу вам:
ніякага прарокі ня прыймаюць у
родным краю сваім. 25 Але кажу
вам праўду: шмат удоваў было ў Із-
раелю за дзён Ільлі, як нябёсы бы-
лі зачыненыя тры гады шэсьць ме-
сяцаў, як вялікая галадоў была́ па
ўсёй зямлі; 26 Але да ні воднае зь
іх ня быў пасланы Ільля, адно да
Сарэпты Сыдонскае да жонкі ўдавы.
27 І шмат пракажаных было ў люду
Ізраельскім за Елісэя прарокі, і ні
водзін ізь іх не ачысьціўся, адно
Нааман Сыранін”. 28 І напоўніліся
ўсі ў бажніцы гневам, пачуўшы гэта.
29 І, устаўшы, зда́лілі Яго вонкі зь
места, і павялі аж на верх узгорку,
на каторым места іхнае было паста-
ноўлена, каб ськінуць Яго; 30 Але
Ён, прайшоўшыся сярод іх, адышоў.
31 І прышоў да Капернауму, места
Галілейскага, і вучыў іх па сыбо-
тах. 32 І дзіваваліся вельма з наву-
кі Ягонае, бо ўладная была́ мова
Ягоная.
33 І быў у бажніцы чалавек, што
меў нячыстага духа д'явальскага,
і ён загука́ў вялікім голасам, 34
кажучы: „Ах, што нам да Цябе, Ісу-
се Назарэцкі? Ты прышоў загубіць
нас; знаю Цябе, хто Ты, сьвяты Бо-
жы”. 35 Але Ісус зганіў яго, кажу-
чы: „Змоўкні й выйдзі зь яго”.
І нячысьцік, кінуўшы яго пасярэ-
дзіне, вышаў зь яго, не пашкодзіў-
шы яму. 36 І ўсі былі зумеўшыся,
і гу́калі мяжсобку, кажучы: „Што
за слова гэта! бо з уладаю а ма-
гутнасьцяй раска́зуе нячыстым ду-
хом, і яны выходзяць”. 37 І разы-
ходзілася дзейка празь Яго па ўсіх
месцах аколіцы.
38 І вышаўшы з бажніцы, Ён
увыйшоў у дом Сымонаў; цешча ж
Сымонава была хворая на вялікую
гаручку; і прасілі Яго за яе. 39 І,
стаўшы над ёю, Ён зганіў трасцу;
і пакінула яе. І яна, якга ўстаўшы,
паслугавала ім.
40 Заходам сонца, усі, што мелі
хворых на розныя хваробы, прыво-
дзілі іх да Яго; і Ён, ускладаючы
на кажнага зь іх рукі, уздараўляў
іх. 41 І нячысьцікі таксама выходзі-
лі із шмат каго, крычучы й ка-
жучы: „Ты Хрыстос, Сын Божы”.
А Ён, ганячы, не дазваляў ім гу́-
каць, бо яны ведалі, што Ён Хры-
стос.
42 Як жа быў дзень, Ён, вышаў-
шы, пайшоў на пустыннае месца,
і гурба шукала Яго і, прышоўшы
да Яго, зьдзержавала Яго, каб не
адходзіў ад іх. 43 Але Ён сказаў
ім: „Я маю шырыць дабравесьць
гаспадарства Божага таксама ін-
шым местам, бо на тое Я пасланы”.
44 І абяшчаў у бажніцах Галілей-
скіх.

**5** І сталася, як людзі цісьнуліся
да Яго, каб слухаць слова Бо-
жае, а Ён стаяў ля возера Геніса-
рэцкага, 2 І абачыў два стругі, ля
возера стаячыя, а рыбакі ж былі
вышаўшы зь іх і паласкалі сеткі. 3
І ўвыйшоўшы ў вадзін із стругаў,
што быў Сымонаў, прасіў яго адам-
кнуць троху ад зямлі. І, сеўшы,
вучыў гурбы із струга. 4 А як
перастаў гу́каць, кажа Сымону:
„Выплыві на глыбіню й закінь сет-
кі свае на лаўбу”. 5 І, адказуючы,
Сымон сказаў Яму: „Вучыцелю, мы
цэлую ноч працавалі, і нічога не
злавілі; але на слова Твае закіну
сетку”. 6 Зрабіўшы гэта, яны злаві-
лі вялікую множасьць рыбы, ажно
сетка іхная ірвалася. 7 І кіўнулі
сябром, што былі ў другім струзе,
каб прышлі памагчы ім; і прышлі,
і напоўнілі абодва стругі, ажно па-
чалі занурацца. 8 Як Сымон Пётра
абачыў гэта, паў Ісусу да каленяў,
кажучы: „Адыйдзі ад мяне, Спада-
ру, бо я людзіна́ грэшная”. 9 Бо
зуменьне апанавала яго і ўсіх бы-



тых ізь ім ад такога ўлову рыбы,
што яны злавілі; 10 І таксама Яка-
ва а Яана, сыноў Зэведэявых, што
былі сябрамі із Сымонам. І сказаў
Ісус Сымону: „Ня бойся, бо адгэ-
туль ты будзеш лавіць людзёў”. 11
І выцягнуўшы свае стругі на зямлю,
яны, пакінуўшы ўсе, пайшлі за Ім.
12 І сталася, як Ён быў у вадным
ізь местаў, вось, прышоў чалавек
поўны праказы, каторы, бачачы
Ісуса, паў ніцма й маліў Яго, кажу-
чы: „Спада́ру, калі хочаш, можаш
мяне ачысьціць”. 13 І выцягнуўшы
руку, даткнуўся да яго, кажучы:
„Хачу, ачысьціся”. І праказа якга
зышла зь яго. 14 І расказаў яму
нікому не казаць, але „йдзі пака-
жыся сьвятару і абрачы за ачы-
шчэньне свае, як расказаў Масей,
на сьветчаньне ім”.
15 Але тым балей пашыралася
дзейка празь Яго, і вялікія гу́рбы
зыходзіліся слухаць і ўздараўляцца
ім у сваіх няўздоленьнях. 16 Ён жа
адыходзіўся на пустыні й маліўся.
17 І сталася аднаго з тых дзён,
калі Ён вучыў, і сядзелі тамака фа-
рысэі а вучыцелі права, вышлыя
з усіх местачкаў Галілеі а Юдэі а
Ерузаліму, і моц Спадарова была́
зь Ім, каб уздараўляць іх.
18 І вось, прыне́сьлі на пасьцелі
хворага на паляруш, і стараліся
ўне́сьці яго, і палажыць перад Ім.
19 І, не знайшоўшы кудэй унесьці
яго, з прычыны гурбы, узьлезьлі на
страху і пераз стрэшніцы спусьцілі
яго з пасьцеляю на сярэдзіну перад
Ісусам. 20 І, бачачы веру іхную,
сказаў яму: „Чалавеча, дараваны
табе грахі твае”. 21 А кніжнікі а
фарысэі пачалі разважаць, кажу-
чы: „Хто гэта, што блявузгае? Хто
можа дараваць грахі, апрача аднаго
Бога?” 22 Пазнаўшы думкі іхныя,
Ісус, адказуючы, сказаў ім: „Што
вы разважаеце ў сэрцах сваіх? 23
Што лацьвей сказаць: ‚Дараваны
табе грахі твае'? ці сказаць: ‚устань
і хадзі'? 24 Але каб вы ведалі, што
Сын Людзкі мае ўладу на зямлі да-
раваць грахі (сказаў хвораму на
паляруш): „Табе кажу: устань, і
вазьмі пасьцелю сваю, і йдзі да до-
му свайго”. 25 І зараз ён устаў
перад імі, і ўзяў тое, на чым ляжаў,
і адышоў да дому свайго, славячы
Бога. 26 І зумеліся ўсі; і славілі
Бога, і, напоўненыя страхам, гу́ка-
лі: „Чудоўныя рэчы бачылі мы
сядні”.
27 А просьле гэтага вышаў і аба-
чыў мытніка, імям Леў, на мыце
седзячага, і сказаў яму: „Ідзі за
Імною”. 28 І, пакінуўшы ўсе, устаў-
шы, пайшоў за Ім.
29 І справіў Яму вялікую чэсьць
Леў у доме сваім, і была гурба вя-
лікая мытнікаў і іншых, што ўзьля-
жалі зь імі.
30 Але кніжнікі а фарысэі нара-
калі, кажучы ву́чанікам Ягоным:
„Чаму вы ясьце́ а п'іце́ з мытні-
камі а грэшнікамі?” 31 І, адказую-
чы, Ісус сказаў ім: „Не здаровыя
патрабуюць лекара, але хворыя. 32
Я ня прышоў пагука́ць справядлі-
вых, але грэшнікаў да ка́яты”.
33 Яны ж сказалі Яму: „Чаму
ву́чанікі Янавы постуюць часта і
чыняць малітвы, таксама й фары-
сэйскія, а Твае ядуць а п'юць?” 34
І Ён сказаў ім: „Ці можаце пры-
сіліць сыноў вясельнага палацу по-
ставаць, пакуль ізь імі малады? 35
Але настануць дні, калі адберуць у
іх маладога, і тады будуць поста-
ваць тыя дні”.
36 І сказаў таксама прыпавесьці
ім: „Ніхто не аддзірае лапіка ад
новага адзецця, каб прышыць да
старога, бо новае падзярэць, і лапік
із новага ня годзіцца да старога.
37 „І ніхто ня ільлець маладога
віна ў старыя скураныя мяхі, бо
маладое віно прарвець мяхі, і ра-
зальлецца, і мяхі загінуць. 38 Але
маладое віно маюць ліць у мяхі
новыя; і захаваюцца абое. 39 І ні-

хто, піўшы старое, зараз не захоча
навага, бо кажа: ,старое лепшае' ".

**6** І сталася ў другую сыботу па
першай, што Ён ішоў праз
збожжа, і вýчанікі Ягоныя каласа-
валі а елі, расьціраючы рукамі. 2
Некатрыя ж із фарысэяў сказалі
ім: „Чаму вы робіце, чаго ня маеце
права рабіць у сыботы?" 3 І, адка-
зуючы, Ісус сказаў ім: „Хібá вы ня
чыталі, што зрабіў Давід, як пра-
гнуў, і былыя зь ім? 4 Як ён увый-
шоў да Дому Божага, і ўзяў а еў
пакладзены хлеб, і даў таксама бы-
лым із ь ім, каторага ня меў права
есьці ніхто, апрача адных сьвята-
роў?" 5 І сказаў ім: „Сын Людзкí
ё спадар і сыботы".

6 І сталася таксама іншае сыбо-
ты, што Ён увыйшоў у бажніцу
й вучыў. І быў там чалавек, у ка-
торага правая рука была адсохшы.
7 А кніжнікі а фарысэі ўважліва
назіралі за Ім, ці ўздарове ў сыбо-
ту, каб знайсьці за што абжалаваць
Яго. 8 Але Ён ведаў думкі іхныя. І
кажа чалавеку, што меў адсохлую
рукý: „Устань а стань на сярэдзі-
не" І ён устаў і стаў. 9 І сказаў ім
Ісус: „Папытаюся Я ў вас адно: ці
подле права належа ў сыботу дабро
ці ліха рабіць? душý выбавіць ці
загубіць?" 10 І, глянуўшы навокал
на ўсіх іх, кажа чалавеку таму:
„Выцягні рукý сваю". І ён зрабіў
гэтак; і стала рука ягоная здаро-
вая, як другая. 11 А яны аж шале-
лі, і гýкалі адзін аднаму, што ім
зрабіць Ісусу.

12 І сталася тых дзён, што Ён
пайшоў на гару маліцца, і прабыў
усю ноч на малітве Богу. 13 І, як
настаў дзень, пагукáў вýчанікаў
Сваіх і абраў зь іх дванаццацёх, ка-
торых і назваў апосталамі: 14 Сы-
мона, каторага й назваў Пётрам,
і Андрэя, брата ягонага, Якава а
Яна, Піліпа а Варфаламея, Мацьвея
а Хаму, Якава Алфеявага а Сымо-
на, званага Зылотам, Юду Якава-
вага а Юду Іскарыёта, што потым
стаў ізраднікам.

17 І ісступіўшы зь імі, стаў на
раўнінé, і груд чысьленых вýчані-
каў Ягоных, і множасьць вялікая
люду з усяе Юдэі а зь Ерузаліму
а з узморскіх Тыру а Сыдону, што
прышлі паслухаць Яго і ўздаравіц-
ца з хваробаў сваіх, 18 І мучаныя
нячыстымі духамі; і былí ўздараў-
ляны. 19 І ўвесь груд стараўся дат-
кнуцца да Яго, бо моц выходзіла
зь Яго і ўздараўляла ўсіх.

20 А Ён, узьняўшы вочы Свае на
вýчанікаў Сваіх, мовіў:

„Шчасьлівыя ўбогія, бо ваша ё
гаспадарства Божае. 21 Шчасьлівыя
прагнучыя цяпер, бо насыцецеся.
Шчасьлівыя плачучыя цяпер, бо
будзеце сьміяцца. 22 Шчасьлівыя
будзеце, калі вас будуць людзі не-
навідзіць, і калі вылучаць вас, і
будуць ганьбіць, і выкінуць імя ва-
шае, як благое, за Сына Людзкога.
23 Цешчася таго дня а весяліцеся,
бо, гля, заплата вашая вялікая на
небе. Гэтак айцове іхныя рабілі
прарокам.

24 „Але бяда вам, багатым! бо
вы адзяржалі пацеху сваю. 25 Бя-
да вам, каторыя насыціўшыся! бо
прагнуць будзеце. Бяда вам, што
сьмяіцéся цяпер! бо смуціцца а
плакаць будзеце. 26 Бяда вам, калі
добра гýкаць будуць праз вас усі
людзі! бо гэтак рабілі айцове іхныя
хвальшывым прарокам.

27 „Але кажу вам, каторыя слу-
хаеце: любіце нéпрыяцеляў сваіх;
добра рабіце тым, што ненавідзяць
вас; 28 Дабраслаўце тых, што вас
праклінаюць, і маліцеся за тых, што
наругаюцца вам. 29 І таму, хто вы-
тне цябе па шчаццэ, падстаў і дру-
гую; і таму, хто возьме тваю во-
пратку, не барані й адзежы.

30 „Дай кажнаму, хто просе ў ця-
бе, і з таго, хто возьме твае, не
спаганяй назад. 31 І як хочаце, каб
вам людзі рабілі, рабіце падобна вы



ім. 32 Бо калі любіце тых, каторыя
любяць вас, якая вам падзяка? бо
й грэшнікі любяць тых, што лю-
бяць іх. 33 І калі робіце дабро
тым, каторыя робяць дабро вам,
якая падзяка вам? бо й грэшнікі ро-
бяць тое самое. 34 І калі пазычаеце
тым, з каторых спадзяіцéся спа-
гнаць, якая вам падзяка? бо нават
грэшнікі пазычаюць грэшнікам, каб
спагнаць толькі ж.

35 „Але вы любіце нéпрыяцеляў
сваіх, і добра рабіце, і пазычайце,
не спадзяючыся стуль нічога; і за-
плата вашая будзе вялікая, і будзе-
це дзецьмі Навышняга; бо Ён до-
бры да няўдзячных а благіх. 36
Дык будзьце міласэрныя, як і Ай-
цец вашы міласэрны.

37 Ня судзіце, і ня будзеце су-
джаны; не засуджайце, і ня будзеце
засуджаны; даруйце, і вам даруюць.

38 Дайце, і вам дадуць: мераю
добраю, уцісьненаю а ўтрэсенаю і з
коптарам дадуць людзі ў вулоньне
вашае; бо якой мераю мераеце, та-
кой адмераюць вам".

39 І сказаў ім прыпавесьць: „Ці
можа нявісны вадзіць нявіснога? ці
не абодва ўваляцца ў яму?

40 „Вýчанік ня вышшы за вучы-
целя, але кажны, удасканаліўшыся,
будзе, як вучыцель ягоны.

41 „І што глядзіш ты на стрэмку
ў воку брата свайго, а бярна ў воку
сваім ня цеміш? 42 Альбо, як мо-
жаш сказаць брату свайму: ,Браце!
дай, выму стрэмку з вока твайго;
калі сам ня бачыш бярна ў воку
сваім? Двудýшніча! выкінь сьпяр-
ша бярно з вока свайго, і тады аба-
чыш вырáзьліва, як выняць стрэм-
ку з вока брата свайго.

43 „Бо добрае дзерва ня родзе
благога плоду, альбо благое дзерва
ня родзе плоду добрага. 44 Бо ка-
жнае дзерва пазнаюць із плоду яго-
нага; бо зь церня не абіраюць фі-
ґаў ані з чупчыньніку не абіраюць
вінных ягадаў.

45 „Добрая людзінá з добрага
скарбу сэрца свайго выносе добрае,
а благая людзінá з благога скарбу
сэрца свайго выносе благое; бо ад
збытку сэрца гýкаюць вусны.

46 „І чаму вы гукáеце Мяне:
,Спадáру, Спадáру', а ня робіце та-
го, што Я кажу? 47 Кажны, што
прыходзе да Мяне, і слухае словы
мае, і поўне іх, Я пакажу вам, да
каго падобны. 48 Ён падобны да ча-
лавека, што, становячы дом, капаў
а ўглыбіўся а паклаў под на скáле;
і, як сталася паводка, плынь чха-
нýла на тый дом, але не магла за-
хістаць яго, бо быў закладзены на
скáле. 49 Але тый, што пачуў, але
не зрабіў, падобны да чалавека, што
бяз поду пастанавіў дом на зямлі,
на каторы чханула плынь, і якга
ён паваліўся; і разьвярненьне таго
дому было вялікае".

**7** Як Ён скончыў усі словы Свае
ў вушы люду, увыйшоў да Ка-
пернауму. 2 І адзін сотнікаў слуга,
дарагі яму, быў хворы, блізў ка-
наў. 3 І, пачуўшы праз Ісуса, ён
паслаў да Яго старцоў зь Юдэяў
прасіць Яго, каб прышоў уздаравіць
слугу ягонага. 4 І яны, прышоўшы
да Ісуса, горача прасілі Яго, ка-
жучы: „Ён гожы, каб Ты зрабіў
яму гэтую ласку; 5 Бо ён любе на-
род наш і пастанавіў нам бажніцу".
6 Тады Ісус пайшоў зь імі. І як Ён
быў недалёка ад дому, сотнік па-
слаў прыяцеляў да Яго, кажучы
Яму: „Спадáру! ня трудуйся, бо я
ня гожы, каб Ты ўвыйшоў пад
страху маю. 7 Затым і я не ўважаў
сябе за гожага прыйсьці да Цябе;
але скажы слова, і слуга мой будзе
ўздароўлены. 8 Бо я таксама чала-
век падуладны, маючы пад сабою
жаўнераў, і кажу аднаму: ,Ідзі', і
йдзець; і другому: ,Прыйдзі', і пры-
ходзе; і паслугачаму свайму: ,Рабі
гэта', і робе". 9 Пачуўшы гэта, Ісус
зьдзіваваўся зь яго і, абярнуўшыся,
сказаў груду, што йшоў за Ім: „Ка-

жу вам, што і ў Ізраелю Я не знайшоў такое вялікае веры". 10 І пасла́ныя, зьвярнуўшыся двору, засьпелі хворага слугу здаровага.

11 І дзень пасьлей сталася, што Ён пайшоў да места, званага Наін; і зь Ім ішло шмат із ву́чанікаў Ягоных і шмат гурбы. 12 Якжа Ён дабліжыўся да месцкае брамы, гля, там выносілі нябожчыка, адзінага сына ў маці сваёй, а яна была́ ўдава; і ладны груд ізь места быў зь ёй. 13 І, абачыўшы яе, Спадар зжаліўся над ёю і сказаў ёй: „Ня плач". 15 І, падышоўшы, даткнуўся да нашулкаў, а тыя, што не́сьлі, адзержыліся; і Ён сказаў: „Маладзёне! табе кажу, устань". 15 Нябожчык, падняўшыся, сеў і пачаў гу́каць; і аддаў яго маці ягонай. 16 І абняў усіх страх, і славілі Бога, кажучы: „Вялікі прарока паўстаў памеж нас" і „Бог даведаўся да люду Свайго". 17 І галасы пайшлі празь Яго па ўсёй Юдэі а па ўсёй аколіцы.

18 І ву́чанікі Янавы наказалі яму праз усі гэтыя падзеі. 19 І Ян, пагука́ўшы двух вучанікаў сваіх, паслаў да Ісуса, кажучы: „Ці Ты тый, што мае прыйсьці, ці чакаць нам іншага?" 20 Прышоўшы да Яго, тыя мужы сказалі: „Ян Хрысьціцель паслаў нас да Цябе, кажучы: ‚Ці Ты тый, што мае прыйсьці, ці маем чакаць іншага?' " 21 І тае самае гадзіны Ён шмат каго ўздаравіў ад хваробаў а болькаў а нячысьцікаў, і шмат якім нявісным даў відзеньне. 22 Тады Ісус, адказуючы, сказаў ім: „Пайдзіце й паведаміце Яну, што вы бачылі й чулі: што нявісныя празіраюць, кульгавыя ходзяць, пракажаныя ачышчаны, глухія чуюць, мертвыя ўскрысаюць, бедным абяшчаецца дабравесьць. 23 І дабраславёны, хто не спакусіцца перазь Мяне!"

24 А, як пасланцы Янавы пайшлі, Ён пачаў гу́каць люду празь Яна: „Чаго глядзець хадзілі вы на пустыні? трысьціны хістанае ветрам? 25 Чаго ж глядзець хадзілі вы? чалавека, што адзеўшыся ў мяккое адзецьце? Гля, у каралеўскіх палацах тыя, што багата адзеўшыся й раскошна жывуць. 26 Але чаго глядзець хадзілі вы? прарокі? Але, кажу вам, і балей чымся прарокі. 27 Гэты ё, праз каторага напісана: ‚Во, Я пасылаю пасланца Свайго перад відзеньням Тваім, каторы прыгатуе дарогу Тваю перад Табою'. 28 Бо кажу вам: памеж народжаных із жанок няма вялікшага прарокі за Яна Хрысьціцеля; але найменшы ў гаспадарстве Божым вялікшы за яго".

29 І ўвесь люд, што чуў, і мытнікі прызнавалі справядлівасьць Божую, хрысьціўшыся хрыстом Янавым. 30 Але фарысэі а праўнікі адкінулі заме́р Божы ўзглядам сябе, ня хрысьціўшыся ў яго. 31 І Спадар сказаў: „Дык да каго прыраўную людзёў роду гэтага? і да каго яны падобныя? 32 Яны падобныя да дзяцей, што сядзяць на торзе, гука́юць адны адных і гамоняць: ‚Мы дудзелі вам, і вы не скакалі; мы галасілі, а вы ня плакалі'. 33 Бо прышоў Ян Хрысьціцель, ня есьць хлеба ані п'ець віна, і кажаце: ‚У ім нячысьцік'. 34 Прышоў Сын Людзкі, есьць і п'ець, і кажаце: ‚Во жэрлівы чалавек а віназжлоп, прыяцель мытнікаў а грэшнікаў'. 35 Але апраўлена мудрасьць усімі дзецьмі яе".

36 І адзін із фарысэяў папрасіў, каб Ён паспытаўся ежы ў яго; і Ён увыйшоў у дом фарысэяў і ўзьляжаў. 37 І вось, жонка месцкая, грэшніца, даведаўшыся, што Ён узьляжыць у доме фарысэявым, прыне́сла алябастравы слоік масьці. 38 І, стаўшы адзаду ля ног Ягоных, плачучы, пачала́ мыць ногі Ягоныя сьлязьмі, і выцірала валасамі галавы свае, і цалавала ногі Яго, і ма-



сьцяй мазала. 39 Бачачы гэта фарысэй, што Яго быў пазваўшы, сказаў сабе ў думцы: „Калі б Ён быў прарока, то ведаў бы, хто й якая жонка датыкаецца да Яго, бо яна грэшніца". 40 І, адка́зуючы, Ісус сказаў яму: „Сымоне, Я маю штось сказаць табе". Ён кажа: „Кажы, Вучыцелю'. 41 У ваднаго пазычэньніка былі два даўжбіты: адзін вінен быў пяцьсот дынароў, а другі пяцьдзясят. 42 І як яны ня мелі чым заплаціць, ён дараваў абодвым. Дык скажы, каторы зь іх балей будзе любіць яго?" 43 Сымон, адказуючы, сказаў: „Думаю, тый, катораму балей дараваў". Ён сказаў яму: „Ты рассудзіў праўдзіва". 44 І, зьвярнуўшыся да жонкі, сказаў Сымону: „Бачыш гэтую жонку? Я ўвыйшоў у дом твой, ты ня даў Імне вады на ногі Мае; а яна сьлязьмі памыла ногі Мае й выцерла валасамі галавы свае. 45 Ты ня даў Імне цалаваньня, а жонка гэтая, адгэнуль, як Я прышоў, не перастала цалаваць Мяне ў ногі. 46 Ты не памазаў масьцяй галавы Мае, а жонка гэтая памазала масьцяй ногі Мае. 47 Затым кажу табе: дараваны ёй грахі ейныя, каторых шмат, бо яна шмат улюбіла; а каму мала даравана, тый мала любе". 48 І сказаў ёй: „Грахі табе дараваны". 49 І тыя, што ўзьляжалі зь Ім, пачалі гу́каць мяжсобку: „Хто гэта, што й грахі даруе?". І сказаў Ён жонцы: „Вера твая спасла цябе; ідзі ў супакою".

**8** І сталася потым, што Ён падарожжаваў ад места да места і ад сяла до сяла, агалашаючы а абяшчаючы дабравесьць гаспадарства Божага, і дванаццаёх із Ім. 2 І некатрыя жанкі́, каторых Ён уздаравіў ад нячысьцікаў а хваробаў: Марыя званая Магдаленаю, з каторае вышла сем нячысьцікаў, 3 І Яна, жонка Хузіна, загадніка Гірадавага, і Сусанна, і шмат іншых, што служылі Яму сваёй маемасьцяй.

4 І як зьберся груд, і з усіх местаў зыходзіліся да Яго, Ён гу́каў прыпавесьцяй: 5 „Вышаў сяўбіт сеяць сяўбу сваю; і як ён сеяў, адно ўпала край дарогі, і было патаптана, і птушкі нябёсныя паклявалі яго. 6 А другое пала на ска́лу і, абышоўшы, зьвяла, бо ня мела вогкасьці. 7 Іншае ж пала памеж церня, і вырасла церне, і заглушыла яго. 8 А іншае пала на добрую зямлю і, абышоўшы, дало плод сотны". Сказаўшы гэта, загука́ў: „Хто мае вушы чуць, чуй!"

9 І пыталіся ў Яго ву́чанікі Ягоныя: „Што можа значыць прыпаве́сьць гэта?" 10 І Ён сказаў: „Вам дана ведаць тайны гаспадарства Божага, а засталым у прыпавесьцях, каб гледзячы ня бачылі і чуючы не разумелі. 11 А прыпавесьць гэтакая: сяўба ё слова Божае. 12 А палае край дарогі, гэта слухаючыя, да каторых потым прыходзе нячысьцік і выймае слова із сэрцаў іхных, каб, ня верачы, не спасьліся. 13 І палае на ска́лу, ё тыя, што, як пачуюць, прыймаюць слова з радасьцяй, але яны ня маюць караня, верац якісь час і ў часе спакусы адступаюць. 14 І палае памеж церня, ё тыя, што слухаюць слова, але, адходзячы, клопатамі, багацьцям а прыемнасьцьмі жыцьцявымі душацца, і ня сьпеюць. 15 А палае на добрую зямлю, ё тыя, што, пачуўшы слова, дзяржаць у гожым а добрым сэрцу і выдаюць плод у цярплівосьці.

16 „Ніхто, засьвяціўшы ляпну, не накрывае яе судзіною або не станове пад ложак, але стаўляе на падстаноўку, каб уходзячыя бачылі сьвятліню. 17 Бо нічога нямаш тайнага, што ня стала б яўным, ані схаванага, што ня стала б ведамым і ня выявілася б.

18 „Дык уважайце, як вы слухаеце, бо хто мае, таму будзе дадана;

а хто ня мае, у таго адыймецца
й тое, што яму здаецца, што мае".
19 І прышлі да Яго маці а браты
Ягоныя, але не маглі ўзыйсьці да
Яго, з прычыны гурбы. 20 І паве-
дамілі Яму: „Маці а браты Твае
стаяць вонках, хочучы бачыць Ця-
бе". 21 І, адказуючы, сказаў ім:
„Маці Мая а браты Мае тыя, што
слухаюць слова Божае і поўняць
яго".

22 І сталася аднаго дня, што
ўвыйшоў Ён у струг з вучанікамі
Сваімі і сказаў ім: „Пераплывіма на
другі бок возера"; і адамкнулі.

23 А як плылі, Ён заснуў. І ўзьня-
ла́ся бура на возеру, і іх залівала,
і яны былі ў небясьпечнасьці. 24 І,
прыступіўшы, пабудзілі Яго, кажу-
чы: „Вучыцелю! Вучыцелю! гі-
нем". І Ён, прачхнуўшыся, зганіў
вецер а хвалі вады; і перасталі, і
сталася цішыня. 25 А Ён сказаў
ім: „Ідзе вера вашая?" Яны ж, ба-
ючыся, зумяваліся, кажучы адзін
аднаму: „Хто ж гэта, што на'т рас-
казуе вятром а вадзе, і слухаюць
Яго?"

26 І прышлі да краіны Ґадарын-
скае, каторая насупроці Ґалілеі.
27 А як Ён вышаў на зямлю, пе-
раняў Яго адзін чалавек із места,
што меў нячысьцікаў здаўна́, і не
адзяваўся ані жыў у доме, але па-
меж грабоў. 28 Абачыўшы Ісуса,
ён крыкнуў, і паў ніцма перад Ім,
і сказаў вялікім голасам: „Што Табе
да мяне, Ісусе, Сыну Бога Навыш-
няга? прашу Цябе, ня муч мяне".
29 Бо расказаў нячыстаму духу
выйсьці з гэтага чалавека, бо шмат
разоў імаў яго, і сьцераглі яго
зьвяза́нага ланцугамі і ў путах; але
ён разрываў вязі, і гнаў яго ня-
чысьцік на пустыні. 30 І Ісус па-
пытаўся ў яго, кажучы: „Што за
імя твае?" І ён сказаў: „Леґіён", бо
шмат нячысьцікаў было ўвыйшоў-
шы ў яго. 31 І яны прасілі Яго, каб
Ён не казаў ім ісьці ў бяздоньне.
32 І вось, па́сьцілася там на гарах
вялікая чарада сьвіньняў; і прасілі
Яго дазволіць ім увыйсьці ў іх. І Ён
дазволіў ім. 33 Тады нячысьцікі,
вышаўшы зь людзіны, увыйшлі ў
сьвіньні; і рынулася чарада із стро-
мы ў возера, і патанула. 34 А пас-
тухі, абачыўшы, што сталася, уця-
клі й наказалі ў месьце й на сёлах.
35 І вышлі абачыць, што сталася;
і прышлі да Ісуса, і засьпелі чала-
века, з каторага вышлі нячысьцікі,
ля ног Ісусавых седзячага, адзеў-
шыся і ў добрым розуме; і баяліся.
36 І тыя, што бачылі, паведалі ім,
як быў уздароўлены апанаваны ня-
чысьцікамі. 37 І прасіў яго ўвесь
груд аколіцы Ґадарынскае адый-
сьці ад іх, бо агарнуў іх вялікі
страх. Ён увыйшоў у струг і зьвяр-
нуўся.

38 І прасіў Яго чалавек, з като-
рага вышлі нячысьцікі, каб быць
із Ім; але Ісус выправіў яго, ка-
жучы: 39 „Зьвярніся да дому свай-
го і павядай, якія вялікія рэчы
ўчыніў табе Бог". І адышоў, агала-
шаючы па ўсім месьце, якія вялікія
рэчы ўчыніў яму Ісус.

40 І сталася, як Ісус зьвярнуўся,
што груд із радасьцяй прыняў Яго,
бо ўсі чакалі Яго. 41 І вось, прышоў
чалавек, імям Яір, а ён быў на-
чэльнік бажніцы, і, паўшы ў ногі
Ісусу, прасіў Яго, каб увыйшоў у
дом ягоны; 42 Бо ён меў адзіную
дачку год дванаццацёх веку, і тая
канала. А як Ён ішоў, груд цісьнуў
Яго.

43 І жонка, дванаццаць год хво-
рая на крыватак, што ўсю сваю
маемасьць выдала на лекараў і ў ні
воднага не магла вылячыцца,
44 Прыступаючы адзаду, дакрану-
лася да кутаса адзецьця Ягонага,
і якга ейны крыватак запыніўся.
45 А Ісус сказаў: „Хто дакрануўся
да Мяне?" Як жа ўсі перачылі,
Пётра а былыя зь Ім сказалі: „Ву-
чыцелю, груд напірае на Цябе й



цісьне, а Ты кажаш: ‚Хто дакра-
нуўся да Мяне?' " 46 А Ісус ска-
заў: „Хтось даткнуўся да Мяне, бо
Я пазнаў, што моц вышла зь Мя-
не". 47 І як жонка абачыла, што
ня ўтоіцца, падышла дрыжачы і,
ніцма паўшы перад Ім, паведаміла
Яму перад усім людам дзеля чаго
дакранулася да Яго, і як была́ якга
ўздароўлена. 48 І Ён сказаў ёй:
„Высьмелься, дачка! вера твая
ўздаравіла цябе, ідзі ў супакою".

49 Як Ён яшчэ казаў, прыходзе
адзін ад начэльніка бажніцы й ка-
жа яму: „Дачка твая памерла; ня
трудуй Вучыцеля балей". 50 Але
Ісус, пачуўшы, адказаў яму, кажу-
чы: „Ня бойся, адно вер, і яна будзе
ўздароўлена". 51 І, прышоўшы да
дому, не дазволіў нікому ўвыйсьці,
апрача Пётры а Якава а Яана а
айца а маці дзеваччыных. 52 І ўсі
плакалі а галасілі па ёй; але Ён
сказаў: „Ня плачча: яна не памер-
ла, але сьпіць". 53 І сьмяяліся зь
Яго, ведаючы, што яна памерла.
54 Ён жа, выправіўшы ўсіх вонкі,
моцна ўзяў яе за руку́ й гукну́ў,
кажучы: „Дзевачка, устань!" 55 І
дух ейны зьвярнуўся да яе; і яна
якга ўстала, і Ён казаў даць ёй
есьці. 56 І зумеліся бацькі ейныя.
Ён жа расказаў ім нікому ня гу́-
каць праз тое, што сталася.

9 І згу́каўшы дванаццацёх ву́ча-
нікаў Сваіх, даў ім моц а ўладу
над усімі нячысьцікамі і лячыць ад
хваробаў. 2 І паслаў іх абяшчаць
гаспадарства Божае і ўздараўляць
хворых. 3 І сказаў ім: „Не бярыце
нічога ў дарогу, ані посаха, ані
капшука́, ані хлеба, ані грошы, ані
майце кажны двух адзецьцяў. 4 І ў
які-лень дом увыйдзеце, там заста-
вайцеся і стуль адыходзьце. 5 А ка-
лі йдзе ня прыймуць вас, выходзя-
чы зь места таго, атрасіце таксама
й тый пыл із ног сваіх, на сьвет-
чаньне на іх. 6 І вышаўшы, хадзілі
скрозь па местачках, абяшчаючы
Дабравесьць і ўздараўляючы ўсю-
дых.

7 Пачуў Гірад чацьвертнік праз
усе, што Ён дзеяў, і заклапаціўся, бо
некатрыя дзейкалі, што Яан ускрэс
із мертвых; 8 А іншыя, што Ільля
зьявіўся, і іншыя, што адзін із ста-
равечных прарокаў ускрэс. 9 І ска-
заў Гірад: „Яана я сьцяў; хто ж ё
гэта, праз каторага я чую такое?"
І стараўся бачыць Яго. 10 І апо-
сталы, зьвярнуўшыся, паведалі
Яму, што зрабілі; і Ён, узяўшы іх,
адышоў асобна на пустыннае месца
места Віфсаіды. 11 А груд, даведаў-
шыся, пайшоў за ім; і Ён веціў іх,
і гу́каў ім праз гаспадарства Божае,
і ўздараўляў тых, што патрабавалі
ўздараўленьня. 12 І як дзень пачаў
хінуцца да вечара, тады прыступілі
дванаццацёх і сказалі Яму: „Распу-
сьці гурбу, каб яны пайшлі да ака-
лічных местачкаў а сёлаў начаваць,
каб знайшлі еміны, бо мы тут на
пустынным месцу". 13 Але Ён ска-
заў ім: „Вы дайце ім есьці". Яны ж
сказалі: „У нас няма балей за пяць
букаткаў і дзьве рыбы; хіба пай-
сьці й купіць ежы ўсяму люду гэ-
таму?" 14 Бо іх было каля пяцёх
тысячаў чалавекаў. Але Ён сказаў
ву́чанікам Сваім: „Рассадзіце іх
груда́мі па пяцьдзясят". 15 І яны
зрабілі так, і рассадзілі ўсіх. 16 Та-
ды Ён узяў пяць букаткаў і дзьве
рыбы, глянуўшы на неба, і дабра-
славіў іх, і ламіў, і даваў, ву́чані-
кам, пасуліць кажнаму з гурбы.
17 І елі, і пад'елі, і ўзялі́ лішніцы
дванаццаць кашоў кавалкаў.

18 І сталася, як Ён маліўся апрыч,
што ву́чанікі Ягоныя былі́ зь Ім.
І Ён папытаўся ў іх, кажучы: „За
каго Мяне гурба мае?" 19 Яны, ад-
казуючы, сказалі: „За Яана Хры-
сьціцеля, а некатрыя за Ільлю, а
іншыя, што адзін із старавечных
прарокаў ускрэс". 20 Ён сказаў ім:
„А вы за каго Мяне маеце?" Пётра,

адказуючы, сказаў: „За Хрыста Бо-
жага".
21 Але Ён стродка расказаў ні-
кому гэтага не казаць, 22 Кажучы:
„Сын Людзкі мае шмат цярпець,
і быць адхіненым старцамі а най-
вышшымі сьвятарамі а кніжнікамі,
і быць забітым, а на трэйці дзень
ускрэснуць".
23 I сказаў усім: „Калі хто хоча
йсьці за Імною, адрачыся самога
сябе, бяры крыж свой на кажны
дзень і йдзі за Імною. 24 Бо хто
хоча жыцьцё свае захаваць, тый
згубе яго; а хто згубе жыцьцё свае
дзеля Мяне, тый захавае яго. 25 Бо
што за карысьць людзіне прыдбаць
увесь сьвет, а сябе самога загубіць
альбо сабе пашкодзіць? 26 Бо хто
засароміцца Мяне а словаў Маіх,
таго Сын Людзкі засароміцца, як
прыйдзе ў славе Сваёй а Айцовай
а сьвятых ангілаў.
27 „Бо кажу вам праўду: ё не-
катрыя із стаячых тут, катрыя не
паспытаюцца сьмерці, пакуль не
абачаць гаспадарства Божага".
28 I сталася за дзён восьмі ад гэ-
тае мовы, што, узяўшы Пётру, Яана
а Якава, узышоў Ён на гару маліц-
ца. 29 I сталася, як маліўся, што
выгляд віду Ягонага адмяніўся, і
адзецьце Ягонае стала белае, блі-
скучае. 30 I вось, два мужы мужа-
валі зь Ім, катрыя былі Масей а
Ільля. 31 Зьявіўшыся ў славе, му-
жавалі праз выхад Ягоны, каторы
Ён меў зьдзеяць у Ерузаліме. 32 А
Пётра а былыя зь ім аццяжараныя
былі сном; а як прачхнуліся, аба-
чылі славу Ягоную і двух мужоў,
што стаялі зь Ім. 33 I сталася, як
яны адходзілі ад Яго, што Пётра
сказаў Ісусу: „Вучыцелю, добра
нам тут быць: зрабіма тры буданы,
адзін Табе, і адзін Масею, і адзін
Ільлі", ня ведаючы, што гу́каў.
34 Як ён гэтак гу́каў, найшоў булак
і ахінуў іх; і яны спалохаліся, як
увыйшлі ў булак. 35 I пачуўся го-



лас із булаку́, кажучы: „Гэта Сын
Мой любовы; Яго слухайце". 36 Як
пачуўся голас гэты, Ісус застаўся
адзін. I яны маўчэлі, і нікому не
казалі тых дзён нічога з таго, што
бачылі.
37 I сталася, што наступнога дня,
як яны зышлі з узгорку, шмат
гурбы пераняло Яго. 38 I вось, ча-
лавек із гурбы загука́ў, кажучы:
„Вучыцелю! малю Цябе, глянь на
сына майго, бо ён — адзінае дзяцё
мае. 39 Яго хапае дух, і ён зьне-
цікі крычыць, і кі́дае ім ізь пенаю;
і, раніўшы яго, ледзь адыходзе ад
яго. 40 I я прасіў ву́чанікаў Тваіх
выгнаць яго, але яны не маглі".
41 Ісус жа, адказуючы, сказаў: „О
родзе, няверны а крутадушны! па-
куль буду з вамі і буду цярпець
вас? Прывядзі сына свайго сюды".
42 I як тый яшчэ йшоў, нячысьцік
ірваў яго і моцна кі́даў; але Ісус
зганіў нячысьціка, і ўздаравіў дзя-
цюка, і аддаў яго айцу ягонаму.
43 I зумяваліся усі з магутнасьці
сілы Божае.
А як усі дзіваваліся з усяго, што
ўчыніў Ісус, Ён сказаў ву́чанікам
Сваім: 44 „Улажыце вы сабе ў ву-
шы словы гэтыя: Сын Людзкі́ бу-
дзе выданы ў рукі людзкі́я". 45 Але
яны не разумелі слова гэтага, і яно
было цьмянае ім, каб яны не спа-
тачылі яго; і пытацца ў яго праз
гэтае слова баяліся.
46 Узьнікла сьпярэчка памеж іх,
каторы зь іх быў бы найвялікшы.
47 Ісус жа, ведаючы сьпярэчкі сэр-
ца іхнага, узяўшы дзяцё, пастана-
віў яго ля сябе 48 I сказаў ім: „Хто
прыйме дзяцё гэтае ў імя Мае, Мя-
не прыйме; а хто прыйме Мяне,
прыйме таго, хто паслаў Мяне; бо
хто найменшы памеж усіх вас, тый
будзе вялікі".
49 I Яан, адказуючы, сказаў: „Ву-
чыцелю! мы бачылі чалавека, што
імям Тваім выганяў нячысьцікаў,
і забаранілі яму, бо ён ня ходзе



з намі". 50 А Ісус сказаў яму: „Не
бараніце, бо хто ня супроці нас, тый
за нас".
51 I сталася, як бліжэў час, што
Ён меў быць узяты ўгару, Ён ста-
наўко пастанавіў ісьці да Ерузаліму.
52 I паслаў пасланцоў перад ві-
дзеньням Сваім; і яны пайшлі, і
ўвыйшлі ў сяло самарскае, каб зра-
біць прыгатову Яму. 53 I не пры-
нялі Яго, бо відзеньне Ягонае было
зьвернена да Ерузаліму. 54 I, ба-
чачы гэта, ву́чанікі Ягоныя, Якаў
а Яан, сказалі: „Спада́ру! калі хо-
чаш, мы скажам, каб агонь зышоў
зь неба й спаліў іх, як і Ільля зра-
біў?". 55 Але Ён, абярнуўшыся,
зганіў іх, кажучы: „Ня ведаеце,
чыйго вы духу; 56 Бо Сын Людзкі
ня прышоў губіць жыцьці людзкія,
але спасаць". I пайшлі да другога
сяла.
57 I сталася, што, як яны йшлі
дарогаю, хтось сказаў Яму: „Я пай-
ду за Табою, куды толькі Ты пой-
дзеш". 58 Ісус жа сказаў яму: „Лісы
маюць норы, і птушкі нябёсныя —
гнезды, але Сын Людзкі ня мае
йдзе галавы прытуліць".
59 I сказаў другому: „Ідізі за
Імною". Але ён сказаў: „Спада́ру!
дазволь імне сьпярша пайсьці й па-
хаваць айца свайго". 60 Ісус сказаў
яму: „Няхай мертвыя хаваюць мер-
твых, але ты йдзі й абяшчай гаспа-
дарства Божае".
61 I іншы таксама сказаў: „Спа-
да́ру! я пайду за Табою, але да-
зволь імне сьпярша пайсьці разьві-
тацца з хатнімі сваімі". 62 Ісус жа
сказаў яму: „Ніхто, хто кладзець
руку́ сваю на плуг і азіраецца на-
зад, ня гожы да гаспадарства Бо-
жага".
10 Просьле гэтага Спадар прызна-
чыў іншых семдзясят і паслаў
іх па двух перад відзеньням Сваім
да кажнага места а месца, куды
Сам маніўся йсьці. 2 I сказаў ім:
„Жніво запраўды вялікае, але ра-



ботнікаў мала; дык маліце Спадара,
каб выправіў работнікаў да жніва
Свайго. 3 Ідзіце; вось, Я пасылаю
вас, як ягняты памеж ваўкоў. 4 Не
нясіце із сабою ані хатуля, ані кап-
шука, ані вобую, і нікога не зда-
роўце на дарозе. 5 I ў які дом увый-
дзеце, найперш скажыце: ‚Супакой
дому гэтаму'. 6 I калі будзе там сын
супакою, супакой ваш супачыне на
ім; калі не, ён зьвернецца да вас.
7 I ў тым самым доме заставайцеся,
ядучы й п'ючы тое, што ё ў іх, бо
гожы работнік заплаты свае; не
пераходзьце з дому да дому. 8 I да
якога места прыйдзеце, і прыймуць
вас, ежча, што пастановяць перад
вамі. 9 I ўздараўляйце хворых у ім,
хто ёсьць у ім, і кажыце ім: ‚Блі-
жыцца да вас гаспадарства Божае'.
10 Калі ж увыйдзеце ў якое места,
і ня прыймуць вас, то, вышаўшы
на вуліцу, скажыце: 11 ‚I пыл,
прыліплы да нас ізь места вашага,
страсаем вам із ног нашых; ведай-
це, адылі, што дабліжылася да вас
гаспадарства Божае'. 12 Але кажу
вам, што Садоме таго дня лацьвей
будзе, чымся месту таму.
13 „Бяда табе, Хоразыне! Бяда
табе Віфсаіда! бо калі б магучыя
ўчынкі сталіся ў Тыру а Сыдоне,
якія сталіся ў вас, яны даўно па-
каяліся б, седзячы ў зрэб'ю а по-
пеле. 14 Але лацьвей будзе Тыру
а Сыдону на судзе, чымся вам.
15 I ты, Капернауме, што аж да
неба ўзьняўся, аж да пеклы ськіве-
ны будзеш. 16 Хто слухае вас, слу-
хае Мяне; і хто грэбуе вамі, грэбуе
Імною; а хто грэбуе Імною, грэбуе
Тым, хто паслаў Мяне".
17 Семдзясят зьвярнуліся з рада-
сьцяй, кажучы: „Спада́ру! навет
нячысьцікі паддаюцца нам у імя
Твае". 18 Ён жа сказаў ім: „Я ба-
чыў шайтана́, што, як маланьня, ва-
ліўся зь неба. 19 Во, даю вам уладу
таптаць га́ды а скарпіёны і ўсю
моц не́прыяцельскую, і нішто ніяк

вам не пашкодзе. 20 Ня цешчася,
адылі, з таго, што духі вам пад-
даюцца; але валей цешчася з таго,
што ймёны вашыя напісаныя на
нябёсах".

21 Тае ж гадзіны Ісус цешыўся
ў Духу Сьвятым і сказаў: „Дзякую
Табе, Войча, Спада́ру неба й зямлі,
што Ты схаваў гэта ад мудрых а
разумных і аб'явіў гэта бязьлеткам.
Але, Войча, бо так зьлюб было Та-
бе.

22 „Усе перада́на Імне Айцом
Маім; і ніхто ня ведае, хто ё Сын,
апрача Айца; і хто ё Айцец, апрача
Сына, і каму Сын хоча аб'явіць".

23 І, зьвярнуўшыся да ву́чанікаў,
сказаў ім апрыч: „Шчасьлівыя во-
чы, каторыя бачаць, што вы бачы-
це! 24 Бо кажу вам, што шмат якія
прарокі а каралёве хацелі бачыць,
што вы бачыце, але ня бачылі, і
чуць, што вы чуеце, але ня чулі".

25 І вось, адзін праўнік устаў і,
спакушаючы Яго, сказаў: „Вучы-
целю! што я маю рабіць, каб спала
імне жыцьцё вечнае?" 26 І Ён ска-
заў яму: „У законе што напісана?
як чытаеш?" 27 А ён, адказуючы,
сказаў: „Любі Спадара Бога свайго
з усяго сэрца свайго, і з усяе душы
свае, із усяе сілы свае, і з усяе
думкі свае, і прыяцеля свайго, як
самога сябе". 28 І сказаў яму: „До-
бра ты адказаў; гэтак рабі, і бу-
дзеш жыць". 29 Але ён, хочучы
апраўіцца, кажа Ісусу: „А хто мой
прыяцель?" 30 І, адказуючы, Ісус
сказаў: „Адзін чалавек ішоў зь Еру-
заліму да Ерыхону і лу́чыў памеж
разбойнікаў, каторыя зьдзерлі зь
яго адзецьце, і ранілі, і адышлі,
пакінуўшы яго паў мертвага. 31 І
прыгадзілася, што тудэй зыходзіў
адзін сьвятар і, згледзіўшы яго,
прайшоў другім бокам. 32 Падобна й
Левіт, быўшы на тым месцу, пады-
шоў, паглядзеў і прайшоў другім
бокам. 33 Але Самаранін якісь, па-
дарожжуючы, лу́чыў на яго і, аба-
чыўшы яго, зжаліўся над ім. 34 І
падышоў да яго, завязаў раны яму,
узьліўшы алівы а віна; і, пасадзіў-
шы яго на стачыну сваю, прывёз
яго да заезду і заапекаваўся ім.
35 А назаўтрае, ад'яжджаючы, вы-
няў два дынары, даў гаспадару і
сказаў яму: ‚Заапякуйся ім; і што
балей выдасі, я, як зьвярнуся, ад-
дам табе'. 36 Дык каторы з гэтых
трох, здаецца табе, прыяцель таму,
хто лу́чыў памеж разбойнікаў?"
37 І ён сказаў: „Тый, што зьміла-
ва́ўся над ім". І сказаў яму Ісус:
„Ідзі, і ты рабі таксама".

38 І сталася, як ішлі, што Ён
увыйшоў да аднаго сяла. 39 Жонка
ж адна, імям Мархва, прыняла́ Яго
да дому. 39 І ў яе была́ сястра, зва-
ная Марыя, каторая села ля ног
Ісусавых і слухала слова Ягонае.
40 Але Мархва клапатала каля
шмат паслугі, а, падышоўшы да
Яго, сказала: „Спада́ру; ці не па-
рушае Цябе, што сястра мая пакі-
нула мяне адну паслугаваць? Дык
скажы ёй, каб памагла імне". 41 І,
адказуючы, сказаў ёй Ісус: „Мар-
хва! Мархва! ты рупішся а клапо-
цішся праз шмат што; 42 Але з мала
чаго аднаго надабе. І Марыя абрала
добрую дзель, каторая ня будзе ад-
нята ад яе".

11 І сталася, як Ён на адным
месцу маліўся, і перастаў, што
адзін із ву́чанікаў ягоных сказаў
Яму: „Спада́ру, навучы нас маліц-
ца, як і Яан навучыў ву́чанікаў сва-
іх". 2 І Ён сказаў ім: „Калі молі-
цеся, кажыце: ‚Войча наш, Каторы
ёсьць у небе! сьвяціся імя Твае;
прыйдзі гаспадарства Твае; будзь
воля Твая, як на небе, так на зямлі.
3 Хлеба нашага штадзеннага дай
нам што дня; 4 І даруй нам грахі
нашыя, бо й мы даруем кажнаму
даўжбіту нашаму; і ня ўводзь нас
на спакусу, але збаў нас ад злога".

5 І сказаў ім: „Каторы з вас будзе



мець прыяцеля, і прыйдзе да яго
а поўначы, і скажа яму: ‚Прыяце-
лю, пазыч імне тры букаткі; 6 Бо
прыяцель мой з дарогі зайшоўся да
мяне, і я ня маю нічога пасуліць
яму'. 7 А тый з хаты адкажа й ска-
жа: ‚Не парушай мяне; дзьверы
ўжо замкнёны, і дзеці мае з імною
ў ложку; не магу ўстаць і даць
табе'. 8 І кажу вам, хоць ён ня ўста-
не й ня дасьць яму з прыязьні;
з начэпнасьці ягонае, адылі, устаў-
шы, дасьць яму, колькі патрабуе.
9 І Я кажу вам: прасіце, і дасца
вам; шукайце, і знойдзеце; стукай-
це, і адчыняць вам; 10 Бо кажны,
хто просе — адзержуе; і хто шукае
— знаходзе; і таму, хто стукае —
адчыняюць.

11 „І калі б у каторага з вас
айца сын папрасіў хлеба, ці па-
дасьць яму камень? альбо рыбы, ці
падасьць яму гада замест рыбы?
12 Альбо, калі папросе яйца, ці
падасьць яму скарпіёна? 13 Дык
калі вы, благія, умееце даваць до-
брыя падаркі дзяцём сваім, пага-
тове Айцец нябёсны дасьць Духа
Сьвятога тым, што ў Яго просяць".

14 І Ён выгнаў нячысьціка, като-
ры быў немы; і сталася, як нячы-
сьцік вышаў, што немы гу́каў; і
груд дзіваваўся. 15 Але некатрыя
зь іх гу́калі: „Ён выганяе нячы-
сьцікаў сілаю веельзэвула, князя
нячысьцікаў".

16 А іншыя, спакушаючы, прасілі
ў яго знаку зь неба.

17 Але Ён, ведаючы паду́мкі іх-
ныя, сказаў ім: „Кажнае гаспадар-
ства, падзеленае само ў сабе, пу-
сьцее; і дом, падзелены сам у сабе,
валіцца. 18 Калі шайтан таксама
падзеліцца сам у сабе, як устое гас-
падарства ягонае? А вы гу́каеце,
што Я веельзэвулам выганяю чар-
тоў. 19 І калі Я веельзэвулам вы-
ганяю нячысьцікаў, то сынове ва-
шыя кім выганяюць? Дык яны бу-
дуць вам судзьдзямі. 20 Але калі
Я палцам Божым выганяю нячы-
сьцікаў, прышло да вас гаспадар-
ства Божае. 21 Калі дужасіл, узбро-
іўшыся, сьцеражэць палац свой, у
бясьпечнасьці маемасьць ягоная. 22
Але калі дужшы за яго нападзець
на яго і параможа яго, ён адбярэць
у яго ўсю зброю ягоную, на като-
рую ён спадзяваўся, і падзеле за-
грабленае ў яго. 23 Хто ня з Імною,
тый супроці Мяне; і хто ня зьбі-
рае зь Імною, раськідае.

24 „Як нячысты дух выйдзе зь
людзіны, ходзе па сухіх месцах, шу-
каючы супачынку, і, не знаходзя-
чы, кажа: ‚Зьвярнуся да дому свай-
го, скуль вышаў'. 25 І, прышоўшы,
знойдзе яго падмеценым а прыбра-
ным. 26 Тады йдзець і бярэць сямёх
іншых духоў, негаднейшых за сябе,
і, увыйшоўшы, жывуць там. І апош-
няе таму чалавеку горшае за пер-
шае".

27 І сталася, як Ён гу́каў гэта,
што адна жонка з груду ўзьняла́
голас свой і сказала яму: „Дабра-
славёнае ўлоньне, што насіла Цябе,
і пелькі, каторыя Ты ссаў". 28 А Ён
сказаў: „Але дабраславеншыя ж
тыя, што слухаюць слова Божае
і дзяржаць яго".

29 Як жа люд ціснуўся, Ён пачаў
гу́каць: „Род гэты ліхі; яны знаку
шукаюць, і знак ня дасца яму,
апрача знаку Ёны прарокі; 30 Бо,
як Ёна быў знакам Нінявянам, так
і Сын Людзкі будзе знакам гэтаму
роду.

31 „Караліца паўднявая паўстане
на суд із людзьмі роду гэтага і за-
судзе іх, бо яна прышла з канцоў
зямлі слухаць мудрасьць Салямона-
ву; і во, вялікшы за Салямона тут.
32 Нінявяне паўстануць на суд із
родам гэтым і засудзяць яго, бо яны
пакаяліся на ка́зань Ёніну; і во,
вялікшы за Ёну тут.

33 Ніхто, засьвяціўшы ляпу, не
станове яе ў патайным месцу ані

пад карэц, але на падстаноўку, каб праходзячыя бачылі сьвятліню.

34 Лянпа цела ё вока; дык, калі вока твае здаровае, то і ўсе цела твае поўнае зырчыні; але калі благое, цела твае таксама поўнае цямноты. 35 Дык уважай, каб сьвятліня, што ёсьць у табе, ня была́ цямнотаю. 36 А калі ўсе цела твае зыркае, бяз часьці цемнага, усе будзе зыркае, як калі лянпа, сьвецячы, зьзяе".

37 І, як Ён гу́каў, адзін фарысэй прасіў яго палуднаваць із ім; Ён прышоў і ўзьлёг ля столу. 38 І фарысэй зьдзіваваўся, як абачыў, што Ён ня мыўся перад палуднем. 39 І Спадар сказаў яму: „Цяпер вы, фарысэі, чысьціце навоннасьць коўняў а місаў, але нутр вашы поўны грабяжу а нягоднасьці. 40 Неразумныя! ці ня тый, што ўчыніў навоннае, учыніў і нутраное? 41 Але валей давайце ўбожыну з таго, што маеце, і вось, усе ў вас будзе чыстае. 42 Але бяда вам, фарысэі! бо вы даіце́ дзесяціну зь мяты, руты і ўсялякага зельля, але абмінаеце суд а любоў Божую; гэта належыла рабіць, і гэнага не пакідаць. 43 Бяда вам, фарысэі! бо вы любіце першыя месцы ў бажніцах і здарованьні на таргох. 44 Бяда вам, кніжнікі а фарысэі, двудушнікі! бо вы, як грабы нявідомыя, і людзі ходзяць над імі, ня ведаючы гэтага".

45 Тады адзін із праўнікаў, адказуючы, казаў Яму: „Вучыцелю! гэта кажучы, Ты й нас зьневажаеш". 46 І Ён сказаў: „І вам, праўнікі, бяда, бо вы цяжарыце людзёў цяжарамі нявыноснымі, а самы адным палцам сваім не датыкаецеся да цяжараў. 47 Бяда вам! бо вы будуеце помнікі прарокам, а айцове вашы забілі іх. 48 Дык вы сьветчыце, што пацьвярджаеце ўчынкі айцоў вашых, бо яны запраўды забілі іх, а вы будуеце ім помнікі. 49 Затым і Мудрасьць Божая сказала: ‚Я пашлю ім прарокаў а апосталаў, і зь іх заб'юць, і будуць перасьледава́ць;' 50 Каб кроў усіх прарокаў, разьлітая ад закладзінаў сьвету, была спагнана з гэтага роду, 51 Ад крыві Авеля аж да крыві Захары, што загінуў памеж аброчніку й Дому. Запраўды кажу вам, яна будзе спагнана з роду гэтага. 52 Бяда вам праўнікі! бо вы ўзялі ключы веды; самы ня ўвыйшлі і ўходзячым пераказілі".

53 Як Ён гу́каў ім гэта, кніжнікі а фарысэі пачалі надта націскаць на Яго, каб прысіліць Яго гу́каць шмат праз што, 54 Цікуючы на Яго і імкнучыся схапіць што-лень із вуснаў Ягоных, каб магчы абвінаваць Ягo.

12 Прымеж таго, як зьберліся тысячы груду, ажно ціснулі адны адных, Ён пачаў казаць найперш ву́чанікам Сваім: „Сьцеражыцеся закісі фарысэйскае, каторая ё двудушнасьць. 2 Бо няма нічога закрытага, што не адкрылася б, і тайнага, чаго не даведаліся б. 3 Затым тое, што вы гу́калі ў цямноце, пачуюць у сьвятліні; і што шапталі ў пакоях, будзе агалошана на стрэхах.

4 „І кажу вам, прыяцелям Сваім: ня бойцеся тых, што забіваюць цела, а потым ня маюць нічога балей зрабіць. 5 Але скажу вам, каго баяцца: бойцеся таго, хто, па забіцьцю, мае ўладу укінуць у пеклу; але, кажу вам, таго бойцеся.

6 „Ці ня пяць вераб'ёў прадаюць за два пенязі? і ні водзін із іх не забыты ў Бога. 7 А нават валасы на галаве вашай усі палічаны. Дык ня бойцеся; вы дарожшыя за шмат вераб'ёў.

8 „Але кажу вам: хто вызнае Мяне перад людзьмі, таго Сын Людзкі вызнае перад ангіламі Божымі. 9 А хто запрэцца Мяне перад людзьмі, таго адракуцца перад ангіламі Божымі. 10 І кажнаму, хто скажа



слова на Сына Людзкога, будзе даравана яму, але хто блявузґае на Духа Сьвятога, таму ня будзе даравана.

11 „І калі прывядуць вас да бажніцаў і да старцоў а да ўлады, не клапаціцеся як альбо што вам адказаць, альбо што сказаць: 12 Бо Сьвяты Дух навуча вас тае ж гадзіны, што маеце казаць".

13 І адзін із груду сказаў Яму: „Вучыцелю, скажы брату майму, каб ён падзяліў з імною спадак". 14 Але Ён сказаў яму: „Чалавеча, хто прызначыў Мяне за судзьдзю альбо за дзельніка памеж вас?" 15 І сказаў ім: „Глядзіце, сьцеражыцеся ґа́льлівасьці, бо жыцьцё чалавечае не залежа ад дастатку нечага, каторы ён мае".

16 І сказаў ім прыпавесьць, кажучы: „Зямля аднаго багатыра дала́ добры ўрод. 17 І ён разважаў сам із сабою, кажучы: ‚Што імне рабіць? бо я ня маю месца, ідзе скласьці плады свае'. 18 І сказаў: ‚Во, што зраблю: разбуру сьвірны свае, і пастанаўлю большыя, і там памяшчу ўрод свой а маемасьць сваю, 19 І скажу душы сваёй: душа, шмат дабра маеш складзенага на шмат год; супачывай, еж, пі, весяліся'. 20 Але Бог сказаў яму: ‚Дурню, гэтае ночы душу́ тваю вымагуць ад цябе, дык каму дастане́цца тое, што ты прыдбаў?'. 21 Гэтак, хто зьбірае скарбы свае, але не багаты ў Богу".

22 І сказаў ву́чанікам Сваім: „Затым кажу вам: не клапаціцеся праз жыцьцё свае, што будзеце есьці, ані празь цела, у што адзецца. 23 Жыцьцё большае за ежу, і цела — за адзежу. 24 Паглядзіце на груганы: яны ня сеюць ані жнуць, ня маюць стопак ані сьвірнаў, і Бог жыве іх; колькі ж лепшыя вы за птушкі? 25 І хто з вас, клапоцячыся, можа дадаць росту сабе адзін локаць? 26 Дык калі найменшага гэтага ня можаце зрабіць, нашто клапаціцца праз засталае?

27 „Паглядзіце на лілі, як яны растуць: не працуюць ані прадуць; але кажу вам, што Салямон у вусёй славе сваёй не адзяваўся, як адна зь іх. 28 Дык калі Бог так адзяець траву, што сядні ё на полю, а заўтра будзе ўкінена ў печ; пагатове вас, малаверныя.

29 „І ня шукайце, што будзеце есьці альбо што піць, і не клапаціцеся, 30 Бо гэтага ўсяго шукаюць народы гэтага сьвету, а ваш Айцец ведае, чаго вам надабе. 31 Але валей шукайце гаспадарства Божага, а ўсе гэта дадасца вам.

32 „Ня бойся, чародка! бо падабалася Айцу вашаму даць вам гаспадарства. 33 Прадавайце маемасьць сваю і давайце ўбожыны. Гатуйце сабе мяхі нестарэючыя, скарб на нябёсах, каторы ня гіне, ідзе злодзей ня бліжыцца ані моль ня псуець; 34 Бо йдзе скарб вашы, там і сэрца вашае будзе.

35 „Няхай сьцёгны вашы будуць падпераза́ныя і лянпы гаручыя: 36 І вы будзеце падобныя да людзёў, што чакаюць спадара свайго, калі ён зьвернецца зь вясельля, каб, як ён прыйдзе а пастукае, зараз адамкнуць яму. 37 Шчасьлівыя слугі тыя, каторых спадар, прышоўшы, засьпее чукавых; запраўды кажу вам, што ён падпяражацца, і пасадзе іх, і, падходзячы, будзе паслугаваць ім. 38 І калі ў другую, і калі ў трэйцюю варту прыйдзе, і засьпее так — шчасьлівыя слугі тыя.

39 „І тое ведайце, што калі б гаспадар дому ведаў, каторае гадзіны прыйдзе злодзей, ён ня спаў бы і не дазволіў бы падкапацца пад дом свой. 40 Затым таксама будзьце гатовы, бо Сын Людзкі прыйдзе тае гадзіны, калі ня думаеце".

41 Тады Пётра сказаў Яму: „Спада́ру, Ты гу́каеш прыпаве́сьць нам, ці таксама ўсім?" 42 І Спадар ска-

заў: „Дык хто ё тый верны а му-
дры дамавер, каторага Спадар па-
станавіў над чэлядзяй Сваёй, даваць
дзель ежы ў пару? 43 Шчасьлівы
слуга, каторага спадар ягоны, пры-
шоўшы, засьпее так робячы. 44 Зап-
раўды кажу вам, што прызнача яго
за загадніка над усёй маемасьцяй
сваёй. 45 Але калі слуга скажа ў
сэрцу сваім: ‚Спадар мой позьніцца
прысьці'; і пачнець біць слугаў а
служэбкі, і есьці а піць а п'янчыцца,
46 То прыйдзе спадар слугі таго
дня, калі ён не спадзяецца, і гадзі-
ны, што ён ня ведае, і патнець яго,
і прызнача яму дзель ізь няверными.
47 Слуга ж тый, што ведаў волю
спадара свайго, і не прыгатаваўся
ані зрабіў подле волі ягонае, будзе
шмат біты. 48 А каторы ня ведаў
і зрабіў гожае біцьця, будзе біты
мала. Бо каму шмат дана, з таго
будзе шмат вымагацца; і каму шмат
паручылі, з таго балей спаганяць
будуць.

49 „Агонь прышоў Я пусьціць на
зямлю, і як хацеў бы, каб ён ужо
загарэўся! 50 Хрыстом Я маю хры-
сьціцца, і як Я тамуюся, пакуль
гэта зьдзеецца!

51 „Ці думаеце, што Я прышоў
даць супакой на зямлі? Не, кажу
вам, але барждзэй падзел. 52 Бо
адгэтуль пяцёх у вадным доме бу-
дуць падзяліўшыся: тры супроці
двух, і два супроці трох. 53 Будуць
падзяліўшыся: айцец супроці сына,
і сын супроці айца; маці супроці
дачкі, і дачка супроці маці; сьвяк-
рывя супроці нявесткі, і нявестка
супроці сьвякрыві".

54 Сказаў жа й груду: „Як вы
бачыце хмару, што падыймаецца із
захаду, зараз кажаце: ‚Будзе лі-
вун'; і дзеецца гэтак. 55 І як паў-
днявы вецер вее, кажаце: ‚Будзе га-
рачыня'; і бывае. 56 Двудушнікі!
від неба й зямлі вы ведаеце як ад-
розьневаць, але як гэта ё, што ня
можаце адрозьневаць гэтага часу?
57 Але і чаму нават па самых сабе
ня судзіце, што справядлівае?

58 „Як ты йдзеш да старца з пра-
ціўнікам сваім, на дарозе пастарай-
ся вывальніцца ад яго, каб ён ня
прывёў цябе да судзьдзі, а судзьдзя
не аддаў цябе паслугачаму, а па-
слугачы ня ўкінуў цябе ў вязьніцу.
59 Кажу табе: ня выйдзеш стуль,
пакуль не заплаціш да апошняга
пенязя.

13 У тым часе былі прытомныя
некатрыя, што наказалі Яму
праз Галілеян, каторых кроў зьмя-
шаў Пілат із аброкамі іхнымі. 2 І,
адказуючы, Ён сказаў ім: „Ці ду-
маеце вы, што тыя Галілеяне былі
грэшнікі большыя за ўсіх Галілеян,
што так пацярпелі? 3 Не, кажу вам,
але, калі не пакаецеся, усі таксама
загінеце. 4 Альбо, ці думаеце, што
тых асьмінанцацёх, на каторых за-
валілася вежа Сілоамская й забіла
іх, былі віншыя за ўсіх людзёў, што
жывуць у Ерузаліме? 5 Не, кажу
вам, але, калі не пакаецеся, усі так-
сама загінеце".

6 І сказаў ім гэтую прыпавесьць:
„Меў хтось пасаджаную ў вінішчу
сваім фігу; і прышоў шукаць плоду
на ёй, і не знайшоў. 7 І сказаў ві-
нару: ‚Вось, я тры гады прыходжу,
гледзячы плоду на гэтай фізе, і не
знаходжу; сьсячы яе: нашто яна й
зямлю псуець?' 8 Але ён, адказую-
чы, кажа яму: ‚Спада́ру! пакінь яе
й на гэты год, пакуль я абкапаю
яе й абкладу гноям; 9 Ці ня дасьць
плоду; калі не, прасьле таго сьсячы
яе".

10 І вучыў Ён у вадной з бажні-
цаў у сыботу: 11 І вось, была́ жонка,
што мела духа недалужнасьці ась-
мінанцаць год, і яна была́ скорчыў-
шыся, і ані не магла выпрастацца.
12 І Ісус, абачыўшы яе, пагука́ў
і сказаў ёй: „Жонка, ты вывальне-
на ад недалужнасьці свае". 13 І па-
клаў рукі Свае на яе, і яна якга
выпрасталася, і славіла Бога. 14 На-



чэльнік бажніцы, адказуючы, гнева-
ючыся, што Ісус уздаравіў у сыботу,
сказаў груду: „Ё шэсьць дзён, у ка-
торыя належа рабіць, у тыя пры-
ходзьце і ўздараўляйцеся, а ня ў
сыботні дзень". 15 Але Спадар, ад-
казуючы, сказаў: „Двудушнікі! ці
ня кажны з вас адвязуе ў сыботу
вала свайго альбо асла свайго ад
жолабу і вядзець яго паіць? 16 А
гэтую дачку Абрагамову, каторую
шайтан зьвязаў, вось, ужо асьмінан-
цаць год, не належыла вывальніць
ад вязі гэтае ў сыботні дзень?"
17 І, як Ён казаў гэта, усі, што
праціваліся Яму, засаро́міліся, а
ўвесь груд цешыўся з усіх славутых
учынкаў, каторыя былі ўчынены Ім.

18 Ён жа сказаў: „Да чаго па-
добнае гаспадарства Божае? і да
чаго магу прыраўнаваць яго? 19
Яно падобнае да гарчычнага зяр-
няці, каторае, узяўшы, пасадзіў ча-
лавек у гародзе сваім; і вырасла,
і стала вялікім дзервам, і птушкі
нябёсныя перабывалі ў гольлю
яго".

20 І ўзноў сказаў: „Да чаго пры-
раўную гаспадарства Божае? 21 Яно
падобнае да закісі, каторую жонка
узяўшы, уклала ў тры меркі мукі,
пакуль ня ўкісла ўсе".

22 І падарожжаваў Ён перазь
месты а сёлы, вучачы й робячы па-
дарожжа да Ерузаліму. 23 І хтось
сказаў Яму: „Спада́ру! ці мала тых,
што спасаюцца?" Але Ён сказаў ім:
24 „Зглыбока сілуйцеся ўвыйсьці
пераз вузкія дзьверы, бо кажу вам,
шмат хто будзе шукаць увыйсьці,
і ня зможа. 25 Як дамовы гаспадар
устане й замкнець дзьверы, тады вы,
стоячы вонках, будзеце стукаць у
дзьверы, кажучы: ‚Спада́ру! адам-
кні нам'; але Ён, адказуючы, скажа
вам: ‚Ня знаю вас, скуль вы'. 26 Та-
ды пачніцё казаць: ‚Мы елі ў пры-
томнасьці Тваёй і пілі, і Ты вучыў
на вуліцах нашых!' 27 Але Ён ска-
жа: ‚Кажу вам: ня знаю вас, скуль
вы; адступіцеся ад Мяне ўсі дзею-
чыя бясправе'. 28 Там будзе плач
а скрыгот зубамі, як абачыце Абра-
гама а Ісака а Якава і ўсіх пра-
рокаў у гаспадарстве Божым, а сябе
выгнаных вон. 29 І прыйдуць із
усходу а захаду а з поўначы а з
паўдня, і ўзьлягуць ля столу ў гас-
падарстве Божым. 30 І вось, ёсьць
апошнія, што будуць першымі, і ё
першыя, што будуць апошнімі".

31 Тае ж гадзіны прышлі нека-
трыя фарысэі, кажучы Яму: „Вый-
дзі і йдзі адгэтуль, бо Гірад хоча
забіць Цябе". 32 І сказаў ім: „Ідзіце,
скажыце гэнаму лісу: ‚Вось, выга-
няю нячысьцікаў і ўздараўляю сядні
й заўтра, а пазаўтра скончу. 33 Маю
Я, адылі, падарожжаваць сядні й
заўтра й наступнога дня, бо ня
можа быць, каб прарока загінуў
вонках Ерузаліму'. 34 Ерузаліме,
Ерузаліме, што забіваеш пракокаў
і камянуеш пасланых да цябе! як
часта Я хацеў зьберці дзеці твае,
як куравoдка кураняты свае пад
крылы свае, і вы не хацелі! 35 Вось,
дом вашы пакінены вам пусты. І
кажу ж вам, што вы не абачыце
Мяне, пакуль ня прыйдзе час, што
скажаце: ‚Дабраславёны Йдучы ў
імя Спадарова!' "

14 І сталася, як Ён увыйшоў у
сыботу ў дом аднаго з начэль-
нікаў фарысэйскіх есьці хлеб, што
ўважна назіралі за Ім. 2 І вось,
нейкі чалавек, хворы на вадзянку,
быў там перад Ім. 3 І Ісус, адка-
зуючы, гукаў праўнікам а фарысэ-
ям, кажучы: „Дазволена ў сыботу
ўздараўляць ці не?" 4 Але яны
маўчэлі. І, няўшы яго, уздаравіў
яго, і адпусьціў яго. 5 І, адказуючы,
сказаў ім: „У каторага з вас асёл
альбо вол уваліцца ў студню, ці ён
ня выцягне яго без адвалокі ў сы-
ботні дзень?" 6 І не маглі адказаць
Яму на гэта.

7 І сказаў прыпавесьць пазваным,
зацеміўшы, што яны першыя месцы

абіралі, кажучы ім: 8 „Калі цябе
хто пазваў на вясельле, не ўзьлягай
на пярэдняе месца за сталом, каб
можа пачэсьліўшага за цябе не
пазваў ён, 9 І тый, што пазваў цябе
й яго, не падышоў і не сказаў: ‚Дай
месца гэтаму'; і тады із сорамам
зоймеш апошняе месца. 10 Але, ка-
лі ты пазваны, ідзі й узьляж на апо-
шняе месца, каб тый, што пазваў
цябе, падышоўшы, мог сказаць та-
бе: ‚Прыяцелю, узыйдзі вышэй'; та-
ды будзе табе чэсьць перад усімі,
што ўзьлягаюць за сталом із табою;
11 Бо кажны, што павышае сябе,
паніжаны будзе; а хто паніжае сябе,
будзе павышаны".

12 І сказаў таксама таму, хто
пазваў Яго: „Калі ты спраўляеш
палудзень альбо вячэру, не заві
прыяцеляў, ані братоў сваіх, ані сва-
якоў сваіх, ані багатых суседзяў,
каб і яны цябе не пазвалі, і ня
былá табе адплата. 13 Але, як
спраўляеш чэсьць, гукáй бедных,
калекіх, кульгавых, нявісных, 14 І
будзеш шчасьлівы, бо яны ня ма-
юць адплаты табе, бо будзе запла-
чана табе ў ускрысеньню справяд-
лівых".

15 І адзін із тых, што ўзьляжалі
за сталом із Ім, слухаючы гэта,
сказаў Яму: „Шчасьлівы, хто будзе
есьці хлеб у гаспадарстве Божым"

16 І сказаў яму: „Адзін чалавек
справіў вялікую вячэру й пазваў
шмат каго. 17 І як былá гадзіна
вячэры, паслаў слугу свайго ска-
заць пазваным: ‚Прыходзьце, бо
ўжо гатова'. 18 І пачалі ўсі згодна
прасіць выбачэньня. Першы сказаў
яму: ‚Я купіў зямлю і маю выйсьці
паглядзець яе; калі ласка, выбач
імне'. 19 А другі сказаў: ‚Я купіў
пяць пар валоў і пайду прабаваць
іх; калі ласка, выбачай імне'. 20 А
іншы сказаў: ‚Я ажаніўся і затым
не магу прыйсьці'. 21 І, прышоўшы,
слуга паведаміў праз усе спадару
свайму. Тады дамовы гаспадар, за-
гневаўшыся, сказаў слузе: ‚Пайдзі
борзда па вуліцах а завулках места
і прывядзі ўбогіх а калекіх а куль-
гавых а нявісных'. 22 І слуга ска-
заў: ‚Спадáру, сталася, як ты казаў,
і ё яшчэ месца'. 23 І спадар сказаў
слузе: ‚Пайдзі па дарогах і паўз
платоў і прысіль прыйсьці, каб дом
мой напоўніўся; 24 Бо кажу вам,
што ні водзін із тых людзёў, што
былí пазваныя, не паспытаецца вя-
чэры мае'."

25 І вялікія гурбы йшлі зь Ім,
і Ён, абярнуўшыся, сказаў ім:
26 „Калі хто прыходзе да Мяне, і не
зьненавідзе айца свайго а маці а
жонкі а дзяцей а братоў а сёстраў,
дый собскага жыцьця свайго, ня мо-
жа быць вýчанікам Маім; 27 І хто
не нясець крыжа свайго, і йдзець
за Імною, ня можа быць вýчанікам
Маім.

28 ‚Бо хто з вас, зычачы пастана-
віць вежу, ня сядзе перш і не па-
ліча коштаў, ці мае ён за што споў-
ніць гэта, 29 Каб, як пакладзець
под яе, і ня зможа скончыць яе,
усі, што абачаць яе, не пачалí сьмі-
яцца зь яго, 30 Кажучы: ‚гэты ча-
лавек пачаў станавіць і ня мог скон-
чыць'?

31 „Альбо які кароль, ідучы на
бітвý ў вайне з другім каралём, ня
сядзе перш, не парадзіцца, ці зможа
ён із дзесяцьма тысячамі сустрэцца
зь ідучым на яго з дваццацьма ты-
сячамі? 32 І калі не, пакуль тый
яшчэ далёка, паслаўшы да яго па-
солства, папросе ўмоваў міру.

33 „Гэтак кажны з вас, хто не
пакіне ўсяго, што мае, ня можа быць
вýчанікам Маім.

34 „Соль — добрая, але калі соль
страце смак свой, чым адновіш смак
яе? 35 Ані ў зямлю, ані ў гной ня
годзіцца; яе выкідаюць вон. Хто
мае вушы слухаць, няхай слухае".

15 І ўсі мытнікі а грэшнікіблі-
жыліся да Яго, слухаць Яго.
2 Фарысэі ж а кніжнікі наракалі,



кажучы: „Гэты прыймае грэшнікаў
і есьць із імі".
3 Ён жа сказаў ім гэткую пры-
павéсьць, кажучы: 4 „Хто з вас,
маючы сто авец і згубіўшы адну
зь іх, не пакіне дзевяцьдзясят дзе-
вяць на пустыні і ня пойдзе за
згубленай, пакуль ня знойдзе яе?
5 А знайшоўшы, кладзець яе на
плечы свае, цешачыся; 6 І, пры-
шоўшы двору, згýкае прыяцеляў а
суседзяў, кажучы: ‚Цешчася з ім-
ною, бо я знайшоў згубленую авеч-
ку сваю'. 7 Кажу вам, што так бу-
дуць цешыцца ў небе з аднаго па-
кáятнага грэшніка, чымся зь дзевя-
цьдзясят дзевяцёх справядлівых,
каторыя не патрабуюць каяцца.

8 „Альбо, якая жонка, маючы
дзесяць драхмаў, калі згубе адну
драхму, не засьвеце лянпы, і не
падмяцець хаты, і ня будзе ўважлі-
ва шукаць, пакуль ня знойдзе яе?
9 А знайшоўшы, згýкае прыяцелкі
а суседкі, кажучы: ‚Цешчася з ім-
ною, бо я знайшла драхму, каторую
былá згубіўшы'. 10 Гэтак, кажу вам,
ё радасьць перад ангіламі Божымі
з аднаго кáятнага грэшніка".

11 І сказаў: „Якісь чалавек меў
двух сыноў; 12 І сказаў айцу ма-
лодшы зь іх: ‚Войча, дай імне пры-
падаючую дзель собскасьці'. І па-
дзяліў ім маемасьць. 13 Як мінула
троху дзён, малодшы сын, зьбершы
ўсе, пайшоў да далёкага краю і там
вышышкаў собскасьць сваю, жыву-
чы раськідонліва. 14 А як ён вы-
сіліў усе, настала вялікая галадоў
у тым краю, і ён згалеў. 15 І пай-
шоў, і прыстаў да аднаго із жы-
хараў таго краю, і ён паслаў яго
на полі свае пасьціць сьвіньне. 16 І
ён жадаў напоўніць жывот свой
лускою, што елі сьвіньне, але ніхто
не даваў яму. 17 І, глыбака ўдумаў-
шыся, сказаў: ‚Колькі наймітаў у
вайца майго маюць даволі хлеба,
а я гіну тут з голаду! 18 Устаўшы,
пайду да айца свайго і скажу яму:
„Войча, я ізграшыў супроці неба
і перад табою, 19 Я ўжо нягожы
звацца сынам тваім; прыймі мяне
як аднаго з наймітаў сваіх' ". 20 І,
устаўшы, ён пайшоў да айца свайго.
Але, як ён быў яшчэ воддаль, айцец
ягоны абачыў яго, і зжаліўся над
ім, і пабег, і паў на шыю яму, і го-
рача цалаваў яго. 21 Сын жа сказаў
яму: ‚Войча, я ізграшыў супроці
неба й перад табою, я ўжо ня гожы
звацца сынам тваім'. 22 Але айцец
сказаў слугам: ‚Вынясіце ўборзьдзе
найлепшую адзежу, і адзеньце яго,
і дайце жуковіну на рукý яму, і во-
буй на ногі; 23 І прывядзіце ўкорм-
ленае цялё, і зарэжча яго, і ежма,
і весялімася; 24 Бо гэты сын мой
быў памершы, і ажыў; быў згубіў-
шыся, і знайшоўся'. І пачалí вясе-
ліцца.

25 „А старшы сын ягоны быў на
полю; і, ідучы, як бліжыўся да до-
му, пачуў мýзыку а скокі. 26 І, гук-
нуўшы аднаго зь дзяцюкоў, папы-
таўся ў яго, што бы гэта было.
27 Тый жа сказаў яму: ‚Прышоў
брат твой, і айцец твой зарэзаў
кормнае цялё з тае прычыны, што
прыняў яго ўратаванага а здарова-
га'. 28 Але ён зазлаваўся і не хацеў
увыйсьці. І айцец ягоны, вышаўшы,
прасіў яго. 29 Адказуючы ж, ён
сказаў айцу свайму: „Вось, толькі
год я служу тэ і ніколі не выступаў
з расказаньня твайго, а ты ніколі
ня даў імне й казяняці, каб я мог
павесяліцца з прыяцельмі сваімі.
30 А як гэты сын твой, каторы
вышышкаў маемасьць тваю зь бя-
зулямі, прышоў, ты зарэзаў яму
кормнае цялё'. 31 Ён жа сказаў
яму: ‚Дзяцё, ты заўсёды з імною,
і ўсе мае — твае; 32 А з гэтага
надабе было весяліцца, бо гэты брат
твой быў памершы, і ажыў; быў
згубіўшыся, і знайшоўся' ".

16 І сказаў таксама вýчанікам:
„Быў якісь багаты чалавек,
што меў аканома, каторага ўдалі

яму, што раськідае маемасьць ягоную. 2 І, пагукáўшы яго, сказаў яму: ‚Што гэта я чую праз цябе? здай лічбу з аканомства свайго, бо ты ня можаш быць балей аканомам’. 3 І аканом сказаў сам сабе: ‚Што імне рабіць? бо спадар мой адбірае аканомства ад мяне: капаць не магу, прасіць саромлюся. 4 Ведаю, што зрабіць, каб, як я буду аддáлены ад аканомства, мяне прынялі ў дамы свае’. 5 І, пагукáўшы паасобку кажнага з даўжбітоў спадара свайго, сказаў першаму: ‚Колькі ты вінен спадару майму?’ 6 А тый сказаў: ‚Сто барылак алівы’. І сказаў яму: ‚Вазьмі свой квіт і борзьдзенька садзіся напішы пяцьдзясят’. 7 Тады сказаў другому: ‚А ты колькі вінен?’ Ён жа сказаў: ‚Сто карцоў пшонкі’. І кажа яму: ‚Вазьмі свой квіт і напішы асьмідзясят’. 8 І спадар пахваліў несправядлівага аканома, што разважна зрабіў; бо сынове веку гэтага разважнейшыя ў сваім родзе за сыноў сьвятлíні. 9 І кажу вам: прыдбавайце прыяцеляў багацьцям несправядлівым, каб, як яго ня стане, прынялі вас да вечных буданоў.

10 „Хто верны ў найменшым, верны і ў шмат якім; а хто несправядлівы ў найменшым, несправядлівы і ў шмат якім. 11 Дык калі вы ня былí верныя ў багацьцю несправядлівым, хто павера вам праўдзівае? 12 І калі ня былí верныя ў чужым, хто дасьць вам ваша?

13 „Ніякі слуга ня можа служыць двум спадаром, — бо альбо аднаго зьненавідзе, а другога будзе любіць; або аднаму будзе прыяць, а другога ўлегцы мець. Ня можаце служыць Богу й мамоне”.

14 Фарысэі, што былí гáльлівыя, слухалі ўсе гэта й сьмяяліся зь Яго. 15 І сказаў ім: „Вы правіцеся перад людзьмі, але Бог знае сэрцы вашыя; бо што высака ў людзёў, тое агіда перад Богам.

16 „Закон а прарокі аж да Яна; адгэтуль дабравесьцьц гаспадарства Божага абяшчаецца, і кажны сілаю пракладае дарогу да яго. 17 Але лацьвей небу й зямлі мінуць, чымся адна рыска ў Законе шчэзьне.

18 „Кажны, хто адпушчае жонку сваю і жэніцца зь іншаю, чужаложа; і кажны, што жэніцца з адпушчанай мужам, чужаложа.

19 „Быў жа якісь багаты чалавек, і адзяваўся ў шкарлат а цянюсенькае палатно, і кажны дзень гучна дзедаваў. 20 І якісь убогі, імям Лазар, ляжаў ля брамы ягонае, увесь у скульлю; 21 І жадаў есьці крошкі, што валіліся із столу багатыровага; і сабакі, праходзячы, лізалі скульле ягонае. 22 І сталася, што ўбогі памер, і ангілы панéсьлі яго на ўлоньне Абрагамова. І багатыр таксама памер, і быў пахаваны. 23 І ў пекле, будучы ў муках, узьняўшы вочы свае, бача Абрагама здáлеку і Лазара на ўлоньню ягоным. 24 І, загаласіўшы, сказаў: ‚Войча Абрагаме! зжалься над імною і пашлі Лазара, каб занурыў канец палца свайго ў ваду і астудзіў язык мой, бо я мучаюся ў гэтым поламені’. 25 Але Абрагам сказаў: ‚Дзяцё, успомні, што ты супоўна адзяржаў дабро свае за жыцьця свайго, а Лазар таксама ліха; цяпер жа ён цешыцца тут, а ты мучышся. 26 І апрача ўсяго гэтага, памеж нас і вас устаноўлена вялікае бяздоньне, так што тыя, што хочуць перайсьці адгэтуль да вас, ня могуць, ані адгэнуль да нас не пераходзяць’. 27 І сказаў ён: ‚Дык я прашу цябе, войча, пасланць яго да дому айца майго; 28 Бо ў мяне пяцёх братоў, — няхай сьветча ім, каб і яны ня прышлі да гэтага месца мукаў’. 29 Але Абрагам кажа яму: ‚У іх ё Масей а прарокі; няхай слухаюць іх’. 30 Ён жа сказаў: ‚Не, войча Абрагаме, але калі б хтось із мертвых прышоў да іх, пакаяцца’. 31 А ён сказаў яму:



‚Калі ня слухаюць Масея а прарокаў, то калі б хто і зь мертвых ускрэс, не пераканаюцца’.”

17 І сказаў вýчанікам Сваім: „Нельга, каб спадманы ня прыходзілі, але бяда, каторымі яны прыходзяць: 2 Валей, каб млынавы жоран павесілі яму на шыю і кінулі яго ў мора, чымся каб ён быў спадманом аднаму з малых гэтых.

3 „Уважайце на самых сябе. Калі брат твой ізгрэша, згань яго; і калі пакаецца, даруй яму. 4 І калі сем разоў у дзень ізгрэша супроці цябе, і сем разоў зьвернецца да цябе, кажучы: ‚Каюся’, — даруй яму”.

5 І сказалі апосталы Спадару́: „Прыспары нам веры”. 6 І сказаў Спадар: „Калі б вы мелі веру, як гарчычнае зярнё, і сказалі дзікой фізе: ‚Выкараніся й перасадзіся ў мора’, яна паслухае вас.

7 „Хто з вас, маючы слугу аручага або пасучага, як ён прыйдзе з поля, скажа яму: ‚Зараз узыйдзі і ўзьляж’? 8 Але ці ня скажа яму: ‚Прыгатуй імне павячэраць і, падперазаўшыся, паслугуй імне, пакуль буду есьці й піць, а потым еж і пі’? 9 Ці ўдзячны ён слузе за тое, што ён зрабіў загаданае? ня думаю. 10 Дык і вы, калі зробіце ўсе, загаданае вам, кажыце: ‚Мы бескарысныя слугі; што мелі зрабіць, мы зрабілі’ ”.

11 І сталася, як Ён ішоў да Ерузаліму, што праходзіў пераз Самару а Галілею. 12 І, як уходзіў Ён у вадно сяло, дзесяцёх пракажаных пераняліі Яго, каторыя адзяржаліся воддаль. 13 І ўзьнялі голас, кажучы: „Ісусе Вучыцелю! зжалься над намі”. 14 І, бачачы, Ён сказаў ім: „Ідзіце, пакажыцеся сьвятаром”. І сталася, як яны йшлі, што ачысьціліся. 15 І адзін ізь іх, бачачы, што ён уздароўлены, зьвярнуўся, вялікім голасам хвалячы Бога, 16 І паў на від у ногі Яму, дзякуючы Яму; і гэта быў Самаранін. 17 І, адказуючы, сказаў Ісус: „Ці не дзесяцёх ачышчаны? ідзе ж дзевяцёх? 18 Не знайшліся, каб зьвярнуцца даць хвалу́ Богу, адно гэты чужаземец”. 19 І сказаў яму: „Устань а йдзі; вера твая ўздаравіла цябе”.

20 І быўшы папытаны фарысэямі, калі прыйдзе гаспадарства Божае, адказаў ім і кажа: „Ня прыйдзе гаспадарства Божае цямка; 21 Ані скажуць: ‚Гля тут’ альбо: ‚Гля там’, бо, вось, гаспадарства Божае ўнутры вас”. 22 І сказаў вýчанікам: „Прыйдуць дні, калі будзеце жадаць бачыць аднаго дня Сына Людзкога, і не абачыце. 23 І скажуць вам: ‚Гля, тут’ альбо: ‚Гля, там’, не хадзіце ані йдзіце за імі; 24 Бо, як маланка мільганець з пад неба і зіхаціць да другога канца неба, так будзе Сын Людзкі таго дня. 25 Але перш мае цярпець шмат і быць адхіненым родам гэтым.

26 „І як было за дзён Ноя, так будзе й за дзён Сына Людзкога: 27 Елі, пілí, жаніліся, выходзілі замуж, аж да тога дня, што Ной увыйшоў у караб, і прышла патопа, і загубіла ўсіх. 28 І таксама, як было за дзён Лота: елі, пілі, куплялі, прадавалі, садзілі, будавалі; 29 Але дня таго, каторага вышаў Лот із Садомы, лінуў зь неба дождж агняны а серкавы й загубіў усіх.

30 „Подле гэтага будзе таго дня, калі Сын Людзкі аб’явіцца. 31 Таго дня, хто будзе на страсе, а рэчы ягоныя ў доме, ня зыходзь узяць іх; і хто ў полю, таксама не зварачайся назад па засталыя рэчы. 32 Пáмятуйце жонку Лотаву. 33 Хто будзе глядзець жыцьцё свае захаваць, загубе яго; а хто загубе яго, захавае яго.

34 „І кажу вам: тае ночы будзе двух у вадным ложку; адзін будзе ўзяты, а другі пакінены. 35 Дзьве будуць малоць разам; адна будзе

ўзята, а другая пакінена. 36 Двух
будзе на полю; адзін будзе ўзяты,
а другі пакінены". 37 І, адказуючы,
сказалі яму: „Ідзе, Спада́ру?" Ён жа
сказаў ім: „Ідзе цела, там арлы
зьбяруцца".

**18** І сказаў таксама прыпаве́сьць
ім праз тое, што надабе заўсё-
ды маліцца і ня кволець, 2 Кажу-
чы: „У вадным месьце быў якісь
судзьдзя, што не баяўся Бога і не
шманаў людзёў. 3 І была́ ўдава ў
тым месьце, і яна прышла да яго,
кажучы: ‚Абарані мяне ад праціў-
ніка майго'. 4 І ён доўга не хацеў,
але потым сказаў сам сабе: ‚Хоць
я, праўда, Бога не баюся і людзіны
не шманаю, 5 Адылі́, каб гэтая ўда-
ва не дакучала імне, абараню яе,
каб яна наапошку не стаміла мяне,
кажначасна прыходзячы' ". 6 І Спа-
дар сказаў: „Слухайце, што неспра-
вядлівы судзьдзя кажа. 7 Ці Бог не
абароне абраных Сваіх, што гало-
сяць да Яго дзень і ноч, дарма што
адвалакае ім? 8 Кажу вам, што аба-
роне ўборзьдзе. Як, адылі, Сын
Людзкі прыйдзе, ці запраўды зной-
дзе веру на зямлі?"

9 І сказаў таксама да некаторых,
самапэўных, што яны справядлівыя,
а іншых улегцы мелі, гэткую пры-
павесьць: 10 „Двух увыйшло ў сьвя-
тыню маліцца: адзін фарысэй, а
другі мытнік. 11 Фарысэй, стоячы,
гэтак маліўся ў сабе: ‚Божа, дзякую
Табе, што я не такі, як засталыя
людзі, грабежнікі, несправядлівыя,
чужаложнікі або як гэты мытнік.
12 Пощую двойчы ў тыдзень, даю
дзесяціну з усяго, што прыдба́ю'.
13 А мытнік, стоячы воддаль, ня
ўзьняў на'т аччу сваіх да неба, але
біўся ў грудзі, кажучы: ‚Божа,
будзь міласэрны да мяне грэшнага!'
14 Кажу вам: гэты пайшоў да дому
свайго аправены балей за гэнага;
бо кажны, што павышае сябе, пані-
жаны будзе; а хто паніжае сябе, па-
вышаны будзе".

15 І прыносілі да Яго таксама
дзеткі, каб Ён даткнуўся да іх, але
ву́чанікі, бачачы, га́нілі іх. 16 Ісус
жа, гукну́ўшы іх, сказаў: „Дазволь-
це дзеткам прыходзіць да Мяне і не
бараніце ім, бо таковых ё гаспа-
дарства Божае. 17 Запраўды кажу
вам: хто ня прыйме гаспадарства
Божага, як дзецянё, ня ўвыйдзе ў
яго".

18 І якісь старац папытаўся ў
Яго, кажучы: „Вучыцелю добры,
што зрабіць, каб спала імне жыцьцё
вечнае?" 19 Ісус сказаў яму: „Чаму
завеш Мяне добрым? ніхто ня доб-
ры, толькі адзін Бог. 20 Знаеш рас-
казаньні: ‚Не чужалож, не забівай,
не крадзі, ня сьветч хвальшыва, сьці
айца свайго й маці сваю'." 21 Ён жа
сказаў: „Усе гэта дзяржаў я з ма-
ладосьці свае". 22 Пачуўшы гэта,
Ісус сказаў яму: „Аднаго не стаець
яшчэ табе: прадай усе, што маеш,
і раздай убогім, і будзеш мець скарб
у нябёсах; і, прышоўшы, ідзі за
Імною". 23 Ён жа, пачуўшы гэта,
засмуціўся, бо быў надта багаты.

24 І Ісус, бачачы, што ён засму-
ціўся, сказаў: „Як цяжка маючым
багацьце ўвыйсьці ў гаспадарства
Божае, 25 Бо лацьвей вярблюду
прайсьці пераз вушка голкі, чымся
багатаму увыйсьці ў гаспадарства
Божае".

26 Тыя, што чулі, сказалі: „Хто ж
можа спасьціся?" 27 Але Ён сказаў:
„Немагчымае людзём, магчыма Бо-
гу".

28 А Пётра сказаў: „Вось, мы па-
кінулі ўсе і пайшлі за Табою".
29 Ён жа сказаў ім: „Запраўды ка-
жу вам: няма нікога, хто пакінуў бы
дом, альбо бацькоў, альбо братоў,
альбо жонку, альбо дзеці дзеля гас-
падарства Божага, 30 І не адзяржаў
бы шмат балей у гэтым часе, і ў
прыйдучым веку жыцьця вечнага".

31 І, узяўшы дванаццацёх, сказаў
ім: „Вось, мы ўзыходзім да Ерузалі-
му, і зьдзеецца ўсе, напісанае пра-



рокамі праз Сына Людзкога. 32 Бо
Ён будзе выданы народам, і асьмія-
ны, і зьнява́жаны, і апліваны. 33 І,
біўшы пугамі, яны заб'юць Яго; і на
трэйці дзень ускрэсьне". 34 Але яны
нічога з гэтага не разумелі; слова
гэтае было схава́на ад іх, і яны не
разумелі сказа́нага.

35 І сталася, як Ён падыходзіў да
Ерыхону, што адзін нявісны сядзеў
ля дарогі, просячы. 36 І, пачуўшы
мінаючую гурбу, папытаўся, што
гэта было б. 37 І паведамілі яму,
што Ісус Назарэцянін тудэй прахо-
дзе. 38 І ён гукнуў, кажучы: „Сыну
Давідаў, зьмілуйся над імною!" 39
Ідучыя ж сьпераду га́нілі яго, вы-
магаючы, каб ён змоўк; але ён шмат
балей гука́ў. „Сыну Давідаў, зьмі-
луйся над імною!". 40 І Ісус, адзяр-
жаўшыся, расказаў прывесьці яго да
сябе; і, як тый дабліжыўся, папы-
таўся ў яго: 41 „Чаго ты хочаш,
каб Я ўчыніў табе?" Ён жа сказаў:
„Спада́ру, каб я празерыў". 42 І Ісус
сказаў яму: „Празер; вера твая
ўздаравіла цябе". 43 І якга ён пра-
зерыў і пайшоў за Ім, славячы Бо-
га; і ўвесь люд, бачачы гэта, даў
хвалу́ Богу.

**19** І ўвыйшоў у Ерыхон, і прахо-
дзіў пераз яго. 2 І вось, муж,
званы Закхеям, а ён быў начэльнік
мытнікаў, і быў багаты, 3 І жадаў
бацыць Ісуса, хто Ён, але ня мог за
гурбаю, бо быў малога росту. 4 І,
забегшы наперад, узьлез на дзіку́ю
фігу, каб магчы бачыць Яго, бо ту-
дэй меў неўзабаве прайсьці. 5 І, пры-
шоўшы да таго месца, глянуўшы
ўгару, Ісус абачыў яго й сказаў
яму: „Закхею, барждҗэй зьлезь да-
лоў, бо сядні Я маю застацца ў доме
тваім". 6 І ён борзда зьлез, і веціў
Яго з радасьцяй. 7 І ўсі, бачачы
гэта, наракалі, кажучы: „Ён зай-
шоўся гасьцяваць да дому грэшнае
людзіны". 8 А Закхей, стаўшы, ска-
заў Спадару́: „Спада́ру, вось, пала-
віцу маемасьці свае я аддам убогім,
і, калі каго чым укрыўдзіў, аддам
чатыры разы толькі". 9 І Ісус ска-
заў яму: „Сядні прышло спа́сеньне
дому гэтаму, бо й ён сын Абрагамаў;
10 Бо Сын Людзкі прыйшоў шукаць
а спасьці загінулых".

11 Як жа яны слухалі гэта, дадаў
прыпавесьць, бо Ён быў блізка да
Ерузаліму, і яны думалі, што гас-
падарства Божае мае неўзабаве зья-
віцца. 12 Дык сказаў: „Якісь чала-
век высокага роду пайшоў да да-
лёкага краю, каб адзяржаць сабе
гаспадарства і зьвярнуцца. 13 І, гук-
ну́ўшы дзесяцёх слугаў сваіх, даў ім
дзесяць мінаў і сказаў ім: ‚Таргуй-
це, пакуль я прыйду'. 14 Але гра-
мадзяне ягоныя ненавідзілі яго і па-
слалі за ім пасолства, кажучы: ‚Мы
ня хочам, каб гэты чалавек гаспа-
дарстваваў у нас".15 І сталася, як ён
зьвярнуўся, адзяржаўшы гаспадар-
ства, што ён казаў пагука́ць да сябе
тых слугаў, каторым даў грошы,
каб даведацца, колькі кажны зь іх
прыдбаў, таргуючы. 16 І прышоў
першы, кажучы: ‚Спада́ру, міна
твая прыспарыла дзесяць мінаў'.

17 І ён сказаў яму: ‚Добра, добры
слуга; за тое, што ты ў малым быў
верны, май уладу над дзесяцьма
местамі'. 18 І прышоў другі, кажу-
чы: ‚Спада́ру, міна твая прыспары-
ла пяць мінаў'. 19 Сказаў і гэтаму:
‚І ты будзь над пяцьма местамі'. 20 І
прышоў іншы, кажучы: ‚Спада́ру,
во міна твая, каторую я хаваў у
хустцы; 21 Бо я баяўся цябе, бо ты
людзіна́ стродкая: бярэш, чаго ня
клаў, і жнеш, чаго ня сеяў'. 22 Ён
кажа яму: ‚Вуснамі тваімі я суджу
цябе, нягодны слуга; ты ведаў, што
я стродкая людзіна́, бяру, чаго ня
клаў, і жну, чаго ня сеяў; 23 Дык
чаму ты не аддаў грошы маіх на
стол, і я, прышоўшы, адзяржаў бы
з прыбыткам?'. 24 І сказаў тым, што
тут стаялі: ‚Вазьміце ад яго міну
і дайце таму, хто мае дзесяць мінаў'.
25 (І сказалі яму: ‚Спада́ру, ён мае

дзесяць мінаў'). 26 ,Бо кажу вам,
што кажнаму маючаму дасца; а ад
нямаючага адыймецца й тое, што
мае. 27 Нéпрыяцеляў жа маіх гэтых,
што не хацелі, каб я гаспадарства-
ваў у іх, прывядзіце сюды й забіце
перад імною' ".

28 Сказаўшы гэта, Ён пайшоў да-
лéй, узыходзячы да Ерузаліму. 29 І
сталася, як дабліжыўся да Віффагі а
Віфані, да гары, званае Аліўнай,
паслаў двух вýчанікаў Сваіх, 30 Ка-
жучы: „Ідзіце да сяла, што насуп-
році, у каторым, увыйшоўшы ў яго,
знойдзеце прывязáнае асьлянё, на
каторым ніхто ніколі не садзіўся;
адвязаўшы яго, прывядзіце. 31 І ка-
лі хто папытаецца ў вас: ,Нашто
адвязуеце?' скажыце яму гэтак:
,Бо Спадар яго патрабуе' ".

32 І пасла́ныя, пайшоўшы, знай-
шлі, як Ён сказаў ім. 33 Як жа яны
адвязавалі асьлянё, гаспадары ска-
залі ім:„Нашто адвязуеце асьлянё?"
34 А яны адказалі: „Бо Спадар па-
трабуе яго". 35 І прывялі яго да Ісу-
са; і, накінуўшы адзецьце свае на
асьлянё, пасадзілі на яго Ісуса.

36 І як Ён ехаў, расьсьцілалі адзе-
жы свае на дарозе. 37 А як Ён блі-
жыўся да схону Аліўнае гары, уся
множасьць вýчанікаў пачала́, цеша-
чыся, вялікім голасам хваліць Бога
за ўсі магучыя ўчынкі, што яны ба-
чылі, 38 Кажучы: „Дабраславёны
Кароль, што йдзець у імя Спадаро-
ва! супакой на нябёсах і слава на
вышах!"

39 Але некатрыя з фарысэяў з
гурбы сказалі Яму: „Вучыцелю,
згань вýчанікаў сваіх". 40 І, адка-
зуючы, сказаў ім: „Кажу вам, калі
гэтыя будуць маўчэць, камяні́ загу-
ка́юць".

41 І, як дабліжыўся, бачачы места,
плакаў па ім, 42 Кажучы: „Калі б
і ты ведала, нават ты, прынамся
гэтага дня твайго, што ё да супакою
табе, але схавана гэта цяпер ад аччу
тваіх; 43 Бо прыйдуць на цябе дні,
што нéпрыяцелі твае акружаць цябе
валам, і аблягуць цябе, і сьціснуць
цябе адусюль, 44 І зрынуць цябе
на зямлю, і дзеці твае ў табе, і не
пакінуць у табе каменя на каменю,
бо не пазнала пары даведаньня
свайго". 45 І, увыйшоўшы да сьвя-
тыні, пачаў аддаляць прадаючых і
купляючых у ёй, 46 Кажучы ім:
„Пісана: ,Дом Мой ё дом малітвы',
а вы зрабілі яго пячораю разбойні-
каў".

47 І навучаў кажнага дня ў сьвя-
тыні. Найвышшыя ж сьвятары а
кніжнікі а старцы люду шукалі за-
губіць Яго. 48 І не знайшлі, што зра-
біць, бо ўвесь люд, не адступаючы,
слухаў Яго.

20 І сталася аднаго з тых дзён,
як Ён навучаў люд у сьвятыні і
абяшчаў дабравесьць, што найвыш-
шыя сьвятары а кніжнікі із старца́-
мі прышлі 2 І сказалі Яму, кажу-
чы: „Скажы нам, якой уладаю Ты
гэта робіш, альбо хто даў Табе ўла-
ду гэтую?". 3 А Ён, адказуючы,
сказаў ім: „Папытаюся й Я ў вас
адно, і скажыце Імне: 4 Хрэст
Яанаў зь нябёс быў ці ад людзёў?"
5 І яны разважалі мяжсобку, кажу-
чы: „Калі скажам: ,Зь нябёс', Ён
скажа: ,Чаму ж вы не паверылі
яму?'. 6 А калі скажам: ,Ад лю-
дзёў', увесь люд укамянуе нас, бо
яны пераканаўшыся, што Яан быў
прарока". 7 І адказалі, што ня ве-
даюць скуль. 8 І Ісус сказаў ім: „Не
скажу й Я вам, якой уладаю гэта
раблю".

9 І пачаў Ён казаць люду пры-
павесьць гэтую: „Адзін чалавек за-
садзіў вінішча, і выдаў яго вінаром,
і пакінуў край на даўгі час. 10 І
ўпару паслаў да вінароў слугу, каб
яны далі яму з пладоў вінішча, але
вінары, набіўшы яго, адаслалі бязь
нічога. 11 І ўзноў паслаў другога
слугу, але яны, набіўшы яго такса-
ма й зьняважыўшы, адаслалі бязь
нічога. 12 І ўзноў паслаў трэйцяга,



але яны й яго ранілі й выгналі. 13 І
сказаў спадар вінішча: ,Што імне
рабіць? Пашлю любовага сына
свайго; хіба, абачыўшы яго, за-
меюць звагу'. 14 Але вінары, аба-
чыўшы яго, разважалі мяжсобку,
кажучы: ,Гэта спадкаемца; забіма
яго, каб спадак быў нашы'. 15 І,
выпхнуўшы яго вонкі зь вінішча, за-
білі. Дык што спадар вінішча зробе
ім? 16 Прыйдзе, і выгубе тых віна-
роў, і аддасьць вінішча іншым".

Пачуўшы гэта, яны сказалі:
„Крый, Божа!". 17 Але Ён, глянуў-
шы на іх, сказаў: Дык што ё гэта,
што напісана: ,Камень, каторы ад-
хінулі будаўнічыя, тый стаў гала-
вою вугла'. 18 Кажны, хто зваліц-
ца на гэты камень, разаб'ецца; а
на каго ён зваліцца, таго зьмяжджу-
ле". 19 І тае ж гадзіны шукалі най-
вышшыя сьвятары а кніжнікі на-
класьці рукі на Яго, бо ведалі, што
празь іх сказаў Ён гэтую прыпа-
весьць, але баяліся люду.

20 І, назіраючы, паслалі падкуп-
леных людзёў, што прыдава́ліся
справядлівымі, каб тыя маглі зла-
віць Яго ў мове, так што яны маглі б
выдаць Яго ўраду а ўладзе намесь-
ніка. 21 І тыя пыталіся ў яго, ка-
жучы: „Вучыцелю, мы ведаем, што
Ты праўдзіва гýкаеш а навучаеш
і не зважаеш на асобы, але ў праў-
дзе дарогі Божае навучаеш; 22 На-
лежа нам даваць падачкі цэсару ці
не?" 23 Але, зацеміўшы падход іх-
ны, Ён сказаў ім: „Чаму спакушае-
це Мяне? 24 Пакажыце імне дынар;
чый на ім абраз а напіс?" І, адка-
зуючы, яны сказалі: „Цэсараў".
25 Ён жа сказаў ім: „Дык аддавай-
це цэсарава цэсару, а Божае — Бо-
гу". 26 І не маглі злавіць Яго ў
слове перад людам, і, дзівуючыся з
адказу Ягонага, змоўклі.

27 І некатрыя із садукеяў, што
пярэчаць быцьцю ўскрысеньня, па-
пыталіся ў Яго, 28 Кажучы: „Вучы-
целю, Масей напісаў нам, што калі
чый брат, маючы жонку, памрэць
бязьдзетны, брат ягоны мае ўзяць
жонку і ўзьняць насеньне брату
свайму. 29 Было сямёх братоў. Пер-
шы, ажаніўшыся, памер бязьдзет-
ным. 30 І другі ўзяў тую жонку, і
памер бязьдзетны. 31 І трэйці ўзяў
яе, і падобна таксама сямёх, не па-
кінулі дзяцей і памерлі. 32 І про-
сьле ўсіх памерла таксама жонка.
33 Дык у ўскрысеньню каторага зь
іх будзе яна жонкаю, бо сямёх мелі
яе за жонку?" 34 І Ісус сказаў ім:
„Сынове гэтага веку жэняцца й вы-
ходзяць замуж; 35 Але тыя, што
будуць уважаныя за гожых таго ве-
ку і ўскрысеньня зь мертвых ані
жэняцца, ані замуж выходзяць;
36 Бо ані памерці ўжо ня могуць, бо
яны роўныя з ангіламі, і ё сынамі
Божымі, будучы сынамі ўскрысень-
ня. 37 А што памерлыя ўскрэснуць,
і Масей паказаў у Кусьце, як назваў
Спадара Богам Абрагама а Богам
Ісака́ а Богам Якава. 38 Бог жа ня
ё Бог мертвых, але жывых, бо ўсі
Яму жывыя". 39 І некатрыя з кніж-
нікаў, адказуючы, сказалі: „Вучы-
целю, Ты добра сказаў". 40 І ўжо
ня важыліся праз што-колечы пы-
тацца ў Яго.

41 Ён жа сказаў ім: „Як кажуць,
што Хрыстос мае быць сын Даві-
даў? 42 А сам Давід кажа ў кнізе
псальмаў: ,Сказаў Спадар Спадару
майму: сядзі па правіцы Маёй,
43 Пакуль не пастанаўлю нéпрыя-
целяў Тваіх казулькаю пад ногі
Твае'. 44 Значыцца, Давід завець
Яго Спадаром, дык як жа Ён сын
ягоны?".

45 І як увесь люд слухаў, Ён ска-
заў вýчанікам Сваім: 46 „Сьцера-
жыцеся кніжнікаў, каторыя любяць
хадзіць у даўгім адзецьцю, і любяць
здарованьні на таргох, і пярэднія се-
давы ў бажніцах, і першыя месцы
на вячэрах, 47 Каторыя зжыраюць

дамы ўдоваў пад прыклепам даўгіх
малітваў. Яны адзяржаць стродшы
суд".
21 I глянуўшы, Ён абачыў бага-
тых, што кідалі ў скарбонку па-
даркі свае; 2 Але абачыў таксама
бедную ўдаву, што ўкінула ў яе два
медзякі. 3 I сказаў Ён: „Запраўды
кажу вам, што гэтая бедная ўдава
ўкінула балей за ўсіх; 4 Бо ўсі тыя
із бытку свайго ўкінулі на дар Бо-
гу, а яна зь нястачы свае ўкінула
ўвесь пражытак, які мела".
5 I як некатрыя сказалі празь
сьвятыню, што яна прыбрана ха-
рошым каменьням а дарамі, Ён ска-
заў: 6 „Прыйдуць дні, калі з таго,
што вы бачыце, не застане́цца ка-
мень на каменю, каторы ня быў бы
сьцінены".
7 I папыталіся ў Яго, кажучы:
„Вучыцелю, калі гэта будзе? і якая
пазнака, калі гэта мае стацца?"
8 I сказаў Ён: „Уважайце, каб
вас не зьвялі, бо шмат хто прыйдзе
ў імя Мае, кажучы: ‚Гэта Я', і ‚час
дабліжыўся'. Не хадзіце за імі.
9 Як жа пачуеце праз войны а за-
мятні, не палохайцеся, бо гэта мае
стацца ўперад, але ня за́раз канец".
10 Тады сказаў ім: „Народ паў-
стане на народ, і гаспадарства на
гаспадарства; 11 Будуць вялікія
трасеньні зямлі ў розных месцах
а галадові а ліпучкі а страшныя
зьявы а вялікія знакі зь неба.
12 Але наўперад накладуць на вас
рукі свае і будуць перасьледава́ць,
выдаючы ў бажніцы й вязьніцы,
прыводзячы да каралёў а дзяржаў-
цаў за імя Мае. 13 Будзе ж гэта вам
на сьветчаньне.
14 „Затым пакладзіце ў сэрцы
свае не абдумаваць за́гадзя абаро-
ны; 15 Бо Я вам дам вусны а муд-
расьць, каторым ня будуць магчы
перачыць ані працівіцца ўсі праціў-
нікі вашыя. 16 I вы будзеце выда-
ны нават бацькамі а братамі а свая-
камі а прыяцельмі, і заб'юць нека-
торых із вас; 17 I будуць ненаві-
дзіць вас усі за імя Мае. 18 Але й
волас із галавы вашае не загіне.
19 Цярплівай трывалкосьцяй сваёй
прыдба́еце душы свае.
20 „А як і абачыце Ерузалім аб-
ступлены войскам, тады ведайце,
што спустошаньне яго дабліжылася.
21 Тады тыя, што ў Юдэі, уцякай-
це ў горы; і хто ў ім, выходзь із
яго; і хто ў ваколіцы, ня ўходзь у
яго; 22 Бо гэта дні помсты, каб усе
напісанае выпаўнілася. 23 I бяда
цяжарным а соячым тых дзён, бо
будзе вялікая нястача на зямлі і
гнеў на люд гэты. 24 I падуць ад
ляза мяча, і будуць заведзены ў
палон да ўсіх народаў; і Ерузалім
будзе таптаны народамі, пакуль ня
скончацца часы народаў.
25 „I будуць знакі на сонцу а ме-
сяцу а гвездах, і на зямлі трывога
народаў у замятні, равеньне а хва-
ляваньне мора. 26 Людзі будуць па-
міраць із страху а спадзяваньня
прыходзячага на ўвесь сьвет, бо сі-
лы нябёсныя захістаюцца.
27 „I тады абачаць Сына Людз-
кога, у булакох ізь сілаю а сла-
ваю вялікай ідучага. 28 Як жа пач-
нець гэта дзеяцца, глядзіце і ўзьні-
майце галавы свае, бо бліжыцца ад-
купленьне вашае".
29 I сказаў ім прыпавесьць: „Гля-
дзіце на фіґу а на ўсі дзервы. 30 Як
яны ўжо пукаюцца, то ведаеце са-
мы, гледзячы на гэта, што лета
блізка. 31 Дык таксама, як абачы-
це, што гэта дзеецца, ведайце, што
гаспадарства Божае блізка. 32 За-
праўды кажу вам, што ня мінець род
гэты, як усе станецца. 33 Неба й
зямля мінуць, але словы мае а ніяк
ня мінуць. 34 Шануйцеся, каб сэрцы
вашыя наагул не цяжарыліся пярэ-
сыцьцю а п'янствам а жыцьцявымі
ру́патамі, і каб дзень тый не засьпеў
вас якга, неўспадзеўкі; 35 Бо, як
па́садка, ён прыйдзе на ўсіх тых,
што жывуць на відзе ўсяе зямлі.



36 Дык будзьце чукавыя кажнае
пары, молячыся, каб вы маглі ўсь-
церагчыся ад усяго таго, што мае
стацца, і стаць перад Сынам Людз-
кім".
37 I ўдзень Ён навучаў у сьвяты-
ні, а ночы, выходзячы, заставаўся
вонках на гары, званай Аліўнай.
38 I ўвесь люд прыходзіў рана на-
раніцы да Яго, слухаць Яго.
22 Бліжылася сьвята Праснакоў,
званае Пасхаю. 2 I шукалі най-
вышшыя сьвятары а кніжнікі, як
загубіць Яго, бо баяліся люду.
3 I ўвыйшоў шайтан у Юду, зва-
нага Іскарыёт, каторы быў зь ліку
дванаццацёх. 4 I ён пайшоў, і гу-
тарыў із найвышшымі сьвятарамі а
ўраднікамі, як бы Яго ім выдаць.
5 Яны ўзрадава́ліся і згадзіліся даць
яму грошы. 6 I ён згадзіўся зрабіць
гэта, і шукаў прыгоднага часу вы-
даць Яго ім бяз гурбы.
7 I настаў дзень Праснакоў, ката-
рага мела быць зарэзана пасха. 8 I
паслаў Пётру а Яана, кажучы:
„Ідзіце й прыгатуйце есьці нам пас-
ху". 9 I яны сказалі Яму: „Ідзе хо-
чаш, каб мы прыгатавалі?" 10 I ска-
заў Ён ім: „Вось, як вы ўвыйдзеце
ў места, стрэнецца вам чалавек, ня-
сучы жбан вады; ідзіце за ім да до-
му, да каторага ён увыйдзе; 11 I
скажыце гаспадару дому: ‚Вучы-
цель кажа тэ: ідзе гасьцінны пакой,
у каторым бы Імне есьці пасху з
ву́чанікамі Сваімі?' 12 I тый пакажа
вам вялікі верхні пакой засланы;
там прыгатуйце". 13 I, пайшоўшы,
знайшлі, як сказаў ім, і прыгатавалі
пасху. 14 I, як настала гадзіна, Ён
узьлёг за стол, і апосталы зь Ім.
15 I сказаў ім: „Жаданьням жадаў
Я есьці гэтую пасху з вамі перад
Сваім цярпеньням; 16 Бо кажу вам,
што ўжо ня буду есьці яе, пакуль
яна ня зьдзеецца ў гаспадарстве Бо-
жым". 17 I ўзяўшы чару, і ўчыніў-
шы падзяку, сказаў: „Вазьміце яе
і падзяліцеся мяжсобку; 18 Бо ка-
жу вам, што ня буду піць із плоду
віннога, пакуль ня прыйдзе гаспа-
дарства Божае". 19 I ўзяўшы бу-
катку, учыніўшы падзяку, паламіў
а даў ім, кажучы: „Гэта ё цела Мае,
данае за вас; рабіце гэта на памятку
Маю". 20 Таксама чару па вячэры,
кажучы: „Гэтая чара ё новая змова
ў крыві Маёй, што за вас разьлі-
ваецца.
21 „I вось, рука таго ізраджаю-
чага Мяне з Імною за сталом, 22 Бо
Сын Людзкі запраўды йдзець, як
наканава́на; бяда, адылі́, чалавеку
таму, каторым Ён ізраджаецца". 23 I
яны пачалі разважаць мяжсобку,
хто зь іх быў бы, што зробе гэта.
24 Была́ ж і сьпярэчка памеж іх,
хто зь іх здаецца быць вялікшым.
25 I сказаў Ён ім: „Каралёве наро-
даў пануюць над імі, і маючыя ўла-
ду над імі завуцца дабрадзеямі. 26 А
вы ня так: але вялікшы з памеж
вас будзь, як малодшы, і ра́дзя-
чы, як слугуючы. 27 Бо хто вялік-
шы, хто ўзьляжыць, ці хто слугуе?
ці ня тый, што ўзьляжыць? Але Я
сярод вас як тый, што слугуе.
28 „Але вы тыя, што ператрывалі
з Імною ў спакусах Маіх; 29 I Я
прызначаю вам, як Айцец Мой пры-
значыў Імне, гаспадарства, 30 Каб
вы маглі есьці й піць за сталом Маім
у Маім гаспадарстве і сядзелі на па-
садах, судзячы дванаццаць пака-
леньняў Ізраелявых".
31 I Спадар сказаў: „Сымоне, Сы-
моне, гля, шайтан дужа прасіў, каб
ён мог сеіць сітам вас, як пшонку;
32 Але Я маліў за цябе, каб ня скво-
лела вера твая; і ты не́калі, навяр-
нуўшыся, мацніў братоў сваіх". 33 I
ён сказаў Яму: „Спада́ру, з Табою
Я гатоў у вязьніцу й на сьмерць
ісьці". 34 Ён жа сказаў: „Кажу тэ,
Пётру, перш чымся певень запяець
сядні, ты трэйчы выпрашся, што
знаеш Мяне". 35 I сказаў ім: „Як
пасылаў Я вас без капшука а без
хатуля а бяз вобую, ці мелі вы ў

чым нястачу?" Яны сказалі: „Ні ў
чым". 36 Тады кажа ім: „Але цяпер,
хто мае капшук, няхай возьме яго,
таксама й хатуль; а хто ня мае, пра-
дай адзецьце свае й купі меч; 37 Бо
кажу вам, што напісанае мае вы-
паўніцца на Імне: ‚І залічаны да
бяспраўнікаў'. Бо запраўды ўзгля-
дам Мяне прыходзе да канца". 38 І
яны сказалі: „Спада́ру, во тут два
мячы". І Ён сказаў ім: „Досыць".

39 І, вышаўшы, пайшоў, подле
звыча́ю Свайго, на гару Аліўную;
і ву́чанікі таксама пайшлі за ім.
40 І, як быў на месцу, сказаў ім:
„Маліцеся, каб ня лу́чыць у спакусу".
41 І Ён адхінуўся ад іх, як да-
пусьціць камень, і, уклякшы, маліў-
ся, 42 Кажучы: „Войча, калі Ты
хочаш, аддаль гэтую чару ад Мяне!
адылі не Мая воля, але Твая стань-
ся".

43 І ангіл із неба стаў да Яго,
мацнячы Яго. 44 І, труднячыся,
уляглівей маліўся; і стаўся пот Яго-
ны, як капкі крыві, на зямлю ка-
паючыя.

45 І, устаўшы з малітвы, пайшоў
да ву́чанікаў, і засьпеў іх сьпячых
з гора, 46 І сказаў ім: „Што вы
сьпіце́? устаньце й маліцеся, каб ня
лу́чыць у спакусу".

47 Як Ён яшчэ казаў, вось гурба,
і званы Юдаю, адзін із дванаццаці,
сьпераду іх, і ён дабліжыўся да
Ісуса, каб пацалаваць Яго. 48 І Ісус
сказаў яму: „Юда, цалаваньням вы-
даеш Сына Людзкога?"

49 І бачачы тыя, што былі зь Ім,
да чаго даходзе, сказалі: „Спада́ру,
ці ня выцяць нам мячом?" 50 І вы-
цяў адзін із памеж іх слугу най-
вышшага сьвятара, і адцяў яму пра-
вае вуха; 51 І адказуючы, Ісус
сказаў: „Пакінь, досыць" і, дакра-
нуўшыся да вуха ягонага, уздара-
віў яго.

52 І сказаў Ісус найвышшым сьвя-
тарам а ўраднікам сьвятыні а стар-
цом, што вышлі супроці Яго: „Як
на грабежніка вышлі вы зь мячамі
а кіямі. 53 Як кажны дзень бываў
Я з вамі ў сьвятыні, вы ня выцягну-
лі рук сваіх на Мяне; але цяпер
ваша гадзіна і ўлада цямноты".

54 І, узяўшы Яго, павялі яго і
прывялі да дому найвышшага сьвя-
тара. Пётра ж ішоў за Ім воддаль.
55 І, як расклалі цяпло сярод па-
надворку і селі разам, Пётра сеў па-
меж іх. 56 І адна дзеўка зглědзела,
як ён сядзеў ля сьвятла, і ўцяміўшы-
ся ў яго, сказала: „І гэты быў зь
Ім". 57 Але ён выперся, кажучы:
„Жонка, я ня знаю Яго". 58 І за
часіну́ другі, абачыўшы яго, сказаў:
„І ты зь іх". Але Пётра сказаў: „Ча-
лавеча, я не". 59 Потым блізу за
ґадзіну іншы станаўко цьвердзіў:
„Запраўды й гэты быў зь Ім, бо
ён запраўды Ґалілеянін". 60 Але
Пётра сказаў: „Чалавеча, ня ве-
даю, што ты кажаш" І якга, як
яшчэ ён казаў, певень запяяў. 61 І
Спада́р, абярнуўшыся, глянуў на
Пётру, і Пётра ўспомнеў слова Спа-
дарова, як Ён казаў яму: ‚Перш
чымся певень запяець, ты трэйчы
выпрашся Мяне'. 62 І Пётра, вышаў-
шы, горка плакаў.

63 І людзі, што дзяржалі Яго, на-
сьміхаліся зь Яго, б'ючы; 64 І, на-
крываючы Яго, пыталіся ў Яго, ка-
жучы: „Прарачы, хто выцяў Цябе?"
65 І гу́калі шмат блявузґанага на
Яго.

66 І як настаў дзень, зьберліся
старцы люду, найвышшыя сьвята-
ры а кніжнікі і ўвялі Яго ў сынэд-
рыён свой, кажучы: 67 „Ці Ты Хры-
стос? скажы нам". Ён жа сказаў ім:
„Калі скажу вам, вы ані не паве-
рыце; 68 І калі папытаюся ў вас,
вы ані не адкажыце Імне і не ад-
пусьціце Мяне. 69 Адгэтуль Сын
Людзкі будзе сядзець па правіцы
моцы Божае". 70 І ўсі сказалі: „Дык
Ты Сын Божы?" І Ён сказаў ім: „Вы
кажаце, што Я". 71 І сказалі: „Наш-



то нам надабе балей сьветак? бо мы
самы чулі з вуснаў Ягоных".

23 І ўся множасьць іх, устаўшы,
павялі Яго да Пілата. 2 І пачалі
жалаваць на Яго, кажучы: „Мы
знайшлі, што Гэты псуець народ
наш і бароне даваць падачкі цэсару,
кажучы, што Ён сам Хрыстос, Ка-
роль". 3 Пілат жа папытаўся ў Яго,
кажучы: „Ці Ты кароль Юдэйскі?"
І, адка́зуючы, Ён сказаў яму: „Ты
кажаш". 4 І Пілат сказаў найвыш-
шым сьвятаром а гурбе: „Я не знахо-
джу выступу ў гэтым чалавеку".
5 Але яны ўпіраліся, кажучы: „Ён
узрушае люд, навучаючы па ўсёй
Юдэі, пачынаючы ад Ґалілеі аж да-
гэтуль". 6 Пілат жа, пачуўшы „Ґа-
лілея", папытаўся, ці гэты чалавек
быў Ґалілеянін. 7 І даведаўшыся,
што Ён быў прысуду Гірадавага,
адаслаў Яго да Гірада, каторы сам
таксама быў у Ерузаліме тых дзён.

8 Гірад, абачыўшы Ісуса, вельма
ўсьцешыўся, бо даўно жадаў бачыць
Яго, бо чуў шмат празь Яго і спадзя-
ваўся бачыць які-колечы знак, учы-
нены Ім. 9 І шмат пытаўся ў Яго,
але Ён нічога яму не адказаў. 10 А
найвышшыя сьвятары а кніжнікі
стаялі і заўзята жалавалі на Яго.
11 І Гірад із воямі сваімі ўлегцы
замеў Яго, і, насьміяўшыся зь Яго,
накінуўшы на Яго белае адзецьце,
адаслаў назад да Пілата. 12 І сталі
таго дня Пілат і Гірад прыяцельмі
мяжсобку, бо ўперад яны былі ў
не́прыязьньстве із сабою.

13 А Пілат, пагука́ўшы найвыш-
шых сьвятароў а дзяржаўцаў а люд,
14 Сказаў ім: „Вы прывялі да мяне
Гэтага Чалавека, як узрушаючага
люд; і вось, я выпытаў Яго перад
вамі і не знайшоў нічога выступна-
га ў Гэтым Чалавеку ў тым, у чым
жа́луеце на Яго; 15 Ані Гірад, бо
я паслаў вас да яго, і вось, нічога
вартага сьмерці ня зроблена Ім.
16 Дык, пакараўшы, зволькю Яго".
17 Ён быў абавяза́ны звольніць ім
аднаго на сьвята. 18 Але яны за-
крычэлі разам із усім грудам, ка-
жучы: „Вон із Ім! вазьмі гэтага!
а вывальні нам Вараўву", 19 Като-
ры быў пасаджаны ў вязьніцу за
бунт, узьняты ў месьце, і за ўбіўст-
ва. 20 Дык Пілат ізноў загу́каў, зы-
чачы звольніць Ісуса. 21 Але яны,
адка́зуючы, крычэлі: „Укрыжуй,
укрыжуй Яго!"

22 І ён сказаў ім трэйці раз: „Што
ж благога ўчыніў Ён? я не знайшоў
у Ім ніякае прычыны да сьмерці.
Дык, пакараўшы, зволькю Яго".
23 Але яны былі ўпорыстыя, вялі-
кімі галасамі просячы, каб Ён быў
укрыжаваны. І перамаглі галасы
іхныя а найвышшых сьвятароў. 24 І
Пілат рассудзіў досыць учыніць
жаданьню іхнаму. 25 І ён звольніў,
каго яны прасілі, каторы за бунт
а ўбіўства быў пасаджаны ў вязь-
ніцу, а Ісуса выдаў на іх волю.

26 І як павялі Яго, то, няўшы
нейкага Сымона Кірынеяніна, з по-
ля йдучага, узлажылі крыж на яго,
каб нёс за Ісусам.

27 І йшлі за Ім вялікія множа-
сьці люду а жанок, каторыя плака-
лі а галасілі па Ім. 28 А Ісус, абяр-
нуўшыся да іх, сказаў: „Дачкі еру-
залімскія, ня плачча па Імне, але
плачча па самых сабе а па дзяцёх
сваіх; 29 Бо вось, надыходзяць дні,
каторых скажуць: ‚Шчасьлівыя бяс-
плодныя а ўлоньне, што не радзіла,
і пелькі, што не саілі!' 30 Тады пач-
нуць казаць горам: ‚Зваліцеся на
нас!' і ўзгоркам: ‚Пакрыйце нас!'
31 Бо калі на сакаўным дзерве гэ-
та дзеецца, што будзе на сухім?"

32 Вялі зь ім на сьмерць і двух
іншых, ліхадзеяў. 33 І як прышлі
на месца, званае Чарэпнішча, там
укрыжавалі Яго і ліхадзеяў, адна-
го паправе, а другога палеве.

34 І казаў Ісус: „Войча, даруй ім,
бо ня ведаюць, што робяць".
І, дзелячы адзецьце Ягонае, кіда-
лі на жэрабя.

35 І стаяў люд, гледзячы; і стар-
цы таксама насьміхаліся, кажучы:
„Іншых спасаў, няхай спасець Са-
мога Сябе, калі Ён Хрыстос, абра-
нец Божы”. 36 Таксама й жаўнеры
насьміхаліся зь Яго, падыходзячы,
і падаючы Яму воцат, 37 І кажучы:
„Калі Ты Кароль Юдэйскі, спасі Ся-
бе Самога”.

38 І быў над Ім надпіс грэцкімі
а рымскімі а гэбрэйскімі літарамі:
„Гэта Кароль Юдэйскі”.

39 Адзін із павешаных ліхадзеяў
блявузґаў на Яго, кажучы: „Калі
ты Хрыстос, спасі Сябе й нас”.
40 Але другі, адказуючы, зганіў
яго, кажучы: „Ці не баішся Бога,
ты, што пад тым самым рассудкам?
41 І мы запраўды справядліва, бо
адзяржалі справядлівую заплату за
тое, што мы зрабілі; а Ён нічога
благога не зрабіў”. 42 І сказаў Ісу-
су: „Успомні Мяне, Спада́ру! як
прыйдзеш да гаспадарства Свайго”.
43 І сказаў яму Ісус: „Запраўды ка-
жу табе, сядні будзеш із Імною ў
раю”.

44 І было каля шостае гадзіны,
і сталася цемнь па ўсёй зямлі аж да
гадзіны дзявятае. 45 І сонца зацьмела,
мела, і запона ў сьвятыні разьдзер-
лася па сярэдзіне. 46 І Ісус, загука́ў-
шы вялікім голасам, сказаў: „Войча,
у рукі Твае аддаю дух Мой!” І, ска-
заўшы гэта, выпусьціў дух.

47 Сотнік жа, бачачы, што стала-
ся, уславіў Бога, кажучы: „Запраў-
ды чалавек гэты быў справядлівы”.
48 І ўсі гурбы, што зышліся на гэту
віда́ль, бачачы, што сталася, білі
сябе ў грудзі, зварачаючыся. 49 І
ўсі, што зналі Яго, стаялі воддаль,
таксама жанкі, што прапушчалі Яго
з Ґалілеі, глядзелі на ўсе гэта.

50 І вось, чалавек, на йімя Язэп,
райца, муж добры а справядлівы, —
51 Ён не згаджаўся з радаю а ўчын-
кам ейным, — з Арымафеі, места
юдэйскага, што таксама чакаў гас-
падарства Божага, 52 Прыступіўшы
да Пілата, прасіў цела Ісусавага.
53 І, зьняўшы яго, завярнуў яго ў
цяніосенькае палатно, і паклаў яго
ў гробе, высечаным у ска́ле, ідзе
яшчэ ніхто ня быў ніколі пакладзе-
ны. 54 І быў гэта дзень прыгатовы,
а сыбота наставала.

55 І пайшлі жанкі, што прышлі
зь Ім із Ґалілеі, глядзець гробу і як
цела Ягонае клалася. 56 І, зьвяр-
нуўшыся, прыгатавалі пахі а мась-
ці, і заставаліся супакойныя ў сыбо-
ту подле расказаньня.

**24** Але назаўтрае па сыбоце, вель-
ма рана нараніцы, пайшлі яны
да гробу, нясучы пахі, што былі́
прыгатаваўшы; 2 І знайшлі камень
адкочаны ад гробу, 3 І, увыйшоў-
шы, не знайшлі цела Спадара Ісуса.

4 І сталася, як яны былі́ заклапа-
ціўшыся з гэтага, што вось, два ча-
лавекі сталі перад імі ў зьзяючым
адзецьцю. 5 І як яны працялі́ся
страхам і нахінулі віды свае да зям-
лі, сказалі ім: „Чаму шукаеце жы-
вога памеж памерлых? 6 Яго няма
тут, але Ён ускрэс; успомніце, як
Ён казаў вам, будучы яшчэ ў Ґалі-
леі, кажучы: 7 ‚Сын Людзкі мае
быць выданы ў рукі грэшнікаў, і
мае быць укрыжаваны, і трэйцяга
дня мае ўскрэснуць’ ”. 8 І яны
ўспомнелі словы Ягоныя; 9 І, зьвяр-
нуўшыся ад гробу, асьветчылі праз
усё гэта адзінанцацём а ўсім заста-
лым.

10 Былі́ ж Марыя Магдалена а
Яана а Марыя Якавава а іншыя зь
імі, што паве́далі ўсе гэта апоста-
лам. 11 І здалі́ся словы тыя ў вачох
іхных неразумнымі, і не паверылі
ім. 12 Але Пётра, устаўшы, пабег
да гробу і, нахінуўшыся, бача, што
палатно толькі там ляжыць, і пай-
шоў дамоў, дзівуючыся з таго, што
сталася.

13 І вось, таго самага дня двух
із іх падарожжавалі да сяла, звана-
га Эммаус, што шасьцьдзясят ста-
даў ад Ерузаліму; 14 І мужавалі



мяжсобку праз усі здарэньні. 15 І
сталася, як яны мужавалі а разва-
жалі, што Ісус Сам, дабліжыўшы-
ся, ішоў зь імі. 16 Але вочы іхныя
былі́ дзяржаныя так, каб не пазна-
лі Яго. 17 Ён жа сказаў ім: „Што
за гаворка ў вас, ідучы, і чаму вы
смутныя?” 18 І адзін, імям Клеопа,
сказаў Яму: „Ты адзін із даведань-
нікаў у Ерузаліме і ня ведаеш, што
сталася ў ім гэтых дзён?” 19 А Ён
сказаў ім: „Што?” І яны сказалі
Яму: „Празь Ісуса Назарэцяніна,
Каторы быў прарока, магучы ў ву-
чынку і ў слове перад Богам і ўсім
людам; 20 І як найвышшыя сьвята-
ры а нашы старцы выдалі Яго на
засуджэньне на сьмерць, і ўкрыжа-
валі Яго. 21 А мы спадзяваліся, што
Ён меў адкупіць Ізраеля; але цяпер
з усім гэтым сядні трэйці дзень, як
гэта сталася. 22 І некатрыя жанкі
з памеж нас зумелі нас: будучы
вельмі рана ў гробе, 23 І, не знай-
шоўшы цела Ягонага, прышлі, ка-
жучы, што яны таксама відзелі
відзень ангілаў, каторыя кажуць,
што Ён жывы. 24 І пайшлі некат-
рыя з нас да гробу, і знайшлі яго
так, як жанкі казалі, але Яго ня
бачылі”.

25 І сказаў ім: „О неразумныя і
лентага сэрца, каб паверыць усяму,
што казалі прарокі! 26 Ці не нале-
жыла Хрысту цярпець усяго гэтага
і ўвыйсьці ў славу?” 27 І, пачуўшы
ад Масея а ад усіх прарокаў, выкла-
даў ім у вусіх тых Пісьмах тое, што
датыкалася Яго Самога.

28 І дабліжыліся яны да сяла, да
каторага йшлі, і Ён выглядаў, быц-
цам хоча йсьці дале́й. 29 Але яны
прынука́лі Яго, кажучы: „Застань-
ся з намі, бо дзень ужо сьхінуўся
да вечара”. І Ён увыйшоў, каб за-
стацца зь імі. 30 І сталася, як Ён
узьляжаў зь імі: узяўшы хлеб, даб-
раславіў і, паламіўшы, даў яго ім.
31 І вочы іхныя адчыніліся, і яны
пазналі Яго. Але Ён стаў нявідомы
ім.

32 І яны сказалі адзін аднаму:
„Ці не гарэла ў нас сэрца нашае,
як Ён казаў нам у дарозе, і як ад-
крываў Пісьмы нам?”

33 І, устаўшы тае самае гадзіны,
зьвярнуліся да Ерузаліму, і знайш-
лі адзінанцацёх, што былі зьбершы-
ся, і тых, што былі́ зь імі, 34 Ка-
торыя казалі: „Спадар запраўды
ўскрэс і зьявіўся Сымону”. 35 І яны
павяда́лі, што сталася ў дарозе, і як
яны пазналі Яго ў ламеньню хлеба.

36 І, як яны гу́калі гэта, Ён Сам
стаў сярод іх і кажа: „Супакой
вам!” 37 Але яны, заклапаціўшыся
а спалохаўшыся, падумалі, што ба-
чаць духа. 38 І сказаў Ён ім: „Чаго
засмуці́ліся і чаму думкі паўстаюць
у сэрцах вашых? 39 Во рукі Мае
і ногі Мае, што гэта Я Сам. Дакра-
ніцеся да Мяне й бачча, бо дух ня
мае цела й косьцяў, як бачыце ў
Мяне”. 40 І сказаўшы гэта, паказаў
ім рукі й ногі Свае. 41 Як жа яны
яшчэ з радасьці ня верылі і былі́
зьдзіваваўшыся, Ён сказаў ім: „Мае-
це што тут есьці?”. 42 І далі́ яму
часьць печанае рыбы й мядовае наў-
зы. 43 І, узяўшы, еў перад імі. 44 І
сказаў ім: „Гэта словы, што Я ка-
заў вам, як яшчэ быў з вамі, што
належа выпаўніцца ўсяму, напіса-
наму празь Мяне ў Законе Масея-
вым а ў прароках а ў псальмах”.
45 Тады адчыніў ім розум разумець
Пісьмы. 46 І сказаў ім: „Гэтак на-
пісана, і гэтак належыла Хрысту
цярпець, і ўскрэснуць із мертвых
на трэйці дзень, 47 І быць абяшча-
най у імя Ягонае ка́яце на дара-
ваньне грахоў у вусіх народах, па-
чынаючы зь Ерузаліму. 48 Вы ж
сьветкі гэтага. 49 І вось, Я пашлю
абятніцу Айца Свайго на вас, але
вы заставайцеся ў месьце, пакуль
не ахініце́ся сілаю з вышы”.

50 І вывеў іх вонкі аж да Віфані,

і, падняўшы рукі Свае, дабраславіў
іх. 51 І сталася, як дабраславіў іх,
што адлучаўся ад іх і ўзносіўся на
неба. 52 А яны, пакланіўшыся Яму,
зьвярнуліся да Ерузаліму зь вялі-
кай радасьцяй. 53 І кажначасна бы-
лі ў сьвятыні, хвалячы а дабрасла-
вячы Бога.

## ЕВАНГЕЛЯ ПОДЛЕ СЬВ. ЯАНА

1 На пачатку было Слова, і Сло-
ва было з Богам, і Слова было
Бог. 2 Яно было на пачатку з Бо-
гам. 3 Усе пераз Яго сталася, і безь
Яго нічога ня было стаўшыся, што
сталася. 4 У Ім было жыцьцё, і жы-
цьцё было сьвятлінёю людзёў. 5 І
сьвятліня сьвеце ў цямноце, і цям-
нота яе не агарнула.

6 Быў чалавек пасланы ад Бога,
імя ягонае Яан. 7 Ён прышоў дзеля
сьветчаньня, каб сьветчыць празь
Сьвятліню, каб усі ўверылі пераз
яго. 8 Ён ня быў Сьвятліня, але каб
сьветчыць празь Сьвятліню.

9 Была праўдзівая Сьвятліня, што
асьвячае кажнага чалавека, на
сьвет прыходзячага. 10 На сьвеце
быў, і сьвет стаўся пераз Яго, і
сьвет Яго не пазнаў. 11 Да сваіх
собскіх прышоў, і собскія Ягоныя
не прынялі Яго. 12 Але ўсім тым,
што прынялі Яго, даў ім права стаць
дзецьмі Божымі, тым, што вераць
у імя Ягонае, 13 Каторыя ня з кры-
ві, ані з волі цела, ані з волі мужа,
але з Бога нарадзіліся.

14 І Слова стала целам, і вітала
памеж нас (і мы бачылі славу Яго-
ную, славу як адзінароднага ад
Айца), поўнае ласкі а праўды.

15 Яан сьветча празь Яго і гукаў,
кажучы: „Гэта быў тый, праз Ка-
торага я сказаў: ‚Хто прыходзе за
імною, выперадзіў мяне, бо быў пе-
рад імною' "; 16 Бо з паўніні Яго-
нае ўсі мы прынялі і ласку на
ласку. 17 Бо Бог закон Масеям быў
даўшы; ласка а праўда сталася пе-
разь Ісуса Хрыста. 18 Бога ніхто
ніколі ня бачыў, адзінародны Сын,
што ёсьць у ўлоньню Айцоўскім, Ён
аб'явіў.

19 І гэта сьветчаньне Яанава, як
паслалі да Яго Юдэі зь Ерузаліму
сьвятароў а Левітаў, каб маглі па-
пытацца ў Яго: „Хто Ты?" 20 І ён
вызнаў, і не заперачыў, і вызнаў:
„Я ня Хрыстос". 21 І папыталіся ў
Яго: „Дык што ж? ты Ільля?" і ён
адказаў: „Не". „Прарока?" і ён ад-
казаў „Не". 22 Дык сказалі яму:
„Хто ж ты, каб мы далі адказ тым,
што паслалі нас; што ты скажаш
празь сябе самога?" 23 Ён сказаў:
„Я голас гукаючага на пустыні:
‚Прастайце сьцежку Спадару', як
сказаў Ісая прарока". 24 Пасла-
ныя ж былі з фарысэяў; 25 І яны
папыталіся ў яго, і сказалі яму:
„Чаму ты хрысьціш, калі ты ня
Хрыстос, ані Ільля, ані прарока?"
26 Яан адказаў ім, кажучы: „Я
хрышчу ў вадзе; стаіць сярод вас,
Каторага ня знаеце, 27 Тый, што
прыходзе за імною, у Каторага во-
бую я ня гожы разьвязаць рэмень-
чыка". 28 Гэта сталася ў Віфані за
Ёрданом, ідзе Яан хрысьціў.

29 Назаўтрае бача ён ідучага да
сябе Ісуса й кажа: „Во Ягнётка Бо-
жае, што бярэць грэх сьвету. 30 Ён ё,
праз Каторага я сказаў: ‚За імною
ідзець муж, Каторы выперадзіў мя-
не, бо Ён быў уперад за мяне. 31 І я
ня знаў Яго, але каб Ён быў выяў-
лены Ізраелю, дзеля таго я пры-
шоў хрысьціць у вадзе".

32 І сьветчыў Яан, кажучы: „Я
бачыў Духа, што зыходзіў, як га-
луба, зь неба, ды перабываў на Ім.
33 І я ня знаў Яго; але Тый, што



паслаў мяне хрысьціць у вадзе,
Тый сказаў імне: ‚Над кім абачыш
Духа, што зыходзе і застаецца на
Ім, Тый ё, што хрысьце ў Духу
Сьвятым'; 34 І я бачыў, і сьветчыў,
што Гэты ё Сын Божы".

35 Назаўтрае ізноў стаяў Яан і
двух вучанікаў ягоных. 36 І, аба-
чыўшы йдучага Ісуса, сказаў: „Гэта
Ягнётка Божае".

37 І пачулі два вучанікі, як ён
казаў, і пайшлі за Ісусам. 38 Ісус жа,
абярнуўшыся і абачыўшы іх ідучых
за Ім, кажа ім: „Чаго шукаеце?"
А яны сказалі яму: „Раббі! (што
знача ў перакладзе: Вучыцелю!)
ідзе перабываеш?" 39 Кажа ім:
„Прыйдзіце й абачча". Дык яны
пайшлі й абачылі, ідзе Ён перабы-
вае, і прабылі ў Яго тый дзень. Бы-
ло каля дзясятае гадзіны.

40 Андрэй, брат Сымона Пётры,
быў адзін із двух, што чулі ад Яана і
пайшлі за Ім. 41 Знаходзе ён перш
брата свайго собскага Сымона і ка-
жа яму: „Мы знайшлі Месію", што
знача ў перакладзе: Хрыстос. 42 І
прывёў яго да Ісуса. Ісус, гледзя-
чы на яго, сказаў: „Ты Сымон, сын
Ёнін; ты будзеш звацца Кіфа, што
ў перакладзе: камень.

43 Назаўтрае хацеў Ісус ісьці да
Галілеі, і знаходзе Піліпа, і кажа
яму: „Ідзі за Імною".

44 Піліп жа быў зь Віфсаіды,
места Андрэявага а Пётравага.
45 Піліп знаходзе Нафанайлу й ка-
жа яму: „Мы знайшлі Таго, праз
Каторага Масей пісаў у законе а
прарокі, Ісуса, сына Язэпавага з На-
зарэту". 46 А Нафанайла кажа яму:
„Ці можа з Назарэту быць што доб-
рае?" Піліп кажа яму: „Ідзі й
глянь". 47 Ісус, абачыўшы йдуча-
га да Яго Нафанайлу, кажа празь
яго: ‚Вось, запраўды Ізраелянін, у
каторым няма хітрыні". 48 Нафа-
найла кажа Яму: „Скуль Ты мяне
знаеш?" Адказаў Ісус і сказаў яму:
„Уперад чымся Піліп гукнуў цябе,
як ты быў пад фіґаю, Я бачыў ця-
бе". 49 Нафанайла адказаў Яму:
„Раббі! Ты Сын Божы, Ты Кароль
Ізраельскі". 50 Ісус адказаў і ска-
заў яму: „Затым што Я сказаў табе:
‚Я бачыў цябе пад фіґаю', — ты ве-
рыш? абачыш балей за гэта". 51 І
кажа яму: „Запраўды, запраўды ка-
жу вам: адгэтуль абачыце неба ад-
чыненае й ангілаў Божых узыходзя-
чых і зыходзячых на Сына Людз-
кога".

2 Пазаўтра спраўлялі вясельле
ў Кане Ґалілейскай, і маці Ісу-
сава была тамака. 2 І таксама Ісус
і вучанікі Ягоныя былі пазваныя
на вясельле. 3 І, як не ставала віна,
маці Ісусава кажа Яму: „Віна ня
маюць". 4 Ісус кажа ёй: „Што Імне
й табе, жонка? яшчэ ня прышла
гадзіна Мая". 5 Маці Ягоная кажа
слугам: „Што Ён скажа вам, рабі-
це". 6 І стаяла там, подле звычаю
ачышчэньня юдэйскага, шэсьць ка-
менных судзінаў да вады, што
зьмяшчалі дзьве альбо тры меры
кажная. 7 Кажа ім Ісус: „Напоўніце
судзіны вадою". І напоўнілі іх уш-
чырк. 8 І кажа ім: „Цяпер засіліце
й нясіце да загадніка чэсьці". І па-
несьлі. 9 Як жа загаднік чэсьці па-
спытаўся вады, аберненае ў віно, —
а ён ня ведаў, скуль яна была, але
паслугачыя, што сілялі ваду, веда-
лі, — тады загаднік гукае маладога
10 Й кажа яму: „Кажная людзіна
найперш даець добрае віна, а як
нап'юцца, тады горшае; ты дзяржаў
добрае віно дагэтуль". 11 Гэты па-
чатак знакоў учыніў Ісус у Кане
Ґалілейскай і зьявіў славу Сваю;
і вучанікі Ягоныя ўверылі ў Яго.

12 Просьле гэтага зышоў Ён да
Капернауму, Ён а маці Ягоная а
браты Ягоныя а вучанікі Ягоныя;
і прабылі там трохі дзён.

13 І блізка была Пасха юдэйская,
і Ісус узышоў да Ерузаліму; 14 І
засьпеў у сьвятыні прадаўнікоў ва-
лоў а авец а галубоў, і пенезяменаў

седзячых. 15 І, зрабіўшы пугу з
аборак, усіх выгнаў із сьвятыні, і
авечкі і валы; а грошы пенезяме-
нам рассыпаў і сталы абярнуў. 16 А
прадаўнікам галубоў сказаў: ‚Вазь-
міце гэта адгэтуль, не рабіце дому
Айца Майго таварняю”. 17 Вўчанікі
Ягоныя прыпомнелі, што напісана:
„Рупатлівасьць праз дом Твой зья-
дае Мяне”.

18 Затым Юдэі, адказуючы, ска-
залі Яму: „Які знак пакажаш Ты
нам, чаму гэта робіш?” 19 Ісус, ад-
казуючы, сказаў ім: „Разбурыце
гэты Дом Божы, і за тры дні Я на-
нава пастанаўлю яго”. 20 Затым
Юдэі сказалі: „Сорак шэсьць год
гэты Дом Божы станавілі, а Ты на-
нава пастановіш Яго за тры дні?”
21 Але Ён казаў праз Дом Божы
цела Свайго. 22 Затым, як Ён ускрэс
із мертвых, вўчанікі Ягоныя ўспом-
нелі, што Ён казаў гэта, і паверылі
Пісьму а слову, што Ісус сказаў.

23 І як Ён быў у Ерузаліме на
сьвяце Пасхі, шмат хто ўверыў у
імя Ягонае, бачачы знакі, каторыя
Ён чыніў. 24 Але Сам Ісус не да-
вяраўся ім, бо знаў усіх, 25 І за-
тым не патрабаваў, каб хто сьвет-
чыў праз чалавека, бо Сам ведаў,
што было ў чалавеку.

3 Быў жа чалавек із фарысэяў,
імя ягонае Мікадым, старац
юдэйскі. 2 Ён прышоў да Ісуса но-
чы й сказаў Яму: „Раббі, мы ве-
даем, што Ты вучыцель, прышлы
ад Бога, бо ніхто ня можа чыніць
такіх знакоў, якія Ты чыніш, калі
ня будзе Бога зь ім”. 3 Ісус, адка-
зуючы, сказаў яму: „Запраўды, за-
праўды кажу табе: калі хто не на-
родзіцца згары, ня можа бачыць
гаспадарства Божага”. 4 Мікадым
кажа Яму: „Як можа людзіна на-
радзіцца, будучы стары? нягож мо-
жа ён другі раз увыйсьці ў вулонь-
не маці свае, каб нарадзіцца?”
5 Ісус адказаў: „Запраўды, запраў-
ды кажу табе: калі хто не народзіц-
ца з вады й Духа, ня можа ўвый-
сьці ў гаспадарства Божае. 6 На-
роджаныя зь цела ё цела; а наро-
джаныя з Духа ё дух. 7 Ня дзівуй-
ся, што Я сказаў Табе: ‚Маеце на-
радзіцца нанава’. 8 Вецер вее, ідзе
хоча, і гук яго чуеш, але ня ве-
даеш, скуль прыходзе й куды
йдзець. Гэтак кажны, народжаны з
Духа”. 9 Мікадым адказаў і сказаў
Яму: „Як гэта можа быць?” 10 Ісус
адказаў і сказаў яму: „Ты вучыцель
Ізраеляў і ня ведаеш гэтага? 11 За-
праўды, запраўды кажу табе: мы
кажам тое, што ведаем, і сьвет-
чым праз тое, што бачылі, але
вы сьветчаньня нашага ня прый-
маеце. 12 Калі Я сказаў вам
земнае, і вы ня верыце; як па-
верыце, калі скажу вам нябёснае?
13 І ніхто ня ўзышоў на неба, адно
хто зышоў зь неба, Сын Людзкі, Ка-
торы ёсьць у небе. 14 І як Масей
узьняў гада на пустыні, так мае
Сын Людзкі быць узьняты, 15 Каб
кажны, што ўвера ў Яго, меў жыць-
цё вечнае. 16 Бо так умілаваў Бог
сьвет, што Сына Свайго адзінарод-
нага Ён аддаў, каб кажны, хто вера
ў Яго, не загінуў, але меў жыцьцё
вечнае. 17 Бо не паслаў Бог Сына
Свайго на сьвет, каб судзіць сьвет,
але каб сьвет спасёны быў пераз
Яго. 18. Хто вера ў Яго, ня будзе
суджаны; а хто ня вера, ужо за-
суджаны, бо ня ўверыў у імя адзі-
народнага Сына Божага.

19 „Гэта ж ё суд, што сьвятліня
прышла на сьвет, але людзі ўміла-
валі цямноту балей за сьвятліню;
бо ўчынкі іхныя былі благія. 20 Бо
кажны, што робе ліха, ненавідзе
сьвятліні і ня йдзець да сьвятліні,
каб ня былі ганены ўчынкі ягоныя.
21 Але хто чыне праўду, ідзець да
сьвятліні, каб учынкі ягоныя выя-
віліся, што ў Богу ўчынены яны”.

22 Просьле гэтага прышоў Ісус
а вўчанікі Ягоныя да зямлі Юдэй-
скае, і там Ён жыў зь імі, і хры-



сьціў. 23 А Яан тамака хрысьціў у
Еноне, ля Саліму, бо там было шмат
вады; і яны прыходзілі, і хрысьці-
ліся. 24 Бо Яан ня быў яшчэ паса-
джаны ў вязьніцу.

25 І ўзьнікла сьпярэчка памеж
вўчанікаў Янавых і Юдэяў праз
ачышчэньне. 26 І прышлі да Яана,
і сказалі яму: „Раббі, Тый, што быў
із табою за Ёрданом, праз Каторага
ты сьветчыў, гля, Ён хрысьце, і ўсі
прыходзяць да Яго”. 27 Яан, адка-
зуючы, сказаў: „Ня можа людзіна
ўзяць нічога, калі ня дана ёй із
неба. 28 Вы самы Імне пасьветчыце,
што Я сказаў: ‚Я ня Хрыстос, але
што Я пасланы перад Ім’. 29 Хто
мае княгіню маладую, тый князь
малады; а прыяцель князеў, што
стаіць і слухае яго, вельма цешыц-
ца з голасу князявага. Дык рада-
сьць мая споўнілася. 30 Ён мае ра-
сьці, а я меншаць. 31 Хто прыходзе
з вышы, Тый над усімі. Хто па-
ходзе із зямлі, ё земны, і гукае, як
земны. Хто прыходзе зь неба, ё над
усімі. 32 Што Ён бачыў а чуў, праз
тое сьветча; і ніхто ня прыймае
сьветчаньня Ягонага. 33 Хто пры-
няў сьветчаньне Ягонае, тый пры-
пячатаваў, што Бог праўдзівы. 34 Бо
тый, каго паслаў Бог, кажа словы
Божыя; бо ня мераю даець Бог Ду-
ха. 35 Айцец мілуе Сына і ўсе даў
у руку Ягоную. 36 Хто вера ў Сы-
на, мае жыцьцё вечнае; але хто ня
вера ў Сына, не абача жыцьця, але
гнеў Божы перабывае на ім”.

4 Як жа даведаўся Спадар, што
фарысэі чулі, што Ісус балей
прыдбаець вўчанікаў і хрысьце,
чымся Яан, — 2 Хоць Ісус Сам ня
хрысьціў, але вўчанікі Ягоныя, —
3 Ён пакінуў Юдэю і пайшоў ізноў
да Галілеі. 4 І належыла Яму пра-
ходзіць пераз Самару.

5 Дык прыходзе Ён да места са-
марскага, званага Сыхар, ля лапіны
зямлі, што Якаў даў сыну свайму
Язэпу. 6 Жарало Якавава было там.
Дык Ісус, здарожыўшыся, сеў ля
жарала. Было каля шостае гадзіны.
7 Прыходзе жонка із Самары засі-
ліць вады. Ісус кажа ёй. „Дай Імне
піць”. 8 (Бо вўчанікі Ягоныя адхі-
нуліся да места купіць ежы). 9 Са-
маранка ж кажа Яму: „Як Ты, бу-
дучы Юдэям, просіш піць у мяне
Самаранкі?” бо Юдэі ня маюць
узаем’я із Самаранмі. 10 Адказаў
Ісус і сказаў ёй: „Калі б ты ведала
дар Божы, і Хто кажа табе: ‚Дай
Імне піць’, прасіла б у Яго, і Ён
даў бы табе жывое вады”. 11 Яна
кажа Яму: „Спадару, Ты й засіліць
ня маеш чым, і студня глыбокая;
дык скуль жа маеш жывую ваду?
12 Нягож ты вялікшы за айца на-
шага Якава, каторы даў нам гэтую
студню, і сам піў зь яе, і сынове
ягоныя, і статак ягоны?” 13 Адка-
заў Ісус і сказаў ёй: „Кажны, хто
п’ець гэтую ваду, ізноў усьмягне;
14 А хто п’ець ваду, каторую Я дам
яму, ня ўсьмягне на векі; але вада,
што я дам яму, станецца ў ім жара-
лом вады, што цячэць у жыцьцё
вечнае”. 15 Жонка кажа: „Спада-
ру, дай імне тае вады, каб я ня
сьмягла і ня прыходзіла сюды сі-
ляць”. 16 Ісус кажа ёй: „Пайдзі, па-
гукай мужа свайго і прыйдзі сюды”.
17 Адказала жонка й сказала: „Я
ня маю мужа”. Ісус кажа ёй: „Доб-
ра ты сказала, што ня маеш мужа;
18 Бо ты мела пяцёх мужоў, і тый,
каторага цяпер маеш, ня муж табе;
гэта праўдзіва ты сказала”. 19 Жон-
ка кажа Яму: „Спадару, бачу, што
Ты прарока. 20 Айцове нашы кла-
няліся на гэтай гары, а вы кажаце,
што ў Ерузаліме месца, ідзе належа
кланяцца”. 21 Ісус кажа ёй: „Жон-
ка, павер Імне, што настаець гадзі-
на, калі і не на гэтай гары, і не ў
Ерузаліме будзеце кланяцца Айцу.
22 Вы кланяецеся таму, чаго ня ве-
даеце; мы кланяемся таму, што ве-
даем, бо спасеньне ад Юдэяў. 23 Але
настаець гадзіна, і цяпер ё, калі

праўдзівыя багамолцы будуць кланяцца Айцу ў духу а ў праўдзе; бо таковых багамолцаў Айцец шукае Сабе. 24 Бог — дух, і тыя, што кланяюцца Яму, маюць кланяцца ў духу а ў праўдзе". 25 Жонка кажа Яму: „Я ведаю, што прыходзе Месія, званы Хрыстом; як Ён прыйдзе, паведаме нам усе". 26 Ісус кажа ёй: „Гэта Я, Каторы гутару з табою".

27 На гэта прышлі вýчанікі Ягоныя і дзіваваліся, што Ён гутарыў із жонкаю; ні водзін ізь іх, адылí, не сказаў: ‚Чаго шукаеш?' альбо: ‚Чаму гутарыш ізь ёю?'

28 Тады жонка пакінула вядро свае, і пайшла да места, і кажа людзём:

29 „Пайдзіце, абачча чалавека, каторы сказаў імне ўсе, што я раблю, ці ня Хрыстос Ён?" 30 Яны вышлі зь места й прышлі да Яго.

31 Прымеж таго вýчанікі прасілі Яго, кажучы: „Раббі, еж". 32 Але Ён сказаў ім: „Я маю ежу есьці, каторае вы ня знаеце". 33 Затым вýчанікі казалі адзін аднаму: „Ці ня прынёс хто Яму есьці?" 34 Ісус кажа ім: „Мая ежа ё чыніць волю Таго, хто паслаў Мяне, і скончыць работу Ягоную. 35 Ці ня кажаце вы, што яшчэ чатыры месяцы, і настане жніво? Вось, Я кажу вам: узьніміце вочы свае й глядзіце на нівы, бо яны ўжо пабялелі, каб жаць. 36 Хто жнець, тый адзержуе заплату й зьбірае плады да жыцьця вечнага, каб хто сее і хто жнець разам цешыліся. 37 Бо ў гэтым слова праўдзівае: адзін сее, а другі жнець. 38 Я паслаў вас жаць тое, над чым вы не працавалі: іншыя працавалі, а вы ўвыйшлі ў працу іхнюю".

39 Шмат жа хто із Самаран места таго ўверылі ў Яго на слова жонкі, што сьветчыла: „Ён сказаў імне ўсе, што я зрабіла". 40 Затым, як прышлі да Яго Самаране, прасілі Яго застацца зь імі; і Ён пабыў там два дні. 41 І яшчэ шмат балей уверыла дзеля слова Ягонага. 42 І сказалі тэй жонцы: „Ужо ня дзеля паведаньня твайго верым, бо мы самы чулі Яго й ведаем, што гэта запраўды Спас сьвету".

43 Просьле ж двух дзён Ён вышаў стуль і пайшоў да Галілеі; 44 Бо Сам Ісус сьветчыў, што прарока ня мае сьці ў краіне сваёй. 45 А як прышоў Ён да Галілеі, Галілеяне прынялí Яго, бачачы, што ўчыніў Ён у Ерузаліме ў сьвята, бо й яны былí прышоўшы на сьвята.

46 Дык Ён ізноў прышоў да Каны Галілейскае, ідзе быў абярнуўшы ваду ў віно. І там быў адзін дваранíн у Капернауме, каторага сын быў хворы. 47 Ён, пачуўшы, што Ісус прышоў зь Юдэі да Галілеі, прышоў да Яго і прасіў ісступіць і ўздаравіць сына ягонага, каторы канаў. 48 Затым сказаў яму Ісус: „Калі не абачыце знакоў а чудосаў, ня ўверыце". 49 Дваранíн кажа яму: „Спада́ру, іступі, пакуль мае дзяцё не памерла". 50 Ісус кажа яму: ‚Пайдзі, сын твой жывець". 51 І чалавек паверыў слову, што Ісус сказаў яму, і пайшоў. Але ўжо, як ён зыходзіў, нявольнікі ягоныя пераняли́ яго, кажучы, што дзяцюк твой жывець. 52 Дык ён папытаўся ў іх праз гадзіну, калі яму палепшала. Яму сказалі: „Учора а сёмай гадзіне пал пакінуў яго". 53 Дык бацька даведаўся, што тае ж гадзіны, каторае Ісус сказаў яму: „Сын твой жывець". І ён уверыў сам і ўвесь дом ягоны. 54 Гэты другі знак учыніў Ісус, прышоўшы зь Юдэі да Галілеі.

**5** Просьле гэтага было сьвята юдэйскае, і Ісус прышоў да Ерузаліму. 2 Ёсьць жа ў Ерузаліме ля Авечае брамы копань із пяцьма ґанкамі, званая пагэбрэйску Віфэзда. 3 І ў іх ляжала множасьць хворых, нявісных, кульгавых, сьпятрэлых, што чакалі руху вады; 4 Бо ад часу да часу зыходзіў да копані



ангіл і кратаў ваду, і хто першы ўходзіў у пакратаную ваду, ачуняваў, на якую б хваробу ён ні хварэў.

5 І там быў адзін чалавек, хворы трыццаць восьмі год. 6 Ісус, бачачы яго лежачага й ведаючы, што ён ляжыць ужо даўгі час, кажа яму: „Ці хочаш ачуняць?" 7 Хворы адказаў Яму: „Спада́ру, я ня маю людзіны, каб, як вада пакратаная, апусьціла мяне да копані; як жа я йду, іншы выпераджае мяне". 8 Ісус кажа яму: „Устань, вазьмі пасьцелю сваю й хадзі". 9 І якга тый чалавек ачуняў, і ўзяў пасьцелю сваю, і пайшоў. І была сыбота таго дня. 10 Затым Юдэі сказалі ўздароўленаму: „Сыбота, не дазволена табе правам браць пасьцелі свае". 11 Ён адказаў ім: „Хто ўздаравіў мяне, сказаў імне: ‚Вазьмі пасьцелю сваю й хадзі' ". 12 Яны папыталіся ў яго: „Хто тый чалавек, што сказаў табе: ‚Вазьмі пасьцелю сваю й хадзі'?". 13 Але ўздароўлены ня ведаў, хто гэта быў, бо Ісус, там будучы, адхінуўся ад гурбы ў тым месцу.

14 Просьле гэтага Ісус засьпяець яго ў сьвятыні і кажа яму: „Вось, ты ачуняў; не грашы ж ужо, каб чаго горшага ня сталася табе". 15 Чалавек тый пайшоў і сказаў Юдэям, што гэта быў Ісус, каторы ўздаравіў яго. 16 І за тое Юдэі перасьледава́лі Ісуса, што Ён учыніў гэта ў сыботу.

17 Але Ісус адказаў ім: „Ацец Мой аж дагэтуль працуе, і Я працую". 18 За гэта яшчэ балей Юдэі шукалі забіць Яго, бо Ён ня толькі ўзрушаў сыботу, але й сказаў, што Бог быў айцец Ягоны, раўнуючы Сябе да Бога. 19 Дык адказаў Ісус і сказаў ім: „Запраўды, запраўды кажу вам: Сын нічога ня можа чыніць Сам ад Сябе, адно што бача Айца чынячага; бо што-колечы Ён чыне, тое й Сын чыне таксама. 20 Бо Ацец любе Сына й паказуе Яму ўсе, што Ён Сам чыне; і пакажа Яму ўчынкі большыя за гэтыя, каб вы дзіваваліся. 21 Бо як Ацец ускрышае памерлых і ажыўляе іх, так і Сын ажыўляе, каго хоча. 22 Бо Ацец і ня судзе нікога, але аддаў увесь суд Сыну; 23 Каб усі сьцілі Сына, як сьцяць Айца. Хто ня сьціць Сына, ня сьціць Айца, Каторы паслаў Яго. 24 Запраўды, запраўды кажу вам: хто слухае слова Мае й вера таму, хто паслаў Мяне, ма́е жыцьцё вечнае; і ня прыйдзе на суд, але перайшоў ад сьмерці да жыцьця. 25 Запраўды, запраўды кажу вам, што настаець гадзіна, і цяпер ё, калі мертвыя пачуюць голас Сына Божага, і каторыя пачуюць, будуць жыць. 26 Бо як Ацец мае жыцьцё ў Самым Сабе, так і Сыну даў меці жыцьцё ў Самым Сабе. 27 І даў Яму ўладу чыніць суд, бо Ён ё Сын Людзкі. 28 Ня дзівуйцеся з гэтага, бо настаець гадзіна, у каторай усі, што ў грабох, пачуюць голас Ягоны; 29 І пойдуць тыя, што чынілі дабро, на ўскрысеньне жыцьця, а каторыя ліха чынілі, на ўскрысеньне суду. 30 Я нічога не магу чыніць Сам ад Сябе. Як чую, так і суджу; і суд Мой справядлівы; бо Я ня шукаю волі Свае, але волі тога, хто паслаў Мяне.

31 „Калі Я сьветчу Сам праз Сябе, сьветчаньне Мае ня ё праўдзівае. 32 Ё іншы, што сьветча праз Мяне, і Я ведаю, што праўдзівае тое сьветчаньне, каторым Ён сьветча праз Мяне. 33 Вы пасылалі да Яана, і ён пасьветчыў праз праўду. 34 Не ад людзіны, адылі, я прыймаю сьветчаньне, але кажу гэта, каб вы спасьліся. 35 Ён быў лянпаю, што гарэла а сьвяціла, і вы хацелі якісь час пацешыцца ў сьвятліні ягонай.

36 „Я ж маю сьветчаньне большае за Яанава, бо справы, што даў Імне Ацец скончыць, самыя тыя справы, каторыя Я спраўляю, сьветчаць праз Мяне, што Ацец паслаў Мяне.

37 І Ацец, што паслаў Мяне, Сам
сьветчыў праз Мяне. Вы ані гола-
су Ягонага ніколі ня чулі, ані віду
Ягонага ня бачылі, 38 І ня маеце
прабываючага ў сабе слова Ягона-
га, бо каго паслаў Ён, таму ня ве-
рыце.
39 „Дасьлядуйце Пісьмы, бо ду-
маеце, што ў іх маеце жыцьцё веч-
нае; а яны сьветчаць праз Мяне.
40 Але вы ня хочаце прыйсьці да
Мяне, каб мець жыцьцё. 41 Ня
прыймаю славы ад людзёў, 42 Але
пазнаў вас, што вы любові Божае ня
маеце ў сабе. 43 Я прышоў у імя
Айца Свайго, і вы ня прыймаеце
Мяне; калі б іншы прышоў у імя
свае, таго прыймеце. 44 Як можаце
вы верыць, калі адзін ад аднаго
прыймаеце славу, і ня шукаеце сла-
вы, каторая ад адзінага Бога? 45 Ня
думайце, што Я буду вінаваць вас
перад Айцом: ё хто абвінуе вас —
Масей, на Каторага спадзяіцёся.
46 Бо калі б вы верылі Масею, па-
верылі б Імне, бо ён пісаў праз
Мяне. 47 Але калі ня верыце Пісь-
мам, як паверыце Маім словам?"

6 Просьле гэтага пайшоў Ісус
за мора Галілейскае Тыверады.
2 І вялікі груд пайшоў за Ім, бо ба-
чылі знакі, што Ён чыніў над хво-
рымі. 3 Ісус жа ўзышоў на гару
і там сядзеў з ву́чанікамі Сваімі.
4 Бліжылася ж Пасха, сьвята юдэй-
скае. 5 Тады Ісус, узьняўшы вочы
Свае й пабачыўшы, што вялікі груд
ідзець да Яго, кажа Піліпу: „Скуль
мы купім букаткаў, каб яны маглі
есьці?" 6 Казаў жа гэта, прабую-
чы іх, бо ён ведаў, што маніўся ўчы-
ніць. 7 Піліп адказаў Яму: „Букат-
каў за дзьвесьце дынароў ня стане
ім, каб кажны зь іх крыху дастаў".
8 Кажа Яму адзін із ву́чанікаў Яго-
ных, Андрэй, брат Сымона Пётры:
9 „Ё дзяцюк тут, што мае пяць яч-
ных букаткаў і дзьве рыбкі, але
што гэта на так шмат?" 10 Ісус ска-
заў: „Загадайце, каб людзі ўзьляг-
лі". Было шмат травы на тым мес-
цу. Дык людзі ўзьляглі ў ліку каля
пяцёх тысячаў. 11 Ісус, узяўшы бу-
каткі і ўчыніўшы падзяку, раздаў
ву́чанікам, а ву́чанікі лежачым; і
таксама рыбкі, колькі хацелі. 12 І,
як пад'елі, кажа ву́чанікам Сваім:
„Зьбярыце тыя кавалкі, што заста-
ліся, каб нічога не загінула". 13 Яны
зьберлі й напоўнілі дванаццаць поў-
ных кашоў кавалкамі зь пяцёх бу-
каткаў, што засталіся ў тых, като-
рыя елі.
14 Тады людзі, бачачы знак, што
Ісус учыніў, казалі: „Гэта запраў-
ды прарока, каторы меў прыйсьці
на сьвет". 15 Ісус жа, ведаючы, што
маніліся прыйсьці і няць Яго, каб
пастанавіць за караля, ізноў адый-
шоў на гару адзін.
16 Як жа настаў вечар, ву́чанікі
Ягоныя зышлі над мора 17 І, увый-
шоўшы ў струг, плылі на другі бок
мора, да Капернауму. І ўжо сьцям-
нела, і Ісус ня прыходзіў да іх.
18 Мора ж хвалявалася, бо веяў вя-
лікі вецер. 19 Адплыўшы каля двац-
цаць пяцёх або трыццаць стадаў,
яны абачылі, што Ісус ішоў па мору
і бліжыўся да стругу, і спалохаліся.
20 Але Ён сказаў ім: „Гэта Я, ня
бойцеся". 21 І ўзялі Яго ахвотна да
стругу, і зараз струг быў на месцу,
куды яны сьціраваліся.
22 Назаўтрае груд, што стаяў на
другім баку мора, абачылі, што ня
было іншага струга, апрача таго,
у каторы ўвыйшлі ву́чанікі Ягоныя,
і што Ісус ня ўвыйшоў у струг з
ву́чанікамі Сваімі, але ву́чанікі Яго-
ныя адплылі адны. 23 Іншыя, ады-
лі, лодкі прыплылі з Тыверады
блізка да тога месца, ідзе елі хлеб,
як дзякі ўчыніў Спадар. 24 Затым,
як груд абачыў, што там ня было
Ісуса ані ву́чанікаў Ягоных, увыйш-
лі ў струг і прыбылі да Капернау-
му, шукаючы Ісуса. 25 І, знайшоў-
шы Яго на другім баку мора, ска-
залі Яму: „Раббі, калі Ты прыбыў



сюды?" 26 Адказаў ім Ісус і сказаў:
„Запраўды, запраўды кажу вам:
вы шукаеце Мяне не затым, што
бачылі знакі, але затым, што елі
з букаткаў і пад'елі. 27 Працуйце
не на ежу, каторая гіне, але на ежу,
што застаецца да жыцьця вечнага,
каторую Сын Людзкі дасьць вам;
бо на Ім паклаў пячаць Ацец, Бог".
28 Дык сказалі Яму: „Што нам
рабіць, каб спраўляць справы Бо-
жыя?" 29 Адказаў Ісус і сказаў ім:
„Гэта ё справа Божая, каб вы ве-
рылі ў Таго, каго Ён паслаў".
30 Яны ж сказалі Яму: „Што ж за
знак чыніш, каб мы бачылі й веры-
лі Табе? што Ты дзееш? 31 Айцове
нашы елі манну на пустыні, як на-
пісана: ‚Даў ім хлеб із неба есь-
ці'". 32 Тады Ісус сказаў ім: „За-
праўды, запраўды кажу вам: не Ма-
сей даў вам хлеб із неба, але Ацец
Мой даець вам праўдзівы хлеб із
неба; 33 Бо хлеб Божы ё тый, што
зыходзе зь неба і даець жыцьцё
сьвету". 34 І сказалі Яму: „Спада́-
ру, давай нам хлеба гэтага заўсёды".
35 Ісус сказаў ім: „Я хлеб жыцьця;
хто прыходзе да Мяне, ніяк ня бу-
дзе прагці, і хто вера ў Мяне,
ніколі ня будзе сьмягці. 36 Але Я
сказаў вам, што вы й бачылі Мяне,
і ня верыце. 37 Усе, што даець Імне
Айцец, да Мяне прыйдзе, і прыхо-
дзячага да Мяне ня выжану вон,
38 Бо Я зышоў зь неба не каб чы-
ніць волю Сваю, але волю таго, хто
паслаў Мяне. 39 І гэта ё воля таго,
хто паслаў Мяне, каб із усяго, што
Ён даў Імне, нічога ня згубіць, але
ўскрысіць апошняга дня; 40 Бо гэ-
та ё воля Айца Майго, каб кажны,
што бача Сына і вера ў Яго, меў
жыцьцё вечнае; і Я ўскрышу яго
апошняга дня".
41 Юдэі наракалі на Яго за тое,
што Ён сказаў: „Я хлеб, што зышоў
зь неба". 42 І казалі яны: „Ці ня
Ісус гэта, сын Язэпаў, катарага айца
й маці мы знаем? Як жа Ён кажа:
‚Я зышоў зь неба'?" 43 Адказаў Ісус
і сказаў ім: „Не наракайце мяж-
собку. 44 Ніхто ня можа прыйсьці
да Мяне, калі не пацягне яго Айцец
Мой, што паслаў Мяне; і Я ўскрышу
яго апошняга дня. 45 У прарокаў
напісана: ‚І ўсі будуць навучаны
Богам.' Кажны, каторы чуў ад Айца
і навучыўся, прыходзе да Мяне.
46 Не, каб хто бачыў Айца, апрача
таго, каторы ё з Богам; Тый бачыў
Айца. 47 Запраўды, запраўды кажу
вам: хто вера ў Мяне, мае жыцьцё
вечнае. 48 Я хлеб жыцьця. 49 Айцо-
ве вашы елі манну на пустыні і па-
мерлі. 50 Гэта ё хлеб, што зыходзе
зь неба; хто будзе есьці яго, не пам-
рэць. 51 Я — хлеб жыцьця, што зы-
шоў зь неба; калі хто будзе есьці
гэты хлеб, будзе жыць на векі.
Хлеб жа, каторы Я дам, ё цела Мае,
каторае Я аддам за жыцьцё сьвету".
52 Тады Юдэі сьперачаліся мяж-
собку, кажучы: „Як можа гэты даць
нам цела есьці?" 53 Дык Ісус ска-
заў ім: „Запраўды, запраўды кажу
вам: калі не ясьце́ цела Сына Людз-
кога і ня п'іце́ крыві Ягонае, ня
маеце жыцьця ў сабе. 54 Хто есьць
цела Мае і п'ець кроў Маю, мае
жыцьцё вечнае, і Я ўскрышу яго
апошняга дня; 55 Бо цела Мае за-
праўды ё ежа, і кроў Мая запраўды
ё піцьцё. 56 Хто есьць цела Мае
і п'ець кроў Маю, перабывае ў Імне,
і Я ў ім. 57 Як жывы Айцец паслаў
Мяне, і Я жыву Айцом, таксама хто
есьць Мяне, будзе жыць таксама
Імною. 58 Гэта хлеб, што зышоў зь
неба. Не як айцове елі й памерлі:
хто есьць гэты хлеб, будзе жыць на
векі".
59 Гэта сказаў Ён у бажніцы, ву-
чачы ў Капернауме. 60 Затым шмат
хто з ву́чанікаў Ягоных, чуючы, ка-
залі: „Цяжкое гэта слова! хто можа
слухаць гэта?" 61 Але Ісус, веда-
ючы Сам у Сабе, што ву́чанікі Яго-
ныя наракаюць на гэта, сказаў ім:
„Ці гэта ўражае вас? 62 Што ж, ка-

лі б вы абачылі Сына Людзкога ўзыходзячага туды, ідзе быў уперад? 63 Гэта дух, што ажыўляе; цела нічога не памагае. Словы, што Я кажу вам, ё дух і жыцьцё. 64 Але з памеж вас ё некатрыя, што ня вераць". Бо Ісус спачатку ведаў, хто няверучыя, і хто ізрадзе Яго. 65 І сказаў: „Затым Я кажу вам, што ніхто ня можа прыйсьці да Мяне, калі ня будзе гэта дана яму ад Айца".

66 Адгэтуль шмат хто з вýчанікаў Ягоных адышлі ад Яго і ўжо не хадзілі зь Ім. 67 Тады Ісус сказаў дванаццём: „Ці вы таксама хочаце адыйсьці?" 68 Сымон Пётра адказаў Яму: „Спадáру, да каго мы пойдзем? Словы жыцьця вечнага Ты маеш, 69 І мы ўверылі й пазналі, што Ты Сьвяты Божы".

70 Ісус адказаў ім: „Ці не дванаццёх абраў Я вас, адзін із вас, адылí, дзявал". 71 Сказаў жа празь Юду Сымонавага Іскарыёта, бо гэты маніўся выдаць Яго, будучы адзін із дванаццёх.

**7** Потым жа Ісус хадзіў па Галілеі, бо не хацеў хадзіць у Юдэі, бо Юдэі шукалі забіць Яго. 2 І бліжэла юдэйскае сьвята Будкаў. 3 Тады браты Ягоныя сказалі Яму: „Выйдзі адгэтуль і йдзі да Юдэі, каб і вýчанікі Твае бачылі ўчынкі Твае, каторыя Ты чыніш; 4 Бо ніхто ня робе нічога ў тайбé, і хоча сам быць ведамным; калі Ты чыніш гэтыя ўчынкі, зьявіся сьвету". 5 Бо й браты Ягоныя ня верылі ў Яго. 6 І кажа ім Ісус: „Мая пара яшчэ ня прышла, а вам заўсёды пара. 7 Сьвет ня можа ненавідзіць вас, але Мяне ён ненавідзе, бо Я сьветчу празь яго, што ўчынкі ягоныя ліхія. 8 Вы ўзыйдзіце на гэта сьвята; Я яшчэ ня ўзыйду на гэта сьвята, бо час Мой яшчэ ня выпаўніўся". 9 Сказаўшы гэта ім, застаўся ў Галілеі.

10 Але як браты Ягоныя ўзышлі на сьвята, тады Ён таксама ўзышоў на сьвята, ня яўна, а як бы тойма. 11 Юдэі ж шукалі Яго ў сьвята і казалі: „Ідзе Ён?" 12 І шмат было нараканьня на Яго памеж грудамі. Адныя казалі: „Ён добры", другія казалі: „Не, але зводзе груды". 13 Ніхто, адылі, ня гýкаў празь Яго яўна, баючыся Юдэяў.

14 Але ўжо ў палавіцы сьвята Ісус увыйшоў у сьвятыню і навучаў. 15 І дзіваваліся Юдэі, кажучы: „Як знае Ён пісьмы, ніколі ня вучыўшыся?" 16 Дык адказаў Ісус і сказаў: „Мая навука не Мая, але таго, хто Мяне паслаў. 17 Хто зыча чыніць волю Ягоную, тый даведаецца праз гэту навуку, ці ад Бога яна, ці Я сам ад Сябе кажу. 18 Хто гýкае сам ад сябе, шукае славы свае; а хто шукае славы таго, хто паслаў Яго, Тый праўдзівы, і няма несправядлівасьці ў Ім. 19 Ці ня даў вам Масей права? і ніхто не дзяржыць права. Чаму шукаеце забіць Мяне?"

20 Адказаў груд: „Нячысьціка маеш; хто шукае забіць Цябе?" 21 Адказаў Ісус і сказаў ім: „Я зрабіў адзін учынак, і ўсі вы дзівуецеся. 22 Масей даў вам абразаньне, — не каб яно было ад Масея, але ад айцоў, — і вы ў сыботу абразаеце чалавека. 23 Калі чалавек прыймае абразаньне ў сыботу, каб ня быў узрушаны закон Масеяў, чаму на Мяне злуецéся, што Я цэлага чалавека ўздаравіў у сыботу? 24 Ня судзіце подле выгляду, але судзіце суд справядлівы".

25 Тады некатрыя зь Ерузалімцаў сказалі: „Ці ня гэта Тый, Каторага шукаюць забіць? 26 І вось, Ён гýкае яўна, і нічога ня кажуць Яму. Ці старцы запраўды прызналі, што гэты ё Хрыстос? 27 Але праз гэтага мы ведаем, скуль Ён: Хрыстос жа, як прыйдзе, ніхто ня будзе ведаць, скуль Ён".

28 І загукáў Ісус у сьвятыні, вучачы а кажучы: „І знаеце Мяне, і ведаеце скуль Я; але Я прышоў ня



Сам ад Сябе, а Тый, што паслаў Мяне, ё праўдзівы, каторага ня знаеце. 29 Я знаю Яго, бо Я ад Яго, і Ён паслаў Мяне".

30 І шукалі няць Яго, і ніхто не наклаў рукі свае на Яго, бо яшчэ ня прышла гадзіна Ягоная. 31 Але шмат із груду ўверылі ў Яго й казалі: „Ці Хрыстос, як прыйдзе, учыне знакоў балей за тыя, што Гэты ўчыніў?"

32 Пачулі фарысэі гэтыя дзейкі цішком празь Яго ў гурбе, і паслалі фарысэі а найвышшыя сьвятары паслугачоў, няць Яго. 33 Тады Ісус сказаў: „Яшчэ малы час Я з вамі, і пайду да Тога, Хто паслаў Мяне. 34 Будзеце шукаць Мяне, і ня знойдзеце; і йдзе буду Я, вы ня можаце прыйсьці". 35 Дык Юдэі гýкалі адны адным: „Куды Ён пойдзе, што мы ня знойдзем Яго? Ці не маніцца Ён ісьці да расьцярушэньня памеж Грэкаў і навучаць Грэкаў? 36 Што за слова, каторае Ён сказаў: ‚Будзеце шукаць Мяне, і ня знойдзеце; і йдзе буду Я, вы ня можаце прыйсьці'?"

37 Апошняга дня вялікага сьвята Ісус стаяў і гýкаў, кажучы: „Хто сьмягне, ідзі да Мяне й напіся. 38 Хто вера ў Мяне, як сказана ў Пісьме, ‚Рэкі жывое вады пацякуць із улоньня ягонага' ". 39 А гэта сказаў Ён праз Духа, Каторы мелі адзяржаць тыя, што верылі ў Яго, бо Духа на іх ня было яшчэ, бо Ісус ня быў яшчэ ўслаўлены. 40 Тады з груду, пачуўшы гэтае слова, казалі: „Гэта запраўды тый прарока". 41 Другія казалі: „Гэта Хрыстос". Іншыя гýкалі: „Ціж із Галілеі прыйдзе Хрыстос? 42 Ці не сказáла Пісьмо, што Хрыстос прыйдзе з насеньня Давідавага і із сяла Бэтлеему, скуль Давід быў?" 43 Дык быў падзел у грудзе што да Яго. 44 Некатрыя ж зь іх зычылі няць Яго, але ніхто не наклаў рукі на Яго. 45 Дык паслугачыя прышлі да найвышшых сьвятароў а фарысэяў, і гэтыя сказалі ім: „Чаму вы не прывялі Яго?" 46 Паслугачыя адказалі: „Ніколі чалавек ня гýкаў так, як Гэты Чалавек". 47 І фарысэі адказалі ім: „Нягож і вы зьведзены? 48 Ці хто із старцоў уверыў у Яго альбо з фарысэяў? 49 Але гэты груд, каторы ня знае Права, пракляты ён". 50 Кажа ім Мікадым, тый, што прыходзіў да Яго ўперад, будучы адзін ізь іх: 51 „Ці судзе Права наша чалавека, ня выслухаўшы яго ўперад і не даведаўшыся, што ён робе?" 52 Адказалі й сказалі Яму: „Ці й ты не з Галілеі? Скумай і глядзі, што ніякі прарока не паўстаець із Галілеі". 53 І пайшлі да дамоў сваіх.

**8** Ісус жа пайшоў на гару Аліўную. 2 А рана нараніцы прышоў ізноў да сьвятыні, і ўвесь люд прыходзіў да Яго, і Ён сеў і навучаў іх. 3 І прыводзяць кніжнікі а фарысэі жонку, застрэтую ў чужалостве, і, пастанавіўшы яе пасярэдзіне, 4 Кажуць Яму: „Вучыцелю, гэтая жонка застрэта на ўчынку чужалоства; 5 А ў Праве Масей казаў нам укаменаваць такую. Дык што скажаш Ты?" 6 Яны ж казалі гэта, спакушаючы Яго, каб магчы жалаваць на Яго. Але Ісус, нахінуўшыся далоў, пісаў палцам Сваім на зямлі. 7 Як жа ўсе пыталіся ў Яго, Ён выпрастаўся й сказаў ім: „Хто з вас бяз грэху, няхай першы кіне камень у яе". 8 І ўзноў, нахінуўшыся далоў, пісаў на зямлі. 9 Яны ж, пачуўшы, вышлі адзін за адным, пачынаючы із старшых аж да апошняга, і застаўся адзін Ісус і жонка, стоячы пасярэдзіне. 10 І Ісус, выпрастаўшыся і нікога не абачыўшы, апрача жонкі, сказаў ёй: „Жонка, ідзе вінаваньнікі твае? Ніхто не засудзіў цябе?" 11 Яна ж сказала: „Ніхто, Спадáру". І Ісус сказаў ёй: „І Я цябе не засуджую. Ідзі і наперад не грашы".

12 Тады ізноў казаў ім Ісус: „Я
сьвятло сьвету; хто йдзець за Імною,
ня будзе хадзіць у цямноце, але
будзе мець сьвятло жыцьця". 13 Та-
ды сказалі Яму фарысэі: „Ты Сам
празь Сябе сьветчыш; сьветчаньне
Твае непраўдзівае". 14 Ісус адказаў
і сказаў ім: „Нават калі Я Сам
празь Сябе сьветчу, сьветчаньне Мае
праўдзівае, бо Я ведаю, скуль Я
прышоў і куды йду; а вы ня ведае-
це, скуль Я прышоў і куды йду.
15 Вы судзіце подле цела; Я ня
суджу нікога. 16 Калі ж і Я суджу,
суд Мой праўдзівы, бо Я не адзін, але
й Айцец, што паслаў Мяне. 17 І ў
Праве вашым напісана, што сьвет-
чаньне двух чалавекаў праўдзівае.
18 Я Сам сьветчу празь Сябе, і Ай-
цец, што паслаў Мяне, сьветча празь
Мяне". 19 Дык яны сказалі Яму:
„Ідзе Айцец Твой?" Ісус адказаў:
„Вы ня знаеце Мяне ані Айца Май-
го; калі б вы зналі Мяне, зналі б
і Айца Майго". 20 Гэтыя словы ка-
заў Ён ля скарбонкі, навучаючы ў
сьвятыні; і ніхто ня няў Яго, бо
яшчэ ня была́ прышоўшы гадзіна
Ягоная.

21 І ўзноў сказаў Ён ім: „Я йду,
і будзеце шукаць Мяне, і ў грэху
сваім памрыце́. Куды Я йду, вы ня
можаце прыйсьці". 22 І гу́калі
Юдэі: „Ці Ён заб'ець Сябе Самога,
што кажа: ‚Куды Я йду, вы ня мо-
жаце прыйсьці'?" 23 І сказаў Ён ім:
„Вы з далоўя, Я з гары; вы з гэтага
сьвету, Я ня із сьвету гэтага. 24 За-
тым Я сказаў вам, што вы памрыце́
ў грахох сваіх; бо калі ня ўверыце,
што Я ё, памрыце́ ў грахох сваіх".
25 Тады яны сказалі Яму: „Ты
хто?" Ісус сказаў ім: „Супоўна тое,
што Я кажу вам. 26 Шмат маю ка-
заць і судзіць праз вас, але Тый,
што паслаў Мяне, ё праўдзівы, і Я,
што чуў ад Яго, тое кажу сьвету".
27 Яны не разумелі, што Ён казаў
ім праз Айца. 28 Дык Ісус сказаў
ім: „Як уздыймеце Сына Людзкога,
тады пазнаеце, што Я ё, і нічога не
раблю Сам ад Сябе, але, як Айцец
навучыў, тое кажу. 29 І Тый, што
паслаў Мяне, ё з Імною; бо Ён не
пакінуў Мяне аднаго, бо Я заўсёды
чыню, што Ён падабае".

30 Як Ён гу́каў гэта, шмат хто
ўверыў у Яго. 31 Тады Ісус сказаў
Юдэям, каторыя ўверылі ў Яго:
„Калі застаніце́ся ў слове Маім, вы
запраўды ву́чанікі Мае; 32 І пазнае-
це праўду, і праўда вывальне вас".
33 Яны адказалі Яму: „Мы насень-
не Абрагамова і нічыімі нявольніка-
мі ня былі́ ніколі; як жа Ты кажаш:
‚Вы станеце вольныя'?" 34 Ісус ад-
казаў ім: „Запраўды, запраўды ка-
жу вам: кажны, хто грэша, ё ня-
вольнік грэху. 35 Але нявольнік не
застаецца ў доме на векі; Сын за-
стаецца на векі. 36 Дык, калі Сын
вывальне вас, будзеце запраўды
вольныя. 37 Ведаю, што вы насень-
не Абрагамова; шукаеце, адылі́, за-
біць Мяне, бо слова Мае не зьмяш-
чаецца ў вас. 38 Я кажу, што ба-
чыў у Вайца Свайго; а вы робіце,
што чулі ад айца свайго". 39 Адка-
залі яны й сказалі Яму: „Айцец
наш Абрагам". Кажа ім Ісус: „Ка-
лі б вы былі́ дзеці Абрагамовы, чы-
нілі б учынкі Абрагамовы. 40 А ця-
пер шукаеце забіць Мяне, Чалаве-
ка, што сказаў вам праўду, каторую
Я пачуў ад Бога. Гэтага Абрагам
не рабіў. 41 Вы чыніце ўчынкі айца
свайго". Сказалі Яму: „Мы не на-
роджаныя ў бязулстве; аднаго Айца
маем, Бога".

42 Ісус сказаў ім: „Калі б Бог
быў Айцец вашы, вы мілава́лі б
Мяне, бо Я ад Бога вышаў і пры-
шоў; бо Я ня Сам ад Сябе прышоў,
але Ён Мяне паслаў. 43 Чаму вы
ня цяміце мовы мае? Бо ня можаце
чуць слова Майго. 44 Вы — ад айца
дзявала і хочаце чыніць жады айца
свайго. Ён быў убіўца з пачатку
і ня вытрываў у праўдзе, бо нямаш
праўды ў ім. Як ён гу́кае ману, гу-



кае із свайго собскага, бо ён манюка
і айцец маны. 45 А як Я праўду
кажу, ня верыце Імне. 46 Хто з вас
абвінуе Мяне што да грэху? Калі
Я праўду кажу, чаму ня верыце Ім-
не? 47 Хто ад Бога, чуе словы Бо-
жыя. Вы затым ня чуеце, што вы
не ад Бога".

48 Юдэі адказалі і сказалі Яму:
„Ці ня добра мы сказалі, што ты —
Самаранін і маеш нячысьціка?"
49 Ісус адказаў: „Я ня маю нячы-
сьціка, але Я тшчу Айца Свайго, а
вы зьняважаеце Мяне. 50 Я ж ня шу-
каю славы Свае, — ё хто шукае й су-
дзе. 51 Запраўды, запраўды кажу
вам: калі хто будзе дзяржаць слова
Мае, сьмерці аніяк не абача на ве-
кі". 52 Сказалі Яму Юдэі: „Цяпер
мы даведаліся, што Ты маеш нячы-
сьціка. Абрагам памер а прарокі, а
Ты кажаш: ‚Калі хто дзяржыць сло-
ва Мае, аніяк не абача сьмерці на ве-
кі'. 53 Нягож Ты вялікшы за айца
нашага Абрагама, каторы памер? і
прарокі памерлі. Кім ты Сябе чы-
ніш?" 54 Ісус адказаў: „Калі Я
слаўлю Сябе, Мая слава нішто. Ё
Айцец Мой, што славе Мяне, праз
Каторага вы кажаце, што Ён Бог
ваш. 55 І вы ня знаеце Яго, але Я
знаю Яго; і калі б Я сказаў, што
ня знаю Яго, то быў бы манюка, як
вы. Але Я знаю Яго й слова Ягонае
дзяржу. 56 Айцец ваш Абрагам це-
шыўся, што меў бачыць дзень Мой;
і бачыў, і весяліўся". 57 Юдэі сказа-
лі Яму: „Табе няма яшчэ пяцьдзя-
сят год, і Ты бачыў Абрагама?"
58 Ісус сказаў ім: „Запраўды, за-
праўды кажу вам: уперад чымся
быў Абрагам, Я ё". 59 Тады ўзялі́
каменьне, каб кінуць у Яго; але
Ісус стаіўся і вышаў із сьвятыні,
прайшоўшы сярод іх; і гэтак ады-
шоў.

9 І, праходзячы, абачыў чалаве-
ка, нявіснога ад нараджэньня.
2 І ву́чанікі папыталіся ў Яго, ка-
жучы: „Раббі, хто ізграшыў, ён, ці
бацькі ягоныя, што ён нарадзіўся
нявісны?" 3 Ісус адказаў: „Ані гэ-
ты ізграшыў, ані бацькі ягоныя,
але каб выяўлены былі́ ўчынкі Бо-
жыя на ім. 4 Я маю спраўляць
справы Таго, хто паслаў Мяне, па-
куль ё дзень; надыходзе ноч, калі
ніхто ня будзе спраўляць. 5 Пакуль
Я на сьвеце, Я сьвятліня сьвету".
6 Сказаўшы гэта, Ён плюнуў на
зямлю, і зрабіў балотца із сьлі́ны,
і памазаў балотцам, як масьцяй, во-
чы нявіснаму, 7 І сказаў яму: „Ідзі,
умыйся ў копані Сылоам (што пе-
ракладаецца: Пасланы)". Дык ён
пайшоў, і ўмыўся, і прышоў пра-
зерыўшы. 8 Затым суседзі а тыя,
што звычайна бачылі яго ўперад,
што ён быў убогі, сказалі: „Ці ня
тый ён, што сядзеў а прасіў?" 9 Не-
катрыя казалі: „Гэта ён", а іншыя
казалі: „Не, але падобны да яго";
тый жа сказаў: „Гэта я". 10 Тады
яны сказалі яму: „Як твае вочы
адчыніліся?" 11 Ён адказаў: „Ча-
лавек, званы Ісус, зрабіў балотца,
памазаў вочы мае і сказаў імне:
‚Ідзі да Сылоаму і ўмыйся'. Затым
я пайшоў, умыўся й празерыў".
12 Тады сказалі яму: „Ідзе Ён?"
Ён кажа: „Ня ведаю".

13 Вядуць яго, былога нявіснога,
да фарысэяў. 14 А была сыбота та-
го дня, калі Ісус зрабіў балотца і
ачысьціў вочы яму. 15 І фарысэі
ізноў пыталіся ў яго, як ён пра-
зерыў. І ён сказаў ім: „Ён паклаў
балотца на вочы мае, і я ўмыўся,
і бачу". 16 Тады некатрыя з фа-
рысэяў сказалі: „Гэны чалавек не
ад Бога, бо сыботы не дзяржыць".
Іншыя казалі: „Як можа грэшны
чалавек чыніць такія знакі?" І быў
падзел памеж іх. 17 Затым ізноў
кажуць нявісному: „Што ты кажаш
праз тога, што адчыніў вочы табе?"
І ён сказаў: „Ён прарока". 18 І ня
верылі Юдэі узглядам яго, што ён
быў нявісны і празерыў, пакуль не
пагука́лі бацькоў таго, што празе-

рыў. 19 І пыталіся ў іх, кажучы:
„Гэта сын вашы, праз каторага вы
кажаце, што ён быў нявісны? Дык
як ён цяпер бача?" 20 І адказалі
бацькі ягоныя, і сказалі: „Мы ве-
даем, што гэты сын нашы і што ён
радзіўся нявісны; 21 Але як ён ця-
пер бача, ня ведаем, альбо хто ад-
чыніў яму вочы, мы ня ведаем; пы-
тайцеся ў яго, ён выраслы, сам
празь сябе скажа". 22 Бацькі яго-
ныя казалі гэта, бо баяліся Юдэяў;
бо Юдэі ўжо згадзіліся, што, калі б
хто вызнаў Яго за Хрыста, тый меў
бы быць вылучаны з бажніцы.
23 Затым бацькі ягоныя сказалі:
„Ён выраслы, выпытавайце ў яго"
24 Дык удругава пагукáлі чала-
века, што быў нявісны, і сказалі
яму: „Уздай хвалý Богу, мы ве-
даем, што гэны чалавек грэшны".
25 Ён жа адказаў: „Ці Ён грэшны,
я ня ведаю; адно ведаю, што, бу-
дучы нявісны, цяпер бачу". 26 І
сказалі яму ізноў: „Што Ён зрабіў
табе? як адчыніў табе вочы?" 27 Ён
адказаў ім: „Я ўжо казаў вам, і вы
не пачулі? чаму ізноў хочаце чуць?
ці ня зычыце вы стаць вýчанікамі
Ягонымі?" 28 І вылаялі яго, і ска-
залі: „Ты вýчанік Гэнага, а мы Ма-
сеявы вýчанікі. 29 Мы ведаем, што
Масеям казаў Бог, а праз Гэнага
мы ня ведаем, скуль Ён". 30 Адка-
заў чалавек ім: „Гэта й дзіўна, што
вы ня ведаеце, скуль Ён, а Ён адчы-
ніў імне вочы. 31 Мы ведаем, што Бог
грэшнікаў ня слухае; але калі хто
баіцца Бога й волю Ягоную паўніць,
таго слухае. 32 Ад веку ня чувана,
каб хто адчыніў вочы нявісному ад
нараджэньня. 33 Калі б Ён ня быў
ад Бога, ня мог бы чыніць нічога".
34 Адказалі яны й сказалі яму: „У
грахох ты ўвесь нарадзíўся, і ты
вучыш нас?" І выкінулі яго вон.
35 Пачуў Ісус, што выкінулі яго
вон, і, знайшоўшы яго, сказаў: „Ве-
рыш ты ў Сына Людзкога?" 36 Гэ-
ты адказаў і сказаў: „А хто Ён,
Спадáру, каб я ўверыў у Яго?"
37 Сказаў яму Ісус: „І бачыў ты
Яго, і Каторы гýкае з табою — гэта
Ён". 38 І ён сказаў: „Веру, Спадá-
ру!" і пакланіўся Яму. 39 І сказаў
Ісус: „На суд прышоў Я на сьвет
гэты, каб нявідомыя бачылі, а відý-
чыя занявісьнелі". 40 І пачулі гэта
тыя з фарысэяў, што былі зь Ім,
і сказалі Яму: „Няго ж і мы ня-
вісныя?" 41 Сказаў ім Ісус: „Калі
б вы былі нявісныя, ня мелі б грэ-
ху; цяпер жа вы кажаце: ‚Мы ба-
чым', — грэх вашы застаецца.

10 „Запраўды, запраўды кажу вам:
хто ня ўходзе перазь дзьверы
да авечніка, але ўлазе іншай даро-
гаю, тый злодзей а глáбаньнік; 2 А
хто ўходзе перазь дзьверы, тый па-
стыр авец. 3 Яму брамнік адчыняе,
і авечкі голас ягоны чуюць, і ён
гукáе авечкі свае наймя, і выводзе
іх. 4 Як ён усі свае выпусьце, сьпе-
раду іх ідзець, і авечкі за ім ідуць,
ба знаюць голас ягоны. 5 А за
чýжыкам ніяк ня йдуць, але ўцяка-
юць ад яго, бо ня знаюць голасу
ягонага". 6 Гэта сказаў Ісус атуме-
камі ім, але яны ня ведалі, што гэта
было, што ім мовіў.
7 Дык Ісус ізноў сказаў ім: „За-
праўды, запраўды кажу вам: Я —
дзьверы авечыя. 8 Усі, колькі іх
перад Імною прышло, злодзеі а глá-
баньнікі; але авечкі ня слухалі іх.
9 Я — дзьверы: калі хто ўвыйдзе
перазь Мяне, спасёны будзе, і ўвый-
дзе, і выйдзе, і пасьцьбішча знойдзе.
10 Злодзей прыходзе адно на тое,
каб украсьці а забіць а загубіць.
Я прышоў, каб жыцьцё мелі і ў
збытку мелі. 11 Я — Пастыр добры.
Пастыр добры жыцьцё свае аддаець
за авечкі. 12 А найміт, не пастыр,
каму авечкі не свае, бача прыходзя-
чага ваўка, і пакідае авечкі, і ўця-
кае; і воўк хапае іх, і разганяе
авечкі; 13 А найміт уцякае, бо ён
найміт, і ня рупіцца праз авечкі.
14 Я — Пастыр добры і знаю сваіх,



і знаюць Мяне Мае. 15 Як Айцец
знае Мяне, і Я знаю Айца, і жыцьцё
Свае аддаю за авечкі. 16 Ё ў Мяне
й іншыя авечкі, што ня з гэтага
авечніка, тых таксама належа Імне
прывесьці: і голас Мой яны пачу-
юць, і будзе адна чарада і адзін
пастыр. 17 Затым Мяне мілýе Ай-
цец, што Я аддаю жыцьцё Свае, каб
узяць яго ізноў. 18 Ніхто не бярэць
яго ад Мяне, але Я Сам аддаю яго.
Я маю ўладу аддаць яго і маю ўла-
ду ўзяць яго ізноў. Я адзяржаў гэта
расказаньне ад Айца Свайго".
19 Ізноў быў падзел у Юдэяў з
прычыны гэтых слоў. 20 Шмат хто
зь іх казаў: „Ён мае нячысьціка й
шалее; чаму вы слухаеце Яго?"
21 Іншыя казалі: „Гэтыя словы ня
ёсьць апанаванага нячысьцікам; ці
можа нячысьцік адчыняць нявісным
вочы?"
22 Было сьвята пасьвячэньня ў
Ерузаліме, і былá зіма. 23 І хадзіў
Ісус у сьвятыні на ґанку Салямо-
навым. 24 Тады абступілі Яго Юдэі
і казалі Яму: „Пакуль будзеш дзяр-
жаць душу нашу ў няпэўнасьці? Ка-
лі Ты Хрыстос, скажы нам яўна".
25 Ісус адказаў ім: „Я сказаў вам,
і вы ня верыце; справы, што Я чы-
ню ў імя Айца Свайго, яны сьвет-
чаць празь Мяне; 26 Але вы ня
верыце, бо вы не з авец Маіх.
27 Авечкі Мае голас Мой чуюць,
і Я знаю іх, і яны йдуць за Імною.
28 І Я даю ім жыцьцё вечнае, і ні-
колі яны не загінуць, і ніхто ня
ўхопе іх із рукі Мае. 29 Айцец Мой,
што даў іх Імне, вялікшы за ўсіх,
і ніхто ня можа ўхапіць іх із рукі
Айца Майго. 30 Я й Айцец — адно".
31 Тады ізноў схапілі каменьне
Юдэі, каб укаменаваць Яго. 32 Ад-
казаў ім Ісус: „Шмат добрых спра-
ваў паказаў Я вам ад Айца Свайго;
за каторыя з гэтых справаў камя-
нуеце Мяне?" 33 Адказалі Яму
Юдэі, кажучы: „За добрую справу
не камянуем Цябе, але за бляву-
згáньне а за тое, што, будучы ча-
лавекам, чыніш Сябе Богам". 34 Ад-
казаў ім Ісус: „Ці не напісана ў
Праве вашым: ‚Я сказаў: вы баго-
ве'? 35 Калі назваў тых багамі, да
каторых слова Божае прышло, — а
Пісьмо ня можа быць узрушана, —
36 Вы таму, Каторага Айцец усьвя-
ціў і паслаў на сьвет, кажаце: ‚Ты
блявузґаеш', што сказаў Я: ‚Я Сын
Божы'? 37 Калі Я ня чыню справаў
Айца Свайго, ня верце Імне. 38 Але
калі Я чыню, то нават, калі ня ве-
рыце Імне, паверце справам, каб ве-
далі й паверылі, што Айцец ёсьць
у Імне, а Я ў Ім". 39 Тады ізноў
шукалі няць Яго, але Ён адхінуўся
ад рукі іхнае.
40 І пайшоў ізноў за Ёрдан на
месца, ідзе Ян спачатку хрысьціў,
і застаўся там. 41 І шмат прышло
да Яго, і гýкалі, што Ян ня ўчыніў
ніякага знаку, але ўсе, што Ян
сказаў празь Яго, было праўдзівае.
42 І шмат хто ўверыў у Яго там.

11 Быў жа хворы якісь Лазар ізь
Віфані, ізь сяла Марыі а Мар-
хвы, сястры ейнае. 2 Гэта былá Ма-
рыя, што памазала Спадара масьцяй
і выцерла ногі Ягоныя валасамі сваі-
мі; Лазар, брат ейны, быў хворы.
3 Дык сёстры паслалі да Яго, ка-
жучы: „Спадáру, вось, тый, катора-
га Ты любіш, хворы". 4 Пачуўшы,
Ісус сказаў: „Гэта хвароба не на
сьмерць, але дзеля славы Божае,
каб Сын Божы ўславіўся празь
яе". 5 Ісус жа мілавáў Мархву а ся-
стру яе а Лазара. 6 Дык як пачуў,
што Лазар хворы, тады застаўся Ён
на два дні на тым месцу, ідзе быў.
7 Адлí, просьле гэтага, кажа вýча-
нікам: „Пайдзіма ізноў да Юдэі".
8 Вýчанікі кажуць Яму: „Раббі,
кадзе Юдэі шукалі ўкаменаваць Ця-
бе, а Ты йдзеш ізноў туды?" 9 Ісус
адказаў: „Ці не дванаццаць гадзінаў
у дні? хто ходзе ўдзень, не спаты-
каецца, бо бача сьвятліню гэтага
сьвету. 10 А хто йдзець ночы, спа-

тыкаецца, бо сьвятліні няма ў ім".
11 Сказаў Ён гэта й просьле гэтага
кажа ім: „Лазар, прыяцель наш,
заснуў, але Я йду пабудзіць яго".
12 Затым вўчанікі сказалі Яму:
„Спадáру, калі заснуў, ачуняе".
13 Але Ісус сказаў празь сьмерць
ягоную, а яны думалі, што кажа
Ён праз спачын у сьне. 14 Тады
Ісус сказаў ім вырáзьліва: „Лазар
памер, 15 І Я цешуся дзеля вас, што
Я ня быў там, каб вы ўверылі; але
йдзíма да Яго". 16 Тады Хама, зва-
ны Блізьнюк, сказаў сябром сваім,
вўчанікам: „Пайдзіма таксама, каб
памерці зь Ім". 17 Тады, прышоў-
шы, Ісус засьпеў, што ён ужо быў
чатыры дні ў гробе.

18 Віфаня ж былá ля Eрузаліму,
стадаў пятнанцаць. 19 І шмат хто зь
Юдэяў прышлі да Мархвы а Марыі
пацешыць іх па брату іхным. 20 Та-
ды Мархва, як пачула, што Ісус
ідзець, вышла наўпярэймы Яму;
Марыя ж сядзела дома. 21 І ска-
зала Мархва Ісусу: „,Спадáру, калі
б Ты быў тут, не памер бы брат
мой. 22 Але й цяпер я ведаю, што,
чаго Ты просіш у Бога, Бог даець
Табе". 23 Ісус кажа ёй: „Ускрэсьне
брат твой". 24 Мархва кажа Яму:
„Ведаю, што ўскрэсьне ў вускры-
сеньне апошняга дня". 25 Ісус ска-
заў ёй: „Я ўскрысеньне а жыцьцё;
хто вера ў Мяне, хоць бы памер,
будзе жыць. 26 І кажны, што жы-
вець і вера ў Мяне, ніяк ніколі не
памрэць. Ці верыш ты гэтаму?"
27 Кажа яна Яму: „Але, Спадáру,
я веру, што Ты Хрыстос, Сын Божы,
Каторы прышоў на сьвет". 28 І, ска-
заўшы гэта, яна пайшла й гукнўла
патай сястру сваю Марыю, кажучы:
„Вучыцель тут і гукáе цябе".
29 Яна, як пачула, борзда ўстала
й пайшла да Яго. 30 Яшчэ ж Ісус
ня прышоў да сяла, але быў на
месцу, ідзе Мархва прышла Яму
наўпярэймы. 31 Затым тады Юдэі,
што былí зь ёю ў доме й цешылі яе,
бачачы, што Марыя борзда ўстала
й вышла, пайшлі за ёй, кажучы:
„Яна йдзець да гробу, каб плакаць
там". 32 А Марыя, як прышла, ідзе
быў Ісус, абачыўшы Яго, пала ў
ногі Яму, кажучы Яму: „Спадáру,
калі б Ты быў тут, не памер бы
брат мой". 33 Ісус жа, як абачыў,
што яна плача, і Юдэі, што прышлі
зь ёю, плачуць, узрушыўся ў духу
і зьнéмарасьціўся, і сказаў: 34 „Ідзе
вы паклалі яго?" Сказалі Яму:
„Спадáру, ідзі й абач". 35 У Ісуса
пакаціліся сьлёзы. 36 Юдэі ж ска-
залі: „Вось, як Ён любіў яго". 37 А
некатрыя зь іх казалі: „Ці ня мог
бы Гэты, што адчыніў вочы нявіс-
ному, учыніць, каб ён не памер?"

38 Ісус жа, ізноў застагнаўшы Сам
у Сабе, прыходзе да гробу. Гэта
была пячора, і камень ляжаў на ёй.
39 Ісус кажа: „Адыйміце камень".
Мархва, сястра памерлага, кажа
Яму: „Спадáру, ужо аддаець ад яго,
гэта ж ён чацьверты дзень". 40 Ісус
кажа ёй: „Ці не казаў Я табе, што,
калі ўверыш, абачыш славу Бо-
жую?" 41 Дык яны аднялí камень.
Ісус жа ўзьняў вочы свае дагары
й сказаў: „Войча, дзякую Табе, што
Ты пачуў Мяне. 42 Я ведаў, што
заўсёды чуеш Мяне; але сказаў дзе-
ля груду, што навокал, каб яны
ўверылі, што Ты паслаў Мяне".
43 Сказаўшы гэта, загукáў вялікім
голасам: „Лáзару, выходзь!" 44 І
памерлы вышаў, маючы зьвязáныя
ногі й рукі пахоўнымі полкамі; і від
ягоны быў завязáны хустачкаю.
Ісус кажа ім: „Разьвяжыце яго, і
няхай ідзець".

45 Тады шмат хто зь Юдэяў, ка-
торыя былí прышоўшы да Марыі
й бачылі, што Ён учыніў, уверылі
ў Яго. 46 Але некатрыя зь іх пай-
шлі да фарысэяў і сказалі ім, што
Ісус учыніў. 47 Тады найвышшыя
сьвятары а фарысэі зьберлі раду й
сказалі: „Што нам рабіць? бо Гэты
Чалавек шмат чыне знакоў. 48 Ка-




лі пакінем Яго так, дык усі ўверацць
у Яго, і прыйдуць Рымляне, і забя-
руць месца нашае і народ нашы".
49 Адзін жа зь іх, Каяпа, будучы
таго году найвышшым сьвятаром,
сказаў ім: 50 „Вы нічога ня ведаеце
ані разважаеце, што карысьней, каб
адзін чалавек памер за люд, а ня
ўвесь народ загінуў". 51 Гэта ж ён
сказаў не ад сябе, але, будучы таго
году найвышшым сьвятаром, пра-
рок, што Ісус меў памерці за гэты
народ; 52 І не адно за народ, але
таксама, каб расьцярушаныя вон-
ках дзеці Божыя зьберці ў вадно.
53 Дык ад тога дня яны зрáдзіліся,
каб забіць Яго. 54 Затым Ісус не
хадзіў балей яўна памеж Юдэяў,
але пайшоў адтуль да краіны ля
пустыні, да места, званага Ефраім,
і там заставаўся з вўчанікамі.

55 А былá блізка Пасха Юдэй-
ская, і шмат хто з краіны тае пры-
шоў да Eрузаліму перад Пасхаю,
каб ачысьціцца. 56 І шукалі Ісуса,
і размаўлялі мяжсобку, стоячы ў
сьвятыні: „Што вы думаеце? Ці Ён
ані ня прыйдзе на сьвята? 57 Най-
вышшыя ж сьвятары а фарысэі вы-
далі загаду, каб, калі хто ведае, ідзе
Ён, наказаць, каб няць Яго.

12 Тады Ісус за шэсьць дзён да
Пасхі прышоў да Віфані, ідзе
быў памершы Лазар, каторага Ісус
ускрысіў зь мертвых. 2 І прыгата-
валі Яму там вячэру, і Мархва слу-
гавала. Лазар жа быў адным із узь-
лежачых ізь Ім. 3 Марыя ж, узяў-
шы хунт дарагое масьці з чыстага
нарду, памазала ногі Ісусу й выцер-
ла ногі Ягоныя валасамі сваімі; і
дом напоўніўся пахам масьці. 4 Та-
ды кажа адзін із вўчанікаў Ягоных,
Юда Сыманёнак Іскарыёт, каторы
маніўся Яго выдаць: 5 „Чаму не
прадалí гэтае масьці за трыста ды-
нароў і не далí бедным?" 6 Сказаў
жа ён гэта не затым, каб рупіўся
празь бедных, але затым, што быў
злодзей, і, маючы хатўль, насіў, што
туды клалі. 7 Тады сказаў Ісус:
„Пакінь яе; надабе было, каб заха-
вала яна гэта на дзень пахову Май-
го; 8 Бо бедных заўсёды маеце із
сабою, але Мяне не заўсёды маеце".
9 І даведаўся вялікі груд ізь Юдэяў,
што Ён быў там; і прышлі ня дзеля
Ісуса толькі, але каб і Лазара аба-
чыць, каторага Ён ускрысіў зь мер-
твых. 10 Найвышшыя ж сьвятары
зрáдзіліся, каб забіць Лазара так-
сама, 11 Бо шмат хто зь Юдэяў
прыходзілі дзеля яго і ўверылі ў
Ісуса.

12 Назаўтрае вялізарны груд, што
быў прышоўшы на сьвята, пачуў-
шы, што Ісус ідзець да Eрузаліму,
13 Узялí пальмавыя галузкі, і вы-
шлі наўпярэймы Яму, і гукáлі:
„Госанна! Дабраславёны Йдучы ў
імя Спадарова, Кароль Ізраеляў!"
14 Ісус жа, знайшоўшы асьлянё,
сеў на яго, як напісана: 15 „Ня
бойся, дачка Сыёну, гля, Кароль
твой ідзець, седзячы на асьляня-
ці". 16 Гэтага ня ўцямілі вўчанікі
Ягоныя сьпярша, але як Ісус быў
услаўлены, тады яны ўспомнелі,
што гэта было празь Яго напісана,
і зрабілі Яму гэта. 17 Сьветчыў жа
груд, каторы быў ізь Ім, бо Ён
гукнўў Лазара з гробу і ўскрысіў
яго зь мертвых. 18 Затым таксама
груд вышаў наўпярэймы Яму, бо
чулі, што Ён зрабіў гэты знак. 19
Фарысэі ж казалі адны адным: „Вы
бачыце, што ані вы ня маеце дасьпе-
ху, сьвет пайшоў за Ім".

20 Былí ж некатрыя Грэкі памеж
тых, што ўзыходзілі, каб пакланіц-
ца ў сьвята. 21 Яны прыступілі да
Піліпа, што быў із Віфсаіды Га-
лілейскае, і прасілі яго, кажучы:
„Спадáру, нам хочацца бачыць Ісу-
са". 22 Прыходзе Піліп і кажа Ан-
дрэю; прыходзяць Андрэй а Піліп і
кажуць Ісусу. 23 Ісус жа адказаў
ім, кажучы: „Прышла гадзіна, каб
услаўлены быў Сын Людзкі. 24 За-
праўды, запраўды кажу вам: калі

зярнё пшоннае, упаўшы на зямлю, не памрэць, яно застаецца адно; калі ж памрэць, родзе шмат плоду. 25 Хто любе жыцьцё свае, загубе яго; а хто ненавідзе жыцьцё свае на сьвеце гэтым, захавае яго да жыцьця вечнага. 26 Калі хто служа Імне, хай ідзець за Імною; і йдзе Я, там таксама будзе слуга Мой. Калі хто служа Імне, усьціць яго Айцец. 27 Цяпер душа Мая зьне́марашчана; і што скажу Я? Войча! выбаў Мяне ад гадзіны гэтае? але дзеля гэтага Я прышоў на гадзіну гэтую. 28 Войча! услаў імя Сваё. Тады прышоў голас ізь неба: „Уславіў і яшчэ ўслаўлю". 29 Груд жа, што стаяў і пачуў, гу́каў: „Загрымела". Іншыя гу́калі: „Ангіл гу́каў да Яго". 30 Адказаў Ісус і сказаў: „Ня дзеля Мяне голас гэты, але дзеля вас. 31 Цяпер суд сьвету гэтаму; цяпер князь сьвету гэтага выкінены будзе вон. 32 І Я, як буду ўзьняты із зямлі, усіх прыцягну да Сябе". 33 Гэта ж Ён сказаў, даючы зразумець, якой сьмерцяй меў Ён памерці. 34 Груд адказаў Яму: „Мы чулі з Права, што Хрыстос перабывае на векі; як жа Ты кажаш, што Сын Людзкі мае быць узьняты? хто гэта Сын Людзкі?" 35 Тады сказаў ім Ісус: „Яшчэ малы час ё сьвятліня з вамі; хадзіце, пакуль сьвятліню маеце, каб цямнота не абняла́ вас; бо хто ходзе ў цямноце, ня ведае, куды йдзець. 36 Пакуль маеце сьвятліню, верце ў сьвятліню, каб вам стаць сынамі сьвятліні".

Сказаўшы гэта, Ісус адышоў і стаіўся ад іх. 37 Яны ня верылі ў Яго, дарма што Ён учыніў шмат знакоў перад імі. 38 Каб споўнілася слова Ісаі пракокі, каторы сказаў: „Спада́ру, хто паверыў чутаму ад нас, і плячо Спадарова каму аб'явілася?" 39 Яны затым не маглі верыць, што яшчэ Ісая сказаў: 40 „Ён засьляпіў вочы іхныя і закаляніў сэрца іхнае, каб не абачылі ачыма сваімі, і не зразумелі сэрцам сваім, і не навярнуліся, каб Я ўздаравіў іх". 41 Гэта сказаў Ісая, бо бачыў славу Ягоную і гу́каў празь Яго. 42 Шмат хто, адылі, навет із старцоў, таксама ўверыў у Яго, але дзеля фарысэяў не вызнавалі, каб ня былі́ вылучаны з бажніцы; 43 Бо валей мілава́лі слав людзку́ю, чымся славу Бовую.

44 Ісус жа загу́каў і сказаў: „Хто вера ў Мяне, вера не ў Мяне, але ў Тога, хто паслаў Мяне; 45 І хто бача Мяне, бача Таго, хто паслаў Мяне. 46 Я прышоў на сьвет як сьвятліня, каб кажны, хто вера ў Мяне, не заставаўся ў цямноце. 47 І калі хто пачуе словы Мае, і не захавае, Я ня суджу яго, бо Я прышоў ня судзіць сьвет, але спасьці сьвет. 48 Хто адхінае Мяне і ня прыймае слоў Маіх, мае таго, хто судзе яго: слова, што Я кажу, будзе судзіць яго апошняга дня; 49 Бо Я не ад Сябе казаў, але Айцец, што паслаў Мяне, Сам даў Імне расказаньне, што маю казаць а што гу́каць. 50 І Я ведаю, што расказаньне Ягонае ё жыцьцё вечнае. Дык, што Я кажу, як сказаў Айцец Імне, так Я кажу".

13 А перад сьвятам Пасхі Ісус, ведаючы, што прышла гадзіна Ягоная, каб адыйсьці з гэтага сьвету да Айца, умілава́ўшы Сваіх собскіх, што на сьвеце, улюбіў іх да канца. 2 І ў часе вячэры, — а дзявал ужо быў укінуўшы ў сэрца Юды Сыманёнка Іскарыёта, ізрадзіць Яго. — 3 Ведаючы, што Айцец даў Яму ўсе ў рукі Ягоныя, і што Ён ад Бога вышаў і да Бога йдзець, 4 Устаець ад вячэры, і адкладае адзецьце, і, узяўшы ручнік, папераазаўся. 5 Адлі́ наліў вады ў мыцельнік, і пачаў мыць ногі ву́чанікам, і выціраць ручнікам, каторым быў падпераазаўшыся. 6 Падходзе да Сымона Пётры, і гэты ка-



жа Яму: „Спада́ру, Ты імне мыць ногі?" 7 Адказаў Ісус і сказаў яму: „Што Я раблю, ты ня ведаеш цяпер, але даведаешся потым". 8 Пётра кажа Яму: „Ты ніколі ня будзеш мыць ногі імне!" Ісус адказаў яму: „Калі не памыю цябе, ты ня будзеш мець часьці з Імною". 9 Сымон Пётра кажа Яму: „Спада́ру, ня толькі ногі мае, але таксама рукі а галаву". 10 Ісус кажа яму: „Хто пакупаўшыся, не патрабуе мыць, апрача ног, але ўвесь ён чысты; і вы чыстыя, але ня ўсі". 11 Бо ведаў Ён праз ізрадніка Свайго, затым сказаў: „Ня ўсі вы чыстыя".

12 Як жа Ён памыў ногі ім, і ўзяў адзецьце Свае, і ўзьлёг ізноў, Ён сказаў ім: „Ці ведаеце, што Я зрабіў вам? 13 Вы заві́це Мяне Вучыцель а Спадар, і добра кажаце, бо Я ё. 14 Дык калі Я, Спадар а Вучыцель, памыў ногі вам, вы таксама маеце мыць ногі адзін аднаму. 15 Бо Я даў вам прыклад, каб, як Я зрабіў вам, вы рабілі таксама. 16 Запраўды, запраўды кажу вам: нявольнік не вялікшы за спадара свайго ані пасланы вялікшы за тога, хто яго паслаў. 17 Калі вы ведаеце гэта, шчасьлівыя вы, калі робіце гэта. 18 Не праз усіх вас кажу: Я знаю тых, каторых абраў. Але каб выпаўнілася Пісьмо: ‚Хто есьць із Імною хлеб, падняў пяту сваю на Мяне'. 19 Цяпер кажу вам, перш чымся сталася, каб, як станецца, уверылі, што Я ё. 20 Запраўды, запраўды кажу вам: хто прыймае каго-колечы, каго Я пашлю, Мяне прыймае; а хто Мяне прыймае, прыймае Таго, Хто паслаў Мяне".

21 Сказаўшы гэта, Ісус зьне́марасьціўся ў духу, і пасьветчыў, і сказаў: „Запраўды, запраўды кажу вам, што адзін із вас ізрадзе Мяне". 22 Тады ву́чанікі пазіралі адзін на аднаго, сумляючыся праз каго Ён сказаў. 23 І адзін із ву́чанікаў, каторага Ісус мілава́ў, узьляжаў ля грудзёў Ісусавых. 24 Затым Сымон Пётра кіўнуў і кажа яму: „Папытай, хто бы гэта быў, праз каго Ён казаў". 25 А ён, узьлёгшы на грудзі Ісусавы, кажа Яму: „Спада́ру, хто гэта?" 26 Ісус кажа: „Тый, каму Я зануру й дам гэты кавалак". І, занурыўшы кавалак, даець яго Юду Сыманёнку Іскарыёту. 27 І тады, просьле гэтага кавалка, увыйшоў у яго шайтан. І Ісус кажа яму: „Што робіш, рабі борзда". 28 Але ніхто зь іх узьлежачых ня ведалі, чаму Ён сказаў яму гэта. 29 Бо некатрыя думалі, што кажа яму Ісус: „Купі, што нам надабе на сьвята", альбо, каб даў што ўбогім, бо ў Юды быў хатуль. 30 І ён, узяўшы тый кавалак, зараз вышаў. І была ноч.

31 Як ён вышаў, Ісус кажа: „Цяпер услаўлены Сын Людзкі, і Бог услаўлены ў Ім. 32 Калі Бог услаўлены ў Ім, Бог таксама ўславе Яго ў Сабе, і неўзабаве ўславе Яго. 33 Дзеці!яшчэ крыху Я з вамі. Будзеце шукаць Мяне, і, як Я сказаў Юдэям: ‚Куды Я йду, вы ня можаце пайсьці'; кажу таксама вам цяпер. 34 Новае расказаньне даю вам, каб вы мілава́лі адзін аднаго; як Я мілава́ў вас, каб і вы любілі адзін аднаго. 35 Па гэтым пазна́юць усі, што вы ву́чанікі Мае, калі будзеце мець любоў мяжсобку". 36 Сымон Пётра кажа Яму: „Спада́ру, куды Ты йдзеш?" Ісус адказаў яму: „Куды Я йду, ты ня можаш за Імною йсьці цяпер, але пойдзеш за Імною потым". 37 Пётра кажа Яму: „Спада́ру, чаму я не магу йсьці за Табою цяпер? Я аддам жыцьцё свае за Цябе" 38 Ісус адказуе: „Ты аддасі жыцьцё свае за Мяне? Запраўды, запраўды кажу табе: пятух не запяець, як ты выпрашся Мяне трэйчы.

14 „Няхай не парушаецца сэрца вашае; верце ў Бога і ў Мяне верце. 2 У доме Айца Майго гаспод шмат. Калі б ня так было, Я

сказаў бы вам; бо йду прыгатаваць
вам месца. 3 І як пайду й прыга-
тую вам месца, прыйду ізноў і прый-
му вас да Сябе Самога, каб ідзе Я,
і вы былі. 4 А вы ведаеце, куды
Я йду, і ведаеце дарогу". 5 Хама
кажа Яму: „Спада́ру, мы ня ведаем,
куды Ты йдзеш, як жа можам да-
рогу ведаць?" 6 Ісус кажа яму: „Я
— дарога а праўда а жыцьцё; ніхто
ня прыходзе да Айца, адно перазь
Мяне. 7 Калі б вы знали Мяне, знали
б і Айца Майго. І адгэтуль вы
знаеце Яго й бачыце Яго". 8 Піліп
кажа Яму: „Спада́ру, пакажы нам
Айца, і гэтага даволі нам". 9 Ісус
кажа яму: „Ці це́перся Я з вамі, і
ты ня знаеш Мяне, Піліпе? Хто
бачыў Мяне, бачыў Айца; як жа
ты кажаш: ‚Пакажы нам Айца'?
10 Ня верыш ты, што Я ў Вайцу,
а Айцец у Імне? Словы, што Я ка-
жу вам, Я не ад Сябе кажу, але
Айцец, што перабывае ў Імне, чыне
справы. 11 Верце, што Я ў Вайцу, і
Айцец у Імне; калі ж не, дзеля
тых самых справаў верце Імне.
12 Запраўды, запраўды кажу вам:
хто вера ў Мяне, будзе чыніць спра-
вы, што Я чыню, і большыя за гэ-
тыя будзе чыніць, бо Я йду да Ай-
ца. 13 І чаго толькі папросіце ў імя
Мае, Я ўчыню, каб Айцец быў ус-
лаўлены ў Сыну. 14 Калі чаго па-
просіце ў імя Мае, Я ўчыню.
15 „Калі вы мілу́еце Мяне, рас-
казаньні Мае дзяржыце. 16 А Я бу-
ду прасіць Айца, і дасьць вам дру-
гога Пацяшыцеля, каб быў з вамі
на векі, 17 Духа праўды, Каторага
сьвет ня можа прыняць, бо ня бача
Яго ані знае Яго; але вы знаеце
Яго, бо Ён перабывае з вамі і ў вас
будзе. 18 Не пакіну вас сіротамі;
прыйду да вас. 19 Яшчэ крыху, і
ўжо сьвет Мяне ня бача; але вы
абачыце Мяне, бо Я жыву, і вы
будзеце жыць. 20 Таго дня вы па-
знаеце, што Я ў Вайцу Сваім, і вы
ў Імне, і Я ў Вас. 21 Хто ма́е раска-
заньні Мае́ й дзяржыць іх, тый мі-
лу́е Мяне; а хто мілу́е Мяне, таго
будзе мілава́ць Айцец Мой, і Я буду
мілава́ць яго, і зьяўлю яму Самога
Сябе".
22 Юда (не Іскарыёт) кажа Яму:
„Спада́ру, як гэта, што Ты хочаш
зьявіць Сябе нам, а ня сьвету?"
23 Адказаў Ісус і сказаў яму: „Ка-
лі хто мілу́е Мяне, дзяржыць слова
Мае, і Айцец Мой будзе мілава́ць
яго, і Мы да яго прыйдзем, і гас-
поду Сабе ў яго ўчынім. 24 Хто ня
мілуе Мяне, не дзяржыць słoваў
Маіх; а слова, што вы чуеце, не
Мае́, але Айца, Каторы паслаў Мя-
не.
25 „Гэта Я сказаў вам, перабы-
ваючы з вамі. 26 Пацяшыцель жа,
Дух Сьвяты, Каторага пашлець Ай-
цец у імя Мае, навуча вас усяго
і прыпомне вам усе, што сказаў Я
вам.
27 „Супакой пакідаю вам, супа-
кой Свой даю вам; не, як сьвет да-
ець, Я даю вам. Няхай сэрца вашае
не парушаецца і не лякаецца. 28 Вы
чулі, што Я сказаў вам: ‚Я йду і
прыйду да вас'. Калі б вы мілава́лі
Мяне, вы цешыліся б, што Я йду
да Айца, бо Айцец вялікшы за Мя-
не.
29 „І цяпер Я сказаў вам уперад,
чымся сталася, каб, як станецца, вы
ўверылі. 30 Я ўжо ня буду шмат му-
жаваць із вамі, бо йдзець князь
сьвету і ў Імне ня мае нічога. 31 Але
каб пазнаў сьвет, што Я мілу́ю Ай-
ца, і, як расказаў Імне Айцец, так
чыню: устаньце, пайдзіма адгэтуль.
15 „Я — запраўднае віно, а Айцец
Мой — вінар. 2 Кажную галу-
зу на Імне, што ня родзе плоду, Ён
забірае; і кажную, каторая родзе
плод, абцінае, каб больш плоду ра-
дзі́ла. 3 Вы ўжо чыстыя пераз сло-
ва, што Я вам казаў. 4 Перабывай-
це ў Імне, а Я ў вас. Як галуза ня
можа радзіць плоду сама ізь сябе,



калі не застаецца на віне, так і вы,
калі ня будзеце ў Імне.
5 „Я — віно, вы — галузы. Хто
перабывае ў Імне, і Я ў ім, тый
родзе шмат плоду, бо безь Мяне ня
можаце чыніць нічога. 6 Калі хто
не перабывае ў Імне, ён выкінены
вон, як галуза, і ссох; і зьбіраюць
іх, і ў цяпло кі́даюць, і яны зга-
раюць.
7 „Калі будзеце ў Імне, і словы
Мае будуць перабываць у вас, —
усяго, чаго зычыце, прасіце, і будзе
вам. 8 У тым ёсьць Айцец Мой
услаўлены, што вы шмат пладоў
дасьце́ і станеце ву́чанікамі Маімі.
9 „Як Айцец умілава́ў Мяне, так
Я ўмілава́ў вас; застаньцеся ў лю-
босьці Маёй. 10 Калі вы расказань-
ні Мае будзеце дзяржаць, вы за-
станіце́ся ў міласьці Маёй, як Я рас-
казаньні Айца Свайго зьдзяржаў і
застаюся ў міласьці Ягонай. 11 Я
гэта сказаў вам, каб радасьць Мая
была́ ў вас, і радасьць ваша была
поўная.
12 „Гэта — расказаньне Мае, каб
вы мілава́лі адзін аднаго, як Я ўмі-
лава́ў вас. 13 Ніхто ня мае большае
міласьці за тую, як хто жыцьцё
свае аддасьць за прыяцеляў сваіх.
14 Вы прыяцелі Мае, калі робіце
тое, што Я расказую вам. 15 Я ўжо
не заву вас нявольнікамі, бо няволь-
нік ня ведае, што робе гаспадар яго-
ны; але вас Я назваў прыяцельмі,
бо ўсе, што пачуў у Вайца Свайго,
Я азнайміў вам.
16 „Ня вы Мяне абралі, але Я
абраў вас і прызначыў вас, каб вы
йшлі й плод давалі, і плод вашы
заставаўся б, каб даў вам Айцец,
чаго толькі папросіце ў Яго ў імя
Мае.
17 „Гэта расказую вам, каб вы
мілава́лі адзін аднаго. 18 Калі сьвет
ненавідзе вас, ведайце, што Мяне ён
уперад за вас зьненавідзіў. 19 Калі
б вы былі́ ізь сьвету, сьвет любіў
бы собскіх; а як вы ня ізь сьвету,
але Я абраў вас ізь сьвету, затым
сьвет ненавідзе вас. 20 Памятуйце
слова, што Я сказаў вам: ‚Нявольнік
не вялікшы за гаспадара свайго'.
Калі перасьледава́лі Мяне, будуць і
вас перасьледава́ць; калі б дзяржа-
лі слова Мае, дзяржалі б і вашае.
21 Але гэта ўсе будуць рабіць вам
за і́мя Мае, бо ня знаюць Таго, хто
паслаў Мяне. 22 Калі б Я ня пры-
шоў і не казаў ім, яны ня мелі б
грэху; а цяпер ня маюць выбачэнь-
ня за грэх свой.
23 „Хто ненавідзе Мяне, і Айца
Майго ненавідзе. 24 Калі б Я ня
ўчыніў памеж іх справаў, каторых
ніхто іншы ня ўчыніў, яны ня мелі
б грэху; але цяпер бачылі і зьне-
навідзілі Мяне а Айца Майго. 25 Але
каб споўнілася слова, напісанае ў
Праве іхным: ‚Зьненавідзілі Мяне
бяз прычыны'. 26 А як прыйдзе Па-
цяшыцель, Каторага Я пашлю вам
ад Айца, Дух праўды, што ад Ай-
ца паходзе, Ён будзе сьветчыць
празь Мяне. 27 І вы таксама сьвет-
ча, бо ад пачатку вы з Імною.
16 „Гэта сказаў Я вам, каб вас не
спадманулі. 2 Будуць вылучаць
вас із бажніцаў; але, прыходзе га-
дзіна, што кажны, хто заб'ець вас,
будзе думаць, што ён абракае служ-
бу Богу. 3 І гэта яны будуць рабіць,
бо не пазналі Айца ані Мяне.
4 „Але гэта Я сказаў вам, каб,
як прыйдзе тый час, вы памяталі
гэта, што Я сказаў вам; а не ска-
заў вам гэтага спачатку, бо быў з
вамі. 5 А цяпер іду да Тога, Хто
паслаў Мяне, і ніхто з вас ня пы-
таецца ў Мяне: ‚Куды йдзеш?' 6 Але
ад тога, што Я гэта выказаў вам,
смутак напоўніў сэрца вашае.
7 „Але Я праўду кажу вам: ка-
рысна вам, каб Я адышоў; бо, калі
Я не адыйду, Пацяшыцель ня
прыйдзе да вас; калі ж пайду, па-
шлю Яго да вас. 8 І, прышоўшы,
Ён згане сьвет узглядам грэху а
справядлівасьці а суду: 9 Узглядам

грэху, бо ня верацъ у Мяне; 10 Уз-
глядам справядлівасьці, бо Я йду
да Айца, і ўжо ня будзеце бачыць
Мяне; 11 Узглядам суду, бо князь
гэтага сьвету засуджаны.

12 „Яшчэ казаць вам маю шмат,
але вы ня здолееце перанесьці гэта-
га цяпер. 13 А як прыйдзе Ён, Дух
праўды, увядзець вас да ўсяе праў-
ды, бо Ён ня будзе гу́каць ад Сябе,
але будзе казаць тое, што будзе
чуць, і йдучае абясьціць вам. 14 Ён
Мяне ўславе, бо з Майго возьме й
абясьціць вам. 15 Усе, што Айцец
ма́е, ё Мае́; затым Я й сказаў, што
Ён із Майго возьме й абясьціць вам.
16 Часіна́, і вы ня будзеце бачыць
Мяне; і ўзноў часіна́, і вы абачыце
Мяне, бо Я йду да Айца". 17 І не-
катрыя з вучанікаў гу́калі адзін
аднаму: „Што гэта Ён кажа нам:
'Часіна́, і вы ня будзеце бачыць Мя-
не; і ўзноў часіна́, і вы абачыце
Мяне, бо Я йду да Айца'?" 18 Дык
яны гу́калі: „Што гэта такое Ён
кажа: 'Часіна́'? Ня ведаем, што Ён
кажа". 19 І пазнаў Ісус, што зы-
чылі ў Яго пытацца, і сказаў ім:
„Ці праз тое вы разважаеце адзін
із адным, што Я сказаў: 'Часіна́, і
вы ня будзеце бачыць Мяне; і ўзноў
часіна́, і вы абачыце Мяне'? 20 За-
праўды, запраўды кажу вам: вы бу-
дзеце плакаць а галасіць, але сьвет
будзе цешыцца; вы будзеце зьне́ма-
рашчаны, але не́марасьць ваша абе-
рнецца ў радасьць. 21 Жонка, як
родзе, мае не́марасьць,бо гадзіна ей-
ная прышла, але як народзе дзяцё,
ужо ня памятуе атугі з радасьці,
што людзіна́ на сьвет нарадзілася.
22 І вы цяпер маеце не́марасьць;
але Я ўзноў абачу вас, і ўсьцешыц-
ца сэрца вашае, і радасьці вашае
ніхто не адбярэць у вас. 23 І таго
дня вы нічога не папытаецеся ў Мя-
не. Запраўды, запраўды кажу вам:
калі чаго папросіце ў Вайца, дасьць
вам у імя Мае. 24 Дагэтуль вы
нічога не прасілі ў імя Мае; пра-
сіце й адзяржыце́, каб радасьць ва-
ша была поўная. 25 Гэта Я ату-
мекамі казаў вам; настаець гадзіна,
што Я ўжо ня буду гу́каць вам ату-
мекамі, але выра́зьліва праз Айца
абяшчу вам. 26 Таго дня будзеце
прасіць у імя Мае, і не кажу вам,
што Я буду прасіць Айца за вас;
27 Бо Айцец Сам любе вас, бо вы
Мяне ўлюбілі і ўверылі, што Я ад
Бога вышаў. 28 Вышаў ад Айца і
прышоў на сьвет; ізноў пакідаю
сьвет і йду да Айца". 29 Кажуць
Яму ву́чанікі Ягоныя: „Вось, цяпер
Ты выра́зьліва кажаш, і атумекамі
ня гу́каеш. 30 Цяпер мы ведаем,
што Ты ведаеш усе, і не патрабуеш,
каб хто ў Цябе пытаўся. Затым ве-
рым, што Ты ад Бога вышаў".
31 Адказаў ім Ісус: „Цяпер веры-
це? 32 Вось, прыходзе гадзіна, і
прышла, што вы расьцярушыцеся,
кажны да сябе самога і Мяне пакі-
неце аднаго; але Я не адзін, бо
Айцец із Імною. 33 Гэта сказаў Я
вам, каб вы ў Імне супакой мелі.
У сьвеце будзеце мецъ атугу, але
будзьце адважныя: Я перамог
сьвет".

17 Гэта вымавіў Ісус і, узьняўшы
вочы Свае да неба, сказаў: „Вой-
ча! прышла гадзіна, услаў Сына
Свайго, каб Сын Твой мог уславіць
Цябе; 2 Бо Ты даў Яму ўладу над
усім целам, каб усім, каторых Ты
даў Яму, Ён даў жыцьцё вечнае.
3 А гэта ё жыцьцё вечнае, каб зналі
Цябе, адзінага праўдзівага Бога, і
таго, Каторага Ты паслаў, Ісуса
Хрыста. 4 Я ўславіў Цябе на зямлі,
скончыўшы справу, каторую Ты даў
Імне ўчыніць. 5 І цяпер услаў Мя-
не, Войча, у Сабе Самым, славаю,
каторую Я меў у Табе ўперад чымся
сьвет быў. 6 Я выявіў імя Твае лю-
дзём, каторых Ты даў Імне із сьве-
ту; яны былі́ Твае, і Ты даў іх
Імне, і яны зьдзяржалі слова Твае.
7 Цяпер яны пазналі, што ўсе, што
Ты даў Імне, ад Цябе ё; 8 Бо сло-



вы, што Ты даў Імне, Я даў ім,
і яны прынялі́ і пазналі запраўды,
што Я вышаў ад Цябе, і ўверылі,
што Ты паслаў Мяне. 9 Я за іх
прашу, не за сьвет прашу, але за
тых, каторых Ты даў Імне, бо яны
— Твае; 10 І ўсе Мае — Твае, і Твае
— Мае, і Я ўслаўлены ў іх. 11 І Я
ўжо не на сьвеце, а яны на сьвеце,
і Я йду да Цябе. Войча Сьвяты! за-
хавай іх у імя Свае, каторых Ты
даў Імне, каб яны былі́ адно, як
мы. 12 Як Я быў зь імі, Я захо-
ваваў іх у імя Твае; каторых Ты
даў Імне, Я ўсьцярог, і ні водзін
із іх не загінуў, адно сын загубы,
каб выпаўнілася Пісьмо. 13 Цяпер
жа йду да Цябе, і кажу гэта на
сьвеце, каб яны мелі радасьць Маю,
напоўненую ў сабе. 14 Я даў ім
слова Твае, і сьвет зьненавідзіў іх,
бо яны не ад сьвету, як Я не ад
сьвету. 15 Я не прашу, каб Ты ўзяў
іх із сьвету, але каб захаваў іх ад
ліха. 16 Яны не ад сьвету, як Я не
ад сьвету. 17 Усьвяці іх у праўдзе!
слова Твае — праўда. 18 Як Ты
паслаў Мяне на сьвет, і Я паслаў іх
у сьвет; 19 І за іх Я пасьвячаю
Сябе, каб яны былі́ ўсьвячаны праў-
даю. 20 І не за іх толькі Я прашу,
але таксама за тых, што вераць у
Мяне подле слова іхнага, 21 Каб
усі былі́ адно; як Ты, Войча, у Ім-
не, і Я ў Табе, каб і яны ў нас былі́,
каб верыў сьвет, што Ты Мяне па-
слаў. 22 І славу, што Ты даў Імне,
Я даў ім, каб былі́ адно, як мы
адно. 23 Я ў іх, і Ты ў Імне, каб
яны сталі супоўна адным, каб сьвет
пазнаў, што Ты паслаў Мяне, і каб
Ты ўмілава́ў іх, як Ты ўмілаваў Мя-
не. 24 Войча! каторых Ты даў Імне,
Я зычу, каб, ідзе Я, і яны былі з
Імною, каб бачылі славу Маю, ка-
торую Ты даў Імне, бо Ты ўмілава́ў
Мяне перад закладзінамі сьвету.
25 Войча справядлівы! і сьвет Ця-
бе не пазнаў, але Я пазнаў Цябе,
і яны пазналі, што Ты паслаў Мя-
не. 26 І Я паведаміў ім імя Твае
і паведамлю, каб міласьць, каторай
Ты ўмілава́ў Мяне, была́ ў іх, і Я
ў іх".

18 Сказаўшы гэта, Ісус вышаў з
ву́чанікамі Сваімі за цурэй Ке-
дрон, ідзе быў сад, да каторага Ён
увыйшоў, Ён а ву́чанікі Ягоныя.
2 Знаў жа й Юда, што выдаў Яго,
гэтае месца, бо Ісус часта зьбіраўся
там із ву́чанікамі Сваімі.

3 Дык Юда, узяўшы адзьдзел
войска а паслугачых ад найвыш-
шых сьвятароў а фарысэяў, прышоў
туды зь ліхтарнямі а зь лянпамі а
із зброяю.

4 Ісус жа, ведаючы ўсе, што пры-
ходзіла на Яго, вышаўшы, сказаў
ім: „Каго шукаеце?" 5 Яны адка-
залі Яму: „Ісуса Назарэцкага". Ісус
кажа ім: „Я ёсьць". І таксама Юда,
што выдаў Яго, стаяў зь імі. 6 І як
Ён сказаў ім: „Я ёсьць", яны адсту-
піліся назад і ўпалі на зямлю. 7 Та-
ды Ён ізноў папытаўся ў іх: „Каго
шукаеце?" Яны сказалі: „Ісуса На-
зарэцкага". 8 Адказаў Ісус: „Я ска-
заў вам, што Я гэта. Дык, калі Мяне
шукаеце, дазвольце гэтым адыйсь-
ці", 9 Каб споўнілася слова, што Ён
сказаў: „З тых, каторых Ты даў Ім-
не, Я ня згубіў ні воднага зь іх".

10 Сымон жа Пётра, маючы меч,
агаліў яго, і выцяў нявольніка най-
вышшага сьвятара, і адцяў яму пра-
вае вуха; было ж імя нявольніка
Малх. 11 Ісус жа сказаў Пётру:
„Укладзі меч у похву. Чару, што
даў Імне Айцец, нягож Я ня буду
піці яе?"

12 Дык аддзел а тысячнік а па-
слугачыя юдэйскія ўзялі́ Ісуса й
зьвязалі Яго. 13 І завялі Яго сьпяр-
ша да Ганны, бо ён быў цесьць Кая-
пы, што быў найвышшым сьвятаром
таго году. 14 Быў жа Каяпа тый, ка-
торы пара́дзіў Юдэям, што але́й
аднаму загінуць за люд.

15 Ішоў жа за Ісусам Сымон Пёт-
ра і другі вучанік. Вучанік жа тый

быў знаны найвышшаму сьвятару і
ўвыйшоў разам із Ісусам на пана-
дворак найвышшага сьвятара; 16 А
Пётра стаяў ля дзьвярэй знадворку.
Вышаў тады тый вучанік, другі, зна-
ны найвышшаму сьвятару, і сказаў
брамніцы, і ўвёў Пётру.
17 Кажа тады Пётру паслугачая-
брамніца: „Ці й ты ня з вўчанікаў
Гэтага Чалавека?" Ён кажа: „Я
не". 18 Прымеж тога нявольнікі а
паслугачыя, расклаўшы цяпло з ву-
гальля, — бо было сьцюдзена, —
грэліся; і Пётра стаяў зь імі й
грэўся.
19 Тады найвышшы сьвятар пы-
таўся ў Ісуса праз вучанікаў Яго-
ных а праз навуку Ягоную. 20 Ад-
казаў яму Ісус: „Я гўкаў яўна сьве-
ту; Я заўсёды вучыў у бажніцы а
ў сьвятыні, ідзе ўсі Юдэі зьбіраюц-
ца, і тойма не казаў нічога. 21 Ча-
му ты пытаешся ў мяне? пытайся
ў тых, каторыя чулі, што я казаў
ім; яны ведаюць, што казаў Я".
22 Як жа Ён сказаў гэта, адзін із
паслугачых, што стаяў блізка, вы-
цяў Ісуса, кажучы: „Гэтак адказу-
еш Ты найвышшаму сьвятару?"
23 Адказаў яму Ісус: „Калі Я блага
сказаў, сьветч праз благое; а калі
добра, чаму ты Мяне б'еш?" 24 Та-
ды Ганна паслаў Яго зьвязанага да
Каяпы, найвышшага сьвятара.
25 Сымон жа Пётра стаяў і грэўся.
Сказалі тады яму: „Ці й ты ня з
вўчанікаў Ягоных?" Ён заперачыў
і сказаў: „Я не".
26 Адзін із нявольнікаў найвыш-
шага сьвятара, сваяк таго, катораму
Пётра адцяў вуха, кажа: „Ці ня ба-
чыў я цябе ў садзе зь Ім?" 27 Тады
Пётра ізноў заперачыў, і якга пе-
вень запяяў.
28 І вялі Ісуса ад Каяпы да рату-
шы, а гэта было рана нараніцы. І
ня ўвыйшлі да ратушы, каб ня
сплюгавіцца, і каб маглі есьці пасху.
29 Тады Пілат вышаў да іх вонкі
і сказаў: „Што за жалабу маеце вы



на Гэтага Чалавека?" 30 Адказалі
яны й сказалі яму: „Калі б Ён не
рабіў ліха, мы ня выдалі б табе
Яго".
31 Тады сказаў ім Пілат: „Вазьмі-
це Яго й судзіце Яго подле Права
свайго". Юдэі ж адказалі яму: „Нам
нікога не дазволена караць сьмер-
цяй"; 32 Каб споўнілася слова Ісу-
сава, каторае Ён сказаў, зазначаю-
чы, якою сьмерцяй Ён мае памерці.
33 Таы Пілат увыйшоў ізноў у ра-
тушу, і пагукаў Ісуса, і сказаў Яму:
„Ці Ты Кароль Юдэйскі?" 34 Ісус
адказаў: „Ад сябе ты гэта кажаш,
ці іншыя сказалі гэта табе праз
Мяне?" 35 Пілат адказаў: „Альбо
я Юдэй? Народ Твой і найвышшыя
сьвятары выдалі Цябе імне. Што Ты
зрабіў?" 36 Ісус адказаў: „Гаспадар-
ства Мае ня з гэтага сьвету; калі б
гаспадарства Мае было з гэтага
сьвету, слугі Мае ваявалі б, каб Я
ня быў выданы Юдэям; цяпер жа
гаспадарства Мае не адгэтуль".
37 І сказаў Яму Пілат: „Дык Ты
Кароль?" Адказаў Ісус: „Ты кажаш,
што Я Кароль. Я радзіўся дзеля гэ-
тага і дзеля гэтага прышоў на сьвет,
каб сьветчыць праз праўду. Кажны,
хто з праўды, слухае голасу Майго".
38 Пілат кажа Яму: „Што ё праў-
да?" І, сказаўшы гэта, ён ізноў вы-
шаў да Юдэяў, і кажа ім: „Я не
знаходжу ў Ім ніякае віны. 30 Ёсьць
жа звычай у вас, каб я аднаго вы-
пушчаў вам на Пасху. Дык, хочаце,
каб я выпусьціў вам Караля Юдэй-
скага?" 40 Тады закрычэлі яны ўсі,
кажучы: „Ня гэтага, але Вараўву!"
Быў жа Вараўва разбойнік.
19 Дык тады ўзяў Пілат Ісуса
і біў Яго пугамі. 2 І жаўнеры,
зьвіўшы карону зь церня, узлажы-
лі на галаву Яму, і адзецьце шкар-
латнае накінулі на Яго, 3 І падхо-
дзілі да Яго, і казалі: „Здароў, Ка-
ролю Юдэйскі!" І білі Яго па відзе.
4 А Пілат вышаў ізноў вонкі і ка-
жа ім: „Гля, я выводжу Яго да вас,



каб вы даведаліся, што я ніякае
віны не знаходжу ў Ім". 5 Тады вы-
шаў Ісус вонкі ў цярнёвай кароне
і ў шкарлатным адзецьцю. І кажа
ім Пілат: „Во Чалавек!" 6 Як жа
абачылі Яго найвышшыя сьвятары
а паслугачыя, яны закрычэлі: „Ук-
рыжуй, укрыжуй Яго!" Пілат кажа
ім: „Вазьміце Яго й укрыжуйце, бо
я не знаходжу віны ў Ім". 7 Адказа-
лі яму Юдэі: „Мы маем Закон, і
подле Закону Ён мае памерці, бо
выдаваў Сябе за Сына Божага".
8 Як Пілат пачуў гэтае слова, ён
больш зьлякаўся. 9 І ўзноў увыйшоў
да ратушы, і кажа Ісусу: „Скуль
Ты?" Але Ісус ня даў яму адказу.
10 Дык Пілат кажа яму: „Ня гу-
тарыш із імною? альбо Ты ня ве-
даеш, што я маю ўладу выпусьціць
Цябе і маю ўладу ўкрыжаваць Ця-
бе?" 11 Ісус адказаў: „Ты ня меў бы
над Імною ніякае ўлады, калі б ня
было дана табе з вышы; затым тый,
хто Мяне выдаў табе, большы грэх
мае". 12 Адгэтуль Пілат шукаў вы-
пусьціць Яго. Юдэі ж крычэлі, ка-
жучы: „Калі ты Гэтага выпусьціш,
ты ня прыяцель цэсару. Кажны, што
выдаець сябе за караля, гўкае су-
проці цэсара".
13 Тады Пілат, пачуўшы гэтыя
словы, вывеў Ісуса вонкі і сеў на
судовае седава, на месца званае Лі-
тостротос, а пагэбрэйску Ґаббата.
14 Была ж прыгатова да Пасхі, ка-
ля шостае гадзіны. І кажа ён Юдэ-
ям: „Во Кароль ваш!" Але яны за-
крычэлі: „Вазьмі, вазьмі, укрыжуй
Яго!" Пілат кажа ім: „Караля ва-
шага ўкрыжую?" Найвышшыя сьвя-
тары адказалі: „Няма ў нас кара-
ля, адно цэсар". 16 Тады ён выдаў
Яго ім, каб быў укрыжаваны.
17 І ўзялі Ісуса, і павялі. І Ён вы-
шаў, нясучы крыж Свой на мес-
ца званае Чарэпнішча, пагэбрэйску
Голґота, 18 Ідзе Яго ўкрыжавалі і зь
Ім двух іншых паабапал Яго, а Ісу-
са пасярэдзіне.



19 Пілат жа напісаў і напіс і па-
мясьціў на крыжу. Было ж напіса-
на: „Ісус Назарэцкі, Кароль Юдэй-
скі". 20 І гэты напіс шмат хто зь
Юдэяў чытаў, бо блізка места было
тое месца, ідзе Ісус быў укрыжава-
ны, і было напісана пагэбрэйску,
пагрэцку а палацінску.
21 Тады найвышшыя сьвятары
казалі Пілату: „Ня пішы ‚Кароль
Юдэйскі', але што Ён сказаў: ‚Я Ка-
роль Юдэйскі'." 22 Пілат адказаў:
„Што я напісаў, напісаў".
23 Жаўнеры ж, як укрыжавалі
Ісуса, узялі адзецьце Ягонае і зра-
білі чатыры часьці, кажнаму жаў-
неру часьць, і туніку; была ж туні-
ка ня сшытая, цэлая вытканая із
самага верху. 24 І сказалі яны адзін
аднаму: „Не дзярыма яе, але кіньма
на жэрабя на яе, чыя яна будзе";
каб споўнілася Пісьмо: „Падзялілі
адзецьці Мае мяжсобку і на адзежу
Маю кінулі на жэрабя". Жаўнеры
гэта зрабілі.
25 Стаялі ж ля крыжа Ісусавага
Маці Ягоная а сястра Маці Ягонае,
Марыя Клеопова, а Марыя Магда-
лена. 26 Ісус жа, абачыўшы Маці
Сваю а вучаніка, блізка стаячага,
каторага Ён мілаваў, кажа Маці:
„Жонка, во сын Твой". 27 Потым
кажа вучаніку: „Во Маці твая". Ад-
гэнуль узяў вўчанік Яе да дому
свайго.
28 Просьле гэтага Ісус, ведаючы,
што ўжо ўсе зьдзеялася, кажа,
каб споўнілася Пісьмо: „Сьмягну".
29 Была ж там судзіна, поўная воц-
ту. Тады яны, напоўніўшы губку
воцтам і абклаўшы гізопам, падалі
да вуснаў Ягоных. 30 І як паспы-
таўся Ісус воцту, Ён сказаў: „Ста-
лася!" І, сьхінуўшы галаву, выдаў
дух.
31 А як была прыгатова, Юдэі,
каб целы не заставаліся на крыжу
ў сыботу, — бо дзень тае сыботы
быў вялікі, — папрасілі ў Пілата,
каб зламіць у іх галёнкі й зьняць.

32 Дык прышлі жаўнеры, і ў першага зламілі галёнкі, і ў другога, укрыжаванага зь Ім. 33 Прышоўшы ж да Ісуса, яны, як абачылі, што Ён ужо памер, не ламілі ў Яго галёнак, 34 Але адзін із жаўнераў дзідаю прабіў Яму бок, і якга вышла кроў і вада. 35 А тый, што бачыў гэта, сьветча, і сьветчаньне ягонае праўдзівае, і ён ведае, што праўдзівае кажа, каб вы верылі. 36 Бо гэта сталася, каб споўнілася Пісьмо: „Косьць Ягоная ня будзе зломлена". 37 І ўзноў іншае Пісьмо кажа: „Будуць глядзець на Таго, Каго прабілі".

38 А просьле гэтага Язэп із Арымафеі, што быў патайным вучанікам Ісусавым із боязьні Юдэяў, прасіў у Пілата ўзяць цела Ісусава; і дазволіў Пілат. Дык ён прышоў і ўзяў цела Ісусава. 39 Прышоў жа й Мікадым, — што ўпяршыню прыходзіў да Ісуса ночы, — нясучы мешанку зь міры й алёю каля сту хунтаў.

40 Дык узялі яны цела Ісусава, і паклалі Яго ў палотны з пахамі, і завязалі, як гэта ё звычаем у Юдэяў хаваць. 41 Быў жа гарод на тым месцу, ідзе Ён быў укрыжаваны, а ў гародзе гроб новы, у каторым ніхто яшчэ ня быў пахаваны. 42 Дык там, дзеля прыгатовы юдэйскае, бо гроб быў блізка, пахавалі Ісуса.

20 Першага ж дня тыдня Марыя Магдалена прыходзе да гробу рана нараніцы, як яшчэ было цемна, і бача — камень адкочаны ад гробу. 2 Дык бяжыць і прыходзе да Сымона Пётры а да другога вучаніка, каторага любіў Ісус, і кажа ім: „Узялі Спадара з гробу, і ня ведаем, ідзе паклалі".

3 Тады вышаў Пётра а другі вучанік і прышлі да гробу. 4 І абодва беглі разам, але другі вучанік бег барджэй за Пётру, і прышоў да гробу першы. 5 І, нахінуўшыся, абачыў палотны лежачыя; але ня ўвыйшоў.

6 Тады прыходзе Сымон Пётра, ідучы за ім, і ўвыйшоў у гроб, і бача палотны лежачыя. 7 А хустку, што была́ на галаве Ягонай, не з палотнамі лежачую, але складзеную асобна. 8 Тады ўвыйшоў і другі, што ўперад прышоў да гробу, і абачыў, і ўверыў. 9 Бо яны яшчэ ня зналі Пісьма, што Яму належыла ўскрэсьці зь мертвых.

10 Дык ву́чанікі пайшлі ізноў двору. 11 Але Марыя стаяла знадворку ля гробу, плачучы. І як плакала, нахінулася да гробу. 12 І бача двух ангілаў, у белі седзячых, адзін ля ўзгалоўя, а другі ля ног, ідзе ляжала цела Ісусава.

13 І яны кажуць ёй: „Жонка, чаго ты плачаш?" Кажа ім: „Бо ўзялі Спадара майго, і ня ведаю, ідзе паклалі Яго". 14 Сказаўшы гэта, яна абярнулася назад і бача, што стаіць Ісус, але ня ведала, што гэта быў Ісус. 15 Ісус кажа ёй: „Жонка, чаго ты плачаш? каго шукаеш?" Думаючы, што гэта гараднічы, кажа Яму: „Спада́ру, калі ты вынес Яго адгэтуль, скажы імне, ідзе паклаў Яго, і я вазьму Яго". 16 Кажа ёй Ісус: „Марыя!" Абярнуўшыся, яна кажа пагэбрэйску: „Рабуні!", што знача: „Вучыцелю! 17 Ісус кажа ёй: „Не дакранайся да Мяне, бо Я яшчэ ня ўзьнёсься да Айца Свайго; але йдзі да братоў Маіх і скажы ім: узыходжу да Айца Свайго і да Айца вашага, і да Бога Свайго і да Бога вашага".

18 Прыходзе Марыя Магдалена, наказуючы вучанікам, што бачыла Спадара, і Ён гэта сказаў ёй.

19 Увечары таго дня, што быў першым днём тыдня, із страху перад Юдэямі, дзьверы былі замкнёныя, ідзе былі вучанікі, прышоў Ісус, і стаў пасярэдзіне, і кажа ім: „Супакой вам!" 20 І, сказаўшы гэта, Ён паказаў ім рукі а бок. І ўсьцешыліся вучанікі, абачыўшы Спадара. 21 Тады сказаў ім узноў: „Супакой вам! як Мяне паслаў Айцец, і Я пасылаю вас". 22 І сказаўшы гэта, дыхнуў на іх, і кажа ім: „Прыйміце Духа Сьвятога. 23 Каму даруеце грахі, дараваныя ім; каму задзяржыце́, задзяржаныя".



24 Хама ж, адзін із дванаццацёх, званы Блізьнюк, ня быў зь імі, як прыходзіў Ісус. 25 Казалі яму іншыя вучанікі: „Мы бачылі Спадара". Ён жа сказаў ім: „Калі не абачу на руках Ягоных знаку ад гваздоў, і не ўкладу палца свайго ў раны ад гваздоў, і не ўкладу рукі свае ў бок Ягоны, не паверу".

26 І за восьмі дзён ізноў былі вучанікі ў доме, і Хама зь імі. Прыходзе Ісус, як дзьверы былі замкнёныя; і стаў пасярэдзіне, і сказаў: „Супакой вам!" 27 Адлі кажа Хаме: „Выцягні палец свой сюды, і глянь на рукі Мае, і выцягні руку́ сваю, і ўкладзі ў бок Мой; і ня будзь нявернікам, але вернікам". 28 Адказаў Хама і сказаў Яму: „Спадар мой і Бог мой!" 29 Кажа яму Ісус: „Ты ўверыў, бо абачыў Мяне; дабраславёныя, што ня бачылі і ўверылі".

30 Шмат іншых знакоў учыніў таксама Ісус перад ву́чанікамі Сваімі, каторыя не запісаныя ў кнізе гэтай. 31 Але гэтыя запісаныя, каб вы верылі, што Ісус ё Хрыстос, сын Божы, і каб, верачы, мелі жыцьцё ў імя Ягонае.

21 Просьле гэтага зьявіўся Ісус ізноў вучанікам ля мора Тыверадзкага. Зьявіўся ж гэтак: 2 Былі там разам Сымон Пётра а Хама, званы Блізьнюк, а Нафанайла з Каны Галілейскае а Зэведэенкі а двух іншых із вучанікаў Ягоных.

3 Сымон Пётра кажа ім: „Іду лавіць рыбу". Кажуць яму: „Ідзем і мы з табою". І вышлі, і селі да стругу, і тае́ ночы нічога не злавілі.

4 А рана нараніцы, яшчэ золкам, стаў Ісус на беразе; ву́чанікі, адылі, ня ведалі, што гэта быў Ісус. 5 Дык Ісус кажа ім: „Дзеці, ці маеце якую ежу?" Яны адказалі Яму: „Не". 6 Ён жа сказаў ім: „Закіньце сець із правага боку струга, і знойдзеце". Яны закінулі, і ўжо не маглі выцягнуць яе з прычыны множасьці рыбы.

7 Кажа тады Пётру вучанік тый, каторага мілава́ў Ісус: „Гэта Спадар". А Сымон Пётра, пачуўшы, што гэта Спадар, паперазаўся адзецьцям, — бо быў голы, — і кінуўся ў мора. 8 А іншыя вучанікі прыплылі ў лодцы, бо недалёка былі ад зямлі, локцяў каля дзьвесьце, цягнучы сець із рыбаю. 9 Як жа выселі на зямлю, бачаць цяпло з вугальля, і рыбу, на ім лежачую, і хлеб.

10 Кажа ім Ісус: „Прынясіце з тае рыбы, што вы злавілі цяпер". 11 Пайшоў Сымон Пётра й выцягнуў сець на зямлю, поўную вялікае рыбы, каторае было сто пяцьдзясят тры; і ач было толькі, сець не парвалася.

12 Кажа ім Ісус: „Ідзіце, сьнедайце". Ніхто, адылі, зь іх ня сьмеў папытацца ў Яго: „Хто Ты?" ведаючы, што гэта Спадар. 13 Прыходзе Ісус, і бярэць хлеб, і даець ім, і рыбу таксама. 14 Гэта ўжо трэйці раз зьявіўся Ісус вучанікам, ускрэсшы зь мертвых.

15 А як яны пасьнедалі, кажа Сымону Пётру Ісус: „Сымоне Ёнёнку, ці мілу́еш ты Мяне балей, чымся гэтыя?" Кажа Яму: „Але́, Спадару, Ты ведаеш, што я люблю Цябе". Кажа яму: „Пасі ягняты Мае". 16 Кажа яму другім наваратам: „Сымоне Ёнёнку, ці мілу́еш ты Мяне?" Кажа Яму: „Але́, Спада́ру, Ты ведаеш, што я люблю Цябе". Кажа яму: „Будзь пастухом авец Маіх". 17 Кажа яму трэйцім наваратам: „Сымоне Ёнёнку, ці любіш ты Мяне?" Засмуціўся Пётра, што Ён сказаў яму трэйці раз: „Ці любіш ты

Мяне?" і сказаў Яму: „Спада́ру, Ты
ўсе ведаеш, Ты ведаеш, што я люб-
лю Цябе". Ісус кажа яму: „Пасі
авечкі Мае.
18 „Запраўды, запраўды кажу та-
бе: як ты быў малодшы, ты папя-
разаваўся сам і йшоў, куды зычыў;
але як застарэеш, выцягнеш рукі
свае, і іншы папяража цябе й па-
вядзець, куды ня зычыш". 19 А гэта
Ён сказаў, зазначаючы, якой сьмер-
цю ўславе ён Бога. І, сказаўшы гэта,
кажа яму: „Ідзі за Імною".
20 Пётра, абярнуўшыся, бача йду-
чага за імі вучаніка, каторага міла-
ваў Ісус, і каторы на вячэры, нахі-
нуўшыся да грудзёў Ягоных, ска-
заў: „Спада́ру, хто іздрадзе Цябе?"
21 Абачыўшы яго, Пётра кажа Ісу-
су: „Спада́ру, а ён што?" 22 Ісус
кажа яму: „Калі Я зычу, каб ён за-
стаўся, пакуль Я прыйду, што табе?
ты за Імною йдзі".
23 Дык разышлося гэнае слова па-
меж братоў, што вучанік гэны не
памрэць. Але не сказаў яму Ісус,
што ён не памрэць, але: „Калі Я
зычу, каб ён застаўся, пакуль Я
прыйду, што табе?"
24 Гэта тый ву́чанік, што сьветча
праз усе гэта, і каторы напісаў гэта,
і мы ведаем, што праўдзівае сьвет-
чаньне ягонае.
25 І шмат іншага таксама ё, што
ўчыніў Ісус, каторае, калі б было
напісана, думаю, што нават сам
сьвет не зьмясьціў бы тых напіса-
ных кнігаў.

## ДЗЕІ СЬВЯТЫХ АПОСТАЛАЎ

1 Першы нарыс, о Хахілю, уклаў
я праз усе, што Ісус пачаў за-
разом чыніць і навучаць, 2 Аж да
тога дня, каторага Ён узьнёсься,
даўшы Сьвятым Духам расказаньне
апосталам, каторых Ён абраў, 3 Пе-
рад каторымі й стаў жывы, па за-
му́чаньню, зь бесьпярэчнымі дова-
дамі, будучы бачаны імі на працягу
сараку дзён і кажучы праз гаспа-
дарства Божае.
4 І, зьбершы, расказаў ім не ад-
хінацца ад Ерузаліму, але „чакайце
абяцанага ад Айца, што вы чулі ад
Мяне; 5 Бо Яан запраўды хрысьціў
у вадзе, а вы будзеце хрышчаны за
колькі дзён Сьвятым Духам". 6 За-
тым яны, зышоўшыся, пыталіся ў
Яго, кажучы: „Спада́ру, ці ня гэта-
га часу Ты адновіш гаспадарства
Ізраелю?" 7 Ён жа сказаў ім: „Ня
вам знаць часы альбо поры, като-
рыя Айцец паклаў у ўладзе Сваёй;
8 Але вы прыймеце магутнасьць, як
зыйдзе на вас Дух Сьвяты, і будзе-
це Імне сьветкамі ў Ерузаліме а ў
вусёй Юдэі а ў Самары а аж да
канца зямлі". 9 І, сказаўшы гэта,
як яны глядзелі, Ён быў узяты, і
була́к прыняў Яго ад ачоў іхных.
10 І як яны ўцяміліся ў неба, як
Ён узыходзіў, і вось, два мужы ста-
лі перад імі ў белым адзецьцю, 11 І
каторыя сказалі: „Мужы Галілейс-
кія, чаго вы стаіце́, гледзячы на не-
ба? Гэта Ісус, узяты ад вас на не-
ба, такім парадкам прыйдзе, як вы
бачылі ўзыходзячага Яго на неба".
12 Тады яны зьвярнуліся да Еруза-
ліму з гары, званае Аліўнаю, што ля
Ерузаліму, маючы сыботняга дня
дарогу. 13 І, увыйшоўшы, узышлі
да верхняга пакою, ідзе перабывалі
разам Пётра а Яан а Якаў а Андрэй,
Піліп а Хама, Баўтрамей а Мацьвей,
Якаў Алфеенак а Сымон Зылот а
Юда, брат Якаваў. 14 Гэтыя ўсі пе-
рабывалі згодна, кажначасна ў ма-
літве із жанка́мі а Марыяй, Маці
Ісусавай, а з братамі Ягонымі.
15 І тымі днямі Пётра, стаўшы
пасярод братоў, — груду наймя ра-
зам было каля сту дваццацёх, —
сказаў: 16 „Мужы браты, належы-



ла выпаўніцца Пісьму, што Дух
Сьвяты прарок вуснамі Давіда празь
Юду, каторы стаў правадыром тых,
што ўзялі Ісуса; 17 Бо ён лічыўся
меж нас і адзяржаў дзель у службе
гэтай. 18 Дык гэты купіў поле за-
платаю за бяспраўʼе і, стрымгалоў
паўшы, расьняпіўся пасярэдзіне, і
выпаў увесь нутр ягоны. 19 І гэта
стала ведама ўсім жыхарам Еруза-
ліму, так што тое поле было назва-
на ў нарэччу іхным собскім Акель-
дама, значыцца, поле крыві. 20 Бо
напісана ў кнізе псальмаў: ‚Няхай
дамова ягоная будзе пустая, і няхай
ня будзе жывучага ў ёй', а ‚Урад
ягоны вазьмі іншы'. 21 Дык нале-
жыцца, каб із мужоў, што прапуш-
чалі нас увесь час, у каторым Спа-
дар Ісус уходзіў і выходзіў памеж
нас, 22 Пачынаючы ад хрысту Яана-
вага аж да дня, як быў узяты ад
нас, каб адзін із тых стаў сьветкаю
з намі ўскрысеньня Ягонага". 23 І
яны пастанавілі двух: Язэпа, звана-
га Вараваю, каторага мянушка бы-
ла Юст, і Мацьвея. 24 І, малячыся,
сказалі: „Ты, Спада́ру, усіх сэрцаў
ведамча, пакажы з гэтых двух ад-
наго, каторага Ты абраў, 25 Заняць
месца ў службе гэтай і апосталства,
ад каторага Юда адпаў, кабісьці на
месца свае". 26 І кінулі на жэрабя
на іх, і пала жэрабя на Мацьвея,
і ён быў залічаны да адзінанцацёх
апосталаў.
2 Як настаў дзень Пяцьдзясятні-
цы, усі яны былі́ разам на ад-
ным месцу. 2 І зьнецікі стаўся гук
із неба, бы ад павеву буйнога вет-
ру, і напоўніў увесь дом, ідзе яны
сядзелі. 3 І зьявіліся ім падзеленыя
языкі, бы агнёвыя, і асеў на каж-
ным адзін із іх. 4 І напоўніліся ўсі
Духам Сьвятым і пачалі гу́каць
іншымі мовамі, як тый Дух даваў
ім вымаўляць.
5 Былі́ ж там у Ерузаліме пры-
яжджомыя Юдэі, людзі набожныя,
ад усялякага народу пад нябёсамі.
6 Як жа стаўся гук, зышлася мно-
жасьць, і былі́ зумеўшыся, бо каж-
ны чуў іх гу́каючых да іх ягоным
собскім нарэччам. 7 І ўсі зумяваліся
а дзіваваліся, гу́каючы мяжсобку:
„Ці ня ўсі гу́каючыя Галілеяне?
8 Як жа мы чуем кажны собскае
нарэчча, у каторым нарадзіліся,
9 Парфяне а Мідзяне а Еламіты а
жыхары Месопотамы а Юдэі а Кап-
падокі, Понту а Азі, 10 Фрыгі а
Памфілі, Ягіпту а часьцяў Лібы, су-
межных ізь Кірэнаю, а прыяжджо-
мыя Рымляне, Юдэі а нова на веру
наверненыя, 11 Крыцяне а Арабаве,
чуем іх нашымі мовамі гу́каючых
празь вялікія справы Божыя?" 12 І
ўсі зумяваліся, і ў клопатнай парусе
гу́калі адны аднмм: „Што гэта зна-
чыцца?"
13 Але іншыя, насьміхаючыся,
гу́калі: „Яны ўпіліся новым вінам".
14 Пётра ж, стаўшы з адзінанца-
цьма, узьняў голас свой і прамовіў
да іх: „Мужы Юдэйскія і ўсі жыха-
ры Ерузаліму! хай будзе ведама
вам, і ўважайце на словы мае:
15 Яны не пʼяныя, як вы ўвабражае-
це сабе, бо трэйцяя гадзіна дня;
16 Але гэта сказа́нае пракам Ёс-
лям: 17 ‚І будзе апошніх дзён, кажа
Бог, выльлю з Духа Свайго на ўсе
цела; і будуць прарака́ць сынове
вашы а дачкі вашы, і маладзёны
вашы будуць відзець відзені, і ста-
рыя вашыя будуць сьніць сны.
18 Але, і на слугаў Сваіх і на слу-
жэбкі Свае выльлю тых дзён із Ду-
ха Свайго, і яны будуць прарака́ць.
19 І дам чудосы на небе ўгары і
знакі на зямлі далавах, кроў а агонь
а куродым. 20 Сонца абернецца ў
цемнь, і месяц у кроў, уперад чым-
ся настане дзень Спадароў, вялікі а
славуты. 21 І станецца, што кажны,
хто будзе гука́ць імя Спадарова,
спасецца'.
22 „Мужы ізраельскія! слухайце
словы гэтыя: Ісуса Назарэцкага,
мужа, пасьветчанага вам Богам

учынкамі магутнасьці а чудосамі а
знака́мі, што Бог учыніў перазь Яго
сярод вас, як вы самы ведаеце,
23 Яго радаю і перадведаньням Бо-
жым выданага, вы рукою бясправў-
ных укрыжавалі а забілі. 24 Бог
ускрысіў Яго, расксволіўшы путы
сьмерці, бо нельга было ёй удзяр-
жаць Яго гэтымі. 25 Бо Давід кажа
ўзглядам Яго: ‚Я бачыў Спадара
кажначасна перад сабою; бо Ён па
правіцы маёй, каб я не захістаўся.
26 Затым сэрца мае цешылася, і
язык мой весяліўся, нават і цела
мае будзе жыхарыць у надзеі; 27 Бо
Ты не пакінеш душы мае ў пекле
ані дасі Сьвятому бачыць расклад.
28 Ты даў імне пазнаці дарогі жы-
цьця; Ты напоўніў мяне радасьцяй
перад відам Сваім’. 29 Мужы браты,
няхай будзе дазволена гу́каць вы-
ра́зьліва праз патрыярха Давіда,
што ён памер і пахаваны, і помнік
ягоны памеж нас дагэтуль. 30 Буду-
чы ж пракорам і ведаючы, што Бог
із прысягаю абяцаў з плоду сьцёг-
наў ягоных пасадзіць на пасадзе
ягоным, 31 Ён перадбачыўшы, гу́-
каў праз ускрысеньне Хрыста, што
не пакінены будзе Ён у пекле ані
абача цела Ягонае раскладу. 32 Гэ-
тага Ісуса Бог ускрысіў, чаго ўсі мы
сьветкі. 33 Дык, будучы ўзьняты
правіцаю Божай і адзяржаўшы ад
Айца абятніцу Сьвятога Духа, Ён
выліў тое, што бачыце а чуеце.
34 Бо Давід ня ўзьнёсься да нябёс,
але ён сам кажа: ‚Сказаў Спадар
Спадару майму: сядзь па правіцы
Маёй, 35 Пакуль Я пакладу не́прыя-
целяў Тваіх казулькаю пад ногі
Твае’. 36 Дык няхай увесь дом Із-
раеляў напэўна ведае, што Бог учы-
ніў Яго, Гэтага Ісуса, Каторага вы
ўкрыжавалі, Спадаром а Хрыстом”.

37 Пачутае баданула ім у сэрца,
і сказалі Пётру а іншым апосталам:
„Што мы маем рабіць, мужы бра-
ты?” 38 Пётра сказаў ім: „Пакайце-
ся а ахрысьціцеся кажны з вас у
імя Ісуса Хрыста дзеля дараваньня
грахоў, — і адзяржыце́ дар Сьвято-
га Духа; 39 Бо вам ёсьць абятніца
й дзяцём вашым і ўсім далёкім толь-
кім, колькіх пагука́е Спадар Бог
наш”.

40 І шмат якімі іншымі словамі ён
урочыста сьветчыў і захочаваў іх,
кажучы: „Ратуйцеся ад роду гэтага
крутадушнага”. 41 Тады тыя, што
ахвотна прынялі слова ягонае, былі
ахрышчаны; і дадана таго дня ду-
шаў каля трох тысячаў. 42 І яны не-
парушна трывалі ў навуццы апоста-
лаў а ўзаем’ю, у ламеньню хлеба а
ў малітвах.

43 І боязьнь агарнула кажную ду-
шу́, і шмат чудосаў а знакоў было
зьдзеяна апосталамі. 44 І ўсі верні-
кі былі разам, і мелі ўсе супольнае.
45 І прадавалі двары свае а маема-
сьці, і раздавалі ўсім, подле патрэ-
бы кажнага.

46 І дзень пры дню непарушна
трывалі ў сьвятыні, і, ломячы хлеб
па дамох, дзялілі ежу ў радасьці а
ў прасьціні сэрца, 47 Хвалячы Бога
і маючы зычлівасьць у ўсяго люду.
Спадар жа што дзень дадаваў да
царквы спасаных.

3 Пётра а Яан узыходзілі разам
да сьвятыні на дзявятую гадзі-
ну малітвы. 2 І быў нейкі чалавек,
кульгавы ад улоньня маці свае, ка-
торага насілі й садзілі дзень пры
дню ля дзьвярэй сьвятыні, званых
Харошымі, прасіць убожніны ў ву-
ходзячых да сьвятыні. 3 Ён, абачыў-
шы Пётру а Яана перад уходам іх
у сьвятыню, прасіў у іх убожніны.
4 Пётра, гледзячы на яго зь Яанам,
сказаў: „Глянь на нас”. 5 І ён уце-
міўся ў іх, спадзяючыся адзяржаць
ад іх што-колечы. 6 Але Пётра ска-
заў: „Срэбла а золата я ня маю,
але што маю, тое даю тэ: у імя Ісуса
Хрыста Назарэцкага ўстань а хадзі”.
7 І, узяўшы яго за правую руку́,
падняў; і якгá ўмацаваліся ногі яго-
ныя а пчыкалаткі. 8 І, ускочыўшы,



стаў, і хадзіў, і ўвыйшоў зь імі ў
сьвятыню, ходзячы а падскокуючы
а хвалячы Бога. 9 І увесь люд ба-
чыў яго ходзячага а хвалячага Бо-
га. 10 І пазналі яго, што гэта быў
тый, каторы сядзеў у Харошых
дзьвярох сьвятыні дзеля ўбожніны;
і працяліся жахам а зумленьням ад
тога, што сталася яму. 11 І як ён
дзяржаўся Пётры а Яана, увесь люд,
вельма зумеўшыся, зьбегся да іх на
ґанак, званы Салямонавым.

12 А Пётра, абачыўшы гэта, ад-
казаў люду: „Мужы ізраельскія, ча-
му вы зумеліся з гэтага чалавека,
альбо чаму прыцяміліся да нас,
быццам мы сваёй сілаю альбо на-
божнасьцю ўчынілі, што ён ходзе?
13 Бог Абрагамоў а Ісакоў а Якаваў,
Бог айцоў нашых, уславіў Дзяцё
Свае Ісуса, Каторага вы выдалі й ад-
ракліся Яго ў прытомнасьці Пілата,
як ён быў рассудзіўшы выпусьціць
Яго. 14 Але вы Сьвятога а Справяд-
лівага адракліся, і прасілі падара-
ваць вас забіўцам; 15 А пачынань-
ніка жыцьця вы забілі, Каторага
Бог ускрысіў зь мертвых, чаго мы
сьветкі. 16 І вераю ў імя Ягонае, імя
Ягонае ўмацавала гэтага, каторага
вы бачыце й знаеце; і вера, што ад
Яго, далá яму супоўнае ўздараўлень-
не гэтае ў прытомнасьці вас усіх.
17 Але цяпер, браты, я ведаю, што
вы зрабілі гэта зь не́ведзі, як і стар-
цы вашыя. 18 Бог жа, што наперад
абясьціў вуснамі ўсіх пракокаў, што
меў Хрыстос цярпець, так выпаўніў.
19 Дык кайцеся й навярніцеся дзеля
сьцерця грахоў сваіх, каб часы ха-
ладку прыйшлі ад віду Спадаровага,
20 І каб паслаў Ён Ісуса Хрыста,
наканаванага вам, 21 Каторага неба
запраўды мела прыняць да часоў
аднаўленьня ўсяго, праз што Бог
казаў вуснамі сьвятых пракокаў
Сваіх ад веку. 22 Масей запраўды
сказаў: ‚Праропку Спадар Бог ваш
узьніме вам із братоў вашых, як
мяне; Яго слухайце ў вусім, што-
колечы Ён будзе казаць вам. 23 І
будзе, што кажная душа, каторая не
паслухае Прарокі таго, чыста будзе
выгублена зь люду’. 24 І запраўды
ўсі пракокі ад Самуйлы й просьле
яго, колькі іх казала, наперад абя-
шчалі гэтыя дні. 25 Вы сынове пра-
рокаў а змовы, каторую Бог учыніў
з бацькамі вашымі, кажучы Абра-
гаму: ‚І ў насеньню тваім дабраслаў-
лены будуць усі радзімы зямлі’.
26 Вам найперш Бог, узьняўшы
Дзяцё Свае, паслаў Яго, дабраслаў-
ляючы вас, каб адвярнуць кажнага
ад нягоднасьцяў вашых”.

4 І як яны гу́калі да люду,
прыступілі да іх сьвятарове а
ўраднікі сьвятыні а садукеі, 2 Надта
парушаючыся з тае прычыны, што
яны навучаюць люд і абяшчаюць у
Ісусу ўскрысеньне зь мертвых. 3 І
наклалі на іх рукі, і пасадзілі іх да
вязьніцы да раньня, бо ўжо быў ве-
чар. 4 Але шмат хто з тых, што чулі
слова, уверылі, і быў лік мужоў
каля пяцёх тысячаў.

5 І сталася назаўтрае нараніцы,
што зьберліся ў Ерузаліме начэль-
нікі іхныя а старцы а кніжнікі. 6 А
Ганна, найвышшы сьвятар, а Каяпа
а Яан а Аляксандра, і колькі было
іх із роду найвышшага сьвятара;
7 І, пастанавіўшы іх пасярэдзіне,
пыталіся: „Якой сілаю альбо ў якім
імені вы ўчынілі гэта?” 8 Тады
Пётра, напоўніўшыся Духа Сьвято-
га, сказаў ім: „Начэльнікі люду а
старцы, 9 Калі мы сядні выпытава-
ны ўзглядам добрага ўчынку кале-
ку, як ён быў уздароўлены; 10 Ня-
хай будзе ведама вам усім і ўсяму
люду ізраельскаму, што ў імені Ісу-
са Хрыста Назарэцкага, Каторага
вы ўкрыжавалі, Каторага Бог ус-
крысіў зь мертвых, у Ім пастаноў-
лены ён тут перад вамі здаровы.
11 Ён ё камень, пагрэбаваны вамі
будаўнічымі, Каторы стаў галаўным
каменям, 12 І няма ні ў кім іншым
спа́сеньня; бо няма іншага імені

пад небам, данага людзём, каторым мы маглі б спасьціся". 13 І бачачы адвагу Пётраву а Янаву, і зацеміўшы, што яны някніжныя а простыя, яны дзіваваліся; і пазналі, што яны былі́ зь Ісусам; 14 Бачачы ж стаячага зь імі ўздароўленага чалавека, нічога не маглі сказаць напярэк. 15 І, расказаўшы ім выйсьці з рады, разважалі мяжсобку, 16 Кажучы: „Што нам рабіць із гэтымі людзьмі? бо, што праўды яўны знак стаўся праз іх, ведама ўсім жыхарам Ерузаліму, і мы ня можам заперачыць гэтага. 17 Але, каб дале́й гэта не пашыралася памеж люду, стродка прыгразіма ім, каб наперад у гэтым імені нікому ня гу́каць". 18 І, гукну́ўшы іх, абавязалі не вымаўляць ані вучыць у імені Ісусавым. 19 Але Пётра а Ян, адказуючы, сказалі ім: „Ці справядліва гэта перад Богам вале́й вас слухаць, чымся Бога? рассудзіце. 20 Што да нас, мы ня можам узьдзяржацца ад гу́каньня таго, што мы бачылі й чулі". 21 А яны, пагразіўшы балей ім, адпусьцілі іх, не знаходзячы спосабу пакараць іх, з прычыны люду; бо ўсі славілі Бога за сталае. 22 Бо звыш сараку год было таму чалавеку, што зь ім стаўся гэты знак уздараўленьня.

23 І, будучы адпушчаныя, яны прышлі да сваіх і паведамілі ўсе, што старшыя сьвятары а старцы казалі ім. 24 Яны ж, пачуўшы, згодна ўзьнялі голас свой да Бога й сказалі: „Спада́ру, Ты Тый, што ўчыніў неба й зямлю й мора і ўсе, што ў іх! 25 Ты вуснамі айца нашага Давіда, слугі Свайго, сказаў Духам Сьвятым: ‚Чаго пыхата шалеюць народы, і люды выдумляюць пустое? 26 Каралёве земныя а дзяржаўцы зьберліся разам на Спадара а на Хрыста'. 27 Бо запраўды зьберліся ў месьце гэтым на Сьвятое Дзіцё Твае Ісуса, памазанага Табою, Гірад а Понт Пілат із паганамі й людам ізраельскім, 28 Каб зрабіць тое, што рука Твая а рада Твая наканавала, каб сталася. 29 А цяпер, Спада́ру, глянь на пагрозы іхныя і дай слугам Сваім адважна казаць слова Твае, 30 У каторым Ты выцягуеш руку́ Сваю на ўздараўленьне а на ўчыненьне знакоў а чудосаў імям Сьвятога Дзіцяці Твайго Ісуса". 31 І як яны маліліся, затрэслася месца, на каторым яны былі́ зьбершыся, і ўсі напоўніліся Духам Сьвятым, і казалі слова Божае адважна.

32 І ў множасьці тых вернікаў было адно сэрца й адна душа; і ніхто не казаў, што што-лень з тога, што ён меў, было ягонае собскае, але ўсе ў іх было супольнае. 33 І зь вялікай моцаю апосталы сьветчылі праз ускрысеньне Спадара Ісуса, і вялікая ласка была на іх усіх. 34 Ня было памеж іх нікога патрабуючага; бо каторыя былі́ собсьнікамі земляў альбо дамоў, прадаючы іх, прыносілі цэны праданых, 35 І клалі ля ног апосталаў; і дзялілі на кажнага подле яго патрэбы. 36 Гэтак Язэп, катораму апосталы далі́ мянушку Варнава, што знача „Сын пацяшэньня", Левіт, родам Кіпрыянін, 37 Маючы зямлю, прадаўшы яе, прынёс грошы і паклаў іх ля ног апостальскіх.

5 Але якісь муж, імям Ананя, із жонкаю сваёй Сапфіраю, прадаўшы двор, 2 Прысабечыў з цаны зь ведзі й жонкі свае, а некатрую часьць прынёс і паклаў ля ног апостальскіх. 3 Пётра ж сказаў: „Ананя, чаму шайтан напоўніў сэрца твае, каб ты зманіў Духу Сьвятому й прысабечыў з цаны зямлі? 4 Ціж тое, што ты меў, не твае было, і праданае ці не заставалася ў твайёй уладзе? Чаму ты паклаў гэту справу ў сэрцу сваім? Ты зманіў ня людзём, але Богу". 5 Пачуўшы гэтыя словы, Ананя паў і сканаў; і жах працяў усіх, што чулі гэта. 6 І,





устаўшы, маладзёны завярцелі яго да пахову і, вынесшы, пахавалі.

7 І сталася ў прамежку трох гадзінаў, што ўвыйшла жонка ягоная, ня ведаючы, што прыгадзілася. 8 Пётра ж папытаўся ў яе: „Скажы імне, ці за толькі прадалі вы зямлю?" Яна сказала: „Але, за толькі". 9 Пётра ж сказаў ёй: „Што гэта згадзіліся вы спакусіць Духа Спадаровага? вось, ногі тых, што пахавалі мужа твайго, ля дзьвярэй; і цябе вынясуць". 10 І якга яна пала й сканала. І маладзёны, увыйшоўшы, знайшлі яе мертвую, і, вынесшы, пахавалі ля мужа ейнага. 11 І вялікі страх працяў усю царкву і ўсіх, што чулі гэта.

12 Рукамі ж апосталаў дзеялася памеж люду шмат знакоў а чудосаў; і ўсі згодна бывалі на ганку Салямонавым. 13 Зь іншых жа ніхто ня ва́жыўся прытачацца да іх, а люд ўзьвялічаў іх. 14 Вернікаў жа балей а балей прылучалася да Спадара, множасьць мужчынаў і жанок; 15 Так што выносілі хворых на вуліцы й клалі на пасьцелях а ложках, каб прынамся сьцень Пётраў, як ён праходзіў, кідаўся на некатрых ізь іх. 16 І шмат таксама з акалічных местаў зыходзіліся да Ерузаліму, нясучы хворых і нячыстымі духамі апанаваных, каторыя былі́ ўсі ўздараўляны.

17 А найвышшы сьвятар паўстаў і ўсі зь ім, каторыя сэкты садукейскае, напоўніліся завідасьцяй, 18 І наклалі рукі на апосталаў, і пасадзілі іх да грамадзкое вязьніцы. 19 Але ангіл Спадароў адчыніў ночы дзьверы вязьніцы і, вывеўшы іх, сказаў: 20 „Ідзіце і, стаўшы ў сьвятыні, кажыце люду ўсі словы жыцьця гэтага". 21 Яны ж, выслухаўшы гэта, увыйшлі вельмі рана ў сьвятыню й навучалі.

Найвышшы ж сьвятар і тыя, што былі́ зь ім, прышоўшы, згу́калі раду а ўвесь сынэдрыён із сыноў ізраельскіх і паслалі да вязьніцы прывесьці іх. 22 Як жа паслугачыя прышлі, не знайшлі іх у вязьніцы і, зьвярнуўшыся, здалі́ лічбу, 23 Кажучы: „Мы знайшлі вязьніцу замкнёную з усёй абачлівасьцяй і вартаўнікоў стаячых ля дзьвярэй; але, адчыніўшы, не знайшлі ў ёй нікога".

24 Як пачулі словы гэтыя сьвятар а вартаўнічы сьвятыні а найвышшыя сьвятары, былі́ ў клопатным парушэньню што да тога, як гэта магло стацца. 25 І хтось, прышоўшы, наказаў ім: „Гля, людзі, каторых вы пасадзілі ў вязьніцу, ёсьць у сьвятыні, стаяць і навучаюць люд". 26 Тады вартаўнічы, пайшоўшы з паслугачымі, прывёў іх, але бяз прынукі, бо баяліся люду, каб ня быць укаменаванымі. 27 І прывёўшы іх, паставілі іх у сынэдрыёне. І пытаўся ў іх найвышшы сьвятар, 28 Кажучы: „Ці ня стродка мы забаранілі вам навучаць у імя гэта? і вось, вы напоўнілі Ерузалім вашай навукаю і маніце́ся навесьці на нас кроў Гэтага Чалавека".

29 Адказуючы ж, Пётра а апосталы сказалі: „Вале́й належа слухаць Бога, чымся людзёў. 30 Бог айцоў нашых ускрысіў Ісуса, Каторага вы забілі, засіліўшы на дзерве. 31 Яго Бог вывысшыў правіцаю Сваёй як начэльніка а Спаса, каб даць Ізраелю ка́яту й дараваньне грахоў. 32 І мы сьветкі гэтага, а таксама Дух Сьвяты, Каторага Бог даў тым, што слухаюць Яго". 33 Яны ж, пачуўшы гэта, надта зазлаваліся й маніліся забіць іх.

34 Тады ўстаў у радзе адзін фарысэй, імям Гамаліель, вучыцель права, паважаны ўсім людам, і расказаў вывесьці людзёў на часінку, 35 А ім сказаў: „Мужы ізраельскія, разважча самы із сабою што да людзёў гэтых, што вы маніце́ся зь імі рабіць. 36 Бо перад гэтымі днямі паўстаў Феўда, кажучы праз сябе, што ён штось, да каторага прылу-

чылася каля чатырыста чалавекаў;
але ён быў забіты, і ўсі, колькі слу-
хала яго, рассыпаліся й абярнулі-
ся ў ніщто. 37 Просьле яго ў часе
сьпісаньня паўстаў Юда Галілеянін
і пацягнуў люд за сабою; але ён за-
гінуў, і ўсі, колькі слухала яго, рас-
сыпаліся. 38 І цяпер кажу вам: ад-
лезьце ад гэтых людзёў і пакіньце
іх, бо калі рада гэтая альбо справа
гэтая ад людзёў, яна зьнішчыцца;
39 А калі ад Бога, вы ня зможаце
зьнішчыць яе; каб і вам не апынуц-
ца ходаньнікамі з Богам".

40 І яны паслухалі рады ягонае,
і, пагукаўшы апосталаў, набілі іх,
і забаранілі ім гўкаць у імя Ісусава,
і адпусьцілі іх. 41 Яны ж пайшлі із
сынэдрыёну, цешачыся, што былі
гожыя быць паганбены за гэта імя.
42 І кажнага дня ў сьвятыні і з до-
му да дому не пераставалі навучаць
а агалашаць дабравесьць, што Ісус
— Хрыстос.

**6** І тых дзён, як павялічыўся лік
вучанікаў, пачалося нараканьне
Гэленістых на Гэбрэістых, што ўдо-
вы іхныя занядбаны ў штадзеннай
паслузе. 2 Тады дваванцацёх, згў-
каўшы множасьць вучанікаў, сказа-
лі: „Ня добра, каб мы, пакінуў-
шы слова Божае, служылі сталом.
3 Дык, браты, нагледзьце з памеж
сябе сямёх добрае славы, поўных
Духа а мудрасьці, каторых пастано-
вім на гэты занятак, 4 А самы адда-
мося бязупынку малітве а службе
слова". 5 І ўпадабала гэтае слова
ўся множасьць; і абралі Сьцепана́,
мужа поўнага веры а Духа Сьвято-
га, а Піліпа а Прахора а Міканора
а Тымона а Пармена а Міколу, но-
ва-наверненага з Антыёхі, 6 Катo-
рых пастанавілі перад апосталамі;
і, памаліўшыся, яны ўзлажылі рукі
на іх.

7 І слова Божае расло, і лік ву-
чанікаў вельма мнажыўся ў Ерузa-
ліме, і вялікі груд сьвятароў быў
паслухмены веры.

8 І Сьцяпан, поўны ласкі а моцы,
чыніў чудосы а вялікія знакі памеж
люду. 9 І паўсталі некатрыя з баж-
ніцы, званай бажніцаю Свабодных
а Кірынейцаў, і Александрыцых, і
тыя зь Кілікі а Азі, сьперачаючыся
із Сьцепаном; 10 Але не маглі
ўстоіць супроці мудрасьці а Духу,
Каторым гўкаў. 11 Тады яны пад-
вучылі некатрых, каторыя сказалі:
„Мы чулі, што ён гўкаў блявузгаль-
ныя словы на Масея а Бога". 12 І
паднялі люд а старцоў а кніжнікаў,
і, напаўшы, схапілі яго й павялі да
сынэдрыёну. 13 І пастанавілі хваль-
шывыя сьветкі, каторыя казалі:
„Гэты чалавек не перастаець гўкаць
на сьвятое месца а на Права; 14 Бо
мы чулі, як ён казаў, што гэты Ісус
Назарэцянін зьнішча гэтае месца
і зьмене абычаі, каторыя Масей пе-
радаў нам". 15 І ўсі, што сядзелі ў
сынэдрыёне, уцеміўшыся ў яго, ба-
чылі від ягоны, як від ангіла.

**7** Тады сказаў найвышшы сьвя-
тар: „Ці так гэта?" 2 А ён ска-
заў:

„Мужы браты і айцове, паслухай-
це! Бог славы зьявіўся айцу наша-
му Абрагаму, як ён быў у Месопо-
таме, уперад чымся ён жыхарыў у
Гаране, 3 І сказаў яму: ‚Выйдзі із
зямлі свае і ад радні свае, і прыйдзі
да зямлі, што Я пакажу табе'. 4 Та-
ды, вышаўшы із зямлі Хальдэйскае,
ён жыхарыў у Гаране; а стуль, па
сьмерці айца ягонага, Бог перасяліў
яго да гэтае зямлі, у каторай цяпер
жыхарыце. 5 І ня даў яму ў ёй
спадку ані на ступу нагі, але абяцаў
даць яе ў дзяржаньне яму а насень-
ню ягонаму па ім, як ён ня меў
дзіцяці. 6 І сказаў Бог гэтак: ‚На-
сеньне твае будзе прыходным у зям-
лі чужой, і паняволяць іх, і будуць
блага абходзіцца чатырыста год.
7 І народ, у каторага яны будуць
нявольнікамі, я буду судзіць, ска-
заў Бог; і просьле гэтага яны вый-
дуць і будуць кланяцца Імне на гэ-



тым месцу'. 8 І даў яму змову абра-
заньне. І гэтак ён нарадзіў Ісака,
і абрэзаў яго восьмага дня; а Ісак
Якава, а Якаў — дваванцацёх пат-
рыярхаў. 9 Патрыярхі ж, завідуючы
Язэпу, прадалі Яго да Ягіпту; але
Бог быў із ім, 10 І выбавіў яго ад
усяе атугі, і даў яму зычлівасьць а
мудрасьць у ваччу фараона, караля
ягіпецкага, і ён прызначыў яго за
начэльніка над Ягіптам а над усім
домам сваім. 11 І галадоў настала
і вялікая гарота ў вусёй зямлі Ягі-
пецкай а Канаанскай, і бацькі нашы
не знаходзілі еміны. 12 Якаў жа, па-
чуўшы, што ё збожжа ў Ягіпце, па-
слаў бацькоў нашых першы раз.
13 А другім разам Язэп даўся паз-
наць братом сваім, і радзіма Язэпа-
ва стала ведамнай фараону. 14 І
Язэп паслаў і пагука́ў да сябе Яка-
ва, айца свайго, і ўсю радню сем-
дзясят пяць душаў. 15 І зышоў Якаў
да Ягіпту, і памер, ён а бацькі на-
шы; 16 І былі перанесены да Сыхе-
му і пакладзены ў гробе, што Абра-
гам быў купіўшы за срэбла ў сы-
ноў Гамора, айца Сыхемовага. 17 А
як бліжэла пара абятніцы, каторую
Бог прысягнуў Абрагаму, люд рос
а мнажыўся ў Ягіпце, 18 Пакуль
паўстаў іншы кароль, што ня знаў
Юзэпа. 19 Гэты хітра абходзіўся з
родам нашым і сіліў айцоў нашых
выкідаць дзеці свае, каб яны не за-
ставаліся жывыя. 20 У тым часе на-
радзіўся Масей і быў пазорны. Тры
месяцы ён быў жыўлены ў доме
айца свайго, 21 А як быў выкінены,
дачка фараонава ўзяла́ яго й пры-
несла да сябе за сына. 22 І навыты-
раны быў Масей у вусёй мудрасьці
Ягіпцян, і быў магутны ў словах
і ўчынках. 23 А як выпаўнілася яму
сорак год, прышло яму на сэрца да-
ведацца да братоў сваіх, сыноў Із-
раелявых. 24 І, абачыўшы аднаго
крыўджанага, абараніў яго і памсь-
ціўся за ўцісьненага, забіваючы
Егіпцяніна. 25 Ён думаў, што браты
ягоныя зразумеюць, што Бог рукою
ягонай даець ім вывальненьне; але
яны не зразумелі. 26 А назаўтрае
ён паказаўся да іх, як яны біліся,
і стараўся іх пагадзіць, кажучы:
‚Мужы, вы браты, нашто крыўдзіце
адзін аднаго?' 27 Але тый, што
крыўдзіў суседа свайго, адапхнуў
яго, кажучы: ‚Хто прызначыў цябе
за начэльніка а судзьдзю над намі?
28 Ці ня хочаш ты забіць мяне, як
забіў Егіпцяніна ўчорах?' 29 І ўцёк
Масей на гэтае слова, і стаў прыход-
ным у зямлі Мадзямскай, ідзе ў яго
нарадзілася двух сыноў. 30 А як
скончылася сорак год, зьявіўся яму
Ангіл на пустыні Сынайскае гары
ў поламі агню ў кусьце́. 31 І Масей,
абачыўшы, дзіваваўся зь відзені; а
як падходзіў разгледзець, быў голас
Спадароў: 32 ‚Я Бог айцоў тваіх,
Бог Абрагама а Ісака а Якава'. І
Масей закалаціўся, і ня сьмеў назі-
раць. 33 І сказаў яму Спадар: ‚Ра-
зуй вобуй з ног сваіх, бо месца, на
каторым ты стаіш, ё зямля сьвятая.
34 Я нагледзеўся на благое аб-
ходжаньне зь людам Маім у Ягіпце,
і чуў стогн іхны, і зышоў вываль-
няць іх; дык ідзі, Я пашлю цябе да
Ягіпту'. 35 Гэтага Масея, каторага
яны адхінулі, сказаўшы: ‚Хто пры-
значыў цябе за начэльніка а судзь-
дзю?', гэтага Бог за начэльніка а
выбавіцеля паслаў рукою Ангіла,
што зьявіўся яму ў кусьце́. 36 Гэты
вывеў іх, учыніўшы чудосы а знакі
ў зямлі Ягіпецкай а на Чырвоным
мору а на пустыні сорак год. 37 Гэ-
та тый Масей, што сказаў сыном
Ізраелявым: ‚Прароку ўзьніме Бог
вам із братоў вашых, як мяне;
Яго слухайце'. 38 Гэта тый, што быў
у збору на пустыні з Ангілам, като-
ры казаў яму на Сынайскай гары,
і айцом нашым, каторы прыняў жы-
выя словы, каб даць вам, 39 Като-
раму айцове нашы не хацелі быць
паслухменыя, але адапхнулі яго ад
сябе і ў сэрцах сваіх зьвярнуліся да

Ягіпту, 40 Кажучы Аарону: ‚Зрабі
нам багі, каторыя йшлі б перад на-
мі, бо з Масеям гэтым, што вывеў
нас ізь зямлі Ягіпецкае, ня ведаем,
што прыгадзілася'. 41 І тых дзён
зрабілі цялё, і абраклі аброк балва-
ну, і цешыліся з работы рук сваіх
собскіх. 42 Бог жа адвярнуўся й вы-
даў іх служыць войску нябёснаму,
як напісана ў кнігах прароцкіх:
‚Ціж вы абракалі Імне зарэзы а аб-
рокі сорак год на пустыні, доме Із-
раеляў? 43 Але вы ўзялі будан Мо-
лахаў і гвязду́ бога Рэмфана, като-
рых зразы вы зрабілі, каб кланяц-
ца ім: і Я перасялю вас за Бабілён'.
44 Будан сьветчаньня мелі айцове
нашы на пустыні, як казаў Тый,
што гу́каў Масею зрабіць гэта подле
зразы, што ён бачыў; 45 Каторы ж,
прыняўшы ад айцоў сваіх, айцове
нашы ўнесьлі зь Ісусам, як уходзілі
ў дзяржаву народаў, выгнаных Бо-
гам ад віду айцоў нашых. 46 Гэтак
было аж да дзён Давіда, каторы
знайшоў ласку ў Бога і прасіў знай-
сьці месца пад вітальню Богу Яка-
ваваму. 47 Салямон жа пастанавіў
Яму дом. 48 Але Навышні жывець
ня ў доме, зробленым рукамі, як
кажа прарока: 49 ‚Неба пасад Мой,
і зямля казулька пад ногі Мае. Што
за дом пастановіце Імне, кажа Спа-
дар, альбо ідзе месца дзеля супа-
чынку Майго? 50 Ці не Мая рука
зрабіла ўсе гэта?' 51 О каляныя шыі
і неабрэзанага сэрца а вушэй! вы
заўсёды праціві́ліся Духу Сьвятому,
як айцове вашы, так і вы. 52 Каго
з пракоаў не перасьледава́лі айцове
вашы? Яны забілі тых, што напе-
рад абяшчалі прыход Справядліва-
га, Каторага вы сталі ізраднікамі а
забіўцамі, 53 Вы, каторыя прынялі́
права, як загадана Ангіламі, і не
захавалі яго".

54 Тады, слухаючы гэта, яны
ірваліся сэрцам і скрыгаталі на яго
зубамі. 55 Але, будучы поўны Духа
Сьвятога, уцеміўшыся ачыма сваімі
ў неба, ён бачыў славу Божую а
Ісуса, па правіцы Бога стаячага;
56 І сказаў: „Гля, я бачу нябёсы
рашчыненыя і Сына Людзкога, па
правіцы Бога стаячага".

57 Але яны, закрычэўшы вялікім
голасам, затыкалі вушы свае, і згод-
на пусьціліся на яго, 58 І, выкінуў-
шы за места, каменавалі яго. Сьвет-
кі ж паклалі адзецьці свае ля ног
маладзёна, званага Саўла. 59 І ка-
менавалі Сьцепана́, каторы маліўся
й казаў: „Спада́ру Ісусе, прымі дух
мой!" 60 І, уклякшы, загука́ў вялі-
кім голасам: „Спада́ру, не залічы
ім грэху гэтага". І, сказаўшы гэта,
уснуў.

**8** Саўла ж згадзіўся на забіцьцё
яго.

І таго дня паўстала вялікае пе-
расьледава́ньне царквы ў Ерузалі-
ме, і ўсі, з выняткам апосталаў, рас-
сыпаліся па краінах Юдэі а Сама-
ры.

2 Сьцепана́ ж пахавалі набожныя
людзі і справілі вялікае галашэнь-
не па ім.

3 А Саўла пустошыў царкву, ухо-
дзячы ў дамы ў вадзін за адным
і выцягуючы мужчынаў і жанкі, ад-
даваў іх у вязьніцу.

4 Тыя ж, што рассыпаліся, хадзі-
лі, абяшчаючы дабравесьць слова.

5 Вось, Піліп, зыходзячы да места
Самары, абяшчаў ім Хрыста. 6 І
ўважалі гурбы згодна на тое, што
казаў Піліп, чуючы й бачачы знакі́,
каторыя ён чыніў; 7 Бо із шмат
каго нячыстыя духі́ выходзілі, кры-
чачы вялікім голасам, і шмат хто
паляржава́ны а кульгавы ўздараў-
ляўся. 8 І вялікая радасьць была́ ў
тым месьце.

9 Чалавек жа якісь, імям Сымон,
быў уперад у тым месьце, чаруючы
й зумяваючы народ самарскі, кажу-
чы, што ён сам нейкі вялікі. 10 На
яго зважалі ўсі ад найменшага аж
да найбольшага, кажучы: „Гэта моц
Божая вялікая". 11 Зважалі на яго,



бо ён даўгі час зумяваў іх чарамі
сваімі. 12 Але, як паверылі Піліпу,
каторы абяшчаў дабравесьць праз
гаспадарства Божае а імя Ісуса
Хрыста, хрысьціліся мужчыны й
жанкі. 13 І сам Сымон таксама ўве-
рыў і, будучы ахрышчаны, дзяр-
жаўся Піліпа; і, бачачы знакі́ а
вялікія чудосы чыненыя, зумяваўся.

14 Апосталы ж, што былі́ ў Еру-
заліме, пачуўшы, што Самара пры-
няла́ слова Божае, паслалі да іх
Пётру а Яана, 15 Каторыя, зышоў-
шыся, памаліліся за іх, каб яны
прынялі́ Духа Сьвятога; 16 Бо Ён
ня зыходзіў яшчэ на іх, адно яны
былі́ ахрышчаныя ў імя Спадара
Ісуса. 17 Тады ўзлажылі на іх рукі
свае, і яны прынялі́ Духа Сьвятога.

18 Сымон жа, абачыўшы, што
ўскладаньням рук апостальскіх да-
ецца Дух Сьвяты, прынёс ім гро-
шы, кажучы: 19 „Дайце й імне гэ-
тую ўладу, каб тый, на каго ўзла-
жу рукі, адзяржаў Духа Сьвятога".
20 Але Пётра сказаў яму: „Срэбла
тваё хай будзе на загубу з табою,
бо ты падумаў, што дар Божы можа
быць адзяржаны за грошы. 21 Ты
ня маеш дзелі ані жэрабя ў гэтым,
бо сэрца тваё не пасьцівае перад
Богам. 22 Дык пакайся за гэтую
нягоднасьць сваю і малі Спадара,
можа дараваны будзе табе гэты за-
ме́р сэрца твайго; 23 Бо я бачу цябе
ў жоўці гарчыні і ў путах неспра-
вядлівасьці". 24 Сымон жа, адка-
зуючы, сказаў: „Маліце за мяне
Спадара, каб нічога ня стрэла мяне
з тога, што вы сказалі".

25 Дык яны, пасьветчыўшы й
сказаўшы слова Спадарова, звара-
чаліся да Ерузаліму й абяшчалі
дабравесьць шмат сёлам самарскім.

26 А Піліпу Ангіл Спадароў мо-
віў, кажучы: „Устань а йдзі на
паўдня, на дарогу, што зыходзе ад
Ерузаліму да Газы, яна ж пустая".
27 І ён устаў і пайшоў. І вось,
Ефіоплянін, легчанец, Міністра Кан-
дакі, караліцы Ефіопскае, што быў
над усім скарбам ейным, каторы
прыяжджаў пакланіцца ў Ерузалі-
ме, 28 І зварачаючыся і седзячы на
цялежках сваіх, чытаў прароку
Ісаю. 29 Дух жа сказаў Піліпу:
„Дабліжся а прылучыся да гэтых
цялежак". 30 І, падбегшы, Піліп
пачуў, што ён чытае прароку Ісаю,
і сказаў: „Гля, ці разумееш, што
чытаеш?" 31 А ён сказаў: „Як магу,
калі хто не пакажа імне". І папра-
сіў Піліпа ўзыйсьці й сесьці зь ім.
32 Месца ж Пісьма, каторае ён чы-
таў, было гэткае: „Яго вялі як авеч-
ку на зарэз; і як ягнё безгалосае
ў прытомнасьці стрыгучага яго, так
Ён не адчыняе вуснаў Сваіх. 33 У
паніжэньню Ягоным суд ад Яго
адабраны быў. І хто зьясьніць род
ягоны? бо жыцьцё Ягонае ўзята ізь
зямлі". 34 А легчанец, адказуючы
Піліпу, сказаў: „Калі ласка, праз
каго прарока кажа гэта? празь сябе
самога ці праз каго іншага?" 35 І
Піліп, адчыніўшы вусны свае і па-
чаўшы з гэтага Пісьма, абяшчаў
яму дабравесьць празь Ісуса. 36 І,
як ехалі дале́й дарогаю, прыехалі
да аднае вады, і легчанец кажа:
„Во вада, што перакажае імне хры-
сьціцца?" 37 Піліп жа сказаў яму:
„Калі верыш з усяго сэрца, можна".
Ён, адказуючы, сказаў: „Веру, што
Ісус Хрыстос ё Сын Божы". 38 І ка-
заў спыніць цялежкі; і зышлі абод-
ва ў ваду, Піліп а легчанец; і ахры-
сьціў яго. 39 Як жа яны вышлі з
вады, Дух Спадароў няў Піліпа, і
легчанец ня бачыў яго болей, бо па-
ехаў сваёй дарогаю, цешачыся.

40 А Піліп апынуўся ўв Ашдодзе
і, праходзячы, абяшчаў дабравесьць
усім местам, пакуль прышоў да Цэ-
сарэі.

**9** Саўла ж, яшчэ дыхаючы пагро-
замі а забіўствам на вучанікаў
Спадаровых, 2 Дабліжыўся да най-
вышшага сьвятара і папрасіў у яго
лістоў да бажніцаў у Дамашку, каб,

калі знойдзе каго, хто быў бы гэтае
Дарогі, мужчынаў і жанкі, пры-
водзіць зьвязаных да Ерузаліму.
3 Як жа ён падарожжаваў, даблі-
жаючыся да Дамашку, сталася —
зьнецікі зазьзяла навокал яго сьвят-
ліня зь неба; 4 І, паўшы на зямлю,
ён пачуў голас, кажучы яму: „Саў-
ле, Саўле, чаму ты Мяне перасьля-
дўеш?" 5 І ён сказаў: „Хто Ты Спа-
дáру?" Ён жа сказаў: „Я Ісус, Като-
рага ты перасьлядўеш. Цяжка табе
йсьці супроці восьцяў". 6 Ён жа ў
дрыгоце а жаху сказаў: „Спадáру,
што кажаш імне рабіць?" Спадар
яму: „Устань а йдзі да места; і ска-
зана будзе табе, што маеш рабіць".
7 Мужы ж, што падарожжавалі зь
ім, стаялі бязмоўныя, чуючы запраў-
ды гук, але нікога ня бачачы. 8 Саў-
ла ж устаў із зямлі і з адчыненымі
ачыма нічога ня бачыў. І, вядучы
за рукý, прывялі яго да Дамашку.
9 І быў ён тры дні бязь відзеньня,
і ня еў ані піў.

10 І быў адзін вýчанік у Дамаш-
ку, імям Ананя; і Спадар у вíдзені
сказаў яму: „Ананя!" І ён сказаў:
„Во Я, Спадáру". 11 Спадар жа яму:
„Устань а йдзі на вуліцу, звану ю
Простая, і шукай у доме Юдзіным
Тарсяніна, імям Саўла, бо вось, ён
моліцца, 12 І бачыў у вíдзені мужа,
нá ймя Ананя, што прышоў і ўзла-
жыў рукý сваю на яго, каб ён пра-
зерыў". 13 Ананя ж адказаў: „Спа-
дáру, я чуў ад шмат каго ўзглядам
гэтага чалавека, як шмат ліха ён
зрабіў сьвятым у Ерузаліме; 14 І
тут мае ўладу ад найвышшых сьвя-
тароў вязаць усіх, што гукáюць імя
Твае". 15 І сказаў яму Спадар:
„Ідзі, бо ён абраная судзінá Імне,
каб насіць імя Мае перад народамі
а каралямі а сынамі Ізраелявымі.
16 Я ж пакажу яму, колькі ён мае
выцярпець за імя Мае".

17 І Ананя пайшоў, і ўвыйшоў у
дом, і, узлажыўшы на яго рукі свае,
сказаў: „Браце Саўле, Спадар па-
слаў мяне, Ісус, што зьявіўся табе
на дарозе, па каторай ты йшоў, каб
ты празерыў і напоўніўся Сьвятога
Духа". 18 І якга, бы луска, спала
з аччу ягоных, і ён празерыў, і,
устаўшы, быў ахрышчаны. 19 І, па-
сілкаваўшыся, стаў дужы. І быў з
вучанікамі, што ў Дамашку, колькі
дзён.

20 І зараз абяшчаў у бажніцах
Ісуса, што Ён сын Божы. 21 І ўсі,
што чулі, зумяваліся й казалі: „Ці
ня тый ён, што губіў у Еарузаліме
гукáючых імя гэтае, дый сюды пры-
шоў із заданьням прыводзіць іх
зьвязáных да найвышшых сьвята-
роў?". 22 А Саўла балей мацаваўся
й прыводзіў у зямятню Жыдоў, што
жылí ў Дамашку, даводзячы, што
Гэты ё Хрыстос.

23 Як жа мінула шмат дзён, Жы-
ды зрадзіліся забіць яго. 24 Але
Саўла даведаўся праз змову іхную.
А яны назіралі дзень і ноч ля бра-
мы, каб зьнішчыць яго. 25 Але вý-
чанікі ўзялí яго ночы і спусьцілі ў
кашу перазь сьцяну.

26 Прыбыўшы ж да Ерузаліму,
ён сілаваўся прылучыцца да вуча-
нікаў, але ўсі баяліся яго, ня вера-
чы, што ён вучанік. 27 Варнава ж
узяў яго, і прывёў яго да апоста-
лаў, і паведаў ім, як ён бачыў Спа-
дара ў дарозе, і што Ён казаў яму,
і як у Дамашку ён гýкаў адважна
ў імя Ісусава.

28 І быў ён із імі, уходзячы й вы-
ходзячы ў Ерузаліме, 29 І гýкаючы
адважна ў імя Ісусава. Таксама гý-
каў і сьперачаўся з Гэленістымі; а
яны прабавáлі забіць яго. 30 Браты
ж, ведаючы гэта, прывялі яго да
Цэсарэі і паслалі яго да Тарсу.

31 Цэрквы тады па ўсёй Юдэі а
Ґалілеі а Самары мелі супакой, бу-
дучы навучáныя і ходзячы ў боязь-
ні Спадаровай; і пацяшэньням Духа
Сьвятога множыліся.

32 Прыгадзілася ж, што Пётра,
абходзячы ўсіх, зышоў таксама да



сьвятых, што жыхарылі ў Лідзьдзе;
33 І засьпеў там аднаго чалавека,
на ймя Эней, што восьмі год ляжаў
у пасьцелі паляржаваны. 34 І ска-
заў яму Пётра: „Энею, Ісус Хрыстос
уздараўляе цябе; устань і пасьцялі
сабе"; і ён якга ўстаў. 35 І бачылі
гэта ўсі, што жыхарылі ў Лідзьдзе
а ў Сароне, каторыя й навярнуліся
да Спадара.

36 І ў Ёппе былá адна вýчаніца,
на ймя Тавіта, што знача Сэрна;
яна былá поўная добрых справаў і
чыніла убожніну. 37 І сталася тых
дзён, што яна захварэла й памерла;
і, памыўшы, паклалі яе ў верхнім
пакою. 38 А як Лідда былá блізка
да Ёппы, вучанікі, пачуўшы, што
Пётра быў там, паслалі двух мужоў
да яго, просячы яго: „Не адвалакай
прыйсьці да нас". 39 І Пётра, устаў-
шы, пайшоў зь імі; як ён прышоў,
прывялі яго да верхняга пакою, і
ўсі ўдовы сталі перад ім, плачучы
й паказуючы яму сарочкі а адзець-
це, каторыя шыла Сэрна, як жылá
зь імі. 40 Пётра ж, выправіўшы іх
усіх вонкі і ўклякшы, памаліўся; і,
зьвярнуўшыся да цела, сказаў: „Та-
віта, устань!" І яна адчыніла вочы
свае і, абачыўшы Пётру, села. 41 І,
падаўшы ёй рукý, падняў яе; і, па-
гукáўшы сьвятых а ўдовы, пастана-
віў ім яе жывую. 42 І гэта сталася
ведамным па ўсёй Ёппе, і шмат уве-
рыла ў Спадара.

43 І было, што ён заставаўся шмат
дзён у Ёппе ў якогась Сымона ка-
жамякі.

10 Муж жа адзін у Цэсарэі, імям
Карніл, сотнік аддзелу, звана-
га Італьскім, 2 набожны а бага-
бойлівы з усім домам сваім, каторы
даваў шмат убожніны люду і каж-
начасна маліў Бога, 3 ясна відзеў
у вíдзені каля дзявятае гадзіны дня
ангіла Божага, што ўвыйшоў да
яго й сказаў яму: „Карніле!" 4 Ён
жа, уцеміўшыся ў яго і спалохаў-
шыся, сказаў: „Што, Спадáру?" І
сказаў яму: „Малітвы твое а ўбож-
ніны твае ўзышлі на памяць у Бога.
5 Дык пашлі да Ёппы і прывядзі
Сымона, каторага мянушка Пётра.
6 Ён жыхара ў якогась Сымона ка-
жамякі, каторага дом ля мора".

7 Як жа ангіл, што казаў яму,
адышоў, ён, пагукáўшы двух із чэ-
лядзі свае і набожнага жаўнера з
тых, што кажначасна былí зь ім,
8 І зьясьніўшы ўсе ім, паслаў іх
да Ёппы.

9 Назаўтрае ж, як яны йшлі і
бліжыліся да места, Пётра каля
шостае гадзіны ўзышоў на дом ма-
ліцца. 10 І ён выгаладніўся, і за-
хацеў есьці. Прымеж тога, як гата-
валі, найшло на яго захапленьне,
11 І бача адчыненае неба і зыходзя-
чую нейкую судзінý, бы вялікую
пасьцілку, прывязáную за чатыры
рагі, спушчаную на зямлю, 12 У ка-
торай былí ўсялякія чатыраногія
а паўзуны а птушкі нябёсныя. 13 І
быў голас яму: „Устань, Пётру, бі
а еж". 14 А Пётра сказаў: „Ніякім
парадкам, Спадáру, бо я ніколі ня
еў нічога збудзененага альбо нячыс-
тага". 15 А голас ізноў удрýгава да
яго: „Што Бог ачысьціў, таго не
ўважай за нячыстае". 16 І гэта бы-
ло трэйчы, і судзіна якга была ўзя-
та на неба.

17 І як Пётра сумляўся, што значы-
ла відзень, каторую ён відзеў, мужы,
пасланыя Карнілам, распытаўшыся
праз дом Сымонаў, сталі ля дзьвя-
рэй; 18 І гукнýўшы, папыталіся:
„Ці тут жыхара Сымон, каторага
мянушка Пётра?" 19 І як Пётра раз-
важаў празь відзень, Дух сказаў
яму: „Тры мужы шукаюць цябе;
20 Дык устань, зыйдзі далоў і йдзі
зь імі, ані не сумляючыся, бо Я па-
слаў іх". 21 І Пётра, зышоўшы да
мужоў, сказаў: „Во я, каторага вы
шукаеце; што за справа, дзеля
якое вы прышлі?" 22 Яны ж ска-
залі: „Карніл, сотнік, муж справядь-
лівы а багабойлівы, што мае сьвет-

чаньні ад усяго народу жыдоўскага,
навучаны сьвятым ангілам пасласць
па цябе, каб прывесьці да дому яго-
нага й чуць словы ад цябе". 23 Дык,
пазваўшы іх, прыняў нанач.

А назаўтрае, устаўшы, пайшоў зь
імі, і некатрыя з братоў зь Ёппы
прапушчалі яго. 24 Назаўтрае ж
прышлі яны да Цэсарэі.

Карніл жа чакаў іх, згу́каўшы
радню а блізкіх прыяцеляў. 25 А як
Пётра ўходзіў, Карніл вышаў яму
наўпярэймы і, паўшы да ног яго-
ных, пакланіўся. 26 Пётра ж пад-
няў яго, кажучы: „Устань, таксама
я сам людзіна́". 27 І, гутарачы зь
ім, увыйшоў, і засьпеў шмат, што
былі́ зьбершыся, 28 І сказаў ім: „Вы
разумееце, што бяспраўна Жыду
мецць узаем'е альбо давядацца да чу-
жаземца; але імне паказаў Бог не
ўважаць нікога за збудзененага аль-
бо нячыстым зваць людзіну́. 29 І за-
тым, будучы пазваны, я прышоў,
не пярэчачы. Дык пытаюся, што за
прычына, што вы паслалі па мяне?"

30 Карніл жа сказаў: „Ад чаць-
вертага дня я паставаў аж да гэтае
гадзіны і а дзявятай маліўся ў
доме сваім, і вось, стаў перад імною
муж у зырка-сьветлым адзецьцю
31 І сказаў: „Карніле, малітва твая
пачута, і ўбожніны твае ўспомнены
перад Богам; 32 Дык пашлі да
Ёппы па Сымона, каторага мянуш-
ка Пётра; ён жыхара ў доме Сымо-
на кажамякі ля мора; ён прыйдзе
й скажа табе". 33 Якга я паслаў да
цябе, і ты добра зрабіў, прышоўшы.
Дык цяпер мы ўсі стаім перад Бо-
гам, каб выслухаць, што казаў тэ
Бог".

34 Пётра ж, адчыніўшы вусны
свае, сказаў: „Запраўды я пазнаю,
што Бог не глядзіць на асобы,
35 Але ў кажным народзе, хто баіц-
ца Яго і чыне справядлівасьць, пры-
емны Яму. 36 Вы ведаеце Слова,
каторае паслаў Ён сыном Ізра-
слявым, абяшчаючы супакой пе-
разь Ісуса Хрыста, Спадара ўсяго,
37 Сьветчаньне, што было абяшчана
па ўсёй Юдэі, пачынаючы ад Галі-
леі, просьле хрысту, агалашанага
Яанам; 38 Як Бог памазаў Ісуса з
Назарэту Духам сьвятым а моцаю,
Каторы хадзіў усюдых, чынячы даб-
ро а ўздараўляючы ўсіх, што былі́
апанаваныя нячысьцікам, бо Бог
быў із Ім. 39 І мы сьветкі ўсяго,
што Ён учыніў у краю жыдоўскім
а ў Ерузаліме, Каторага запраўды
яны забілі, засіліўшы на дзерве;
40 Але Бог ускрысіў Яго на трэйці
дзень і даў яму быць бачаным,
41 Не ўсяму люду, але сьветкам,
уперад прызначаным Богам, нам,
каторыя елі а пілі зь ім па ўскры-
сеньню Яго зь мертвых. 42 І Ён ка-
заў нам агалашаць люду і сьвет-
чыць, што Ён ё наканаваны Богам
Судзьдзя жывых і мертвых. 43 Празь
Яго ўсі пракрокі сьветчаць, што каж-
ны, што вера ў Яго, адзяржыць да-
раваньне грахоў імям Ягоным.

44 Як Пётра яшчэ казаў гэтыя
словы, Дух сьвяты паў на тых, што
слухалі слова. 45 І вернікі з абрэ-
заных, прышлыя зь Пётрам, былі́
зумеўшыся, што дар Сьвятога Духа
выліўся на паган; 46 Бо чулі іх гу́-
каючых мовамі і ўзьвялічаючых Бо-
га. Тады Пётра адказаў:

47 „Ціж можа хто забараніць ва-
ды, каб ня былі́ ахрышчаны тыя,
што, як і мы, адзяржалі Сьвятога
Духа?" 48 І казаў ім хрысьціцца ў
імя Спадара. Тады яны прасілі яго
застацца на колькі дзён.

11 І Пачулі апосталы а браты, ка-
торыя былі́ ў Юдэі, што пагане
таксама адзяржалі слова Божае. 2 І
як Пётра прышоў да Ерузаліму, аб-
рэзаныя сьпераачаліся зь ім, 3 Ка-
жучы: „Ты хадзіў да людзёў не-
абрэзаных і еў зь імі".

4 Тады пачаў Пётра зьясьняць ім
з парадку, кажучы: 5 „У месьце
Ёппе я маліўся і відзеў у захаплень-
ню відзень: зыходзіла нейкая судзі-



на, бы вялікая пасьцілка, за чаты-
ры рагі спушчаная зь неба далоў,
і спусьцілася аж да мяне. 6 Уцеміў-
шыся ў яе, я зацеміў і абачыў чаты-
раногія земныя а дзікі́я зьвяры а
паўзуны а птушкі нябёсныя. 7 І па-
чуў я таксама голас, кажучы імне:
‚Устань, Пётру, бі а еж'. 8 А я ска-
заў: ‚Ніякім парадкам, Спада́ру, бо
збудзененае альбо нячыстае ніколі
ня ўвыйшло ў рот мой'. 9 І ўдру́га-
ва адказаў голас із неба: ‚Што
Бог ачысьціў, не ўважай за збудзе-
ненае'. 10 І гэта было трэйчы, і ўзноў
паднялося ўсе на неба. 11 І гля, за-
раз тры чалавекі стаялі ля дому, у
каторым я жыў, пасланыя да мяне
з Цэсарэі. 12 І Дух сказаў імне ісьці
зь імі, ані ня сумляючыся. І пайшлі
з імною таксама тыя шасьцёх бра-
тоў, і мы ўвыйшлі да дому таго ча-
лавека. 13 І ён паведаў нам, як ён
бачыў ангіла ў доме сваім, каторы
стаяў і сказаў яму: ‚Пашлі да Ёппы
і пазаві Сымона, каторага мянушка
Пётра, 14 Каторы скажа словы табе,
якімі спасешся ты а ўвесь дом твой'.
15 І як я пачаў казаць, паў на іх
Дух Сьвяты, аднолькава, як і на
нас спачатку. 16 І я ўспомнеў слова
Спадарова, як Ён казаў: ‚Яан хры-
сьціў вадою, але вы будзеце ахрыш-
чаны Духам сьвятым'. 17 Дык калі
Бог даў ім тый самы дар, як і нам,
як мы ўверылі ў Спадара Ісуса
Хрыста, хто ж я, каб мог перака-
жаць Богу?"

18 Выслухаўшы гэта, яны супакоі-
ліся й славілі Бога, кажучы: „Дык
запраўды Бог і паганам даў ка́яту
да жыцьця".

19 Прымеж тога тыя, што рас-
сыпаліся навонкі з прычыны атугі,
каторая сталася ў зьвязку із Сьце-
паном, прайшлі да Фінікі а Кіпру а
Антыёхі, нікому ня кажучы слова,
адно толькі Жыдом. 20 Былі́ ж не-
катрыя зь іх Кіпране а Кірынеяне,
што, прышоўшы да Антыёхі, гу́калі
й да Грэкаў, абяшчаючы дабраве-
сьць праз Спадара Ісуса. 21 І рука
Спадарова была́ зь імі, і вялікі лік
уверыў а навярнуўся да Спадара.

22 І дзейкі празь іх дайшлі да ву-
шэй царквы Ерузалімскае, і яны
паслалі Варнаву да Антыёхі, 23 Ка-
торы, прыбыўшы й абачыўшы ласку
Божую, усьцешыўся і захочаваў усіх
із станаўкім сэрцам трываць пры
Спадару; 24 Бо ён быў муж добры
і поўны Духа Сьвятога а веры. І
вялікая грамада́ была дадана Спа-
дару.

25 І пайшоў да Тарсу шукаць
Саўлы, 26 І, знайшоўшы, прывёў
яго да Антыёхі. І так было ў іх,
што цэлы год яны зьбіраліся ў
царкве і вучылі вялікую грамаду́;
і вучанікі ўв Антыёсе ўпяршыню на-
зваліся Хрысьцянмі.

27 Тых жа дзён прарокі зышлі зь
Ерузаліму да Антыёхі. 28 І, устаў-
шы, адзін із іх, імям Агаў, даў зра-
зумець Духам, што будзе вялікая
галадоў па ўсёй зямлі, каторая й
сталася за Кляўда. 29 Тады вучані-
кі, кажны подле магчымасьці свае,
пастанавілі паслаць памогу братом,
што жыхарылі ў Юдэі; 30 Што й
зрабілі, пасла́ўшы старшым Варна-
ваю а Саўлам.

12 Таго часу Гірад кароль наклаў
рукі на некатрых із царквы,
каб зрабіць ім атугу. 2 І забіў Яка-
ва, брата Яанавага, мячом. 3 А ба-
чачы, што гэта прыемна Жыдом,
дадаў, арыштаваўшы й Пётру. Та-
ды былі́ дні праснакоў. 4 І, няўшы
яго, пасадзіў у вязьніцу, паручыў-
шы чатыром чацьвёркам жаўнераў
вартаваць яго, манючыся просьле
Пасхі вывесьці яго люду.

5 Дык Пётра быў дзяржаны ў
вязьніцы; але гарачую малітву
царква чыніла Богу за яго. 6 І як
Гірад ішоў вывесьці, тае ночы Пёт-
ра спаў памеж двух жаўнераў, ска-
ваны двума ланцугамі, і вартаўні-
кі ля дзьвярэй сьцераглі вязьніцу.

7 І гля, ангіл Спадароў прышоў

туды, і сьвятліня зазьзяла ў будоўлі, і, штырхнуўшы ў бок Пётру, пабудзіў яго, і сказаў: „Устань борзда". І ланцугі апалі з рук ягоных. 8 І ангіл сказаў яму: „Папаражыся й азуйся". І ён зрабіў так. І кажа яму: „Апрані вопратку сваю і йдзі за імною". 9 І, вышаўшы, ішоў за ім, і ня ведаў, што гэта было запраўды роблена ангілам, але думаў, што відзе відзень. 10 І прайшоўшы першую а другую варту, яны прышлі да зялезнае брамы, што вяла да места, каторая сама адчынілася ім; і зышлі на вуліцу, і якга ангіл пакінуў яго.

11 Тады Пётра, ачуціўшыся, сказаў: „Цяпер я ведаю запраўды, што Спадар паслаў ангіла Свайго ўзяць мяне з рукі Гірадавае і ўсяго спадзяваньня люду жыдоўскага".

12 І, усьведаміўшы гэта, прышоў да дому Марыі, маці Янавае, каторага мянушка была Марка, ідзе шмат зьбіралася й маліліся. 13 І як ён пастукаў у варотцы брамы, служэбка, імям Рода, вышла паслухаць; 14 І, пазнаўшы голас Пётраў, з радасьці не адчыніла варотцаў, але, убегшы, паведаміла, што Пётра стаіць ля брамы. 15 А яны сказалі ёй: „Ты здурэла". Але яна цьвердзіла, што так было. Яны ж сказалі: „Гэта ангіл ягоны". 16 Але Пётра далей стукаў. І, адчыніўшы, абачылі яго й зумеліся. 17 Даўшы ім знак рукою маўчаць, ён паведаў ім, як Спадар вывеў яго зь вязьніцы, і сказаў: „Накажыце праз гэта Якаву а братом". І вышаў, і пайшоў на іншае месца.

18 А як разаднела, была́ немала́я паруха памеж жаўнераў з тога, што сталася зь Пётрам. 19 І шукаў яго Гірад, і не знайшоў; выпытаўшы вартаўнікоў, казаў завесьці іх на кару сьмерці. І зышоў зь Юдэі да Цэсарэі, і заставаўся там.

20 І быў ён злы на Тыран а Сыдонян; яны ж прышлі да яго згодна і, сьхінуўшы на свой бок Уласта, дворнага маршалку каралеўскага, шукалі міру, бо край іхны жывіўся з каралеўскага. 21 Прызначанага ж дня, адзеўшыся ў вадзецьце каралеўскае і сеўшы на павышаным седаве, Гірад меў прынародную мову да іх; 22 А люд гука́ў: „Голас божы, а ня людзкі!" 23 І якга ангіл Спадароў выцяў яго, бо ён ня даў хвалы Богу; і ён, сточаны чэрвямі, выпусьціў дух.

24 Слова ж Божае расло а пашыралася.

25 А Варнава а Саўла зьвярнуліся зь Ерузаліму, справіўшы службу, паручаную ім, узяўшы таксама із сабою Яана, мянушкаю Марка.

13 Былí ж ув Антыёсе ў тамашняй царкве пракокі а вучыцелі: Варнава а Сымон, званы Чорным, а Луц Кірынеянін а Манайна, сугадунец Гірада чацьвертніка, а Саўла. 2 І як яны служылі Спадару а поставалі, Дух Сьвяты сказаў: „Выдзяліце Імне Варнаву а Саўлу да працы, да каторае Я пагука́ў іх". 3 Тады яны поставалі а маліліся і, узлажыўшы на іх рукі, адпусьцілі іх.

4 Яны ж, будучы пасланыя Духам Сьвятым, зышлі да Сэлеўкі, а стуль паплылі на Кіпру; 5 І, быўшы ў Саляміне, абяшчалі слова Божае ў бажніцах жыдоўскіх; і мелі із сабою Яана за паслугачага.

6 І, прайшоўшы ўвесь абток аж да Пафу, знайшлі якогась чараўніка, хвальшывага пракоку, Жыда, імям Варісус, 7 Што быў з проконсулам Сяргеям Паўлам, мужам асьвячоным. Гэты, пагука́ўшы Варнаву а Паўлу, зычыў пачуць слова Божае. 8 Але працівіўся ім чараўнік Еліма (бо гэткае імя ягонае ў перакладзе), сілаваўся адвярнуць проконсула ад веры. 9 Але Саўла, каторы таксама Паўла, напоўнены Духам Сьвятым, узорыўшыся ў яго, сказаў: 10 „О поўны ўсялякае ашукі а ўсялякага падходу, сын нячы-





сьціка, не́прыяцель усялякае справядлівасьці! ці не перастанеш ты крывіць простыя сьцежкі Спадаровы? 11 І цяпер во рука Спадарова на табе, і ты будзеш нявісны, не абачыш сонца да пары". І якга паў на яго туман а цемнь, і ён, хістаючыся, шукаў павадыроў, што павялі б яго за руку́. 12 Тады проконсул, абачыўшы сталае, уверыў, зумяваючыся з навукі Спадаровае.

13 І, адплыўшы з Пафу, Паўла а бытыя зь ім прыбылí да Перґі ў Памфілі; але Яан адлучыўся ад іх і зьвярнуўся да Ерузаліму. 14 Яны ж, праходзячы ад Перґі, прыбылí да Антыёхі Пісыдзкае і, увыйшоўшы да бажніцы ў сыботні дзень, селі. 15 Па чытаньню Закону а пракокаў, начэльнікі бажніцы паслалі да іх, кажучы: „Мужы браты, калі вы маеце якое слова дамяненьня люду, кажыце".

16 Тады Паўла, устаўшы й даўшы знак рукою, сказаў: „Мужы Ізраеляне і ўсі, што баіце́ся Бога, слухайце! 17 Бог люду гэтага Ізраельскага абраў айцоў нашых і павышыў люд гэты ў быцьцю іх у зямлі Ягіпецкай, і высокім плячом вывеў іх ізь яе, 18 І каля Сараку год часу цярпеў іх на пустыні́. 19 І, выгубіўшы сем народаў у зямлі Канаанскай, даў зямлю іхную ім на спадак на працягу каля чатырыста а пяцьдзясят год. 20 І даваў ім судзьдзяў аж да пракокі Самуйлы. 21 І тады прасілі караля, і Бог даў ім Саўлу Кісянка, мужа з племені Веняміновага, на сорак год. 22 І, адда́ліўшы яго, узьняў ім Давіда за караля, катораму, даючы сьветчаньне, сказаў: ‚Я знайшоў Давіда Есянка́, мужа подле сэрца Свайго, каторы будзе чыніць волю Маю'. 23 З насеньня гэтага чалавека Бог, подле абятніцы, прывёў Ізраелю Спаса Ісуса. 24 Перад Яго прыходам Яан абяшчаў хрэст ка́яты ўсяму люду Ізраельскаму. 25 А як Яан канчаў дзеяльнасьць сваю, ён сказаў: „За каго маеце мяне? Я ня тый, але вось, Ён ідзець за імною, Катораму я ня гожы разьвязаць вобую з ног Ягоных". 26 Мужы браты, сынове люду Абрагамовага, і багабойлівыя з памеж вас! нам слова спа́сеньня гэтага было паслана. 27 Бо жыхары Ерузаліму й начэльнікі іхныя, не пазнаўшы Яго й засудзіўшы, выпаўнілі гукі прароцкія, чытаныя кажную сыботу. 28 І, не знайшоўшы прычыны сьмерці, прасілі Пілата зьнішчыць Яго. 29 А як споўнілі ўсе напісанае празь Яго, зьнялí Яго зь дзерва й паклалі да гробу. 30 Але Бог ускрысіў Яго зь мертвых. 31 Ён зьяўляўся шмат дзён тым, што прышлі зь Ім із Ґалілеі да Ерузаліму, каторыя цяпер сьветкі Ягоныя да люду. 32 І мы абяшчаем вам дабравесьць, што абятніцу, учыненую айцом, 33 Бог выпаўніў нам, дзяцём іхным, ускрысіўшы Ісуса, як і напісана ў другім псальме: ‚Ты Сын Мой, сядні Я нарадзіў Цябе'. 34 А што ўскрысіў Яго зь мертвых, каб ужо не зьвярнуўся да раскладу, дык кажа гэтак: ‚Я дам вам сьвятыя а верныя дабраславенствы Давідавы'. 35 Затым кажа таксама ў іншым псальме: ‚Ты не дазволіш Сьвятому Свайму бачыць раскладу'. 36 Бо Запраўды Давід у сваім веку, паслужыўшы подле волі Божае, заснуў, і даданы да айцоў сваіх, і бачыў расклад. 37 А Тый, Каторага Бог ускрысіў, не абачыў раскладу. 38 Дык няхай будзе ведама вам, мужы браты, што перазь Яго абяшчаецца вам дараваньне грахоў; 39 І ў вусім, у чым вы не маглі апраўдацца Законам Масеявым, правіцца Ім кажны вернік. 40 Дык глядзіце, каб ня прышло на вас сказа́нае ў пракоках: 41 ‚Глядзіце, грэбаваньнікі, і падзівуйцеся й загіньце; бо Я раблю работу за вашых дзён, работу, якой вы ніяк не паверылі б, калі б хто павядаў вам празь яе' ".

42 А як выходзілі, прасілі казаць
ім тыя словы ў наступную сыботу.
43 І як збор бажніцы быў распу-
шчаны, шмат хто із Жыдоў а з на-
божных нававернікаў пайшлі за
Паўлам а Варнаваю, каторыя, гу́-
каючы да іх, пераконавалі іх тры-
ваць у ласцы Божай.
44 А ў наступную сыботу блізу́
ўсе места зьберлася слухаць слова
Божае. 45 Але Жыды, абачыўшы
гурбы, напоўніліся за́відасьцяй і пе-
рачылі таму, што сказаў Паўла, пра-
цівячыся й блявузгаючы. 46 Паў-
ла ж а Варнава гу́калі адважна й
сказалі: „Надабе было, каб слова
Божае перш вам было каза́на; але
ад часу як вы адпіхаеце яго ад сябе
і ўважаеце самы сябе за нягожых
вечнага жыцьця, вось, мы зварача-
емся да паганаў; 47 Бо так Спа-
дар расказаў нам: ‚Я пастанавіў Ця-
бе за сьветла паганам, каб Ты быў
на спа́сеньне да канца зямлі’ ”.
48 І пагане, слухаючы гэта, це-
шыліся а ўслаўлялі слова Спадаро-
ва, і ўверыла іх толькі, колькі было
наканава́на да жыцьця вечнага.
49 І слова Спадарова шырылася па
ўсім краю.
50 Але Жыды падвучылі набож-
ныя выдатныя жанкі і першых мес-
та, і ўзьнялі перасьледава́ньне на
Паўлу а Варнаву, і выгналі іх із
граніцаў сваіх. 51 Яны ж, атрусіў-
шы на іх пыл із ног сваіх, пайшлі
да Іконі. 52 Ву́чанікі ж напоўніліся
радасьцяй а Духам Сьвятым.
14 І сталася ў Іконі, што яны
ўвыйшлі разам у жыдоўскую
бажніцу, і так гу́калі, што ўверыла
вялікая множасьць як Жыдоў, так
і Грэкаў. 2 А нявернікі Жыды пад-
вучылі а атруцілі на братоў думкі
паган. 3 Яны, адылі, заставаліся
ладны час, адважна гу́каючы ў
Спадару, Каторы даў сьветчаньне
слову ласкі Свае, даючы, каб знакі
а чудосы чыніліся рукамі іхнымі.
4 І падзяліліся множасьць места:
адныя былі із Жыдамі, а другія з
апосталамі. 5 А як пагане й Жыды
з начэльнікамі сваімі імкнуліся на-
пасьці на іх, каб зьняважыць а ўка-
менаваць іх; 6 Яны, зацеміўшы гэ-
та, уцяклі да местаў Лікаонскіх, Ліс-
тры а Дэрвы і аколіцаў іхных; 7 І
там былі́, абяшчаючы дабравесьць.
8 Сядзеў жа адзін мужчына ў Ліст-
ры, каторы не валодаў нагамі сваі-
мі, кульгавы ад улоньня маці свае,
каторы ніколі не хадзіў. 9 Гэты чуў
Паўлу гу́каючага, каторы, уцеміў-
шыся ў яго і бачачы, што ён меў
веру дзеля ўздараўленьня, 10 Ска-
заў вялікім голасам: „Стань проста
на ногі свае!” і ён ускочыў, і хадзіў.
11 Гурбы ж, абачыўшы, што Паўла
ўчыніў, узьнялі́ галасы свае палі-
каонску, кажучы: „Багове, пераki-
нуўшыся ў людзёў, зышлі да нас!”
12 І назвалі Варнаву Зэўсам, а Паў-
лу Гэрмам, бо ён быў галоўны пра-
моўца.
13 Сьвятар жа Зэўсаў, што быў
перад местам, прывёўшы валы і
прынёсшы вянкі да брамы, хацеў
з гурбамі абрачы аброк. 14 Але
апосталы, Варнава а Паўла, пачуў-
шы, разьдзерлі адзецьці свае і кіну-
ліся да гурбаў, крычачы а кажучы:
15 „Мужы! нашто вы гэта робіце?
і мы людзі, падобныя прыродаю да
вас, і прыносім вам дабравесьць, каб
навярнуць вас ад марнасьцяў гэтых
да жывога Бога, Каторы ўчыніў не-
ба й зямлю, і мора, і ўсе ў іх; 16 Ка-
торы ў мінулых пакаленьнях дазво-
ліў усім народам хадзіць сваімі соб-
скімі дарогамі, 17 Хоць запраўды
не пакінуў Сябе бязь сьветчаньня,
дзеючы дабро й даючы зь неба
дождж а ўродлівыя поры, поўнячы
ежаю а пацехаю сэрцы вашыя”.
18 І, кажучы гэта ўсе, яны ледзь
удзяржалі гурбы ад абраканьня ім.
19 Але прышлі Жыды з Антыёхі
а Іконі, і пераканалі гурбы, і ўка-
менавалі Паўлу, выцягнулі яго зь
места, дапушчаючы, што ён памер.



20 Як жа ву́чанікі абступілі яго, ён
устаў і пайшоў да места, а назаўт-
рае пайшоў з Варнаваю да Дэрвы.
21 І абясьціўшы дабравесьць
гэтаму месту, і прыдбаўшы шмат
вучанікаў, зьвярнуліся да Лістры
а Іконі а Антыёхі, 22 Мацуючы
душы вучанікаў, захочуючы іх
трываць у веры і навучаючы, што
шмат якімі атугамі маем увыйсьці
ў гаспадарства Божае.
23 І прызначыўшы ім старшых
у кажнай царкве, памаліўшыся
з постам, паручылі іх Спадару,
у Каторага ўверылі.
24 І, перайшоўшы праз Пісыду,
прышлі да Памфілі. 25 І, кажучы
слова ў Перзе, зышлі да Аталі; 26 А
стуль адплылі да Антыёхі, скуль
былі паручаны ласцы Божай на
працу, каторую й зьдзеялі.
27 І прыбыўшы, і зьбершы царк-
ву, яны здалі лічбу ім з усяго, што
Бог учыніў імі, і што Ён адчыніў
паганам дзьверы веры. 28 І застава-
ліся немалы час із вучанікамі.
15 І некатрыя, зышоўшы зь Юдэі,
навучалі братоў: „Калі не абрэ-
жацеся подле абыча́ю Масеявага, ня
можаце спасьціся”. 2 А як Паўла
а Варнава мелі немалую нязгоду а
сьпярэчку зь імі, Паўла а Варнава
і некатрыя іншыя былі прызнача-
ны йсьці ў гэтай справе да Еруза-
ліму да апосталаў а старшых. 3 Дык,
будучы прапушчаныя царквою, іш-
лі праз Фініку а Самару, драбяз-
на павядаючы праз навярненьне па-
ган, і прычыніліся да вялікае рада-
сьці ўсіх братоў.
4 Прыбыўшы ж да Ерузаліму, яны
былі́ прыняты царквою а апостала-
мі а старшымі, і здалі лічбу з усяго,
што Бог учыніў імі. 5 І паўсталі не-
катрыя з памеж тых, што, будучы
з гэрэсіі фарысэйскае, уверылі, і ка-
залі, што маюць абразаць іх і рас-
казаць ім дзяржаць закон Масеяў.
6 І зьберліся апосталы а сьвята-
рове разгледзіць гэтую справу.
7 Па вялікай сьпярэчцы, Пётра,
устаўшы, сказаў ім: „Мужы браты!
вы разумееце, што ад найраньшых
дзён Бог з памеж вас абраў мяне,
каб із вуснаў маіх пагане чулі сло-
ва дабравесьці і ўверылі; 8 І Бог,
ведамец сэрца, даў ім сьветчаньне,
даючы Духа Сьвятога, як і нам;
9 І ня ўчыніў розьніцы памеж нас
і іх, ачысьціўшы сэрцы іхныя ве-
раю. 10 Цяпер жа, нашто вы спро-
буеце Спадара, кладучы йго на
шыю вучанікаў, каторага не маглі
панесьці айцове нашы ані мы?
11 Але мы верым, што спасемся
ласкаю Спадара Ісуса, тэю самаю
сьцежкаю, як і яны”.
12 І ўся множасьць маўчэла, і слу-
халі Варнаву а Паўлу, што павяда́-
лі праз знакі́ а чудосы, якія Бог
учыніў імі паганам. 13 А як яны
змоўклі, адказаў Якаў, кажучы:
„Браты, паслухайце мяне! 14 Сы-
мон паведаў, як Бог найперш да-
ведаўся, каб узяць із паган люд ца
імені Свайго. 15 І з гэтым згаджа-
юцца словы пракокаў, як напісана:
16 ‚Потым зьвярнуся, і адбудую
ўпалы будан Давідаў, і адбудую
разьвярненьні яго, і пастанаўлю яго,
17 Каб шукалі Спадара засталыя
людзі і ўсі народы, над якімі гука́-
на імя Мае, кажа Спадар, што чыне
гэта. 18 Ведамныя Богу ад вечна-
сьці ўсі працы Ягоныя’. 19 Затым
я пастанавіў не задаваць клопату
тым, што з паган наварачаюцца
да Бога, 20 А напісаць ім, каб узь-
дзержаваліся ад забрудзяненьня
балванамі і ад бязулства, і ад за-
душанага, і ад крыві, і не рабілі ін-
шым таго, чаго ня хочуць сабе.
21 Бо Масей ад старавечных пака-
леньняў мае ў кажным месьце тых,
што абяшчаюць яго, чытаны ў баж-
ніцах кажнае сыботы”.
22 Тады бачылася добрым апоста-
лам а сьвятаром із усёй царквою,
паслаць абраных з памеж сябе з
Паўлам а Варнаваю да Антыёхі:

Юду, званага Варсава, а Сілу,
мужоў-правадыроў памеж братоў.
23 Напісаўшы пераз рукі іхныя:
„Апосталы а старшыя а браты
братом, што з памеж паган ув Ан-
тыёсе а Сыры а Кіліццы: здаро-
ваньне! 24 З тае прычыны, што мы
пачулі, што некатрыя, прышлыя ад
нас, задалі вам клопату словамі, за-
хістаўшы душы вашы, кажучы, што
маеце быць абразаны й дзяржаць
Закон, чаго мы ім не паручалі;
25 Дык бачылася добрым нам, дай-
шоўшы да адназгоднага рассудку,
паслаць абраных мужоў да вас із
нашымі любовымі Варнаваю а Паў-
лам, 26 Мужамі, што далí жыцьцё
свае дзеля імені Спадара нашага
Ісуса Хрыста. 27 Дык мы пасла-
лі Юду а Сілу, каторыя самы ска-
жуць вам і словамі тое самае. 28 Бо
бачылася Духу Сьвятому й нам не
накладаць на вас большага цяжару,
апрача гэтага канечне патрэбнага:
29 Узьдзержавацца ад абраканага
балваном і ад крыві, і ад задуша-
нага, і ад бязулства. Дзержачы гэта,
добра зробіце. Бывайце здаровы!"
30 Дык яны, будучы выпраўле-
ныя, зышлі да Антыёхі і, зьбершы
множасьць, даручылі ліст. 31 І, пра-
чытаўшы ліст, яны цешыліся з да-
меньня гэтага. 32 Юда ж а Сіла,
будучы самы прарокамі, дамянялі
братом чысьленымі гутаркамі і ўма-
цавалі іх. 33 Як яны пабылí там
якісь час, яны ў супакою былі ад-
пушчаны братамі да тых, што іх
паслалі. 34 Сілу, адылі, бачылася
застацца там, а Юда зьвярнуўся да
Ерузаліму.
35 Паўла ж а Варнава заставаліся
ўв Антыёсе, вучачы а абяшчаючы
слова Спадарова із шмат якімі ін-
шымі.
36 За колькі ж дзён Паўла сказаў
Варнаве: „Зьвярнімася й даведай-
мася да братоў у кажным месьце,
ідзе мы абяшчалі слова Спадарова,
як яны маюцца". 37 Варнава ж па-
зычыў узяць із сабою таксама Яана,
званага Маркам; 38 Але Паўла ду-
маў, што ня добра браць із сабою
таго, каторы адышоў ад іх із Пам-
філі і ня йшоў зь імі да тае працы.
39 І паўстала войстрая сьпярэчка,
ажно яны разлучыліся адзін із ад-
ным; Варнава ўзяў Марку із сабою
і паплыў да Кіпры; 40 А Паўла, аб-
раўшы Сілу, пайшоў, будучы пару-
чаны братамі ласцы Божай. 41 І
праходзіў Сыру а Кіліку, мацуючы
цэрквы.

16 І зышоў ён да Дэрвы а Лістры.
І вось, быў там адзін ву́чанік,
імям Цімох, сын Жыдзіцы верніцы,
але бацька Грэк; 2 Праз яго сьвет-
чылі браты ў Лістры а Іконі. 3 Паў-
ла зычыў, каб ён ішоў із ім; і ўзяў-
шы, абрэзаў яго дзеля Жыдоў, што
былí ў тых месцах, бо ўсі ведалі,
што бацька ягоны быў Грэк.
4 А як яны праходзілі па местах,
перадавалі ім захоўваць пастано-
вы, прызначаныя апосталамі а стар-
шымі ў Ерузаліме. 5 Дык цэрквы
мацніліся ў веры і што дня павялі-
чаліся лікам.
6 Як прайшлі Фрыгу а Галяцкі
край, забараніў ім Дух Сьвяты ка-
заць слова ўв Азі. 7 Зышоўшы да
Місі, прабавалі йсьці да Віфіні, але
Дух Ісусаў не дазволіў ім. 8 Мінуў-
шы ж Місію, зышлі да Троады.
9 І зьявілася ві́дзень Паўлу ночы:
стаў адзін Македаняні́н, молячы яго
й кажучы: „Перайшоўшы да Маке-
доні, памажы нам". 10 І як ён ві-
дзеў ві́дзень, зараз мы сілаваліся
йсьці да Македоні, зрабіўшы вывад,
што Бог пагука́ў нас абяшчаць там
дабравесьць.
11 Дык, адплыўшы ад Троады,
проста прыбылí да Самотракі, а на-
заўтрае да Неаполю, 12 Скуль жа
да Піліпаў, каторае першае места
гэтае часьці Македоні, колёня. І за-
ставаліся ў гэтым месьце колькі
дзён.
13 У сыботні ж дзень вышлі за



браму да ракі, ідзе бываў звыча́й
маліцца; і, сеўшы, гу́калі жанкам,
што былі зьбершыся.
14 І адна жонка, імям Ліда, зь
места Тыятыра, прадаўніца шкар-
лату, што сьціла Бога, слухала; і
Спадар адчыніў сэрца ёй уважаць,
што казаў Паўла. 15 Як жа яна
ахрысьцілася а хатнія ейныя, яна
прасіла, кажучы: „Калі вы ўважалі
мяне за верную Спадару, увыйдзіце
ў дом мой і пабудзьце". І яна пры-
нучыла нас.
16 І прыгадзілася, як мы йшлі да
месца малітвы, што стрэлася нам
адна дзеўка, каторая мела духа веш-
чаваньня; яна давала гаспадаром
сваім шмат прыбытку вешчавань-
ням. 17 Яна, ідучы за Паўлам а на-
мі, крычэла, кажучы: „Гэтыя людзі
слугі Навышняга Бога, каторыя
абяшчаюць нам дарогу спа́сеньня".
18 А гэта яна рабіла шмат дзён.
Паўла ж, парушыўшыся, абярнуўся
й сказаў духу: „Імям Ісуса Хрыста
расказую табе выйсьці зь яе". І вы-
шаў тае ж гадзіны.
19 І бачачы гаспадары ейныя,
што шчэзла надзея прыбытку іхна-
га, нялі Паўлу а Сілу і пацягнулі
на рынак да ўраднікаў. 20 І, пры-
вёўшы іх да прэтараў, сказалі: „Гэ-
тыя людзі, будучы Жыдамі, пару-
шаюць места нашае 21 І агалаша-
юць звычаі, каторых мы Рымляне
ня маем права прыймаць або паў-
ніць.
22 І груд таксама паўстаў на іх;
і прэторы, зьняўшы зь іх адзецьце,
далі загаду сьцёбаць. 23 І, даўшы
ім шмат вытняў, укінулі ў вязьніцу,
расказаўшы вязьнічнаму вартаўніку
моцна сьцерагчы іх; 24 Каторы,
адзяржаўшы такое расказаньне, укі-
нуў іх у нутрану́ю вязьніцу і ногі
іхныя замкнуў у калодкі.
25 І а поўначы Паўла а Сіла, мо-
лячыся, хвалілі Бога пяцьцём, і
вязьні слухалі іх. 26 І разам было
вялікае трасеньне зямлі, ажно поды
вязьніцы затрэсьліся, і ўсі дзьверы
якга рашчыніліся, і путы ўсіх рас-
путаліся. 27 А вартаўнік, прачхнуў-
шыся й абачыўшы, што дзьверы
вязьніцы рашчыненыя, агаліў меч і
вось, вось, гатоў быў забіцца, ду-
маючы, што вязьні ўцяклі. 28 Але
Паўла выгукнуў вялікім голасам,
кажучы: „Не рабі сабе ніякага ліха,
бо ўсі мы тут!"
29 І, папрасіўшы сьветла, ён убег
і, калоцячыся, паў перад Паўлам а
Сілаю. 30 І, вывеўшы іх вонкі, ска-
заў: „Спадарове, што імне належа
рабіць, каб спасьціся?" 31 Яны ж
сказалі: „Вер у Спадара Ісуса, і спа-
сешся ты а дом твой". 32 І гу́калі
яму слова Спадарова і ўсім, што
былí ў доме ягоным.
33 І ўзяў іх тае ж гадзіны ночы,
і абмыў раны іхныя, і без адвалокі
хрысьціўся ён і ўсі ягоныя. 34 І,
прывёўшы іх да дому свайго, заслаў
стол і цешыўся з усім домам сваім,
што ўверыў у Бога.
35 Як разаднела, прэторы паслалі
паслугачых сказаць: „Выпусьці гэ-
ных людзёў". 36 Вартаўнік жа па-
ведаміў гэтыя словы Паўлу: „Прэ-
торы прыслалі, каб вы былí вываль-
нены; дык выйдзіце цяпер і йдзіце
ў супакою". 37 Але Паўла сказаў
ім: „Нас, Рымлян, незасуджаных
прынародна білі і ўкінулі нас у
вязьніцу, а цяпер тойма? Не, няхай
самы прыйдуць і вывядуць нас".
38 Паслугачыя паведамілі гэтыя
словы прэторам, і тыя спалохаліся,
як пачулі, што яны Рымляне. 39 І,
прышоўшы, малілі, і, вывеўшы, пра-
сілі выйсьці зь места. 40 Вышаўшы
зь вязьніцы, яны прышлі да Ліды,
і, абачыўшы братоў, дамянілі ім, і
адышлі.

17 І падарожжуючы пераз Амфі-
поль а Аполёню, яны прышлі
да Салуня, ідзе была бажніца жы-
доўская. 2 Тады Паўла, подле звы-
ча́ю свайго, увыйшоў да іх і тры
сыботы разважаў зь імі зь Пісьма,

3 Адчыняючы й даводзячы, што Хрыстос меў цярпець і ўскрэснуць із мертвых, і што гэты Хрыстос ё Ісус, Каторага абяшчаю вам.

4 І некатрыя зь іх пераканаліся і прылучыліся да Паўлы а Сілы, і з Грэкаў, што сьцілі, вялікая множасьць, і з выдатных жанок ня мала.

5 Але Жыды, пазавідаваўшы і ўзяўшы некатрых нягоднікаў з памеж дзяньгубаў з торгу, зьберліся гурбаю, збунтавалі места і, напаўшы на дом Ясонаў, сілаваліся вывесьці іх да гурбы. 6 Не знайшоўшы ж іх, павалаклі Ясона й некатрых братоў да месцкае ўлады, крычачы: „Гэтыя, што перавярнулі сьвет дагары нагамі, прыбылі таксама сюды! 7 І Ясон прыняў іх, і яны дзеюць супроці загадаў цэсаравых, кажучы, што ё другі кароль, Ісус”.

8 І парушылася гурба і месцкая ўлада, як пачулі гэта. 9 Але, узяўшы заруку зь Ягона а із засталых, пусьцілі іх.

10 Браты ж без адвалокі выправілі ночы Паўлу а Сілу да Веры, куды прыбыўшы, яны пайшлі да бажніцы жыдоўскае. 11 Гэтыя ж былí дабрараднейшыя за тых салунскіх; яны прынялі Слова з усёй гатоўю, што дня дасьлядуючы Пісьмо, ці гэта так. 12 І шмат хто зь іх уверыў, і з пачэсьлівых грэцкіх і з мужчын ня мала.

13 Але як салунскія Жыды даведаліся, што і ў Веры Паўла абяшчаў слова Божае, яны прышлі таксама туды, узрушаючы а бунтуючы. 14 І тады без адвалокі браты выправілі Паўлу йсьці аж да мора; а Сіла а Цімох засталіся там.

15 Тыя ж, што прапушчалі Паўлу, прывялі яго аж да Атэн і, адзяржаўшы расказаньне да Сілы а Цімоха, каб яны прышлі да яго так борзда як магчыма, адышлі.

16 Як Паўла чакаў іх ув Атэнах, дух ягоны ўзрушаўся, бачачы гэтае места, поўнае балваноў. 17 Дык ён разважаў у бажніцы із Жыдамі і з тымі, што сьцілі, і што дня на таргу із сустраканымі.

18 Некатрыя таксама з эпікурскіх а стоіцкіх філёзофаў сьпераччаліся зь ім. І некатрыя казалі: „Што хоча сказаць гэты пустамлён?” А іншыя: „Здаецца гэта абесьнік чужых дэманаў, бо ён абяшчаў дабравесьць Ісуса а ўскрысеньне”.

19 І, узяўшы яго, прывялі да Арэопаґу, кажучы: „Ці можам мы ведаць, што гэта за новая навука, кэторую ты павядаеш? 20 Бо прыносіш штось зумяваючае ў вушы нашы. Затым хочам ведаць, што гэта значыцца? 21 Атэняне ж усі і чужаземцы, што прабывалі там, ні ў чым іншым не праводзілі час, як у павяданьню й слуханьню навінаў.

22 І, стаўшы Паўла сярод Арэопаґу, сказаў: „Атэняне! з усяго бачу, што вы асабліва набожныя; 23 Бо, праходзячы й аглядаючы вашы сьвятасьці, я знайшоў таксама аброчнік, на каторым нарысавана: ‚Няведамаму Богу’. Дык таго, каторага вы сьціце́, ня ведаючы, я абяшчаю вам. 24 Бог, што ўчыніў сьвет і ўсе, што ё на ім, будучы Спадаром неба й зямлі, не ў дамох, зробленых рукамі, жывець 25 І не патрабуе службы рук людзкíх, быццам патрабуючы чаго-колечы, Сам даець усяму жыцьцё а дыханьне а ўсе. 26 І ўчыніў з аднае крыві людзёў кажнага народу па ўсім відзе зямлі, прызначыўшы наканаваныя часы й граніцы жыхараньню іх, 27 Каб яны шукалі Бога, ці не адчуюць Яго і ці ня знойдуць Яго, хоць Ён і недалёка ад кажнага з нас; 28 Бо ‚мы ў Ім жывем, і кратаемся, і існуем’, як і запраўды некатрыя з вашых паэтаў казалі: ‚Бо мы й атожылы Ягоныя’. 29 Дык мы, будучы атожыламі Божымі, ня маем думаць, што Боства падобнае да золата, або да



срэбла, або да каменя, выразанае мастацтвам і ўвабражэньням людзкім. 30 Дык Бог, не зважаючы на час не́ведзі, цяпер расказуе ўсім людзём, каб усюдых каяліся; 31 Бо Ён прызначыў дзень, у каторым мае судзіць зямлю ў справядлівасьці прызначаным Ім Мужам, даўшы довад усім, ускрысіўшы Яго зь мертвых”.

32 Пачуўшы праз ускрысеньне зь мертвых, некатрыя сьміяліся, а іншыя мовілі: „Паслухаем цябе праз гэта другі разам”. 33 Дык Паўла вышаў з памеж іх.

34 Некатрыя ж мужы, прылучыўшыся да яго, уверылі; памеж іх быў Дзяніс Арэопаґіт а жонка, на́ймя Дамар, і іншыя зь імі.

18 Просьле гэтага, пакінуўшы Атэны, ён прышоў да Карынту. 2 І знайшоўшы якогась Жыда, на йімя Аквіла, родам із Понту, што кагадзе прыбыў з Італі, і Прыськілу, жонку ягоную (бо Кляўд казаў усім Жыдом пакінуць Рым), прышоў да іх; 3 І, быўшы аднолькавага рамяства, застаўся ў іх і рабіў; бо рамяством іхным было гатаваць буданы. 4 Кажную ж сыботу ён разважаў у бажніцы і пераконаваў Жыдоў а Грэкаў.

5 А як зышлі з Македоні Сіла а Цімох, Паўла, ацяжараны ў духу словам, урочыста сьветчыў Жыдом, што Ісус ё Хрыстос. 6 Але як яны праціві́ліся й блявузґалі, ён атрос адзецьце свае й сказаў ім: „Кроў ваша на галаву вашу; я чысты; адгэтуль пайду да паган”.

7 І, адышоўшы стуль, прышоў да дому аднаго чалавека, на йімя Юст, што сьціў Бога, каторага дом стыкаўся з бажніцаю. 8 Крысп жа, начэльнік бажніцы, уверыў у Спадара з усім домам сваім, і шмат хто з Карынцян, слухаючы, уверылі й ахрысьціліся.

9 Спадар жа сказаў у відзені ночы Паўлу: „Ня бойся, але кажы і не змаўкай; 10 Бо Я з табою, і ніхто ня ўкрыўдзе цябе; бо ў Мяне шмат людзёў у гэтым месьце”. 11 І ён заставаўся год а шэсьць месяцаў, вучачы іх слова Божага.

12 А як Ґалё быў праконсулам ув Ахаі, Жыды згодна паўсталі на Паўлу і прывялі яго да трыбуналу, 13 Кажучы: „Гэты пераконуе людзёў сьціць Бога супроці Закону”. 14 Як жа Паўла хацеў адчыніць вусны, Ґалё сказаў Жыдом: „Жыды! калі б запраўды была́ якая крыўда, альбо выступнасьць, я цярпеў бы вас. 15 Але калі будзе сьпрэчка праз слова а йімёны а Закон вашы, разглядайце самы: я не манюся быць судзьдзёю ў гэтым”. 16 І прагнаў іх ад суду.

17 А ўсі Грэкі, схапіўшы Сосьфена, начэльніка бажніцы, білі яго перад трыбуналам; і Ґалё ані не парушаўся гэтым.

18 Паўла ж, пабыўшы яшчэ шмат дзён, разьвітаўся з братамі і паплыў да Сыры, — і зь ім Прыськіла а Аквіла, — агаліўшы галаву ў Кенхрэях, бо ўчыніў абятніцу.

19 Прыбыўшы да Ефэсу, пакінуў іх там, сам жа, увыйшоўшы да бажніцы, даводзіў Жыдом. 20 А як яны прасілі яго пабыць даўжэй, ён не згадзіўся, 21 Але разьвітаўся зь імі, кажучы: „Я маю канечне сьвяткаваць надыходзячае сьвята ў Ерузаліме; да вас ізноў зьвярнуся, калі будзе Божая воля”; і адплыў зь Ефэсу (Аквіла ж а Прыськіла засталіся ў Ефэсе). 22 Высеўшы ў Цэсарэі, ён прышоў, паздароваў царкву і зышоў да Антыёхі.

23 Правёўшы там якісь час, адышоў і хадзіў зь месца да месца з парадку па краю Ґаляцкім а Фрыґі, мацнячы ўсіх вўчанікаў.

24 І якісь Жыд, на йімя Аполёс, родам із Аляксандры, муж вымоўны, моцны ў Пісьме, прыбыў да Ефэсу. 25 Ён быў навучаны дарогі Спадаровае і, палаючы духам, ґукаў

а вучыў дакладна праз Ісуса, знаючы толькі хрэст Янаў. 26 І ён пачаў адважна гу́каць у бажніцы. Паслухаўшы яго, Прыськіла а Аквіла прынялі́ яго і дакладней зьясьнілі яму Дарогу Спадарову.

27 І як ён мані́ўся йсьці да Ахаі, браты пісалі да вучанікаў, сьхінаючы іх сардэчна прыняць яго; і ён, прышоўшы туды, шмат памагаў тым, што ўверылі праз ласку; 28 Бо ён прынародна моцна зьбіваў цьверджаньні жыдоўскія, даводзячы Пісьмом, што Ісус быў Хрыстос.

**19** І сталася, як Аполёс быў у Карынце, што Паўла, прайшоўшы вышнія часьці, прышоў да Ефэсу і, знайшоўшы некатрых ву́чанікаў, 2 Сказаў ім: „Ці вы, уверыўшы, прынялі́ Сьвятога Духа?” А яны яму: „Мы нават ня чулі, ці ё Дух Сьвяты”. І ён сказаў: „Дык у што вы ахрышчаны?” Яны сказалі: „У хрэст Янаў”. 4 Паўла ж сказаў: „Ян запраўды хрысьціў хрыстом ка́яты, кажучы люду, каб верылі ў Ідучага просьле яго, значыцца ў Ісуса”. 5 Пачуўшы гэта, яны ахрысьціліся ў імя Спадара Ісуса. 6 І, як Паўла ўзлажыў рукі на іх, зышоў на іх Дух Сьвяты, і яны гу́калі мовамі і праракалі. 7 А ўсіх было каля дванаццёх мужоў.

8 Увыйшоўшы ж у бажніцу, ён адважна гу́каў тры месяцы, навучаючы а пераконуючы праз гаспадарства Божае. 9 А як некатрыя закалянелі й ня верылі, гу́каючы ліха на Дарогу перад множасьцяй, ён вышаў ад іх і аддзяліў вучанікаў, навучаючы што дня ў школе якогась Тырана́.

10 І гэта было звыш двух год, так што ўсі жыхары Азі, Жыды й Грэкі, чулі слова Божае. 11 І Бог чыніў вялікія, надзвычайныя ўчынкі рукамі Паўлавымі, 12 Ажно насаткі а папяразкі прыносілі ад цела ягонага на хворых, і хваробы пакіда́лі іх, і злыя духі выходзілі зь іх.

13 Тады й некатрыя із жыдоўскіх хадзякаў - за́кліньнікаў спрабавалі гу́каць імя Спадара Ісуса на апанаваных злымі духамі, кажучы: „Заклінаю вас Ісусам, каторага абяшчае Паўла”. 14 Былі́ там якіясь сямёх сыноў Ськевы, найвышшага сьвятара жыдоўскага, каторыя рабілі гэта. 15 Але злы дух, адказуючы, сказаў ім: „Ісуса запраўды знаю, і Паўла імне ведамны, але хто вы?” 16 І кінуўся на іх чалавек, у каторым быў злы дух, і здолеў іх, так што яны ўцяклі голыя а зьбітыя. 17 І сталася гэта ведама ўсім, што жылі́ ў Ефэсе, Жыдом і Грэкам, і напаў страх на ўсіх іх, і ўзьвялічана было імя Спадара Ісуса.

18 І шмат хто з тых, што ўверылі, прыходзіў, спавядаючыся й азнаймуючы свае ўчынкі.

19 І ладне тых, што займаліся чарамі, прынесьлі кнігі свае, і спалілі іх перад усімі, і палічылі цану іх, і знайшлі на пяцьдзясят тысячаў штукаў срэбла. 20 З такой моцаю расло а перамагала слова Спадарова.

21 А як гэта зьдзеялася, Паўла заме́рыў у духу сваім, прайшоўшы Македоню а Ахаю, ісьці да Ерузаліму, кажучы: „Пабыўшы там, я маю бачыць і Рым’. 22 І паслаўшы да Македоні двух із слугачых сваіх, Цімоха а Эраста, сам застаўся да часу ўв Азі.

23 І прыгадзілася таго часу немалое ўзрушэньне каля Дарогі Божае; 24 Бо хтось, на йімя Зьмітра, срэбранік, што станавіў дамы Артэміды, даючы немалы прыбытак мастаком, 25 Каторых зьбершы і тых, што ў такім рамястве рабілі, сказаў: „Мужы, вы цяміце, што наш дабрабыт залежа ад гэтае работы. 26 І вы бачыце й чуеце, што ня толькі ў Ефэсе, але блізу́ па ўсёй Азі гэты Паўла пераканаў і адвярнуў вялікую грамаду́, кажучы, што не багі тыя,



каторыя зроблены рукамі. 27 Цяпер ня толькі небясьпечнасьць нам, што наш занятак апынецца ў няславе, але таксама, што сьвятыню вялікае багіні Артэміды будуць мець за ніпто, і будзе зьнішчана вялікасьць тае, каторую сьціць уся Азя а сьвет”.

28 Пачуўшы ж гэта і шалеючы зд злосьці, яны крычэлі, кажучы: „Вялікая Артэміда Ефэская!” 29 І места стала поўнае сумятні, і згодна яны чханулі да тэатру, схапіўшы Ґая а Арыстарха, Македонян, спадарожнікаў Паўлавых. 30 Як жа Паўла хацеў увыйсьці ў люд, вучанікі не дапусьцілі яго. 31 І таксама некатрыя з начэльнікаў аскіх, што былі́ прыяцелямі ягонымі, паслаўшы да яго, упорыста прасілі ня кідацца да тэатру.

32 Адныя крычэлі адно, другія — другое, бо гурба была́ ў сумятні, і бальшыня ня ведала, дзеля чаго яны зышліся. 33 З гурбы ж высунулі наперад якогась Аляксандру, каторага Жыды сулілі. Аляксандра, кіўнуўшы рукою, хацеў апраўдацца перад людам. 34 Але, пазнаўшы, што ён Жыд, у вадзін голас усі крычэлі каля дзьвюх гадзінаў: „Вялікая Артэміда Ефэская!”

35 Месцкі ж пісар, супакоіўшы гурбу, сказаў: „Мужы Ефэсяне, хто ня ведае, што места Ефэскае ё апякун сьвятыні Артэміды вялікае й абраза, спалага зь неба (Дыёпэта)? 36 Калі ж гэта бесьпярэчна, надабе, каб вы супакоіліся і не рабілі нічога стрым галаву. 37 А вы прывялі гэтых людзёў, каторыя сьвятыні ня грабілі, ані блявузгалі на вашу багіню. 38 Калі ж Зьмітра а мастакі, што зь ім, маюць жалабу на каго, ё суд і ё проконсулы: няхай пазываюць адзін аднаго. 39 Калі ж шукаеце чаго іншага, то гэта можа быць разьвязана на праўным збору. 40 Бо мы ў небясьпечнасьці за сталае сядні быць абвінаванымі ў узрушэньню, бо няма ніякае прычыны, каторай бы мы маглі апраўдаць гэткі збой”. 41 Сказаўшы гэта, ён распусьціў гурбу.

**20** Як жа сумятня перастала, Паўла, пагука́ўшы вучанікаў і разьвітаўшыся зь імі, пайшоў да Македоні. 2 Прайшоўшы ж тыя часьці і даманяўшы шмат якімі словамі, прышоў да Грэцы. 3 Прабыў там тры месяцы. Як жа, з прыгоды ізрадліваe змовы, учыненае на яго Жыдамі, ён хацеў плысьці да Сыры, прышло яму ўдум зьвярнуцца праз Македоню.

4 І прапушчалі яго аж да Азі Сопатэр Піранок, Веранін, а із Салунцаў Арыстарх а Сэкунд а Ґай Дэрвянін а Цімох, і Азяне Тыхік а Трахім. 5 Яны, вышаўшы наперад, чакалі нас у Троадзе. 6 А мы выплылі зь Піліпаў па праснаковых днёх і прыбылі да іх да Троады за пяць дзён, ідзе прабылі сем дзён.

7 Першага ж дня тыдня, як мы былі зьбершыся ламіць хлеб, Паўла мовіў да іх, манючыся назаўтрае адыйсьці, і працягнуў размову да поўначы. 8 І было шмат сьветлаў у вышнім пакою, ідзе мы былі зьбершыся. 9 І адзін маладзён, на ймя Еўтых, седзячы на аконнай абсадзе, глыбака заснуў у часе даўгое мовы Паўлавае і, пахіснуўшыся сонны, зваліўся з трэйцяе пятры на далоўе, і быў падняты мертвым. 10 Паўла ж, зышоўшы, паў на яго і, абняўшы, сказаў: „Не бядуйце, бо жыцьцё ягонае ёсьць у ім”. 11 Узышоўшы ж а праламіўшы хлеб а еўшы, гутарыў доўга, аж да золку, потым адышоў. 12 Прымеж тога прывялі дзяцюка жывога, і нямала ўсьцешыліся.

13 А мы, прышоўшы ўперад на караб, паплылі да Ас, узяць там Паўлу, бо ён так загадаў, манючыся сам ісьці пехатой. 14 Як жа ён зышоўся з намі ўв Асе, узяўшы яго, мы прыбылі да Мітыліны. 15 І, ад-

плыўшы стуль, назаўтрае былі суп-
році Хіосу, а наступнога дня пры-
плылі да Самосу і, пабыўшы ў Тро-
гілі, наступнога дня прыбылі да Мі-
лету; 16 Бо Паўла пастанавіў абмі-
нуць Ефэс, каб ня длякацца ўв Азі,
бо ён барзьдзіў, калі магчыма, быць
на дзень Пяцідзясятніцы ў Еруза-
ліме.

17 Зь Мілету ж, паслаўшы да
Ефэсу, ён наказаў прыбыць стар-
шым царквы. 18 І, як яны прышлі
да яго, ён сказаў ім: „Вы ведаеце,
як я зь першага дня, каторага пры-
быў да Азі, увесь час быў із вамі,
19 Служачы Спадару з усей пако-
раю а із слязьмі, сярод спакусаў,
што прылучаліся імне із змовы Жы-
доў; 20 Як я ня зьдзержаваўся ад
нічога карыснага, праз што б вам
не абяшчаў і чаго ня вучыў бы вас
прынародна і з дому ў дом, 21 Уро-
чыста сьветчачы Жыдом а Грэкам
ка́яту перад Богам і веру ў Спадара
нашага Ісуса Хрыста. 22 І цяпер,
вось, зьвяза́ны духам, іду да Еру-
заліму, ня ведаючы, што станецца
імне ў ім; 23 Адно Дух Сьвяты ў
кажным месьце ўрочыста сьветча
імне, кажучы, што путы а атуга ча-
каюць мяне. 24 Але я ня маю жыць-
ця свайго за якую-колечы вартасьць
ані за каштоўнае самому сабе, адно
каб скончыць дзеяльнасьць сваю й
службу, што я прыняў ад Спадара
Ісуса, урочыста сьветчыць дабраве-
сьць ласкі Божае. 25 І цяпер, вось,
я ведаю, што наперад віду майго не
абачыце вы ўсі, меж каторых я ха-
дзіў, абяшчаючы гаспадарства Бо-
жае. 26 Затым сьветчу вам гэтага
дня, што чысты я ад крыві ўсіх;
27 Бо я ня зьдзержаваўся ад абя-
шчаньня вам усяе рады Божае.
28 Дык руппецеся праз самых сябе а
праз усю чараду, у каторай Дух
Сьвяты пастанавіў вас за наглядні-
каў, пасьвіць царкву Божую, като-
рую Ён прыдбаў собскай крывёю
Сваёй. 29 Я ведаю, што, па ады-
ходзе маім, увыйдуць памеж вас
злыя ваўкі, што не шкадуюць цар-
квы; 30 І з памеж вас самых паў-
стануць людзі, што будуць гукаць
крутадушнае, каб пацягнуць вуча-
нікаў за сабою. 31 Затым будзьце
чукавыя, памятуючы, што тры гады
ўдзень і ночы я не пераставаў із
сьлязьмі навучаць кажнага з вас.
32 І цяпер паручаю вас Богу а сло-
ву ласкі Ягонае, Каторы можа па-
будаваць вас і даць вам спадак па-
меж усіх пасьвячаных. 33 Срэбла,
ані золата, ані адзежы я ад нікога
не пажадаў. 34 Вы самы ведаеце,
што гэтыя рукі служылі да патрэбаў
маіх і тых, што былі з імною. 35 Я
паказаў вам усім, што, так працую-
чы, маем памагаць слабым і па́мята-
ваць словы Спадара Ісуса, што Ён
Сам сказаў: „Шчасьлівей даваць,
чымся браць".

36 І, сказаўшы гэта, Ён укляк
і маліўся з усімі імі. 37 І быў вялікі
плач у вусіх, і, падаючы на шыю
Паўлу, горача цалавалі яго. 38 Асаб-
ліва балела ім ад слова, каторае ён
сказаў ім, што наперад яны не аба-
чаць віду ягонага. І прапушчалі яго
аж да карабля.

21 Як жа мы, расстаўшыся зь імі,
адплылі, дык простай дарогаю
прыплылі да Косу, назаўтрае да Ро-
досу і стуль да Патары. 2 І зась-
пеўшы караб, што йшоў да Фінікі,
узышлі на яго й адплылі. 3 І відаць
быў Кіпра, і, пакінуўшы яго палеве,
мы плылі да Сыры, і выселі ў Тыру,
бо там караб меў выкласьці свой
наклад.

4 І, засьпеўшы вучанікаў, заставалі-
ся там сем дзён. Яны з Духа каза-
лі Паўлу ня йсьці да Еруза ліму.
5 Як жа скончыліся гэтыя дні, выш-
лі й пайшлі, і нас прапушчалі ўсі
із жанкамі а дзецьмі аж да места;
а на беразе, уклякшы, памаліліся.
6 І, разьвітаўшыся адзін із адным,
мы ўзышлі на караб, а яны зьвяр-
нуліся двору.



7 Мы ж, скончыўшы плаўбу, пры-
былі з Тыру да Птолемаіды і, пазда-
роваўшы братоў, засталіся адзін
дзень із імі. 8 А назаўтрае Паўла
а мы, бытыя зь ім, вышаўшы, прыш-
лі да Цэсарэі і, увыйшоўшы ў дом
Піліпа евангелістага, аднаго із
сямёх, заставаліся ў яго. 9 У яго
былі чатыры дачкі дзявушчыя, пра-
ракаючыя.

10 Прымеж тога, як мы застава-
ліся ў іх шмат дзён, прышоў зь
Юдэі якісь прарока, на́ ймя Агаў;
11 І, увыйшоўшы да нас, узяў пояс
Паўлаў і, зьвязаўшы сабе рукі й но-
гі, сказаў: „Гэтак кажа Дух Сьвя-
ты: мужа, чый гэты пояс, гэтак
зьвяжуць у Еруза ліме Жыды і вы-
дадуць у рукі паган". 12 Як жа мы
пачулі гэта, то й мы й тамашнія
прасілі, каб ён ня йшоў да Еруза-
ліму. 13 Але Паўла адказаў: „Што
вы робіце, плачучы а нéмарасьцячы
сэрца мае? бо я гатоў ня толькі быць
зьвяза́ным, але таксама памерці ў
Еруза ліме за імя Спадара Ісуса".
14 Ня здолеўшы ўмовіць яго, мы
змоўклі, кажучы: „Станься воля
Спадарова!"

15 Просьле гэтых дзён, прыгата-
ваўшыся, пайшлі мы да Еруза ліму.
16 І з вучанікаў з Цэсарэі йшлі з
намі, вядучы якогась Мнасона, Кіп-
раніна, даўнейшага вучаніка, у ка-
торага мы былі б на гасподзе.

17 А, як мы прыбылі да Еруза лі-
му, браты рада прынялі нас. 18 А
назаўтрае Паўла прышоў з намі да
Якава, і ўсі старшыя прышлі туды.
19 І, паздароваўшы іх, ён паведаў з
парадку ўсе, што Бог учыніў служ-
баю ягонай. 20 Яны ж, пачуўшы,
славілі Бога і сказалі яму: „Бачыш,
браце, колькі тысячаў ёсьць із Жы-
доў, што ўверылі, і ўсі рупатлівыя
праз Закон. 21 Але празь цябе
маюць ведамку, што ты вучыш усіх
Жыдоў, што памеж народаў, адступ-
ніцтва ад Масея, кажучы, што яны
ня маюць абразаць дзеці свае ані
заховаваць абычаі. 22 Дык што ж?
Множасьць канечне зьбярэцца, бо
пачуюць, што ты прышоў. 23 Зра-
бі ж, што мы скажам тэ: ёсьць у
нас чатыры чалавекі, што маюць на
сабе абятніцы. 24 Вазьмі іх, і ачы-
сьціся зь імі, і заплаці выдаткі за
іх, каб яны агалілі галавы свае, —
і даведаюцца ўсі, што няма нічога
праўдзівага з чутага імі празь цябе,
але што й сам ты жывеш захоўвучы
Закон. 25 А ўзглядам тых, што ўве-
рылі з паган, то мы пісалі, паста-
навіўшы, каб яны ўзьдзержаваліся
ад абраканага балваном, ад крыві,
ад задушанага і ад бязулства".

26 Тады Паўла, узяўшы тых му-
жоў, назаўтрае ачысьціўшыся, увый-
шоў зь імі ў сьвятыню, асьвятчаючы,
што дні ачышчэньня скончаны і аб-
рэчаны аброк за кажнага зь іх.

27 Як жа сем дзён канчаліся, Жы-
ды з Азі, абачыўшы яго ў сьвятыні,
узрушылі ўсю гурбу і наклалі рукі
на яго, 28 Крычачы: „Мужы із-
раельскія, памажыце! гэты чалавек
усіх усюдых вуча супроці люду а
Закону а месца гэтага, а нават пры-
вёў Грэкаў у сьвятыню і збудзеніў
сьвятое месца". 29 Бо перад тым
яны бачылі зь ім у месьце Трахіма
Ефэся́ніна й думалі, што Паўла быў
увёўшы яго ў сьвятыню.

30 І ўсе места ўзрушылася, і зьбег-
ліся людзі; і, схапіўшы Паўлу, па-
цягнулі яго вон із сьвятыні, і якга
замкнёны былі дзьверы. 31 Як жа
яны хацелі забіць яго, ведамка пры-
шла да тысячніка аддзелу, што ўвесь
Ерузалім узрушыўся. 32 Ён, зараз
узяўшы жаўнераў а сотнікаў, пабег
на іх. Яны ж, абачыўшы тысячніка
а жаўнераў, перасталі біць Паўлу.
33 Тады тысячнік, прышоўшы, узяў
яго й казаў закаваць двума ланцу-
гамі, і пытаўся, хто ён і што зрабіў.

34 У гурбе ж крычэлі адныя адно,
другія другое. Ён жа, ня могучы з
прычыны сумятні даведацца нічога
пэўнага, расказаў весьці яго да го-

раду. 35 Як жа ён быў на ўсходках,
жаўнерам давялося несьці яго з
прычыны ўсілства гурбы, 36 Бо
множасьць люду йшла за ім, кры-
чачы: „Вон яго!”

37 Ля ўходу ў горад Паўла сказаў
тысячніку: „Ці можна імне сказаць
тэ штось?” А гэты сказаў: „Ты
знаеш пагрэцку? 38 Дык ці ня ты
тый Егіпцянін, што надоечы ўзьняў
бунт і вывеў на пустыню чатыры
тысячы чалавекаў, гэных разбойні-
каў (Сыкоран)”. 39 Паўла ж ска-
заў: „Я Жыд, Тарсянін, грамадзянін
не апошняга места Кіліцкага; дык,
калі ласка, дазволь імне прамовіць
да люду”. 40 Як жа тый дазволіў,
Паўла, стоячы на ўсходках, кінуў
рукою люду і, як сталася вялікая
цішыня, прамовіў да іх гэбрэйскай
мовою, кажучы:

**22** „Мужы браты й айцове, па-
слухайце цяпер мае апра́веньне
перад вамі”. 2 Пачуўшы, што ён за-
гу́каў да іх гэбрэйскай мовою, яны
яшчэ балей сьціхлі. А ён сказаў:
3 „Я Жыд, радзіўся ў Тарсе Кіліц-
кім, а ўзгадаваны ў гэтым месьце ля
ног Ґамаліеля, дакладна на́ўчаны
Права айцоў, будучы рупатлівы дзе-
ля Бога, як вы ўсі сяньні; 4 Каторы
перасьледава́ў гэтую Дарогу аж да
сьмерці, вяжучы а дастаўляючы да
вязьніцы мужчынаў і жанкі, 5 Як
пасьветча праз мяне найвышшы
сьвятар а ўсі старцы, ад каторых
і лісты адзяржаўшы да братоў, што
жывуць у Дамашку, я падарожжа-
ваў, каб тамашніх прывесьці ў зя-
лезах да Ерузаліму, каб былі́ па-
караны. 6 І сталася, як я падарож-
жаваў і бліжыўся да Дамашку, што
каля паўдня разам агарнула мяне
вялікая сьвятліня зь неба. 7 І я паў
на зямлю, і чуў голас, што казаў
імне: ‚Саўле! Саўле! чаму ты пера-
сьлядуеш Мяне?’ 8 А я адказаў:
‚Хто Ты, Спада́ру?’ І сказаў імне:
‚Я Ісус Назарэцкі, Каторага ты пе-
расьлядуеш’. 9 Тыя ж, што былі́ з
імною, запраўды бачылі сьвятліню,
але ня чулі голасу таго, што казаў
імне. 10 І я сказаў: ‚Спада́ру, што
я маю рабіць?’ І Спадар сказаў імне:
‚Устань і йдзі да Дамашку, і там
скажуць тэ ўсе, што прызначана та-
бе рабіць’. 11 А як я спабыў відзень-
не ад славы сьвятліні тае, то былыя
з імною за руку́ прывялі мяне да
Дамашку. 12 І ведамны Ананя, муж
набожны подле Права, маючы сьвет-
чаньне ад усіх Жыдоў, што жыха-
рылі там, 13 Прышоў да мяне і,
стаўшы, сказаў імне:

‚Саўле браце, глянь!’ І я тае ж
гадзіны празерыў і абачыў яго.
14 Ён жа сказаў: ‚Бог айцоў нашых
наканаваў цябе пазнаць волю Яго-
ную, і бачыць Справядлівага, і чуць
голас із вуснаў Ягоных; 15 Бо ты
будзеш сьветкаю Яму ў вусіх лю-
дзёў праз тое, што ты бачыў а чуў.
16 Дык чаму адвалакаеш? Устань,
і ахрысьціся, і абмый грахі свае,
гу́каючы імя Ягонае’. 17 І сталася,
як я зьвярнуўся да Ерузаліму й ма-
ліўся ў сьвятыні, што я быў у за-
хапленьню, 18 І абачыў Яго, імне
кажучага: ‚Сьпяшайся й выйдзі
ўборзьдзе зь Ерузаліму, бо тут ня
прыймуць твайго сьветчаньня праз
Мяне’. 19 Я ж сказаў: ‚Спада́ру,
яны ведаюць, што я садзіў у вязьні-
цу і біў па бажніцах тых, што ве-
раць у Цябе; 20 І як лілася кроў
Сьцепана́, сьветкі Твайго, я таксама
там стаяў, і згаджаўся, і сьцярог
адзецьці тых, што забівалі яго’. 21 І
Ён сказаў імне: ‚Ідзі, Я пашлю цябе
далёка да народаў’ ”.

22 Дагэтуль слухалі яго, а па гэ-
тым слове ўзьнялі́ крык, кажучы:
„Вон із зямлі такога! ён ня мае
жыць”.

23 Як жа яны верашчэлі, і шпур-
лялі адзецьцям сваім, і кі́далі пыл
у паветра, 24 Тысячнік расказаў ве-
сьці яго да гораду, кажучы, што
сьцёбаньням мае быць выпытаны,



каб даведацца, зь якое прычыны
яны так крычэлі на яго.

25 Яле, як зьвязалі яго рэменямі,
Паўла сказаў сотніку, што стаяў тут:
„Ціж дазволена вам сьцёбаць Рым-
ляніна, ды не засуджанага?” 26 Па-
чуўшы гэта, сотнік дабліжыўся да
тысячніка і здаў лічбу, кажучы:
„Глянь, што ты робіш? гэты ж ча-
лавек Рымлянін”. 27 Тады тысяч-
нік, дабліжыўшыся да яго, сказаў:
„Скажы імне, ты Рымлянін?” Ён
сказаў: „Але́”. 28 І адказаў тысяч-
нік: „Я за вялікую суму́ прыдбаў
гэта грамадзянства”. А Паўла ска-
заў: „А я й нарадзіўся таковы”.
29 Тады зараз адступілі ад яго тыя,
што хацелі выпытаваць яго. А ты-
сячнік, даведаўшыся, што ён быў
Рымлянін, спалохаўся, што зьвязаў
яго.

30 Назаўтрае ж, хочучы даведац-
ца пэўна, у чым яго вінавалі Жыды,
вывальніў яго, і расказаў зыйсьціся
найвышшым сьвятаром а ўсяму сы-
нэдрыёну, і, вывеўшы Паўлу, паста-
навіў яго перад імі.

**23** Тады Паўла, уцеміўшыся ў сы-
нэдрыён, сказаў: „Мужы бра-
ты, я з усім добрым сумленьням
жыў перад Богам дагэтуль”. 2 Най-
вышшы ж сьвятар Ананя расказаў
тым, што стаялі ля яго, біць яго па
вуснах. 3 Тады Паўла сказаў яму:
„Бог вытне цябе, пабеленая сьцяна;
ты ж сядзіш, судзячы мяне з права,
і напярэк праву расказуеш мяне
біць”.

4 Прытомныя ж сказалі: „На най-
вышшага сьвятара Божага вернеш?”
5 І сказаў Паўла: „Я ня ведаў, бра-
ты, што ён найвышшы сьвятар; бо
напісана: ‚Ня гу́кай ліха на дзяр-
жаўцу люду свайго’ ”.

6 Паўла ж, ведаючы, што адна
часьць была садукеяў, а другая
фарысэяў, загу́каў у сынэдрыёне:
„Мужы браты, я фарысэй, сын фа-
рысэяў, мяне судзяць за спадзеву а
ўскрысеньне мертвых!” 7 Як жа ён
сказаў гэта, паўстала нязгода па-
меж фарысэяў і садукеяў, і збор па-
дзяліўся; 8 Бо садукеі кажуць, што
няма ўскрысеньня, ані ангіла, ані
духа; а фарысэі вызнаюць абое. 9 І
быў вялікі вераск, і кніжнікі фа-
рысэйскае часьці, стаўшы, сьпера-
чаліся, кажучы: „Мы не знаходзім
ліха ў гэтым чалавеку. Калі дух
гу́каў яму альбо ангіл, не ваюйма з
Богам”. 10 Як жа вялікая сумятня
паўстала, тысячнік, баючыся, каб
яны не разарвалі Паўлы, расказаў
жаўнерам зыйсьці ўзяць яго з па-
сярод іх і прывесьці да гораду.

11 Наступное ж ночы Спадар стаў
ля яго й сказаў: „Асьмелься, бо як
ты сьветчыў праз Мяне ў Ерузалі-
ме, так маеш сьветчыць і ў Рыме”.

12 А як разаднела, Жыды змовілі-
ся, пастанавіўшы пад праклёнам, ка-
жучы, што ня будуць есьці ані піць,
пакуль не заб’юць Паўлы. 13 Бы-
ло ж балей за сорак, што задзіночы-
ліся гэтай змоваю. 14 І пайшлі яны
да найвышшых сьвятароў а старцоў,
кажучы: „Мы прысягнулі праклё-
нам нічога не паспытацца, пакуль
не заб’ем Паўлы. 15 Дык вы цяпер
асьветча тысячніку і сынэдрыёну,
каб ён вывеў яго да вас, быццам
хочаце дакладней разгледзіць спра-
ву ягоную; мы ж, уперад чымся ён
дабліжыцца, гатовы забіць яго”.

16 Але сын сястры Паўлавае, па-
чуўшы праз змову, прышоў, і ўвый-
шоў да гораду, і наказаў Паўлу.
17 Паўла ж, пагука́ўшы аднаго із
сотнікаў, сказаў: „Вазьмі гэтага ма-
ладзёна да тысячніка, бо ён мае
штось наказаць яму”. 18 Дык ён,
узяўшы яго, прывеў да тысячніка
й кажа: „Вязень Паўла пагука́ў
мяне і прасіў завесьці да цябе гэта-
га маладзёна, каторы мае штось ска-
заць табе”.

19 Тысячнік жа, узяўшы яго за
руку́ і адышоўшы на бок, папытаў-
ся: „Што ты хочаш сказаць імне?”
20 Тады ён сказаў: „Жыды змовілі-

ся прасіць цябе, каб ты вывеў Паўлу заўтра да сынэдрыёну, быццам дакладней выпытаць праз яго: 21 Але ты ня дайся ўмовіць ім, бо зь іх цікуюць на яго больш за сорак чалавекаў, каторыя пастанавілі пад праклёнам ня есьці ані піць, пакуль не заб'юць яго; і цяпер гатовы, чакаючы твае загады". 22 Тады тысячнік адпусьціў маладзёна, расказаўшы яму: „Нікому не кажы, што ты паведаў імне гэта".

23 І, пагукáўшы двух сотнікаў, сказаў: „На трэйцюю гадзіну ночы прыгатуйце дзьвесьце жаўнераў, семдзясят коньнікаў і дзьвесьце дзіднікаў, ісьці аж да Цэсарэі. 24 І жывёла хай будзе прыгатавана, каб, пасадзіць Паўлу на іх і прывесьці бясьпечна да Хвэлікса, вайводы".

25 Напісаў і ліст гэткае хормы: 26 „Кляўд Ліс Найпачэсьліўшаму Вайводзе Хвэліксу — здарованьне. 27 Мужа гэтага Жыды, няўшы, зараз маніліся забіць; я насьпеў із жаўнерамі і выратаваў з рук іхных, даведаўшыся, што ён Рымлянін. 28 І, зычачы даведацца, у чым віналі яго, прывёў яго да сынэдрыёну іхнага, 29 І знайшоў, што яго вінуюць у нейкіх пытаньнях права іхнага, але няма ў ім ніякае віны, гожае сьмерці альбо зялезаў. 30 Адзяржаўшы ж ведамку праз змову на сьмерць на гэтага чалавека, я без адвалокі паслаў яго да цябе, расказаўшы й жалабнікам гýкаць перад табою, што ё супроці яго. Заставайся здароў!"

31 Дык жаўнеры, за расказаньням ім, узялí Паўлу й прывялі яго ночы да Антыпатрыды. 32 А назаўтрае, пакінуўшы коньнікаў ісьці зь ім, зьвярнуліся да гораду. 33 А тыя, прышоўшы да Цэсарэі і аддаўшы ліст вайводзе, пастанавілі Паўлу таксама яму.

34 Прачытаўшы ліст, папытаўся, зь якое краіны ён быў, і даведаўшыся, што зь Кілікі, сказаў: 35 „Я выслухаю цябе, як пазоўнікі твае таксама стануць. І расказаў яго сьцерагчы ў доме Гірадавым.

24 За пяць жа дзён прышоў найвышшы сьвятар Ананя із старцáмі а зь якімсь прамоўцам Тэртулям, каторыя паведамілі вайводу праз Паўлу. 2 Як яго пагукáлі, Тэртуль пачаў вінаваць кажучы: „Шмат супакою адзержуем праз цябе, і палепшаньні прыходзяць гэтаму народу ад твае абачлівасьці, — 3 Мы ў вусім і ўсюдых сардэчна прыймаем гэта, найдабрачэсьліўшы Хвэліксе, зь усёй падзякаю. 4 Але каб лішне доўга не задзержаваць цябе, калі ласка, выслухай нас коратка із свае бачнасьці. 5 Бо, знайшоўшы, што гэты чалавек — болька, і падвучае да бунту ўсіх Жыдоў па сьвеце, і кіраўнік сэкты назарэцкае, 6 Каторы важыўся нават збудзеніць сьвятыню, мы яго нялí і судзілі подле права свайго; 7 Але тысячнік Ліс, прышоўшы, зь вялікім усілствам адабраў яго з рук нашых, 8 Расказаўшы пазоўнікам прыйсьці да цябе. Ты можаш сам, выпытаўшы, даведацца напэўна, у чым мы яго вінуем". 9 І Жыды таксама прылучыліся да жалабы, пацьвердзіўшы, што гэта было так.

10 Але Паўла, як вайвода кіўнуў яму гýкаць, адказаў: „Ведаючы, што даўгія гады ты быў судзьдзёю народу гэтага, я тым свабадней хачу бараніцца ў сваёй справе. 11 І ты можаш балей даведацца, што адгэнуль, як я прышоў на паклон да Ерузаліму, няма больш за дванаццаць дзён. 12 І не засьпелі яны мяне, каб я сьперачаўся зь кім, і ня зьбіраў я гурбы ані ў бажніцах, ані ў месьце; 13 І ня могуць давесьці таго, у чым цяпер вінуюць мяне. 14 Але ў тым прызнаюся табе, што ў тэй Дарозе, каторую яны завуць сэктаю, я служу Богу айцоў сваіх, верачы ўсяму подле Закону і ўсяму ў прароках запісанаму, 15 Маючы надзею



ў Богу, што будзе ўскрысеньне справядлівых і несправядлівых, чаго й самы яны чакаюць. 16 Затым я таксама руплюся мець у вусім сумленьне беззаганнае перад Богам і людзьмі. 17 Па шмат гадох я прыбыў, прыносячы ўбожыну народу свайму й аброкі. 18 Тады знайшлі мяне ачышчанага ў сьвятыні, ня з гурбаю ані замятнёю; але некаторыя Жыды з Азі, 19 Каторыя мелі б стаць перад табою і абвінаваць, калі маюць штось супроці мяне. 20 Альбо няхай яны самы скажуць, што за бяспраўе знайшлі ў імне, як я стаяў перад сынэдрыёнам, 21 Хіба што да слова, каторае я гýкнуў, стоячы памеж іх: 'Я суджаны сядні вамі за ўскрысеньне зь мертвых'." 22 І, выслухаўшы гэта, Хвэлікс адклаў ім, кажучы: „Каб праз гэту Дарогу дакладней даведацца, рассуджу вашу справу, як тысячнік Ліс прыедзе".

23 І расказаў сотніку сьцерагчы яго, і палягчыць яму, і не бараніць нікому із сваіх ягоных слугаваць яму і давядацца да яго.

24 За колькі дзён Хвэлікс, прыбыўшы з Друзілаю, жонкаю сваёй, каторая была Жыдзіца, паслаў па Паўлу і слухаў яго што да веры ў Хрыста. 25 І як ён разважаў праз справядлівасьць а ўзьдзержлівасьць а будучы суд, Хвэлікс, зьлякаўшыся, адказаў: „Цяпер ідзі, у дагодным часе пашлю па цябе". 26 У тым самым часе ён спадзяваўся, што Паўла дасьць яму грошы; затым пасылаў па яго часьцей і гутарыў зь ім. 27 Як мінулі два гады, наступнікам Хвэліксавым стаў Порц Фэст. Хочучы дагадзіць Жыдом, Хвэлікс пакінуў Паўлу ў вязьніцы.

25 Дык Фэст, прыбыўшы да паветў, за тры дні выправіўся з Цэсарэі да Ерузаліму. 2 Тады найвышшыя сьвятары а галоўныя із Жыдоў паведамілі яго супроці Паўлы і малёгалі яго, 3 Зрабіць ласку — даставіць яго да Ерузаліму, цікуючы, каб забіць яго ў дарозе.

4 Але Фэст адказаў, што Паўла ў Цэсарэі пад вартаю, і што ён сам уборзьдзе прыедзе туды. 5 „Дык няхай, кажа ён, асобы з улады памеж вас ідуць із імною і, калі што ёсьць у гэтым чалавеку, вінуюць яго".

6 І, пабыўшы памеж іх не балей як восьмі альбо дзесяць дзён, зьвярнуўся да Цэсарэі; і наступнога дня, сеўшы на судовым седаве, расказаў прывесьці Паўлу. 7 І, як ён стаў, Жыды, што прышлі зь Ерузаліму, вocтупіцаю выказавалі шмат цяжкіх жалабаў, каторых не маглі давесьці.

8 Паўла ж на аправеньне свае сказаў: „Ані супроці Права жыдоўскага, ані супроці сьвятыні, ані супроці цэсара я ні ў чым не ізграшыў".

9 Але Фэст, зычачы ўбіцца Жыдом у ласку, адказуючы Паўлу, сказаў: „Ці зычыш узыйсьці да Ерузаліму, каб я там судзіў цябе што да гэтага?" 10 Паўла ж сказаў: „Я стаю перад судам цэсаравым, ідзе імне належа быць суджаным. Жыдом я нічога благога не зрабіў, як ты таксама добра ведаеш; 11 Бо калі запраўды мая няпраўда і зрабіў я што-колечы гожае сьмерці, то не адмаўляюся памерці; а калі нічога таго няма, у чым гэтыя вінуюць мяне, то ніхто ня можа выдаць мяне ім; адзываюся да цэсара".

12 Тады Фэст, пагутарыўшы з радаю, адказаў: „Ты адазваўся да цэсара, да цэсара й пойдзеш".

13 Як мінула колькі дзён, кароль Аґрыпа а Верніка прыбылі да Цэсарэі паздароваць Фэста. 14 І, як яны правялі там шмат дзён, Фэст выклаў перад каралём справу Паўлаву, кажучы: „Тут ё нейкі вязень, пакінены Хвэліксам, 15 Праз каторага, як я быў у Ерузаліме, паведамілі найвышшыя сьвятары а старцы жыдоўскія, вымагаючы засуджэньня яго. 16 Я адказаў ім, што няма

абычáю ў Рымлян выдаваць чала-
века, перш чымся абжалаваны бу-
дзе мець жалабнікаў аблічна і адзяр-
жыць магчымасьць абароны ад аб-
вінаваньня. 17 Як жа яны прышлі
сюды, то, без адвалокі, назаўтрае я
сеў на судовае седава і расказаў
прывесьці таго чалавека. 18 Жалаб-
нікі, стоячы тут, праз нішто такое
не вінавалі, праз што я дапушчаў;
19 Але яны мелі некатрыя сьпярэч-
кі зь ім празь іх веру і празь яко-
гась Ісуса памерлага, праз катора-
га Паўла цьвердзіў, што Ён жывы.
20 І, як я сам быў у клопаце што да
гэтае справы, я сказаў: ці ня хоча
ён ісьці да Ерузаліму і там быць
суджаны што да гэтага? 21 Але як
Паўла адазваўся, быць пакіненым
на рассудак Аўгустаў, я расказаў
дзяржаць яго, пакуль пашлю яго да
цэсара".

22 Аґрыпа ж сказаў Фэсту: „Я
сам таксама хацеў бы паслухаць гэ-
тага чалавека". „Заўтра, сказаў тый,
ты пачуеш яго".

23 Дык назаўтрае Аґрыпа а Вер-
ніка прышлі зь вялікай пазорнась-
цю і ўвыйшлі ў судовую гасподу з
тысячнікамі а з начэльнікамі места,
і Фэст даў расказаньне прывесьці
Паўлу. 24 І сказаў Фэст: „Каролю
Аґрыпа а ўсі прытомныя з намі му-
жы, вы бачыце гэтага, супроці ка-
торага ўся множасьць Жыдоў зьвяр-
нулася да мяне з просьбаю ў Еру-
заліме й тут, крычачы, што ён ня
мае балей жыць. 25 Але я даведаў-
ся, што ён не зрабіў нічога гожага
сьмерці, і ён сам адазваўся да Аўґус-
та, дык я пастанавіў пасланць яго.
26 Я ня маю нічога пэўнага напі-
саць свайму гаспадару; затым пры-
вёў яго перад вас і асабліва перад
цябе, каролю Аґрыпа, каб, па раз-
глядзе, было імне што напісаць;
27 Бо імне здаецца, што неразваж-
на, пасылаючы вязьня, ня выявіць
жалабаў на яго".

**26** І Аґрыпа сказаў Паўлу: „Даз-
волена тэ гýкаць за сябе".
Тады Паўла, выцягнуўшы рукý
сваю, адказаў на сваю абарону:
2 „Каролю Аґрыпа, маю за шчась-
це, што сядні магу бараніцца перад
табою што да ўсяго, у чым мяне
вінуюць Жыды, 3 Асабліва затым,
што ты ведамец усіх звычаёў а
справаў сярод Жыдоў. Затым прашу
цябе выслухаць мяне цярпліва.
4 Парадак жыцьця майго, каторае
спачатку я праводзіў сярод народу
свайго ў Ерузаліме, ад маладосьці
ведамны ўсім Жыдом; 5 Яны здаўна
ведаюць празь мяне, калі захочуць
сьветчыць, што я жыў фарысэям,
подле найстродшае сэкты ў нашай
веры. 6 І цяпер я стаю перад судам
за спадзеву абятніцы, данае Богам
айцом нашым, 7 Каторай ужыцьцяў-
леньне спадзяюцца абачыць нашы
дванаццаць плямёнаў, шчыра слу-
жачы Богу дзень і ноч. Вось за гэ-
тую спадзеву, каролю Аґрыпа, віну-
юць мяне Жыды. 8 Чаму вы ўва-
жаеце за непраўдападобнае ў вашых
ачох, што Бог ускрышае мертвых?
9 Праўда, і я думаў, што маю шмат
дзеяць супроці імені Ісуса Назарэц-
кага. 10 Гэта я й рабіў у Ерузалі-
ме: адзяржаўшы ўладу ад найвыш-
шых сьвятароў, я шмат сьвятых за-
мыкаў у вязьніцы і, як забівалі іх,
я даваў свой голас. 11 І па ўсіх бож-
ніцах я шмат разоў мучыў іх і сіліў
блявузґаць; і, у надзвычайнай на іх
злосьці, перасьледавáў нават і ў на-
вонных местах. 12 Дзеля гэтага йду-
чы да Дамашку з уладаю а пару-
чэньням ад найвышшых сьвятароў,
13 Серадня на дарозе я абачыў, ка-
ролю, зь неба сьвятліню, ясьнейшую
за зьзяньне сонечнае, каторая зась-
вяціла навокал мяне й тых, што
йшлі з імною. 14 І, як усі мы палі
на зямлю, я пачуў голас, што казаў
імне гэбрэйскай моваю: ‚Саўле, Саў-
ле, чаму перасьлядýеш ты Мяне?
цяжка табе йсьці супроці восьцяў.



15 А я сказаў: ‚Хто ты Спадару?'
А Спадар сказаў: ‚Я Ісус, Каторага
ты перасьлядуеш. 16 Але ўстань і
стань на ногі свае, бо Я на тое зьл-
віўся табе, каб прызначыць цябе
за слугу а сьветку таго, што ты ба-
чыў і што Я аб'яўлю табе, 17 Вы-
баўляючы цябе зь люду гэтага і з
народаў, да каторых пасылаю цябе,
18 Адчыніць вочы ім, каб яны абяр-
нуліся ад цемні да сьвятліні і ад
улады шайтана да Бога, каб вераю
ў Мяне адзяржалі дараваньне гра-
хоў і дзель із пасьвячанымі'. 19 За-
тым, каролю Аґрыпа, я ня быў не-
паслухмены гэтай нябёснай відзені;
20 Але сьпярша жыхарам Дамашку
а таксама Ерузаліму, адлі ўсяму
краю Юдэйскаму а народам абяш-
чаў, каб каяліся й навярнуліся да
Бога, робячы ўчынкі гожыя каяты.
21 За гэта Жыды, няўшы мяне ў
сьвятыні, спрабавалі забіць мяне.
22 Але, адзяржаўшы помач ад Бога,
яшчэ дагэтуль стаю, сьветчачы ма-
лым і вялікім, ня кажучы нічога ін-
шага, як тое, што мела стацца, ка-
зáнае прарокамі а Масеям, 23 Што
меў Хрыстос цярпець і, першы
ўскрэшшы зь мертвых, абясьціць
сьвятліню люду і народам". 24 І, як
ён адказаў на абарону сваю ад уся-
го, Фэст кажа вялікім голасам: „Ша-
лееш ты, Паўле! шмат навукі да
шалу прыводзе цябе". 25 Але Паўла
сказаў: „Я не шалёны, найпачэсь-
ліўшы Фэсьце, але выказую словы
праўды а здаровага розуму; 26 Бо
ведае праз гэта кароль, перад като-
рым свабодна гýкаю; бо я перака-
наўшыся, што ад яго нічога з гэта-
га не схавана, бо ня ў куце гэта
дзеялася. 27 Ці верыш ты, каролю
Аґрыпа, прарокам? ведаю, што ве-
рыш".

28 Тады Аґрыпа сказаў Паўлу:
„За малым ты не пераканаў мяне
стаць хрысьцянінам". 29 А Паўла
сказаў: „Маліў бы я Бога, каб ці
мала, ці шмат, не адно ты, але ўсі,
што слухаюць мяне сядні, сталі та-
кімі, як Я, з выняткам гэтых зале-
заў".

30 І ўстаў кароль, і вайвода, і Вер-
ніка, і тыя, што сядзелі зь імі; 31 І,
адышоўшы, яны гýкалі мяжсобку,
кажучы: „Гэты чалавек нічога го-
жага сьмерці альбо зялезаў не зра-
біў". І сказаў Аґрыпа Фэсту: „Гэты
чалавек мог бы быць звольнены, ка-
лі б ён не адазваўся да цэсара".

**27** Як пастаноўлена было плысьці
нам да Італі, перадалі Паўлу й
некатрых іншых вязьняў сотніку
палку Аўґуставага, наймя Юль.
2 Тады, узышоўшы на караб адра-
міцкі, каб плысьці ля местаў аскіх,
мы паплылі. З намі быў Арыстарх
Македонянін із Салуня. 3 Назаўтрае
прыбылі да Сыдону. Юль жа аб-
ходзіўся з Паўлам добра і дазваляў
яму хадзіць да прыяцеляў, каб апе-
каваліся ім.

4 І, выплыўшы стуль, плылі ля
Кіпры, бо вятры былі праціўныя.
5 І, пераплыўшы мора супроці Кі-
лікі а Памфілі, прыбылі да Міры
Ліцкае. 6 Там сотнік знайшоў караб
аляксандрыскі, што плыў да Італі,
і пасадзіў нас на яго. 7 І памалу
плывучы шмат дзён, і ледзь дап-
лыўшы супроці Кніда — вятры ня
прыялі нам — мы даплылі аж да
Крыту ля Сальмона. 8 І, плывучы
зь цяжкасьцяй міма яго, прыбылі
на адно месца, званае Добрая Прыс-
тань, ад каторае было блізка места
Лясэя.

9 І мінула шмат часу, і плаўбá
была ўжо небясьпечная, бо й пост
ужо мінуў, дык Паўла радзіў, 10 Ка-
жучы ім: „Мужы, я бачу, што плаў-
ба будзе із шкодаю а зь вялікаю
стратаю ня толькі накладу а караб-
лю, але таксама нашаму жыцьцю".
11 Сотнік, адылі, валей верыў штыр-
ніку а собсьніку карабля, чымся
сказáнаму Паўлам. 12 А як Прыс-
тань ня была прытарнавана да зіма-
ваньня, большыня радзіла плысьці

стуль, каб, калі магчыма, як-колечы дасягчы Фэніку Крыцкага, ськіраванага на паўночны ўсход і паўднявы ўсход, і перазімаваць.

13 А як лагодна павеяў паўднявы вецер, думалі, што дасяглі мэты, паднялі калатоўку й паплылі ўздоўж Крыту, блізка берагу. 14 Але неўзабаве ўдырыў у яго гураґан, званы эўроклідон. 15 І як караб схапіла, ён ня мог працівіцца ветру, і мы аддаліся яму й панесьліся. 16 І, набегшы зь ветрам на абточак, званы Кляўда, мы ледзь маглі кіраваць, каб удзяржаць лодку; 17 Сьцягнуўшы яе, ужывалі сяродкаў абвязаваць караб; тады, баючыся, каб не набегчы на Сырт, спусьцілі ветразі і гэтак насіліся.

18 І, як бура нас кідала, назаўтрае выкідáлі наклад. 19 А пазаўтра сваімі рукамі выкідáлі карабельныя снасьці. 20 Ані сонца, ані зоры не паказаваліся шмат дзён, і немалáя бура напірала на нас; наапошку ўся надзея ратунку шчэзла.

21 І як доўга ўзьдзержаваліся ад ежы, тады Паўла, стаўшы пасярод іх, сказаў: „Мужы, надабе было паслухаць мяне і не адплываць ад Крыту, і ня мелі б гэтае шкоды ані страты. 22 А цяпер раджу вам асьмеліцца, бо ня будзе страты жыцьця каго-колечы з вас, адно карабля: 23 Бо стаў ля мяне гэтае ночы Ангіл Бога, Чый я і Катораму служу, кажучы: 24 ‚Ня бойся, Паўле, ты маеш стаць перад цэсарам, і вось, Бог падараваў цябе ўсімі тымі, што плывуць із табою’. 25 Затым, мужы, асьмельцеся, бо я веру Богу, што будзе так, як імне сказáна. 26 Але мы маем наткнуцца на нейкі абток”.

27 І як мінула чатырнанцатая ноч, як мы былі ношаны па Адры, каля поўначы, плаўбіты дапушчалі, што бліжацца да яко-колечы зямлі. 28 І, памераўшы глыбіню, знайшлі дваццаць сажняў; а крыху далей, ізноў памераўшы, знайшлі пятнанцаць сажняў. 29 Баючыся, каб ня лýчыць на скальныя месцы, кінулі із штырна чатыры калатоўкі і нецярпліва чакалі дня.

30 Як жа плаўбіты, манючыся ўцячы з карабля, спусьцілі на мора лодку пад прыклепам, быццам хочуць кінуць калатоўкі зь пераду, 31 Паўла сказаў сотніку а жаўнерам: „Калі гэтыя не застануцца на караблю, вы ня можаце ўратавацца”. 32 Тады жаўнеры адцялí паварозы лодкі, і яна апала.

33 І на додніцы Паўла ўмаўляў іх ізьесьці, кажучы: „Сядні чатырнанцаты дзень, як вы, у спадзяваньню, застаіцéся бязь ежы, нічога не паспытаўшыся. 34 Затым прашу вас ізьесьці: гэта паможа ратунку вашаму, бо ані волас із галавы вашае ні ў кога не загіне”. 35 І, сказаўшы гэта, узяў хлеб, і, падзякаваўшы Богу, у прытомнасьці ўсіх разламіў, і пачаў есьці. 36 Тады ўсі, асьмеліўшыся, пачалí есьці. 37 Было ж усіх нас на караблю дзьвесьце семдзясят шэсьць душ. 38 І, пад’еўшы, палягчалі караб, выкідаючы пшонку ў мора.

39 І, як разаднела, зямлі не пазналі, адно ўгледзелі нейкую затоку із спусклястым берагам, да каторае й наважылі, калі магчыма, ськіраваць караб. 40 І, выцягнуўшы калатоўкі, паплылí па мору; у тым самым часе, разьвязаўшы паварозы штырна і падняўшы малýю ветразь із ветрам, ськіраваліся да берагу. 41 І як лýчылі на тое месца, ідзе два моры сходзяцца, караб спыніўся на мельстыні. Пярэдні канец карабля, удырыўшыся, стаў нярухома, зад жа ламіўся сілаю хваляў.

42 Жаўнеры зрáдзіліся забіць вязьняў, каб хто-колечы, выплыўшы, ня ўцёк. 43 Але сотнік, манячыся выратаваць Паўлу, забараніў ім гэты замéр і казаў умеючым плаваць кінуцца першым, каб выплысьці на зямлю. 44 Засталыя ж некатрыя на дошках, некатрыя на кавалках карабля; і гэтак сталася, што ўсі выратаваліся на зямлю.



28 Выратаваўшыся, даведаліся, што абток завецца Меліта. 2 І барбары выказалі нам немалýю дабрыню, бо, расклаўшы цяпло, прынялí ўсіх нас, бо быў дождж а сьцюжа. 3 Як жа Паўла зьбер бярэмца гальля і клаў на цяпло, гад, уцякаючы ад гарачыні, прыліп да рукі ягонае. 4 І як барбары абачылі павіслае на руццэ ягонай зьверанё, гýкалі адзін аднаму: „Гэты чалавек, пэўне, забіўца, калі ўцекламу з мора справядлівасьць не дазволіла жыць”. 5 Ён, адылí, строс зьверанё ў цяпло, не дазнаўшы ніякае шкоды. 6 Яны ж спадзяваліся, што спохне альбо зьнецікі паваліцца мертвы; але як яны чакалі доўга і бачылі, што нічога надзвычайнага ня сталася яму, зьмянілі свой пагляд і сказалі, што ён бог.

7 У суседзтве места таго былí землі начэльніка абтоку, нáймя Публь, каторы прывеціў нас і тры дні вельма прыязьліва частаваў. 8 І прыгадзілася, што айцец Публяў ляжаў хворы ў гаручцы а крываўцы. Паўла ўвыйшоў да яго, і памаліўся, і, узлажыўшы рукі свае на яго, уздаравіў яго. 9 Як жа гэта сталася, іншыя, што на тым абтоку былí хворыя, прыходзілі і былí ўздараўляны; 10 Каторыя таксама рабілі нам шмат сьці і, як мы адплывалі, далí нам падаркі на нашы патрэбы.

11 За тры месяцы мы адплылі караблём, што зімаваў на абтоку, александрыскім, гэрбу Дыёскуры. 12 І, прыплыўшы да Сыракуз, заставаліся тры дні; 13 Скуль, наўкола плывучы, прыбылí да Рэґі; і як за дзень адмяніўся вецер на паўднявы, назаўтрае прыбылí да Путэолі, 14 Ідзе знайшлі братоў, каторыя прасілі нас застацца зь імі дзён сем.

І гэтак мы прыбылí да Рыму. 15 І адгэтуль браты,.пачуўшы праз нас, вышлі нам наўпярэймы аж да Апавае роўнядзі а Трох корчмаў, каторых абачыўшы, Паўла дзякаваў Богу і акрыяў.

16 А як прышлі да Рыму, сотнік даставіў вязьняў вайводцу, а Паўлу дазволена было застацца апрыч із жаўнерам, што яго сьцярог.

17 І сталася за тры дні, што ён згýкаў галоўных із Жыдоў і, як яны зышліся, казаў ім: „Мужы браты! не зрабіўшы нічога супроці люду альбо звычаёў айцоўскіх, я быў выданы як вязень із Ерузаліму ў рукі Рымлян. 18 Яны, выпытаўшы мяне, хацелі вывальніць, бо нямаш у мяне ніякае прычыны, гожае сьмерці. 19 Але Жыды перачылі, дык я мусіў адазвацца да цэсара, але не каб вінаваць за што-колечы народ свой. 20 З гэтае прычыны я гукáў вас, каб пабачыцца з вамі і памужаваць із вамі, бо за надзею Ізраеляву спутаны я гэтымі зялезамі”.

21 Яны ж сказалі яму: „Мы лістоў не адзяржалі праз цябе зь Юдэі, ані з прыходзячых братоў ніхто не наказаў праз цябе і не сказаў чаго-колечы благога; 22 Але ўважаем за важнае пачуць ад цябе, як ты думаеш; бо ведама нам, што праз гэту гэрэсь усюдых сьперачаюцца”.

23 І, прызначыўшы яму дзень, вельма шмат прышло да яго да гасподы; і ён з раньня да вечара ўрочыста сьветчыў ім праз гаспадарства Божае, пераконуючы іх праз Ісуса з права Масеявага а з прарокаў. 24 І адныя пераконаваліся сказáным ім, а другія ня верылі. 25 І, не згаджаючыся мяжсобку, яны выходзілі, як Паўла сказаў ім адно слова: „Добра казаў Дух Сьвяты Ісаям прарокам айцом нашым, кажучы: 26 ‚Ідзі да люду гэтага і скажы: слухам пачуеце, і ніякім парадкам не зразумееце; і гледзячы

глядзець будзеце, і ніякім парадкам
не абачыце; 27 Бо заплыло тукам
сэрца люду гэтага, і ледзь чуюць
вушамі сваімі, і зачынілі вочы свае,
каб неяк не пабачыць ачыма сваімі,
і ня чуць вушамі, і не зразумець
сэрцам сваім, і не навярнуцца, каб Я
ўздаравіў іх'. 28 Дык ведайце, што
спáсеньне Божае паслана народам;
яны й пачуюць". 29 І, як ён сказаў
гэта, Жыды адышлі, вельма сьпера-
чаючыся мяжсобку.

30 І заставаўся ён два гады ў соб-
скай найманай гасподзе, і прыймаў
усіх, што прыходзілі да Яго, 31 Аб-
яшчаючы гаспадарства Божае і ву-
чачы праз Спадара Ісуса Хрыста
сусім адважна, без пераказаў.

## ЛІСТ СЬВ. ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА РЫМЛЯН

1 Паўла, нявольнік Ісуса Хрыста,
пагукáны апостал, апрычаны
да дабравесьці Божае, 2 Каторую Ён
уперад абяцаў прарокамі Сваімі ў
Пісьмах сьвятых, 3 Праз Сына Свай-
го, Каторы прышоў подле цела з
насеньня Давідавага, 4 Агалашаны
Сынам Божым у сіле, подле Духа
сьвятасьці, пераз ускрысеньне зь
мертвых, празь Ісуса Хрыста, Спа-
дара нашага, 5 Пераз Каторага
мы адзяржалі ласку а апосталства
да паслухменства веры памеж усіх
народаў дзеля імені Ягонага, 6 Па-
меж каторых і вы, пагукáныя Ісу-
сам Хрыстом, — 7 Усім, што ў
Рыме, умілаваным Божым, пагукá-
ным сьвятым: ласка вам і супакой
ад Бога, Айца нашага, і ад Спадара
Ісуса Хрыста.

8 Наўперад дзякую Богу свайму
перазь Ісуса Хрыста за ўсіх вас,
што вера ваша абяшчаецца па ўсім
сьвеце; 9 Бо сьветка імне Бог, Ка-
тораму служу духам сваім у дабра-
весьці Сына Ягонага, што бязупын-
ку мяную вас, 10 Заўсёды просячы
ў малітвах сваіх, каб як-колечы й
калі-колечы з волі Божае я мог да-
сьпешна да вас прысьці. 11 Бо я
вельма жадаю бачыць вас, каб даць
вам некатры дар духоўны дзеля
ўмацаваньня вашага, 12 Значыцца,
каб пацешыцца разам із вамі су-
польнай вераю вашай і маёй.

13 Не хачу ж, браты, каб вы ня
ведалі, што я часта маніўся пры-
быць да вас, (але пераказы меў аж
дагэтуль,) каб мець які плод і ў вас,
як запраўды і ў іншых народаў.

14 Я даўжбіт Грэкам і барбарам,
мудрым і неразумным. 15 Дык, па-
колькі ад мяне залежа, я гатоў
абяшчаць дабравесьць і вам, като-
рыя ў Рыме. 16 Бо я не саромлюся
дабравесьці, бо гэта ё магутнасьць
Божая да спáсеньня кажнаму вера-
чаму, перш Жыду й Грэку.

17 Бо справядлівасьць Божая
аб'яўляецца ў ёй зь веры ў веру, як
напісана: „Але справядлівы вераю
жыў будзе".

18 Бо аб'яўляецца гнеў Божы зь
неба на кажную бязбожнасьць а не-
справядлівасьць людзкýю, што за-
дзержуе праўду ў несправядлівасьці.
19 Бо што можна ведаць праз Бога,
яўна ім, бо Бог аб'явіў ім; 20 Бо
нявідомыя Ягоныя, вечная сіла Яго-
ная а Боства, ясна відомыя ад ства-
рэньня сьвету пераз разгляданьня
стварэньняў, так што няма ім вы-
бачаньня. 21 Бо, пазнаўшы Бога, ня
сьцілі Яго як Бога і ня дзякавалі
Яму, але сталі марныя ў падумках
сваіх, і зацемнена нямудрае сэрца
іхнае: 22 Маючы сябе за мудрых,
сталі неразумныя, 23 І адмянілі сла-
ву нязьнішчальнага Бога на абразы
падобнасьці сьмяротнага чалавека а
птушак а чацьвераногіх а паўзуноў.

24 Затым і выдаў іх Бог у жадах
сэрцаў іхных нечысьці, зганьбіць
целы свае мяжсобку. 25 Яны адмя-



нілі праўду Божую на ману, і сьцілі,
і служылі стварэньню замест Ства-
рыцелю, дабраславёнаму на векі.
Амін.

26 Затым выдаў іх Бог на саром-
ныя жáды, ажно жанкí іхныя ад-
мянілі прыроднае ўжываньне на
праціўнае прыродзе; 27 Падобна й
мужчыны, пакінуўшы прыроднае
ўжываньне жонкі, загараліся ў сва-
ёй жадзе адзін да аднаго, мужчына
з мужчынам робячы нягожае і
адзержуючы самы ў сабе заплату,
іхнаму аблуду адказуючую.

28 А як яны не ўважалі за пат-
рэбнае мець Бога ў сваім розуме,
дык выдаў іх Бог бязульнаму розу-
му, рабіць неналежачае. 29 Яны на-
поўненыя ўсялякай несправядліва-
сьцяй, бязулствам, нягоднасьцяй,
прагавітасьцяй, злосьцяй, поўныя
зáвідасьці, забіўства, сьпярэчкі, хіт-
рыні, благіх абычаёў, удаваньнікі,
30 Абмоўцы, ненавісьнікі Бога, на-
чэпныя, пыхатыя, хвалькі, вынаход-
нікі на ліха, непаслухменыя бацькі-
ком, 31 Неразважныя, 32 Няверныя,
бяз прыродных пачуцьцяў, нязгодлі-
выя, неміласэрныя. 32 Яны, ведаю-
чы праз справядлівы суд Божы, што
гэтак чынячыя гожыя сьмерці, ня
толькі робяць гэта, але й захапля-
юцца тымі, што робяць гэта.

2 Дык невыбачальны ты, о ча-
лавеча, каторы судзіш; бо тым
жа судам, якім судзіш іншага, за-
суджаеш самога сябе, бо, судзячы,
чыніш тое самае. 2 А мы ведаем,
што суд Божы ё подле праўды на
чынячых такія рэчы.

3 Ці ўважаеш ты, о чалавеча, ка-
торы судзіш чынячых такія ўчынкі
і робіш іх, што ўцячэш ад суду Бо-
жага? 4 Ці ўлегцы маеш багацьце
дабрыні Ягонае а выбачнасьць а
цярплівосьць, ня ведаючы, што даб-
рыня Божая вядзець цябе да кáя-
ты? 5 Але подле калянасьці свае а
някáятнага сэрца зьбіраеш сам сабе
гнеў на дзень гневу а аб'яўленьня
справядлівага суду Божага, 6 Като-
ры адплаце кажнаму подле ўчынкаў
ягоных: 7 Тым, што вытрывалась-
цяй у добрых учынках шукаюць
славы а сьці а нязьнішчальнасьці —
жыцьцё вечнае; 8 А звадлівым а не-
паслухменым праўдзе, але паслух-
меным несправядлівасьці, гнеў а
абурэньне. 9 Атуга а гарота кажнай
душы чалавека, што робе ліха, перш
Жыду й Грэку; 10 Але слава а
чэсьць а супакой кажнаму, што робе
дабро, перш Жыду й Грэку! 11 Бо
нямаш у Бога прыяньня асобам.

12 Бо хто ізграшыў вонках Зако-
ну, вонках Закону й загіне; а хто
ізграшыў пад Законам, будзе суджа-
ны подле Закону, — 13 Бо ня тыя,
што слухаюць Закон, справядлівыя
перад Богам, але дзяржачыя Закон
будуць апраўлены; 14 Бо, калі па-
гане, Закону ня маючыя, дзе-
юць подле прыроды законнае, яны,
ня маючы Закону, самы сабе за-
кон; 15 Каторыя паказуюць, што
справа закону напісана ў іх у сэр-
цах, праз што сьветча сумленьне
іхнае а думкі іхныя, то вінуючыя,
то праўдзячыя адна адну, — 16 У
дзень, калі, подле дабравесьці маé,
Бог будзе судзіць таемныя рэчы
людзкія перазь Ісуса Хрыста.

17 Вось, ты завешся Жыдам, і
здаешся на Закон, і хвалішся Бо-
гам, 18 І знаеш волю, і, адрозьню-
ючы, скумаеш, што найлепшае, на-
вучаны із Закону, 19 І пэўны, што
ты павадыр нявісных і сьвятло тым,
што ў цямноте, 20 Наўчыцель нера-
зумных, вучыцель бязьлетак, маючы
зразу веды а праўды ў Законе. 21 Як
жа ты, вучачы іншых, ня вучыш
сябе самога? Агалашаючы ня кра-
сьці, крадзеш? 22 Кажучы ня чужа-
ложыць, чужаложыш? брыдзячыся
балванамі, грабіш сьвятыні? 23 Ты,
каторы хвалішся Законам, высту-
пам із Закону зьневажаеш Бога?
24 Бо, „з прычыны вас на імя Бо-

жае блявузгаюць у народаў", як напісана.

25 Абразаньне карыснае, калі поўніш Закон; а калі ты выступнік із Закону, абразаньне твае стала неабразаньням. 26 Значыцца, калі неабрэзаны дзяржыць пастановы Закону, дык ці ня будзе неабразаньне ягонае залічана за абразаньне? 27 І неабрэзаны подле прыроды, дзяржа́чы закон, ці не засудзе цябе, узрушыцеля Закону, што маеш літару а абразаньне?

28 Бо ня тый Жыд, што звонку, ані тое абразаньне, што навоннае, на целе; 29 Але тый Жыд, хто пата́й, і абразаньне сэрца, у духу, ня літараю, катораму пахвала́ не ад людзёў, але ад Бога.

3 Дык што за перавага ў Жыда, альбо што за карысьць із абразаньня? 2 Шмат усяляк. Наўперад, што ім былі́ даверааны Пісьмы Божыя. 3 Бо што ж? Калі некатрыя былі няверныя, нявернасьць іхная памярцьвіць вернасьць Божую? 5 Няхай ня станецца! Але няхай будзе Бог праўдзівы, а кажны чалавек манлівы, як напісана: „Каб Ты быў аправены ў словах Сваіх і перамог, як будзеш у судзе Сваім". 5 А калі наша несправядлівасьць адкрывае справядлівасьць Божую, дык што мы скажам? што Бог несправядлівы, калі выказуе гнеў? (кажу палюдзку). 6 Няхай ня станецца! Бо як Богу судзіць сьвет? 7 Бо калі праўда Божая маёй маною была́ ў збытку на славу Яму, чаму ж яшчэ я таксама бываю суджаны, як грэшнік? 8 І ці ня чыньма ліха, каб сталася дабро, як нас крыўдна вінуюць, і як некатрыя несправядліва цьвердзяць, што мы казалі? Справядлівы суд на такіх.

9 Дык што ж? Ці мы лепшыя? Ані не. Бо мы ўперад давялі, што як Жыды, так і Грэкі, усі пад грэхам, 10 Як было напісана: „Няма справядлівага ні воднага, 11 Няма разумеючага, ніхто ня шукае Бога; 12 Усі адвярнуліся разам, сталі бескарысныя; няма чынячага дабрыню, няма ні воднага. 13 Горла іхнае — адчынены гроб; языкамі сваімі ашукуюць; атрута гадава пад вуснамі іхнымі. 14 Рот іхны поўны праклёну а гарчэлі. 15 Ногі іхныя борздыя на разьліцьцё крыві; 16 Разьвярненьне а згуба на дарогах іхных; 17 І дарогі супакою яны не пазналі. 18 Няма страху Божага перад ачыма іхнымі".

19 Вось жа, мы ведаем, што штоколечы Закон кажа, кажа да тых, што пад Законам, каб кажны рот заткнёны быў і ўвесь сьвет апынуўся пад судам Божым, 20 Бо ўчынкамі Закону не аправіцца ніякае цела перад Ім, бо Законам пазнаецца грэх.

21 Але цяпер без Закону справядлівасьць Божая зьявілася, пасьвечаная Законам а пракрокамі, 22 Справядлівасьць Божая перазь веру ў Ісуса Хрыста, у вусіх і на ўсіх вернікаў; бо нямаш розьніцы, 23 Бо ўсі ізграшылі і спабыты славы Божае, 24 адзержуюць аправеньне дарма, з ласкі Ягонае, адкупленьням у Хрысту Ісусу, 25 Каторага Бог выдаў на адкупленьне перазь веру ў кроў Ягоную, дзеля паказаньня справядлівасьці Свае ў дараваньню грахоў, уперад учыненых, у часе цярплівосьці Божае, 26 Да паказаньня справядлівасьці Свае ў цяперашнім часе, каб Ён справядлівым быў і праўдзячым таго, хто зь веры Ісусавае.

27 Дык ідзе хвальня? яна вылучана. Якім законам? учынкамі? Не, але законам веры. 28 Бо мы ўважаем, што людзіна́ правіцца вераю, бяз учынкаў Закону. 29 Ці Бог Жыдоў толькі? ці не народаў таксама? Але, таксама народаў; 30 Бо запраўды Бог адзін, Каторы праўдзе абразаньне подле веры і неабразаньне вераю.



31 Дык мы касуем Закон вераю? Няхай ня станецца так! але Закон мацуем.

4 Што, скажам, Абрагам, айцец наш, прыдбаў подле цела? 2 Бо калі Абрагам аправіўся ўчынкамі, ён мае чым хваліцца, але не перад Богам. 3 Бо што кажа Пісьмо? „І паверыў Абрагам Богу, і гэта залічылася яму за справядлівасьць". 4 Таму, хто робе, ня з ласкі залічаецца заплата, але з абавязку; 5 А таму, хто ня робе, але вера ў Таго, хто праўдзе бязбожнага, вера ягоная залічаецца за справядлівасьць. 6 Гэтак нават Давід завець шчасьлівай людзіну, каторай Бог залічае справядлівасьць незалежна ад учынкаў: 7 „Шчасьлівыя, чые бясправі дараваныя і чые грахі пакрытыя. 8 Шчасьлівая людзіна́, каторай Спадар не залічыў грэху".

9 Дык дабраславенства гэта належа абразаньню ці й неабразаньню? Мы кажам, што Абрагаму вера залічана за справядлівасьць. 10 Дык як гэта было залічана? у вабразаньню ці ў неабразаньню? Не ў вабразаньню, але ў неабразаньню. 11 І знак абразаньня ён адзяржаў, як пячаць справядлівасьці веры, што была́ ў неабразаньню, так што ён можа быць айцом усіх вернікаў у неабразаньню, каб і ім залічалася справядлівасьць, 12 І айцом абразаньня тых, што ня толькі з абразаньня, але таксама, каторыя ходзяць сьлядамі веры айца нашага Абрагама, што была́ перад абразаньням.

13 Бо не Законам дана Абрагаму або насеньню ягонаму быць спадкаемцам сьвету, але справядлівасьцяй веры. 14 Бо калі тыя, што із Закону, спадкаемцы, дык змарнавана вера, і абятніца ня дзее; 15 Бо Закон дзее гнеў, і йдзе няма Закону, няма й выступу.

16 Дык із веры ё, каб магло быць подле ласкі, каб абятніца была пэўная ўсяму насеньню, ня толькі тым, што із Закону, але й тым, што зь веры Абрагамовае, каторы айцец усіх нас, 17 (Як напісана: „Я прызначыў цябе за айца шмат народам") перад Богам, Катораму ён паверыў, Каторы ажыўляе мертвых і завець няіснуючае, як існуючае. 18 Каторы звыш надзеі верыў у надзею, што будзе айцом шмат народам, подле сказа́нага: „Так будзе насеньне твае". 19 І, ня будучы млявым у веры, ён не зважаў на собскае цела свае, што, будучы стагодняе, ужо памярцьвела, ані на памярцьвеньне ўлоньня Сорынага; 20 Ня сумляўся ў вабятніцы Божай няверaю, але пасіліўся вераю, даўшы хвалу́ Богу, 21 І будучы супоўна пераканаўшыся, што што-колечы Ён абяцаў, можа й зрабіць. 22 І затым гэта было залічана яму за справядлівасьць".

23 Вось жа, гэта ж было напісана не праз яго аднаго, што яму залічана будзе, 24 Але й нам, тым будзе залічана, што вераць у Таго, Каторы ўскрысіў Ісуса, Спадара нашага, зь мертвых, 25 Каторы выданы за грахі нашы і быў ускрэшаны дзеля аправеньня нашага.

5 Дык, аправіўшыся вераю, мы маем мір із Богам праз Спадара нашага Ісуса Хрыста, 2 Праз Каторага вераю й адзяржалі мы прыступ да тае ласкі, у каторай стаім і хвалімся надзеяю славы Божае.

3 І не адно ёю, але хвалімся й атугаю, ведаючы, што атуга вытварае цярплівосьць, 4 Ад цярплівосьці ўзумеласьць, ад узумеласьці надзея, 5 А надзея не засароме, бо міласьць Божая вылілася ў сэрцы нашыя Духам Сьвятым, даным нам. 6 Бо, як мы яшчэ млявыя былі́, Хрыстос у належным часе памер за бязбожных. 7 Бо за справядлівага бадай ніхто не памрэць, яшчэ бо за добрага можа хто й адважыўся б памерці. 8 Але Бог Сваю міласьць да нас даводзе тым, што, як мы былі

яшчэ грэшнікамі, Хрыстос памер за нас. 9 Затым пагатове цяпер, будучы аправеныя Крывёю Ягонай, спасемся Ім ад гневу. 10 Бо, калі, будучы нéпрыяцелямі, мы былі пагоджаны з Богам сьмерцю Сына Ягонага, дык пагатове, пагадзіўшыся, спасемся жыцьцём Ягоным. 11 І ня толькі гэтак, але й хвалімся Богам пераз Спадара нашага Ісуса Хрыста, пераз Каторага мы адзяржалі цяпер пагаджэньне.

12 Затым, як пераз аднага чалавека ўвыйшоў на сьвет грэх, а пераз грэх — сьмерць, так увыйшла сьмерць на ўсіх людзёў, бо ў ім усі ізграшылі. 13 Бо й да Закону быў грэх на сьвеце; але грэх не залічаецца, як няма Закону. 14 Сьмерць, адылí, рáдзіла ад Адамá аж да Масея і тых, што не грашылі падобна да выступу Адамовага, каторы ёсьць абраз прыйдучага.

15 Але не як выступ, быў свабодны дар. Бо калі пераз выступ аднаго шмат памерла, шмат балей ласка Божая а дар із ласкі тае аднае Людзіны Ісуса Хрыста шчодра выліты на шмат. 16 І дар не як дзеяньне грэху таго аднаго чалавека; бо суд за адзін выступ на засуджэньне, а дар на аправеньне ад шмат выступаў. 17 Калі, з прычыны выступу аднаго чалавека сьмерць рáдзіла пераз аднаго таго чалавека, шмат больш тыя, што прыймуць багацьце ласкі і дар справядлівасьці, будуць рáдзіць у жыцьцю пераз таго аднаго Ісуса Хрыста.

18 Затым, як выступ аднаго прыводзе на ўсіх людзёў засуджэньне, так учынак справядлівасьці прыводзе ўсіх людзёў да аправеньня жыцьця. 19 Бо, як непаслухменствам аднаго чалавека шмат хто стаў грэшным, так і паслухменствам Аднаго стане справядлівым шмат хто. 20 Закон прышоў пасьлей, і памнажыўся выступ; але йдзе грэх збытна памнажыўся, тым больш была збытная ласка, 21 Каб, як грэх рáдзіў у сьмерці, так і ласка рáдзіла пераз справядлівасьць да жыцьця вечнага перазь Ісуса Хрыста, Спадара нашага.

**6** Што ж скажам? ці маем заставацца ў грэху, каб ласка павялічалася? 2 Няхай ня станецца так. Мы памерлі што да грэху: як мы далéй будзем жыць у ім? 3 Ці вы ня ведаеце, што хто хрысьціўся ў Хрыста Ісуса, у сьмерць Ягоную хрысьціўся? 4 Дык мы пахаваныя зь Ім хрыстом у сьмерць, каб, як Хрыстос ускрэс із мертвых славаю Айца, так і нам хадзіць у вадноўленым жыцьцю. 5 Бо, калі мы задзіночыліся зь Ім падобнасьцяй сьмерці Ягонай, дык і ўскрысеньням будзем, 6 Ведаючы тое, што стары чалавек наш укрыжаваны зь Ім, каб памерцьвена было цела грэху, каб мы ня служылі далей грэху; 7 Бо памерлы аправены ад грэху. 8 Вось жа, калі мы памерлі з Хрыстом, мы верым што й жыць будзем із Ім, 9 Ведаючы, што Хрыстос, ускрэсшы зь мертвых, болей не памірае; сьмерць ня мае над Ім улады. 10 Бо, што Ён памер, памер аднойчы грэху; але што жывець, жывець Богу. 11 Гэтак і вы ўважайце сябе за мертвых грэху, але за жывых Богу ў Хрысту Ісусу, Спадару нашым.

12 Дык няхай ня рáдзе грэх у сьмяротным целе вашым, каб слухаць жадаў яго, 13 Ані аддавайце чаланоў сваіх на снадзі несправядлівасьці да грэху, але самы сябе Богу аддавайце, як жывыя зь мертвых, і чаланы свае на снадзі справядлівасьці Богу. 14 Бо грэх ня мае мець улады над вамі, бо вы не пад Законам, але пад ласкаю.

15 Што ж? будзем грашыць, бо мы не пад Законам, але пад ласкаю? Няхай ня станецца так. 16 Ці вы ня ведаеце, што каму вы аддаіцé сябе за слугаў да паслухменства,



таму вы слугі, каго слухаеце, або слугі грэху да сьмерці, або паслухменства да справядлівасьці? 17 Але дзякі Богу, быўшы ўперад слугамі грэху, ад сэрца паслухалі таго спосабу навукі, якога навучаны. 18 Вывальніўшыся ж ад грэху, вы сталі слугамі справядлівасьці.

Гýкаю палюдзку, дзеля слабасьці цела вашага. 19 Бо, як вы аддавалі чаланы свае на службу нечысьці і бяспраўя да бяспраўя, так цяпер аддавайце чаланы свае на службу справядлівасьці да ўсьвячэньня. 20 Бо, як вы былí слугамі грэху, вы былі вольныя ад справядлівасьці. 21 Дык што за плод мелі вы тады з тога, што цяпер саромíцеся? бо канец іх — сьмерць. 22 Але цяпер, вывальніўшыся ад грэху і стаўшы слугамі Богу, вы маеце плод свой да сьвятасьці і канец — жыцьцё вечнае. 23 Бо адплата за грэх — сьмерць, але ласка Божая — вечнае жыцьцё ў Хрысту Ісусу, Спадару нашым.

**7** Альбо вы ня ведаеце, браты (бо гýкаю знаючым Закон), што Закон рáдзе людзінý, пакуль яна жывець? 2 Замýжка прывязáна Законам да жывога мужа; а калі муж памрэць, яна вольная ад права мужняга. 3 Затым назавуць чужаложніцаю, калі выйдзе за другога, пакуль муж жывець; калі ж памрэць муж, яна вольная ад Закону і ня будзе чужаложніцаю, вышаўшы за другога мужа.

4 Гэтак і вы, браты, памерлі Закону перазь цела Хрыстова, каб былí іншага, Таго, Каторы ўскрэс із мертвых, каб мы давалі плады Богу. 5 Бо, як мы былí ў целе, жады грахоў пераз Закон дзеялі ў чаланох нашых, каб даваць плады сьмерці; 6 Але цяпер мы вольныя ад Закону, памершы таму , у чым былí дзяржаныя, так што маем служыць у навіне духа, а ня ў старасьці літары.

7 Што ж скажам? Закон грэх? Няхай ня станецца так! Але я не пазнаў бы грэху, каб не пераз Закон; я не разумеў бы й пажаданьня, калі б Закон не сказаў: „Не пажадай". 8 Але хрэх, узяўшы прычыну ад расказаньня, зьдзеяў у імне ўсялякае пажаданьне; бо без Закону грэх мертвы.

9 Я жыў калісь без Закону; але як прышло расказаньне, то грэх ажыў, а я памер; 10 І такім парадкам расказаньне да жыцьця было да сьмерці, 11 Бо грэх, узяўшы прычыну пераз расказаньне, ізьвёў мяне і забіў ім. 12 Затым Закон сьвяты, і расказаньне сьвятое, і справядлівае, і добрае.

13 Дык добрае сталася сьмерцяй імне? Няхай ня станецца так! але грэх, каб выявіцца грэхам, дзеяў у імне сьмерць пераз дабро, так што грэх становіцца надта грэшным пераз расказаньне.

14 Бо мы ведаем, што Закон духоўны, а я цялесны, праданы грэху. 15 Бо я ня ведаю, што раблю; бо ня чыню, што зычу, але што ненавіджу, тое дзею. 16 Калі ж дзею тое, чаго ня зычу, дык згаджаюся із Законам, што ён добры; 17 Затым цяпер ня я раблю тое, але жывучы ў імне грэх. 18 Бо ведаю, што ня жывець у імне, значыцца ў целе маім, добрае; бо зычаньне дабра ёсьць у імне, але каб зрабіць добрае, не знаходжу. 19 Дабра, каторага зычу, ня дзею, а ліха, каторага ня зычу, чыню. 20 Калі ж дзею тое, чаго ня зычу, ужо ня я раблю тое, але жывучы ў імне грэх. 21 Дык знаходжу закон, што як я зычу дзеяць добрае, благое дзяржыцца мяне. 22 Бо подле нутранога чалавека знаходжу прыемнасьць у Законе Божым; 23 Але ў чаланох сваіх бачу закон іншы, што ваюе із законам розуму майго і робе мяне паланенікам закону грэшнага, што ёсьць у чаланох маіх. 24 Няшчас-

ная я людзіна́! Хто выбаве мяне ад
гэтага цела сьмерці? 25 Дзякую Бо-
гу перазь Ісуса Хрыста, Спадара на-
шага. Дык тый жа самы я розумам
служу Закону Божаму, але целам
закону грэху.

8 Дык няма цяпер ніякага засу-
джэньня тым, што ў Хрысту
Ісусу жывуць ня подле цела, але
подле духа, 2 Бо закон духа жыцьця
ў Хрысту Ісусу вывальніў мяне ад
закону грэху а сьмерці. 3 Як Закон,
скволены целам, быў слабы, дык
Бог паслаў Сына Свайго ў падобна-
сьці цела грэшнага за грэх і засу-
дзіў грэх у целе, 4 Каб вымаганьне
Закону споўнілася ў нас, каторыя
жывем ня подле цела, але подле
духа.

5 Бо жывучыя подле цела празь
цялеснае думаюць, а жывучыя под-
ле духа — праз духоўнае. 6 Падум-
кі цялесныя ё сьмерць, а падумкі
духоўныя — жыцьцё а супакой, 7 Бо
цялесныя падумкі ё не́прыязьньства
супроці Бога, бо яны не паддаюцца
закону Божаму, дый запраўды ня
могуць. 8 Затым тыя, што ў целе, ня
могуць угадзіць Богу.

9 Але вы ня ў целе, але ў Духу,
калі запраўды Дух Божы жывець
у вас. Калі ж хто ня мае Духа Хры-
стовага, тый не Ягоны. 10 А калі
Хрыстос у вас, цела запраўды мерт-
вае да грэху, але дух жывы да
справядлівасьці. 11 Калі ж Дух Та-
го, хто ўскрысіў Ісуса зь мертвых,
жывець у вас, Тый, што ўскрысіў
Ісуса зь мертвых, ажыве сьмярот-
ныя целы вашыя Духам Сваім, Ка-
торы жывець у вас.

12 Дык, браты, мы даўжбіты ня
целу, каб жыць подле цела; 13 Бо,
калі жывіце́ подле цела, маеце па-
мерці; але калі духам забіваеце
ўчынкі цела, жывыя будзеце. 14 Бо
ўсі, воджаныя Духам Божым, ё сы-
нове Божыя; 15 Бо вы не прынялі́
духа няволі ізноў дзеля страху, але
прынялі духа ўсынаўленьня, като-
рым гука́ем: „Аўва! Войча!” 16 Гэ-
ты самы Дух сьветча духу нашаму,
што мы — дзеці Божыя. 17 А калі
дзеці, дык і спадкаемцы; спадкаем-
цы Божыя, суспадкаемцы Хрысто-
вы, калі запраўды церпім ізь Ім, каб
ізь Ім і ўславіцца.

18 Бо ўважаю, што цяперашнія
цярпеньні не раўня прыйдучай сла-
ве, што аб'явіцца нам. 19 Бо, рупат-
ліва выглядаючы, стварэнцы спа-
дзяюцца аб'яўленьня сыноў Божых,
— 20 Бо стварэнцы паддаліся мар-
насьці не самахоць, але з волі таго,
хто паддаў іх, — у надзеі, 21 Што
й самы стварэнцы вывальнены бу-
дуць із няволі раскладу да свабо-
ды славы дзяцей Божых.

22 Бо мы ведаем, што ўсе ства-
рэньне разам стогне і разам трудніц-
ца ў болю аж дагэтуль; 23 І не адно
яно, але й мы самы, маючы пачатак
Духа, і мы ў сабе стогнем, рымсьця-
чы чакаем усынаўленьня, адкуп-
леньня цела свайго. 24 Бо мы спа-
сёныя надзеяй. Але надзея відомая
ня ё надзея; бо, калі хто бача, чаго
яму й спадзявацца? 25 Але калі
спадзяемся таго, чаго ня бачым, та-
ды, рымсьцячы, спадзяемся ў цярп-
лівосьці.

26 І падобна таксама Дух пама-
гае нам у нашых кволасьцях; бо мы
ня ведаем, як маем маліцца, але
Сам Дух прычыняецца за нас стог-
намі нявымоўнымі. 27 Тый жа, хто
дасьлядўе сэрцы, ведае, якая дум-
ка ў Духа, бо Ён прычыняецца за
сьвятых з волі Божае. 28 Мы ж ве-
даем, што любячым Бога ўсе дзеец-
ца дзеля дабра, тым, што пагука́ныя
подле заме́ру.

29 Бо каго Ён перадведаў, тым
і наканаваў быць падобнымі да аб-
раза Сына Свайго, каб Ён быў пер-
шаком памеж шмат братоў. 30 А ка-
го Ён наканаваў, тых і пагука́ў; а
каго пагука́ў, тых і аправіў; а каго
аправіў, тых і ўславіў.

31 Што ж скажам на гэта? Калі



Бог за нас, хто супроці нас? 32 Тый,
Каторы Сына Свайго не пашчаджаў,
але аддаў Яго за ўсіх нас, як ізь Ім
не падаруе нас шчодра і ўсім?
33 Хто будзе вінаваць абраных Бо-
жых? Бог праўдзе іх. 34 Хто за-
суджае? Хрыстос памер, але і
ўскрэс: Ён і паправе Бога, Ён і пры-
чыняецца за нас.

35 Хто адлуча нас ад міласьці Бо-
жае: атуга, ці гарота, ці перасьледа-
ва́ньне, ці галадоў, ці голасьць, ці
небясьпечнасьць, ці меч? 36 Як на-
пісана: „За Цябе забіваюць нас каж-
ны дзень; мелі нас за авечкі на за-
рэз”. 37 Але ўсе перамагаем пераз
Таго, хто ўмілаваў нас. 38 Бо я пе-
раканаўшыся, што ані сьмерць, ані
жыцьцё, ані ангілы, ані князствы,
ані цяперашнія, ані будучыя, ані сі-
лы, 39 Ані вышыня, ані глыбіня, ані
якое іншае стварэньне не адлуча
нас ад любосьці Божае ў Хрысту
Ісусу, Спадару нашым.

9 Праўду кажу ў Хрысту, не ма-
ню, сьветча імне сумленьне мае
ў Духу Сьвятым, 2 Што вялікі імне
смутак і бязупынная му́ка сэрцу
майму: 3 Я зычыў бы сам быць ад-
лучаным ад Хрыста за братоў сваіх,
радні імне подле цела, 4 Значыцца,
Ізраелян, каторых усынаўленьне а
слава а ўмовы а Законуданьне а
служба а абятніцы; 5 Ад іх айцове,
і ад іх Хрыстос подле цела, існую-
чы над усім Бог, дабраславёны на
векі, амін.

Але ня тое, каб слова Божае ня
было дасьпешнае. 6 Бо ня ўсі Із-
раеляне, што ад Ізраеля, 7 І ня ўсі
дзеці Абрагамовы, што ад насеньня
ягонага; але: „У Ісаку названа бу-
дзе насеньне тваае”. 8 Значыцца, не
цялесныя дзеці ё дзеці Божыя, але
дзеці абятніцы ўважаюць за насень-
не. 9 А слова абятніцы гэткае: „У
гэтым жа часе прыйду, і ў Сорры
будзе сын”.

10 І не адно гэта, але так было й
з Рэвекаю, як яна ад аднаго зачала́
двух сыноў, ад Ісака, айца нашага;
11 Бо яшчэ перад нараджэньням
і перш, чымся што добрае альбо
благое зрабілі, — каб заме́р Божы
подле абраньня дзеяўся ня з учын-
каў, але з Гука́ючага, — 12 Сказа-
на было ёй: „Большы будзе слу-
жыць меншаму”, 13 Як напісана:
„Якава Я ўлюбіў, а Ісава зьнена-
відзіў”.

14 Што ж скажам? Няго ж не-
справядлівасьць у Бога? Няхай ня
станецца так! 15 Бо Ён кажа Ма-
сею: „Зьмілуюся, над кім зьмілуюся;
і пажалею, каго пажалею”. 16 Дык
залежа не ад тога, хто хоча, ані ад
тога, хто бяжыць, але ад міласэрдзя
Божага. 17 Бо Пісьмо кажа фарао-
ну: „Дзеля таго самага Я ўзьняў
цябе, каб гэтак паказаць на табе
магутнасьць Сваю і каб абяшчана
было імя Мае па ўсёй зямлі”. 18 Дык
зьмілуецца, над кім зыча; і каляне,
каго зыча. 19 Дык ты скажаш імне:
„Чаму ж яшчэ вінуе? Бо Хто спра-
цівіцца волі Ягонай?” 20 А ты хто,
чалавеча, што пярэчыш Богу? Ці
выраб скажа вырабніку: „Чаму ты
мяне так вырабіў?” 21 Альбо ці ня
мае ўлады ганчар над глінаю, каб
із таго самага ме́сіва зрабіць ад-
ну судзіну́ да славы, а другую да
няславы? 22 Што ж, калі Бог, зы-
чачы паказаць гнеў Свой і паведа-
міць моц Сваю, трываў ізь вялікай
цярплівосьцю із судзінамі гневу, га-
товымі да загубы, 23 Каб паведа-
міць багацьце славы Свае над судзі-
намі міласэрдзя, што Ён прыгата-
ваў да славы, 24 Нам, каторых Ён
і пагука́ў, ня толькі із Жыдоў, але
і з паганаў?” 25 Як і кажа ў Госі:
„І ня Свой люд назаву ‚Люд Мой’,
і нялюбовую назаву ‚Любовая
Мая’ ”. 26 І на тым самым месцу,
ідзе было сказана ім: ‚Вы ня Мой
люд’, названы будуць ‚Сынове Бо-
га жывога’ ”. 27 А Ісая гу́кае празь
Ізраеля: „Хоць бы лік сыноў Із-
раелявых быў, як пясок моркі, спа-

сецца астача; 28 Бо справу канчае
і борзда ў справядлівасьці, бо спра-
ву скончаную зьдзее Спадар на зям-
лі". 29 І, як уперад сказаў Ісая:
„Калі б Спадар войскаў не пакінуў
нам насеньня, мы былі б, як Садо-
ма, і сталі б падобныя да Гоморы".

30 Што ж скажам? Народы, што
ня гналіся за справядлівасьцяй,
дасяглі справядлівасьці, што зь ве-
ры. 31 А Ізраель, гонячыся за За-
конам справядлівасьці, не дасяг За-
кону. 32 Чаму? бо ня зь веры, але з
учынкаў. Спатыкнуліся аб камень
спатыкненьня, 33 Як напісана:
„Вось, кладу на Сыёне камень спа-
тыкненьня і скалу спадмануў, і тый,
хто ўвера ў Яго, ня будзе засаром-
лены".

10 Браты! прыемнасьць сэрца май-
го і маленьне да Бога за іх ё,
каб яны былі спасёны. 2 Бо сьветчу
ім, што рупатлівасьць да Бога ма-
юць, але ня подле веды. 3 Бо, ня ве-
даючы справядлівасьці Божае і сі-
луючыся закласьці сваю собскую
справядлівасьць, не паддаліся спра-
вядлівасьці Божай; 4 Бо канец За-
кону — Хрыстос, да справядлівасьці
кажнага верніка.

5 Бо Масей піша праз справядлі-
васьць, каторая із Закону: „Чала-
век, што чыніў бы гэта, жывы будзе
ім". 6 Але справядлівасьць із веры
кажа гэтак: не кажы ў сэрцу сваім:
„Хто ўзыйдзе на неба?" (значыцца,
Хрыста зьвесьці); 7 Або: „Хто зый-
дзе да бяздоньня?" (значыцца, Хры-
ста зь мертвых узьвесьці). 8 Але
што кажа гэта? „Слова блізка да
цябе, у роце тваім а ў сэрцу тваім",
значыцца, слова веры, каторае абя-
шчаем. 9 Бо, калі вуснамі сваімі
будзеш вызнаваць Ісуса за Спадара
і сэрцам сваім верыць, што Бог
ускрысіў Яго зь мертвых, дык спа-
сешся; 10 Бо сэрцам вераць да спра-
вядлівасьці, а вуснамі вызнаюць да
спасеньня. 11 Бо Пісьмо кажа: „Каж-
ны, што вера ў Яго, ня будзе заса-
ромлены". 12 Тут нямаш розьніцы
памеж Жыда й Грэка, бо адзін Спа-
дар у вусіх, багаты да ўсіх, што
гукаюць Яго. 13 Бо „кажны, што
будзе гукаць імя Спадарова, спа-
сецца".

14 Але як гукаць таго, у каго ня
ўверылі? і як верыць у таго, праз
каго ня чулі? і як чуць без абяшча-
ючага? 15 І як абяшчаць, калі ня
будуць пасланы? як напісана: „Якія
харошыя ногі тых, што абяшчаюць
дабравесьць супакою, што абяш-
чаюць дабравесьць дабра!" 16 Але
ня ўсі паслухалі дабравесьці. Бо Ісая
кажа: „Спадару, хто паверыў чута-
му ад нас?". 17 Дык вера ад слу-
ханьня, а слуханьне ад слова Божа-
га. 18 Але кажу: ці яны ня чулі?
Але, напэўна, бо „Па ўсёй зямлі
прайшоў голас іхны, і да канцоў
сьвету слова іхнае".

19 Але кажу: ці Ізраель ня ве-
даў? Першы Масей кажа: „Я вык-
лічу ў вас завідасьць народам, ка-
торы не народ; народам неразум-
ным да гневу ўквялю вас". 20 А Ісая
вельма адважна кажа: „Мяне знай-
шлі тыя, што ня шукалі Мяне; Я
стаў яўны тым, што ня пыталіся
празь Мяне". 21 Праз Ізраеля кажа:
„Цэлы дзень я выцягаў рукі Свае да
люду непаслухменага а праціўнага".

11 Дык кажу: ціж адхінуў Бог
люд Свой? Няхай ня станецца
так! Бо я таксама Ізраелянін, з на-
сеньня Абрагамовага, з плямені Ве-
няміновага. 2 Не адхінуў Бог люду
Свайго, каторы Ён наперад знаў. Ці
ня ведаеце вы, што Пісьмо кажа ў
„Ільлю", як ён адзываецца да Бо-
га супроці Ізраеля? 3 „Спадару, пра-
рокаў Тваіх яны забілі, аброчнікі
Твае абурылі, і я застаўся адзін, і
шукаюць жыцьця майго". 4 Што ж
кажа яму адказ? „Я пакінуў Сабе
сем тысячаў мужоў, каторыя ня кля-
калі перад Ваалам". 5 Гэтак і ця-
пер засталася астача подле абрань-
ня ласкі. 6 Але калі ласкаю, дык



ня з учынкаў; накш ласка ня бы-
ла б ужо ласкаю. А калі з учынкаў,
дык ужо няма з ласкі; накш учынак
ня быў бы ўчынак.

7 Што ж? Чаго шукаў Ізраель,
таго не адзяржаў, але абраныя
адзяржалі, а засталыя закалянелі,
8 Як напісана: „Бог даў ім духа сон-
насьці, вочы ня бачаць, і вушы ня
чуюць, дагэтуль". 9 І Давід кажа:
„Няхай будзе стол іхны сілом а па-
садкаю а спадманам і адплатаю ім;
10 Няхай вочы іхныя пацямнеюць,
і хрыбет іхны будзе скрыўлены на-
заўсёды".

11 Дык кажу: ці яны спатыкнулі-
ся, каб паваліцца? Няхай ня ста-
нецца так! Але ўпадак іхны ё спа-
сеньне народам, каб выклікаць за-
відасьць у іх. 12 Калі ж упадак іхны
— багацьце сьвету, і страта іхная —
багацьце народам, тым большая паў-
ніня іхная.

13 Бо вам кажу, народам: як апо-
стал народаў, я ўслаўлю службу
сваю, 14 Каб якім-колечы парадкам
выклікаць завідасьць тых, што майго
цела, і спасьці некатрых ізь іх. 15 Бо
калі адхіненьне іх будзе пагаджэнь-
ням сьвету, то што прыймо, як ня
жыцьцё зь мертвых? 16 Калі першы
абраканы кавалак сьвяты, дык і
цеста сьвятое; а калі карэнь сьвяты,
дык і галузы.

17 Калі ж некатрыя з галузаў ад-
ламіліся, а ты, дзікая аліва, прыш-
чапілася на месца іхнае і стала ўча-
сьніцаю караня й туку алівы, 18 Не
хваліся супроці галузаў. Калі ж
хвалішся, ведай, што ня ты карэнь
нясеш, але карэнь цябе.

19 Скажаш: „Галіны адламіліся,
каб імне прышчапіцца". 20 Добра.
Яны адламіліся нявераю, а ты дзяр-
жышся вераю; не вяльмуйся, але
бойся. 21 Бо калі Бог прыродных
галузаў не пашчаджаў, ці й цябе
пашчаджае. 22 Дык бачыш дабры-
ню й стродкасьць Божую: стродка-
сьць да адпалых, дабрыню Божую
да цябе, калі будзеш трываць у даб-
рыні; накш і ты будзеш адцяты.
23 Але й тыя, калі не застануцца
ў няверы, прышчэпяцца, бо Бог дуж
ізноў прышчапіць іх. 24 Бо калі ты
адцяты зь дзікое прыродаю алівы
і супроці прыроды прышчэплены да
добрае алівы, пагатове тыя прырод-
ныя прышчэпяцца да свае собскае
алівы.

25 Бо я ня зычу, браты, каб вы
былі ў неведзі што да гэтае тайны,
— каб вы не мудрагелілі, — што за-
каляненьне часткава сталася Ізрае-
лю, пакуль ня ўвыйдзе паўніня на-
родаў, 26 І гэтак увесь Ізраель спа-
сецца, як напісана: „Прыйдзе із
Сыёну Выбавіцель і адверне бязбож-
насьць ад Якава; 27 І гэта ўмова
ім ад Мяне, як Я здыйму зь іх грахі
іхныя".

28 Узглядам дабравесьці яны не-
прыяцелі вам; а ўзглядам абраньня
любовыя дзеля айцоў. 29 Бо дары а
пагуканьне Божыя нязьменныя.
30 Бо як вы некалі былі непаслух-
меныя Богу, а цяпер дасяглі міла-
сэрдзя з прычыны іх непаслухмен-
ства, 31 Так і яны цяпер не паслу-
халі, каб дзеля міласэрдзя вам і яны
міласэрдзя дасяглі. 32 Бо Бог замк-
нуў усіх у непаслухменстве, каб над
усімі зьмілавацца.

33 О глыбіня багацьцяў мудрасьці
а ведзі Божае! Як неспатачальныя
суды Ягоныя, і недасьледавальныя
дарогі Ягоныя! 34 Бо хто пазнаў ро-
зум Спадароў? Або хто быў Яму па-
раднікам? 35 Або хто даў яму ўпе-
рад, каб Ён меў аддаць яму? 36 Бо
ўсе зь Яго а Ім а да Яго. Яму слава
на векі, амін.

12 Дык малю вас, браты міла-
сэрдзям Божым, пасьвяціце це-
лы свае на аброк жывы, сьвяты, Бо-
гу любы, значыцца разумную служ-
бу сваю; 2 І не тарнуйцеся да веку
гэтага, але адмяніцеся аднаўленьням
думкі свае, каб вы пераканаліся што

за добрая а прыемная а дасканаль-
ная воля Божая.
3 Бо подле ласкі, данае імне, кажу
кажнаму з памеж вас: ня думайце
празь сябе болей, чымся належа ду-
маць; але думайце сьціпла, кажны
подле меры веры, каторую Бог удзя-
ліў яму. 4 Бо, як у вадным целе ў
нас шмат чаланоў, але ня ў вусіх
чаланоў тая самая дзейнасьць, 5 Так
нас шмат складае адно цела ў Хры-
сту, а паасобку адны адным сяброве.
6 Але, маючы розныя дары, подле
ласкі, данае нам: ці прароцтва, под-
ле меры веры; 7 Ці то службы —
у службе; ці хто вучэньня — у ву-
чэньню; 8 Ці хто навучае — у на-
вучаньню; хто падзяляецца — у
прасьціні; хто кіруе — кіруй улеглі-
ва; хто чыне міласэрдзе, чыні рада.
9 Міласьць хай будзе без прыда-
ваньня; гідзьцеся ліха, ліпніце да
дабра; 10 У брацкай любосьці адны
да адных будзьце кунежныя; у па-
вазе адны адных выпераджайце;
11 З рупатлівасьцяй не агіляйцеся;
духам гарыце; Спадару служыце;
12 У надзеі цешчася; у ватугах
будзьце вытрывалыя, у малітве каж-
начасныя; 13 Да патрэбаў сьвятых
будзьце падзельлівыя, да гасьцінна-
сьці ганіцеся.
14 Дабраслаўце тых, што перась-
лядўюць вас; дабраслаўце а ня клі-
ніце. 15 Цешчася з тымі, што це-
шацца; плачча з тымі, што плачуць.
16 Майце тую самую павагу адны
да адных; не мудрагельце высака,
але да нізкіх хініцеся; ня будзьце
мудрыя ў вачох сваіх;
17 Нікому ліхам за ліха не адда-
вайце; дбайце праз тое, што добрае
ў вачох усіх людзёў. 18 Калі магчы-
ма, паколькі залежа ад вас, шукай-
це супакою з усімі людзьмі. 19 Ня
імсьціцеся самы, любовыя, але дай-
це месца гневу Божаму. Бо напіса-
на: „Помста ў Мяне, Я адплачу, ка-
жа Спадар". 20 Дык, „Калі твой не́п-
рыяцель галодны, дай яму есьці;
калі сьмягне, дай яму піць, бо, так
робячы, ты зьбярэш на галаву яго-
ную жар". 21 Ня будзь пераможаны
ліхам, але перамагай ліха дабром.

13 Кажная душа будзь паддана
вышшай уладзе, бо няма ўлады
не ад Бога; існуючыя ж улады Бо-
гам устаноўленыя. 2 Затым, хто пра-
ціўіцца ўладзе, праціўіцца загадзе
Божай. А праціўнікі самы сабе рас-
судак віны прыдба́юць.
3 Бо начэльнікі ня страх добрым
учынкам, але благім. Хочаш не
баяцца ўлады? Рабі дабро і адзяр-
жыш пахвалу́ ад яе; 4 Бо гэта
слуга Божы на дабро табе. Але,
калі ты дзееш ліха, бойся, бо не
дарма ён носе меч; бо ён слуга Бо-
жы, помсьнік у гневе на дзеючага
ліха. 5 Затым надабе быць падда-
ным не адно дзеля гневу, але й дзе-
ля сумленьня.
6 Дзеля таго вы й падачкі плаці-
це, бо яны слугі Божыя, кажначас-
на гэтым занятыя. 7 Давайце каж-
наму належнае: каму падачкі — па-
дачкі; каму мыта — мыта; каму
страх — страх; каму чэсьць — чэ-
сьць.
8 Нікому ня бывайце нічога вінны,
апрача ўзаемнае міласьці; бо хто
любе другога, тый споўніў Закон.
9 Не чужалож, не забівай, не крадзі,
ня сьветч хвальшыва, не пажадай,"
і калі іншае будзе расказаньне,
зьмяшчаюцца ў вадным гэтым сло-
ве, наймя: „любі бліжняга свайго,
як сябе самога". 10 Любосьць ня ро-
бе бліжняму ліха; дык любосьць ё
паўніня Закону.
11 І гэта рабіце, ведаючы час, што
ўжо пара нам прачхнуцца, бо цяпер
спа́сеньне да нас бліжшае, чымся як
мы ўверылі. 12 Ноч мінула, а дзень
дабліжыўся: дык адкіньма ўчынкі
цямноты, а надзеньма зброю сьвят-
ліні. 13 Як удзень, паступайма як
належа, не ў гасьцінах а п'янчань-
ню, ані ў бязулстве а жадлівасьці,
ані ў звадзе а за́відасьці; 14 Але



адзеньцеся ў Спадара Ісуса Хрыста,
і рупнасьць празь цела не абарачай-
це ў жаду́.

14 Млявых жа ў веры прыймайце
ня дзеля суджэньня пагляда́ў.
2 Хтось пэўны, што ён можа есьці
ўсе, але слабы есьць гародніну.
3 Хто есьць, ня май улегцы таго,
хто ня есьць; а хто ня есьць, ня
судзі таго, хто есьць, бо Бог прыняў
яго. 4 Хто ты, што судзіш чужога
слугу? Перад сваім Спадаром стаіць
ён або валіцца; і будзе пастаноўле-
ны, бо Спадар можа пастанавіць яго.
5 Адзін адрозьнюе дні, другі важа
кажны дзень аднолькава. Няхай
кажны будзе супоўна перакана́ўшы-
ся ў сваім собскім паглядзе. 6 Хто
адрозьнюе дні, дзеля Спадара ад-
розьнюе. І хто есьць, дзеля Спадара
есьць, бо дзякуе Богу; і хто ня
есьць, дзеля Спадара ня есьць і дзя-
куе Богу.
7 Бо ніхто з нас ня жывець сам
дзеля сябе, і ніхто не паміраe сам
дзеля сябе; 8 Бо ці жывем, дзеля
Спадара жывем, ці паміраем, дзеля
Спадара паміраем. І затым ці жы-
вем, ці паміраем — мы Спадаровы.
9 Бо Хрыстос дзеля таго памер і жы-
вець, каб ра́дзіць мертвых і жывых.
10 А ты чаму судзіш брата свай-
го? Або ізноў, чаму ўлегцы маеш
брата свайго? Мы ж усі ста-
нем перад судовым пасадам Хрысто-
вым. 11 Бо напісана: „Жыў Я, ка-
жа Спадар, перад Імною ўклякне
кажнае калена, і кажны язык будзе
вызнаваць Бога". 12 Дык кажны з
нас здасьць лічбу за сябе Богу.
13 Ня судзіма болей адзін аднаго,
але вале́й на тое ўважайце, каб ня
класьці брату спатыкненьня альбо
спадману. 14 Я ведаю і перакана́ў-
шыся ў Ісусу Хрысту, што няма ні-
чога ў сабе самым нячыстага, адно
хто ўважае што-колечы за нячыстае,
таму нячыстае. 15 Бо калі за ежу
не́марасьціцца брат твой, ты ўжо
ня подле міласьці абходзішся. Ня
губі сваёй ежаю таго, за каго Хры-
стос памер. 16 Няхай ня будзе бля-
вузґана на ваша добрае. 17 Бо гас-
падарства Божае ня ежа ані піцень-
не, але справядлівасьць а супакой а
радасьць у Духу Сьвятым. 18 Бо,
хто гэтым служа Хрысту, тый любы
Богу й прызнаны людзьмі.
19 Дык будзем імкнуцца да тога,
што служа супакою а ўзаемнаму
збудаваньню. 20 Дзеля ежы ня бу-
ра́й справы Божае. Усе чыстае, але
блага людзіне, каторая есьць на
спадману. 21 Добра ня есьці мяса,
ані піць віна, ані рабіць чаго-коле-
чы, ад чаго брат твой спатыкаецца,
альбо спадманяецца, альбо слабянее.
22 Маеш ты веру? май сам у сабе
перад Богам. Шчасьлівы, каторы ня
судзе сябе самога ў тым, што прыз-
наець сабе за добрае. 23 Але тый,
што сумляецца, як есьць, будзе за-
суджаны, бо ня зь веры; а што-ко-
лечы ня зь веры, грэх.

15 Мы, дужыя, маем несьці няў-
здоленьні кволых, а не гадзіць
самым сабе. 2 Няхай кажны з нас
годзе бліжняму да дабра, дзеля збу-
даваньня. 3 Бо й Хрыстос не Сабе
гадзіў, але як напісана: „Ганьбень-
ні ганьбячых Цябе палі на Мяне".
4 А ўсе, што пісана было ўперад, на-
пісана нам на навуку, каб цярплівo-
сьцяй і пацяшэньням Пісьмаў мелі
надзею.
5 Бог жа цярплівосьці й пацяшэ-
ньня няхай дасьць вам жыць у зго-
дзе адным із адньімі подле Хрыста
Ісуса, 6 Каб вы згодна, адньімі вус-
намі славілі Бога і Айца Спадара
нашага Ісуса Хрыста.
7 Дык прыймайце адзін аднаго,
як і Хрыстос прыняў вас да славы
Божае. 8 Бо кажу, што Ісус Хрыстос
стаў слугою абразаньня дзеля пра́ў-
ды Божае, каб пацьвярдзіць абятні-
цу айцом; 9 І каб народы славілі
Бога за міласэрдзе, як напісана:

„За гэта вызнаю Цябе памеж наро-
даў і імені Твайму буду пяяць". 10 І
ўзноў кажа: „Цешчася, народы, зь
людам Ягоным". 11 І ўзноў: „Хвалі-
це Спадара, усі народы, і выхваляй-
це Яго, усі люды". 12 І ўзноў Ісая
кажа: „Будзе карэнь Есаў, і паўста-
не ра́дзіць народы; на Яго народы
спадзявацца будуць". 13 А цяпер жа
Бог надзеі няхай напоўне вас уся-
лякай радасьцяй а супакоям у ве-
ры, каб вы, моцаю Духа Святога,
былі вельмі багатыя надзеяю.

14 Але я перakанаўшыся, браты
мае, я таксама ўзглядам вас, што й
вы поўныя дабрыні, напоўненыя
ўсялякім знацьцём і можаце наву-
чаць адны адных; 15 Але пісаў вам,
браты, сьмялей, часткава, каб дамя-
ніць, подле ласкі, данае імне Богам,
16 Быць слугачым Хрыста Ісуса на-
родам, дзеючы аброчную службу
дабравесьці Божай, каб аброк на-
родаў, пасьвячаны Духам Сьвятым,
быў прыемны Богу.

17 Дык я магу пахваліцца Бо-
жым у Хрысту Ісусу; 18 Бо ня ва-
жуся сказаць чаго-колечы такога,
чаго ня зьдзеяў Хрыстос імною да
паслухменства народаў, словам і
ўчынкам, 19 Моцаю знакоў а чудо-
саў, сілаю Духа Божага, так што ад
Ерузаліму а аколіцаў аж да Іліры-
ку напоўніў дабравесьцяй Хрысто-
вай. 20 Ды я імкнуўся абяшчаць
дабравесьць ня там, ідзе быў мена-
ваны Хрыстос, каб ня ставіць на по-
дзе другога; 21 Але як напісана:
„Каторым нічога не павяда́лі празь
Яго, абачаць, і нячуючыя зразуме-
юць".

22 Гэта шмат разоў і перакажала
імне прысьці да вас. 23 Цяпер жа,
ня маючы ўжо месца ў гэтых краёх,
а маючы ад шмат год вялікае жа-
даньне прысьці да вас, 24 Як толькі
буду падарожжаваць да Гішпані,
прыду да вас. Бо спадзяюся бачыць
вас, як буду падарожжаваць, і вы
правядзіцé мяне туды, як сьпярша
пабуду ў вашым таварыстве, хоць
часткава.

25 Але цяпер іду да Ерузаліму,
паслужыць сьвятым; 26 Бо Маке-
доня а Ахая ўважалі за добрае даць
памогу бедным сьвятым, што ў Еру-
заліме. 27 Яны ўважалі гэта за доб-
рае дый даўжбіты яны іхныя. Бо,
калі іншыя народы сталі ўчасьніка-
мі ў іх духоўным, яны маюць пас-
лужыць і ім у цялесным.

28 Споўніўшы гэта і прыпячата-
ваўшы ім плод гэты, я выпраўлюся
пераз вас да Гішпані. 29 Я ведаю,
што, як прыйду да вас, з паўнінёю
дабраславенства Хрыстовага прый-
ду.

30 Прымеж тога малю вас, браты,
Спадаром нашым Ісусам Хрыстом а
міласьцю Духа, каб вы сілаваліся
разам із імною маліцца за мяне Бо-
гу, 31 Каб выбавіцца імне ад не-
паслухменых у Ерузаліме, і каб
служба мая гэта была прыймальная
сьвятым; 32 Каб імне, з волі Бо-
жае, прысьці да вас у радасьці і мо-
жа супачыць із вамі. 33 Бог жа су-
пакою будзь із усімі вамі. Амін.

16 Паручаю вам Фіву, сястру на-
шу, служэбку царквы ў Кенхрэі,
2 Каб вы яе прынялí ў Спадару́, як
гожа сьвятым, і памаглі ёй, чаго б
патрабавала, бо таксама яна былá
памачніцаю шмат каму й імне са-
мому.

3 Паздаровайце Прыськілу а Ак-
вілу, супрацаўнёў маіх у Хрысту
Ісусу, 4 Каторыя рызыкавалі горлам
сваім за жыцьцё мае, каторым ня я
толькі ўдзячны, але таксама ўсі
цэрквы іншых народаў; 5 Таксама
хатнюю царкву іхную .

Паздаровайце Епінета, любовага
майго, каторы ё першым пладом Азі
дзеля Хрыста.

6 Паздаровайце Марыю, каторая
шмат папрацавала дзеля вас.

7 Паздаровайце Андроніка а Юна,
сваякоў а сувязьняў маіх, славутых




сярод апосталаў, каторыя запраўды
ўперад за мяне былí ў Хрысту.

8 Паздаровайце Ампля, любовага
майго ў Спадару.

9 Паздаровайце Гурбанá, супра-
цаўня нашага ў Хрысту, а Стаха,
любовага майго.

10 Паздаровайце Апеля, дазнана-
га ў Хрысту.

Паздаровайце Арыставулавых.

11 Паздаровайце Радзівона, свая-
ка майго.

Паздаровайце Нарцызавых, като-
рыя ў Спадару.

12 Паздаровайце Трыфену а Тры-
фосу, што працуюць у Спадару.

Паздаровайце Пэрсыду любовую,
што шмат папрацавала ў Спадару.

13 Паздаровайце Руфа, абранца ў
Спадару, і маці ягоную а маю.

14 Паздаровайце Асынкрыта, Фле-
гона, Гэрма, Патрова, Гэрмена і бра-
тоў зь імі.

15 Паздаровайце Філёлёґа а Юлю,
Нірэя а сястру ягоную а Алімпа а
ўсіх сьвятых із імі.

16 Здаровайце адны адных із ца-
лаваньням сьвятым. Здароваюць вас
усі цэрквы Хрыстовы.

17 Малю ж вас, браты, зважайце
на тых, што ствараюць падзелы а
спадманы напярэк навуцы, каторай
вы навучыліся, і адхінайцеся ад іх;
18 Бо такія служаць не Спадару на-
шаму Ісусу Хрысту, але собскаму
чэраву свайму, і ліпкой моваю і лі-
сьлíвай моваю зводзяць сэрцы про-
стых. 19 Бо ваша паслухменства
дайшло да ўсіх; затым я цешуся з
вас, але зычу быць мудрымі да даб-
ра, а простымі да ліха.

20 Бог жа супакою патрышча
шайтана пад нагамі вашымі неўза-
баве. Ласка Спадара нашага Ісуса
Хрыста з вамі! Амін.

21 Здароваюць вас Цімох, супра-
цавень мой, а Луц а Ясон а Сосы-
патра, сваякі мае.

22 Здароваю вас у Спадару і я
Тэрт, што пісаў гэты ліст.

23 Здаровае вас Ґай, гаспадар да-
мовы мой і ўсяе царквы.

Здаровае вас Эраст, скарбнік месц-
кі, а брат Кварт.

24 Ласка Спадара нашага Ісуса
Хрыста з усімі вамі. Амін.

25 А таму, Каторы можа змац-
ніць вас подле дабравесьці мае і
абяшчаньня Ісуса Хрыста, подле
аб'яўленьня тайны, ад часоў вечных
замоўчанае, 26 Але цяпер аб'яўле-
нае Пісьмамі прароцкімі, подле рас-
казаньня вечнага Бога, да паслух-
менства веры ўсім народам азнайм-
ленае, — 27 Адзінаму мудраму Богу
празь Ісуса Хрыста слава на векі
Амін.

## ПЕРШЫ ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА КАРЫНЦЯН

1 Паўла, воляю Божаю пагукá-
ны апостал Ісуса Хрыста, а
Сосьфен брат, 2 Царкве Божай, што
ў Карынце, пасьвячаным у Хрысту
Ісусу, пагукáным сьвятым, з усімі,
што гукáюць імя Спадара нашага
Ісуса Хрыста на кажным месцу, у
іх і ў нас: 3 Ласка вам а супакой ад
Бога, Айца нашага, а Спадара Ісуса
Хрыста.

4 Дзякую Богу свайму заўсёды
за вас узглядам ласкі Божае, данае
вам у Ісусу Хрысту, 5 Што ўсім вы
забагацелі ў Ім, усялякім словам і
ўсялякім веданьням, — 6 Бо сьвет-
чаньне Хрыстова ўмацавалася ў вас,
— 7 Так што вы ня маеце нястачы
ні ў якім дару, чакаючы зьяўленьня
Спадара нашага Ісуса Хрыста, 8 Ка-
торы і ўмацуе вас аж да канца быць
бязьвіннымі на дзень Спадара наша-
га Ісуса Хрыста. 9 Верны Бог, Ка-

торым вы пагука́ныя да ўзаем'я Сы-
на Ягонага Ісуса Хрыста, Спадара
нашага.
10 Вось жа малю вас, браты, імям
Спадара нашага Ісуса Хрыста, каб
усі вы гу́калі адно, і ня было меж
вас падзелаў, але каб вы супоўна
задзіночыліся ў тэй самай думцы і
ў тым самым паглядзе. 11 Бо ад
Хлоіных стала імне ведама, браты
мае, праз вас, што сьпярэчкі ё па-
меж вас. 12 Я гу́каю праз тое, што
кажны з вас кажа: „Я запраўды
Паўлаў", а „Я Апалосаў", а „Я Кі-
фін", а „Я Хрыстоў". 13 Нягож
Хрыстос падзяліўся? альбо Паўла
быў укрыжаваны за вас? альбо ў
імя Паўлы вы хрысьціліся?
14 Дзякую Богу, што нікога з вас
ня хрысьціў, апрача Крыспа а Гая,
15 Што ніхто ня можа сказаць, што
я хрысьціў у імя свае собскае.
16 Але, я хрысьціў і дом Сьцепаноў;
але балей ня ведаю, ці хрысьціў ка-
го іншага. 17 Бо Хрыстос не паслаў
мяне хрысьціць, але абяшчаць даб-
равесьць, ня ў мудрасьці слова, каб
ня быў змарнаваны крыж Хрыстоў.
18 Бо слова праз крыж гінучым
ё дурніна́, але нам спасаным — сіла
Божая. 19 Бо напісана: „Загублю
мудрасьць мудрыцоў, а розум ра-
зумных адхіну́". 20 Ідзе мудрэц?
ідзе кніжнік? ідзе сьпярэчнік гэтага
веку? Ці не абярнуў Бог мудрасьць
гэтага сьвету ў дурноту? 21 Бо як
сьвет мудрасьцяй не пазнаў Бога ў
мудрасьці Божай, зьлюб Богу было
дурнотаю абяшчаньня спасьці вер-
нікаў. 22 Бо Жыды вымагаюць зна-
коў, а Грэкі шукаюць мудрасьці;
23 Мы ж абяшчаем укрыжаванага
Хрыста, Жыдом спадмана, а наро-
дам дурнота, 24 Але пагука́ным,
Жыдом і Грэкам, Хрыста, моц Бо-
жую а мудрасьць Божую; 25 Бо
дурнота Божая мудрэйшая за лю-
дзёў, а млявае ў Бога дужшае за
людзёў.
26 Разважча, браты, хто вы па-
гука́ныя, што ня шмат мудрых подле
цела, ня шмат дужых, ня шмат даб-
народных; 27 Бо Бог абраў дурноту
гэтага сьвету, каб засароміць муд-
рых, і Бог абраў млявае гэтага сьве-
ту, каб засароміць дужасьць; 28 І
нізкое сьвету, і пагрэбаваных абраў
Бог, і няіснуючае, каб існуючае
зьнішчыць, — 29 Так, каб не хвалі-
лася перад Богам ніякае цела.
30 Ад Яго й вы ў Хрысту Ісусу,
Каторы стаў нам мудрасьцю ад Бо-
га, як і справядлівасьцю а пасьвя-
чэньням а адкупленьням, 31 Як на-
пісана: „Хто хваліцца, Спадаром
хваліся".
2 І я, прыходзячы да вас, браты,
прыходзіў ня з выборнай моваю
або мудрасьцяй, абяшчаючы вам
сьветчаньне Божае, 2 Бо я пастанавіў
быць у вас няведаючым нічога, ап-
рача Ісуса Хрыста, дый укрыжава-
нага; 3 І быў я ў вас у млявасьці а
ў страху а ў вялікай дрыгоце. 4 І
слова мае, і ка́зань мая не ў перако-
нуючых словах мудрасьці, але ў па-
казе Духа а сілы, 5 Каб вера ва-
шая стаяла не на мудрасьці людз-
кой, але на сіле Божай.
6 Мудрасьць жа гу́каем памеж
дасканальных, але мудрасьць ня гэ-
тага веку ані князёў гэтага веку мі-
нучых; 7 Але гу́каем мудрасьць
Божую, тайную, каторую Бог нака-
наваў перад вякамі да славы нашае,
8 Каторай ніхто з князёў гэтага ве-
ку не пазнаў; бо, калі б пазналі, не
ўкрыжавалі б Спадара славы. 9 Але,
як напісана: „Ня бачыла таго вока,
і ня чула вуха, і ня прыходзіла тое
на сэрца людзіне, як шмат прыгата-
ваў Бог тым, што мілуюць Яго".
10 А нам Бог аб'явіў Духам, бо Дух
усе дасьляду́е, нават глыбіні Бо-
жыя. 11 Бо хто зь людзёў ведае, што
ёсьць у чалавеку, апрача духа людз-
кога, каторы ў ім? Так і Божага ні-
хто ня ведае, апрача Духа Божага.



12 Але мы прынялі ня духа сьвету
гэтага, але Духа ад Бога, каб ве-
даць, чым Бог дараваў нас, 13 Што
й гу́каем ня людзкой мудрасьцяй
навучанымі словамі, але навучаныя
Духам, раўнуючы духоўнае да ду-
хоўнага. 14 Але душэўная людзіна
ня прыймае таго, што ад Духа Бо-
жага, бо яно дурнота яму; і ня мо-
жа цяміць, бо яно духоўна адрозь-
нюецца. 15 Але духоўны адрозьнюе
ўсе, сам жа не адрозьнюецца нікім.
16 „Бо хто пазнаў розум Спадароў,
хто Яго вучыць будзе?" Але мы
маем розум Хрыстоў.
3 І я, браты, ня мог гу́каць із
вамі, як із духоўнымі, але як
ізь цялеснымі, як ізь бязьлеткамі ў
Хрысту. 2 Я даў вам малако піць, ня
ежу, бо вы яшчэ не маглі есьці яе
ані можаце яшчэ, 3 Бо вы яшчэ ця-
лесныя. Бо калі меж вас за́відасьць
а сьпярэчкі а падзел, дык ці не ця-
лесныя вы? і ці ня ходзіце подле
сьвецкае людзіны? 4 Бо калі хто
кажа: „Я Паўлаў", а другі: „Я Апо-
лосаў", дык ці не цялесныя вы лю-
дзі? Хто Паўла? хто Аполос? Яны
адно слугачыя, пераз каторых вы
ўверылі, ды колькі кажнаму даў
Спадар. 6 Я засадзіў, Аполос палі-
ваў, але вырасьціў Бог; 7 Затым
ані тый, што садзе, ані тый, што па-
лівае, ё штось, але Бог, што рост
даець. 8 Тый, што садзе, і тый, што
палівае, адно; але кажны адзяр-
жыць сваю заплату подле свае пра-
цы. 9 Бо мы супрацаўні ў Бога, вы
Божая ніва, Божая будоўля вы.
10 Подле данае імне ад Бога лас-
кі, я, як мудры будаўнічы, паклаў
под, а другі будуе на ім; але кажны
глядзі, як будуеш на ім. 11 Бо ніхто
ня можа пакласьці поду іншага, ап-
рача пакладзенага, каторы ё Ісус
Хрыстос. 12 Ці станове хто на гэ-
тым подзе із золата, срэбра, дарагіх
камянёў, дзерва, травы, саломы, —
13 Кажнага работа выявіцца; бо
дзень пакажа, бо ў вагню выкры-
ваецца, і агонь выпрабуе работу
кажнага, якая яна ёсьць. 14 Калі
чыя работа застане́цца, каторую ён
на ім будаваў, тый адзяржыць зап-
лату; 15 А ў каго работа згарыць,
тый будзе мець шкоду, але сам спа-
сецца, адылі́ бы з агню.
16 Ціж вы ня ведаеце, што вы дом
Божы, і Дух Божы жывець у вас?
17 Калі хто папсуець дом Божы, та-
го Бог папсуець, бо дом Божы сьвя-
ты; а гэта вы.
18 Ніхто ня зводзь самога сябе.
Калі хто з вас думае быць мудрым
у гэтым веку, тый стань неразум-
ным, каб быць мудрым. 19 Бо муд-
расьць сьвету гэтага ё дурнота пе-
рад Богам, як напісана: „Каторы
лове мудрых у хітрыні іхнай". 20 І
ўзноў: „Спадар ведае думкі мудры-
цоў, што яны марныя". 21 Дык ня-
хай ніхто ня хваліцца людзьмі, бо
ўсе вашае: 22 Ці Паўла, ці Аполос,
ці Кіфа, ці сьвет, ці жыцьцё, ці
сьмерць, ці цяперашніня, ці будучы-
ня, — усе вашае; 23 Вы ж — Хрыс-
товы, а Хрыстос — Божы.
4 Дык кажны мае ўважаць нас за
слугачых Хрыстовых а верні-
каў тайнаў Божых. 2 Ад вернікаў
жа вымагаюць, каб кажны быў вер-
ны. 3 Імне вельма мала знача, што
судзіце празь мяне вы або людзкі
суд; я й сам ня суджу празь сябе.
4 Бо я нічога ня знаю за сабою,
але гэтым не апраўлены; судзьдзя ж
імне Бог. 5 Затым ня судзіце без
пары, пакуль ня прыйдзе Спадар,
Каторы й асьвеце схаванае ў цемра-
дзі і выяве ра́ды сэрца, і тады каж-
ны будзе мець пахвалу ад Бога.
6 Гэта, браты, прытарнаваў я да
сябе а Аполоса дзеля вас, каб вы
навучыліся ад нас не мудрагеліць
звыш тога, што напісана, і не па-
дыймаліся адзін перад адным. 7 Бо
хто адрозьнюе цябе? Што ты маеш,
чаго б не адзяржаў? А калі адзяр-
жаў, чаму хвалішся, быццам не

адзяржаў? Ужо вы перасыціліся,
ужо вы забагацелі, вы рáдзілі бяз
нас. Я хацеў бы, каб вы рáдзілі, каб
мы таксама рáдзілі з вамі! 9 Бо
я думаю, што Бог нас, апосталаў,
пастанавіў за апошніх, бы на
сьмерць прызначаных; бо мы сталі
дзівосамі сьвету, ангілам і людзём.
10 Мы дурныя дзеля Хрыста, але
вы разважныя ў Хрысту; мы мля-
выя, але вы моцныя, вы пачэсьлі-
выя, але мы ў ганьбе. 11 Аж да-
гэтуль прагнем і сьмягнем, і голыя,
і бітыя, і бяздомныя, 12 І працуем,
робячы сваімі собскімі рукамі. Аб-
маўляюць нас, мы дабраславім; пе-
расьлядýюць нас, мы церпім;
13 Уражаюць нас, мы молім; мы
сталі сьвету, як шумецьце, адкіда-
ныя ўсімі аж дагэтуль.

14 Ня пішу гэта, каб засароміць
вас, але каб перасьцерагчы вас, як
любовыя дзеці свае. 15 Бо хоць бы
вы мелі дзесяць тысячаў навучыце-
ляў у Хрысту, ня шмат, адылí, ай-
цоў; я радзіў вас у Хрысту Ісусу
дабравесьцяй. 16 Затым малю вас:
будзьце маімі перайманьнікамі.
17 Дзеля таго я паслаў да вас Ці-
моха, свайго любовага а вернага ў
Спадару сына, каторы дамене вам
дарогі мае ў Хрысту, як я вучу
ўсюдых у кажнай царкве.

18 Некатрыя запыхацелі, як быц-
цам я не маніўся прыйсьці да вас;
19 Але я ўборзьдзе прыйду да вас,
калі Бог дазволе, і пазнаю ня сло-
вы запыхацелых, але моц, 20 Бо
гаспадарства Божае ня ўслове, але
ў моцы. 21 Чаго вы хочаце? з дуб-
цом прыйсьці да вас, ці зь міла-
сьцяй і з духам лагоднасьці?

5 Агульна чуць, што бязулства
сярод вас, ды такое бязулства,
што не раўня народам, ажно хтось
мае жонку айца свайго. 2 А вы за-
пыхацелі, а ці ня мелі б валéй пла-
каць, каб тый, што зрабіў такі ўчы-
нак, быў выкінены з памеж вас?
3 А я, няпрытомны целам, але пры-
томны духам, ужо пастанавіў, бы
будучы ў вас, каб таго, хто зрабіў
гэта, 4 Вы, зышоўшыся ў імя Спа-
дара нашага Ісуса Хрыста, разам із
духам маім, сілаю Спадара нашага
Ісуса Хрыста, 5 Перадалí яго такога
шайтану на загубу цела, каб дух
быў спасёны ў дзень Спадара Ісуса.

6 Хвальня ваша ня добрая. Або
вы ня ведаеце, што ад малое закісі
ўсе цеста кісьне? 7 Ачысьціце ста-
рую закісь, каб вы былí новым це-
стам, бо вы прэсныя, бо Пасха ж
нашая, Хрыстос, быў абрэчаны. 8 За-
тым сьвяткуйма сьвята не із старой
закісяй ані із закісяй злосьці а ня-
годнасьці, але з праснакамі шчы-
расьці а праўды.

, 9 Я пісаў вам у лісьце, не сябра-
ваць ізь бязулямі; 10 Не наагул ізь
бязулямі гэтага сьвету, альбо з пра-
гавітымі а дзярлівымі, альбо з бал-
вахваламі, бо мусілі б выйсьці з гэ-
тага сьвету; 11 Але я пісаў вам
не сябраваць із тым, хто, завучыся
братам, застаецца бязулям, або пра-
гавітым, або балвахвалам, або аб-
моўцам, або п'яніцам, або дзяруном,
з таковым нават ня ежча разам.

12 Бо што імне судзіць і навон-
ных? Ці не нутраных вы судзіце?
13 Навонных жа судзе Бог. Выкінь-
це нягоднага з памеж сябе.

6 Ці важыцца хто з вас, правую-
чыся з другім, прававацца ў
несправядлівых, а не ў сьвятых?
2 Ці ня ведаеце, што сьвятыя бу-
дуць судзіць сьвет? А калі сьвет
вамі будзе суджаны, ці вы нягожыя
найменшага суджэньня? 3 Ці вы ня
ведаеце, што мы будзем судзіць ан-
гілаў? Пагатове справы гэтага
жыцьця.

4 А вы, як мелі справы гэтага
жыцьця, пасадзілі судзіць пагрэба-
ваных у царкве. 5 На сорам вам
кажу: нягож няма памеж вас ні
воднага разумнага, што мог бы рас-
судзіць памеж братоў сваіх? 6 Але



брат із братам правуецца, ды перад
нявернікамі.

7 У такім прылучаю ўжо запраў-
ды заганяю наагул у вас ё, што
вы правуецеся мяжсобку. Чаму ва-
лей ня церпіце крыўды? чаму ва-
лей не застаіцёся ашуканымі? 8 Але
вы крыўдзіце а шкодзіце, ды гэта
братоў. 9 Ці вы ня ведаеце, што
несправядлівым не спадзець гаспа-
дарства Божае? Не давайцеся зво-
дзіць: ані бязулям, ані балвахвалам,
ані чужаложнікам, ані вельма ску-
нежаным, ані мужаложнікам, 10 Ані
злодзеям, ані гальлівым, ані п'яні-
цам, ані абмоўцам, ані дзяруном не
спадзець гаспадарства Божае. 11 І
гэткімі былí некатрыя з вас; але
абмыты, але ўсьвячаны, але апра-
вены імям Спадара нашага Ісуса
Хрыста і Духам Бога нашага.

12 Усе імне дазволена, але ня
ўсе карысна; усе імне дазволена,
але ня буду я пад уладаю чаго-
колечы. 13 Ежа да жывата, і жывот
да ежы; але Бог зьнішча адно й
рдугое. Цела не да бязулства, але
да Спадара, і Спадар да цела. 14 Бог
ускрысіў Спадара, ускрысіць і нас
магутнасьцю Сваёй.

15 Ці вы ня ведаеце, што целы
вашы — гэта чаланы Хрыстовы?
Дык ці адыйму чаланы ў Хрыста,
каб зрабіць іх чаланамі бязулі? Ня-
хай ня станецца так! 16 Альбо ня
ведаеце, што тый, каторы лучыцца
зь бязуляю, ёсьць адно цела зь ёю,
бо кажацца: „Двое будуць адно це-
ла". 17 Але тый, што адзіночыцца
із Спадаром, ёсьць адзін Дух.

18 Уцякайце ад бязулства: кажны
грэх, які робе людзіна, ё вонках
цела; а бязуля грэша супроці соб-
скага цела свайго. 19 Ці ня ведаеце,
што целы вашы ё дом жывучага ў
вас Сьвятога Духа, Каторага вы ма-
еце ад Бога, і вы не свае? 20 Бо
вы купленыя цаною. Затым услаў-
ляйце Бога ў целах сваіх.

7 Што ж да тога, праз што вы
пісалі, дык добра чалавеку не
датыкацца жонкі. 2 Але, каб усь-
церагчыся бязулства, кажны май
собскую жонку сваю, і кажная май
собскага мужа свайго. 3 Муж няхай
аддаець належнае жонцы, падобна
жонка мужу. 4 Жонка ня мае ўла-
ды над целам сваім, але муж; па-
добна й муж ня мае ўлады над це-
лам сваім, але жонка.

5 Не спабывайце адно аднаго, хі-
ба із згоды, на якісь час, каб па-
сьвяціцца да посту а малітвы, і ўз-
ноў будзьце разам, каб шайтан не
спакушаў вас зь нястачы самавало-
даньня вашага. 6 Кажу гэта, адылí,
як дазвол, не як расказаньне. 7 Бо
зычу, каб усі людзі былí, нават як
я; але кажны мае свой дар ад Бо-
га, адзін гэтак, другі гэнак.

8 Нежанатым жа і ўдовам кажу:
добра ім, калі б засталіся, як я.
9 Але калі ня могуць валодаваць
самы сабою, няхай жэняцца; бо ва-
лей жаніцца, чымся распаляцца.
10 А тым, што пабяруцца, ня я рас-
казую, але Спадар: жонцы не раз-
лучацца з мужам; 11 А калі разлу-
чыцца, дык мае заставацца незаму-
жняй або пагадзіцца з мужам сваім,
і мужу не пакідаць жонкі.

12 Іншым жа я кажу, а не Спа-
дар: калі які брат мае жонку ня-
верніцу, і яна згодная жыць із ім,
няхай не пакідае яе; 13 І жонка,
што мае мужа нявернiка, і ён згод-
ны жыць із ёю, няхай не пакідае
яго; 14 Бо нявернік муж усьвячаец-
ца жонкаю верніцаю, і жонка ня-
верніца ўсьвячаецца мужам верні-
кам. Накш дзеці вашыя былí б ня-
чыстыя, а цяпер сьвятыя.

15 Калі ж нявернік хоча разлу-
чыцца, хай разлучаецца; брат або
сястра ў такіх прылучаёх не пры-
няволены, бо Бог пагукáў нас да
супакою. 16 Скуль ведаеш ты, жон-
ка, ці не спасеш мужа? Або скуль
ведаеш ты, мужу, ці не спасеш жон-

кі? 17 Толькі кажны рабі так, як
Бог яму прызначыў, і кажны, як
Спадар пагукáў. Гэтак я загадую па
ўсіх цэрквах. 18 Калі хто пагукáны
абрэзаным, не хавайся; калі хто па-
гукáны неабрэзаным, не абразайся.
19 Абразаньне нішто і неабразаньне
нішто, але дзяржаньне расказаньняў
Божых.

20 Хай кажны застаецца ў тым
пагукáньню, у каторым пагукáны.
21 Калі нявольнікам ты пагукáны,
не парушайся гэтым; але калі мо-
жаш стаць вольным, дык валéй ка-
рыстай з гэтага. 22 Бо нявольнік,
пагукáны ў Спадару, завецца воль-
нік Спадароў; адголькава й пагу-
кáны вольным завецца нявольнік
Хрыстоў. 23 Вы куплены цаною;
ня будзьце нявольнікамі людзкімі.
24 Браты, няхай кажны, якім па-
гукáны, такім заставайся перад Бо-
гам.

25 Узглядам дзявоцтва я ня маю
расказаньня Спадаровага, але даю
раду, як тый, катораму зь міласэр-
дзя Свайго даў Спадар быць вер-
ным. 26 Я дапушчаю, што добра
дзеля цяперашняе патрэбы, значыц-
ца, добра чалавеку застацца так, як
ён ёсьць. 27 Злучаны ты із жон-
каю? ня шукай вывальненьня. Вы-
вальнены ад жонкі, ня шукай жонкі.
28 Калі, адылі, ажэнішся, ня із-
грэшыш; і калі дзеўка выйдзе за-
муж, ня ізгрэша. Але таковыя бу-
дуць мець атугу ў целе; а я вас
жалею.

29 Але гэта я вам кажу, браты:
час засталы скарочаны, каб маю-
чыя жонкі былі як ня маючыя; 30 І
тыя, што плачуць, як ня плачучыя;
і тыя, што цешацца, як тыя, што
ня цешацца; і купляючыя, як не
дзяржачыя; 31 І тыя, што ўжыва-
юць сьвету гэтага, як ненадужыва-
ючыя; бо мінае абраз сьвету гэтага.
32 А я зычу, каб вы былі бяз кло-
пату.

Нежанаты рупіцца праз справы
Спадаровы, як падабацца Спадару;
33 А жанаты рупіцца праз справы
сьвету, як падабацца жонцы. 34 Ё
розьніца памеж замужкі й дзеўкі;
незамужняя рупіцца праз справы
Спадаровы, каб быць сьвятой целам
і духам; а замужняя рупіцца праз
справы сьвету, як падабацца мужу
свайму.

35 Кажу гэта дзеля вашае ж ка-
рысьці, не каб зрабіць абмежаньне
вам, але дзеля таго, што гэта нале-
жа і каб служылі Спадару без адхі-
наньня. 36 Але калі хто ўважае,
што ня лець дзеўцы ягонай, каб
яна, будучы ў цьвеце, заставалася
так, дык няхай робе, што хоця, —
ня ізгрэша; хай выходзяць замуж.
37 Але хто стаіць цьверда ў сэрцу
сваім, ня прысілены патрэбаю, але,
маючы ўладу над воляю сваёй, па-
станавіў у сэрцу сваім дзяржаць яе
дзеўкаю, тый добра робе. 38 Затым,
хто выдаець замуж дзеўку сваю,
добра робе; а хто не выдаець, робе
ляпей.

39 Жонка зьвязáна, пакуль жы-
вы муж; калі ж муж ейны памрэць,
вольная выйсьці за каго хоча, адно
ў Спадару. 40 Але яна шчасьліўшая,
калі застанецца так, подле пагляду
майго; а, думаю, і я маю Духа Бо-
жага.

8 А што да абраканага балваном,
мы ведаем, бо мы ўсі маем ве-
даньне; веданьне надымае, але лю-
босьць будуе. 2 Калі хто думае, што
ён знае што-колечы, тый нічога
яшчэ ня знае так, як мае знаць.
3 Але хто любе Бога, таму дана
знацьцё ад Яго.

4 Дык, што да ядзеньня абрака-
нага балваном, мы ведаем, што бал-
ван на сьвеце нішто, і што няма
іншага Бога, апрача Аднаго. 5 Бо
хоць і ё так званыя багі, або на
небе, або на зямлі, бо ё шмат багоў
і паноў шмат; 6 Але ў нас адзін
Бог Айцец, з Каторага ўсе, і мы
дзеля Яго, і адзін Спадар Ісус Хры-



стос, Каторым усе, і мы Ім. 7 Але
ня ў вусіх такое веданьне: нека-
трыя із сумленьням што да балва-
ноў, дагэтуль ядуць, як абраканае
балваном, і сумленьне іхнае, буду-
чы млявым, брудзяніцца.

8 Ежа не паручае нас Богу: калі
мы ямо, ня маем перавагі; калі не
ямо, нічога ня трацім. 9 Глядзіце,
адылі, каб гэтае права ня было спа-
тыкненьням кволым.

10 Бо калі хто-колечы абача, што
ты, маючы веданьне, сядзіш за ста-
лом у доме балваноў, дык сумленьне
ягонае, як кволага, ці не захоце яго
есьці абраканае балвану? 11 І ад
веданьня твайго загіне кволы брат
твой, за каторага памер Хрыстос.
12 Вось жа, гэтак грэшачы супроці
братоў і ранячы млявае сумленьне
іхнае, вы грэшыце супроці Хрыста.
13 Затым, калі ежа спадманяе брата
майго, ня буду есьці мяса на векі,
каб не спадмануць брата свайго.

9 Ці ня вольны я? Ці не апостал
я? Ці ня бачыў я Ісуса Хрыста,
Спадара нашага? Ці не мая праца
вы ў Спадару? 2 Калі іншым я не
апостал, дык запраўды вам; бо пя-
чаць майго апосталства вы ў Спа-
дару.

3 Во мая абарона ад судлівячых
мяне. 4 Ці мы ня маем права есьці
й піць? 5 Ці ня маем права мець спа-
дарожніцаю сястру жану, як і ін-
шыя апосталы а браты ў Спадару
а Кіфа? 6 Або адзін я а Варнава ня
маем права не рабіць? 7 І які жаў-
нер ваюе на свой кошт? Хто, заса-
дзіўшы вінішча, ня есьць пладоў із
яго? Хто, пасучы чараду, ня есьць
малака ад чарады?

8 Ці я кажу гэта палюдзку? Ці
й Закон гэтага ня кажа? 9 Бо ў За-
коне Масеявым напісана: „Не завя-
жаш пыску валу малоцячаму". Ці
праз валы рупіцца Бог? 10 Ці ня
супоўна дзеля нас кажацца? Бо нам
гэта напісана; бо хто арэць, мае
арáць із надзеяю, хто малоце, із
спадзеваю мець дзель.

11 Калі мы пасеялі ў вас духоў-
нае, ці вялікае гэта, калі пажнем
у вас цялеснае? 12 Калі іншыя ма-
юць у вас права мець дзель, ці не
пагатове мы? Мы, адылі, не кары-
стаем із гэтага права, але ўсе цер-
пім, каб не зрабіць ніякага заміну
дабравесьці Хрыстовай.

13 Ці вы ня ведаеце, што працу-
ючыя каля сьвятых рэчаў жывяцца
із сьвятыні? што слугуючыя ля
аброчніка маюць дзель із аброчні-
ка? 14 Гэтак і Спадар загадаў, каб
абяшчаючыя дабравесьць жылі з
дабравесьці. 15 Але я не карыстаў
зь нічога гэтага. І напісаў гэта ня
дзеля таго, каб так было імне; бо
імне валей памерці, чымся каб хто
змарнаваў пахвалу маю.

16 Бо, калі я абяшчаю дабра-
весьць, дык няма імне чым хваліц-
ца, бо гэта мой абавязак, і бяда ім-
не, калі б я не абяшчаў дабравесьці!
17 Бо калі я раблю гэта самахоць,
дык буду мець заплату, але калі не
самахоць, дык спаўняю паверапы
імне ўрад. 18 За што ж імне запла-
та? За тое, што, абяшчаючы дабра-
весьць, абяшчаю дарма, не карыс-
таючы з належнага імне права ў
дабравесьці.

19 Бо, будучы вольны ад усіх,
я ўчыніў сябе нявольнікам усіх, каб
найбалей прыдбаць. 20 І быў да
Жыдоў як Жыд, каб магчы пры-
дбаць Жыдоў; да тых, што пад За-
конам, як пад Законам, ня будучы
сам пад Законам, каб магчы прыд-
баць тых, што пад Законам; 21 Да
тых без Закону, як без Закону, ня
будучы без закону Божага, але пад
законам Хрыстовым, каб прыдбаць
тых, што без Закону; 22 Да млявых
стаў млявым, каб прыдбаць млявых.
Да ўсіх я стаў усім, каб спасьці пры-
намся некатрых. 23 А ўсе гэта ра-
блю дзеля дабравесьці, каб учасьні-
кам яе быць.

24 Ціж ня ведаеце, што выперад-
нікі на выперадках бягуць усі, але
адзін адзержуе надгароду? Дык бя-
жыце, каб адзяржаць. 25 Кажны ж
дужэль заховуе самавалоданьне:
тыя запраўды, каб адзяржаць вя-
нок псавальны, а мы — непсаваль-
ны. 26 Затым я бягу ня так, як на
няпэўнае, б'юся ня так, быццам б'ю
паветра; 27 Але слышу цела свае
і няволю яго, каб, абяшчаючы ін-
шым, самому ня быць адхіненым.
10 Не хачу ж, каб вы, браты, ня
ведалі, што айцове нашы ўсі
пад булаком былі і ўсі перайшлі
пераз мора; 2 І ўсі хрысьціліся ў
Масея ў булакý і ў мору; 3 І ўсі
елі тую самую духоўную ежу; 4 І
ўсі пілі тый самы духоўны напітак,
бо пілі з духоўнае скáлы, што йшла
за імі; скала ж былá Хрыстос.
5 Бог, адылі, не ўпадабаў бальшыні
зь іх, бо яны расьцярушыліся па
пустыні.

6 Гэта ж сталася як праабразы
нам, каб мы ня гáліліся на благое,
як запраўды пагáліліся яны. 7 І ня
будзьце балвахвaламі, як некатрыя
зь іх, як напісана: „Люд сеў есьці
а піць, і ўстаў гуляць". 8 І не бя-
зульма, як некатрыя зь іх бязулілі,
і за адзін дзень загінула іх двац-
цаць тры тысячы. 9 Ані спакушай-
ма Хрыста, як некатрыя зь іх спа-
кушалі, і загінулі ад гáдаў. 10 Ані
наракайце, як некатрыя зь іх нара-
калі, і загінулі ад згубцы.

11 Гэта ж усе сталася ім, як пра-
абразы, і напісана на навуку нам,
каторых дасяглі апошнія вякі.
12 Затым, хто думае, што ён стаіць,
глядзі, каб не паваліцца. 13 Вас
стрэла спакуса ня іншая, як людз-
кáя; і верны Бог, Каторы не да-
пусьце вас спакушаць звыш магчы-
масьці вашае, але із спакусаю дасьць
і палёгку, каб вы маглі вытрываць.

14 Дык, любовыя мае, уцякайце
ад балвахвалства. 15 Я кажу як ра-
зумным, разважча, што кажу.
16 Чара дабраславеньня, каторую
дабраславім, ці ня ёсьць узаем'е
крыві Хрыстовае? Хлеб, што ломім,
ці ня ёсьць узаем'е цела Хрысто-
вага? 17 Бо адзін хлеб, адно цела
шмат нас, бо ўсі мы ўчасьнікі адна-
го хлеба.

18 Гляньце на Ізраеля подле це-
ла: тыя, што ядуць аброкі, ці ня
ўчасьнікі аброчніка? 19 Што я ка-
жу? Ці тое, што балван ё што-ко-
лечы, або абраканае балваном знача
што-колечы? 20 Але што абракаюць
пагане, нячысьцікам абракаюць, а
ня Богу. А я ня зычу, каб вы былí
ў вузаем'ю зь нячысьцікамі. 21 Ня
можаце піць чары Спадаровае і ча-
ры нячысьцікавае, ня можаце быць
учасьнікамі столу Спадаровага і сто-
лу нячысьцікавага. 22 Ці будзем да-
водзіць Спадара да завісьці? Ці мы
дужшыя за Яго? ?

23 Усе дазволена, але ня ўсе ка-
рысна; усе дазволена, але ня ўсе
будуе. 24 Ніхто ня шукай свайго,
але кажны другога. 25 Усе, што
прадаецца ў мясных крамах, ежча
бязь ніякага выпытаваньня дзеля
сумленьня; 26 Бо „зямля Спадаро-
ва, і ўся паўніня яе".

27 Калі хто зь нявернікаў паза-
вець вас, і хочаце йсьці, усе, што
пасулена вам, ежча бязь ніякага вы-
пытаньня дзеля сумленьня. 28 Але
калі хто скажа вам: „Гэта балваном
абраканае"; дык ня ежча дзеля та-
го, хто азнайміў вам, і дзеля сум-
леньня. (Бо зямля Спадарова, і паў-
ніня яе). 29 Сумленьне ж разумею
не твае, але таго другога; бо чаму
мая свабода былá б суджана чу-
жым сумленьням? 30 Калі я з па-
дзякаю спажываю, то нашто ганіць
мяне за тое, за што я дзякую? 31
Дык ці ясьцé, ці п'іцé, ці што ін-
шае робіце, усе рабіце на славу Бо-
жую.

32 Ня будзьце спадманою Жыдом,



ані Грэкам, ані царкве Божай, 33 Як
я гаджу ўсім у вусім, шукаючы ка-
рысьці не свае, але шмат чые, каб
спасьліся.
11 Будзьце перайманьнікамі ў мя-
не, як я ў Хрыста. 2 Але хвалю
вас, браты, што вы ўсе мае памя-
туеце, і дзяржыцé паданьні, як я
падаў вам. 3 Хачу таксама, каб вы
ведалі, што кажнага мужа галава
Хрыстос; галава жончына — муж;
а галава Хрыста — Бог.

4 Каторы муж моліцца альбо пра-
ракае з накрытай галавою, сароме
галаву сваю. 5 А кажная жонка,
што моліцца альбо прaракае праста-
валосая, сароме галаву сваю; бо гэ-
та тое самое, як калі б яна была
пагаліўшыся. 6 Бо калі жонка ня
хоча накрывацца, няхай таксама
стрыжэцца; а калі жонцы сорамна
быць пастрыжанай альбо паголе-
най, няхай накрываецца.

7 Бо муж ня мае накрываць га-
лавы, бо ён абраз а слава Божая;
а жонка — слава мужава. 8 Бо ня
муж із жонкі, але жонка з мужа;
9 Бо таксама ня муж створаны дзе-
ля жонкі, але жонка дзеля мужа.
10 Затым і мае мець жонка на га-
лаве сваёй знак улады дзеля ангі-
лаў. 11 Адылí, ані жонка бяз мужа,
ані муж бяз жонкі ў Спадару. 12 Бо
як жонка з мужа, так і муж пераз
жонку; усе ж — з Бога.

13 Разважча самы, ці гожа жонцы
праставалосай маліцца Богу? 14 Ціж
сама прырода ня вуча вас, што калі
муж мае даўгія валасы, няслава яму
гэта; 15 Але калі жонка мае даў-
гія валасы, ёй слава, бо даўгія ва-
ласы даны ёй замест прыкрыцьця.
16 Але калі б хто думаў быць зва-
длíвым, мы ня маем такога звы-
чáю ані цэрквы Божыя.

17 Але, сулячы гэта, не хвалю,
што вы зьбіраецеся ня дзеля лепша-
га, але дзеля горшага. 18 Бо, пер-
шае, запраўды чую, што, як вы зы-
ходзіцеся на збор, памеж вас бы-
ваюць падзелы, чаму часткава й ве-
ру. 19 Бо мусяць быць таксама гэ-
расі памеж вас, каб выявіліся па-
меж вас узумелыя.

20 Адлі, як зьбіраецеся, дык ня
дзеля вячэры Спадаровае; 21 Бо
кажны барзьдзіць уперад есьці сваю
ежу, і адзін галадуе, а другі п'яны.
22 Ціж у вас няма дамоў, каб есьці
й піць? Або грэбуеце царквою Бо-
жай і сароміце тых, што ня маюць?
Што сказаць вам? ці пахваліць вас
за гэта? за гэта не пахвалю.

23 Бо я прыняў ад Спадара тое,
што й перадаў вам, што Спадар Ісус
тае ночы, каторае быў выданы, узяў
хлеб 24 І, даўшы падзяку, паламіў
і сказаў: „Гэта цела Мае, каторае
за вас ломіцца; гэта рабіце на Маю
памятку". 25 Таксама й чару па вя-
чэры, кажучы: „Гэта чара ё новая
ўмова ў крыві Маёй, гэта рабіце так
часта, як п'іцé, на Маю памятку".
26 Так часта, як вы ясьцé хлеб
гэты і п'іцé чару гэтую, сьмерць
Спадарову абяшчаеце, пакуль Ён
прыйдзе.

27 Затым, хто будзе есьці хлеб
гэты або піць чару Спадарову ня
годна, вінен будзе Цела й Крыві
Спадаровае. 28 Няхай жа спрабуе
сябе людзіна, і гэтак еж із хлеба
таго і з чары тае. 29 Бо хто есьць
а п'ець ня годна, тый есьць а п'ець
засуджэньне сабе, не разважаючы
праз Цела. 30 Ад гэтага шмат хто
з вас кволы а хворы і ня мала за-
сынае.

31 Бо, калі б мы судзілі самы
сябе, дык ня былí б суджаны;
32 Будучы ж суджаны, мы казьне-
раныя Спадаром, каб ня былі за-
суджаныя із сьветам. 33 Затым,
браты мае, зьбіраючыся на вячэру,
жджыце адзін аднаго. 34 Калі хто
хоча есьці, няхай есьць дома, каб
зьбірацца вам не на засуджэньне.
Засталае ўладжу, як прыйду.
12 Узглядам жа духоўных дароў,
браты, не хачу, каб вы ня ведалі.

2 Ведаеце, што, як вы былі пагане, дык хадзілі да бязмоўных балваноў, бы воджаныя. 3 Затым азнаймую вам, што ніхто, Духам Божым гу́каючы, ня скажа: „Праклён на Ісуса!" і ніхто ня можа сказаць: „Спадар Ісус", хіба Духам Сьвятым.

4 Дары ж розныя, але Дух тый самы; 5 І службы розныя, а Спадар тый самы; 6 І дзеяньні розныя, а Бог тый самы, Каторы дзее ўсе ў вусіх. 7 Але кажнаму даецца выяўленьне Духа на карысьць: 8 Аднаму даецца Духам слова мудрасьці, другому слова веды, тым жа Духам; 9 Іншаму вера, тым жа Духам; а іншаму дары ўздараўленьня, тым адным Духам; 10 А іншаму чыненьне магутнасьцяў, іншаму прароцтвы, іншаму адрозьненьне духоў, іншаму розныя мовы, іншаму зьясьненьне моваў. 11 Але ўсе гэта дзее адзін а тый самы Дух, удзяляючы апрычона кажнаму, подле замéру свайго. 12 Бо як цела адно, але мае шмат чаланоў, і ўсі чаланы адно цела, хоць шмат, але адно цела, — так і Хрыстос. 13 Бо запраўды адным Духам хрысьціліся ўсі мы ў вадно цела, ці то Жыды ці то Грэкі, ці то нявольнікі ці то вольнікі; і ўсім даны піць адзін Дух.

14 Бо запраўды цела не адзін чалон, але шмат. 15 Калі нага скажа: „Я ня часьць цела, бо я ня рука", дык нягож яна затым ня часьць цела? 16 І калі вуха скажа: „Я ня вока, дык я ня часьць цела", дык нягож яно затым ня часьць цела? 17 Калі ўсе цела вока, дык ідзе чутасьць? Калі ўсе чутасьць, дык ідзе нюх? 18 Але Бог расклаў чаланы, кажны зь іх у целе, як Ён зычыў. 19 Калі б усі былі адзін чалон, дык ідзе цела? 20 Але цяпер чаланоў шмат, а цела адно. 21 Ня можа вока сказаць руццэ: „Ты імне непатрэбная"; альбо таксама галава нагам: „Вы імне непатрэбныя". 22 Наадварот, чаланы цела, што здаюцца слабшыя, шмат патрабнейшыя. 23 А каторыя мы ўважаем за меней пачэсныя ў нашым целе, тыя акружаем большым збыткам, і нашы менш пачэсныя чаланы ў большым збытку прыгажосьць маюць; 24 А нашы прыгожыя таго не патрабуюць. Але Бог так сумерна ўладзіў цела, даючы чэсьць у большым збытку патрабуючым сьці, 25 Каб ня было падзелу ў целе, але каб чаланы мелі тую самую рупнасьць адзін праз аднаго. 26 І калі адзін чалон церпе, усі чаланы церпяць зь ім; і калі адзін чалон славіцца, усі чаланы цешацца зь ім. 27 І вы — цела Хрыстова, а паасобку — чаланы. 28 А іншых Бог пастанавіў у царкве, першае — апосталаў, другое — прарокаў, трэйцяе — вучыцеляў; адлі магутнасьці, тады дары ўздараўляньня, памогі, рáджаньня, розныя мовы. 29 Ці ўсі апосталы? ці ўсі прарокі? ці ўсі вучыцелі? ці ўсі магутнасьці? 30 Ці ўсі маюць дары ўздараўленьня? ці ўсі гу́каюць мовамі? ці ўсі зьясьняюць? 31 Але жадайце горача дароў большых; і яшчэ вышшыя дарогі пакажу вам.

13 Калі б я гу́каў мовамі людзкімі й ангільскімі, а міласьці ня меў, дык я — медзь зьвінячая і цымбалы гучныя. 2 І калі б я меў прароцтвы, і ведаў усі тайны, і меў усялякае знацьцё, і меў бы ўсю веру, ажно горы перасуваў, а міласьці ня меў, — то я нічога. 3 І калі б раздаў усе меньне свае, і калі б аддаў цела свае на спаленьне, а міласьці ня меў, — дык гэта імне не карысна.

4 Міласьць цярплівая, зычлівая, міласьць не завідная, міласьць не вяльмуецца, не пыхацее, 5 Не заховуецца нялецьць, ня шукае свайго собскага, ня квеліцца, ня думае ліха, 6 Ня цешыцца зь бяспраўя, але цешыцца з праўды; 7 Усе пакрывае,



усяму вера, усяго спадзяецца, у вусім трывае.

8 Міласьць ніколі не перастаець, хоць ё прароцтвы, але перастануць, хоць ё мовы, але перастануць, хоць ё веда, але перастане. 9 Бо мы часткава ведаем і часткава прарақаем. 10 Як настане дасканальнае, тады часткавае аддáліцца.

11 Як я быў бязьлеткам, я зюкаў, як бязьлетак, я думаў, як бязьлетак, я разважаў, як бязьлетак; а як стаў мужам, дык пакінаў бязьлетнае. 12. Цяпер мы глядзім, бы праз шкло, наўманы, але тады відам да віду; цяпер я ведаю часткава, а тады пазнáю, падобна як я супоўна пазнаны.

13 Цяпер трываюць тры: вера, надзея, міласьць; гэтыя тры, але большая зь іх міласьць.

14 Ганіцеся за міласьцяй і горача жадайце духоўных дароў, асабліва, каб вы маглі прарақаць. 2 Бо хто гу́кае мовою, ня гу́кае людзём, але Богу; бо ніхто ня слухае, ён тайны гу́кае духам; 3 А хто прарақае, тый гу́кае людзём збудаваньне а захочаньне а пацяшэньне.

4 Хто гу́кае мовою, будуе сябе; а хто прарақае, тый будуе царкву. 5 Я зычу, каб вы ўсі гу́калі мовамі; але валей, каб прарақалі, бо хто прарақае, тый пераходзе гу́каючага мовамі, хіба, што ён зьясьніць, каб царква адзяржала збудаваньне.

6 Дык цяпер, браты, калі я прыйду да вас, гу́каючы мовамі, дык што за карысьць вам, калі ня буду гу́каць аб'яўленьням, або знацьцём, або прароцтвам, або навукаю? 7 Гэта ж і няжывыя рэчы, што выдаюць гук, як дудка альбо гарпа; калі б ня было розьніцы ў гуках, як пазнаць, што дудзіць альбо грае гарпа? 8 Таксама калі труба выдаець неазначаны гук, хто будзе гатавацца да бітвы? 9 Гэтак і вы, калі языком вымаўляеце незразумелыя словы, дык як пазнаюць, штó вы гу́каеце? Вы будзеце гу́каць у паветра. 10 Колькі, прыкладам, розных словаў на сьвеце, і ні воднага зь іх няма без азначанага гуку. 11 Калі ж я ня знаю моцы гуку, буду таму, што гу́кае, чужаземцам, і тый, што гу́кае, імне чужаземец. 12 Гэтак і вы, будучы рупатлівыя духоўных дароў, старайцеся збыткаваць на збудаваньне царквы.

13 Затым тый, хто гу́кае мовою, хай моліцца, каб мог зьясьніць. 14 Бо калі я малюся мовою, дух мой моліцца, але розум мой бясплодны.

15 Дык што ж? Буду маліцца духам, але буду маліцца й розумам; буду пяяць духам, але буду пяяць і розумам. 16 Бо, накш кажучы, калі ты дабраславіш духам, як можа тый, што займае месца простага, сказаць „Амін" на тваё дзякаваньне? Бо ён ня ведае, што ты кажаш.

17 Бо ты запраўды добра дзякуеш, але другі ня будуецца. 18 Дзякую Богу, што балей за ўсіх вас мовамі гу́каю; 19 Але ў царкве зычу валей пяць словаў сказаць розумам сваім, каб і іншых навучыць, чымся дзесяць тысячаў словаў мовою.

20 Браты! ня будзьце дзеці розумам: на ліха будзьце бязьлеткі, але розумам будзьце выраслыя. 21 Напісана ў Законе: „Людзьмі іншых моваў і чужымі вуснамі буду гу́каць да люду гэтага, але й гэтак не паслухаюць Мяне, кажа Спадар". 22 Дык мовы ё на знак ня вернікам, але нявернікам; а прароцтвы не нявернікам, але вернікам.

23 Калі ўся царква зыйдзецца разам, і ўсі будуць гу́каць мовамі, і простыя ўвыйдуць альбо нявернікі, дык ці ня скажуць яны, што вы шалёныя? 24 Але як усі прарақаюць, і ўвыйдзе які нявернік альбо просты, яго ўсі пераконуюць, усі судзяць яго. 25 І тайны сэрца ягонага выяўляюцца, і ён падае ніцма,

кланяецца Богу й скажа, што зап-
раўды з вамі Бог.

26 Дык што ж, браты? Як вы
зыходзіцеся, кажны з вас мае псаль-
му, мае навуку, мае мову, мае аб'яў-
леньне, мае выклад, — усе няхай
будзе на збудаваньне.

27 Калі хто гýкае моваю, хай бу-
дзе двух альбо найбалей трох, ды
паасобку, і адзін зьясьняй. 28 Ка-
лі ж ня будзе зьясьняньніка, няхай
ён маўчыць у царкве, а гýкае само-
му сабе й Богу.

29 Прарокі ж няхай два або тры
гýкаюць, а іншыя няхай разважа-
юць. 30 Калі ж іншаму седзячаму
было аб'яўленьне, няхай першы
маўчыць. 31 Бо можаце ўсі адзін за
адным прарокаць, каб усі вучыліся
і ўсі захочаваліся. 32 І духі прароц-
кія падданыя прарокам; 33 Бо Бог
ня ё Бог нярàду, але супакою, як
у вусіх цэрквах сьвятых.

34 Няхай жанкі маўчаць у цэрк-
вах, бо не дазволена ім гутарыць,
але быць падданымі, як і Права ка-
жа. 35 Але, калі яны зычаць наву-
чыцца чагось, няхай пытаюцца ў
мужоў сваіх дома, бо сорам жонцы
гутарыць у царкве. 36 Ціж ад вас
вышла слова Божае? Або да вас ад-
ных дасягло?

37 Калі хто ўважае сябе за пра-
року альбо духоўнага, няхай паз-
наéць, што я пішу вам, што гэта
расказаньне Спадарова; 38 А хто
ня ведае, няхай ня ведае. 39 Дык,
браты, руппеся прарокаць, але не
бараніце гýкаць мовамі. 40 Ня-
хай жа ўсе дзеецца гожа а радна.

15 Прыпамінаю вам, браты, Дабра-
весьць, каторую я абяшчаў вам,
каторую вы й прынялі, у каторай
стаіцé, 2 Каторай і спасаецеся, калі
дзяржыцé моцна слова, каторае я
абяшчаў вам, як Дабравесьць, хіба
што надарма ўверылі.

3 Бо я перш-наперш падаў вам,
што й я прыняў, што Хрыстос памер
за грахі нашы, подле Пісьмаў, 4 І
што Ён быў пахаваны, і што ўскрэс
на трэйці дзень, подле Пісьмаў, 5 І
што зьявіўся Кіфе, адлі двананца-
цём; 6 Адлі зьявіўся звыш пяцьсот
братом адразу, з каторых большыня
перабывае дагэтуль, але некатрыя
й заснулі; 7 Потым зьявіўся Якаву,
адлі ўсім апосталам.

8 І, наапошку, як нейкаму ськіве-
наму, зьявіўся й імне. 9 Бо я най-
меншы з апосталаў і нягодны звац-
ца апосталам, бо я перасьледаваў
царкву Божую. 10 Але ласкаю Бо-
жаю я ё тое, што я ё; і ласка Яго-
ная ў імне ня была дармá, але я
папрацаваў найпладней за ўсіх іх;
ня я, адылі, але ласка Божая, што
з імною. 11 Дык ці я, ці яны, мы
так абяшчаем і так верым.

12 Калі ж праз Хрыста абяш-
чаюць, што Ён ускрэс ізь мертвых,
дык як некатрыя з памеж вас ка-
жуць, што ўскрысеньня мертвых ня-
ма? 13 Калі няма ўскрысеньня мерт-
вых, дык і Хрыстос ня ўскрэс. 14 А
калі Хрыстос ня ўскрэс, тады за-
праўды й абяшчаньне наша пустое,
пустая й вера нашая. 15 Ды мы
апынуліся б і хвальшывымі сьвет-
камі Бога, бо сьветчылі б праз Бо-
га, што Ён ускрысіў Хрыста, Като-
рага Ён ня ўскрышаў, калі запраў-
ды мертвыя ня ўскрысаюць; 16 Бо
калі мертвыя ня ўскрысаюць, дык
і Хрыстос ня ўскрэс; 17 А калі
Хрыстос ня ўскрэс, дык вера вашая
бескарысная: вы яшчэ ў грахох сва-
іх; 18 Тады й тыя, што заснулі ў
Хрысту, загінулі б. 19 Калі толькі
ў гэтым жыцьцю надзею маем у
Хрысту, мы найняшчасьнейшыя з
усіх людзёў.

20 Вось жа, Хрыстос ускрэс ізь
мертвых, першак із заснулых. 21 Бо
як сьмерць праз людзіну, праз
людзіну і ўскрысеньне зь мертвых;
22 Бо як ув Адамý ўсі паміраюць,
так таксама ў Хрысту ўсі ажывуць.
23 Але кажны ў собскім парадку
сваім: першак Хрыстос, потым



Хрыстовыя ў часе прыходу Ягона-
га. 24 Адлі канец, як Ён перадасьць
гаспадарства Богу а Айцу, як ска-
суе ўсялякі ўрад і ўсялякую ўладу
а магутнасьць; 25 Бо яму нале-
жыцца гаспадарстваваць, пакуль не
пакладзець усіх нéпрыяцеляў пад
ногі Свае.

26 Апошні ж скасаваны нéпрыя-
цель — сьмерць, 27 „Бо ўсе паддаў
пад ногі Ягоныя". Калі ж сказáна,
што ўсе паддана, дык ясна, што ап-
рача таго, хто паддаў Яму ўсе.
28 Калі ж усе будзе паддана Яму,
тады Сын і Сам паддасца Таму, хто
паддаў усе Яму, каб Бог быў усе
ў вусім.

29 Бо што ўчыняць тыя, што хры-
сьцяцца дзеля мертвых? Калі мерт-
выя ня ўскрысаюць сусім, дык наш-
то й хрысьціцца дзеля мертвых?
30 Нашто ж і мы церпім небясьпеч-
насьць кажнае гадзіны? 31 Я кажны
дзень паміраю, подле пахвалы ва-
шае, браты, каторую я маю ў Хрыс-
ту Ісусу, Спадару нашым.

32 Калі гýкаць палюдзку, як я
змагаўся ізь зьверанятамі ў Ефэсе,
што за карысьць імне, калі мертвыя
ня ўскрысаюць? Ежма а піма, бо
заўтра памрэм! 33 Ня дайцеся зво-
дзіць: благія таварыствы псуюць
добрыя звычаі. 34 Прачхніцеся зап-
раўды і не грашыце, бо некатрыя
ня маеце знацьця Бога. На сорам
вам гэта кажу.

35 Але хто-колечы скажа: „Як
ускрысаюць мертвыя і ў якім целе
прыходзяць?" 36 Неразумны; што
ты сееш, не ажывець, калі не пам-
рэць. 37 І што сееш, сееш ня цела
будучае, але голае зярнё, можа
пшонку альбо што іншае. 38 Але
Бог даець яму цела, як хоча, і каж-
наму насеньню свае цела.

39 Ня кажнае цела такое ж це-
ла; але накшае цела ў людзёў, нак-
шае ў зьверанят, накшае ў рыбы,
накшае ў птушак. 40 Ё целы ня-
бёсныя і целы земныя, але накшая
слава нябёсных, а накшая земных;
41 Накшая слава сонца, і накшая
слава месяца, і накшая слава гве-
здаў, бо гвязда ад гвязды розьніцца
славаю.

42 Гэтак і ўскрысеньне зь мерт-
вых: сеецца псавальнае, ускрэсьне
непсавальнае; 43 Сеецца ў няславе,
паўстаець у славе; сеецца ў квола-
сьці, паўстаець у магутнасьці; 44 Се-
ецца цела душэўнае, паўстане цела
духоўнае. Ё цела душэўнае, ёсьць
і цела духоўнае. 45 Гэтак і напіса-
на: „Першы чалавек Адам стаў ду-
шою жывучай, апошні Адам духам
жыцьцё даючым".

46 Але ня духоўнае ўперад, а ду-
шэўнае, адлí духоўнае. 47 Першая
людзінá — із зямлі, земная; дру-
гая людзінá — зь неба. 48 Якоў тый
земны, таковыя й земныя; і якоў
тый нябёсны, таковыя й нябёс-
ныя. 49 І як мы несьлі абраз зем-
нага, так панясем і абраз нябёснага.

50 Але гэта кажу, браты, што
целу а крыві ня можа спáсьці гас-
падарства Божае ані папсуцьцю
спасьці непсавальнае. 51 Вось, ка-
жу вам тайну: ня ўсі мы засьнем,
але ўсі зьменімся, 52 Разам, якга,
міг вока, на трубеньне апошняе; бо
затрубе, і мертвыя ўскрэснуць не-
псавальнымі, а мы зьменімся; 53 Бо
псавальнаму належа адзецца ў не-
псавальнае, і сьмяротнаму — у не-
сьмяротнае. 54 Як жа псавальнае
адзенецца ў непсавальнае, і сьмя-
ротнае адзенецца ў несьмяротнае,
тады ўжыцьцёвіцца слова напіса-
нае: „Глынена сьмерць перамогаю".
55 „Сьмерць! ідзе жыгала твае?
пекла! ідзе перамога твая?"

56 Жыгала ж сьмерці — грэх, а
сіла грэху Закон. 57 Але дзякі Бо-
гу, Каторы даець нам перамогу пе-
раз Спадара нашага Ісуса Хрыста.

58 Дык, браты мае любовыя,
будзьце моцныя, непахісныя, збыт-

куйце ў працы Спадаровай заўсёды,
ведаючы, што праца вашая не дар-
ма ў Спадару.

16 Узглядам збору на сьвятых ра-
біце так, як я пастанавіў у цэрк-
вах Галяцкіх: 2 Першага дня тыдня
няхай кажны з вас адкладае дома,
кладучы подле можнасьці, каб не
тады былі зьбіраньні, як я прыйду.
3 Як жа прыбуду, дык, каторых вы
прызнаеце за годных, тых я пашлю
зь лістамі даставіць гэту ласку да
Ерузаліму. 4 А калі лецъ будзе, каб
я таксама пайшоў, яны пойдуць із
імною.

5 Я прыйду да вас, як прайду
Макядоню; бо я йду праз Макядо-
ню. 6 А ў вас, хіба, пажыхару або
й перазімую, каб вы мяне праводзі-
лі, куды-лень пайду. 7 Бо я не хачу
бачыцца з вамі цяпер, праходзячы,
бо спадзяюся застацца з вамі якісь
час, калі Спадар дазволе. 8 У
Ефэсе я застануся да Пяцьдзясятні-
цы, 9 Бо вялікія дзьверы адчыне-
ныя імне, ды моцныя, а праціўні-
каў шмат.

10 Як прыйдзе да вас Цімох, гля-
дзіце, каб ён быў у вас бяз страху;
бо ён паўніць справу Спадарову, як
і я. 11 Дык ніхто ня май яго ўлег-
цы, але прапусьціце яго із супако-
ям, каб ён прышоў да мяне, бо я
чакаю яго з братамі.

12 А што да брата Аполоса, я
вельмі прасіў яго, каб ён із братамі
пайшоў да вас; але ён ніяк не ха-
цеў ісьці цяпер, але прыйдзе тады,
як будзе мець добрую прыгоду.

13 Будзьце чукавыя, стойце ў ве-
ры, будзьце мужныя, дужыя; 14 Усе
ў вас хай будзе зь любосьцю.

15 Прашу вас, браты, — вы знае-
це радзіму Сьцепанову, што яна ё
першы плод Ахаі, і што яны пась-
вяцілі сябе на службу сьвятым, —
16 Будзьце й вы падданыя таковым
і кажнаму супрацаўню а гарапаш-
ніку.

17 Я цешуся з прыбыцьця Сьце-
пана а Фортуната а Ахаіка, бо яны
запоўнілі нястачу вас; 18 Бо яны
пачырсьцьвілі мой дух і ваш, прыз-
найце такіх.

19 Здароваюць вас цэрквы аскія;
здароваюць вас шчыра ў Спадару
Аквіла а Прыськіла з царквою,
што ў доме іхным. 20 Усі браты зда-
роваюць вас. Здаровайце адно адна-
го сьвятым цалаваньням.

21 Здарованьне Паўлава собскаю
рукою.

22 Хто ня любе Спадара, анафема
яму, маран-афа.

23 Ласка Спадара нашага Ісуса
Хрыста з вамі, 24 І міласьць мая
з усімі вамі ў Хрысту Ісусу. Амін.

## ДРУГІ ЛІСТ СЬВ. ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА КАРЫНЦЯН

1 Паўла, з волі Божае апостал
Ісуса Хрыста, а Цімох брат,
царкве Божай, што ў Карынце, з
усімі сьвятымі, што ў вусёй Ахаі:
2 ласка вам а супакой ад Бога Айца
а Спадара Ісуса Хрыста.

3 Дабраславёны Бог а Ацец Спада-
ра нашага Ісуса Хрыста, Ацец міла-
сэрдзя і Бог усялякага пацяшэньня,
4 Каторы цеша нас у кажнай атузе
нашай, каб і мы маглі цешыць тых,
што былі б у якой-лень атузе, тым
пацяшэньням, каторым Бог цеша нас
самых! 5 Бо як збыткуюць у нас
цярпеньні Хрыстовы, так праз
Хрыста збыткуюць таксама паця-
шэньні нашы.

6 Калі мы ў ватузе, дык дзеля
вашага пацяшэньня а спáсеньня, ка-
торае дзеецца пeратрываньням тых
самых цярпеньняў, каторыя й мы
церпім;



7 І надзея наша на вас пэўная.
Каліж цешымся, дык із вашага па-
цяшэньня а спáсеньня, ведаючы,
што як вы ўчасьнікі цярпеньня, так
і пацяшэньня.

8 Бо мы ня зычым, каб вы ня
ведалі, браты, праз атугу, каторая
сталася нам ув Азі, што мы ацяжа-
раны былі звыш меры а сілы, ажно
былі ў безнадзеяньню ўзглядам
жыцьця. 9 Але самы ў сабе мелі
рассудак сьмерці, каб не спадзявац-
ца на самых сябе, але на Бога, Ка-
торы ўскрышае мертвых, 10 Каторы
выбавіў нас ад так блізкое сьмерці
і выбаўляе, і на Каторага спадзяем-
ся, што й яшчэ выбаве. 11 І вы
супрацаваць будзеце малітвамі за
нас, каб за дары нам, за прычынаю
шмат каго, дзякаваньне было за
нас.

12 Бо пахвала нашая гэта, сьвет-
чаньне сумленьня нашага, што ў
прасьціні а шчырасьці перад Богам,
ня ў мудрасьці цялеснай, але ў лас-
цы Божай, мы паступалі на сьвеце,
асабліва ж із вамі. 13 Бо мы ня пі-
шам вам нічога іншага, але што
вы чытаеце й разумееце, і спадзяю-
ся, што будзеце разумець аж да кан-
ца; 14 Бо вы часткава й даведаліся
ўжо, што мы будзем вашай пахва-
лаю, аднолькава й вы нашай, у
дзень Спадара нашага Ісуса.

15 З гэтай пэўнасьцю я маніўся
прыйсьці да вас уперад, каб вы
ўдругава ласку мелі, 16 І праз вас
прайсьці да Макядоні, з Макядоні ж
ізноў прыйсьці да вас, а вы пра-
водзілі б мяне да Юдэі.

17 Ці ўлегцы я зрабіў, маючы
такі замéр? Ці што я замяраю, подле
цела замяраю, так што ў мяне „Але,
але" і „Не, не"? 18 Вось жа, верны
Бог, што слова наша да вас ня ёсьць
„Але" й „Не". 19 Бо Сын Божы,
Ісус Хрыстос, абвяшчаны памеж вас
намі, імною а Сіланом а Цімохам,
ня быў „Але" й „Не"; але ў Ім
было „Але", 20 Бо ўсі абяцаньні
Божыя ў Ім „Але" і ў Ім „Амін", —
на славу Божую праз нас. 21 А
тый, што зацьвярджае нас із вамі ў
Хрысту і памазаў нас, ё Бог, 22 Ка-
торы таксама запячатаваў нас і даў
задатку Духа ў сэрцы нашы.

23 Бо гукáю Бога за сьветку на
душў сваю, што, шчаджаючы вас,
я дагэтуль ня прыходзіў да Карын-
ту, 24 Не затым, быццам мы бярэм
уладу над вераю вашаю; але мы
супрацаўні радасьці вашае: бо ве-
раю вы стаіцé.

2 Я разважыў гэта сабе ня прый-
сьці да вас ізноў із смуткам.
2 Бо, калі я засмучу вас, хто разь-
вяселе мяне, калі ня тый, хто засму-
чаны імною. 3 І гэта самае я пісаў
вам, каб, прышоўшы, ня мець смут-
ку ад тых, з каторых меў бы це-
шыцца, маючы пэўнасьць праз усіх
вас, што радасьць мая ёсьць усіх
вас. 4 Бо зь вялікае атугі а неўпа-
кою сэрца я пісаў вам із шмат
сьлязьмі, не каб засмуціць вас, але
каб вы пазналі любосьць, каторую
я із збыткам маю да вас.

5 Калі ж хто засмуціў, ён не мя-
не засмуціў, але часткава ўсіх вас,
каб я ня быў пераціжараны. 6 Та-
кому досыць гэтае кары ад баль-
шыні. 7 Так што вы наадварот ва-
лей і даруйце й пацешча, каб ножа
надзвычайны смутак не пажэр яго.
8. Затым малю вас змацніць да яго
міласьць. 9 Бо я дзеля таго й пісаў,
каб даведацца довады праз вас, ці
ў вусім вы паслухменыя.

10 Каму ж вы што даруеце, то
й я; бо й я што даравāў, калі да-
раваў што, дзеля вас перад відам
Хрыстовым, 11 Каб нас шайтан не
перайшоў, бо нам не няведамныя
задумы ягоныя.

12 Як жа я прышоў да Троады
дзеля Дабравесьці Хрыстовае, хоць
дзьверы былі адчыненыя імне Спа-
даром, 13 Я ня меў супакою духу

свайму, не знайшоўшы Ціта, брата
свайго; але, разьвітаўшыся зь імі,
я пайшоў да Макядоні. 14 Але дзя-
куй Богу, Каторы заўсёды вядзець
нас да перамогі ў Хрысту і пах
знацьця Сябе выяўляе намі на каж-
ным месцу. 15 Бо вы пах Хрыстоў
Богу у спасаных і ў гінулых: 16 Ад-
ным пах сьмяротны на сьмерць, дру-
гім пах жыцьця на жыцьцё. І хто
здольны на гэта?

17 Бо мы, не як іншыя, каторыя
багацеюць хвальшаваньням слова
Божага, але як із шчырасьці, але
як ад Бога, перад Богам гўкаем
у Хрысту.

3 Ці ізноў нам пачынаць самых
сябе паручаць? Або патрабуем,
як некатрыя, паручных лістоў да
вас альбо ад вас? 2 Вы — ліст наш,
напісаны ў сэрцах нашых, пазна-
ваны а чытáны ўсімі людзьмі, 3 Вы-
яўлены ліст Хрыстоў, выслужаны
намі, напісаны ня чэрняю, але Ду-
хам Бога жывога, не на камéнных
дошчачках, але на цялесных дошча-
чках сэрца.

4 А такі давер мы маем пераз
Хрыста да Бога; 5 Не каб мы самы
былі здольныя мысьліць што-лень,
як самы із сябе, але здольнасьць
наша з Бога, 6 Каторы ўчыніў нас
здольнымі слугачымі новае ўмовы,
ня літары, але духа; бо літара за-
бівае, а дух ажыўляе.

7 Калі ж слугаваньне сьмерці, лі-
тарамі выразанае на камянёх, было
слаўнае, ажно не маглі цéміцца сы-
нове Ізраелявы ў від Масеяў з пры-
чыны славы віду ягонага мінучае,
8 Дык ці не пагатове мае быць шмат
слаўнейшае слугаваньне Духа? 9 Бо
калі слугаваньне засуджэньня слаў-
нае, пагатове слугаваньне справяд-
лівасьці збыткуе ў славе. 10 Бо
й услаўленае ня было ўслаўлена,
раўнуючы да пераходзячае славы.
11 Бо калі мінаючае слаўнае, па-
гатове трываючае ў славе.



12 Затым, маючы такую надзею,
мы дзеем вельмі адважна, 13 А ня
так, як Масей, што клаў запінашку
на від свой, так што сынове Ізра-
елявы ня цéміліся ў канец мінаю-
чага. 14 Але розумы іхныя закаля-
нелыя, бо аж дагэтуль тая самая
запінашка пры чытаньню Старога
Закону застаецца, ня будучы ра-
сьхіненая; аддаляецца Хрыстом.
15 Значыцца, аж дагэтуль, як Ма-
сея чытаюць, запінашка ляжыць на
сэрцу іхным. 16 Але, як навaрача-
юцца да Спадара, запінашка гэна
здыймаецца. 17 Спадар ё Дух; а
йдзе Дух Спадароў, там свабода.

18 Мы ж усі, з каторых віду
зьнята запінашка, сузіраючы, як у
ґлядзелцы, славу Спадарову, адмя-
няемся ў тый самы абраз ад славы
ў славу, як ад Духа Спадаровага.

4 Затым, маючы гэта слугавань-
не, адзяржаўшы міласэрдзе, мы
не слабянеем 2 Але мы адракліся
патайных саромных рэчаў, ня хо-
дзячы ў хітрыні, ані хвальшуючы
слова Божага, але праяўляючы
праўду, паручаемся сумленьню ка-
жнага чалавека перад Богам. 3 Ка-
лі ж запраўды й затоена Дабра-
весьць наша, дык затоена ад тых,
што гінуць, 4 Нявернікаў, у като-
рых бог сьвету гэтага асьляпіў ро-
зумы, каб ім не зазьзяла сьвятло
Дабравесьці славы Хрыстовае, Ка-
торы ёсьць абраз Божы. 5 Бо мы
не сябе абяшчаем, але Хрыста Ісу-
са Спадара; а сябе самых, як слу-
гаў вашых дзеля Ісуса. 6 Бо Бог,
Каторы сказаў, каб із цямноты
сьвятліня зазьзяла, асьвяціў сэрцы
нашыя да сьвятла знацьця славы
Божае ў відзе Ісуса Хрыста.

7 Але мы маем гэты скарб у су-
дзьдзю гліняным каб вялікасьць
магутнасьці была Божая, а ня з нас.
8 Адусюль мы засмучоныя, але ня
сьцісьненыя; заклапочаныя, але не
без надзеі; 9 Перасьледавáныя, але



не пакіненыя; упалыя, але не за-
губленыя; 10 Заўсёды носім у целе
мертвасьць Ісуса, каб і жыцьцё Ісу-
сава магло зьявіцца ў целе нашым.
11 Бо мы жывыя заўсёды выдава-
ныя на сьмерць за Ісуса, каб і жы-
цьцё Ісусава зьявілася ў сьмяротным
целе нашым, 12 Так што сьмерць
дзее ў нас, а жыцьцё ў вас.

13 І маючы тый самы дух веры,
подле напісанага: „Я верыў і за-
тым казаў", і мы верым, затым і ка-
жам, 14 Ведаючы, што Тый, хто
ўскрысіў Спадара Ісуса, ускрэсе й
нас із Ісусам і пастанове з вамі.
15 Бо ўсе дзеля вас, каб ласка,
збыткуючы пераз дзякаваньне
шмат каго, збыткавала на славу
Божую.

16 Затым мы не слабянеем; але
калі навонны наш чалавек раскла-
даецца, нутраны, адылі, дзень у
дзень аднаўляецца. 17 Бо чáсныя
лягкія цярпеньні нашы дзеюць нам
нязьмерную славу вечнае вáгі, 18 Як
мы глядзім не на відомае, але на
нявідомае; бо відомае чáснае, а ня-
відомае вечнае.

5 Бо ведаем, што калі земны дом-
вітальня наша абурыцца, мы
маем харому ад Бога, дом ня ру-
камі пастаноўлены, вечны ў нябё-
сах. 2 Бо запраўды ў гэтым мы
ўздыхаем, вельмі жадаючы адзецца
домам нашым, што зь нябёсаў; 3 За-
тым, будучы адзеўшыся, ня будзем
засьпеты голыя. 4 Бо мы ў гэтай
вітальні ўздыхаем, будучы ацяжа-
раныя, бо ня зычым зьдзецца, але
адзецца, каб сьмяротнае было пра-
глынена жыцьцём.

5 А Тый, хто ўчыніў нас да гэ-
тага самага, ё Бог, Каторы й даў
нам задатак Духа. 6 Дык мы заў-
сёды акрыялыя, ведаючы, што ў ця-
лесным доме мы аддаленыя ад Спа-
дара, — 7 Бо мы ходзім вераю, ня
відзеньням, — 8 Мы акрыялыя
і ўважаем, што валéй выйсьці зь



цела і перайсьці да харомы Спада-
ровае.

9 Затым мы й рупімся, ці дома,
ці вонках, падабацца Яму; 10 Бо ўсі
мы маем стаць перад судовым па-
садам Хрыстовым, каб кажны
адзяржаў зробленае ў целе, подле
тога, што ён зрабіў, добрае ці бла-
гое.

11 Дык, знаючы страх Спадароў,
мы пераконуем людзёў, Богу ж мы
адкрытыя; спадзяюся, што адкры-
тыя й вашым сумленьням. 12 Ня із-
ноў мы паручаемся вам, але даем вам
прыклеп хваліцца намі, каб вы мелі
што супроці тых, што хваляцца ві-
дам, а ня сэрцам. 13 Бо калі мы вы-
ходзім із сябе, дык дзеля Бога;
калі ж узьдзержлівыя, дык дзеля
вас. 14 Бо міласьць Хрыстова сьціс-
кае нас, што разважаем гэтак: калі
адзін памер за ўсіх, дык усі былí
памершы. 15 А Ён за ўсіх памер,
каб жывучыя ўжо ня дзеля сябе
жылí, але дзеля памерлага за іх
і ўскрэслага.

16 Затым адгэтуль мы нікога ня
знаем подле цела; калі ж і зналі
Хрыста подле цела, дык цяпер ужо
ня знаем. 17 Дык, хто ў Хрысту,
тый новы стварэнец; старое мінула,
гля, усе сталася новае. 18 І ўсе ад
Бога, Каторы пагадзіў нас із Сабою
Хрыстом і даў нам слугаваньне па-
гаджэньня; 19 Бо Бог быў у Хрыс-
ту, годзячы сьвет із Сабою, не за-
лічаючы ім выступаў іхных, і даў
нам слова таго пагаджэньня.

20 Дык мы — паслове ад Хрыста,
быццам Бог моле намі; молім ад
Хрыста: пагадзіцеся з Богам. 21 Та-
го, хто ня знаў грэху, за нас учыніў
грэхам, каб мы сталі справядлівась-
цяй Божай у Ім.

6 А, як супрацаўні, мы таксама
молім, каб ласкі Божае вы дар-
мá не прынялí. 2 Бо кажа: „У часе
прыгодным Я пачуў цябе і ў дзень
спáсеньня памог табе". Вось, цяпер

час прыгодны, вось, цяпер дзень спасеньня. 3 Мы ня робім ніякае перакazы ні ў чым, каб ня было вінавана слугаваньне; 4 Але ў вусім паручаючыся, як слугачыя Божыя, у вялікай трывалкосьці, у няшчасьцях, у патрэбах, у ватугах, 5 У вытнях, у вязьніцах, сумятні, у гарапашнасьці, у чукавасьці, у пастох, 6 У чысьціні, у ведзе, у цярплівосьці, у дабрыні, у Духу Сьвятым, у нядвудушнай міласьці, 7 У слове праўды, у сіле Божай, із зброяй справядлівасьці ў правай і левай руццэ, 8 Пераз славу й няславу, пераз благія дзейкі й добрыя дзейкі, як ашуканцы й праўдзівыя; 9 Як паняведамыя й добра ведамыя; як паміраючыя, але, вось, мы жывыя; як караныя, але не забітыя; 10 Як смутныя, але заўсёды радыя; як убогія, але багацячыя шмат каго; як нічога нямаючыя, але дзяржачыя ўсе.

11 Вусны нашы адчыненыя да вас, Карынцяне, сэрца наша расшырана. 12 Вы ня сьціснёныя ў нас, але сьціснёныя ў нутрох сваіх. 13 І ўзаемна (кажу, як дзяцём) — няхай таксама расшырыцца сэрца вашае.

14 У нясобстваваe йго не ўпрагайцеся зь нявернікамі; бо што за супалка справядлівасьці зь бяспраўям? або што за ўзаем'е сьвятліні зь цямнотаю? 15 І што за згода Хрыста зь веляром? Або што за дзель вернікy зь нявернікамі? 16 І што за задзіночаньне дому Божага з балванамі? Бо вы дом Бога жывога, як Бог сказаў: „Буду жыхарыць сярод іх і хадзіць сярод іх; і буду іх Богам, а яны будуць Маім людам. 17 Затым выйдзіце з пасярод іх і будзьце аддзеленыя, кажа Спадар, і не даkранайцеся да нячыстага, і Я рада прыйму вас; 18 І буду вам за Айца, а вы Імне будзеце за сыноў і дачкі, кажа Спадар Усемагучы".

**7** Дык, любовыя, маючы такую абятніцу, ачысьцімася ад усяе брыды цела й духа, дасканалячы сьвятасьць у боязьні Божай.

2 Дайце месца нам. Мы нікога ня ўкрыўдзілі, нікому не пашкодзілі, нікога не ашукалі. 3 Не кажу на засуджэньне; бо я ўперад сказаў, што вы ў сэрцах нашых, каб разам памерці і разам жыць. 4 Вялікая мая адвага да вас, шмат вамі хвалюся, я перапоўнены пацехаю ў вусім няшчасьцю нашым.

5 Бо запраўды, як мы прышлі да Макядоні, цела нашае ня мела супачынку; але мы былі сьціснёныя адусюль: звонку бітвы, унутры страхі. 6 Але Тый, што цеша паніжаных, Бог, пацешыў нас прыходам Цітавым, 7 І не адно прыходам ягоным, але й пацяшэньням, каторым ён цешыўся з вас, павядаючы нам гарачае жаданьне ваша, вашу жалобу, рупатлівасьць вашу да мяне, ажно я балей цешыўся.

8 Калі я й засмуціў вас лістам, не шкадую, хоць шкадаваў гэтага; бо бачу, што ліст гэты, хоць на малы час, засмуціў вас. 9 Цяпер я цешуся ня з тога, што вы засмуціліся, але што вы засмуціліся да ка́яты; бо вы засмуціліся подле Бога, што ў нічым ад мяне ня мелі шкоды. 10 Бо смутак подле Бога дзее каяту да спасеньня, і ніколі не шкада яго; смутак сьвецкі дзее сьмерць.

11 Бо самае тое, што вы засмуціліся подле Бога, гля якую гэта шчырасьць учыніла ў вас а апраўленьне а абурэньне а страх а гарачае жаданьне а рупатлівасьць а помсту! У ўсім вы паказалі, што вы чыстыя ў гэтай справе. 12 Значыцца, калі я пісаў да вас, дык ня дзеля крыўдніка ані дзеля ўкрыўджанага, але дзеля выяўленьня шчырасьці нашае да вас, каб паказана была́ вам перад Богам. 13 Затым мы ўсьцешыліся.

І апрача собскага пацяшэньня нашага, мы яшчэ балей цешыліся з радасьці Цітавае, бо вы ўсі супакоілі



дух ягоны; 14 Дык калі я хваліўся яму ў чым вамі, то не засароміўся; але як мы гукалі вам усю праўду, так і хваленьне наша Ціту было праўдзівае. 15 І сэрца ягонае балей прыяе вам, успамінаючы паслухменства вас усіх, як вы із страхам а дрыготаю прынялі яго. 16 Я цешыўся, што ў вусім магу даверыць вам.

**8** Наказую вам, браты, праз ласку Божую, даную цэрквам Макядонскім; 2 Бо яны сярод вялікага дазнаньня атугамі маюць збытак радасьцяў; і вялікая галіта іхная збыткавала багацьцям шчодрасьці. 3 Бо сьветчу, што подле магчымасьці і звыш магчымасьці ахвотныя былі, 4 Просячы нас із вялікім маленьням прыняць дар а ўзаем'е ў службе сьвятым; 5 І ня толькі, як мы спадзяваліся, але яны самых сябе перш аддалі Спадару і нам з волі Божае.

6 Затым мы прасілі Ціта, каб ён, як уперад пачаў, так і скончыў узглядам вас гэтую ласку таксама. 7 І аднолькава як вы шчодрыя ў вусім: у веры а ў слове а ў ведзі а ў кажнай улеглівасьці а ў міласьці сваёй да нас, каб былі шчодрыя і ў гэтай ласцы.

8 Не кажу вам як расказаньне, але рупатлівасьцяй іншых прабую шчырасьць і міласьці вашае. 9 Бо вы знаеце ласку Спадара нашага Ісуса Хрыста, што Ён дзеля нас, будучы багаты, зьбяднеў, каб вы забагацелі галітою Ягонай. 10 І даю раду да гэтага, бо яна карысная вам, каторыя ня толькі рабіць, але й хацець пачалі першыя летась. 11 Вось жа, цяпер і ўчынкам завяршыце гэта, каб, як гатовае было хаценьне, так і ўчыненьне з тога, што маеце. 12 Бо калі будзе імкненьне, яго прыймаюць узглядам тога, што хто мае, а ня ўзглядам тога, што ня мае.

13 Не каб іншым была палёгка, а вам ацяжарэньне, 14 Але роўнасьць. Цяпер дастатак вашы да нястачы іхнае, каб дастатак іхны мог быць да нястачы вашае, каб была́ роўнасьць, 15 Як напісана: „Хто зьбер шмат, ня меў нястачы; і хто — мала, ня меў нястачы".

16 Але дзякі Богу, Каторы такую самую шчырую рупатлівасьць да вас даець у сэрца Цітава; 17 Бо ён запраўды прыняў маленьне і, будучы поўны рупатлівасьці, самахоць пайшоў да вас. 18 Паслалі ж мы зь ім брата, хваленага ў Дабравесьці ў вусіх цэрквах, 19 Ды абранага цэрквамі за спадарожніка нашага з гэтай ласкаю, каторай мы служым на славу Самага Спадара й парываньня вашага, 20 Сьцерагучыся таго, каб хто ня зганіў нас за дастатак, каторым слугуем; 21 Бо мы стараемся праз дабро не адно перад Спадаром, але й перад людзьмі.

22 І зь імі мы паслалі брата свайго, каторы шмат разоў давёў, што рупны, і цяпер рупнейшы з прычыны вялікага даверу да вас. 23 Што да Ціта, гэта — мой сябра а супрацавень у вас; што да братоў нашых, гэта — паслове цэркваў, слава Хрыстова. 24 Дык перад цэрквамі дайце ім довад міласьці вашае й нашага хваленьня вамі.

**9** Бо праз памогу сьвятым лішне імне пісаць вам, 2 Бо ведаю гатоў вашу, каторай я хваліўся Македонянам, што Ахая прыгатаваўшыся ад леташняга году, і рупатлівасьць ваша захоціла вялікі лік. 3 Братоў жа я паслаў, каб гэна пахвала наша вамі ня была пустой узглядам гэтага, каб, як я казаў, вы былі прыгатаваўшыся, 4 Каб не прылучылася, як прыйдуць із імною Макядоняне і засьпеюць вас непрыгатаваўшыся, што былі б мы (не кажу вы) засаромлены з гэтага даверу. 5 Затым я ўважаў за канечне

патрэбнае маліць братоў пайсьці да
вас і загадзя скончыць уперад абеш-
чанае дабраславенства вашае, каб
яно магло быць гатова, як дабрас-
лавенства, а ня як гальлівасьць.

6 Гэта ж так: хто сее шчадна,
і жаць будзе шчадна; а хто сее
дабраславенства, і пажнець дабра-
славенства. 7 Кажны, як замéрыў
у сэрцу сваім, ня ў смутку ані з
прынукі, бо ахвотна даючага любе
Бог. 8 Бог жа можа забагаціць вас
кажнай ласкаю, каб вы заўсёды і
ўсяго мелі даволі, каб былі багатыя
кажным добрым учынкам, 9 Як на-
пісана: „Рассыпаў, даў бедным,
справядлівасьць Ягоная трывае на
векі".

10 Тый жа, што дастаўляе сяўбу
сяўбіту, даставе й хлеб на ежу, і па-
множа сяўбу вашу, і прыспора пла-
ды справядлівасьці вашае, 11 Каб
вы ўсяляк забагацéлі дзеля кажнае
шчырае шчодрасьці, каторая пераз
нас дзее дзякаваньне Богу. 12 Бо
памога слугаваньня гэтага ня толь-
кі запаўняе нястачу сьвятых, але й
збыткуе ў шмат дзякаваньняў Богу.
13 З даведаньня гэтае службы яны
славяць Бога за падаўкосьць выз-
наньня вашага Дабравесьці Хрыс-
товае і за шчырае ўзаем'е зь імі а
з усімі, 14 І молянца за вас, і ту-
жаць па вас з прычыны нязьмернае
ласкі Божае вам. 15 Дзякі Богу за
неапісальны дар Ягоны!

10 Я ж сам, Паўла, малю вас даб-
рынёй Хрыстовай; я, як пры-
томны, запраўды сьціплы ў вас, але,
ня будучы меж вас, адважны да
вас. 2 Прашу ж, каб, прытомны, я
ня быў адважны з тэй пэўнасьцяй,
каторай думаю быць адважны да
тых, што ўважаюць нас за ходзячых
подле цела. 3 Бо, ходзячы ў целе,
не ваюем подле цела; 4 Бо зброя
ваяваньня нашага не цялесная, але
дужáя Богам да бурáньня гарадоў:
5 Мы бурáем задумы й кажную вы-
шыню, што падыймаецца супроці
пазнаньня Бога, і імаем у палон
кажную думку да паслухменства
Хрысту, 6 І маем гатовай помсту
кажнаму непаслухменству, як вы-
паўніцца паслухменства вашае.

7 Ці на выгляд глядзіцé? Калі хто
пэўны ў сабе, што ён Хрыстоў, ня-
хай уважае ізноў сам подле сябе,
што, як ён Хрыстоў, так і мы Хрыс-
товы. 8 Бо калі б я й балей хваліў-
ся ўладаю нашай, каторую Спадар
даў на будаваньне, а не на бурáнь-
не, я не засароміўся б. 9 Хай ня
здасца, што я страшу вас лістамі;
10 Бо кажа: „Лісты ягоныя вáгкія
а моцныя, але цялесная прытом-
насьць ягоная млявая, і мова ягоная
пагрэбаваная". 11 Гэта няхай такі
ўважае, што якія мы словам ліста-
мі няпрытомныя, такія й прытом-
ныя ўчынкам.

12 Бо мы ня важым ставіць сябе
побач альбо раўнавацца да некат-
рых, каторыя самы сябе паручаюць.
Яны неразумныя, мераючы сябе са-
мымі сабою і раўнуючы сябе да ся-
бе. 13 Мы ж не бязь меры хваліцца
будзем, але подле меры будавальнае
праўды, каторую меру прызначыў
нам Бог, каб дасягчы аж вас.

14 Бо мы ня робім, натужаючыся,
як недасяглыя вас, бо мы прышлі
й да вас у Дабравесьці Хрыстовай;
15 Мы ня бязь меры хвалімся чу-
жымі працамі, але спадзяемся, з
ростам веры вашае, што багата па-
шырылася ў вас подле праўды
нашае, 16 Яшчэ багацей абяшчаць
Дабравесьць за вамі, ня ў чужой
дзелі, ня хвалячыся гатовым. 17 Але
хто хваліцца, у Спадару хваліся. Бо
ня тый, хто сам сябе паручае, пры-
знаны, але каго Спадар паручае.

11 О каб вы крыху цярпелі маю
неразумнасьць! Але й запраў-
ды церпіце мяне. 2 Бо ўзглядам вас
я завісны завісьцяй Божай, бо я за-
ручыў вас аддаць аднаму му-



жу, Хрысту, дзявушчай дзяўчынаю.
3 Але я баюся, каб, як гад хітры-
нёю сваёй ізьвёў Еву, якім-колечы
парадкам ня былі папсаваныя думкі
вашы, адхінаючыся ад прасьціні й
чысьціні ў Хрысту. 4 Бо калі б зап-
раўды хто, прышоўшы, абяшчаў
другога Ісуса, каторага мы не абяш-
чалі, альбо вы адзяржалі іншага ду-
ха, каторага не адзяржалі, альбо ін-
шую дабравесьць, каторае ня пры-
малі, дык вы цярпелі б.

5 Але я ўважаю, што я ў нічым
не застаўся ад апосталаў вышшых.
6 Але калі я няўзумелы ў мове, ня
ў ведзе, адылі, але ў вусім усюдых
выяўлены вам.

7 Ці я ізграшыў, паніжаючы сябе,
каб павышшыць вас, што я дармá
абяшчаў вам Дабравесьць Божую?
8 Іншыя цэрквы я грабіў, адзержую-
чы заплату за слугаваньне вам; 9 І,
будучы ў вас, і патрабуючы, не ця-
жарыў нікога, бо браты, што прыш-
лі з Макядоні, даставілі, чаго я пат-
рабаваў; і ў вусім сьцярогся й сьце-
рагчыся буду ня быць цяжарам вам.

10 Як ё праўда Хрыстова ў імне,
пахвала гэта ня будзе замоўчана
ўзглядам мяне ў краінах Ахаі. 11 Ча-
му? Што ня люблю вас? Бог ведае!
12 Але што раблю, і буду рабіць,
каб ня даць прыклепу тым, што зы-
чаць прыклепу, каб у тым, чым
хваляцца, былі знойдзены такімі,
як і мы. 13 Бо такія хвальшывыя
апосталы, ашукныя работнікі, пры-
даюцца апосталамі Хрыстовымі. 14 І
няма дзівá, бо сам шайтан прыдаец-
ца ангілам сьвятліні. 15 Затым гэта
не вялікая рэч, калі й слугачыя
ягоныя прыдаюцца слугачымі спра-
вядлівасьці; канец іх будзе подле
ўчынкаў іхных.

16 Ізноў кажу: няхай хтось ня
думае, што я неразумны; але калі
накш, дык прыміце мяне, як нера-
зумнага, каб я таксама крыху пах-
валіўся. 17 Што кажу, не кажу як
ад Спадара, але як у неразумнасьці
ў гэтай адвазе хваленьня. 18 Як
шмат хто хваліцца подле цела, дык
і я буду хваліцца. 19 Бо вы, людзі
мудрыя, ахвотна церпіце неразум-
ных. 20 Вы церпіце, як вас хто ня-
воле, як хто аб'ядае, як хто адбірае,
як хто вывышаецца, як хто поў-
шыць вас. 21 На сорам кажу, быц-
цам мы былі слабыя; а ў чым хто
адважны (гýкаю ў неразумнасьці),
адважны й я.

22 Яны Гэбрэі? я таксама. Яны
Ізраеляне? я таксама. Яны насень-
не Абрагамова? я таксама. 23 Слу-
гачыя Хрыстовы яны? (неразумна
кажу) я балей. Я шмат балей у
гарапашнасьці, нязьмерна ў ранах,
балей у вязьніцах і шмат разоў пры
сьмерці. 24 Ад Жыдоў пяць разоў
я адзяржаў сорак без аднаго.
25 Трэйчы быў біты кіямі, аднойчы
каменаваны, трэйчы з імною разь-
біўся караб, ноч і дзень прабыў на
глыбіні; 26 Шмат разоў у падарож-
жах, у небясьпечнасьцях на рэках,
у небясьпечнасьцях ад разбойнікаў,
у небясьпечнасьцях ад сваіх, у не-
бясьпечнасьцях ад паган, у небясь-
печнасьцях у месьце, у небясьпеч-
насьцях на пустыні, у небясьпеч-
насьцях на мору, у небясьпечнась-
цях памеж хвальшывых братоў,
27 У гарапашнасьці а ў высіленьню,
бяз сну часта, у голадзе а смазе,
часта ў пастох, на сьцюжы і ў го-
ласьці.

28 Апрача тога, што звонку, на-
вала кажнага дня, рупнасьць праз
усі цэрквы. 29 Хто няўздолее, ці я
не няўздолею? Хто спатыкаецца, ці
я не загараюся? 30 Калі маю хва-
ліцца,няўздоляньнямі сваімі хваліц-
ца буду. 31 Бог а Ацец Спадара
Ісуса, дабраславёны на векі, ведае,
што я не маню. 32 У Дамашку вай-
вода караля Арэты сьцярог места
Дамашк, хочучы няць мяне, 33 І я
быў спушчаны пераз акно ў кашу
ізь сьцяны і ўцёк із рук ягоных.

12 Я маю чым хваліцца, але гэта
запраўды не карысна, бо я
прыйду да відзеняў і аб'яўленьняў
Спадаровых. 2 Знаю чалавека ў
Хрысту, каторы чатырнанцаць год
таму (ці ў целе, ня ведаю, ці вонках
цела, ня ведаю; Бог ведае) быў
ухоплены аж да трэйцяга неба. 3 І
знаю я такога чалавека (ці ў целе,
ці вонках цела, ня ведаю; Бог ве-
дае), 4 Што быў ухоплены да раю
і чуў нявымоўныя рэчы, каторыя не
дазволена чалавеку вымаўляць.

5 Такім буду хваліцца, але сабою
ня буду хваліцца, хіба́ няўздолень-
нямі сваімі. 6 Бо калі я зычу хва-
ліцца, я ня буду неразумны, бо ска-
жу праўду; але я ўзьдзержуюся,
каб хто не падумаў празь мяне ба-
лей, чымся колькі ў імне бача, або
чуе ад мяне.

7 І каб я не вяльмуваўся надзвы-
чайнай вялікасьцяй аб'яўленьняў,
дана імне бадзюка ў цела, пасланец
шайтана, каб ён поўшыў мяне, каб
я не вяльмуваўся. 8 Затым я трэй-
чы маліў Спадара, каб яна адступі-
ла ад мяне. 9 Але Ён сказаў імне:
„Досыць табе ласкі Мае, бо сіла
Мая дасканаліцца ў кволасьці". І за-
тым я буду найахватней хваліцца
сваімі кволасьцьмі, каб жыхарыла ў
імне сіла Хрыстова. 10 Затым я маю
прыемнасьць у кволасьцях, у крыў-
дах, у патрэбах, у перасьледава́нь-
нях, у вуцісках дзеля Хрыста; бо
як я кволы, тады я дужы.

11 Я стаў неразумны, хвалячы-
ся; вы прысілілі мяне. Вы бы мелі
паручаць мяне, бо я ані ня быў зас-
таўшыся ад вышшых апосталаў,
дарма́ што я нішто. 12 Запраўды
пазнакі апостала паказаны памеж
вас у вусёй вытрываласьці, у знакох
а чудосах а магутнасьцях. 13 Бо ў
чым вы былі ніжшыя за засталыя
цэрквы, хіба што я сам ня быў,
дзяньгубячы, вялічны вам? Даруй-
це імне гэтую крыўду.

14 Вось, ужо трэйці раз я гатоў
ісьці да вас, і ня буду, дзяньгубячы,
вялічны, бо я шукаю ня вашага,
але вас; бо ня дзеці маюць зьбіраць
маемасьць бацьком, але бацькі дзя-
цём. 15 Я ж надта ахвотна буду ра-
біць выдаткі і супоўна высілюся за
душы вашы, дарма́ што, надзвычай-
на любячы вас, я меней мілаваны
вамі.

16 Але няхай так будзе, што я вас
не цяжарыў, але, будучы хітры,
браў вас падходам. 17 Ці выкары-
стаў я вас кім-колечы з тых, като-
рых пасылаў да вас? 18 Я ўпрасіў
Ціта і паслаў зь ім таго брата: ці
Ціт выкарыстаў чым вас? ці не
хадзілі мы ў тым самым духу? ня
тымі самымі сігамі?

19 Ці ня думаеце ўжо, што мы
правімся перад вамі? Мы гу́каем пе-
рад Богам, у Хрысту, і ўсе, любо-
выя, да збудаваньня вашага. 20 Бо
я баюся, каб, можа, прышоўшы, не
засьпеў вас такімі, якімі ня зычу,
і каб вы не знайшлі мяне такім,
якім ня зычыце, каб ня было сьпя-
рэчак, завідасьцяў, гневаў, звадаў,
абмоваў, удаваньняў, пыхі, неў-
пакояў, 21 Каб ізноў, як прыйду,
мяне не паніжыў у вас Бог мой, і
каб я ня плакаў па шмат із тых,
што ізграшылі ўперад і не пакаялі-
ся за нечысьць, бязулства а распус-
ту, якія рабілі.

13 Гэта трэйці раз іду да вас. Ля
вуснаў дзьвюх або трох сьветак
станецца кажная справа. 2 Я ась-
вятчаў уперад і кажу наперад, быц-
цам будучы ў вас другі раз, а цяпер
няпрытомны, тым, што грашылі
ўперад, і ўсім іншым засталым, што,
як прыйду ізноў, не пашчаджаю;
3 Бо вы шукаеце доваду, ці гу́каў
у імне Хрыстос, Каторы да вас не
слабы, але дужы ў вас. 4 Бо хоць
запраўды Ён быў укрыжаваны ў
кволасьці, жывець, адылі, сілаю Бо-
жай; і мы кволыя ў Ім, але жывыя
будзем із Ім сілаю Божай у вас.

5 Прабуйце самы сябе, ці вы ў



веры, самы сябе правярайце. Хіба
вы ня знаеце самы сябе добра, што
Ісус Хрыстос у вас? Хіба, што вы
адкіненыя. 6 Я ж спадзяюся, што
вы пазнаеце, што мы не адкіненыя.

7 Але молім Бога, каб вы не ра-
білі ніякага ліха; не каб мы паказа-
ліся аправеныя, але каб вы рабілі
добрае, а мы былі як адкіненыя.
8 Бо мы нічога ня можам рабіць
супроці праўды, але дзеля праўды.
9 Мы цешымся, калі мы будзем кво-
лыя, а вы дужыя; за гэта й молім-
ся, каб вы былі дасканальныя.

10 Затым я пішу гэта, ня будучы
з вамі, каб, будучы з вамі, ня ўжыць
стродкасьці подле ўлады, каторую
Спадар даў імне на будаваньне, а не
на бураньне.

11 Ано, браты, цешчася, будзьце
дасканальныя, будзьце адважныя,
будзьце аднае думкі, будзьце ў су-
пакою, і Бог міласьці а супакою
будзе з вамі.

12 Здаровайце адны адных сьвя-
тым цалаваньням. 13 Здароваюць
вас усі сьвятыя. 14 Ласка Спадара
Ісуса Хрыста а міласьць Божая а
ўзаем'е Духа Сьвятога з усімі вамі.
Амін.

## ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА ҐАЛЯТАЎ

1 Паўла апостал, не ад людзёў
ані пераз чалавека, але перазь
Ісуса Хрыста а Бога Айца, Каторы
ўскрысіў Яго зь мертвых, 2 І ўсі
браты з імною — цэрквам Ґаляц-
кім: 3 Ласка вам а супакой ад Бога
Айца а Спадара нашага Ісуса Хрыс-
та, 4 Каторы аддаў Сябе за грахі
нашы, каб выбавіць нас ад цяпе-
рашняга благога веку, подле волі
Бога й Айца нашага, 5 Катораму
слава на векі вякоў. Амін.

6 Дзіўлюся, што вы так уборзьдзе
адхінаецеся да іншае дабравесьці ад
тога, хто вас пагука́ў да ласкі Хры-
стовае, 7 Каторая ня іншая, але ё
некатрыя, што вас парушаюць і хо-
чуць абярнуць Евангелю Хрыстову.
8 Але калі б нават мы альбо ангіл
із неба дабравесьціў, апрача тога,
што мы дабравесьцім, няхай будзе
праклятым. 9 Як мы казалі ўперад,
і цяпер ізноў кажу: калі б хто абяш-
чаў вам Евангелю, апрача тае, што
вы прынялі, няхай будзе праклятым.

10 Бо ці ў людзёў я шукаю зыч-
лівасьці, ці ў Бога? або ці людзём
гадзіць стараюся? Калі б я яшчэ
гадзіў людзём, ня быў бы няволь-
нік Хрыстоў.

11 Паведамляю вам, браты, што
Евангеля, каторую я абяшчаў, ня
ё подле чалавека; 12 Бо й я пры-
няў яе й навучыўся не ад чалавека,
але з аб'яўленьня Ісуса Хрыста.

13 Вы чулі праз пярэдні пастулак
мой у Юдаізьме, што я надзвычай-
на перасьледава́ў царкву Божую й
губіў яе, 14 І выпераджаў у Юдаізь-
ме шмат каго з равесьнікаў у на-
родзе сваім, будучы нямерна рупат-
лівы праз навуку айцоў сваіх.
15 Як жа Бог, Каторы аддзяліў
мяне ад улоньня маці мае і пагука́ў
мяне ласкаю Сваёй, 16 Аб'явіў Сы-
на Свайго імне, каб я мог абяшчаць
Дабравесьць Ягоную памеж наро-
даў, — я зараз не пара́дзіўся зь це-
лам а крывёй, 17 Ані зышоў да Еру-
заліму да тых апосталаў, што былі
перад імною, але пайшоў да Арабы
і ўзноў зьвярнуўся да Дамашку.
18 Потым, за тры гады, я хадзіў да
Eрузаліму даведацца да Кіфы і за-
ставаўся зь ім дзён пятнанцаць.
19 Ніякага ж іншага з апосталаў я
ня бачыў, апрача Якава, брата Спа-
даровага. 20 (Цяпер, што я пішу
вам, вось, перад Богам, не маню).

21 Тады я пайшоў да краёў Сыры

а Кілікі. 22 Але ня быў я ведамны
асабіста цэрквам у Юдэі, каторыя ў
Хрысту; 23 Толькі яны чулі, што
„Тый, каторы перасьледаваў нас не-
калі, цяпер абяшчае Евангелю ве-
ры, каторую калісь губіў", 24 І сла-
вілі за мяне Бога.

2 Потым, за чатырнанцаць год, я
ізноў хадзіў да Ерузаліму з Вар-
наваю, узяўшы із сабою й Ціта.
2 Узышоў жа подле аб'яўленьня і
пакладаў перад імі Евангелю, като-
рую я абяшчаю меж народаў, але
асобна выдатным, каб можа дарма
ня бегаць цяпер і ўперад.

3 Але й Ціт, што, будучы Грэкам,
быў з імною, ня быў прысілены аб-
разацца. 4 І дзеля хвальшывых бра-
тоў, што былі прыведзены патай,
каторыя цікавалі, каб падгледзіць
свабоду нашу, каторую маем у
Хрысту Ісусу, каб паняволіць нас,
5 Мы ані на гадзіну ня ўступілі і не
паддаліся, каб праўда Евангелі за-
ставалася ў вас.

6 І ў значных чымсь, чым-колечы
яны ня былі б, імне няма нічога
асаблівага: Бог не глядзіць на асо-
бу людзіны. І значныя імне нічога
не дадалі; 7 Але наадварот, бача-
чы, што Дабравесьць неабразаным
была даверана імне, як Пётру аб-
разаным, — 8 Бо Тый, што дзеяў
у Пётру дзеля апосталства ў вабрэ-
заных, дзеяў таксама ў імне ўзгля-
дам паган, — 9 І ведаючы ласку, да-
ную імне, Якаў а Кіфа а Яан, ка-
торых мелі за стаўпоў, далі імне а
Варнаве правіцу ўзаем'я, каб мы
йшлі да паган, а яны да абразань-
ня, 10 Адно, каб мы памяталі бед-
ных, што я жадаў рабіць.

11 Як жа Пётра прышоў да Ан-
тыёхі, дык я аблічна спраціўіўся
яму, бо ён годзен быў ганеньня.
12 Бо, да прыбыцьця некатрых ад
Якава, еў з тымі з народаў, а як
яны прышлі, ён адсунуўся а аддзя-
ліўся, баючыся абразаньня. 13 І зь
ім засталыя із Жыдоў прыдаваліся,
ажно Варнава паддаўся іх двудуш-
насьці.

14 Але як я абачыў, што яны ня
проста ходзяць подле праўды Еван-
гелі, я сказаў Пётру перад усімі:
„Калі ты, будучы Жыдам, жывеш,
як няжыд, а не як Жыды, дык ча-
му сіліш няжыдоў да Юдаізмы?"
15 Мы з прыроды Жыды, а ня грэш-
нікі з народаў; 16 Але, ведаючы,
што людзіна правіцца ня ўчынкамі
Закону, але вераю ў Ісуса Хрыста,
і мы ўверылі ў Хрыста Ісуса, каб
аправіцца вераю ў Хрыста, а ня
ўчынкамі Закону; бо ўчынкамі За-
кону ніякае цела не аправіцца.

17 Калі ж, шукаючы апраўленьня
ў Хрысту, мы й самы аказаліся
грэшнікамі, — дык нягож Хрыстос
слуга грэху? Няхай ня станецца
так! 18 Бо калі я ізноў станаўлю,
што абурыў, дык сам сябе раблю
выступнікам. 19 Законам я памер
дзеля Закону, каб жыць дзеля Бога.
20 Я ўкрыжаваны з Хрыстом, і ня
жыву ўжо я, але Хрыстос жывець
у імне. А што цяпер жыву ў целе,
то жыву вераю ў Сына Божага, што
ўлюбіў мяне і аддаў Сябе Самога за
мяне. 21 Не адхінаю ласкі Божае;
а калі справядлівасьць Законам, дык
Хрыстос памер дарма.

3 О неразумныя Ґаляты! хто
ачараваў вас ня быць паслух-
менымі праўдзе, у каторых перад
ачыма Ісус Хрыстос уперад быў апі-
саны, бы ўкрыжаваны? 2 Адно гэ-
та я хачу даведацца ў вас: з учын-
каў Закону вы прынялі Духа, ці із
слуханьня веры? 3 Ці такія вы не-
разумныя, што пачаўшы Духам, ця-
пер канчаеце целам? 4 Ці гэтулькі
вы выцерпелі дарма? І калі б за-
праўды дарма!

5 Дык Тый, што дастаўляе вам
Духа і чыне магутнасьці памеж вас,
учынкамі закону чыне, ці слухань-
ням веры? 6 Так Абрагам паверыў



Богу, і залічана яму гэта да спра-
вядлівасьці.

7 Дык пазнайце, што вернікі ё
сынове Абрагамовы. 8 І Пісьмо, пе-
радбачачы, што Бог вераю аправе
паган, абясьціла наперад Дабра-
весьць Абрагаму: „У табе будуць
дабраслаўлены ўсі народы". 9 Дык
вернікі дабраслаўляцца зь верным
Абрагамам.

10 А ўсі тыя, што здаюцца на
ўчынкі Закону, тыя пад праклёнам.
Бо напісана: „Пракляты кажны, хто
не застаецца ў вусім, што напісана
ў кнізе Закону, каб чыніць іх". 11 А
што Законам ніхто ня правіцца пе-
рад Богам, гэта відавочна, бо „Спра-
вядлівы вераю жыў будзе". 12 А
Закон ня подле веры, але хто спаў-
няе яго, тый жыў будзе ім.

13 Хрыстос адкупіў нас ад пра-
клёну Закону, стаўшы за нас пра-
клёнам; (бо напісана: „Пракляты
кажны, хто вісіць на дзерве"),
14 Каб дабраславенства Абрагамова
перазь Ісуса Хрыста магло быць на
народах, каб мы прынялі абяцанага
Духа вераю.

15 Браты! кажу палюдзку: нават
людзіною зацьверджанае змовы ніх-
то не касуе і не дадаець. 16 Абра-
гаму даны былі абятніцы і семені
ягонаму. Не сказана: „І сяменьню",
бы праз шмат, але як праз аднаго:
„І семені твайму", каторае ё Хрыс-
тос. 17 І гэта я кажу: змова, перад
Богам зацьверджаная, тарнуецца да
Хрыста; а Закон, што настаў за ча-
тырыста трыццаць год, не касуе,
каб абятніца страціла сілу. 18 Бо
калі спадак із Закону, дык ужо не
з абятніцы; але Абрагама Бог па-
дараваў змоваю подле абятніцы.

19 Дык нашто ж Закон? Ён пры-
даны з прычыны выступаў да пры-
ходу Семені, Катораму была зроб-
лена абятніца, загаданы ангіламі
рукою пасярэдніка. 20 Але пася-
рэднік не з адным, Бог жа адзін.

21 Дык Закон супроці абятніцаў
Божых? Няхай ня станецца так! Бо
калі б такі Закон быў даны, што мо-
жа ажыўляць, тады запраўды спра-
вядлівасьць была б із Закону.
22 Але Пісьмо ўсіх замкнула пад
грэхам, каб абятніца вернікам дана
была зь веры ў Ісуса Хрыста.

23 А да прыходу веры мы зам-
кнёныя былі пад вартаю Закону, аж
пакуль мела зьявіцца вера. 24 Так
што Закон быў нашым дзяціным па-
вадыром да Хрыста, каб мы аправі-
ліся вераю. 25 Але як прышла ве-
ра, мы ўжо не пад дзяціным пава-
дыром. 26 Бо ўсі вы сынове Божыя
перазь веру ў Хрыста Ісуса; 27 Бо
колькі ў Хрыста хрысьціліся, толь-
кі ў Хрыста адзеліся. 28 Няма Жы-
да, ані Грэка; няма нявольніка, ані
вольніка; няма мужчынскага стану,
ані жаноцкага стану: бо ўсі вы
адно ў Хрысту Ісусу. 29 Калі ж вы
Хрыстовы, дык вы насеньне Абра-
гамова, спадкаемцы подле абятні-
цы.

4 Вось жа скажу: пакуль спад-
каемца бязьлетак, ён нічым ня
розьніцца ад нявольніка, хоць і спа-
дар усяго; 2 Але ён падданы апя-
куном а дамаверам аж да року ай-
цом прызначанага. 3 Гэтак і мы,
пакуль былі бязьлеткамі, былі па-
няволены наваламі сьвету; 4 Але
як прышла паўніня часу, Бог па-
слаў Сына Свайго, народжанага із
жонкі, народжанага пад Законам,
5 Каб адкупіць тых, што пад За-
конам, каб мы адзяржалі ўсынаў-
леньне. 6 А як вы сынове, Бог па-
слаў у сэрцы вашыя Духа Сына
Свайго, Каторы гукае: „Аўва, Вой-
ча!" 7 Затым ты ўжо не нявольнік,
але сын; а калі сын, дык спадкаем-
ца Божы пераз Хрыста.

8 Але тады запраўды, ня знаўшы
Бога, вы былі ў няволі ў тых, што
з прыроды не багі; 9 Цяпер жа, па-
знаўшы Бога, або валей кажучы,

будучы пазнаныя Богам, нашто зва-
рачáецеся ізноў да кволых а га-
летных навалаў, у каторых ізноў
нанава хочаце быць у няволі?
10 Назірайце дні а месяцы а поры
а гады. 11 Баюся за вас, ці запраў-
ды не дармá я працаваў меж вас.
12 Будзьце, як я; бо я, як вы;
браты, прашу вас. Вы нічым ня
ўкрыўдзілі мяне. 13 Бо ведаеце, што
ў кволасьці цела я абяшчаў Еван-
гелю вам уперад, 14 І спакусы мае
ў целе маім вы ўлегцы ня мелі, і не
адхінулі з грэбаваньням, але пры-
нялі мяне, як ангіла Божага, як
Хрыста Ісуса!
15 Што за шчасьце тады было
ваша! Сьветчу вам, што, калі б льга
было, вы вылупілі б вочы свае
і далі імне. 16 Дык нягож я стаў
нéпрыяцелям вашым, кажучы вам
праўду? 17 Ня добрая рупатлівасьць
іхная праз вас, бо хочуць аддзяліць
вас, каб вы рупіліся празь іх.
18 Добры рупіцца заўсёды праз
добрае, а ня толькі, як я прытомны
ў вас. 19 Дзеткі мае, дзеля каторых
я ізноў у трудненьню, пакуль не
ўхармуецца ў вас Хрыстос! 20 Зы-
чыў бы я цяпер быць із вамі і ад-
мяніць голас свой, бо я заклапоча-
ны ўзглядам вас.
21 Скажыце імне вы, што зычыце
быць пад Законам, хібá вы ня слу-
хаеце Закону? 22 Бо напісана, што
Абрагам меў двух сыноў, аднаго зь
нявольніцы, а другога з вольніцы.
23 Але тый, што зь нявольніцы, быў
народжаны подле цела; а тый, што
з вольніцы — подле абятніцы. 24 У
гэтым ёсьць атумекі; бо гэта дзьве
змовы: адна з гары Сынайскае, што
родзе ў няволю, каторая ё Ґаґар,
25 бо Ґаґар ё гара Сынай ув Арабе
і адказуе цяперашняму Ерузаліму,
бо ён із дзецьмі сваімі ў няволі.
26 А вышні Ерузалім вольны;
ён — маці ўсіх нас. 27 Бо напісана:
„Цешся бясплодная, каторая не ра-
дзіла; крыкні а загукáй ты, што ня
труднішся родамі; бо ў пакіненай
шмат болей дзяцей, чымся ў маючай
мужа".
28 А мы, браты, дзеці абятніцы
подле зразы Ісака. 29 Але як тады
народжаны подле цела перасьледа-
вáў народжанага подле духа, так
і цяперака. 30 Але што кажа Пісь-
мо? „Выкінь нявольніцу й сына
ейнага, бо ніяк сын нявольнічын ня
будзе спадкаемцам разам із сынам
вольнічыным". 31 Дык, браты, мы
дзеці не нявольнічыны, але вольні-
чыны.

5 Хрыстос вывальніў нас да волі;
дык стойце цьверда і не пад-
давайцеся ізноў пад іго няволі.
2 Вось, я Паўла кажу вам: калі
вы абразаецеся, ня будзе вам ніякае
карысьці ад Хрыста. 3 Яшчэ сьвет-
чу кажнаму чалавеку, каторы абра-
заецца, што ён мае споўніць увесь
Закон. 4 Вы, што правіцеся Зако-
нам, спабыліся Хрыста, адпалі ад
ласкі, 5 Бо мы Духам зь веры
жджэм справядлівасьці; 6 Бо ў
Хрысту Ісусу ня мае сілы ані абра-
заньне, ані неабразаньне, але вера,
што дзее міласьцяй.
7 Вы беглі добра; хто перdesigned
вам, каб вы ня слухалі праўды?
8 Гэтае пераканаьне не ад Гукá-
ючага вас. 9 Ад малое закісі кісьне
ўсе цеста. 10 Я спадзяюся ўзглядам
вас у Спадару, што вы ня будзеце
думаць накш; а хто вас парушае,
будзе мець рассудак свой, хто б ён
ня быў. 11 Чаму, браты, мяне яшчэ
перасьлядýюць, калі я яшчэ абя-
шчаю абразаньне? Тады спатык-
неньне крыжа было б аддалена. 12 О
каб былі нават адрэзаны тыя, што
вас прушаюць!
13 Бо вы, браты, пагукáныя да
свабоды, адно каб пад прыклепам
свабоды не гадзіць целу; але мі-
ласьцяй слугуйце адзін аднаму.
14 Бо ўвесь Закон у вадным слове



замыкаецца: „Любі бліжняга свай-
го, як самога сябе". 15 Калі ж вы
адны адных грызіцé а ясьцé, глядзі-
це, каб ня выгубілі адны адных.
16 Я кажу: хадзіце Духам, і вы
ніяк ня будзеце чыніць досыць жад-
лівасьцям цела; 17 Бо цела жадае
напярэк Духа, і Дух — напярэк
цела: яны праціўныя адно аднаму,
каб вы не рабілі таго, чаго хочаце.
18 Калі ж вы воджаныя Духам, дык
вы не пад Законам.
19 Учынкі цела яўныя, яны ё:
чужалоства, бязулства, нечысьціня,
аблуд, 20 Балвахвалства, чары, не-
навідасьць, сьпярэчкі, зáвідасьць,
гнеў, нязгода, падманы, падзелы,
гэрасі, 21 Завісьць, забіўствы, п'ян-
ства, буянства і да гэтых падобныя.
Кажу наперад, як і ўперад казаў,
што гэта чынячым не спадзець га-
спадарства Божае.
22 Плод жа Духа: міласьць, ра-
дасьць, супакой, цярплівосьць, зыч-
лівасьць, дабрыня, вернасьць, 23 Ла-
годнасьць, валоданьне сабою. На
гэткіх няма Закону.
24 Але тыя, што Хрыстовы, укры-
жавалі цела із жадобамі й жадамі.
25 Калі мы жывем Духам, хадзіма
таксама Духам. 26 Ня гальмася на
пустую славу, квелячы адзін адна-
го, завідуючы адзін аднаму.

6 Браты! калі запраўды людзіне
луча выступ, вы духоўныя праў-
це таковага ў духу лагоднасьці, назі-
раючы кажны за сабою, каб ня
быць спакушаным. 2 Насіце цяжа-
ры адзін аднаго і гэтак вы споўніце
закон Хрыстоў. 3 Бо хто ўважае ся-
бе за што-колечы, будучы нішто,
тый ашукуе сам сябе. 4 Кажны ня-
хай спробуе свой учынак, і тады
будзе мець пахвалу толькі ў сабе,
а ня ў другім; 5 Бо кажны паня-
сець свой цяжар.
6 Навучáны словам дзяліся каж-
ным дабром із навучаючым. 7 Ня
дайся зводзіць; Бога не асьмяеш. Бо
што пасее людзіна, тое й пажнець.
8 Бо хто сее ў цела свае, пажнець
расклад; а хто сее ў Дух, з Духа
пажнець жыцьцё вечнае. 9 Ро-
бячы дабро, не безнадзейся; бо
ўпару пажнем, калі ня скволеем.
10 Дык, пакуль ё час, рабіма дабро
ўсім, і пагатове хатнім зь веры.
11 Бачыце, якімі вялікімі літарамі
я напісаў вам сваёй рукою.
12 Зычачыя хваліцца целам сі-
ляць вас абразацца адно дзеля таго,
каб ня быць перасьледавáнымі за
крыж Хрыстоў; 13 Бо й самы тыя,
што абразаюцца, не дзяржаць Зако-
ну, але хочуць, каб вы абразаліся,
каб пахваліцца целам вашым.
14 Але што да мяне, я ня буду
хваліцца, хіба адно крыжам Спада-
ра нашага Ісуса Хрыста, Каторым
дзеля мяне сьвет укрыжаваны, і я
дзеля сьвету. 15 Бо ў Хрысту Ісусу
нічога ня знача ані абразаньне, ані
неабразаньне, але новы стварэнец.
16 Тым, што ходзяць подле гэтага
правіла, супакой ім а міласэрдзе, і
Ізраелю Божаму.
17 Наапошку, няхай ніхто не ця-
жарыць мяне, бо я нашу на целе
сваім болькі Спадара Ісуса Хрыста.
18 Ласка Спадара нашага Ісуса
Хрыста з духам вашым, браты.
Амін.

## ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА ЕФЭСЯН

1 Паўла, з волі Божае апостал
Ісуса Хрыста, сьвятым а вер-
ным у Хрысту Ісусу, каторыя ў
Ефэсе: 2 Ласка вам а супакой ад
Бога, Айца нашага, і Спадара Ісуса
Хрыста.
3 Дабраслаўлёны Бог і Айцец Спа-
дара нашага Ісуса Хрыста, Каторы

падабраславіў нас кажным духоў-
ным дабраславенствам у нябёсах
у Хрысту; 4 Як Ён абраў нас у Ім
перад закладзінамі сьвету, каб мы
былі сьвятыя а бязгрэшныя перад
Ім у міласьці, 5 Наканаваўшы ўсы-
навіць нас Сабе перазь Ісуса Хрыс-
та, подле зычлівае волі Свае, 6 На
хвалу славы ласкі Свае, каторай Ён
ласку ўчыніў нам у Ўмілаваным,
7 У Каторым мы маем адкупленьне
крывёй Ягонай, дараваньне высту-
паў, подле багацьця ласкі Ягонае,
8 Каторай Ён забагаціў нас усёй
мудрасьцяй а разуменьням, 9 Аб'я-
віўшы нам тайну волі Свае подле
зычлівасьці Свае, каторую Ён за-
мерыў у Самым Сабе, 10 да загады
паўнінёю часоў, каб усе нябёснае й
земнае задзіночыць пад галавою
Хрыстовай;

11 У Ім, у Каторым і спаў спа-
дак нам, наканаваным подле замé-
ру Таго, Каторы ўсе дзее подле
рады волі Свае, 12 Каб мы былі да
хвалы славы Ягонае, мы, што перш
спадзяваліся ў Хрысту; 13 І ў Ка-
торым і вы, пачуўшы слова праў-
ды, Дабравесьці спáсеньня свайго,
у Каторага таксама ўверыўшы, за-
пячатаваны абяцаным Сьвятым Ду-
хам, 14 Каторы ё задатак спадку
нашага на адкупленьне прыдбанае
собскасьці да хвалы славы Ягонае.

15 Затым і я, пачуўшы празь веру
вашу ў Спадара Ісуса а празь мі-
ласьць да ўсіх сьвятых, 16 Бязу-
пынку дзякую за вас Богу, мяную-
чы вас у малітвах сваіх, 17 Каб
Бог Спадара нашага Ісуса Хрыста,
Ацец славы, даў нам духа мудрасьці
а аб'яўленьня да супоўнага пазнань-
ня Яго, 18 І асьвяціў сьвятлом во-
чы сэрца вашага, каб вы пазналі,
што за надзея пагукáньня Ягонага,
і што за багацьце славы спадку
Ягонага ў сьвятых, 19 І што за ня-
зьмерная вялікасьць сілы Ягонае ў
нас, што верым подле дзеяньня ма-
гутнасьці сілы Ягонае, 20 Каторай
Ён дзеяў у Хрысту, ускрысіўшы
Яго зь мертвых і пасадзіўшы па-
праве Сябе на нябёсах, 21 Над каж-
нае князства а ўладу а сілу а па-
наваньне а кажнае імя, менаванае
ня толькі ў гэтым веку, але і ў
прыйдучым,

22 І ўсе паддаў пад ногі Ягоныя,
і даў Яго над усе — за галаву
царквы, 23 Каторая ё цела Ягонае,
паўніня ўсе ў вусім Напаўняючага.

**2** І вас, мертвых у выступах а
грахох вашых, 2 У каторых вы
некалі хадзілі, подле звычáю сьвету
гэтага, подле дзяржаўцы ўлады ў
паветру, духа, што цяпер дзее ў сы-
нох непаслухменства, 3 Памеж ка-
торых і мы ўсі жылí калісь у жа-
дах цела нашага, робячы зычэньне
цела й разуменьня, і з прыроды
былі дзецьмі гневу, як і іншыя,

4 Бог, багаты міласэрдзям, зь вя-
лікае міласьці Свае, каторай уміла-
ваў нас, 5 І нас, мертвых у высту-
пах, ажывіў з Хрыстом, 6 І ўскры-
сіў разам, і пасадзіў у нябёсах у
Хрысту Ісусу, 7 Каб паказаць у
прыйдучых вякох нязьмернае ба-
гацьце ласкі Свае з дабрыні да нас
у Хрысту Ісусу.

8 Бо вы спасёны ласкаю перазь
веру, і гэта не ад вас, Божы дар:
9 Не ад учынкаў, каб ніхто не хва-
ліўся. 10 Бо мы — твор Ягоны,
створаны ў Хрысту Ісусу да добрых
учынкаў, каторыя Бог наканаваў,
каб мы хадзілі ў іх.

11 Дык пáмятуйце, што вы, ка-
лісь пагане подле цела, каторых
звалі неабразанымі званыя абра-
заньням на целе, зробленым рукамі,
12 Што вы былі таго часу бяз
Хрыста, аддáленыя ад грамадзтва
Ізраельскага, чужыя да ўмоваў
абятніцы, надзеі нямаючыя, і бяз
Бога на сьвеце; 13 А цяпер у Хрыс-
ту Ісусу вы, што былі калісь да-
лёкія, сталі блізкія крывёю Хрыс-



товаю. 14 Бо Ён ё супакой наш,
Каторы ўчыніў з абодвых адно і па-
ламіў перагародку, што стаяла па-
сярэдзіне, 15 Памярцьвіў нéпрыязь-
ньства целам Сваім, Закон раска-
заньняў у уставах Ён абурыў, каб
із двух учыніць у Сабе Самым ад-
наго новага чалавека, робячы супа-
кой, 16 І ў вадным целе пагадзіць
абодвых із Богам пераз крыж, за-
біўшы нéпрыязьньства на ім;

17 І, прышоўшы, абяшчаў Дабра-
весьць супакою вам, далёкім і бліз-
кім, 18 Бо перазь Яго абодвы маем
прыступ да Айца, у вадным духу.
19 Дык вы ўжо не чужнікі ані чужа-
земцы, але суграмадзяне сьвятых
і дамовы Божае, 20 Быўшы пабу-
даваныя на подзе апосталаў а пра-
рокаў, маючы вугольным каменям
самога Ісуса Хрыста, 21 На Като-
рым уся будоўля, тарнуючыся ра-
зам, вырастае ў сьвяты дом Спа-
дароў, 22 У каторым і вы будуецеся
разам на сялібу Божую ў Духу.

**3** З тае прычыны Я Паўла стаў
вязьням Хрыста Ісуса за вас,
народы. 2 Як запраўды вы чулі
праз загаду ласкі Божае, данае імне
дзеля вас, 3 Што пераз аб'яўленьне
паведамлена імне тайна (праз што
я пярвей пісаў коратка); 4 З чаго,
чытаючы, можаце зразумець разу-
меньне мае тайны Хрыстовае, 5 Ка-
торая ў іншых пакаленьнях ня бы-
ла паведамлена сыном людзкім, як
цяпер аб'яўлена сьвятым апосталам
Ягоным а прарокам Духам, 6 Каб
народы маглі быць суспадкаемцамі
а супольным целам а сучасьнікамі
абятніцы Ягонае ў Хрысту Ісусу пе-
разь Евангелю, 7 Каторае слугачым
стаў я з дару ласкі Божае, данае
імне дзеяньням магутнасьці Ягонае.
8 Імне, найменшаму з усіх сьвятых,
дана ласка гэтая — абяшчаць на-
родам Дабравесьць недасяжнага ба-
гацьця Хрыстовага, 9 І асьвяціць
усіх сьвятлом, чым ёсьць загада
тайны, схаванае ад вякоў у Богу,
Каторы стварыў усе Ісусам Хрыс-
том,

10 Каб цяпер стала ведамнай пе-
раз Царкву князствам а ўладам на
нябёсах найразьнейшая мудрасьць
Божая, 11 Подле спрадвечнага за-
мéру, каторы Ён замéрыў у Хрысту
Ісусу, Спадару нашым, 12 У Като-
рым мы маем адвагу а прыступ із
даверам вераю ў Яго. 13 Затым
прашу ня кволець з прычыны мае
атугі дзеля вас, каторая ваша сла-
ва.

14 Дзеля таго клякаю перад Ай-
цом Спадара нашага Ісуса Хрыста,
15 Ад Каторага кажнае айцоўства
мянуецца на небе й на зямлі, —
16 Каб даў вам, подле багацьця сла-
вы свае, дужа ўмацавацца Духам
Ягоным у нутраным чалавеку, 17
Каб Хрыстос усяліўся вераю ў сэр-
цы нашыя, каб вы, будучы ўкарэне-
ны а закладзены ў міласьці, 18 Маг-
лі спатачыць із усімі сьвятымі, што
шырыня й даўжыня, і глыбіня й
вышыня, 19 І пазнаць міласьць
Хрыстову, што пераходзе веду, каб
вы напоўніліся ўсялякай паўнінёю
Божай.

20 А Таму, хто дзеючай у нас
магутнасьцю можа зрабіць нязьмер-
на больш за ўсе, чаго просім альбо
праз што думаем, 21 Таму слава
ў Царкве і ў Хрысту Ісусу ў вусіх
пакаленьнях на векі вякоў. Амін.

**4** Дык я, вязень у Спадару, малю
вас хадзіць годна пагукáньня,
да каторага вы пагукáны, 2 З усёю
пакораю а лагоднасьцю, зь цярплі-
васьцю, выбачаючы адзін аднаму ў
міласьці, 3 Сілуючыся захоўваць
суцэльнасьць Духа ў зьвязе супа-
кою. 4 Адно цела й адзін дух, як
вы й пагукáны ў ваднэй надзеі па-
гукáньня свайго; 5 Адзін Спадар,
адна вера, адзін хрэст, 6 Адзін Бог
і Ацец усіх, Каторы над усімі, і пе-
раз усіх, і ў вусіх нас.

7 Кажнаму ж з нас да́на ласка
подле меры дару Хрыстовага. 8 За-
тым кажа: „Узышоўшы на вышы-
ню, апаланіў палон і даў дары лю-
дзём". 9 Але тое, што ўзышоў, што
гэта, як ня тое, што таксама зышоў
да найніжшых часьцяў зямлі?
10 Тый, што зышоў, ё Тый самы,
што і ўзьпшоў над усі нябёсы, каб
напоўніць усе.

11 І Ён прызначыў некатрых за
апосталаў, а некатрых за прарокаў,
а некатрых за евангелістых, а не-
катрых за пастыроў а вучыцеляў,
12 Да дасканальненьня сьвятых, да
справы службы, да будаваньня цела
Хрыстовага, 13 Пакуль усі ня прый-
дзем у суцэльнасьць веры і супоўнае
пазнаньне Сына Божага, у мужа
выраслага, у меру поўнага росту
Хрыстовага; 14 Каб мы ня былі ба-
лей бязьлеткамі, веянымі а ношаны-
мі кажным ветрам навукі ў падходзе
людзкім, у лісьлівай хітрыні абмы-
лы; 15 Але, будучы праўдамоўнымі
ў міласьці, усяляк урасталі ў Тога,
Каторы галава, Хрыстос, 16 З Ка-
торага ўсе цела, належна злучана
а зьвяза́на ўзаемна кажнай суста-
ваю, у меру дзеяньня кажнае часьці,
дзее прырост да збудаваньня самога
сябе ў міласьці.

17 Затым я кажу й сьветчу Спа-
даром, каб наперад вы не хадзілі,
як ходзяць пагане, подле марнасьці
розуму свайго, 18 Будучы зацемне-
ныя ў розуме, адда́леныя ад жыць-
ця Божага з прычыны не́ведзі, ка-
торая ў іх, з прычыны закалянасьці
сэрцаў іхных; 19 Яны, стаўшы ня-
чульлівымі, аддаліся аблуду, каб
дзеяць усялякую нечысьціню із жа-
доюю.

20 Але вы ня так пазналі Хрыста,
21 Калі вы запраўды чулі Яго і бы-
лі навучаныя ў Ім, што праўда ў Ісу-
су, 22 Каб сьмінуць усе, што даты-
каецца пярэдняга паступку старога
чалавека, што раскладаецца ў ва-
шукных жадах, 23 І аднавіцца ду-
хам розуму свайго, 24 І адзецца ў
новага чалавека, створанага подле
Бога ў справядлівасьці а сьвятасьці
праўды.

25 Затым, адхінуўшы ману, ка-
жыце праўду кажны бліжняму
свайму, бо мы сучаланы адзін ад-
наму. 26 Абураючыся, не грашыце;
сонца хай ня зойдзе ў вугневаньню
вашым. 27 І не давайце месца дзя-
блу. 28 Хто краў, няхай не крадзець,
але валей няхай працуе, робячы ру-
камі сваімі добрае, каб меў удзя-
ліць патрабуючаму.

29 Ніякае гнілое слова хай ня
выходзе з вуснаў вашых, але калі
якое добрае да патрэбнага збуда-
ваньня, каб дало ласку слухаючым.
30 І не засмучайце Сьвятога Духа
Божага, Каторым вы запячатаваны
на дзень адкупленьня.

31 Усялякая гарчэль а гнеў а
абурэньне а вераск а блявузґаньні
няхай будуць адда́лены ад вас з
усёй злоснасьцяй; 32 І будзьце зы-
члівыя адзін да аднаго, спагадлівыя,
даруючы адзін аднаму, як і Бог у
Хрысту дараваў вам.

5 Дык будзьце перайманьнікамі
Бога, як мілава́ныя дзеці; 2 І
хадзіце ў міласьці, як і Хрыстос мі-
лава́ў нас і выдаў Сябе за нас, дар
а аброк Богу на прыемны пах. 3 А
бязулства а ўсялякая нечысьціня
або жада няхай ня будуць нават ме-
наваны памеж вас, як лецъ сьвятым.
4 І брыда, і дурная гаворка альбо
шкелі, усе нягожае, але валей дзя-
каваньне; 5 Бо ведаеце, што ніякі
бязуля, альбо нячысты, альбо пра-
гавіты, каторы балвахвал, ня будзе
мець спадку ў гаспадарстве Хрыста
а Бога.

6 Няхай ніхто не ашукуе вас пу-
стымі словамі, бо за гэта прыходзе
гнеў Божы на сыноў непаслухмен-
ства; 7 Дык ня будзьце сябрамі іх-
нымі. 8 Бо вы былі калісь цямнота,



а цяпер — сьвятліня ў Спадару: ха-
дзіце, як дзеці сьвятліні 9 (бо плод
сьвятліні ў кажнай дабрыні а спра-
вядлівасьці а праўдзе), 10 Прабую-
чы, што падабае Спадар.

11 І ня майце ўчасьця зь бясплод-
нымі ўчынкамі цямноты, але валей
ганьце. 12 Бо праз тое, што яны
робяць пата́й, сорамна й гу́каць.
13 Усеж, упіканае сьвятлінёю, ро-
біцца яўным; бо ўсе, што робіцца
яўным, сьвятліня ё; 14 Затым ка-
жа: „Устань сьпячы, і ўскрэсьні зь
мертвых, і асьвеце цябе Хрыстос".

15 Дык бачча, як вам хадзіць
асьцярожна, не як нямудрым, але як
мудрым, 16 Важачы час, бо дні бла-
гія. 17 Затым ня будзьце дурныя,
але разумеючыя, што ё воля Спада-
рова. 18 І ня ўпівайцеся вінам, у
каторым бязулства, але поўніцеся
Духам, 19 Размаўляючы мяжсобку
псальмамі а гімнамі а песьнямі ду-
хоўнымі, пяючы а напяваючы сэр-
цам сваім Спадару, 20 Дзякуючы
заўсёды за ўсё Богу а Айцу, у імя
Спадара нашага Ісуса Хрыста.

21 Паддаючыся адзін аднаму ў
страху Хрыстовым.

22 Жонкі, паддавайцеся мужом
сваім, як Спадару, 23 Бо муж ё га-
лава жонцы, як і Хрыстос галава
Царкве, Ён Спас цела; 24 Але як
Царква паддана Хрысту, так і жон-
кі мужом сваім у ўсім.

25 Мужы, любіце жонкі свае, як
і Хрыстос любіў Царкву і аддаўся
за яе, 26 Каб усьвяціць яе, ачысь-
ціўшы абмыцьцём водным у слове;
27 Каб пастанавіць яе Сабе славу-
таю Царквою, плямы ня маючай,
маршчака альбо чаго-колечы тако-
га, але каб была́ сьвятой а бездза-
ганнай.

28 Ды так маюць мужы любіць
жонкі свае, як собскае цела свае:
хто любе жонку сваю, любе самога
сябе. 29 Бо ніхто ня мае ў нена-
візьці собскага цела свайго, але жы-
ве а кукобе, як і Хрыстос Царкву;
30 Бо мы чаланы цела Ягонага, ад
цела Ягонага і ад косьцяў Ягоных.
31 Затым хай „пакіне чалавек ай-
ца свайго і маці сваю і прылiпне
да жонкі свае, і будуць двое адно
цела".

32 Тайна гэта вялікая, але я ка-
жу ўзглядам Хрыста і ўзглядам
Царквы. 33 Вось жа, кажны з вас
няхай любе жонку сваю, як самога
сябе; жонка ж хай баіцца мужа.

6 Дзеці, слухайце бацькоў сваіх
у Спадару, бо гэта справядліва.
2 „Сьці айца свайго і маці", гэта —
першае расказаньне з абятніцаю:
3 „Каб было табе добра, і каб ты
быў даўгавечны на зямлі".

4 І, бацькі не кваліце дзяцей сва-
іх да гневу, але гадуйце іх у зыру
а навуцы Спадаровай.

5 Нявольнікі, слухайце гаспада-
роў сваіх подле цела, з боязьняю
а дрыжэньнем, у прасьціні сэрца
свайго, як Хрыста, 6 Ня дзеля вока
служыце, як угоднікі людзкія, але
як нявольнікі Хрыстовы, чынячы
волю Божую ад душы, 7 Служачы
шчыра, як Спадару, а ня людзём,
8 Ведаючы, што кажны адзяржыць
ад Спадара подле дабра, каторае ён
зрабіў, ці нявольнік, ці вольнік.

9 А вы, гаспадары, рабіце тое са-
мае ўзглядам іх, пакідаючы пагро-
зы, ведаючы, што Гаспадар іхны
й ваш у нябёсах і што няма ў Яго
прыяньня асобам.

10 Наапошку, браты, мацуйцеся ў
Спадару і ў магутнасьці сілы Яго-
нае; 11 Адзеньцеся ў поўную зброю
Божую, каб вы маглі стаць супроці
хітрыкаў дзябальскіх; 12 Бо наша
бітва́ ня з крывёю а целам, але з
князствамі, з уладамі, із сьветнымі
панамі цямноты гэтае, з духовай
гарыннай сілаю нягоднасьці. 13 Дзе-
ля гэтага вазьміце поўную зброю

Божую, каб вы маглі стаць супроці
ў благі дзень і, учыніўшы ўсе, вы-
трываць.
14 Дык станьце, падпяразаўшы
сьцёгны свае праўдаю, і адзеўшыся
ў панцыр справядлівасьці, 15 І азуў-
шы ногі свае ў гатоў дабравесьці су-
пакою. 16 Апрача ўсяго, возьміце
шчыт веры, каторым зможаце зга-
сіць усі распаленыя стрэлы нягод-
нага; 17 Вазьміце таксама шолам
спáсеньня і меч Духа, каторым ё
слова Божае; 18 Усялякаю малітваю
а просьбаю маліцеся кажнага часу ў
Духу, і рупцеся да гэтага самага з
усёй кажначаснасьцяй і маленьням
за ўсіх сьвятых 19 І за мяне, каб
імне дана была вымоўнасьць у вад-
чыненьню вуснах сваіх паведамляць
адважна тайну Евангелі, 20 Да ка-
торае я пасол у зялезах, каб я ад-
важна, як мае быць, гýкаў.
21 А каб і вы ведалі узглядам
мяне, што я раблю, умілавáны брат
і верны слугачы ў Спадару, Тыхік,
праз усе накажа вам, 22 Каторага
я паслаў да вас дзеля гэтага самага,
каб вы даведаліся праз справы на-
шы, і каб ён пацешыў сэрцы вашы.
23 Супакой братом а міласьць ізь
вераю ад Бога Айца і Спадара Ісуса
Хрыста. 24 Ласка з усімі, што мі-
луюць Спадара нашага Ісуса Хры-
ста міласьцяй непсавальнай.

## ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА ПІЛІПЯН

1 Паўла а Цімох, нявольнікі Ісуса
Хрыста, да ўсіх сьвятых у Хры-
сту Ісусу, каторыя ў Піліпах, зь
япіскапамі а дзяканамі: 2 Ласка
вам а супакой ад Бога, Айца наша-
га, а Спадара Ісуса Хрыста!
3 Дзякую Богу свайму пры каж-
ным успаміне вас, 4 Заўсёды ў каж-
ным маленьню сваім чынячы з ра-
дасьцяй малітву за ўсіх вас, 5 За
ўзаем'е ваша ў Евангелі ад перша-
га дня аж дагэтуль, 6 Маючы давер
у тым, што тый, хто пачаў у вас
добрую справу, скончa яе да дня
Ісуса Хрыста;
7 Як справядліва імне думаць гэ-
та праз усіх вас, бо я маю вас у сэр-
цу сваім; як у зялезах маіх, так і ў
вабароне а ў пацьверджаньню Еван-
гелі вы ўсі ўчасьнікі ў ласцы маёй.
8 Бо Бог сьветка імне, як тужу я па
ўсіх вас любосьцяй нутра Хрыста
Ісуса.
9 І малюся праз тое, каб міласьць
ваша яшчэ балей а балей мнажы-
лася ў супоўным знацьцю а ўсяля-
кім разуменьню; 10 Каб вы маглі
дазнаць розьніцы, каб вы маглі
быць шчырымі а беззаганнымі на
дзень Хрыстоў, 11 Напоўненыя пла-
дамі справядлівасьці Ісусам Хрыс-
том на славу а пахвалу Божую.
12 Я хацеў бы, браты, каб вы
ведалі, што акалічнасьці, у каторых
я апынуўся, вышлі на дасьпех Еван-
гелі; 13 Так што зялезы мае ў Хры-
сту сталі ведамнымі ўсёй прэторы
а ўсім іншым; 14 І бальшыня з бра-
тоў у Спадару, асьмеліўшыся зяле-
замі маімі, адважна гýкаюць слова
Божае, бяз страху.
15 Некатрыя, праўда, із зáвідасьці
а супарства, але некатрыя таксама
з добрае волі абяшчаюць Хрыста.
16 Гэтыя запраўды зь міласьці, ве-
даючы, што я прызначаны да аба-
роны Дабравесьці; 17 А гэныя дзеля
супарства абяшчаюць Хрыста, ня ў
чысьціні, думаючы, што прыдадуць
атугі да зялезаў маіх.
18 Дык што? Якім бы парадкам
абяшчалі Хрыста, прыдаючыся ці ў
праўдзе, я з гэтага цешуся і буду
цешыцца; 19 Бо я ведаю, што гэта
будзе імне на спáсеньне, вашай ма-
літваю й даставаю Духа Ісуса Хрыс-



та, 20 Подле гарачага чаканьня а
надзеі мае, што я ні ў чым ня буду
паганбены, але з усёй адвагаю, як
заўсёды, таксама цяпер Хрыстос бу-
дзе ўзьвялічаны ў целе маім, ці то
жыцьцём, ці сьмерцяй. 21 Бо імне
жыцьцё —Хрыстос, а сьмерць —
прыдбаньне.
22 Але калі жыцьцё ў целе даець
плодную працу імне, то што абраць,
я яшчэ не пераканаўся. 23 Цягне
мяне адно й другое: маю зычэньне
адыйсьці й быць із Хрыстом, бо гэта
шмат ляпей; 24 А заставацца ў це-
ле патрабней дзеля вас. 25 І, маючы
пэўнасьць гэтага, я ведаю, што за-
стануся й пабуду з вамі ўсімі дзеля
дасьпеху вашага а радасьці веры,
26 Каб пахвала ваша ў Хрысту Ісу-
су памнажылася перазь мяне пры-
томнасьцяй маёй ізноў у вас.
27 Адно няхай паступак будзе
годны дабравесьці Хрыстовае, каб,
ці я прыйду і абачу вас, ці, няпры-
томны, пачуў праз вас, што вы
стаіцé ў вадным духу, аднэй душою,
разам сілуючыся за веру евангель-
скую, 28 І не лякайцеся ні ў чым
праціўнікаў; гэта ім ё довад загіны,
а вам — спáсеньня. І гэта ад Бога;
29 Бо вам дана дзеля Хрыста ня
толькі верыць у Яго, але й цярпець
за Яго, 30 Маючы тое самое зма-
ганьне, што бачылі ў імне і цяпер
чуеце празь мяне.
2 Дык калі ё такое захочаньне ў
Хрысту, калі якое пацяшэньне
міласьцяй, калі якое ўзаем'е Духа,
калі якая спагада а жаль, 2 Дык
напоўніце радасьць маю, каб вы ду-
малі тое самае, мелі тую самую мі-
ласьць, задзіночыліся душою, праз
адно думалі; 3 Няхай нічога ня
будзе ў духу сьпіраньня альбо пус-
тое славы, але ў пакоры адны ад-
ных за вышшых за сябе майце. 4 Не
глядзі кажны толькі сябе, але каж-
ны таксама іншых.
5 Бо няхай тая думка будзе ў вас,
якая і ў Хрысту Ісусу, 6 Каторы,
будучы ў хорме Божай, не ўважаў
сабе за грабеж быць роўным із Бо-
гам; 7 Але паніжыў Сябе Самога,
бяручы хорму нявольніка, стаўшы
падобным да людзёў, 8 І з выгляду
стаў як людзіна; паніжыўся, стаў
паслухменым аж да сьмерці, і сьмер-
ці крыжавой.
9 Затым і Бог высака ўзьняў Яго
і даў Яму імя над кажнае імя, 10 Каб
у імя Ісусава кажнае калена кля-
кала на небе, і на зямлі, і пад зям-
лёю, 11 І кажны язык вызнаваў,
што Ісус Хрыстос ё Спадар на славу
Бога Айца.
12 Дык, любовыя мае, як вы заў-
сёды былі паслухменыя, ня толькі
ў прытомнасьці маёй, але шмат ба-
лей цяпер у часе няпрытомнасьці
мае, із страхам а дрыготаю дзейце
спáсеньне свае, 13 Бо Бог дзее ў вас
і хаценьне і дзеяньне, подле добрае
волі Свае.
14 Усе рабіце без нараканьня а
сьпярэчак, 15 Каб вы былі безза-
ганныя й простыя бязупічныя дзеці
Божыя сярод непасьцівага а крута-
душнага пакаленьня, памеж като-
рага вы, як сьветлы на сьвеце,
16 Дзержачы слова жыцьця, на па-
хвалу маю дня Хрыстовага, каб я не
дармá бег ані дарма працаваў.
17 Але хоць бы я быў выліты як
узьліваньне на аброк а паслугу ве-
ры вашае, я цешуся і цешуся су-
польна з усімі вамі. 18 Гэтак жа
й вы цешчася і цешчася з імною.
19 Я ж спадзяюся ў Спадару Ісу-
су неўзабаве пасьлаць Цімоха да вас,
каб і я пацешыўся, даведаўшыся
праз вас. 20 Бо я ня маю аднадум-
ца, каторы бы так шчыра рупіўся
праз тое, як вы маецеся; 21 Бо ўсі
шукаюць свайго, а не таго, што Ісу-
са Хрыста, 22 А вы ведаеце ўзу-
меласьць ягоную, што, як дзяцё ай-
цу, ён служыў імне ў Дабравесьці.
23 Дык яго я спадзяюся без адва-

локі паслаць, як толькі абачу, што
будзе дзеяцца з імною. 24 Але я
спадзяюся ў Спадару, што я сам
уборзьдзе прыйду да вас.
25 Ано я ўважаў за патрэбнае
паслаць да вас Епафродыта, брата
а супрацаўня а сужаўнера майго, а
вашага пасланца й слугачага ў па-
трэбе маёй, 26 Бо ён тужыў па ўсіх
вас і быў зьнемарашчаны з тога,
што вы пачулі, што ён быў хворы.
27 Бо запраўды ён быў хворы пры
сьмерці, але Бог зьмілаваўся над ім
і не над адным ім, але й над імною,
каб я ня меў смутку да смутку.
28 Затым я ахватней паслаў яго,
каб вы, абачыўшы яго ізноў, усьце-
шыліся, і я быў меней смутны.
29 Прыміце яго ў Спадару з усёй
радасьцяй і майце такіх у сьці,
30 Бо за справу Хрыстову ён быў
блізка сьмерці, рызыкуючы жыцьц-
цём сваім, каб запоўніць нястачу
вашых паслугаў імне.

3 Наапошку, браты мае, цешчася
ў Спадару. Пісаць вам тое са-
мае ня нудна імне, а вам бясьпечна.
2 Сьцеражыцеся сабак, сьцеражы-
цеся благіх работнікаў, сьцеражыце-
ся калечаньня, 3 Бо мы — абра-
заньне, каторыя сьцім Бога Духам
і хвалімся Хрыстом Ісусам, а не
спадзяемся на цела;
4 Хоць я мог бы спадзявацца й
на цела. Калі хто іншы думае спа-
дзявацца на цела, дык пагатове я,
5 Абрэзаны восьмага дня, з роду
Ізраелявага, пакаленьня Веняміно-
вага, Гэбрэй із Гэбрэяў, подле Зако-
ну фарысэй, 6 Подле рупатлівасьці
перасьледава́ньнік Царквы, подле
справядлівасьці законнай беззаган-
ны.
7 Але што імне было прыдбань-
ням, тое дзеля Хрыста я замеў за
страту. 8 Дый усе маю за страту
дзеля пераважнага пазнаньня Хры-
ста Ісуса, Спадара свайго, дзеля Ка-
торага я ўсе страціў, і ўсе маю за
гной, каб прыдбаць Хрыста, 9 Знай-
сьціся ў Ім, ня маючы справядлі-
васьці свае, што із Закону, але тую,
што зь веры Хрыстовае, справядлі-
васьць, што ад Бога верою; 10 Каб
пазнаць Яго, і магутнасьць ускры-
сеньня Ягонага, і мець узаем'е ў му-
ках Ягоных, тарнуючыся да сьмерці
Ягонае, 11 Каб дясягчы ўскрысень-
ня зь мертвых.
12 Не каб я ўжо дасяг альбо
ўдасканальніўся; але імкнуся, ці не
дасягну й я, як дасяг мяне Хрыстос.
13 Браты, я ня маю сябе за дасягла-
га, але адно — забываючыся зад-
няе, прасьцягаючыся наперад, 14 Ім-
кнуся да мэты, да нагароды высо-
кага пагука́ньня Божага ў Хрысту
Ісусу.
15 Дык каторыя з нас дасканаль-
ныя, гэтак думайма; калі ж вы праз
што-колечы накш думаеце, дык і гэ-
та вам Бог аб'яве. 16 Чаго мы, ады-
лі, дасяглі, хадзіма так.
17 Будзьце перайманьнікамі зь
мяне, браты, і ўзірайцеся на тых,
што ходзяць подле зразы, якую ма-
еце ў нас. 18 Бо шмат хто, праз
каторых я часта гу́каў вам, а цяпер
нават із плачам гу́каю, што яны
ё як не́прыяцелі крыжа Хрыстова-
га; 19 Каторых канец — загуба,
каторых бог — бруха, і слава іх-
ная — у сораме; яны думаюць праз
земнае;
20 Бо грамадзянства наша ў небе,
скуль мы жджэм і Спаса, Спадара
Ісуса Хрыста, 21 Каторы адмене це-
ла наша з паніжэньня ў згоднасьць
із целам славы Свае, дзеяньням
сілы, каторай Ён і паддаець Сабе
ўсе.

4 Дык, браты мае любовыя а жа-
даныя, радасьць а карона мая,
стойце так моцна ў Спадару, уміла-
ваныя.
2 Захочую Еводу а Сынтыху быць
тае самае думкі ў Спадару. 3 Але,
і цябе прашу, праўдзівы сябру, па-



магай тым жанкам, каторыя ў Даб-
равесьці разам із імною змагаліся,
і з Клімам і зь іншымі супрацаў-
нямі маімі, каторых імёны ў кнізе
жыцьця.
4 Цешчася заўсёды ў Спадару,
яшчэ кажу: цешчася. 5 Сьціпласьць
ваша няхай будзе ведамная ўсім
людзём. Спадар блізка.
6 Не парушайцеся праз нішто,
але ў вусім малітваю а просьбаю
а падзякаю няхай зычаньні вашы
будуць учынены ведамныя Богу,
7 І супакой Божы, што пераходзе
кажны розум, усьцеражэць сэрцы
вашыя і думкі вашыя ў Хрысту Ісу-
су.
8 Наапошку, браты, што праўдзі-
вае, што пасьцівае, што справядлі-
вае, што чыстае, што любовае, што
добрае славы, калі якая цнота і ка-
лі якая пахвала, гэта разважайце.
9 Чаго вы навучыліся а прынялі
а чулі а бачылі ў імне, гэта рабі-
це, — і Бог супакою будзе з вамі.
10 Цяпер я вельмі ўсьцешыўся
ў Спадару, што, наапошку, вы ізноў
пачалі думаць праз мяне, хоць на-
пэўна й думалі, але ня мелі пры-
годы. 11 Ня дзеля нястачы кажу,
бо я навучыўся быць здаволены з
тога, што маю: 12 Ведаю, як быць
паніжаным, ведаю, як быць і ў да-
статку; навытырыўся да ўсяго і ў ву-
сім: быць у сыці і галадаваць, быць
у збытку і ў нястачы. 13 Да ўсяго
я дуж у Тым, хто даець імне ду-
жасьць.
14 Вы, адылі, добра зрабілі, узяў-
шы ўчасьце ў маёй атузе. 15 Ве-
даеце ж і вы, Піліпяне, што на па-
чатку Дабравесьці, як я вышаў з
Макядоні, ні водная царква не ўдзя-
ліла імне ані дару, ані прыйма,
з выняткам вас адных; 16 Бо й да
Салуня раз і ўдругарэдзь вы пры-
слалі імне на маю патрэбу. 17 Не
каб я шукаў падарку, але я шукаю
плоду, каторы расьцець на вашу
карысьць.
18 Я маю ўсе і збыткую; маю
поўна, адзяржаўшы ад Епафродыта
пасланае вамі: духмяныя пахі, пры-
емны аброк, любы Богу. 19 Бог мой
хай запоўне ўсялякую патрэбу ва-
шу, подле багацьця Свайго ў славе,
Хрыстом Ісусам.
20 Богу ж а Айцу нашаму слава
на векі вякоў! Амін. 21 Паздароўце
кажнага сьвятога ў Хрысту Ісусу.
Здароваюць вас браты, што з імною.
22 Здароваюць вас усі сьвятыя, аса-
бліва тыя, што з дому цэсаравага.
23 Ласка Спадара Ісуса Хрыста
з духам вашым. Амін.

## ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА КОЛОСЯН

1 Паўла, з волі Божае апостал
Хрыста Ісуса, а Цімох брат,
2 Сьвятым а верным братом у Хрыс-
ту, каторыя ў Колосе: ласка вам а
супакой ад Бога Айца нашага а
Спадара Ісуса Хрыста.
3 Дзякуем Богу а Айцу Спадара
нашага Ісуса Хрыста, кажначасна
молячыся за вас, 4 Чуўшы праз
веру вашу ў Хрысту Ісусу а праз
міласьць, каторую вы маеце да ўсіх
сьвятых 5 Дзеля надзеі, пакладзе-
най вам у нябёсах, праз што вы
ўперад чулі ў слове праўды Дабра-
весьці, 6 Каторая прышла да вас,
як і на ўвесь сьвет, даець плады
й расьціць, як і памеж вас, з тога
дня, калі вы пачулі й запраўды
пазналі ласку Божую ў праўдзе,
7 Як і навучыліся ад Епафры, лю-
бовага сунявольніка нашага і вер-
нага слугачага Хрыстовага дзеля
вас, 8 Каторы і наказаў нам праз
міласьць вашу ў Духу.

9 Затым і мы з тога дня, як па-
чулі, не перастаем маліцца й пра-
сіць за вас, каб вы напоўніліся за-
праўдным веданьням волі Ягонае
ў усёй мудрасьці й разуменьню ду-
хоўным; 10 Каб хадзілі годна Спа-
дара ў усім годзячы, даючы плод
у кажнай добрай працы і растучы
праўдзівым знацьцём Бога, 11 Ма-
цуючыся кажнай сілаю подле ма-
гутнасьці славы Ягонае ў усёй тры-
валкосьці а цярплівосьці з радась-
цяй, 12 Дзякуючы Айцу, Каторы
ўчыніў нас годнымі да ўчасьця ў дзе-
лі сьвятых на сьвеце, 13 Каторы
выбавіў нас ад улады цемні і пе-
равёў да гаспадарства ўмілаванага
Сына Свайго, 14 У каторым мы
маем адкупленьне, дараваньне гра-
хоў, 15 Каторы ё абраз Бога нявідо-
мага, народжаны ўперад за ўсе
стварэньне; 16 Бо Ім створана ўсе,
што на нябёсах і што на зямлі, ві-
домае й нявідомае: ці пасады, ці
спадарствы, ці князствы, ці ўлады,
— усе Ім і дзеля Яго створана; 17 І
Ён ёсьць уперад за ўсе, і ўсе Ім
дзяржыцца. 18 І Ён галава цела
царквы; Ён — пачатак, пяршак із
мертвых, каб Ён меў пяршынство
ў вусім; 19 Бо ўзьлюб было Айцу,
каб у Ім жыхарыла ўся паўніня, 20 І
каб пагадзіць Ім усе із Сабою, сьці-
хамірыўшы Ім, крывёй крыжа Яго-
нага, ці то земнае, ці то нябёснае.
21 І вас, што калісь былі адда́леныя
і не́прыяцелі ў душы, робячы благія
ўчынкі, 22 Цяпер Ён пагадзіў целам
Сваім перазь сьмерць, каб пастана-
віць вас сьвятымі а беззаганнымі а
бязупічнымі перад Сабою, 23 Калі
запраўды трываеце ў веры непахіс-
ныя а цьвярдыя і не адхінаецеся ад
надзеі Евангелі, каторую вы чулі,
каторая абвяшчана ўсім стварэнцам
пад небам, каторай я, Паўла, стаў
слугачым.

24 Цяпер я цешуся зь цярпеньняў
сваіх за вас і дапаўняю нястачу
атугаў Хрыстовых на целе сваім за
цела Ягонае, каторае ё Царква,
25 Каторай я стаў слугачым подле
загады Божае, данае імне ўзглядам
вас, каб выпаўніць слова Божае,
26 Тайну, закрытую ад вякоў і па-
каленьняў, але цяпер аб'яўленую
сьвятым Ягоным, 27 Каторым Бог
зычыў наказаць, што за багацьце
было б славутае тайны гэтае памеж
народаў, каторая ё Хрыстос у вас,
надзея славы, 28 Каторага мы абвя-
шчаем, перасьцерагаючы кажную лю-
дзіну і навучаючы кажную лю-
дзіну ўсяе мудрасьці, каб пастана-
віць кажную людзіну дасканальнай
у Хрысту; 29 Дзеля чаго я й пра-
цую, змагаючыся подле дзеяньня
Ягонага, каторае дзее ў імне ма-
гутна.

2 Бо зычу, каб вы ведалі, якое
змаганьне маю я за вас і за тых
у Ляодыцці, і за тых, што ня ба-
чылі віду майго ў целе, 2 Каб па-
цешыліся сэрцы іхныя, задзіноча-
ныя ў міласьці дзеля ўсяго багацьця
супоўнае пэўнасьці, разуменьня і
поўнага знацьця тайны Бога і Айца
і Хрыста, 3 У Каторым схаваны ўсі
скарбы мудрасьці а знацьця. 4 А
гэта кажу я вам, каб ніхто не спад-
мануў вас пераконуючай мовай;
5 Бо хоць запраўды я няпрытомны
целам, я, адылі, з вамі духам, це-
шачыся й бачачы парадак ваш і
ўмацаваньне веры вашае ў Хрыста.

6 Затым, як вы прынялі Хрыста
Ісуса Спадара, так і хадзіце ў Ім,
7 Укарэненыя а збудаваныя ў Ім,
умацаваныя ў веры, як навучаныя,
збыткуючы дзякаваньням. 8 Глядзі-
це, каб хто не аглабаў вас філёзо-
фаю і пустою ашукаю, подле падань-
няў людзкіх, подле навалаў сьве-
ту, а ня подле Хрыста; 9 Бо ў Ім
жыхара ўся паўніня Боства цялесна.
10 І вы паўніня ў Ім, Каторы ё га-
лава ўсяго князства а ўлады; 11 У
ім вы й абрэзаныя абразаньням ня
рукамі зробленым, сьцягненьням



грэшнага цела, абразаньням Хрыс-
товым; 12 Пахаваны зь Ім у хрысь-
це, у каторым і ўскрэсьлі зь Ім
вераю ў дзеяньне Божае, Каторы
ўскрысіў Яго зь мертвых, 13 І вас,
каторыя былі мертвыя і ў неабра-
заньню цела вашага, Ён ажывіў ра-
зам із Ім, дараваўшы вам усі вы-
ступы, 14 Скасаваўшы рукапісы па-
становаў на нас, што былі супроці
нас, Ён адхінуў іх, прыбіўшы іх
гваздамі да крыжа; 15 Разброіўшы
князствы а ўладу, выставіў іх пры-
народна на паказ, перамогшы іх Са-
бою.

16 Дык ніхто хай ня судзе вас
за ежу, альбо за піценьне, альбо за
якое сьвята, альбо маладзік, альбо
сыботы, 17 Каторыя сьцень прый-
дучага, але цела — Хрыстова.
18 Няхай ніхто ашукна не спабывае
вас нагароды самадыйнай пакораю
і службаю ангілаў, мяшаючыся ў
тое, чаго ня бачыў, дарма́ надымаю-
чыся цялесным розумам сваім 19 І
ня дзержачыся Галавы, ад Каторае
ўсе цела, суставамі а вязямі злуча-
на, расьцець ростам Божым.

20 Дык калі вы з Хрыстом па-
мерлі навалам сьвету, чаму вы, як
жывучыя ў сьвеце, дзяржыце́ па-
становы: 21 „Не дакранайся, ня
спытавай, не чапай", — 22 Што ўсе
раскладаецца ад ужываньня, — по-
дле забароны й навукі людзкое?
23 Каторыя маюць толькі выгляд
мудрасьці ў самадыйнай службе а
пакоры а стродкасьці ўзглядам це-
ла, у некатрым улегцыменьню ўз-
глядам досыць учыненьня целу.

3 Значыцца, калі вы суўскрэсьлі
з Хрыстом, дык шукайце га-
рыннага, ідзе Хрыстос сядзіць па-
праве Бога. 2 Праз гарыннае ду-
майце, а не празь земнае. 3 Бо вы
памерлі, і жыцьцё ваша схавана з
Хрыстом у Богу. 4 Як жа Хрыстос
зьявіцца, жыцьцё нашае, тады й вы
зьявіцеся зь Ім у славе.

5 Дык памярцьвіце земныя чала-
ны вашыя: бязулства, нечысьціню,
жарсьць, нягодную жадлівасьць а
гальлівасьць, каторая балвахвал-
ства, 6 За каторыя гнеў Божы прый-
дзе на сыноў непаслухменства, 7 У
каторых вы калісь абарачаліся, як
жылі ў іх. 8 Але цяпер і вы ад-
кладзіце ўсе: абурэньне, гнеў, злос-
насьць, блявузганьне, брыдкую мо-
ву з вуснаў сваіх.

9 Не маніце адны адным, зьдзеў-
шы старую людзіну з учынкамі ей-
нымі, 10 І адзеўшыся ў новую, што
аднаўляецца ў супоўным знацьцю
подле абраза Таго, Каторы стварыў
яе, 11 Ідзе няма Грэка ані Жыда,
абразаньня ані неабразаньня, бар-
бара, сьціта, нявольніка, вольніка,
але ўсе і ў вусім Хрыстос.

12 Дык адзеньцеся, як абранцы
Божыя, сьвятыя а любовыя, у нутр
міласэрдзя, дабрыню, пакору, ла-
годнасьць, цярплівосьць, 13 Маючы
выбачнасьць адно аднаму і даруючы
адно аднаму, калі хто мае жалабу
на каго: як Хрыстос, запраўды да-
раваў вам, таксама й вы. 14 А над
усім гэтым майце любосьць, като-
рая ё зьвязак дасканальнасьці. 15 І
няхай супакой Хрыстоў мае правод
у сэрцах вашых, да каторага вы
й пагукáны ў вадным целе, і будзьце
ўдзячныя.

16 Слова Хрыстова няхай жыхара
ў вас багата, з усёй мудрасьцяй,
навучаючы а дамяняючы адно ад-
наму псальмамі, гімнамі, духоўны-
мі песьнямі, з ласкаю пяючы ў сэр-
цах сваіх Богу. 17 І што-колечы
вы робіце словам альбо ўчынкам,
рабіце ўсе ў імя Спадара Ісуса, дзя-
куючы перазь Яго Богу Айцу.

18 Жонкі, будзьце падданыя му-
жом, як прыходна ў Спадару.

19 Мужы, любіце жонкі свае і не
дапушчайце да сябе гарчэлі да іх.

20 Дзеці, слухайце бацькоў сваіх
у вусім, бо гэта люба Спадару.

21 Бацькі, не квяліце дзяцей сва-
іх, каб яны не безахоціліся.

22 Слугі, слухайце ў вусім гаспа-
дароў сваіх подле цела, ня дзеля
вока, як угоднікі людзкія, але ў
прасьціні сэрца, баючыся Спадара.
23 Што-колечы робіце, рабіце шчы-
ра, як Спадару, а ня людзём, 24 Ве-
даючы, што ад Спадара адзяржыцé
заплату спадку: Спадару Хрысту
вы служыце. 25 Бо крыўднік адзяр-
жыць подле тога, што ён крыўдзіў,
бо няма прыяньня асобам.

4 Гаспадарове, справядліва й па-
сьціва із слугамі абходзьцеся,
ведаючы, што й вы маеце Гаспадара
ў нябёсах.

2Трывайце ў малітве, будучы чу-
кавымі ў ёй з падзякаю; 3 Маліцеся
заразом і за нас, каб Бог адчыніў
нам дзьверы слова казаць тайну
Хрыстову, за каторую я спутаны,
4 Каб я аб'яўляў яе, як належа ка-
заць.

5 З навоннымі абходзьцеся мудра,
карыстаючы з прыгоднага часу.
6 Няхай слова ваша заўсёды будзе
ў ласцы, закрашана сольлю, каб вы
ведалі, як адказаваць кажнаму.

7 Празь мяне паведаме вам усе
Тыхік, умілаваны брат а верны
слугачы а сунявольнік у Спадару,
8 Каторага я паслаў да вас дзеля
тога самага, каб вы даведаліся, як
мы маемся, і каб пацешыў сэрцы
вашыя, 9 З Анісімам, верным а ўмі-
лаваным братам, каторы з вас. Яны
накажуць вам праз усе туташняе.

10 Здаровае вас Арыстарх, сувя-
зень мой, а Марка, сястрыч Варна-
вы (праз каторага вы адзяржалі
паручэньне: як прыйдзе да вас,
прыміце яго), 11 А Ісус, званы
Юстам, каторыя з абразаньня. Гэта
адзіныя супрацаўні дзеля гаспадар-
ства Божага, што былі пацехаю ім-
не.

12 Здаровае вас Епафра, з вас,
нявольнік Хрыста Ісуса, што заўсё-
ды змагаецца за вас у малітвах, каб
трывалі дасканальныя й супоўна пе-
раканаўшыся ў вусёй волі Божай.
13 Сьветчу празь яго, што ён мае
вялікую рупатлівасьць праз вас і
тых, што ў Ляодыццы а ў Гіерапо-
лю.

14 Здаровае вас Лука, лекар умі-
лаваны, а Дзімас. 15 Паздароўце
братоў у Ляодыццы а Німфу а Царк-
ву, што ў доме ягоным.

16 Як толькі ліст гэты будзе пра-
чытáны ў вас, парупцеся, каб ён быў
прачытаны і ў Царкве Ляодыцкай,
і каб вы таксама прачыталі, каторы
зь Ляодыкі. 17 І скажыце Архіпу:
„Глядзі, каб ты выпаўніў службу,
каторую ты прыняў у Спадару".

18 Здаровaньне рукою маёй Паў-
лавай. Пáмятуйце на путы мае. Лас-
ка з вамі.

## ПЕРШЫ ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА САЛУНЯН

1 Паўла а Сілан а Цімох царкве
Салунскай у Богу Айцу а Спа-
дару Ісусу Хрысту: ласка вам а су-
пакой.

2 Мы заўсёды дзякуем Богу за вас
усіх, мянуючы вас у малітвах сваіх,
3 Бязупынку памятуючы ваш учы-
нак веры і працу міласьці і цярплі-
восьць надзеі на Спадара нашага
Ісуса Хрыста перад Богам а Айцом
нашым,

4 Ведаючы, любыя Богу браты,
праз абраньне ваша; 5 Бо Дабра-
весьць наша была ў вас ня ў слове
толькі, але і ў магутнасьці, і ў Духу
Сьвятым, і ў шмат якім пераканань-
ню. 6 І вы сталі перайманьнікамі
нашымі й Божымі, прыняўшы слова
ў шмат атугах із радасьцяй Духа
Сьвятога; 7 Так што вы сталі зра-
заю ўсім вернікам у Макядоні а ўв
Ахаі. 8 Бо ад вас прагучэла слова



Спадарова ня толькі ў Макядоні а
Ахаі, але ў кажным месцу вера ва-
ша ўзглядам Бога разьнеслася, так
што мы не патрабуем нічога казаць.

9 Бо яны самы павядаюць праз
нас, які ўход мелі мы да вас, і як
вы навярнуліся да Бога ад балва-
ноў, каб служыць Богу жывому й
праўдзіваму 10 І чакаць із нябёс
Сына Ягонага, Каторага Ён ускры-
сіў із мертвых, Ісуса, што збаўляе
нас ад прыйдучага гневу.

2 Бо вы самы ведаеце, браты, што
наш уход да вас ня быў дарма;
2 Але ўперад памучыўшыся і ўра-
жаны, як вы ведаеце, у Пілілах, мы
важылі ў Богу нашым гýкаць вам
Дабравесьць Божую зь вялікім труд-
неньнем. 3 Бо навучаньне нашае ня
было з абмылы ані зь нечысьціні,
ані з падходу; 4 Але як Бог прыз-
наў нас за годных, паручыць нам
Дабравесьць , так мы гýкаем, годзя-
чы ня людзём, але Богу, Каторы
прабуе сэрцы нашы. 5 Бо гутарка
наша з вамі ніколі ня была лісьлі-
вая, як вы ведаеце, ані было гáль-
лівасьці пад якім-колечы прыкле-
пам: Бог сьветка! 6 Ня шукаем сла-
вы людзкое ані ад вас, ані ад ін-
шых, хоць мы маглі б быць із ва-
гаю, як апосталы Хрыстовы, 7 Але
мы былí лагодныя сярод вас, як
нянька, што кукобе собскія дзеці
свае. 8 Гэтак прыяючы вам, мы
гатовы былі ўдзяліць ня толькі
Евангелі Божае, але й собскія ду-
шы свае, бо вы сталі мілаваныя
нам.

9 Бо вы памятуеце, браты, працу
а гарапашнасьць нашу: ноч і дзень
працуючы, каб не абцяжарыць вас
чым-колечы, мы абяшчалі вам Даб-
равесьць Божую. 10 Сьветкі вы й
Бог, як сьвята,справядліва а бezza-
ганна мы былі да вас вернікаў. 11
Як вы ведаеце, кажнага з вас, як
ацец дзеці свае, мы навучалі й це-
шылі й сьветчылі, 12 Каб вы жылí
годна Бога, Каторы пагукáў вас да
гаспадарства Свайго а славы.

13 І за гэта мы кажначасна дзя-
куем Богу, што, прыняўшы ад нас
слова Божае, вы прынялí ня слова
людзкое, але, як запраўды ёсьць,
слова Божае, каторае й дзее ў вас
вернікаў. 14 Бо вы, браты, сталі пе-
райманьнікамі ў цэркваў Божых,
што ў Юдэі ў Хрысту Ісусу, бо вы
тое ж цярпелі ад родзічаў сваіх,
што яны ад Жыдоў, 15 Каторыя за-
білі Спадара Ісуса а пракоаў, і нас
выганяюць, і ня годзяць Богу, і пра-
ціўныя ўсім людзём, 16 Бароначы
нам гýкаць народам, каб гэтыя
спасьліся; гэтак заўсёды поўняць
меру грахоў сваіх. Але, наапошку,
бліжыцца на іх гнеў Спадароў.

17 Мы ж, браты, будучы спабыты
вас і разлучаныя на часіну відам, ня
сэрцам, з большым жаданьням ста-
раліся бачыць вас аблічна. 18 Затым
мы хацелі прыйсьці да вас, асабліва
я Паўла, раз і другі раз, але шайтан
перакажаў нам. 19 Бо хто надзея на-
ша, альбо радасьць, альбо карона
хвальбы? Ці ня вы таксама перад
Спадаром нашым Ісусам у часе пры-
ходу Ягонага? 20 Бо вы слава наша
а радасьць.

3 Затым, ня могучы трываць ба-
лей, мы ўважалі, што будзе доб-
ра застацца ўв Атэнах адным, 2 І
паслалі Цімоха, брата нашага а су-
працаўня Божага ў Евангелі Хрыс-
товай, умацаваць вас і навучыць ве-
ры вашае, 3 Каб ніхто не захістаўся
ў ватугах гэтых; бо вы самы ве-
даеце, што мы прызначаныя да гэ-
тага. 4 Бо і ўперад, як мы былí ў
вас, мы казалі вам, што будзем мець
атугу, як і сталася, і вы ведаеце.

5 Затым, як я ня мог трываць
балей, паслаў даведацца празь веру
вашу, каб вас які спакусіцель не
спакусіў, і ня стала дарэмнай праца
наша. 6 Цяпер жа Цімох прышоў
да нас ад вас і прынёс нам добрую

ведамку праз веру а міласьць вашу,
і што вы заўсёды добра ўспамінаеце
праз нас, вельмі зычачы бачыць
нас, як і мы вас — 7 Дык, у вусёй
галіце а атузе нашай, мы ўсьцешы-
ліся з вас, браты, дзеля веры вашае;
8 Бо цяпер мы жывы, калі вы стаіце
ў Спадару.

9 Што за падзяку мы можам уз-
даць Спадару за вас, за ўсю ра-
дасьць, каторай мы цешымся з вас
перад Богам нашым, 10 Ноч і дзень
горача молячы, каб бачыць аблічна
вас і паправіць, чаго не стаець веры
вашай?

11 Сам жа Бог а Ацец наш а Спа-
дар наш Ісус Хрыстос няхай ськіруе
дарогу нашу да вас. 12 А вас хай
Спадар напоўне, ды ў збытку, мі-
ласьцяй аднаго да аднаго і да ўсіх,
як і нас да вас, 13 Каб утрываліць
сэрцы вашыя беззаганнымі ў сьвя-
тасьці перад Богам а Айцом нашым
у часе прыходу Спадара нашага Ісу-
са з усімі сьвятымі Ягонымі.

4 Наапошку, браты, просім а мо-
лім вас Спадаром Ісусам, каб,
як вы прынялі ад нас, як належа
пастулаць і гадзіць Богу, так і жы-
віце, каб вы збыткавалі яшчэ ба-
лей; 2 Бо вы ведаеце, што за раска-
заньні мы далі вам Спадаром Ісу-
сам.

3 Бо гэта ё воля Божая, — па-
сьвячэньне вашае, каб вы ўзьдзер-
жаваліся ад бязулства; 4 Каб каж-
ны з вас умеў як дзяржаць судзіну
сваю ў пасьвячэньню а сьці, 5 А не
ў жарсьці жады, як пагане, што ня
знаюць Бога. 6 Не выступайце з
права і ня крыўдзьце брата свайго
ў справе, бо Спадар помсьнік за ўсе
гэта, як мы вам уперад казалі і
сьветчылі. 7 Бо пагукáў нас Бог не
да нечысьціні, але да сьвятасьці.
8 Дык хто гэта адхінае, не людзіну
адхінае, але Бога, Каторы й даў
вам Духа Сьвятога Свайго.

9 Вось жа праз любосьць брат-
нюю няма патрэбы пісаць вам, бо
вы самы навучаны Богам любіць
адно аднаго; 10 Бо гэта запраўды
вы й робіце ўзглядам усіх братоў
па ўсёй Макядоні. Але захочуем вас,
браты, рабіць так балей 11 І ру-
патліва імкнуцца жыць супакойна,
і глядзець сваіх справаў, і рабіць
сваімі рукамі, як мы расказалі вам;
12 Каб вы прыходна жылі перад
навоннымі і нічога не патрабавалі.

13 Не хачу ж, браты, каб вы былі
ў нéведзі ўзглядам сьпячых, каб вы
ня смуціліся, як іншыя, што ня ма-
юць надзеі. 14 Бо калі мы верым,
што Ісус памер і ўскрэс, дык і Бог
перазь Ісуса прывядзець із Ім за-
снулых. 15 Бо гэта кажам вам сло-
вам Спадаровым, што мы жывыя,
засталыя да прыходу Спадаровага,
ніякім парадкам ня выперадзім за-
снулых; 16 Бо Сам Спадар із гукам
расказаньня, з голасам арханіла-
ў, і трубою Божай зыйдзе зь неба,
і мертвыя ў Хрысту ўскрэснуць пер-
шыя; 17 Тады жывыя засталыя ўс-
хоплены будзем разам із імі ў бу-
лакох наўпярэймы Спадару ў паве-
тру, і гэтак заўсёды будзем із Спа-
даром. 18 Дык цешча адны адных
гэтымі словамі.

5 Праз часы ж а поры, браты, не
маеце вы патрэбы, каб пісаць
вам, 2 Бо самы вы дабрусенька ве-
даеце, што дзень Спадароў, як зло-
дзей ночы, прыйдзе. 3 Як будуць
гукаць: „Супакой а бясьпечнасьць",
тады зьнецікі прыйдзе загуба на іх,
як трудненьне на тую, што зь дзя-
цём, і ніяк не ўцякуць.

4 Але вы, браты, ня ў цемні, каб
дзень засьпеў вас, як злодзей; 5 Бо
ўсі вы сынове сьвятліні а сынове
дня: мы — ня сынове ночы ані
цемні. 6 Дык ня сьпіма, як засталыя,
але будзьма чукавыя а цьвярозыя.
7 Бо сьпячыя сьпяць ночы, і п'ян-
чачыя п'янчацца ночы. 8 Мы ж,
будучы сынамі дня, цьверазімася,



надзеўшы панцыр веры а міласьці
і шолам надзеі спáсеньня.

9 Бо Бог прызначыў нас не на
гнеў, але на адзяржаньне спасеньня
пераз Спадара нашага Ісуса Хрыста,
10 Памерлага за нас, каб, ці чука-
выя мы, ці сьпім, жылі разам із Ім.
11 Дык цешча адны адных і бу-
дуйце адны адных, як вы й робіце.

12 І просім вас, браты, знаць пра-
цуючых у вас і тых, што дамяняюць
вам, 13 І надта паважаць іх у лю-
босьці за працу іхную; будзьце ў су-
пакою мяжсобку.

14 Мы ж заклікаем вас, браты, да-
мяняйце ляным, цешча лентых, па-
магайце слабым, будзьце цярплівыя
з усімі. 15 Глядзіце, каб ніхто не
аддаваў каму ліхам за ліха, але
заўсёды імкніцеся да дабра адзін да
аднаго і да ўсіх.

16 Заўсёды цешчася. 17 Бязупын-
ку маліцеся. 18 За ўсе дзякуйце, бо
гэта ё воля Божая праз вас у Хрыс-
ту Ісусу.

19 Духа не гасіце. 20 Прароцтвы
ўлегцы ня майце. 21 Усяго прабуй-
це, добрага моцна дзяржыцеся. 22
Узьдзержуйцеся ад кажнага роду
нягоднасьці.

23 Сам жа Бог супакою няхай су-
поўна пасьвяціць вас, і ўвесь дух ва-
шы, і душа, і цела няхай захаваюц-
ца беззаганнымі на прыход Спадара
нашага Ісуса Хрыста. 24 Верны
Тый, Каторы гукáе вас, Каторы за-
праўды ўчыне гэта.

25 Браты, маліцеся за нас.

26 Паздаровайце ўсіх братоў із
сьвятым цалаваньням.

27 Прысягаю вас Спадаром пра-
чытаць гэты ліст усім братом.

28 Ласка Спадара нашага Ісуса
Хрыста з вамі.

## ДРУГІ ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА САЛУНЯН

1 Паўла а Сілван а Цімох — цар-
кве Салунскай у Богу, Айцу
нашым, а Спадару Ісусу Хрысту:
2 Ласка вам а супакой ад Бога,
Айца нашага, а Спадара Ісуса Хры-
ста.

3 Мы маем заўсёды дзякаваць Бо-
гу за вас, браты, як належа, бо
вера ваша вельма расьцець, і мі-
ласьць кажнага з усіх вас аднаго да
аднаго множыцца; 4 Так што мы
самы хвалімся вамі ў цэрквах Бо-
жых трывалкосьцяй вашай і вераю
ў вусіх перасьледаваньнях а атугах,
каторыя вы пераносіце. 5 Гэта яўны
довад справядлівага суду Божага,
каб вы былі годныя гаспадарства
Божага, дзеля каторага церпіце.
6 Бо запраўды справядліва ў Бога
адплаціць нéмарасьцяй тым, като-
рыя вас нéмарасьцяць, 7 А вам,
нéмарашчаным, супачынак із намі
ў часе зьяўленьня Спадара Ісуса зь
неба, з ангіламі магутнасьці Ягонае,
8 У палаючым агню, імсьцячыся
тым, каторыя ня знаюць Бога, і тым,
каторыя не паддаюцца Дабравесьці
Спадара нашага Ісуса Хрыста, 9 Ка-
торыя будуць плаціць кару вечнае
загубы, ад віду Спадаровага і ад
славы магутнасьці Ягонае, 10 Як Ён
прыйдзе таго дня ўславіцца ў сьвя-
тых Сваіх, і захопяцца Ім усі вера-
чыя, бо паверылі сьветчаньню на-
шаму вам.

11 Дзеля гэтага мы заўсёды мо-
лімся за вас, каб Бог наш учыніў
вас годнымі пагукáньня і споўніў
усе зычэньне дабрыні і ўчынак ве-
ры ў магутнасьці, 12 Так што ўсла-
віцца імя Спадара нашага Ісуса
Хрыста ў вас, і вы ў Ім, подле ласкі
Бога нашага а Спадара Ісуса Хрыс-
та.

2 Цяпер жа, браты, просім вас
прыходам Спадара нашага Ісу-

са Хрыста і зьберцям нашым да Яго. 2 Не сьпяшайцеся хістацца ў розуме сваім або трывожыцца ані ад духа, ані ад слова, ані ад лісту, бы ад нас, быццам дзень Хрыстоў настаець. 2 Няхай ніхто ня ізводзе вас ніякім парадкам, бо гэтага ня будзе, пакуль ня прыйдзе ўперад адступленьне і не аб'явіцца чалавек бяспраўя, сын загубы, 4 Што праціўіцца й вывышаецца над усе, меназанае Богам, альбо годнае кланяньня, ажно ён сядзе ў доме Божым, прыдаючыся Богам.

5 Ці ня памятуеце, што, будучы яшчэ з вамі, я казаў вам гэта? 6 І цяпер вы ведаеце, што зьдзержуе аб'явіцца яму ў сваім часе. 7 Бо тайна бяспраўя ўжо дзее, адно там ё тый, хто цяпер узьдзержуе, пакуль ня будзе ён вонках асяродку. 8 І тады аб'явіцца бяспраўнік, каторага Спадар Ісус заб'ець духам вуснаў Сваіх і зьнішча зьяўленьням зыркага прыходу Свайго.

9 Таго, бяспраўніка прыход, подле дзеяньня шайтана, будзе з усёй сілаю а знакамі а чудосамі манлівымі 10 А з усёю несправядліваю ашукаю гінучых, бо не прынялі міласьці праўды, каб спасьціся. 11 І за гэта пашлець ім Бог дзеяньне абмылы, каб верылі мане, 12 Каб былі засуджаны ўсі, каторыя ня верылі праўдзе, але ўпадабалі несправядлівасьць.

13 Мы ж маем заўсёды дзякаваць Богу за вас, умілаваныя Спадаром браты, што Бог ад пачатку абраў вас да спасеньня ў пасьвячэньню Духа і ў веры праўды. 14 Да гэтага Ён пагукаў вас Дабравесьцяй нашай да дасягненьня славы Спадара нашага Ісуса Хрыста. 15 Дык, браты, стойце й дзяржыце паданьні, каторых вы навучаны або словам або лістам нашым.

16 Сам жа Спадар наш Ісус Хрыстос а Бог і Ацец наш, што ўмілаваў нас і даў вечную пацеху а добрую надзею ласкаю, 17 Хай пацеша сэрцы вашыя і ўмацуе вас у кажным добрым учынку й слове.

3 Наапошку, маліцеся, браты, за нас, каб Слова Спадарова шырылася і ўславілася запраўды, як і ў вас; 2 І каб нам збавіцца ад нягодных а благіх людзёў, бо ня ў вусіх вера. 3 Але верны Спадар, Каторы ўмацуе вас і ўсьцеражэць ад злога. 4 А мы пераканаўшыся ў Спадару ўзглядам вас, што вы робіце і будзеце рабіць, што мы расказуем. 5 А Спадар хай ськіруе сэрцы вашыя да міласьці Божае і да цярплівосьці Хрыстовае.

6 Расказуем жа вам, браты, імям Спадара нашага Ісуса Хрыста, каб вы адступалі ад кажнага брата, дзяньгубна жывучага, а ня подле паданьня, што вы прынялі ад нас, 7 Бо вы самы ведаеце, як маеце пераймаць у нас, бо мы ня жылі дзяньгубна ў вас, 8 Ані елі хлеба ў каго з вас дармá, але ў гарапашнасьці а натузе працавалі ноч і дзень, каб не цяжарыць каго з вас; 9 Не каб мы ня мелі права, але каб самых сябе даць вам за зразу, каб вы пераймалі ў нас.

10 Бо й як мы былі ў вас, дык расказалі гэта: калі хто ня хоча працаваць, тый ня еж. 11 Бо чуем, што некатрыя ў вас жывуць дзяньгубна, нічога ня робяць, а мітусяцца. 12 Вось жа, такім расказуем і навучаем Спадаром Ісусам Хрыстом, каб моўчыкам робячы, елі хлеб свой.

13 Вы ж, браты, не слабянейце, добра робячы. 14 Калі ж хто не паслухае слова нашага гэтым лістам, таго зацемце і не ўзаемцеся зь ім, каб ён засароміўся. 15 Ня майце, адылі, яго за нéпрыяцеля, але дамяняйце, як брата.



16 Сам жа Спадар супакою дасьць вам супакой заўсёды на кажнай сьцежцы. Спадар із усімі вамі.

17 Здарованьне маёй рукою Паўлавай, каторая ё знакам у кажным лісьце; гэтак я пішу:

18 Ласка Спадара нашага Ісуса Хрыста з усімі вамі.

## ПЕРШЫ ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА ЦІМОХА.

1 Паўла, апостал Ісуса Хрыста, з расказаньня Бога, Спаса нашага, а Спадара Ісуса Хрыста, надзеі нашае, 2 Цімоху, праўдзіваму сыну ў веры: ласка, міласэрдзе, супакой ад Бога, Айца нашага, а Хрыста Ісуса, Спадара нашага.

3 Як я прасіў цябе застацца ў Ефэсе, як я адходзіў да Македоні, каб ты расказаў некатрым ня вучыць накш 4 Ані зварачаць увагі да байкаў а бясконцых радаводаў, каторыя больш прыводзяць да сьпрэчак, чымся да Божага збудаваньня, каторае ў веры.

5 Мэтаю ж загады ё міласьць із чыстага сэрца а з добрага сумленьня а зь нядвудушнае веры, 6 Ад чаго некатрыя, ня лýчыўшы, адхінуліся да пустое гаворкі, 7 Зычачы быць вучыцелямі Закону, не разумеючы ані тога, што гýкаюць, ані тога, што моцна цьвердзяць.

8 Мы ж ведаем, што Закон добры, калі хто праўна ўжывае яго, 9 Ведаючы тое, што Закон не тарнуюць да справядлівага, але да бяспраўнікаў а нясуворных, да бязбожных а грэшных, да несьвятых а будзенячых, да ўбіўцаў айцоў а маткаў а людаўбіўцаў, 10 Да бязуляў, садомнікаў, людакрадаў, манюкаў, хвальшыва прысягаючых і да ўсяго, праціўнага здаровай навуццы, 11 Подле Дабравесьці славы дабраславёнага Бога, каторая імне даверана.

12 Дзякую Хрысту Ісусу, Спадару нашаму, Каторы даў імне сілу, што прызнаў мяне за вернага, прызначыўшы на службу, 13 Мяне, каторы быў уперад блявузґаньнікам а перасьледаваньнікам а шкоднікам, але адзяржаў міласэрдзе, бо дзеяў зь нéведзі, у няверы; 14 Але ласка Спадара нашага надзвычайна збыткавала зь вераю а міласьцяй, каторыя ў Хрысту Ісусу.

15 Вернае слова і годнае ўсялякага прыйма, што Хрыстос Ісус прышоў на сьвет спасьці грэшнікаў, з каторых я першы. 16 Але дзеля тога я прыдбаў міласэрдзе, каб у імне першым паказаў Ісус Хрыстос усю цярплівосьць да прыкладу тым, што ўверацьу Яго да жыцьця вечнага. 17 Каралю ж вякоў, нерасклададьнаму, нявідомаму, адзінаму Богу чэсьць а хвала на векі вякоў. Амін.

18 Гэтую загаду даю табе, дзяцё Цімоша, згодна з былымі праз прароцтвамі, каб ты ваяваў згодна зь імі добрую вайну, 19 Маючы веру й добрае сумленьне, каторае некатрыя адхінуўшы, мелі разьбіцьцё карабля веры свае; 20 Меж іх Гімен а Аляксандра, каторых я выдаў шайтану, каб навучыліся не блявузґаць.

2 Дык наўперд дамяняю чыніць просьбы, малітвы, прычыны, падзякі за ўсіх людзёў, 2 За каралёў і за ўсіх, што займаюць высокія становішчы, каб мы ціхое а супакойнае жыцьцё вялі ў кажнай набожнасьці і ўрочыстасьці; 3 Бо гэта добра а прыемна Спасу нашаму Богу, 4 Каторы зыча, каб усі людзі спасьліся й дасяглі пазнаньня праўды. 5 Бо адзін Бог, і пасярэднік памеж Бога й людзёў адзін, чалавек Ісус Хрыстос, 6 Каторы даў Сябе на адкупленьне за ўсіх, праз што сьветчана ўпару, 7 Да чога я

быў прызначаны за агалашэньніка а апостала (я кажу праўду, не маню) а вучыцеля народаў у веры а праўдзе.

8 Дык я хачу, каб мужы на кожным месцу маліліся, узьнімаючы пасьвячаныя рукі бяз гневу й сумлеву.

9 Падобна, каб жанкі, у прыходнай адзежы, сьціпла й разумна, прыбіраліся не пляценьням а золатам або пэрламі, або дарагімі ўборамі, 10 Але добрымі ўчынкамі, што ўходзе жанкам, боязьнь Божую вызнаючым.

11 Няхай жонка вучыцца моўчыкам з усім паданьням; 12 Але я не дазваляю, каб жонка вучыла й мела ўладу над мужам, але хай застаецца ў маўчаньню. 13 Бо Адам быў ухормаваны першы, а потым Ева; 14 І не Адам быў ашуканы, але жонка, будучы ашуканай, стала выступніцаю; 15 Яна, адылі, будзе ўратавана раджэньням дзяцей, калі будзе трываць у веры а ў міласьці а ў сьвятасьці з розумам.

**3** Вернае слова: калі хто імкнецца мець нагляд, добрае працы зыча. 2 Але нагляднік (япіскап) мае быць беззаганны, муж аднае жонкі, цьвярозы, разумны, прыходны, гасьцінны, здольны вучыць, 3 Ня п'яніца, ня бітун, але лагодны, несьпярэчлівы, не прагавіты, 4 Што добра радзе дамову сваю, мае дзеці свае ў паслухменстве з усёй пасьцівасьцяй; 5 Бо хто ня знае як радзіць дамову сваю, як ён можа апекавацца царквою Божай? 6 Ня мае быць нова-наверненны, каб, будучы пыхаты, ня ўпаў у віну дзявальскую. 7 Але надабе, каб празь яго таксама добра сьветчылі звонку, каб ня ўпаў пад упікі і ў пастку дзявальскую.

8 Дзяканы маюць таксама быць зважныя, ня двуслоўныя,не адданыя шмат віну, ня шукаючыя несправядлівае карысьці, 9 Дзержачыя тайну веры з чыстым сумленьням. 10 Хай яны таксама спачатку будуць выпрабаваныя; тады, будучы беззаганнымі, няхай служаць.

11 Жонкі таксама хай будуць зважныя, не абмоўцы, цьвярозыя, у вусім верныя.

12 Дзяканы хай будуць мужы аднае жонкі, каторыя добра кіравалі б дзеці свае й дом свой; 13 Бо тыя, што добра служылі б, адзяржаць сабе добрае становішча і вялікую адвагу ў веры, каторая ў Хрысту Ісусу.

14 Гэта пішу табе, спадзяючыся неўзабаве прыйсьці да цябе, 15 Але, калі забаўлюся, каб ты ведаў, як маеш паступаць у доме Божым, каторы ё Царква Бога Жывога, стоўп а под праўды. 16 І яўна вялікая тайна набожнасьці: Бог зьявіўся ў целе, аправіўся ў Духу, быў бачаны ангіламі, абяшчаны ў народах, уверылі ў Яго на сьвеце, узяты ў гарыню ў славе.

**4** Дух жа вырáзьліва кажа, што ў вапошнія дні адступяць некатрыя ад гэтае веры, зважаючы на ашукных духоў і навукі дзявальскія, 2 У двудушнасьці ману гýкаючых, із спаленым сумленьням сваім, 3 Што бароняць жаніцца, раскзуюць узьдзержавацца ад ежы, каторую Бог стварыў, каб верныя й пазнальыя праўду прыймалі з падзякаю. 4 Бо кажнае стварэньне Божае добрае, і нішто ня мае быць адхінена, будучы прыймана з падзякаю, 5 Бо пасьвячаецца словам Божым і маленьням.

6 Пакладаючы гэта перад братамі, будзеш добры слугачы Хрыста Ісуса, гадавáны словамі веры і добрай навукаю, за каторай ты пайшоў. 7 Сьвецкіх жа а старых бабаў байкаў чурайся, але ўкладайся ў набожнасьці. 8 Бо цялеснае ўкладаньне мала карыснае, але набожнае карыснае да ўсёга, маючы абятніцу жыцьця цяперашняга й прыйдучага. 9 Слова гэтае вернае й кажнага прыйма годнае. 10 Бо мы дзеля таго гарапашнічаем а труднімся, што спадзяемся на Бога жывога, Каторы ё Спас усіх людзёў, асабліва ж вернікаў.



11 Загадуй гэта й вучы. 12 Ніхто няхай ня мае ўлегцы маладосьці твае, але будзь зразаю вернікам у слове, у паступку, у міласьці, у веры, у чысьціні. 13 Пакуль ня прыйду, зважай на чытаньне, навучаньне, вучэньне. 14 Не занедбавай дару ў сабе, данага табе подле прароцтва з ускладам рук старшых. 15 Праз гэта рупся, будзь увесь у гэтым, каб дасьпех твой быў відавочны ўсім. 16 Глядзі самога сябе й навучаньня, трывай у гэтым, бо, так робячы, спасеш самога сябе і тых, што слухаюць цябе.

**5** Ня гань старога, але навучай, як айца; маладых, як братоў; 2 Старыя жанкі, як маткі; маладыя, як сёстры, з усёй чысьцінёю.

3 Удовы паважай, запраўдныя ўдовы. 4 Калі ж якая ўдава мае дзеці альбо ўнукаў, дык хай яны перш вучацца паказаць набожнасьць сваю да радзімы свае і адплачаваць бацьком, бо гэта прыемна Богу.

5 Запраўдная ўдава і адзінотная спадзяецца на Бога і трывае ў маленьнях а малітвах ноч і дзень; 6 Але каторая жывець патураючы самой сабе, тая жывая памерла.

7 І гэта загадуй ім, каб былí беззаганныя. 8 Калі ж хто праз сваіх собскіх і асабліва праз хатніх ня рупіцца, тый выперся веры і горшы за нявэрніка.

9 Удава мае быць запісаваная да сьпісаньня ня меней, як шасьцьдзесятгодняя, каторая былá жонкаю аднаго мужа, 10 Маючая сьветчаньне праз добрыя ўчынкі, калі выгадавала дзеці, калі частавала падарожных, калі ўмывала ногі сьвятым, калі памагала гаротным, калі ўлягала ў кажную добрую справу.

11 Малодшым жа ўдовам адмаўляй, бо калі яны стануць жáдлівыя напярэк Хрыста, хочуць выходзіць замуж, 12 І гэтак падпадалі б пад засуджэньне, бо ўзрушылі б першую веру. 13 Ды ў тым самым часе яны вучацца быць дзяньгубнымі, ходзячы ад дому да дому; ды ня толькі дзяньгубнымі, але й брахлівымі, мяшаюцца ў чужыя справы, гýкаючы няпрыходнае.

14 Дык я хачу, каб малодшыя выходзілі замуж, радзілі дзеці, кіравалі дом, не давалі праціўніку прыклепу да абмовы. 15 Бо некатрыя ўжо абярнуліся за шайтаном. 16 Калі які вернік альбо верніца мае ўдовы, няхай памагае ім, а не цяжарыць царквы, каб яна магла памагаць удовам запраўдным.

17 Старшыя, што кіруюць добра, няхай будуць уважаны за годных падвойнай сьці, асабліва працуючыя ў слове а навуццы. 18 Бо Пісьмо кажа: „Ня кілзай вала малоцячага"; і: „Працавень годны заплаты свае".

19 На старшых ня прыймай вінаваньня, хіба з дзьвюма альбо трыма сьветкамі. 20 Тых, што грэшаць, вінуй перад усімі, каб і засталыя страх мелі.

21 Асьвятчаю перад Богам а Хрыстом Ісусам а абранымі ангіламі, каб ты дзяржаў гэта без засуджэньня наперад, нічога ня робячы з прыхіннасьці.

22 Не сьпяшайся на нікога ўскладаць рук і ня будзь учасьнікам у грахох іншых. Захавай сябе чыстага.

23 Наперад пі не адну ваду, але ўжывай троху віна дзеля трыбуха свайго і частых няўздоленьняў сваіх.

24 Грахі некатрых людзёў яўныя, вядучы да суду, а грахі іншых ідуць

за імі. 25 Аднолькава й добрыя
ўчынкі яўныя, а калі не таковыя,
ня могуць быць схаваныя.
6 Усі тыя нявольнікі, што пад
ігом, няхай уважаюць гаспада-
роў сваіх за годных усялякае сьці,
каб імя Божае і навука ня былі бля-
вузґаны. 2 Тыя ж, што маюць гас-
падароў-вернікаў, хай ня маюць іх
улегцы, затым што яны браты, але
тым балей няхай служаць ім із пад-
даньням, бо верныя й мілавáныя
тыя, што карыстаюць із добрае
службы іхнае. Гэтага вучы й захо-
чуй. 3 Калі хто вуча накш і не зга-
джаецца із здаровымі словамі Спа-
дара нашага Ісуса Хрыста і наву-
каю ўзглядам набожнасьці, 4 Тый
пыхаты, нічога ня цяме, хворы на
супарства а сьпярэчкі праз словы,
з каторых паўстаюць зáвідасьць, ня-
згоды, блявузґаньне, благія пада-
зрэньні, 5 Штачасныя сваркі людзёў
папсаванага розуму і спабытае праў-
ды, каторыя думаюць, што набож-
насьць ё дзеля прыбытку.
6 Вялікае прыдбаньне набож-
насьць із здаволеньням. 7 Бо мы
нічога ня прынéсьлі на сьвет; ясна,
што нічога ня можам і вынесьці.
8 Але, маючы еміну й адзежу, бу-
дзем здаволіўшыся з гэтага. 9 А зы-
чачыя багацець упадаюць у спаку-
су а пасадку і ў шмат неразумных
а шкодных жаданьняў, каторыя то-
пяць людзёў у загубу а разьвяр-
неньне; 10 Бо карэнь усяго ліха
ё любосьць грошы, за каторымі го-
нячыся, некатрыя адышлі ад гэтае
веры і працялі самы сябе шмат які-
мі болямі.
11 Але ты, о чалавеча Божы, уця-
кай ад гэтага і ганіся за справядлі-
васьцяй, набожнасьцяй, вераю, мі-
ласьцяй, цярплівосьцяй, лагоднась-
цяй; 12 Змагайся добрым змагань-
ням веры, ухапіся за вечнае жыць-
цё, да каторага ты пагукáны і вы-
знаў добрае вызнаньне перад шмат
сьветкамі.
13 Перад Богам, што даець жыць-
цё ўсім, і перад Хрыстом Ісусам,
Каторы асьветчыў перад Понтам Пі-
латам добрае вызнаньне, 14 Раска-
зую табе зьдзяржаць расказаньне
беззаганна, бязупічна аж да зьяў-
леньня Спадара нашага Ісуса Хры-
ста, 15 Каторае ўпару пакажа даб-
раславёны й адзіны Гаспадар Ка-
роль каралёў і Спадар спадароў,
16 Адзіны, Каторы мае бясьсьмерце,
жыхара ў непрыступной сьвятліні,
Каторага ніякая людзіна ня бачыла
ані можа бачыць, Катораму чэсьць
і вечная ўлада. Амін.
17 Расказуй багатым цяперашня-
га веку, каб яны ня былі пыхатыя
ані здаваліся на няпэўнае багаць-
це, але на Бога, Каторы даець нам
шчодра ўсяго на любату, 18 Рабіць
дабро, быць багатым добрымі ўчын-
камі, быць шчодрымі а ўдзельлівы-
мі, 19 Кладучы сабе добры под пад
будучыню, каб ухапіцца за жыцьцё
запраўднае.
20 О Цімоша, сьцеражы давера-
нае, адварачайся ад сьвецкае пустое
чаўпні і перачэньняў, хвальшыва
менаваных ведаю, 21 Каторую не-
катрыя вызнаючы, адхінуліся ад ве-
ры. Ласка з табою.

## ДРУГІ ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА ЦІМОХА

1 Паўла, з волі Божае апостал
Ісуса Хрыста, подле абятніцы
жыцьця ў Хрысту Ісусу, 2 Цімоху,
любоваму дзяцяці: ласка, міласэр-
дзе, супакой ад Бога Айца а Хрыста
Ісуса, Спадара нашага.
3 Дзякую Богу, Катораму служу
ад прабацькоў з чыстым сумлень-



ням, як штачасна ўспамінаю цябе
ў маленьнях сваіх ноч і дзень, 4 Жа-
даю бачыць цябе, успамінаючы
сьлёзы твае, каб імне напоўніцца
радасьцяй, 5 Успамінаючы шчырую
веру тваю, што былá ўперад у ба-
булі тваёй Лоідзе і ў матцы тваёй
Еўніццы, і я пераканаўшыся, што
і ў табе.
6 З гэтае прычыны дамяняю табе
разьдзьмухаваць поламя дару Божа-
га, каторы ў табе праз узлажэньне
рук маіх; 7 Бо даў нам Бог духа ня
боязьні, але магутнасьці а міласьці
а самавалоданьня. 8 Дык не саром-
ся сьветчаньня Спадара нашага ані
мяне, вязьня Ягонага; але цярпі
з Дабравесьцяй подле магутна-
сьці Божае, 9 Каторы спас нас
і пагукáў нас сьвятым пагукáньням
ня подле ўчынкаў нашых, але по-
дле собскага замéру Свайго і ласкі,
данае нам у Хрысту Ісусу перад
вечнымі часамі, 10 А выяўленае ця-
пер зьяўленьням Спаса нашага Ісу-
са Хрыста, Каторы памярцьвіў
сьмерць і вынес на сьвятліню жыць-
цё і нераскладальнасьць праз Еван-
гелю, 11 Да каторае я прызначаны
за агалашэньніка а апостала а ву-
чыцеля народаў.
12 З гэтае прычыны я й цярплю
гэта; але не саромлюся. Бо я ведаю,
у каго я ўверыў, і я пераканаўшы-
ся, што Ён дуж захаваць задатак
мой аж да тога дня.
13 Моцна дзяржыся зразы здаро-
вых слоў, што ты чуў ад мяне ў ве-
ры а міласьці, каторыя ў Хрысту
Ісусу. 14 Сьцеражы добры задатак,
давераны Духам Сьвятым, Каторы
жыхара ў нас.
15 Ты ведаеш, што адвярнуліся ад
мяне ўсі аскія, з каторых Фіґель а
Гэрмаґен. 16 Няхай Спадар зьмілу-
ецца над домам Анісіфаровым, бо
ён часта чырсьцьвіў мяне і не саро-
міўся зялезаў маіх, 17 Але, прыбыў-
шы да Рыму, рупна шукаў мяне
і знайшоў. 18 Хай дасьць яму Спа-
дар знайсьці міласэрдзе ў Спадара
таго дня; а колькі ён служыў у Эфе-
се, ты вельма добра ведаеш.
2 Дык, дзяцё мае, мацуйся ў лас-
цы, каторая ў Хрысту Ісусу; 2 І
што чуў ад мяне ў прытомнасьці
шмат сьветак, давер верным людзём,
каторыя былі б здольныя і іншых
навучаць.
3 Цярпі болі, як добры жаўнер
Ісуса Хрыста. 4 Ніякі жаўнер не
мяшаецца ў справы жыцьця, каб
угадзіць таму, хто запісаў яго за
жаўнера. 5 І калі хто дужаецца,
яму не даюць вянка, калі ня ду-
жаецца праўна. 6 Ралейніку, каторы
працуе, належыцца першаму пас-
пытацца пладоў.
7 Скумай тое, што я кажу, бо
Спадар дасьць табе зразуменьне ўся-
го.
8 Пáмятуй Ісуса Хрыста з насень-
ня Давідавага, ускрэслага зь мер-
твых подле мае Дабравесьці, 9 У
каторай я цярплю аж да путаў, як
ліхадзей, але Слова Божае ня спу-
танае. 10 Затым я ўсе цярплю дзеля
абраных, каб і яны маглі адзяр-
жаць спáсеньне ў Ісусу Хрысту зь
вечнай славаю.
11 Слова вернае, бо калі мы па-
мерлі разам із Ім, дык будзем так-
сама жыць разам; 12 Калі церпім,
будзем таксама караляваць разам;
калі выпераемся, Ён таксама вып-
рацца нас; 13 Калі мы няверныя,
Ён застаецца верны, бо Ён ня можа
выперціся Самога Сябе.
14 Дамяняй ім гэта, сьветчачы
ўрочыста перад Спадаром, каб не
сьперачаліся за словы, што беска-
рыснае, але адно да бурáньня слу-
хачых. 15 Сілуйся ,каб стаць да Бо-
га ўзумелым работнікам, што ня мае
за што сароміцца, рэжучы проста
слова праўды. 16 А сьцеражыся
сьвецкае пустое чаўпні, бо яна па-
вядзець да большае нязбожнасьці,

17 І слова іхнае, як ґанґрэна, будзе
мецъ пажыву. Зь іх ё Гімен а Філіт,
18 Што зблудзілі з дарогі праў-
ды, кажучы, што ўскрысеньне ўжо
сталася, і яны пераварачаюць веру
некатрых.

19 Цьвярды, адылі́, под Божы
стаіць, маючы гэтую пячаць: „Спа-
дар знае Сваіх"; і: „Кажны, што
мянуе імя Спадарова, няхай ады-
ходзе ад бяспраўя".

20 Але ў вялікім доме ё ня толькі
залатое а срэбнае судзьдзё, але так-
сама дзярвянае а глінянае, некат-
рыя да сьці, а некатрыя да несьці.
21 Дык, калі хто ачысьціцца ад гэ-
тых, будзе судзіною да сьці, пасьвя-
чаны, карысны Гаспадару, прыга-
таваны да кажнага добрага ўчынку.

22 Але ад маладзёнскіх жа́длі-
васьцяў уцякай, а імкніся да спра-
вядлівасьці, веры, міласьці, супакою
з тымі, што гука́юць Спадара з чыс-
тага сэрца. 23 Ад дурных а нена-
вуковых сьпярэчак адмаўляйся, ве-
даючы, што ад іх родзяцца ва́ды;
24 Нявольнік Спадароў ня мае ва́-
дзіцца, але быць лагодным да ўсіх,
умелым вучыць, выбачным, 25 Ла-
годна навучаючы спраціўнікаў, ці
ня дасьць ім Бог ка́яты да пазнань-
ня праўды, 26 Каб яны вывальні-
ліся ад сіла́ дзявальскага, што ўха-
піў іх у сваю волю.

3 А ведай, што ў вапошнія дні
настануць часы цяжкія. 2 Бо
людзі будуць самалюбы, грашалю-
бы, хвалькі, пышкі, блявузґаньнікі,
непаслухменыя бацьком, няўдзяч-
ныя, несьвятыя, 3 Бяз прыродных
нахінаў, няўмольныя, абмоўцы, няў-
зьдзержлівыя, неміласьці́ўныя, ня
любячыя дабра, 4 Зраднікі, надбай-
лывыя, надзьмутыя, любячыя балей
прыемнасьці, чымся любячыя Бога,
5 Што маюць хормы набожнасьці,
але адракліся сілы яе. Адварачайся
ад іх.

6 Бо з гэтых тыя, што лісьлі́-
васьцяй улазяць да дамоў і зводзяць
недасьціпныя жанкі, ацяжараныя,
грахамі, воджаныя рознымі жа́длі-
васьцямі, 7 Што заўсёды вучацца
і ніколі ня могуць дайсьці да супоў-
нага пазнаньня праўды.

8 Вось жа, як Янн а Ямра пра-
цівіліся Масею, так і гэтыя праці-
вяцца праўдзе, людзі папсаванага
розуму, распусныя ўзглядам веры.
9 Але яны далёка не пасунуцца на-
перад, бо дурнота іхная выявіцца
ўсім, як гэта сталася і з гэнымі.

10 Але ты дакладна пайшоў за
імною навукаю, паступкам, задань-
ням, вераю, цярплівосьцяй, мілась-
цяй, трывалкосьцяй, 11 Перасьле-
дава́ньнямі, цярпеньнямі, што стрэ-
ліся імне ўв Антыёсе, Іконі, Лістрах,
таковыя перасьледава́ньні я пера-
трываў, і з каторых усіх Спадар вы-
бавіў мяне.

12 І запраўды ўсі, што зычаць
набожна жыць у Хрысту Ісусу, бу-
дуць перасьледава́ны. 13 А нягоднікі
а ашуканцы будуць мецъ дасьпех
у ліху, ашукуючыя й ашукаваныя.

14 А ты трывай у тым, чаго на-
вучыўся, і ў чым ты пэўны, веда-
ючы, у каго ты навучыўся, 15 І што
з маленства ты знаеш Сьвятыя
Пісьмы, каторыя могуць цябе ўчы-
ніць мудрым да спа́сеньня вераю
ў Хрыста Ісуса. 16 Кажнае Пісьмо
натханае Богам і карыснае да ву-
чэньня, да вінаваньня, да паправы,
да навучаньня ў справядлівасьці,
17 Каб людзіна Божая была́ даска-
нальная, супоўна прыгатаваўшыся
да кажнага добрага ўчынку.

4 Урочыста паручаю табе перад
Богам а Хрыстом Ісусам, Като-
ры будзе судзіць жывых і мертвых
у зьяўленьню Сваім і ў гаспадарстве
Сваім: 2 Агалашай слова, будзь
упорысты ўпару і вонках пары, ві-
нуй, гань, захочуй із ўсёй цярплі-
восьцяй і навукаю.

3 Бо прыйдзе час, калі здаровае



навукі ня сьцерпяць, але подле
собскіх жадаў сваіх, маючы сьвяр-
бячыя вушы, будуць набіраць сабе
вучыцеляў; 4 І адвернуць вушы
свае ад праўды, і зьвернуцца да
байкаў.

5 Але ты будзь цьвярозы ў вусім,
цярпі атýгі, рабі работу евангеліста-
га, паўні службу сваю.

6 Бо я ўжо выліваны, і пара ад-
ходу майго настала. 7 Я бег у доб-
рых выперадках, бег скончыў, ве-
ру захаваў. 8 Адгэтуль карона спра-
вядлівасьці адкладзена імне, като-
рую дасьць імне Спадар, справядлі-
вы Судзьдзя, таго дня; і не адно
імне, але таксама ўсім, што ўлюбілі
зьяўленьне Яго.

9 Сьпяшайся прыйсьці да мяне
ўборзьдзе. 10 Бо Дзімас пакінуў мя-
не, палюбіўшы цяперашні век, і пай-
шоў да Салуня, Крыськент да Ґа-
ляты, Ціт да Далматы; 11 Адзін
Лука з імною. Марку вазьмі й пры-
вядзі із сабою, бо ён імне патрэбны
да службы. 12 А Тыхіка я паслаў
да Ефэсу.

13 Як пойдзеш, прынясі ахілім,
каторы я пакінуў у Троадзе ў Кар-
пы, і зьвіткі, асабліва скураныя.

14 Аляксандра катляр шмат ліха
ўчыніў імне. Няхай яму Спадар ад-
плаце подле ўчынкаў ягоных. 15
Сьцеражыся яго й ты, бо ён вельма
праціўіўся словам нашым.

16 У часе першае абароны мае
нікога ня было з імною, але ўсі
мяне пакінулі. Няхай ім не залічыц-
ца гэта! 17 Але Спадар стаяў ля
мяне і даў імне змогу, каб перазь
мяне агалашэньне было поўна зро-
блена, і ўсі народы пачулі; і я быў
вывальнены зь лявінае ляпы. 18
Выбаве мяне Спадар ад кажнага
нягоднага ўчынку і захавае мяне да
нябёснага гаспадарства Свайго. Яму
слава на векі вякоў. Амін.

19 Паздаровай Прыску а Аквілу
і дом Анісіфараў. 20 Ераст застаўся
ў Корынце, а Трахіма я пакінуў у
Мілеце хворага.

21 Пабарзьдзі прыйсьці да зімы.
Здароваюць цябе Еўвул а Пуд а
Лін а Кляўда а ўсі браты.

22 Спадар Ісус Хрыстос із духам
тваім. Ласка з вамі. Амін.

## ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА ЦІТА

1 Паўла, нявольнік Божы й апо-
стал Ісуса Хрыста, подле веры
абраных Божых і супоўнага знаць-
ця праўды, каторая подле набож-
насьці, 2 У надзеі жыцьця вечнага,
Каторае Бог, што ня можа маніць,
абяцаў перад вякамі часу, 3 А ў
сваім часе зьявіў Слова Свае ў ва-
галашэньню, каторае даверана імне
подле расказаньня Спаса нашага
Бога, 4 Ціту, праўдзіваму дзяцяці
подле супольнае веры: ласка а су-
пакой ад Бога Айца а Хрыста Ісуса,
Спаса нашага.

5 Дзеля таго я пакінуў цябе ў
Крыце, каб ты мог балей упарад-
каваць, што засталося неўпарадка-
ванае, і прызначыў старшых у каж-
ным месьце, як я расказаў табе:
6 Калі хто беззаганны, муж аднае
жонкі, мае дзеці верныя, не вінава-
ныя ў бязулстве або ў непакоры.
7 Бо нагляднік мае быць беззаган-
ны, як вернік Божы, не самадыйны,
не гняўлівы, не адданы віну, ня бі-
тун, не прагавіты на несправядлівыя
прыбыткі, 8 Але гасьцінны, любячы
дабро, разумны, справядлівы, сьвя-
ты, уздзержлівы, 9 Каторы дзяр-
жыцца вернага слова, як быў на́уча-
ны, каб быў дуж захочаваць а на-
вучаць здарова, пераконаваць пра-
ціўнікаў.

10 Бо ё шмат і непакорных, пу-

стамлёнаў і ашуканцаў, асабліва з абразаньня, 11 Каторым надабе зачыніць рот, каторыя пераварачаюць цэлыя дамы, вучачы рэчаў дзеля нягоднага прыбытку, каторых ня надабе вучыць. 12 Адзін із іх, собскі прарока іхны, сказаў: „Крытанцы заўсёды манюкі, благія дзікія зьвяры, жарлівыя, ляныя".

13 Сьветчаньне гэта праўдзівае, затым гань іх стродка, каб яны былі здаровыя ў веры, 14 Не ўважалі на жыдоўскія байкі і расказаньні людзёў, што перакручуюць праўду. 15 Усе чыстае чыстым; а забрудзяненым а няверным нічога няма чыстага, але розум і сумленьне іхнае забрудзяненыя. 16 Яны вызнаюць, што знаюць Бога, але ўчынкамі выпіраюцца, будучы гідкія а непаслухменыя а няздольныя да ніякага дабрага ўчынку.

2 А ты кажы тое, што годзіцца да здаровае навукі:

2 Каб старыя былі цьвярозыя, зважныя, разумныя, здаровыя ў веры, у міласьці, у вытрываласьці;

3 Каб старыя жанкі таксама былі набожнага паступку, не абмоўцы або не падняволеныя шмат якому віну, вучыцелкі дабра; 4 Каб маглі вучыць маладзіцы любіць мужоў сваіх і дзеці свае, 5 Быць разумнымі, чыстымі, хатнімі работніцамі, добрымі, пакорнымі сваім собскім мужом, каб Слова Божае ня было блявузгана.

6 Таксама захочуй маладзёнаў быць разумнымі. 7 У вусім паказуй самога сябе зразаю добрых учынкаў, у навуцы чысьціню, зважнасьць, непапсавальнасьць, 8 Слова здаровае, бязупічнае, каб праціўнік быў засаромлены, ня маючы нічога сказаць праз нас благога.

9 Нявольнікі маюць быць падданымі гаспадаром сваім у вусім, добра гадзіць, не перачыць, 10 Не сабечыць, але ў вусім выказаваць добрую вернасьць, каб яны ў вусім прыбіралі навуку Спаса нашага Бога.

11 Бо зьявілася ласка Божая, што спасае ўсіх людзёў, 12 Што вуча нас, каб мы, адрокшыся нязбожнасьці і сьвецкіх жа́длівасьцяў, жылі разумна а справядліва а набожна ў цяперашнім веку, 13 Чакаючы дабраславёнае надзеі і зьяўленьня славы вялікага Бога і Спаса Ісуса Хрыста, 14 Каторы даў Сябе за нас, каб выкупіць нас ад усяго бясправўя і ачысьціць Сабе люд собскі, рупатлівы да добрых учынкаў.

15 Гэта кажы і захочуй і гань з усёй уладаю. Няхай ніхто ня мае цябе ўлегцы.

3 Дамяняй ім, каб былі падданыя начэльнікам а ўладзе, каб былі паслухменыя, гатовыя да кажнага добрага ўчынку, 2 На нікога не вярнулі, ня былі звадлівыя, былі рахманыя, выказуючы ўсялякую лагоднасьць да ўсіх людзёў. 3 Бо й мы былі калісь неразумныя, непаслухменыя, зьведзеныя, служачыя жадлівасьцям і розным прыемнасьцям, жывучы ў злосьці а за́відасьці, ненавіджаныя, ненавідзячыя адны адных.

4 Але як зьявілася добрасьць а любосьць да людзёў Спаса нашага, Бога, 5 Ён спас нас ня з учынкаў справядлівасьці, учыненых намі, але подле міласэрдзя Свайго абмыцьцём адраджэньня й аднаўленьня Духам Сьвятым, 6 Каторага выліў на нас багата перазь Ісуса Хрыста, Спаса нашага, 7 Каб, будучы апраўленыя ласкаю, мы сталі спадкаемцамі подле надзеі вечнага жыцьця.

8 Слова гэта вернае, і я зычу, каб ты ў гэтым быў упорысты, каб тыя, што ўверылі ў Бога, рупіліся быць улеглівымі ў добрыя ўчынкі. Гэта добра й карысна людзём.

9 Дурных жа пытаньняў а радаводаў а сьпярэчак а звадаў праз Закон сьцеражыся, бо яны бескарысныя й пустыя. 10 Ад гэрэтыка, па першым і другім дамяненьню, здаляйся, 11 Ведаючы, што такі папсаваўшыся й грэша, будучы сам сабою засуджаны.



12 Як прышлю да цябе Арцёма альбо Тыхіка, пабарзьдзі прыйсьці да мяне да Нікаполю, бо я пастанавіў зімаваць там. 13 Зіну праўніка а Аполоса парупся выправіць так, каб у іх ні ў чым ня было нястачы. 14 Хай і нашы вучацца займацца добрымі справамі дзеля канечных патрэбаў, каб ня былі бясплодныя.

15 Усі, што з імною, здароваюць цябе. Паздаровай тых, што любяць нас у веры. Ласка з усімі вамі.

## ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА ХІЛІМОНА

1 Паўла, вязень Хрыста Ісуса, а Цімох брат, Хілімону любоваму й супрацаўню нашаму 2 А сястры Апфе а Архіпу, сябру-жаўнеру нашаму, а царкве, што ў доме ягоным: 3 Ласка вам а супакой ад Бога, Айца нашага, а Спадара Ісуса Хыста.

4 Дзякую Богу свайму, заўсёды мянуючы цябе ў малітвах сваіх, 5 Чуючы празь міласьць а веру тваю, каторую маеш да Спадара Ісуса і да ўсіх сьвятых, 6 Каб учасьце твае ў веры папрыяла ў супоўным пазнаньню кажнага добрага, каторае ёсьць у нас узглядам Хрыста. 7 Бо мы маем вялікую радасьць а пацеху зь міласьці твае, бо табою, браце, пасілена сэрца сьвятых.

8 Затым, маючы вялікую ўдвагу ў Хрысту адвагу расказаваць табе, што належыцца, 9 Зь міласьці я валей дужа прашу, будучы такі, як Паўла, стары, а цяпер і вязень Ісуса Хрыста; 10 Дужа прашу цябе за дзіцё мае Анісіма, каторага я радзіў у зялезах сваіх. 11 (Ён быў калісь бескарысны табе, але цяпер карысны табе й імне),

12 Каторага я паслаў назад да цябе, ты ж прыймі яго, як мае́ сэрца. 13 Я зычыў дзяржаць яго пры сабе, каб ён мог замест цябе паслужыць імне ў зялезах дзеля Дабравесьці; 14 Але бяз згоды твае нічога не хацеў рабіць, каб добры ўчынак твой быў ня высілены, а самахвотны. 15 Бо мажа дзеля тога ён адхінуўся на час, каб ты меў яго супоўна на векі, 16 Ужо не як нявольніка, але вышэй за нявольніка, любовага брата, асабліва імне, і пагатове табе, і подле цела, і ў Спадару.

17 Дык, калі ты маеш мяне за сябру, прыймі яго, як мяне. 18 Але калі ён цябе ўкрыўдзіў у чым або што вінен, лічы гэта зь мяне. 19 Я, Паўла, напісаў собскаю рукою сваёй: я заплачу; не кажу табе, што ты запраўды сябе самога імне вінен. 20 Але, браце, я хацеў бы мець карысьць із цябе ў Спадару, пасілі сэрца мае ў Хрысту.

21 Будучы пэўны паслухменства твайго, я напісаў табе, ведаючы, што ты зробіш і болей, чымся я кажу. 22 Але заразом прыгатуй імне гасподу, бо я спадзяюся, што праз малітвы вашы буду вам даны.

23 Здаровае цябе Епафра, сувязень мой у Хрысту Ісусу, 24 Марка, Арыстарх, Дзімас, Лука, супрацаўні мае.

25 Ласка Спадара нашага Ісуса Хрыста будзь із духам тваім.

## ЛІСТ СЬВЯТОГА ПАЎЛЫ АПОСТАЛА ДА ЖЫДОЎ

1 Бог, што шмат разоў і ўсялякімі спосабамі гу́каў здаўна́ айцом прарокамі, 2 Апошнімі гэтымі днямі Сынам, Каторага ўстанавіў спадкаемцам усяго, пераз Каторага запраўды й вякі ўчыніў, 3 Каторы, будучы зьзяньням славы Ягонае і дакладным выразам істасьці Ягонае і дзержачы ўсе словам магутнасьці Свае, учыніў Сабою ачышчэньне грахоў, сеў па правіцы Вялікасьці на вышынях,

4 Стаўшы толькі пераходзячым ангілаў, колькі вышшае за іх спала Яму імя. 5 Бо катораму з ангілаў сказаў калі: „Ты Сын Мой, гэтага дня Я нарадзіў Цябе"? і ўзноў: „Я буду Яму Айцом, а Ён будзе Імне Сынам"? 6 І, як узноў уводзе Першароднага на зямлю, кажа: „І няхай паклоняцца Яму ўсі ангілы Божыя". 7 А ўзглядам ангілаў кажа: „Каторы чыне ангілаў Сваіх духамі і слугачых Сваіх палаючым агнём". 8 Але ўзглядам Сына: „Пасад Твой, Божа, на векі вякоў, і ськівэтра справядлівасьці ё ськівэтра гаспадарства Твайго. 9 Ты ўлюбіў справядлівасьць і зьненавідзіў бясправўе; затым памазаў Цябе, Божа, Бог Твой алеям весялосьці над сяброў Тваіх".

10 І: „На пачатку Ты, Спада́ру, заклаў зямлю, і работа рук Тваіх нябёсы. 11 Яны загінуць, але Ты застаешся; і ўсі, як адзецьце, застарэюць, 12 І, як ахілім, скруціш іх, і, як адзецьце, зьменяцца; але Ты тый самы, і гады Твае ня скончацца".

13 А ўзглядам каторага з ангілаў сказаў калі: „Сядзі паправе Мяне, пакуль пакладу не́прыяцеляў Тваіх казулькаю пад ногі Твае"? 14 Ці ня ўсі яны паслугуючыя духі, пасыланыя на паслугу тым, каторым спадзець спа́сеньне?

2 Затым мы маем быць асабліва ўважлівыя да чутага, каб не пакаўзнуцца. 2 Бо калі ангіламі гу́канае слова было непахіснае, і кажны выступ а непаслухменства адзержавалі справядлівую адплату, 3 Як уцячэм, калі мы занядбаем такое вялікае спа́сеньне, каторае было прынята на пачатку, каб быць каза́ным Спадаром, нам тымі, што чулі гэта, было пацьверджана, 4 Каторае Бог пасьветчыў зна́камі а чудосамі а рознымі ўчынкамі магутнасьці а разьдзяленьням Духа Сьвятога подле волі Свае?

5 Бо ня ангілам Ён паддаў прыйдучы сьвет, праз каторы мы гу́каем; 6 Але хтось пасьветчыў нейдзе, кажучы: „Што ё чалавек, што Ты яго па́мятуеш? альбо сын людзкі, што Ты давядаешся да яго? 7 Ты яго ўчыніў троху ніжшым за ангілаў, славаю а сьцёй укаранаваў яго і пастанавіў яго над учынкамі рук Сваіх;

„Усе паддаў пад ногі ягоныя". 8 Калі ж паддаў яму ўсе, дык не пакінуў нічога не падданым яму. Цяпер жа яшчэ ня бачым, каб усе было яму паддана; 9 Але бачым, што Ісус, Каторы на малы час быў учынены ніжшым за ангілаў, за цярпеньне сьмерці быў укаранаваны славаю а сьцёю, каб з ласкі Божае паспытацца сьмерці за ўсіх. 10 Бо належыла Яму, каб Тый, Катораму ўсе і пераз Каторага ўсе, Каторы прыводзе шмат сыноў да славы, Правадыр спа́сеньня іхнага, стаў дасканальным перазь цярпеньне.

11 Бо Тый, што пасьвячае, і пасьвячаныя ўсі ад Адзінага; з гэтае прычыны Ён не сароміцца зваць іх братамі, 12 Кажучы: „Абяшчу імя Твае братом Маім, сярод царквы буду выхваляць цябе". 13 І ўзноў: „Я



буду спадзявацца на Яго". І ўзноў: „Гля, Я й дзеці, каторыя даў Імне Бог".

14 Калі ж дзеці маюць супольнасьць цела й крыві, Ён таксама падобным парадкам узяў учасьце ў тых самых, каб сьмерцяй зьнішчыць таго, што мае моц сьмерці, значыцца дзяўла, 15 І выбавіць тых, што із страху сьмерці, усе жыцьцё былі пад няволяю.

16 Бо запраўды ня прыняў ангілаў, але прыняў насеньне Абрагамова. 17 Адгэтуль Ён меў быць у вусім падобны да братоў, каб быць міласэрным і верным найвышшым сьвятаром перад Богам, дзеля ўмаленьня за грахі люду. 18 Бо, як Сам цярпеў, быўшы спакушаны, дык можа і спакушаным памагчы.

3 Дык, браты сьвятыя, учасьнікі ў нябёсным пагука́ньню, разглядайце Апостала й Найвышшага Сьвятара вызнаньня нашага, Ісуса, 2 Каторы верны Таму, хто Яго ўстанавіў, як і Масей у вусёй дамове Ягонай. 3 Бо быў уважаны за годнага тым большае славы над Масея, чым большую чэсьць мае будаўнічы чымся дом. 4 Бо кажны дом збудаваны кімсь, а Тый, хто збудаваў усе, ё Бог. 5 І Масей запраўды верны ў вусёй дамове Ягонай, як слугачы, дзеля сьветчаньня таго, што мела быць сказа́на пасьлей. 6 А Хрыстос — як Сын у дамове Сваей, Каторага дамова мы, калі давер і пахвалу надзеі моцна дадзяржым аж да канца.

7 Затым, як кажа Дух Сьвяты: „Цяпер, як пачуеце голас Ягоны, 8 Не каляньце сэрцаў сваіх, як у часе ўзбурэньня ў дзень спакушэньня на пустыні, 9 Ідзе спакушалі Мяне айцове вашы, прабуючы Мяне, і бачылі ўчынкі мае сорак год. 10 Затым Я ўгневаўся на тое пакаленьне й сказаў: ‚Яны заўсёды блудзяць сэрцам, не пазналі яны дарогаў Маіх'; 11 Затым, Я прысягнуў у гневе Сваім: ‚Хіба яны ўвыйдуць у супакой Мой?' "

12 Глядзіце, браты, каб ня было ў кім-колечы з вас нягоднага сэрца няверы, што адступала б ад Бога жывога. 13 Але захочуйце самы сябе кажнага дня, пакуль завецца „Цяпер", каб ніхто з вас не закаляпеў ашукнасьцяй грэху;

14 Бо мы сталі сябра́мі Хрыстовымі, калі запраўды пачатак пэўнасьці цьверда захаваем аж да канца, 15 Пакуль кажацца: „Цяпер, як вы пачуеце голас Ягоны, не каляньце сэрцаў сваіх, як у часе ўзбурэньня".

16 Бо хто гэта былі́, што, пачуўшы, узбурыліся? Ці ня ўсі, што вышлі зь Ягіпту з Масеям? 17 І на кога Ён гневаўся сорак год? Ці не на тых, што ізграшылі, каторых трупы палі на пустыні? 18 І каму прысягаў, што ня ўвыйдуць у супакой Ягоны, як ня тым, што былі непаслухменыя?? 19 І мы бачым, што яны не маглі ўвыйсьці з прычыны няверы.

4 Затым боймася, каб, як застаецца абятніца ўходу да супакою Ягонага, не спазьніўся ніхто з вас. 2 Бо запраўды мы мелі Евангелю, даную нам, аднолькава як яны; але не дало ім карысьці чутае, не рашчыненае вераю слухачых. 3 Бо мы, каторыя ўверылі, увыйдзем да супакою, як Ён сказаў: „Як Я прысягаў у гневе Сваім: ‚Яны ня ўвыйдуць у супакой Мой' ", хоць учынкі былі скончаны ад закладзінаў сьвету. 4 Бо нейдзе сказа́на празь сёмы гэтак: „І супачыгў Бог сёмага дня ад усіх учынкаў Сваіх". 5 І ўзноў на тым месцу: „Ня ўвыйдуць у супакой Мой?"

6 Дык бачым, што некатрым застаецца ўвыйсьці ў яго, а тыя, што першыя чулі Дабравесьць, ня ўвыйшлі з прычыны непаслухменства. 7 І зноў прызначае якісь дзень, ка-

жучы ў Давіда „Цяпер", па такім
часе, як сказана вышэй: „Цяпер, як
пачуеце голас Ягоны, не каляньце
сэрцаў сваіх".
8 Бо, калі б Ісус Нунянок даў
ім супакой, не казаў бы пасьлей
празь іншы дзень. 9 Значыцца, за-
стаецца сыбоцтва люду Божаму. 10
Бо хто ўвыйшоў у супакой Ягоны,
тый таксама супачыў ад працаў
сваіх, як Бог ад Сваіх.
11 Дык стараймася ўвыйсьці ў
тый супакой, каб ніхто ня ўпаў
подле прыкладу таго ў няслухань-
не. 12 Бо слова Божае жывое а дзею-
чае, і астрэйшае за кажны аба-
ротны меч, і праходзячае да падзелу
душы й духа, суставаў і шпіку, і
распазнаець думкі а замéры сэрца.
13 І няма стварэньня, няяўнага Яму,
але ўсе аголена а адкрыта перад
ачыма Ягонымі: Яму здамо лічбу.
14 Дык, маючы вялікага найвыш-
шага Сьвятара, што перайшоў ня-
бёсы, Ісуса, Сына Божага, дзяржы-
мася моцна вызнаньня. 15 Бо мы
маем не такога найвышшага сьвята-
ра, што ня здольны быў бы спа-
гадаць нам у няўздоленьнях на-
шых: Ён быў спакушаны ў вусім,
будучы ў нашай падобнасьці, але
бяз грэху. 16 Затым дабліжмася з
адвагаю да пасаду ласкі, каб адзяр-
жаць міласэрдзе і знайсьці ласку да
паравое помачы.
5 Бо кажнага найвышшага сьвята-
ра, зь людзёў бранага, прызнача-
юць да людзёў у справах, што на-
лежаць да Бога, каб абракаў дары
а аброкі за грахі, 2 Каторы бы мог
быць спагадлівым узглядам нясьве-
дамых а блудзячых, бо сам таксама
быў абняты няўздоленьнямі, 3 І за-
тым меў як за люд, так і за сябе
абракаць за грахі. 4 І ніхто сам
сабе гэтае сьці не бярэць, але пагу-
кáны Богам, як і Аарон.
5 Гэтак і Хрыстос ня Сам Сабе
прысабечыў славу, стаць найвыш-
шым сьвятаром, але Тый, хто ска-
заў Яму: „Ты Сын Мой, Я сядні
нарадзіў Цябе"; 6 Як і ў іншым
месцу кажа: „Ты сьвятар на векі
подле парадку Мельхісэдэкавага".
7 Ён за дзён цела Свайго зь вя-
лікім галашэньням а із сьлязьмі
аброк просьбы а маленьні могучаму
спасьці Яго ад сьмерці, і пачуты за
набожнасьць; 8 Хоць Ён Сын, адылі
цярпеньням навучыўся паслухмен-
ства; 9 І, будучы дасканальным,
стаў усім, паслухменым Яму, пры-
чынаю спáсеньня вечнага, 10 Быў-
шы менаваны ад Бога Найвышшым
Сьвятаром подле парадку Мельхісэ-
дэкавага.
11 Праз Гэтага мы мелі б шмат
казаць, але цяжка зьясьняць у мове,
бо вы сталі тупыя слухаць. 12 Бо
калі, подле часу, вы мелі б быць
вучыцелямі, вы ізноў патрабуеце
быць вучаныя першых пачаткаў
слова Божага, і сталі патрабуючымі
малака, а не цьвярдое ежы. 13 Бо
кажны, жывены малаком, ненавы-
тырыўшыся ў слове справядлівасьці,
бо ён дзецянётка; 14 Цьвярдая ж
ежа належа вырослым людзём, у ка-
торых, дзякуючы прызвычцы, чуць-
ці разьвіліся да пазнаньня і добрага
і благога.
6 Затым, пакінуўшы пачатак Сло-
ва Хрыстовага, зьвярнімася да
выросласьці, не закладаючы ізноў
поду кáяты за мертвыя ўчынкі і по-
ду ўзглядам веры ў Бога, 2 Навукі
праз хрысты а праз усклад рук а
праз ускрысеньне мертвых а праз
суд вечны. 3 І гэта зробім, калі
Бог дазволе.
4 Бо нельга — аднойчы асьвеча-
ных, каторыя, і паспыталіся дару
нябёснага, і сталі ўчасьнікамі Духа
Сьвятога, 5 І паспыталіся добрага
Слова Божага і магутнасьці буду-
чага веку, 6 І адпалі, ізноў аднаў-
ляць каятаю, калі яны ізноў кры-



жуюць у сабе Сына Божага і вы-
стаўляюць Яго на зьдзек.
7 Бо зямля, каторая п'ець дождж,
што часта зыходзе на яе, расьціць
парошчу, карысную тым, дзеля като-
рых урабляецца, прыймае дабрасла-
венства ад Бога; 8 Але даючая цер-
не а асот адхінена і блізкáя да пра-
клёну, каторага канец — спаленьне.
9 Узглядам жа вас, любовыя, мы
пэўныя лепшага і злучанага із спа-
сеньням, нават калі гýкаем гэтак.
10 Бо не несправядлівы Бог, каб
забыцца справу вашую і міласьць,
каторую вы паказалі ў імя Ягонае,
служыўшы й служачы сьвятым. 11
Зычым жа, каб кажны з вас, дзеля
супоўнае пэўнасьці надзеі, выказа-
ваў такую самую рупатлівасьць да
канца; 12 Каб вы ня былí тупыя,
але перайманьнікамі тых, што ве-
раю а цярплівосьцяй сталі спадка-
емцамі абятніцы.
13 Бо Бог, даючы абятніцу Абра-
гаму, як ня меў на нікога вялікша-
га прысягаць, прысяг на Самога Ся-
бе, 14 Кажучы: „Запраўды дабра-
славячы дабраслаўлю цябе і раз-
мнажаючы размнажý цябе". 15 Гэ-
так, цярпліва чакаючы, адзяржаў
абятніцу.
16 Бо людзі запраўды прысяга-
юць на вялікшага і гэтым пацьвер-
джаньням прысягаю канчаюць каж-
ную сьпярэчку. 17 Затым і Бог, зы-
чачы мацней паказаць спадкаемцам
абятніцы неадменнасьць пастанову
Свайга, ужыў як сяродку прысягі,
18 Каб у дзьвюх неадменных рэчах,
у каторых немагчыма Богу зманіць,
моцную пацеху мелі мы, уцеклыя
да адзяржаньня ляжачае перад намі
надзеі, 19 Каторая дзеля душы ё
быццам калатоўка бясьпечная а не-
пахісная, і ўходзе аж у нутр за за-
пону, 20 Куды, як перадходзец за
нас, увыйшоў Ісус, стаў на векі най-
вышшым сьвятаром подле парадку
Мельхісэдэкавага.
7 Бо гэты Мельхісэдэк, кароль
Саліму, сьвятар найвышшага
Бога, тый, што вышаў наўпярэймы
Абрагаму, каторы зварачаўся ад па-
разы каралёў, і дабраславіў яго, 2
Катораму Абрагам запраўды й дзя-
сятую дзель даў з усяго, каторы
найперш выкладаецца „кароль
справядлівасьці", адлі й „кароль Са-
ліму", значыцца, „кароль супакою",
3 Без айца, бяз маці, без радаводу,
ані пачатку дзён, ані канца жыцьця
ня маючы, але ўпадобнены да Сына
Божага, застаецца сьвятаром на ве-
кі.
4 Гляньце ж, які вялікі тый, ка-
тораму патрыярха Абрагам даў дзе-
сяціну з усяго здабытку. 5 І тыя
запраўды із сыноў Левавых, што
адзержуюць сьвятарства, маюць рас-
казаньне — браць з права дзесяціну
зь люду, значыцца з братоў сваіх,
хоць гэтыя пайшлі із сьцёгнаў Аб-
рагамовых. 6 Але гэны, што не па-
ходзе з роду іхнага, узяў дзесяціну
ад Абрагама і дабраславіў таго, ка-
торы меў абятніцы. 7 бязь ніякага
перачэньня меншага дабраславе
вышшы.
8 І тут, з аднаго боку, дзесяціну
адзержуюць людзі сьмяротныя; а
там, праз каторага ё сьветчаньне,
што ён жывець. 9 І, казаў тый, так-
сама Леў, што адзержуе дзесяціны,
пераз Абрагама дзесяціну даў: 10
Бо ён быў яшчэ ў сьцёгнах айца
свайго, як Мельхісэдэк пераняў яго.
11 Дык, калі б запраўды даска-
нальнасьць былá пераз сьвятарства
Левіцкае (бо зь ім зьвязáны даны
люду Закон іхны), што за патрэба
была б паўставаць іншаму сьвятару
подле парадку Мельхісэдэкавага, а
не менавацца подле парадку Ааро-
навага? 12 Бо калі мяняецца сьвя-
тарства, канечне мяняецца й Закон.
13 Бо Тый, праз Каторага кажацца
гэта, належа да іншага плямені, з
каторага ніхто ня прыступіў да

службы ля аброчніка; 14 Бо яўна,
што Спадар наш пайшоў зь Юды,
праз каторага плямя Масей нічога
не сказаў узглядам сьвятарства.

15 І гэта яшчэ яўней, што паў-
стаець сьвятар іншы, подле парадку
Мельхісэдэкавага, 16 Каторы ўста-
ноўлены ня подле закону расказань-
ня цялеснага, але подле магутнасьці
жыцьця нераспушчальнага. 17 Бо
пасьветчана: „Ты сьвятар на векі
подле парадку Мельхісэдэкавага".

18 Бо скасаваньне пярэдняга рас-
казаньня бывае з прычыны яго сла-
басьці а бескарыснасьці, 19 Бо За-
кон нічога ня прывёў да дасканаль-
насьці, але ўведзена лепшая надзея,
каторай бліжымся да Бога.

20 І паколькі гэта было не бяз
прысягі, 21 (Бо тыя сталі сьвята-
рамі бяз прысягі, а Гэты з прыся-
гаю Таго, Хто сказаў праз Яго:
„Прысягаў Спадар і ня будзе ка-
яцца: ‚Ты сьвятар навекі подле па-
радку Мельхісэдэкавага' "), 22 Па-
толькі Ісус стаў паручнікам лепшае
ўмовы.

23 Ды тых сьвятароў было шмат,
бо сьмерць перакажала трываць ім;
24 А Гэты мае сьвятарства нياміна-
ючае, бо застаецца на векі; 25 За-
тым і запраўды можа супоўна спа-
саць тых, што бліжацца перазь Яго
да Бога, будучы заўсёды жывы, каб
прычыняцца за іх.

26 Бо такі найвышшы сьвятар го-
дзіцца нам: сьвяты, нявінны, безза-
ганны, аддзелены ад грэшнікаў і
сталы над нябёсы, 27 Каторы ня
мае патрэбы дзень у дзень, як тыя
найвышшыя сьвятарове, абракаць
аброкі сьпярша за грахі свае, потым
за грахі люду; бо Ён зьдзеяў гэта
за адзін раз, абрэкшы сябе Самога.
28 Бо Закон станове за найвышшых
сьвятароў людзёў, што маюць зага-
ны, але Слова прысяглае, просьле
Закону, пастанавіла Сына, на векі
дасканальнага.

8 Галоўны зьмест таго, праз што
кажам, ё: мы маем такога най-
вышшага Сьвятара, Каторы сеў па-
праве пасаду Вялікасьці, 2 Слугача-
га сьвятыні і тае праўдзівае вітаeasy-
ні, каторую збудаваў Спадар, а не
чалавек.

3 Бо кажнага найвышшага сьвя-
тара прызначаюць абракаць дары а
аброкі; затым надабе было, каб і Гэ-
ты меў штось, што аброк бы. 4 Вось
жа, калі б запраўды Ён быў на
зямлі, ня быў бы нават сьвятаром,
бо тут сьвятарове абракаюць дары
з права, 5 Каторыя служаць абразу
а сьценю нябёсных рэчаў, як ска-
за́на было натханьням Масею, як ён
меў скончыць вітальню: „Глядзі,
кажа Ён, каб ты зрабіў усе подле
зразы, каторая была́ паказана табе
на гары".

6 Цяпер жа тым гаднейшае дасяг
службы, чым лепшае Ён пасярэднік
змовы, каторая на лепшых абятні-
цах устаноўлена. 7 Бо калі б тая
першая была без заганы, ня шукалі
б месца другой.

8 Бо, знаходзячы загану, кажа ім:
„Абач, настануць дні, кажа Спадар,
і Я ўчыню з домам Ізраелявым а з
домам Юдзіным змову новую, 9 Ня
подле змовы тае, каторую Я ўчыніў
з айцамі іхнымі ў дзень, як Я ўзяў
іх за руку́, каб вывесьці іх ізь зямлі
Ягіпецкае; бо яны ня трывалі ў
змове Маёй, і Я ўлегцы замеў іх,
кажа Спадар. 10 Во тая змова, ка-
торай Я змоўлюся з домам Ізраеля-
вым просьле тых дзён, кажа Спа-
дар: укладу пра́вы Свае ў думкі іх-
ныя, і на сэрцах іхных напішу іх,
і буду ім Богам, а яны будуць Імне
людам. 11 І ня будуць ніякім парад-
кам вучыць кажны бліжняга свайго
і кажны брата свайго, кажучы: ‚Па-
знай Спадара', бо ўсі, ад наймен-
шага аж да найбольшага зь іх, бу-
дуць знаць Мяне. 12 Бо Я буду мі-
ласэрны да несправядлівасьцяў іх-





ных а да грахоў іхных і наперад
бясправаўяў іхных ня ўспомню".

13 Гэтым кажа: „Новая" ўчыніла
першую старой; а трухлеючае а ста-
рэючае блізкое да шчэзьненьня.

9 Першая ж таксама запраўды
мела загады службы і сьвятыні
земнае; 2 Бо зроблена была́ віталь-
ня першая, у каторай сьветач а стол
а пакладаньне букаткаў, каторая
завецца „Сьвятое". 3 За другой жа
запонаю вітальня, званая „Сьвятое
Сьвятых", 4 У каторай залатая ка-
дзільніца і скрыня змовы, абкла-
дзеная з усіх бакоў золатам, у ка-
торай ваза залатая з маннаю, рась-
цьвілы посах Ааронаў а дошчачкі
змовы; 5 А над ёй херувы славы,
што ахіналі сялібу міласэрдзя. Праз
гэта няма патрэбы цяпер гу́каць
падрабязна.

6 То ж, як гэтак зроблена, у пер-
шую вітальню заўсёды ўходзяць
сьвятарове, правіць службу; 7 А ў
другую — адно найвышшы сьвятар
аднойчы ў год, не бяз крыві, като-
рую абракае за сябе і за нясьведам'е
люду.

8 Дух Сьвяты паказуе гэтым, што
яшчэ не адкрыта дарога да Сьвя-
тога Сьвятых, пакуль стаіць першая
вітальня, 9 Каторая — абраз цяпе-
рашняга часу, у каторым абракаюць
дары а аброкі, што ня могуць учы-
ніць абракаючага дасканальным у
сумленьню, 10 Складаючыся толькі
зь ежаў а піценьняў а розных абмы-
ваньняў, загадаў цялесных, устаноў-
леных да часу паправы.

11 Але Хрыстос, Найвышшы
Сьвятар будучага дабра, зьявіўшы-
ся з большай а дасканальне́йшай
вітальняю, ня рукамі зробленаю,
значыцца ня гэткага стварэньня,
12 Ані з крывёю казлоў а ця-
лят, але із собскай крывёю, увый-
шоўшы аднойчы назаўсёды да сьвя-
тыні, прыдбаў вечны выкуп. 13 Бо
калі кроў казлоў а бычкоў і по-
пел цяліцаў, кропячы забрудзяне-
лых, пасьвячае да ачышчэньня це-
ла, 14 Як шмат болей кроў Хрысто-
ва, Каторы Духам вечным аброк
Самога Сябе беззаганнага Богу,
ачысьце сумленьне нашае ад мер-
твых учынкаў на службу Богу жы-
вому!

15 І затым Ён пасярэднік новае
змовы, каб сьмерцяй, дзеля выкуп-
леньня ад выступаў з пад першае
змовы, пагука́ныя маглі адзяржаць
абятніцу вечнага спадку. 16 Бо йдзе
духоўніца, там надабе, каб сьмерць
настала чынячага духоўніцу; 17 Бо
духоўніца правамочная, калі людзі-
на памерлая; але яна ніякім парад-
кам ня мае моцы, калі чынячы ду-
хоўніцу жывы. 18 Затым і першая
была зацьверджана не бяз крыві.
19 Бо Масей, вымавіўшы ўсі раска-
заньні з права перад усім людам,
узяў кроў цялят а казлоў з вадою
а чырвовай воўнаю а гізопам і па-
крапіў самую кнігу і ўвесь люд,
20 Кажучы: „Гэта кроў змовы, ка-
торую Бог расказаў вам". 21 Падоб-
ным парадкам пакрапіў крывёю й
вітальню, і ўсе судзьдзе службы.

22 Дый блізу ўсе з права ачышча-
ецца крывёю, а без разьліцьця кры-
ві ня бывае дараваньня. 23 Дык,
з аднаго боку, зразы нябёснага мелі
ачышчацца гэтымі, самае ж нябёс-
нае лепшымі за гэтыя аброкамі. 24
Бо Хрыстос увыйшоў да сьвятыні
ня рукамі зробленае подле зразы
праўдзівае, але да самага неба, каб
стаць цяпер за нас перад відам Бо-
жым, 25 А не каб часта абракаць
Сябе, як найвышшы сьвятар уходзе
да сьвятыні кажнага году з чужой
крывёю; 26 Бо Ён меў бы часта
цярпець ад закладзінаў сьвету. Ён
жа аднойчы пры канчатку вякоў
зьявіўся дзеля скасаваньня грэху
аброкам Сваім.

27 І як людзём наканавана адной-
чы памерці, а потым суд, 28 Так

і Хрыстос, аднойчы аброкшы Сябе
за грахі шмат каго, другі раз бяз
грэху зьявіцца тым, што чакаюць
Яго да спáсеньня.
10 Закон жа, маючы сьцень буду-
чага дабра, а ня сам абраз рэ-
чаў, ніколі ня можа тымі самымі аб-
рокамі, кажны год кажначасна аб-
раканымі, удасканаліць прыступаю-
чых. 2 Накш перасталі б абракаць,
бо абракаючыя аброк, быўшы ад-
нойчы ачышчаны, ня мелі б ужо
ніякага сьведам'я грахоў. 3 Але гэ-
тымі прышамінаньне грахоў дзеецца
кажнага году; 4 Бо нельга, каб кроў
быкоў а казлоў касавала грахі.
5 Затым Уходзячы на сьвет, ка-
жа: „Аброкаў а дароў Ты не хацеў,
але цела прыгатаваў Імне. 6 Усепа-
леньні а аброкі за грэх ня любы
Табе. 7 Тады Я сказаў: ‚Гля, іду
ўчыніць волю Тваю, Божа', як на-
пісана празь Мяне на пачатку кні-
гі".
8 Сказаўшы ўперад: „Ты не ха-
цеў ані ўпадабаў аброкаў ані дароў,
ані ўсепаленьняў, ані аброкаў за
грэх", (каторыя абракаюць подле
Закону), 9 Тады сказаў: „Гля, іду
ўчыніць волю Тваю". Касуе першае,
каб устанавіць другое. 10 Подле гэ-
тае волі пасьвячаны мы аброкам
цела Ісуса Хрыста аднойчы назаў-
сёды.
11 І кажны сьвятар што дня ста-
іць, правячы а абракаючы часта
тыя самыя аброкі, каторыя ніколі
ня могуць змазаць грахоў. 12 Ён жа,
аброкшы адзін аброк за грахі, на
векі сеў паправе Бога, 13 Адлі ча-
каючы, пакуль варагі Ягоныя бу-
дуць пакладзены казулькаю пад
ногі Ягоныя. 14 Бо Ён адным абро-
кам на векі ўчыніў дасканальнымі
пасьвячаных.
15 Праз гэта сьветча нам і Дух
Сьвяты; бо просьле гэтага сказана:
16 „Во змова, каторую Я ўстанаўлю
ім просьле тых дзён, кажа Спадар:
дам законы Свае ў сэрцы іхныя і на-
пішу іх у думках іхных, 17 І на-
перад грахоў іхных і бяспраўяў іх-
ных ня ўспомню". 18 А йдзе дара-
ваньне, там ня надабе аброку за
грэх.
19 Дык, браты, маючы адвагу
ўходзіць да Сьвятога Сьвятых пе-
раз кроў Ісусаву, 20 Новай і жывой
дарогаю, каторую нам пасьвяціў пе-
раз запону, значыцца, цела Свае,
21 І маючы вялікага Сьвятара над
домам Божым, 22 Бліжмася з праў-
дзівым сэрцам, із супоўнай пэўнась-
цяй веры, пакрапленьням ачысьціў-
шы сэрца ад нягоднага сумленьня і
абмыўшы цела вадою чыстаю, 23
Моцна дзяржымася бяз хістаньня
вызнаньня надзеі, бо верны Тый,
што абяцаў.
24 Будзьма ўважлівыя адзін да
аднаго, захочуючы да міласьці а
добрых учынкаў, 25 Не пакідаючы
збораў сваіх, як ёсьць у некатрых
звычáй; але захочуючы, і тым бо-
лей, чым болей бачыце, што тый
дзень бліжыцца. 26 Бо калі б мы
самахоць грашылі па адзяржаньню
супоўнага знацьця праўды, не за-
ставалася б ужо аброку за грахі,
27 Але нейкае страшнае спадзя-
ваньне суду й гарачыня агню, што
мае пажэрці праціўнікаў.
28 Калі хто ўлегцы замеў закон
Масеяў, на сьветчаньне дзьвюх аль-
бо трох сьветак памірае безь міла-
сэрдзя, — 29 Дык якой горшай ка-
ры, думаеце, варты будзе тый, што
патаптаў Сына Божага, і Кроў змо-
вы, каторай пасьвячаны, мае за звы-
чайную, і Духа ласкі зьневажае?
30 Бо мы знаем Таго, хто сказаў:
„Імне помста, Я адплачу, кажа Спа-
дар". І ўзноў: „Спадар будзе судзіць
люд Свой". 31 Страшна ўпасьці ў
рукі Бога жывога!
32 Успомніце пярэднія дні, калі,
будучы асьвечаныя, вытрывалі вя-
лікую бітвý цярпеньняў, 33 З аднаго



боку, як былі выстаўлены на ўпікі
а атугу, а, з другога, як сталі сябра-
мі тых, што дазнавалі таго ж; 34 Бо
вы спагадалі вязьням і прынялі з
радасьцяй грабеж меньня свайго,
ведаючы, што маеце сабе лепшую
маемасьць і трываючую.
35 Дык не адхінайце даверу свай-
го, каторы мае вялікую адплату.
36 Бо трывалкосьці надабе вам, каб,
учыніўны волю Божую, адзяржаць
абятніцу; 37 „Бо яшчэ трошачкі,
трошачкі, і Тый, што мае прыйсьці,
прыйдзе і не адвалачэць. 38 Спра-
вядлівы ж вераю жыць будзе; а ка-
лі адступе, не ўпадабае таго душа
Мая". 39 Мы ж не адступаючыя на
загіну, але ў веры да спáсеньня ду-
шы.
11 Вось жа, вера ёсьць ужыцьцяў-
леньне спадзяванага й перака-
наньне празь нявідомае. 2 Ёю сьвет-
чаньня дасяглі старавечныя.
3 Вераю ж разумеем, што вякі
ухармаваны словам Божым, так што
нявідомае стала відомым.
4 Вераю Авель аброк Богу аброк
лепшы, чымся Каін; ёю адзяржаў
сьветчаньне, што ён справядлівы,
Бог пасьветчыў праз дары ягоныя;
ёю ён, памершы, яшчэ гýкае.
5 Вераю Енох быў перанесены,
каб ня бачыць сьмерці; і ня знай-
дзены, бо Бог перанёс Яго. Бо ўпе-
рад, чымся быў перанесены, меў
сьветчаньне, што падабаў Богу яго.
6 Бязь веры ж нельга падабацца;
бо хто бліжыцца да Бога, мае ве-
рыць, што Ён ё, і шукаючым Яго
адплачуе.
7 Вераю Ной, перасьцярэжаны Бо-
гам празь яшчэ нявідомае, багабой-
ліва прыгатаваў караб да спáсеньня
дому свайго; ёю засудзіў сьвет і стаў
спадкаемцам справядлівасьці, што зь
веры.
8 Вераю Абрагам, пагукáны, па-
слухаў ісьці да месца, каторае меў
адзяржаць на спадак; і вышаў, ня
ведаючы, куды йдзець. 9 Вераю па-
дарожжаваў ён па зямлі абяцанай,
як чуж-чужанін, жыхарачы ў буда-
нох з Ісаком а Якавам, суспадкаем-
цамі тае ж абятніцы; 10 Бо ён спа-
дзяваўся места, што мела под, ка-
торага мастак а будаўнічы Бог.
11 Вераю й сама Сорра адзяржала
моц да прыйма семені, і вонках па-
равога веку, бо мела за вернага Та-
го, Хто абяцаў. 12 І затым запраўды
ад аднаго, ды зьмярцьвелага, нара-
дзілася так шмат, як зораў на небе
і як няшчысьлёны пясок на беразе
морскім.
13 Усі гэтыя памерлі ў веры, не
адзяржаўшы абятніцаў, адно здáле-
ку бачылі іх, і вецілі, і вызнавалі,
што яны чужнікі а прыходныя на
зямлі;
14 Бо тыя, што так кажуць, па-
казуюць, што яны шукаюць айчы-
ны. 15 І калі б яны ў думках мелі
тую, з каторае вышлі, дык мелі спа-
собнасьць зьвярнуцца; 16 Але яны
імкнуліся да лепшага, значыцца да
нябёснага; затым і Бог не сароміц-
ца звацца іх Богам, бо Ён прыгата-
ваў ім места.
17 Вераю Абрагам, спрабаваны,
аброк Ісака, ды ён аброк адзінарод-
нага свайго, каторы прыняў абят-
ніцу, 18 Катораму было сказáна:
„У Ісаку названа будзе табе насень-
не"; 19 Бо ён уважаў, што Бог дуж
і зь мертвых ускрысіць. Затым і
адзяржаў яго як праабраз.
20 Вераю ў будучыню Ісак дабра-
славіў Якава а Ісава.
21 Вераю Якаў, паміраючы, да-
браславіў кажнага сына Язэпавага
і сьхінуўся на верх посаха свайго.
22 Вераю Язэп, паміраючы, зрабіў
менку праз выхад сыноў Ізраеля-
вых і даў паручэньне ўзглядам кась-
цей сваіх.
23 Вераю Масей па нараджэньню
быў хаваны тры месяцы бацькамі
сваімі, бо яны бачылі дзецянётка

пазорнае і не пабаяліся загады ка-
ралеўскае.
24 Вераю Масей, вырасшы, адмо-
віўся звацца сынам дачкі фараона-
вае; 25 Валей абраўшы цярпець га-
роту зь людам Божым, чымся мець
часную прыемнасьць раскошы, 26
Маючы вярненьне Хрыстова за
большае багацьце, чымся ягіпецкія
скарбы; бо ён уважаў на адплату.
27 Вераю пакінуў ён Ягіпет, не
пабаяўшыся гневу каралеўскага, бо
ён, быццам бачачы Нявідомага, быў
станаўкі.
28 Вераю справіў ён Пасху і разь-
ліцьцё крыві, каб нішчэньнік пер-
шакоў не даткнуўся да іх.
29 Вераю прайшлі яны Чырвонае
мора, як па зямлі, чаго паспраба-
ваўшы, Ягіпцяне патанулі.
30 Вераю паваліліся сьцены еры-
хонскія па сямідзенным абходжань-
ню.
31 Вераю Рагаў бязуля, прыняў-
шы із супакоям узьведнікаў (і пра-
вёўшы іх другой дарогаю), не за-
гінула зь няверными.
32 І што яшчэ скажу? Ня стане
імне часу, каб павядаць праз Гі-
дэона а Варака а Самсона а Еффая
а Давіда а Самуйлу а пракракаў,
33 Каторыя вераю перамагалі гаспа-
дарствы, чынілі справядлівасьць,
адзержавалі абятніцы, зачынялі ля-
пы лявом, 34 Гасілі сілу агню, уця-
калі ад ляза мяча, мацаваліся ад
кволасьці, былі дужыя на вайне,
праганялі войскі чужых; 35 Жанкі
адзержавалі памерлых сваіх ускрэ-
сьлымі;
іншыя ж замучаныя былі, не
адзяржаўшы вывальненьня, каб да-
стаць лепшае ўскрысеньне; 36 А ін-
шыя дазналі насьміханьняў а біць-
ця розкамі а путаў а вязьніцы; 37
Былі каменаваны, спакушаны, памі-
ралі ад мяча, туляліся ў вавечых
а казіных скурах, у нястачы,ату-
гах, благім абходжаньню; 38 Като-
рых сьвет ня быў годны, цягаліся
па пустынях а гарах а пячорах а
раськепінах зямлі.
39 І ўсі гэтыя, дасягшы сьветчань-
ня вераю, не адзяржалі абятніцы,
40 Бо Бог штось лепшае нам перад-
бачыў, каб яны не бяз нас сталі
дасканальныя.

12 Затым і мы, маючы такі вялікі
булак сьветак навокал сябе,
сьніньма із сябе кажны цяжар а
грэх, што так чыста аблытуе нас,
бяжыма зь трывалкосьцяй на вы-
перадкі, што перад намі, 2 Уцеміў-
шыся ў Ісуса, правадыра й дакан-
чаньніка веры, Каторы, маючы наў-
веце радасьць, што была́ перад Ім,
перацярпеў крыж, пагрэбаваўшы
ганьбаю, і сеў паправе пасаду Бо-
жага. 3 Бо зважча, які Тый, што
цярпеў перачэньне ад грэшнікаў,
каб вы ня прысталі, замлеўшы ў ду-
шах сваіх.
4 Яшчэ вы аж да крыві не спра-
цівіліся, ходаючыся супроці грэху;
5 І вы сусім забыліся ўмаўляньня,
каторае кажа вам, як сыном: „Сыну
Мой! ня май улегцы зыру Спада-
ровага, ня траць адвагі, як ты жу-
раны Ім. 6 Бо каго Спадар любе,
таго зыра, і сьцёбае кажнага сына,
каторага прыймае". 7 Калі вы цер-
піце зыр, Бог ставіцца да вас, як
да сыноў. Бо ці ё які сын, якога
бацька ня зырыў бы? 8 Калі ж вы
бяз зыраньня, каторае супольнае
ўсім, дык вы бязбацькавічы, а ня
сынове.
9 Адлі, мы мелі айцоў цялесных,
каторыя нас зырылі, і мы паважалі
іх, дык ці ня шмат болей маем быць
у падданстве Айцу духоў і жыць?
10 Яны запраўды зырылі дзеля ня-
шмат дзён, як здавалася патрэбным
ім, а Гэты — дзеля карысьці, дзеля
ўчасьця ў сьвятасьці Ягонай. 11 Ні-
якае ж зыраньне ў цяперашнім часе
не здаецца радасьцяй, але смуткам;
пасьлей, адылі, навытыраным ім



даець супакойны плод справядліва-
сьці.
12 Дык падыйміце апушчаныя
рукі і аслабянелыя калені 13 І ра-
біце простыя сьцежкі нагам сваім,
каб кульгавае ня скруцілася, але
валéй каб уздаравілася.
14 Ганіцеся да супакою з усімі
і сьвятасьці, без каторых ніхто не
абача Спадара. 15 Назірайце, каб
хто не спабыўся ласкі Божае, каб
які „карэнь гарчэлі" ня вынік і не
нарабіў клопату, і перазь яго шмат
хто не забрудзяніўся; 16 Каб ня бы-
ло якога бязулі альбо нязбожніка,
як Есаў, што за адну ежу прадаў
першародзтва свае. 17 Бо вы ведае-
це, што просьле тога ён, жадаючы
мець дабраславенства, быў адхіне-
ны, дарма што шукаў яго горача із
сьлязьмі, бо не знайшоў месца да
ка́яты.
18 Бо вы дабліжыліся не да гары,
каб льга было даткнуцца, але га-
рэла агнём, не да цямноты а цемры
а буры, 19 Не да трубнага гуку а
голасу словаў, каторы чуючыя,
праўдзячы сябе, прасілі, каб слова
ня было гу́кана да іх болей. 20 Бо
яны не маглі сьцéрпець таго, што
расказа́на было: „Калі й жывёла
даткнецца да гары, будзе ўкамена-
вана". 21 І такое жахлівае было ба-
чанае, што Масей сказаў: „Я над-
звычайна спалохаўся і ўвесь дры-
жу".
22 Але вы дабліжыліся да гары
Сыёнскае а да места Бога жывога,
нябёснага Ерузаліму, а да няшчысь-
лёных ангілаў 23 А да збору а цар-
квы першакоў, запісаных на нябё-
сах, а да Бога, судзьдзі ўсіх, а да
духоў справядлівых, дасканальных,
24 А да Ісуса, пасярэдніка новае
змовы, а да крыві крапленьня, што
гу́кае ляпей за Авеляву.
25 Глядзіце, каб вы не адмовілі
Таму, Хто гу́кае. Бо калі тыя не
ўцяклі, што адмовілі таму, каторы
навучаў на зямлі, шмат болей мы,
калі адвернемся ад Тога, Хто наву-
чаў зь неба, 26 Чый голас тады за-
хістаў зямлю; а цяпер Ён абяцаў,
кажучы: „Яшчэ раз захістаю ня
толькі зямлю, але й неба". 27 Гэта
ж „Яшчэ раз" знача адда́леньне хі-
станага, як учыненага, каб непахіс-
ное засталося.
28 Дык мы, прыймаючы гаспа-
дарства непахіснае, майма ласку, ка-
торай служым люба Богу із сьцёю
й страхам, 29 Бо Бог наш ёсьць
агонь зьядаючы.

13 Братняя любосьць няхай тры-
вае. 2 Гасьціннасьці не забы-
вайцеся, бо перазь яе некатрыя, ня
ведаючы, ангілаў гасьцінна прый-
малі. 3 Па́мятуйце празь вязьняў,
бы спутаныя зь імі, і тых, што цер-
пяць, бо вы таксама ў целе.
4 Жанімства пасьцівае ў вусім і
ложак незабрудзянены; бязуляў жа
а чужаложнікаў будзе судзіць Бог.
5 Няхай жыцьцё вашае будзе
бязь любосьці грошы, здаваляйцеся
тым, што ё. Бо сказаў: „Не пакіну
цябе і ня кіну цябе"; 6 Так што
мы адважна кажам: „Спадар імне
памачнік, і не баюся; што зробе ім-
не людзіна?"
7 Памятуйце кіраўнікоў сваіх, ка-
торыя казалі вам Слова Божае; раз-
глядаючы вынік паступку іхнага,
пераймайце веру іхную. 8 Ісус Хры-
стос учорах і сядні тый самы, і на
векі.
9 Навукамі рознымі й чужымі ня
дайцеся быць зьведзенымі; бо добра
ласкаю сіліць сэрцы, а ня ежамі, з
каторых не адзяржалі карысьці тыя,
што імі займаліся. 10 Мы маем абро-
чнік, з каторага тыя ня маюць пра-
ва жывіцца, што служаць вітальні.
11 Бо каторае жывёлы кроў уносе
найвышшы сьвятар за грэх да Сьвя-
тога Сьвятых, тае мяса спаляюць
вонках табару, —

12 Затым і Ісус, каб пасьвяціць людзёў крывёю Сваёй, пацярпеў вонках брамы. 13 Дык выйдзіма да яго за табар, носячы паганьбеньне Ягонае; 14 Бо мы ня маем тут штачаснага места, але шукаем прыйдучага. 15 Дык будзем пераз Яго бязупынку абракаць Богу аброк хвалы, значыцца плод вуснаў, імя Ягонае вызнаючых.

16 Дабрадзейства а ўдзельлівасьці не забывайцеся, бо такія аброкі любы Богу.

17 Слухайце кіраўнікоў сваіх і будзьце пакорныя, бо яны дбаюць праз душы вашыя, як тыя, што маюць здаць лічбу; каб яны рабілі гэта з радасьцяй, а ня ўздыхаючы, бо вам гэта некарысна.

18 Маліцеся за нас, бо мы пераканаўшыся, што маем добрае сумленьне, у вусім зычачы паступаць добра. 19 Асабліва ж прашу рабіць гэта, каб я барждждэй вернены быў вам.

20 Бог жа супакою, Каторы ўскрысіў зь мертвых Спадара нашага Ісуса Хрыста, вялікага пастыра́ авец, крывёю змовы вечнае, 21 Хай удасканале вас у кажнай добрай справе да чыненьня волі Ягонае, дзеючы ў вас любае Яму пераз Ісуса Хрыста, Катораму слава на векі вякоў. Амін.

22 Прашу ж вас, браты, сьцярпіце гэтае слова захочаньня; я ж ня шмат і напісаў вам.

23 Ведайце, што брат наш Цімох вывальнены; і я разам із ім (калі ён уборзьдзе прыйдзе) абачу вас.

24 Здаровайце ўсіх кіраўнікоў сваіх і ўсіх сьвятых. Здароваюць вас італьскія.

25 Ласка з усімі вамі. Амін.

## СУБОРНЫ ЛІСТ СЬВЯТОГА ЯКАВА АПОСТАЛА

1 Якаў, нявольнік Божы і Спадара Ісуса Хрыста, двананцацём плямёнам у расьцярушэньню,— здарованьне.

2 За ўсю радасьць майце, браты мае, як упадаеце ў розныя дазнаньні, 3 Ведаючы, што прабаваньне веры вашае вытварае цярплівосьць; 4 А цярплівосьць няхай вырабляе дасканальнае дзеяньне, каб вы былі дасканальныя а супоўныя, бязь ніякае нястачы.

5 Калі ж у каго з вас не стаець мудрасьці, няхай просе ў Бога, Каторы даець усім шчодра і ня ўпікае, — і дасца яму. 6 Але няхай просе зь вераю, ані не сумляючыся, бо хто сумляецца, тый падобны да морскае хвалі, ветрам узьніманай а разьвяванай. 7 Дык няхай такая людзіна не гадае, што яна адзяржыць што-колечы ад Спадара. 8 Людзіна з дваячнымі думкамі не кажначасная ў вусіх дарогах сваіх.

9 Няхай хваліцца брат паніжаны вывышэньням сваім, 10 А багаты — паніжэньням сваім, бо ён мінець, як краса на траве. 11 Усходзе сонца з палючым вадам сваім, і трава ссохла, і краса ейная апала, і харашыня выгляду ейнага шчэзла; так і багаты зьвяне ў дарогах сваіх.

12 Дабраславёная людзіна, каторая вытрывала дазнаньні, бо, будучы выпрабаваная, адзяржыць карону жыцьця, што Ён абяцаў тым, каторыя любяць Яго. 13 Няхай ніхто, прабаваны, ня кажа: „Я спакушаны Богам", бо Бог ня можа быць спакушаны ліхам, і Ён Сам нікога не спакушае, 14 Але кажны спакушаецца собскімі жа́длівасьцьмі сваімі, каторыя яго захапляюць а надзяць. 15 Жадлівасьць жа, пачаўшы, родзе грэх; а супоўна разьвіты грэх прыводзе да сьмерці. 16 Ня блудзіце, браты мае любовыя.

17 Кажнае добрае даньне і кажны



дасканальны дар зыходзе з гары, ад Айца сьвятліні, у Каторага няма зьмены ані сьценю адвярненьня. 18 Подле собскае волі Свае зрадзіў Ён нас словам праўды, каб мы былі некатрым пачаткам створэньняў Ягоных.

19 Дык, браты мае любовыя, няхай кажная людзіна будзе борздая да слуханьня, памальная да гаворы, памальная да гневу; 20 Бо гнеў людзкі ня чыне справядлівасьці Божае. 21 Затым, адхінуўшы кажную бруду і збуялае сердаво, у лагоднасьці прыміце саджанае слова, каторае можа спасьці душы вашы. 22 Але будзьце дзейнікамі Слова, а ня слуха́чымі толькі, што зводзяць самых сябе. 23 Бо слуха́чы Слова, а ня дзейнік, падобны да людзіны, што прыроджаныя рысы віду свайго разглядае ў глядзелцы; 24 Бо ён паглядзеў на сябе і адышоў, і якга забыўся, якоў ён. 25 Бо хто ўцеміцца ў дасканальнае права, права свабоды, і трывае ў ім, будучы не забудзькам слуха́чым, але дзейнікам учынку, тый будзе дабраславёны ў вучынку сваім.

26 Калі хто думае праз сябе, што ён набожны, ня кілзаючы языка свайго, але зводзячы сэрца свае, у тога набожнасьць пустая. 27 Чыстая а беззаганная набожнасьць перад Богам а Айцом ё гэта: давядацца сіротаў а ўдоваў у ватугах іхных, дзяржаць сябе незабрудзяненым ад сьвету.

2 Браты мае, майце веру ў Ісуса Хрыста нашага, Спадара славы, не зважаючы на асобы. 2 Бо калі да бажніцы вашае ўвыйдзе чалавек із залатой жуковінкаю і ў пазорыстым адзецьцю, увыйдзе ж і бедны ў рызьзю; 3 І вы, гледзячы на тога, што адзеўшыся ў пазорыстае адзецьце, скажаце яму: „Табе добра сесьці тут", а беднаму скажаце: „Ты стань там" або: „Садзіся тут ля ног маіх", 4 Дык ціж вы не зрабілі розьніцы мяжсобку і сталі судзьдзямі з благімі думкамі?

5 Паслухайце, браты мае любовыя: ці ня бедных сьвету абраў Бог быць багатымі вераю і спадкаемцамі гаспадарства, каторае Ён абяцаў тым, што любяць Яго? 6 А вы пагрэбавалі бедным. Ці не багатыя ўціскаюць вас і цягнуць вас да судоў? 7 І ці не блявузґаюць на дасканальнае імя, каторым вы завіцéся?

8 Калі вы поўніце закон каралеўскі, подле Пісьма: „Будзеш любіць бліжняга, як самога сябе", добра робіце; 9 Але калі зважаеце на асобы, грэх чыніце, будучы засуджаны законам як выступнікі.

10 Бо хто зьдзяржыць увесь Закон і спатыкнецца ў вадным чымколечы, тый стаецца вінным у вусім. 11 Бо тый жа, хто сказаў: „Не чужалож", сказаў і: „Не забі"; затым, калі ты не чужаложыш, але заб'еш, ты стаў выступнікам із Закону. 12 Гэтак кажыце і гэтак рабіце, як маючыя быць суджаны подле закону свабоды. 13 Бо суд безь міласэрдзя таму, хто ня выказаў міласэрдзя; міласэрдзе ўзьнімаецца над судам.

14 Што за карысьць, браты мае, калі хто кажа, што ён мае веру, але ўчынкаў ня мае? ці можа вера спасьці яго? 15 Вось жа, калі брат альбо сястра голыя і ня маюць штадзеннае ежы, 16 І хтось з памеж вас скажа ім: „Ідзіце ў супакою, грэйцеся й жывіцеся", але ня дасыць ім патрэбнага дзеля цела: што за карысьць? 17 Гэтак і вера, калі ня мае ўчынкаў, мертвая сама ў сабе.

18 Але хто-колечы скажа: „Ты маеш веру, а я маю ўчынкі: пакажы імне веру сваю бяз учынкаў сваіх, а я пакажу тэ' веру сваю з учынкаў сваіх". 19 Ты верыш, што Бог адзін: добра робіш; і нячысьцікі вераць і дрыжаць.

20 Але ці хочаш верыць, марны
чалавеча, што вера бяз учынкаў
мертвая? 21 Ці ня ўчынкамі апра-
віўся Абрагам, айцец наш, як аброк
на аброчнік Ісака́, сына свайго?
22 Ты бачыш, што вера судзеяла
з учынкамі ягонымі, і ўчынкамі ве-
ра стала дасканальнай. 23 І выпаў-
нілася Пісьмо, каторае кажа: „Ве-
рыў Абрагам Богу, і гэта было за-
лічана яму за справядлівасьць", і ён
названы прыяцелям Божым.

24 Ці бачыце, што чалавек правіц-
ца ўчынкамі, а ня вераю толькі?
25 Падобна й Рагаў бязуля ціж ня
ўчынкамі аправілася, як яна прыня-
ца ўчынкамі, а ня вераю толькі?
дарогаю? 26 Бо, як цела бяз духа
мертвае, так і вера бяз учынкаў
мертвая.

3 Няхай вас ня шмат будзе ву-
чыцелямі, браты мае, ведаючы,
што цяжшы суд адзяржым, 2 Бо мы
ўсі часта спатыкаемся. Хто не спа-
тыкаецца ў слове, тый дасканальны
муж, дуж закілзаць і ўсе цела свае.
3 Гля, мы кілзаем коні, каб яны
слухалі нас і кіруем усе цела іхнае.
4 Вось, і караблі, такія вялікія і гна-
ныя буйнымі вятрамі, кіруюць ма-
люсенькім штырном, куды хоча
штырнік. 5 Так і язык — малюсенькі
арґан, а вялікімі рэчамі вяльмуецца.

Гля, малюсенькі агонь як шмат
лесу пале. 6 язык — агонь, сьвет
несправядлівасьці; язык так паста-
ноўлены памеж арґанаў нашых, што
брудзяне ўсе цела і запаляе кола
прыроды, запаляны агнём пекля-
ным.

7 Бо ўсялякая прырода зьвяроў
і птушак, паўзуноў і морскае жы-
вёлы слышыцца і ўслышана пры-
родаю людзкой, 8 А языка ніхто зь
людзёў услышыць ня можа: гэта
няўзьдзержнае ліха, поўны сьмя-
ротнае атруты. 9 Ім дабраславім
Спадара а Айца, ім клінем людзёў,
на падобнасьць Божую ўчыненых:
10 З тых жа вуснаў выходзе добра-
славенства й кляцьба.

Ня мае так быць, браты мае. 11 Ці
пырскае з тае самае адтуліны жа-
рала салодкая й гарка́я вада? 12 Ня
можа, браты мае, фіґа радзіць аліў-
кі альбо віно фіґі? Гэтак, жарало
салонае й салодкае вады не выліває.

13 Хто мудры а разумны з вас?
пакажы добрым паступкам учынкі
свае ў лагоднай мудрасьці. 14 Але
калі ў сэрцу сваім вы маеце гарку́ю
за́відасьць а звадлівасьць, не хвалі-
цеся й не маніце на праўду: 15 Гэта
ня мудрасьць, што зыходзе згары,
але земная, прыродная, дзяваль-
ская; 16 Бо йдзе за́відасьць а зва-
длівасьць, там вераск і ўсе благое.

17 Але мудрасьць згары, першае,
чыстая, адлі супакойная, лагодная,
падаўка́я, поўная міласэрдзя і доб-
рых пладоў, бесстароньняя, нядву-
душная. 18 Плод жа справядлівасьці
ў супакою сеецца тым, што чыняць
супакой.

4 Скуль бітвы й ходаньне памеж
вас? ці ня стуль, ці не з раско-
шаў вашых, што б'юцца ў чаланох
вашых? 2 Жадаеце — і ня маеце;
забіваеце й завідуеце — і ня можаце
дасягчы; ходаецеся й б'іце́ся — і ня
маеце, бо ня просіце; 3 Просіце, і не
адзержуеце, бо просіце на ліха, каб
ужыць у сваіх раскошах.

4 Чужаложнікі а чужаложніцы!
ці ня ведаеце, што прыязьнства із
сьветам ё не́прыязьньства з Богам?
Дык, хто хацеў бы быць прыяце-
лям сьвету, стаецца не́прыяцелям
Богу. 5 Ці вы думаеце, што Пісьмо
кажа дарма: „Аж да завісьці жа-
дае Дух, што ў нас жыхара"? 6 Але
большую даець ласку; затым і ка-
жа: „Бог гордым працівіцца, і даець
ласку пакорным".

7 Дык паддайцеся Богу; спраціў-
цеся дзявалу, і ўцячэць ад вас. 8
Дабліжчася да Бога, і дабліжыцца
да вас; памыйце рукі, грэшнікі, і



ачысьціце сэрцы, двудушныя; 9 Бя-
дуйце й будзьце ў жалобе і плачча;
няхай сьмех вашы абернецца ў жа-
лобу, і радасьць — у смутак. 10 Ука-
рыцеся перад Спадаром, і ўзьніме
вас.

11 Ня гу́кайце адны на адных,
браты: хто гу́кае на брата альбо
судзе брата, гу́кае на Закон і судзе
Закон; а калі ты судзіш Закон, ты
не спаўняньнік Закону, але судзь-
дзя. 12 Адзін Правадаўца а Судзь-
дзя, Каторы можа спасьці й загу-
біць а ты хто, што судзіш бліжняга
свайго?

13 Цяпер паслухайце вы, што ка-
жаце: „Сяднi або заўтра выправімся
да такога а такога места, і пабудзем
там год, і будзем таргаваць і зара-
бляць"; 14 Вы, каторыя ня ведаеце,
што будзе заўтра, бо што такое
жыцьцё вашае? па́ра, што зьяўля-
ецца на малы час, а потым запраў-
ды чэзьне. 15 Замест тога, каб вы
казалі: „Калі зьлюб будзе Спадару,
і жывы будзем, дык зробім гэта й
гэна", 16 Вы ж вяльмуецеся ў пы-
се сваёй: усялякае такое вяльму-
ваньне ё ліха. 17 Дык хто ўмее чы-
ніць дабро, і ня чыне, таму грэх.

5 Паслухайце цяпер вы, багатыя:
плачча а зохайце над злыбеда-
мі сваімі, што на вас прыходзяць.
2 Багацьце вашае згніло, і адзецьці
вашы зьедзены мольлю. 3 Золата
ваша а срэбра ваша зьедзена, і іржа
іх будзе сьветчыць на вас і ізьесьць
целы вашы, як агонь: вы зьберлі
сабе скарбы на апошнія дні.

4 Вось, плата работнікаў вашых,
што зжалі поле вашае, задзяржаная
вамі, гука́е, і гука́ньні тых жнеяў
увыйшлі ў вушы Спадара войскаў.
5 Вы жылі́ раскошна на зямлі і бу-
яна; укармілі сэрцы свае, бы на
дзень зарэзу. 6 Вы засудзілі, забілі
справядлівага; ён не працівіўся вам.

7 Дык, браты, майце цярплівосьць
да прыходу Спадаровага. Вось, ра-
лейнік чакае дарагога плоду із зя-
млі, маючы цярплівосьць, пакуль
яна прыйме дождж раньні й позны.
8 Майце цярплівосьць і вы, ума-
цуйце сэрцы свае, бо прыход Спа-
дароў блізкі́.

9 Не наракайце, браты, адзін на
аднаго, каб ня быць засуджанымі:
вось Судзьдзя стаіць ля дзьвярэй.

10 Бярыце прыклад, браты, зь
цярпеньня а цярплівосьці пракокаў,
што гу́калі ў імя Спадарова. 11 Вось,
мы маем за дабраславёных тых, што
трывалі. Вы чулі праз трываньне
Ёвава і бачылі канец ягоны ад Спа-
дара, бо Спадар вельма міласэрны
а спагадлівы.

12 Але наўперад, браты мае, не
прысягайце ані небам, ані зямлёю,
ані якой іншай прысягаю, але ня-
хай будзе ў вас „Але, але" і „Не,
не", каб не падпасьці пад суд.

13 Церпіць хто ліха з памеж вас?
няхай моліцца; вясёлы хто? няхай
пяець псальмы. 14 Хворы хто з па-
меж вас? няхай пагука́е старшых
Царквы, і хай памоляцца над ім,
памазаўшы яго алеям у імя Спа-
дарова, — 15 І малітва веры ўзда-
ровіць хворага, і Спадар падыйме
яго; і, калі ён учыніў грахі, будуць
дараваны яму.

16 Вызнавайце ж адны адным
грахі свае і маліцеся адны за ад-
ных, каб вы былі́ ўздароўлены: вя-
лікую мае сілу гарачая малітва
справядлівага. 17 Ільля быў чалавек
падобны жарсьцьмі да нас, і малі-
твою памаліўся, каб ня было даж-
джу: і ня было дажджу на зямлі
тры гады і шэсьць месяцаў; 18 І
ўзноў памаліўся: і неба дало дождж,
і зямля вырасьціла плод свой.

19 Браты мае, калі хто з вас блу-
дзе ад праўды, і навярнуў яго хто,
20 Ведай, што тый, хто навярнуў
грэшніка з абмыльнае дарогі яго-
нае, спасець душу ад сьмерці і па-
крые множасьць грахоў.

## ПЕРШЫ СУБОРНЫ ЛІСТ СЬВЯТОГА ПЕТРЫ АПОСТАЛА

**1** Пётра, апостал Ісуса Хрыста,
прыходным расьцярушэньня ў
Понце, Ґаляце, Кападоцыі, Азі а
Віфіні, абраным 2 Зь перадведаньня
Бога Айца, пасьвячэньням Духа, да
паслухменства а пакрапленьня кры-
вёй Ісуса Хрыста: ласка вам а су-
пакой няхай памножацца.

3 Дабраславёны Бог а Айцец Спа-
дара нашага Ісуса Хрыста, Каторы,
подле вялікага міласэрдзя Свайго,
адрадзіў нас да надзеі жывое праз
ускрысеньне Ісуса Хрыста зь мер-
твых,4 Да непсавальнага а незабру-
дзяненага а нязьвялага спадку, за-
хаванага ў нябёсах вам, 5 Сілаю
Божаю праз веру сьцеражоных да
спа́сеньня, гатовага аб'явіцца ў ва-
пошнім часе.

6 Гэтым захапляйцеся, пасмуціў-
шыся цяпер крыху (калі надабе) ад
розных дазнаньняў, 7 Каб выпра-
баваная вера вашая была́ дарожшая
за гінучае, хоць прабаванае агнём,
золата, да пахвалы а славы а сьці
ў зьяўленьне Ісуса Хрыста, 8 Ка-
торага, ня бачыўшы, мілу́еце, Ка-
торага цяпер ня бачачы, але вера-
чы, захапляецеся радасьцяй нявы-
моўнай і найслаўтушай, 9 Адзержу-
ючы канец веры сваей — спасеньне
душаў.

10 Пракокі, што пракалі ласку
вам, даведаваліся а дасьледава́лі гэ-
тае спа́сеньне, 11 Дасьлядўючы, на
каторы або на які час зьясьняў Дух
Хрыстоў, каторы быў у іх, сьветча-
чы наперад праз цярпеньні Хрыс-
товы і славу па іх. 12 Ім аб'яўлена
было, што ня ім самым, але нам
служыла тое, што цяпер абешчана
вам тымі, каторыя зьясьняюць вам
Дабравесьць Духам Сьвятым, пасла-
ным із нябёс, на што ангілы жа-
даюць глядзець.

13 Затым, паперазаўшы сьцёгны
розуму свайго, будучы цьвярозыя,
супоўна спадзявайцеся ласкі, като-
рая будзе да́на вам у зьяўленьню
Ісуса Хрыста. 14 Як паслухменыя
дзеці, не тарнуйцеся да пярэдніх
жа́длівасьцяў у нясьведам'ю сваім;
15 Але як Тый, што пагука́ў вас,
ё сьвяты, будзьце таксама сьвятыя
ў вусім паступку; 16 Бо напісана:
„Будзьце сьвятыя, бо Я сьвяты".

17 I калі вы завіце́ Айцом Таго,
Хто, не зважаючы на асобы, судзе
кажнага подле ўчынкаў ягоных, ка-
ратайце час падарожжаваньня свай-
го із страхам, 18 Ведаючы, што не
псавальным срэбрам альбо золатам
вы адкуплены ад марнага паступ-
ку,пераданага ад бацькоў, 19 Але
каштоўнай крывёю Хрыстовай, як
беззаганнага а чыстага ягнётка, 20
Наканаванага запраўды перад за-
кладзінамі сьвету, але зьяўленага ў
канцы часоў вам, 21 Каторыя ўве-
рылі праз Яго ў Бога, Каторы
ўскрысіў Яго зь мертвых і даў Яму
славу, каб вера вашая а надзея бы-
лі ў Богу.

22 Ачысьціўшы душы свае па-
слухменствам праўдзе да нядвудуш-
нае братняе любові, горача мілуўце
адзін аднаго з чыстага сэрца, 23 Бу-
дучы ізноў народжаныя не з пса-
вальнага семені, але зь непсаваль-
нага, жывым і трываючым на векі
Словам Божым. 24 Бо кажнае це-
ла — як трава, і кажная слава —
як краса травы; трава зьвяла, і кра-
са апала; 25 Але слова Спадарова
трывае на векі. А гэта ё тое слова,
што вам абешчана.

**2** Дык, адклаўшы ўсялякае сер-
даво а ўсялякую зра́длівасьць а
двудушнасьць а за́відасьць а ўся-
лякія абмовы, 2 Як кадзе народжа-
ныя дзецяняты, жадайце чыстага
малака слова, каб ад яго расьці да
спа́сеньня; 3 Калі запраўды вы па-
спыталіся, што Спадар добры.



4 Прыступаючы да Яго, каменя
жывога, людзьмі запраўды адхіне-
нага, але Богам абранага, дарагога,
5 I самы, як жывыя камяні, збу-
дуйце дом духоўны, сьвятарства
сьвятое, абракаць духоўныя аброкі,
прыемныя Богу Ісусам Хрыстом.

6 Бо зьмешчана ў Пісьме: „Вось,
Я кладу на Сьёне вугольны камень,
абраны, дарагі, і хто вера ў яго, не
засароміцца". 7 Дык вам, вернікам,
каштоўнасьць, але непаслухменым
камень, што адхінулі будаўнічыя,
каторы стаў галавою вугла, 8 I „Ка-
меням спатыкненьня, і ска́лаю спад-
ману" тым, каторыя спатыкаюцца
на слове, будучы непаслухменыя, да
каторых яны й прызначаныя. 9 Але
вы — род абраны, каралеўскае сьвя-
тарства, народ сьвяты, люд да дзяр-
жаньня, каб вы маглі зьясьняць да-
сканальнасьць Таго, хто пагука́ў вас
із цямноты да чудоўнае сьвятліні
Свае; 10 Каторыя калісь ня люд,
але цяпер люд Божы, над каторымі
ня было зьмілаваньня, але цяпер ё
зьмілаваньне.

11 Умілава́ныя! захочую вас, як
прыходных а чужаземцаў, узьдзер-
жуйцеся ад цялесных жа́длівасьцяў,
каторыя ходаюцца з душою, 12 Па-
ступак свой меж паган маючы па-
сьцівы, каб замест тога, ідзе абмаў-
ляюць вас, як ліхадзеяў, добрыя
ўчынкі вашы бачачы, славілі Бога
ў дзень даведаньня.

13 Будзьце падданыя дзеля Спа-
дара кажнаму людзкому ўраду: ці
то каралю, як найвышшаму, 14 Ці
то дзяржаўцам, пасланым ім да пом-
сты ліхадзеям і пахвалы добра дзе-
ючым, — 15 Бо такая ё воля Божая,
каб вы, добра дзеючы, сілілі маў-
чаць дурных і нясьведамых, — 16
Як вольныя, не як маючыя свабоду
да прыкрыцьця ліха, але як нявольнікі
Божыя. 17 Усіх паважайце, бра-
цтва мілу́йце, Бога бойцеся, караля
сьціце.

18 Слугі, з усёй боязьняй слу-
хайце гаспадароў сваіх, ня толькі
добрых а рахманых, але й прыкрых.
19 Бо гэта прымальна, калі хто дзе-
ля сумленьня перад Богам вытры-
вае смутак, церпячы несправядліва.
20 Бо што за пахвала, калі, грэша-
чы, вы трываеце й кулакі? Але ка-
лі, добра робячы і церпячы, вы
трываеце, гэта прымальна Богу.

21 Бо да гэтага вы пагука́ны, бо
й Хрыстос цярпеў за вас, пакінуў-
шы вам зразу, каб вы йшлі па сьля-
дох Ягоных. 22 Ён не зрабіў ніякага
грэху, і ня было лестачкаў у вуснах
Ягоных. 23 Як на Яго выдумлялі,
Ён не выдумляў узаемна; церпячы,
не пагражаў, але перадаваў у рукі
судзячага справядліва. 24 Ён грахі
нашыя ўзьнёс целам Сваім на дзер-
ва, каб, памершы грахом, жылі дзе-
ля справядлівасьці; ранамі Ягонымі
вы ўздароўлены.

25 Бо вы былі, як авечкі заблуд-
ныя; але цяпер зьвярнуліся да Па-
стыра́ й Наглядніка душаў вашых.

**3** Таксама, жонкі, будзьце падда-
ныя мужом сваім, каб калі на-
ват некатрыя непаслухменыя Слову,
паступкам жонак сваіх былі прыд-
баваныя бяз слова, 2 Бачачы чысты
паступак вашы ў боязьні. 3 Няхай
прыборам вашым будзе не навон-
нае заплятаньне валасоў ані зала-
тыя прыборы, ані ўборы, 4 Але сха-
ваны чалавек сэрца ў непсаваль-
ным, лагоднага а рахманага духа,
дарагі перад відам Божым. 5 Бо гэ-
так некалі і сьвятыя жонкі, като-
рыя спадзяваліся на Бога, прыбіра-
ліся, будучы падданыя мужом сваім.
6 Гэтак Сорра слухала Абрагама,
завучы яго спадаром, каторай дзець-
мі вы сталі, робячы дабро і нічога
не палохаючыся.

7 Таксама, мужы, жыхарце зь імі
подле знацьця, як із слабшай жа-
ноцкай судзіною, выказуючы ім
чэсьць, як запраўды суспадкаемцам

ласкі жыцьця, каб ня былі перакажа́ны малітвы вашы.

8 Наапошку, будзьце ўсі аднае думкі, спагадлівыя, любіце братоў, міласэрныя, пакорныя. 9 Не аддавайце ліхам за ліха або лаянкаю за лаянку; але, наадварот, дабраслаўце, бо вы пагука́ны да тога, каб вам спала дабраславенства. 10 Бо „хто хоча любіць жыцьцё і бачыць добрыя дні, няхай узьдзержуе язык свой ад ліха і вусны свае, каб яны ня гу́калі падходу; 11 І няхай адвернецца ад ліха і робе дабро, няхай шукае супакою і імкнецца да яго; 12 Бо вочы Спадаровы да справядлівых, і вушы Ягоныя да малітвы іхнае, але від Спадароў супроці дзеючых ліха”.

13 І хто ўкрыўдзе вас, калі вы сталі перайманьнікамі добрага? 14 А калі й цярпіце за справядлівасьць, дык вы дабраслаўлёныя; а страху іх не лякайцеся ані парушайцеся. 15 А Спадара Хрыста сьвяціце ў сэрцах сваіх, заўсёды гатовыя да абароны ад кажнага, слова ў вас пытаючага ўзглядам надзеі вашае, з лагоднасьцяй і боязьняй. 16 Майце добрае сумленьне, каб тыя, што абмаўляюць вас, як ліхадзеяў, былі засаромлены, тыя, каторыя ганяць добры паступак ваш у Хрысту. 17 Бо, калі зьлюб волі Божай, валей цярпець за добрыя ўчынкі, чымся за благія;

18 Бо запраўды Хрыстос аднойчы памер за грахі, справядлівы за несправядлівых, каб прывесьці нас да Бога, быўшы забіты целам, але ажыўшы Духам, 19 Каторым, зышоўшы, Ён абвяшчаў духом у вязьніцы, 20 Калісь непаслухменым, як цярплівосьць Божая чакала за дзён Ноя, у часе будаваньня карабля, у каторым мала, значыцца восьмі душаў, уратаваліся ад вады.

21 Гэтак, падобны да гэтага абраза хрэст, не цялеснага бруду абмыцьцё, але абяцаньне Богу добрага сумленьня, спасае й нас цяпер ускрысеньням Ісуса Хрыста, 22 Каторы, узышоўшы на неба, ё паправе Бога; ангілы а ўлады а сілы падданы Яму.

4 Дык, як Хрыстос цярпеў за нас у целе, узбройцеся й вы тэю самаю думкаю; бо тый, што церпе ў целе, перастаець грашыць, 2 Каб засталы час у целе жыць ня подле жадлівасьцяў людзкіх, але подле волі Божае. 3 Бо досыць, што ў мінулым часе чынілі волю паган, ходзячы ў бязулстве, жадах, у ўпіваньню, гульбах, у гасьцінным п'янчаньню а забароненым балвахвалстве; 4 Затым яны дзівуюцца, блявузгаючы, затое, што вы не бяжыце зь імі ў тое самае ба́гнішча папсаванасьці. 5 Яны здадуць лічбу Гатовому судзіць жывых і мертвых. 6 Бо дзеля таго й мертвым была́ Дабравесьць абвяшчана, каб суджаны былі подле людзёў узглядам цела, але жылі подле Бога духам.

7 Але канец усяго бліжыцца. Дык будзьце цьвярозыя й чукавыя да малітваў. 8 Наўперад жа майце гарачую міласьць мяжсобку, бо міласьць пакрывае множасьць грахоў. 9 Гасьціннымі будзьце адзін да аднаго без нараканьня. 10 Служыце адзін аднаму, кажны такім дарам, які адзяржаў, як добрыя вернікі рознае ласкі Божае. 11 Калі гу́кае хто — як вяшчун Божы; калі служа хто — подле сілы, якую Бог даець, каб у вусім уславіўся Бог перазь Ісуса Хрыста, Катораму слава й магутнасьць на векі вякоў. Амін.

12 Умілава́ныя! агню дазнаньня, што лучаецца вам дзеля спробы, ня чурайцеся, як чагось дзіўнога, што прыгадзілася вам; 13 Але як вы маеце дзель у цярпеньнях Хрыстовых, раду́йцеся, каб і ў часе зьяўленьня славы Ягонае радава́цца, захапляючыся. 14 Калі вам упікаюць у імя Хрыста — дабраслаўлёныя, бо Дух славы й Дух Божы супачывае на вас.



15 Няхай ніхто з вас ня церпе запраўды, як забіўца, або злодзей, або ліхадзей, або як тый, што ўрываецца ў справы іншых людзёў; 16 А калі як хрысьцянін, няхай не сароміцца, але славе Бога за гэта. 17 Бо пара пачацца суду з дому Божага; калі ж уперад із нас, дык які канец тым, што ня слухаюць Дабравесьці Божае? 18 І калі справядлівы ледзь спасаецца, ідзе нязбожны а грэшнік зьявіцца?

19 Дык няхай і тыя, што цярпяць з волі Божае, добра робячы, паручаць душы свае вернаму Стварыцелю.

5 Старшых, што сярод вас, захочую я сустаршы а сьветка цярпеньняў Хрыстовых а ўчасьнік у славе, што мае зьявіцца: 2 Пасіце чараду Божую, што памеж вас, ня з прынукі, але самахоць, пабожаму, ня дзеля брудзянае карысьці, але рупатліва, 3 Не пануючы над спадкам, але будучы зразаю чарадзе, — 4 І як Галоўны пастыр зьявіцца, вы адзержыце нявянучы вянок славы.

5 Таксама малодшыя будзьце падданыя старшым, і ўсі карыціся адзін аднаму, бо Бог працівіцца велягурыстым, але пакорным даець ласку.

6 Дык скарыцеся пад моцную руку́ Божую, каб узьняцца ўгару; 7 Усі клопаты свае здайце Яму, бо Ён апякуецца вамі.

8 Будзьце цьвярозыя, чукавыя. Праціўнік вашы дзявал, як равучы леў, абходзе, шукаючы каго пажэрці; 9 Яму праціўцеся непахіснай вераю, ведаючы, што такіх самых цярпеньняў дазнаюць браты вашыя ў сьвеце.

10 Бог жа ўсялякае ласкі, Каторы пагука́ў вас Сам да вечнае славы Свае ў Хрысту Ісусу, калі крыху пацерпіце, учыне вас дасканальнымі, цьвярдымі, моцнымі, непахіснымі. 11 Яму слава а моц на векі вякоў. Амін.

12 Сіланом, верны братам, як думаю, напісаў я вам коратка, захочуючы й сьветчачы, што гэта праўдзівая ласка Божая, у каторай вы стаіце́.

13 Здаровае вас абраная з вамі царква, што ў Бабілёне, і Марка, сын мой.

14 Здаровайце адны адных цалаваньням любосьці.

Супакой з вамі ўсімі, каторыя ў Хрысту.

## ДРУГІ СУБОРНЫ ЛІСТ СЬВЯТОГА ПЁТРЫ АПОСТАЛА

1 Сымон Пётра, нявольнік а апостал Ісуса Хрыста, тым, што прынялі з намі аднакаштоўную веру пераз справядлівасьць Бога нашага а Спаса Ісуса Хрыста: 2 Ласка а супакой вам хай памножацца супоўным знацьцём Бога а Ісуса, Спадара нашага.

3 Як Боская сіла Ягоная дала́ нам усе, да жыцьця а набожнасьці належачае, супоўным знацьцём Таго, хто пагука́ў нас сваёй славаю й цнотаю, 4 Каторымі даў нам найвялікшыя й каштоўныя абятніцы, каб вы імі сталі ўчасьнікамі Боскае прыроды, уцекшы ад папсаванасьці, каторая на сьвеце жадою, —

5 То вы, ужыўшы да гэтага ўсю ўлегласьць, замейце да веры свае цноту, у цноце знацьцё, 6 У знацьцю ўзьдзержлівасьць, у ўзьдзержлівасьці цярплівосьць, у цярплівосьці

набожнасьць, 7 У набожнасьці брацтва, у брацтве міласьць. 8 Бо калі гэта ў вас ё і збыткуе, не бязьдзейнымі ані бясплоднымі ўчыне вас узглядам супоўнага знацьця Спадара нашага Ісуса Хрыста; 9 А ў каго няма гэтага ўсяго, тый нявісны, паніклівы і забыўся праз ачышчэньне зь пярэдніх грахоў.

10 Затым валей, браты, улягайце чыніць пагука́ньне а абраньне свае моцным, бо, чынячы гэта, ніколі не ўпадзіце́, 11 Бо гэтак шырака адчыніцца вам уход да вечнага гаспадарства Спадара нашага а Спаса Ісуса Хрыста.

12 Дзеля таго я буду заўсёды дамяняць вам праз гэта, дарма што вы зналыя і ўмацаваныя ў цяперашняй праўдзе. 13 Бо я маю за справядлівае, пакуль я ў гэтым будане, надбіць вас дамяняньням, 14 Ведаючы, што я ўборзьдзе маю пакінуць будан свой, як і Спадар наш Ісус Хрыстос паказаў імне. 15 Але я ўлягу, каб прасьле майго адходу вы таксама заўсёды прыпаміналі гэта. 16 Бо мы абясьцілі вам сілу й прыход Спадара нашага Ісуса Хрыста, ня йдучы за хітра выдуманымі байкамі, але былі́ вочнікамі Ягонае вялікасьці. 17 Бо Ён прыняў ад Бога Айца чэсьць а славу, як прышоў яму такі голас ад дасканальнае славы: „Гэта Сын Мой умілава́ны, Каторага Я ўпадабаў". 18 І гэты голас, прышлы зь нябёс, мы чулі, будучы зь Ім на сьвятой гары.

19 Ды мы маем найпэўнейшае прароцкае слова, і вы добра робіце, што зварачаецеся да яго, як да лямпы, што зьзяе ў цемным месцу аж да сьвітаньня і ўсходу дзяньніцы ў сэрцах вашых, 20 Ведаючы наўперад, што ніякае прароцтва Пісьма не залежа ад собскага выкладу. 21 Бо ніколі прароцтва ня было вымаўлена воляю людзкою, але вымаўлялі яго сьвятыя людзі Божыя, несеныя Духам Сьвятым.

**2** Былі́ й хвальшывыя прарокі сярод люду, як і запраўды сярод вас будуць хвальшывыя вучыцелі, каторыя пата́й увядуць згубныя гэрасі і Спадара, Каторы іх выкупіў, адракуцца, прыводзячы самы на сябе борздую загубу. 2 І шмат пойдзе за распустаю іхнаю, ад чаго дарога праўды будзе блявузґана. 3 І з прагавітасьці будуць таргаваць вамі выдуманымі словамі, каторых суд ня длякаецца, і загуба іхная ня дрэме.

4 Бо калі анґілаў, што ізграшылі, Бог не пашчаджаў, але ў зялезах цямноты, ськінуўшы да тартару, аддаў, дзяржаць да суду; 5 І не пашчаджаў старога сьвету, але захаваў Ноя сама восьмага, ка́заньніка справядлівасьці, навёўшы патопу на сьвет бязбожных; 6 І калі месты садомскія а гоморскія абярнуў у попел, засудзіў на абурэньне, даўшы прыкла́д тым, што жылі́ б бязбожным жыцьцём; 7 А справядлівага Лота, стамаванага паступкам самадыйных бязуляў, выбавіў, — 8 Бо гэты справядлівы, жывучы памеж іх, дзень у дзень мучыўся ў справядлівай душы, бачачы й чуючы ўчынкі бяспраўныя, —

9 Дык ведае Спадар, як выбаўляць набожных ад спакусаў і дзяржаць несправядлівых да дня суду, дзеля пакараньня, 10 І асабліва тых, што ходзяць за целам у нячыстай жадзе і грэбуюць уладаю, гарэзныя, самадыйныя і не баяцца блявузґаць на славутых, 11 Калі анґілы, вялікшыя моцай а магутнасьцяй, ня выносяць на іх перад Спадаром блявузґальнага. 12 Гэтыя ж, як неразумная жывёла прыроды, зроджаная на лаўбу́ а расклад, блявузґаючы на тое, чаго не разумеюць, у папсаванасьці сваёй запраўды папсуюцца; 13 Яны адзяржаць адплату несправядлівасьці.



Яны кажнадзеннае бязулства маюць за прыемнасьць, самы пляма а ганьба, маюць любату ў сваіх ашуках, гасьцюючы з вамі. 14 Вочы ў іх поўныя чужалоства і не астаюцца ад грэху, надзячы неўмацаваныя душы, маючы сэрца навытыранае да га́льлівасьці, сынове праклёну. 15 Пакінуўшы простую дарогу, яны заблудзілі, ідучы дарогаю Валаама Восоронка, што ўлюбіў заплату несправядлівасьці, 16 Але меў ган за сваю нягоднасьць: немая асьліца, прамовіўшы людзкім голасам, спыніла дурноту прарокі.

17 Гэта — бязводныя жаролы, булакі, гнаныя бураю, каторым цемрадзь цямноты прыгатавана на векі. 18 Бо, гу́каючы вялікія, гарынныя словы марнасьці, яны надзяць цялеснай жадою, бязулствам ледзь уцеклых ад ходзячых у ваблудзе; 19 Абяцаюць ім свабоду, прымеж тога яны самы нявольнікі папсаванасьці; бо хто кім пераможаны, тый таму й нявольнік.

20 Бо, калі, уцекшы ад брыды сьвету супоўным знацьцём Спадара а Спаса Ісуса Хрыста, ізноў блытаюцца ў ёй і перамагаюцца ёю, дык апошняе становіцца горшае за першае. 21 Валей бы ім не пазнаць дарогі справядлівасьці, чымся, супоўна пазнаўшы, адвярнуцца ад паданага ім сьвятога расказаньня. 22 Але ім прыгадзілася подле праўдзівае прыказі: сабака зварачаецца да варацакаў сваіх, і памытая сьвіньня качаецца ў балоце.

**3** Гэта ўжо другі ліст, умілава́ныя, пішу вам; і ў іх дамяне́ньням узрушаю шчырую думку вашую, 2 Каб вы памяталі словы, уперад сказаныя сьвятымі прарокамі, і расказаньне Спадара а Спаса апосталамі вашымі.

3 Наўперад ведайце, што ў вапошніх днёх прыйдуць насьміханьнікі, подле собскіх жадаў сваіх ходзячыя 4 А кажучыя: „Ідзе абятніца прыходу Ягонага? бо адгэнуль, як пачалі паміраць айцове, ад пачатку стварэньня, усе застаецца таксама".

5 Бо гэта схавана ад іх із собскае волі іхнае, што нябёсы здаўна́, а зямля, трываючы словам Божым, з вады і ў вадзе, 6 Катораю тагачасны сьвет, затоплены вадою, загінуў. 7 А цяперашнія нябёсы й зямля словам Ягоным захаваны, дзяржаны агню на дзень суду і загубы бязбожных.

8 Але няхай ня будзе схавана ад вас, умілаваныя, тое адно, што ў Спадара адзін дзень, як тысяча год, і тысяча год, як адзін дзень. 9 Не адвалакае Спадар з абятніцы, як некатрыя маюць за адвалоку, але доўга церпе нам, ня хоча, каб хтоколечы загінуў, але каб усі прышлі да ка́яты.

10 Але дзень Спадароў прыйдзе, як злодзей ночы, тады з грукатам неба мінець, і навалы, разгарэўшыся, растопяцца, і зямля і ўчынкі на ёй згараць.

11 Калі такім парадкам ўсе гэта растопіцца, дык якімі маеце быць вы ў сьвятым паступку й набожнасьці, 12 Каторыя чакаеце й барзьдзіце́ да прыходу дня Божага, з каторага прычыны нябёсы, будучы запалены, растопяцца, і навалы, угарэўшыся, растаюць? 13 Але мы, подле абятніцы Ягонае, чакаем новых нябёсаў і новае зямлі, у каторых прабывае справядлівасьць.

14 Дык умілаваныя, чакаючы гэтага, улягайце, каб бяз плямы й заганы знойдзены былі Ім у супакою; 15 І цярплівосьць Спадара нашага майце за спасеньне, як і ўмілаваны брат наш Паўла, подле данае яму мудрасьці, напісаў вам, 16 Як і ў вусіх лістох, кажучы праз тое ж, у каторых некатрыя рэчы

цяжка разумець, каторыя ненавуча-
ныя й неўмацаваныя перакручуюць,
як і засталыя Пісьмы, на собскую
згубу сваю.
17 Дык, любовыя, ведаючы гэта
наперад, сьцеражыцеся, каб, будучы
зьведзены абмылаю нягодных, вы
не адпалі ад свайго ўмацаваньня,
18 Але расьціце ў ласцы і ў знаць-
цю Спадара нашага а Спаса Ісуса
Хрыста. Яму слава цяпер і ў дзень
вечнасьці. Амін.

## ПЕРШЫ СУБОРНЫ ЛІСТ СЬВЯТОГА ЯАНА АПОСТАЛА БАГАСЛОВА

1 Праз тое, што было ад пачатку,
тое, што мы чулі, што бачылі
ачыма сваімі, да чога прыглядаліся
і да чога датыкаліся рукамі сваімі,
— праз Слова жыцьця, — 2 Бо
жыцьцё зьявілася, і мы бачылі, і
сьветчым, і абяшчаем вам гэта
жыцьцё вечнае, каторае было ў
Вайца і зьявілася нам, — 3 Праз тое,
што мы бачылі й чулі, абяшчаем
вам, каб і вы мелі ўзаем'е з намі;
а наша ўзаем'е — з Айцом а Сынам
Ягоным, Ісусам Хрыстом. 4 І гэта
пішам вам, каб радасьць вашая бы-
ла́ супоўная.
5 І гэтую ведамку, што мы чулі
ад Яго, і агалашаем вам, што Бог
ё сьвятліня, і цямноты ў Ім ані няма.
6 Калі мы скажам, што маем
узаем'е зь Ім, а ходзім у цемні, дык
мы манім і ня чынім праўды.
7 Але калі ходзім у сьвятліні, як
Ён у сьвятліні, дык маем узаем'е
адзін із адным, і кроў Ісуса Хрыста,
Сына Ягонага, ачышчае нас ад уся-
лякага грэху.
8 Калі кажам, што ня маем грэ-
ху, — ашукуем самых сябе, і праўды
няма ў нас. 9 Калі вызнаваем гра-
хі свае, дык Ён, верны а справядлі-
вы, каб даравацъ нам грахі і ачысь-
ціць нас ад усялякае несправядлі-
васьці. 10 Калі кажам, што мы не
ізграшылі, чынім Яго манюкаю, і
Слова Ягонага няма ў нас.
2 Дзеці мае! гэта пішу вам, каб
вы не грашылі; а калі б хто
ізграшыў, дык мы маем Прычынцу
перад Айцом, Ісуса Хрыста, Спра-
вядлівага. 2 І Ён залашчаньне за
грахі нашы, і ня толькі за нашы,
але й за ўсяго сьвету.
3 А што мы пазналі Яго, даве-
дуемся з тога, што дзяржым раска-
заньні Ягоныя. 4 Хто кажа: „Я
пазнаў Яго", але расказаньняў Яго-
ных не дзяржыць, тый манюка, і
няма ў ім праўды; 5 А хто дзяр-
жыць Слова Ягонае, у тым запраў-
ды любосьць Божая дасканальная:
з гэтага даведуемся, што мы ў Ім.
6 Хто кажа, што перабывае ў Ім,
мае так хадзіць, як Ён хадзіў.
7 Умілава́ныя! пішу вам ня новае
расказаньне, але расказаньне ста-
рое, каторае вы мелі ад пачатку.
Расказаньне старое ё слова, каторае
вы чулі ад пачатку. 8 Яшчэ новае
расказаньне пішу вам, праўдзівае ў
Ім і ў вас; бо цямнота мінае, а праў-
дзівае сьвятло ўжо сьвеце. 9 Хто
кажа, што ён у сьвятліні, а нена-
відзе брата свайго, тый у цямноце
дагэтуль. 10 Хто любе брата свайго,
тый перабывае ў сьвятліні, і няма
ў ім спадману; 11 А хто ненавідзе
брата свайго, тый у цямноце, і ў
цямноце ходзе, і ня ведае, куды
йдзець, бо цямнота сусьляпіла яму
вочы.
12 Пішу вам, дзеці, бо дараваны
вам грахі дзеля імені Ягонага.
13 Пішу вам, айцове, бо вы па-
зналі Таго, Каторы ёсьць ад пачат-
ку. Пішу вам, маладзёны, бо вы пе-
рамаглі злога. Пішу вам, хлопцы,
бо вы пазналі Айца.
14 Я напісаў вам, айцове, бо вы



пазналі Таго, Каторы ёсьць ад па-
чатку.
Я напісаў вам, маладзёны, бо вы
дужыя, і Слова Божае перабывае ў
вас, і вы перамаглі злога.
15 Ня мілу́йце сьвету ані тога,
што ў сьвеце: хто мілу́е сьвет, у тым
няма любові Айцоўскае; 16 Бо ўсе,
што ў сьвеце: жада́ цела а жада́
аччу а пыха жыцьцява́я, тое ня ё
ад Айца, але ад сьвету гэтага. 17 І
сьвет мінае, і жада́ ягоная, а тый,
што чыне волю Божую, трывае на
векі.
18 Дзеці! апошняя гадзіна. І як
вы чулі, што прыйдзе антыхрыст,
і цяпер зьявілася шмат антыхрыс-
таў, адгэтуль мы пазнае́м, што
апошняя гадзіна. 19 Яны вышлі ад
нас, але ня былі́ з нас; бо калі б
яны былі з нас, то напэўна заста-
ліся б з намі; але каб было выяў-
леня, што ня ўсі з нас.
20 Вы, адылі́, маеце памазаньне
ад Сьвятога і ведаеце ўсе. 21 Я на-
пісаў вам не затым, каб вы ня зналі
праўды, але што яе знаеце, і што
ўсялякая мана ня з праўды.
22 Хто маныш, калі ня тый, хто
перачыць, што Ісус ё Хрыстос? Гэ-
та — антыхрыст, што выпіраецца
Айца а Сына. 23 Кажны, хто адра-
каецца Сына, ня мае Айца; а хто
вызнавае Сына, мае й Айца.
24 Дык, што вы чулі ад пачатку,
тое няхай застаецца ў вас; калі за-
стане́цца ў вас тое, што вы чулі ад
пачатку, дык і вы застаніце́ся ў Сы-
ну а ў Вайцу. 25 А тая абятніца,
каторую абяцаў вам, ё жыцьцё веч-
нае.
26 Гэта я напісаў вам узглядам
тых, што вас зводзяць. 27 А пама-
заньне, каторае вы адзяржалі ад
Яго, трывае ў вас, і вы не патра-
буеце, каб хто-колечы вучыў вас;
але як тое самае памазаньне вуча
вас усяго, і яно праўдзівае й не-
манлівае, дык, чаго яно навучыла
вас, у тым трывайце.
28 Дык, дзеткі, трывайце ў Ім,
каб, як Ён зьявіцца, мы мелі адвагу
і не засароміліся перад Ім у часе
прыходу Ягонага. 29 А калі вы ве-
даеце, што Ён справядлівы, ведай-
це, што кажны, хто чыне справядлі-
васьць, народжаны зь Яго.
3 Глядзіце, што за міласьць даў
нам Айцец, каб нам звацца
дзецьмі Божымі, і мы імі ё. Сьвет
затым ня знае нас, што не пазнаў
Яго.
2 Умілава́ныя! мы цяпер дзеткі
Божыя; але яшчэ ня зьяўлена, што́
будзем. Ведаем толькі, што, як зья-
віцца, будзем падобныя да Яго, бо
абачым Яго, як Ён ё. 3 І кажны,
што мае гэтую надзею на Яго, ачы-
шчае сябе, як Ё чысты.
4 Кажны, хто чыне грэх, чыне
й бяспраўе; і грэх ё бяспраўе. 5 І
вы ведаеце, што Ён зьявіўся, каб
узяць грахі нашы, а ў Ім няма грэ-
ху. 6 Кажны, хто трывае ў Ім, ня
грэша; кажны, хто грэша, ня ба-
чыў Яго ані пазнаў Яго.
7 Дзеткі! няхай ня зводзе вас
ніхто. Хто чыне справядлівасьць,
тый справядлівы, як і Ён справядлі-
вы; 8 Хто чыне грэх, тый ад дзя-
вала, бо ад пачатку дзявал грэша.
Дзеля таго зьявіўся Сын Божы, каб
памярцьвіць учынкі дзявалавы.
9 Кажны, хто нарадзіўся з Бога,
ня чыне грэху, бо семя Ягонае тры-
вае ў ім; і ён ня можа грашыць,
бо народжаны з Бога. 10 Гэтым па-
казаны дзеці Божыя й дзеці дзя-
валавы: кажны, хто ня чыне спра-
вядлівасьці, ня ё з Бога, і хто ня
любе брата свайго. 11 Бо гэткая
ведамка, што вы чулі ад пачатку,
каб мы мілава́лі адно аднаго, 12 Ня
як Каін, што быў із злога і забіў
брата свайго. І чаму забіў яго? Бо
ўчынкі ягоныя былі́ нягодныя, а
брата ягонага справядлівыя.
13 Ня дзівуйцеся, браты, калі

сьвет ненавідзе вас. 14 Мы ведаем, што мы перайшлі ізь сьмерці да жыцьця, бо мілу́ем братоў; хто ня мілуе брата, трывае ў сьмерці. 15 Кажны, хто ненавідзе брата свайго, ёсьць убіўца; а вы ведаеце, што ніякі ўбіўца ня мае жыцьця, ў ім трываючага. 16 Міласьць пазналі мы з тога, што Ён аддаў за нас жыцьцё Свае: і мы маем за братоў аддаваць жыцьці свае. 17 Бо хто бы меў меньне гэтага сьвету, і бачыў брата свайго ў нудзе, і зачыніў сэрца свае перад ім, — як трывае міласьць Божая ў ім?

18 Дзеткі! мілу́йма ня словам ані языком, але ўчынкамі а праўдаю. 19 З гэтага пазна́ем, што мы з праўды, і супакоім сэрцы свае перад Ім; 20 Бо калі сэрца наша судзе нас, пагатове Бог, вялікшы за сэрца нашае і зналы ўсяго.

21 Умілава́ныя! калі сэрца наша ня судзе нас, мы маем адвагу да Бога, 22 І, чаго толькі папросім у Яго, адзяржым, бо дзяржым расказаньні Ягоныя і чынім любае перад Ім. 23 А гэта расказаньне Ягонае, каб мы верылі ў імя Сына Ягонага, Ісуса Хрыста, і мілава́лі адзін аднаго, як Ён выдаў нам расказаньне. 24 І хто дзяржыць расказаньні Ягоныя, тый трывае ў Ім, і Ён у тым. І з тога пазнае́м, што Ён перабывае ў нас, з Духа, каторага Ён даў нам.

4 Умілаваныя! ня кажнаму духу верце, але спробуйце духоў, ці ад Бога яны, бо шмат хвальшывых прарокаў зьявілася на сьвеце. 2 Духа Божага пазнавайце гэтак: кажны дух, каторы вызнавае Ісуса Хрыста, прышлага ў целе, ёсьць ад Бога; 3 А кажны дух, што не вызнавае Ісуса Хрыста, прышлага ў целе, ня ёсьць ад Бога, але гэта дух антыхрыстаў, праз каторага вы чулі, што ён прыходзе, і цяпер ёсьць ужо на сьвеце.

4 Дзеткі, вы з Бога, і перамаглі іх; бо вялікшы Тый, хто ў вас, за тога, хто на сьвеце. 5 Яны ізь сьвету, затым і гу́каюць празь сьвет, і сьвет слухае іх. 6 Мы ад Бога: хто знае Бога, слухае нас; хто ня знае Бога, ня слухае нас. З гэтага пазнае́м духа праўды й духа аблуду.

7 Умілаваныя! Мілуйма адзін аднаго, бо міласьць ад Бога, і кажны, хто мілуе, з Бога нарадзіўся й знае Бога; 8 Хто ня мілуе, тый не пазнаў Бога, бо Бог ё міласьць. 9 У тым міласьць Божая да нас аб'явілася, што Бог паслаў на сьвет адзінароджанага Сына Свайго, каб мы жылі перазь Яго. 10 У тым міласьць, ня што мы ўмілавалі Бога, але што Ён умілаваў нас і паслаў Сына Свайго на залашчаньне за грахі нашы.

11 Умілава́ныя! калі Бог так умілаваў нас, мы таксама маем мілаваць адзін аднаго. 12 Бога ніхто ніколі ня бачыў. Калі мы мілуем адзін аднаго, дык Бог перабывае ў нас, і міласьць Ягоная дасканаліцца ў нас. 13 З тога пазнаем, што мы перабываем у Ім, а Ён у нас, што Ён даў нам із Духа Свайго. 14 І мы бачылі й сьветчылі, што Айцец паслаў Сына, Спаса сьвету.

15 Хто вызнавае, што Ісус ё Сын Божы, у тым перабывае Бог, і ён у Богу. 16 І мы пазналі і ўверылі ў міласьць, каторую Бог мае да нас. Бог ё міласьць, і тый, хто трывае ў міласьці, трывае ў Богу, і Бог у ім.

17 У тым удасканальнілася міласьць у нас, каб мы мелі адвагу ў дзень суду, бо які Ён, такія мы на гэтым сьвеце. 18 Няма страху ў міласьці, але міласьць дасканальная праганяе страх, бо ў страху ё мука. Хто баіцца, тый не дасканальны ў міласьці. 19 Мы мілу́ем Яго, бо Ён уперад умілава́ў нас.



20 Калі хто кажа: „Я мілую Бога“, а брата свайго ненавідзе, тый маныш; бо калі ня любе брата свайго, каторага бача, як можа любіць Бога, Каторага ня бача? 21 І мы маем ад Яго гэтае расказаньне, каб тый, хто мілуе Бога, мілаваў і брата свайго.

5 Кажны, хто вера, што Ісус ё Хрыстос, з Бога нарадзіўся, і кажны, хто мілуе Таго, Каторы нарадзіў, мілуе й народжанага зь Яго. 2 З тога пазнае́м, што мы мілуем дзеці Божыя, калі мілу́ем Бога й дзяржым расказаньні Ягоныя. 3 Бо гэта ё міласьць Бога, каб мы дзяржалі расказаньні Ягоныя; і расказаньні Ягоныя не цяжкія. 4 Бо ўсе, што нарадзілася з Бога, перамагае сьвет; і гэта ё перамога, што перамагла сьвет, вера наша. 5 Хто перамагае сьвет, калі ня тый, хто вера, што Ісус ё Сын Божы?

6 Гэты ё Ісус Хрыстос, прышлы вадою й крывёю, не вадою адно, але вадою й крывёю; і Дух сьветча празь Яго, бо Дух ё праўда. 7 Бо тры сьветчаць на небе: Айцец, Слова а Дух сьвяты; і гэтыя тры адно. 8 І тры, што сьветчаць на зямлі: дух і вада і кроў; і гэтыя тры згодныя ў вадным.

9 Калі мы прыймаем сьветчаньне людзкое, сьветчаньне Божае — большае, бо гэта ё сьветчаньне Божае, каторым пасьветчыў праз Сына Свайго. 10 Хто вера ў Сына Божага, мае сьветчаньне ў сабе самым; хто ня вера Богу, мае Яго за маныша, бо не паверыў сьветчаньню, каторым Бог пасьветчыў праз Сына Свайго. 11 І гэта ё сьветчаньне, што Бог даў нам жыцьцё вечнае, а гэта жыцьцё ё ў Сыну Ягоным. 12 Хто мае Сына, мае жыцьцё; хто ня мае Сына, ня мае жыцьця.

13 Гэта напісаў я вам, каб вы ведалі, што вы, каторыя верыце ў імя Сына Божага, маеце жыцьцё вечнае. 14 І вось, адвага, каторую мы маем да Яго, што калі просім у Яго чаго-колечы подле волі Ягонае, Ён слухае нас; 15 А калі мы ведаем, што Ён слухае нас, чаго-колечы толькі просім, — ведаем, што адзяржым прошанае ў Яго.

16 Калі хто бача брата свайго, што грэша грэхам не да сьмерці, няхай просе, і Ён дасьць яму жыцьцё, таму, што ня грэша да сьмерці. Ё грэх да сьмерці: не праз тый кажу, каб ён маліўся. 17 Кажная несправядлівасьць ё грэх, ды ё грэх не да сьмерці.

18 Мы ведаем, што кажны, народжаны з Бога, ня грэша; але народжаны з Бога заховуе сябе, і злы не датыкаецца да яго. 19 Мы ведаем, што мы з Бога, і што ўвесь сьвет ляжыць у нягоднасьці. 20 І ведаем, што Сын Божы прышоў і даў нам розум, каб мы зналі Таго, Хто ё праўда, і мы ў Тым, Каторы праўда, у Сыну Ягоным Ісусу Хрысту: Гэты ё праўдзівы Бог і жыцьцё вечнае.

21 Дзеткі! сьцеражыцеся балвано́ў.

## ДРУГІ ЛІСТ СЬВЯТОГА ЯАНА АПОСТАЛА БАГАСЛОВА

1 Старшы — абранай спадарыні а дзеткам ейным, каторых я люблю ў праўдзе, і ня толькі я адзін, але й усі, што пазналі праўду, 2 Дзеля праўды, што трывае ў нас і будзе з намі на век: 3 Хай будзе з вамі ласка, міласэрдзе, супакой ад Бога Айца а ад Спадара Ісуса Хрыста, Сына Айцовага, у праўдзе й міласьці.

4 Я вельма ўсьцешыўся, што знайшоў зь дзетак тваіх ходзячых у

праўдзе, як мы адзяржалі расказаньне ад Айца. 5 І цяпер прашу цябе, спадарыня, не як новае расказаньне пішучы тэ, але тое, што маем ад пачатку, каб мы мілавалі адно аднаго. 6 А гэта міласьць, каб мы хадзілі подле расказаньняў Ягоных. Гэта — тое расказаньне, каторае вы чулі ад пачатку, каб хадзілі ў ім.

7 Бо шмат спадманцоў вышлі ў сьвет, яны не вызнаваюць Ісуса Хрыста, прышлага ў целе. Такі — спадманец а антыхрыст. 8 Глядзіце сябе, каб вы ня страцілі таго, над чым працавалі, але адзяржалі супоўную адплату.

9 Кажны, хто выступае і ня трывае ў навуццы Хрыстовай, ня мае Бога; хто трывае ў гэтай навуццы, мае Айца й Сына.

10 Калі хто прыходзе да вас і ня прынося гэтае навукі, ня прыймайце яго да дому і ня вецьце яго; 11 Бо хто веце яго, тый мае ўчасьце ў нягодных учынках ягоных.

12 Шмат чаго маю вам пісаць, але не хачу на паперы чэрняю, а спадзяюся прыйсьці да вас і гу́каць вуснамі да вуснаў, каб радасьць наша была супоўная.

13 Здароваюць цябе дзеткі твае абранае сястры.

## ТРЭЦІ ЛІСТ СЬВЯТОГА ЯАНА АПОСТАЛА БАГАСЛОВА

1 Старшы — любоваму Ґаю, каторага я люблю запраўды. 2 Умілава́ны! зычу, каб у вусім ты добра меўся і здаровы быў, таксама як душа твая добра маецца. 3 Бо я вельма ўсьцешыўся, як прышлі браты й пасьветчылі праўду тваю, як ты жывеш у праўдзе. 4 Імне няма большае радасьці, як чуць, што дзеці мае жывуць у праўдзе.

5 Умілаваны! верна робіш тым, што чыніш братом і падарожным, 6 Каторыя сьветчаць перад царквою празь міласьць тваю. Ты добра зробіш, калі адпусьціш іх, як годна ў Богу, 7 Бо дзеля Імені Ягонага яны пайшлі, ня ўзяўшы нічога ад паган. 8 Дык мы маем гасьцінна прыймаць таковых, каб быць супрацаўнямі праўды.

9 Я пісаў штось царкве, але Дыётрэф, каторы любе быць першым у іх, ня прыймае нас. 10 Затым, калі я прыйду, я прыпомню ўчынкі ягоныя, каторыя ён чыне, гу́каючы на нас благія словы, і, ня маючы гэтага досыць, і сам ня прыймае братоў, і тых, што хацелі б, узьдзержуе й выганяе з царквы.

11 Умілаваны! не пераймай благога, але добрае. Хто робе дабро, тый з Бога; хто робе ліха, тый ня бачыў Бога.

12 Празь Зьмітру пасьветчана ўсімі і самою праўдаю; сьветчым таксама й мы, і вы ведаеце, што сьветчаньне наша праўдзіва.

13 Шмат я меў пісаць, але не хачу пісаць да цябе чэрняю й пяром, 14 А спадзяюся ўборзьдзе бачыць цябе, і будзем мужаваць вуснамі да вуснаў.

15 Супакой табе; паздаровай прыяцеляў, паздаровай прыяцеляў на́ймя.



## СУБОРНЫ ЛІСТ СЬВЯТОГА ЮДЫ АПОСТАЛА

1 Юда, нявольнік Ісуса Хрыста, а брат Якаваў, пагука́ным, умілаваным у Богу Айцу і захаваным Ісусу Хрысту: 2 Ласка вам а супакой а міласьць няхай памножацца.

3 Умілаваныя! улегліва стараючыся напісаць вам праз наша супольнае спа́сеньне, я быў абавязаны напісаць вам захочаньне рупатліва ходацца за веру, аднойчы паданую сьвятым. 4 Бо прыцікаліся некатрыя людзі, здаўна́ наканаваныя на гэта засуджэньне, бязбожныя, каторыя абарачаюць ласку Бога нашага ў распусту і адхінаюць адзінага Валадара а Спадара нашага Ісуса Хрыста.

5 Вось жа я манюся дамяніць вам, зналым гэта, што Спадар, выбавіўшы люд ізь зямлі Ягіпецкае, потым загубіў тых, каторыя ня верылі, 6 І ангілаў, каторыя не захавалі свайго спачатнага ста́ну, але пакінулі сялібу сваю, дзяржыць у вечных путах, пад цемрадзяю, на суд вялікага дня. 7 Як Содома а Ґомора а акалічныя месты, што падобна да іх прагавіта бязулілі і хадзілі за іншым целам, падпаўшы пад суд агню вечнага, пастаноўлены як прыклад, — 8 Таксама падобна й тыя лятукі брудзяняць цела, і грэбуюць уладаю, і блявузґаюць на славутых.

9 Міхайла архангіл, як, ходаючыся зь дзявалам, сьперачаўся за цела Масеява, ня важыўся вымавіць лайлівага рассудку на яго, але сказаў: „Спадар згане цябе". 10 А гэтыя лаяць тое, чаго ня знаюць; а што з прыроды знаюць, як неразумная жывёла, тым псуюцца.

11 Бяда ім! бо пайшлі дарогаю Каінавай, і ўдаюцца ў вабмылу Валаамову за заплату, і гінуць у праціўленьню Коравым.

12 Гэт'кія бываюць ска́ламі падводнымі на вашых гасьцінах міласьці: гасьцюючы з вамі, бяз страху пасуць сябе; булакі бязводныя, ношаныя вятрамі, восенскія дзервы, бясплодныя, двойчы памерлыя, выкараненыя; 13 Шалёныя хвалі морскія, што шумуюць сорамамі сваімі, зоры блудныя, каторым захавана цемрадзь цямноты на вечнасьць.

14 Празь іх прарокаў Энох, сёмы ад Адама́, кажучы: „Вось, ідзець Спадар із мірыядамі сьвятых Сваіх, 15 Учыніць суд над усімі і вінаваць усіх бязбожных із іх за ўсі ўчынкі бязбожнасьці, каторыя яны ўчынілі бязбожна, і за ўсі каляныя словы, што мовілі на Яго бязбожныя грэшнікі".

16 Гэта мурмялі, нараканьнікі, подле сваіх жа́длівасьцяў ходзячыя, вусны іхныя вымаўляюць велягурыстыя словы, падлыгуючы асобам дзеля карысьці.

17 Але вы, умілаваныя, памятуйце словы, сказаныя наперад апосталамі Спадара нашага Ісуса Хрыста, 18 Каторыя казалі вам, што ў вапошнім часе будуць насьміханьнікі, подле сваіх собскіх жадлівасьцяў ходзячыя ў бязбожнасьці. 19 Гэта тыя, што аддзяляюць сябе, душэўныя, духа ня маючыя.

20 Але вы, умілаваныя, будуючы сябе на найсьвятшай веры сваёй, у Духу Сьвятым молячыся, 21 Захавуйце сябе ў міласьці Божай, спадзяючыся міласэрдзя ад Спадара нашага Ісуса Хрыста да вечнага жыцьця. 22 І адным, што сумляюцца, спагадайце; 23 А другіх спасайце страхам, выхапляючы з агню, ненавідзячы нават адзецьце, сплямленае целам.

24 А Таму, Каторы можа захаваць вас без спатыкненьня і паста-

навіць перад славаю Сваёй беззаганнымі з радасьцяй, 25 Адзінаму, мудраму Богу, Спасу нашаму перазь Ісуса Хрыста Спадара нашага, слава, вялічча, сіла а ўлада перш усяго веку і цяпер і на ўсі вякі. Амін.

## КНІГА АБ'ЯЎЛЕНЬНЯ СЬВЯТОГА ЯАНА БАГАСЛОВА

**1** Аб'яўленьне Ісуса Хрыста, каторае даў Яму Бог, каб паказаць слугам Сваім, што мае стацца неўзабаве. Ён жа наказаў, паслаўшы Ангілам Сваім нявольніку Свайму Яану, 2 Каторы сьветчыў слова Божае й сьветчаньне Ісуса Хрыста, — усе, што ён бачыў.

3 Дабраславёны тый, што чытае, і тыя, што слухаюць словы прароцтва гэтага й дзяржаць напісанае ў ім; бо час блізка.

4 Яан сямём цэрквам, што ўв Азі: ласка вам а супакой ад Тога, Каторы ё, і быў, і прыйдзе, і ад сямёх духоў, што перад пасадам Ягоным, 5 І ад Ісуса Хрыста, вернага сьветкі, першака зь мертвых і валадара каралёў земных. Яму, Каторы ўмілаваў нас і вывальніў нас ад грахоў нашых крывёю Сваёй, 6 І ўчыніў нас гаспадарамі і сьвятарамі Богу а Айцу Свайму, слава а сіла на векі вякоў! Амін.

7 Вось ідзець із булакамі, і кажнае вока абача Яго, і тыя, што прабалі Яго; і зазохаюць перад Ім усі плямёны зямлі. Амін.

8 „Я ё Альфа й Омэга", кажа Спадар Бог, Каторы ё, і быў, і прыйдзе, Усемагучы.

9 Я Яан, брат ваш і сябра ў ватузе і ў гаспадарстве і ў цярплівосьці Ісуса, быў на абтоку, званым Патмос, дзеля Слова Божага і дзеля сьветчаньня Ісуса. 10 Я быў у духу ў Спадароў дзень і пачуў адзаду сябе вялікі голас, бы трубны, 11 Кажучы: „Запішы, што ты бачыш, у сувой і пашлі сямём цэрквам: да Ефэсу а да Сьмірны а Пэрґаму а Тыятыры а да Сардаў а Філядэльфы а да Ляодыкі".

12 І я абярнуўся, каб бачыць голас, што казаў імне; і, абярнуўшыся, абачыў сем залатых сьветачаў 13 І, пасярод сьветачаў, падобнага да Сына людзкога, адзетага ў вадзецьце да ног, і па грудзёх ён быў палеразаўшыся залатым поясам. 14 Галава Ягоная й валасы белыя, як белая воўна, як сьнег; вочы Ягоныя, як полямя агню; 15 І ногі Ягоныя падобныя да пазорыстае медзі, бы ў печы распаленае; і голас Ягоны, як гук шмат водаў. 16 І меў у правіцы Сваёй сем зор; і з вуснаў Ягоных выходзіў абаротны войстры меч; і від Ягоны, як сонца, калі зьзяе ў сіле сваёй.

17 І як я абачыў Яго, дык паў у ногі Яму, як мертвы. І Ён паклаў на мяне правіцу Сваю, кажучы: „Не палохайся; Я першы й апошні, 18 І жывы; і быў мертвы, вось, жывы на векі вякоў; і маю ключы сьмерці й пеклы.

19 „Дык напішы, што ты бачыў, і што ё, і што будзе просьле гэтага. 20 Тайна сямёх зораў, што ты бачыў у правіцы Маёй, і сямёх залатых сьветачаў: сем зораў — гэта ангілы сямёх цэркваў; а сем сьветачаў, каторыя ты бачыў — сем цэркваў.

**2** „Ангілу царквы Ефэскае напішы: ,Гэта кажа Тый, што дзяржыць сем зораў у правіцы Сваёй, Каторы ходзе сярод сямёх залатых сьветачаў:

2 ,Знаю ўчынкі твае, і працу тваю, і трывалкосьць тваю, і тое, што ты



ня можаш цярпець благіх, і ты спрабаваў тых, што завуць сябе апосталамі, але ня ё, і знайшоў, што яны манюкі, 3 І маеш трывалкосьць, і церпіш дзеля імені Майго, і не стамаваўся. 4 Але маю супроці цябе тое, што ты пакінуў першую міласьць сваю. 5 Дык успомні, скуль ты спаў, і пакайся, і чыні першыя ўчынкі; а калі не, уборзьдзе прыйду да цябе і скрану сьветач із месца яго, хіба пакаешся. 6 Тое, адылі, ты маеш, што ненавідзіш учынкі Міколцаў, каторых і Я ненавіджу. 7 Хто мае вуха, хай чуе, што Дух кажа цэрквам: перамагаючаму дам есьці зь дзерва жыцьця, каторае ў раю Божым'.

8 „І ангілу царквы Сьмірнскае напішы: ,Гэта кажа Першы й Апошні, Каторы быў мертвы і ажыў:

9 „ ,Знаю атугу тваю а галіту (але ты багаты) а лаянку тых, каторыя кажуць празь сябе, што яны Жыды, а ня ё, але бажніца шайтанская. 10 Не лякайся нічога з тога, што маеш цярпець. Вось, дзявал укіне з вас у вязьніцу, каб выпрабаваць вас, і будзеце мець атугу дзён дзесяць. Будзь верны аж да сьмерці, і дам табе карону жыцьця. 11 Хто мае вуха, хай чуе, што Дух кажа цэрквам: хто перамагае, ніякім парадкам ня будзе пашкоджаны другой сьмерцяй'.

12 „І ангілу царквы Перґамскае напішы: ,Гэта кажа Тый, што мае абаротны войстры меч:

13 „ ,Ведаю, ідзе ты жывеш, ідзе пасад шайтана, і дзяржыш імя Мае, і ня выракся веры Мае нават у дні Анціпавы, вернага сьветкі Майго, каторы быў забіты ў вас, ідзе шайтан жыхара. 14 Але маю крыху супроці цябе, што ты маеш тых, што дзяржацца навукі Валаамовае, каторы вучыў Валака пастанавіць пасадку перад сынамі Ізраелявымі — есьці абраканае балваном і бязуліць. 15 Дык маеш і ты тых, што дзяржацца таксама навукі Міколцаў, што Я ненавіджу. 16 Дык пакайся, а калі не, уборзьдзе прыйду да цябе і буду ходацца зь імі мячом вуснаў Сваіх. 17 Хто мае вуха, няхай чуе, што Дух кажа цэрквам: перамагаючаму дам схаваную манну, і дам яму белы камень, а на камені напісанае новае імя, каторага ніхто ня ведае, адно тый, што адзержуе'.

18 „І ангілу царквы Тыятырскае напішы: ,Гэта кажа Сын Божы, у Каторага вочы, як полямя агняное, а ногі падобныя да пазорыстае медзі: 19 Знаю ўчынкі твае а міласьць а веру а службу а вытрываласьць тваю, і апошнія ўчынкі твае большыя за першыя. 20 Але маю супроці цябе, што ты дазваляеш жонцы Забэлі, каторая завець сябе пракокаю, вуча й зводзе слугаў Маіх да бязулства й яды абраканага балваном. 21 І Я даў ёй час, каб яна пакаялася зь бязулства свайго, а яна не пакаялася. 22 Вось, Я кіну яе на пасьцелю, а тых, што чужаложаць із ёю, у вялікую атугу, хіба што пакаяцца з учынкаў сваіх. 23 І дзеці ейныя заб'ю сьмерцяй, і даведаюцца ўсі цэрквы, што Я дасьлядўю ныркі й сэрцы; і дам вам кажнаму подле ўчынкаў вашых. 24 Але вам, засталым у Тыятыры, каторыя ня маюць гэтае навукі, каторыя не пазналі глыбіняў шайтанскіх, як кажуць, кажу, што не накіну на вас якога-колечы іншага цяжару; 25 Што, адылі маеце, дзяржыце, пакуль прыйду. 26 А хто перамагае й дзяржыць учынкі Мае аж да канца, таму дам уладу над народамі, 27 І ён будзе пасьціць іх прутом зялезным, як і Я адзяржаў ад Айца Сваймго; як судзьдзе ганчарскае яны паб'юцца. 28 І дам яму зорку ранічную. 29 Хто мае вуха, няхай чуе, што Дух кажа цэрквам'.

**3** „Ангілу царквы Сардзкае напішы: ‚Гэта кажа Тый, што мае сямёх духоў Божых і сем зораў: Ведаю ўчынкі твае; ты маеш імя, быццам жывы, але ты мертвы. 2 Будзь чукавы й мацні засталае, каторае ля сьмерці; бо Я не знаходжу, каб учынкі твае былі супоўныя перад Богам Маім. 3 Дык успомні, што ты прыняў і чуў, захочуй і пакайся. А калі ня будзеш чукавы, дык Я прыйду на цябе, як злодзей, і ты ніяк не даведаесься, каторае гадзіны прыйду на цябе. 4 Маеш ты, адылі, колькі йменаў у Сардах, што не забрудзянілі адзецьцяў сваіх, і будуць хадзіць з Імною ў белым, бо яны годныя. 5 Хто парамагае, тый адзенецца ў белыя адзецьці; і Я ня ізмажу імені ягонага із сувою жыцьця, і вызнаю імя ягонае перад Айцом Сваім і перад ангіламі Ягонымі. 6 Хто мае вуха, няхай чуе, што Дух кажа цэрквам'.

7 „І ангілу царквы Філядэльфскае напішы: ‚Гэта кажа Сьвяты, Праўдзівы, Каторы мае ключ Давідаў, Каторы адчыняе, і ніхто не зачыне; і зачыняе, і ніхто не адчыне: 8 Ведаю ўчынкі твае; вось, перад табою дзьверы, адчыненыя Імною, каторых ніхто ня можа зачыніць; ты мала маеш сілы, і захаваў Слова Мае, і не адрокся імені Майго. 9 Вось, Я ўчыню тым із бажніцы шайтанскае, каторыя кажуць, што яны Жыды, а ня ё, але маняць, — вось, Я ўчыню, што яны прыйдуць і паклоняцца ў ногі табе, і пазнаюць, што Я ўмілаваў цябе. 10 Як ты захаваў слова трывалкосьці Мае, Я таксама захаваю цябе ад гадзіны спробы, каторая вось, вось, мае прыйсьці на ўвесь сьвет, выпрабаваць жывучых на зямлі. 11 Я прыйду ўборзьдзе; дзяржы, што маеш, каб ніхто ня ўзяў кароны твае. 12 Хто перамагае, таго ўчыню стаўпом у доме Бога Свайго, і ён ужо ня выйдзе вонкі; і напішу на ім імя Бога Свайго й імя места Свайго, новага Ерузаліму, каторы зыходзе зь нябёс ад Бога Майго, і імя Мае новае. 13 Хто мае вуха, няхай чуе, што Дух кажа цэрквам'.

14 „І ангілу царквы Ляодыцкае напішы. ‚Гэта кажа Амін, верны а праўдзівы сьветка, пачатак стварэньня Божага: 15 Ведаю ўчынкі твае, што ты ані сьцюдзёны, ані гарачы; о каб ты быў сьцюдзёны або гарачы! 16 Затым што ты летны, а ня сьцюдзёны ані гарачы, Я выплюну цябе з роту Свайго. 17 Бо ты кажаш: „Я багаты, забагацеў і нічога не патрабую", а ня ведаеш, што ты нуднік а небарака а бедны а нявісны а голы. 18 Раджу табе купіць у Мяне золата, агнём ачышчанае, каб ты быў багаты, і белае адзецьце, каб адзецца і каб ня відаць быў сорам голасьці твае, і вочнай масьцяй намаж вочы свае, каб бачыць. 19 Я гáню а зыру толькіх, колькіх люблю. Дык будзь рупатлівы й пакайся. 20 Вось, стаю ля дзьвярэй і стукаю. Калі хто пачуе голас Мой і адчыне дзьверы, увыйду да яго і буду вячэраць із ім, і ён із Імною. 21 Хто перамагае, таму дам сесьці з Імною на пасадзе Маім, як і Я перамог і сеў з Айцом Сваім на пасадзе Ягоным. 22 Хто мае вуха, няхай чуе, што Дух кажа цэрквам' ".

**4** Просьле гэтага я глянуў, і гля, дзьверы рашчыненыя на неба, і першы голас, каторы я чуў бы гук трубы, гýкаючы з імною, сказаў: „Увыйдзі сюды, і пакажу табе, што мае стацца просьле гэтага".

2 І якга я быў у духу; і вось пасад стаіць на небе, і на пасадзе быў Седзячы; 3 І тый Седзячы выглядам быў падобны да каменя ясьпісу а сардысу; і вясёлка навокал пасаду, выглядам падобная да шмарагду.

4 І навокал пасаду дваццаць чатыры пасады; а на пасадах дваццаць чатырох старых, што сядзелі



ў белых адзецьцях, і на галавах іхных залатыя кароны.

5 І з пасаду выходзілі маланьні а галасы а пяруны, і сем лянпаў агняных гарэла перад пасадам, каторыя — сямёх духоў Божых. 6 І перад пасадам — бы мора шкляное, падобнае да крышталу;

і сярод пасаду і навокал пасаду чатыры жывыя стварэньні, поўныя вочаў сьпераду й адзаду. 7 І першае жывое стварэньне падобнае да лява, і другое жывое стварэньне падобнае да цяляці, і трэйцяе жывое стварэньне мела від, як людзіна, і чацьвертае жывое стварэньне падобнае да арла лятучага. 8 І чатыры жывыя стварэньні, — кажнае зь іх мела па шэсьць крылаў навокал, а ўнутры яны поўныя вочаў; і воддышы ня маюць удзень ані ночы, кажучы: „Сьвяты, сьвяты, сьвяты Спадар Бог Усемагучы, Каторы быў, і Каторы ё, і Каторы прыйдзе".

9 І як жывыя стварэньні ўздалі славу а чэсьць а падзяку Таму, Каторы сядзіць на пасадзе, Каторы жывець на векі вякоў, 10 Тады дваццаць чатырох старых падаюць перад Седзячым на пасадзе, і кланяюцца Таму, што жывець на векі вякоў, і кідаюць кароны перад пасадам, кажучы: 11 „Годны Ты, Спацаць чатырох старых падаюць певу а чэсьць а сілу, бо Ты стварыў усе, і ўсе з волі Твае трывае й створана".

**5** І бачыў я ў правіцы Седзячага на пасадзе сувой, запісаны ўнутры й звонку, запячатаваны сяма пячацьмі. 2 І бачыў я дужога ангіла, што агалашаў вялікім голасам: „Хто годны разьвіць гэты сувой і пакволіць пячаці яго?" 3 І ніхто ня мог на небе ані на зямлі, ані пад зямлёю разьвіць гэты сувой альбо глянуць у яго.

4 І я шмат плакаў, што нікога не знайшлося годнага разьвіць сувой або глянуць у яго. 5 І адзін із старшых кажа імне: „Ня плач; вось, леў з плямені Юдзінага, карэнь Давідаў, перамог, каб разьвіць гэты сувой і пакволіць сем пячацяў яго".

6 І глянуў я, і вось, сярод пасаду, і чатырох жывых стварэньняў, і сярод старых стаіць Баранчык бы зарэзаны, Каторы мае сем рогаў і сем ачоў, каторыя — сямёх духоў Божых, пасланых на ўсю зямлю. 7 І Ён прышоў, і ўзяў з правіцы Седзячага на пасадзе. 8 І як Ён узяў сувой, чатыры жывыя стварэньні і дваццаць чатырох старых палі перад Баранчыкам, маючы кажны гарпу і залатыя чары, поўныя кадзіла, каторыя — малітвы сьвятых.

9 І пяюць новую песьню, кажучы: „Ты годны ўзяць сувой расьпячатаваць яго, бо Ты быў зарэзаны, і крывёю сваёй выкупіў Богу з кажнага плямені, і мовы, і люду, і народу, 10 І ўчыніў іх гаспадарамі й сьвятарамі Богу нашаму; і яны будуць гаспадарстваваць на зямлі".

11 І я бачыў, і чуў голас шмат ангілаў навокал пасаду і жывых стварэньняў і старых; і лік іх быў дзесяць тысячаў дзесяцёх тысячаў і тысячы тысячаў, 12 Каторыя казалі вялікім голасам: „Годны Баранчык зарэзаны прыняць сілу а багацьце а мудрасьць а моц а чэсьць а славу а дабраславенства!"

13 І кажнае стварэньне, што на небе і на зямлі, і пад зямлёю, і на мору, і ўсе, што ў іх, я чуў, казала: „Седзячаму на пасадзе а Баранчыку дабраславенства а чэсьць а слава а моц на векі вякоў".

14 І чатыры жывыя стварэньні сказалі: „Амін". І старыя палі й пакланіліся.

**6** І я бачыў, як Баранчык зьняў першую із сямёх пячацяў, і я пачуў адно з чатырох стварэньняў, што, бы голасам грому, сказала: „Падыйдзі й глянь!" 2 І я глянуў,

і вось, конь белы, і на ім коньнік із
лукам, і дáна былá яму карона;
і вышаў ён пераможны, і каб пера-
магаць.

3 І як Ён зьняў другую пячаць,
я чую другое жывое стварэньне,
што казала: „Падыйдзі й глянь!”
4 І вышаў другі конь, руды; і конь-
ніку, што сядзеў на ім, дана ўзяць
супакой із зямлі, каб забівалі адзін
аднаго; і даны яму вялікі меч.

5 І як ён зьняў трэйцюю пячаць,
я чуў трэйцяе жывое стварэньне,
што казала: „Падыйдзі й глянь!” І
я глянуў, і вось, конь вараны, і на
ім коньнік із вагою ў руццэ сваёй.
6 І чуў я голас пасярод чатырох
жывых стварэньняў, што казалі:
„Карэц пшонкі за дынар, і тры кар-
цы ячменю за дынар; аліве ж а ві-
ну ня шкодзь”.

7 І як Ён зьняў чацьвертую
пячаць, я пачуў голас чацьвертага
жывога стварэньня, што казала:
„Падыйдзі й глянь!” 8 І я бачыў,
і вось, конь палавы, і на ім коньнік,
імя ягонае сьмерць; і пекла ішла
за ім, і дана ім улада над чэцьвер-
цяй зямлі — забіваць мячом і гала-
доўю, і сьмерцяй, і зьвярамі зем-
нымі.

9 І як Ён зьняў пятую пячаць, я
абачыў пад аброчнікам душы забі-
тых за слова Божае а за сьветчань-
не, каторае сьветчылі. 10 І загаласі-
лі яны вялікім голасам, кажучы:
„Пакуль, Валадáру, сьвяты а праў-
дзівы, ня судзіш і ня імсьціш жы-
вучым на зямлі за кроў нашую?”

11 І даны былі кажнаму зь іх
адзецьці белыя, каб яны супакоіліся
яшчэ на малы час, пакуль супра-
цаўні іхныя а браты іхныя, като-
рыя будуць забіты, дапоўняць.

12 І я глянуў, як ён зьняў шостую
пячаць, і сталася вялікае трасеньне
зямлі, і сонца сьцямнела, як зрэб-
ніна, і месяц стаў, як кроў; 13 І
гвезды нябёсныя палі на зямлю, як
фіґа, трэсеная вялікім ветрам, стра-
сае нясьпелыя фіґі свае; 14 І неба
зьвілося, бы сувой зьвіваецца; і ка-
жная гара й абток скрануліся зь
месцаў сваіх.

15 І каралёве земныя, і вялікія,
і тысячнікі, і багатыя, і дужыя, і
кажны нявольнік, і кажны вольнік
схаваліся ў пячоры і ў скáлы го-
раў; 16 І кажуць горам а скáлам:
„Зваліцеся на нас і закрыйце нас ад
віду Седзячага на пасадзе і ад гне-
ву Баранчыкавага”; 17 Бо прышоў
вялікі дзень гневу Ягонага, і хто
можа вытрываць?

7 І просьле гэтага бачыў я чаты-
рох ангілаў, што стаялі на ча-
тырох рагох зямлі, дзяржалі чаты-
ры вятры земныя, каб ня веяў ве-
цер на зямлю ані на мора, ані на
якое дзерва. 2 І бачыў я іншага ан-
гіла, што ўзыходзіў ад усходу сонца
і меў пячаць Бога жывога. І гукнýў
ён вялікім голасам да чатырох ангі-
лаў, каторым дана шкодзіць зямлі й
мору, 3 Кажучы: „Ня шкодзьце зям-
лі ані мору, ані дзервам, пакуль не
пазначым пячацяй на чолах слугаў
Бога нашага!”

4 І чуў я лік пазначаных пячацяй
з кажнага плямені сыноў Ізраеля-
вых, сто сорок чатыры тысячы паз-
начаных пячацяй. 5 З плямені Юдзі-
нага пазначана пячацяй двананцаць
тысячаў; з плямені Рувінавага —
двананцаць тысячаў; з плямені Га-
давага — двананцаць тысячаў; 6 З
плямені Ашэравага — двананцаць
тысячаў; з плямені Неффалімовага
— двананцаць тысячаў; з плямені
Манасавага — двананцаць тысячаў;
7 З плямені Сымонавага — дванан-
цаць тысячаў; з плямені Левага —
двананцаць тысячаў; з плямені Ісса-
харовага — двананцаць тысячаў; 8 З
плямені Завулонавага — дванан-
цаць тысячаў; з плямені Язэпавага
— двананцаць тысячаў; з плямені



Веняміновага — двананцаць тыся-
чаў пазначаных пячацяй.

9 Просьле гэтага глянуў я, і гля,
вялікі груд, каторага ніхто ня мог
зьлічыць, з усіх народаў а пляменаў
а людаў а моваў стаяў перад паса-
дам а перад Баранчыкам у белых
адзецьцях і з пальмовымі галузкамі
ў руках сваіх. 10 І гукáлі вялікім
голасам, кажучы: „Спáсеньне Богу
нашаму, што сядзіць на пасадзе,
і Баранчыку!”

11 І ўсі ангілы стаялі навокал па-
саду і старых і навокал жывых
стварэньняў, і палі перад пасадам
на відзеньні свае, і пакланіліся Бо-
гу, 12 Кажучы: „Амін! дабрасла-
венства а слава а мудрасьць а па-
дзяка а чэсьць а сіла а моц Богу
нашаму на векі вякоў. Амін”.

13 І адзін із старых сказаў імне:
„Гэтыя, адзеўшыся ў белыя адзець-
ці, хто і скуль прышлі?” 14 І я
сказаў яму: „Ведаеш, спадáру мой”.
І ён сказаў імне: „Гэта тыя, што
прышлі зь вялікае атугі, і абмылі
адзецьці свае, і выбялілі ў крыві Ба-
ранчыкавай. 15 За тое яны перад
пасадам Божым і служаць Яму
дзень і ноч у доме Ягоным; і Тый,
што сядзіць на пасадзе, разапнець
будан Свой над імі. 16 Яны ня бу-
дуць ужо прагнуць ані сьмягнуць,
і ня будзе пячы іх сонца і ніякі вад;
Бо Баранчык, што сярод пасаду,
будзе пасьціць іх, павядзець із да
жаролаў жывое вады, і абатрэць
Бог кажную сьлізу з ачоў іхных.

8 І як Ён зьняў сёмую пячаць, ста-
лася маўчанка на небе каля паў
гадзіны. 2 І я бачыў сямёх ангілаў,
што стаялі перад Богам, і дана ім
сем трубаў. 3 І прышоў іншы ан-
гіл, і стаў перад аброчнікам, маючы
залатую кадзільніцу; і дана яму
шмат кадзіла, каб да малітваў усіх
сьвятых ён дадаў на залаты аброч-
нік, што перад пасадам. 4 І ўзьняў-
ся перад Богам дым із кадзіла з ма-
літваю сьвятых із рукі ангілавае.
5 І ўзяў ангіл кадзільніцу, і напоў-
ніў яе агнём із аброчніка, і кінуў
на зямлю: і зьдзеяліся галасы а
громы а маланьні і трасеньне зямлі.

6 І сямёх ангілаў, што мелі сем
трубаў, прыгатаваліся трубіць.

7 І першы затрубіў, і стаўся град
і агонь, зьмешаныя з крывёй, і былі
кінены на зямлю; і трэйцяя часьць
зямлі згарэла, і трэйцяя часьць дзер-
ваў згарэла, і ўся зялёная трава
згарэла.

8 І другі ангіл затрубіў, і быццам
вялікая гара, агнём палаючая, ські-
нулася ў мора; і трэйцяя часьць мо-
ра стала крывёю, 9 І здохла трэй-
цяя часьць жывых стварэньняў, ка-
торыя ў мору, і трэйцяя часьць ка-
раблёў была зьнішчана.

10 І трэйці ангіл затрубіў, і звалі-
лася зь неба вялікая гвязда, гаручы
як лянпа, і пала на трэйцюю часьць
рэкаў а на жаролы водаў. 11 А імя
тае гвязды Палын; і трэйцяя часьць
водаў стала палыном, і шмат із лю-
дзёў памерла з водаў, бо яны сталі
гаркія.

12 І чацьверты ангіл затрубіў, і
выцята была трэйцяя часьць сонца,
і трэйцяя часьць месяца, і трэйцяя
часьць гвездаў, ажно трэйцяя часьць
іх зацьмела, і трайціна дня не сьвя-
ціла, таксама й ночы.

13 І бачыў я і чуў аднаго арла,
што ляцеў сярод неба й казаў вялі-
кім голасам: „Бяда, бяда, бяда тым,
што жывуць на зямлі, ад засталых
трубных галасоў трох ангілаў, като-
рыя будуць трубіць!”

9 І пяты ангіл затрубіў, і я аба-
чыў гвяздý, палую зь неба на
зямлю, і даны быў ёй ключ бяздонь-
ня. 2 І яна адчыніла яму бяздоньня,
і вышаў дым із ямы, як дым із
вялікае печы; і сонца і паветра
сьцямнелі ад дыму ямы.

3 І з дыму вышла шаранча на
зямлю, і дáна ёй улада, якую маюць

земныя скорпіёны. 4 І сказáна было ёй, каб ня шкодзіла земнай траве ані якому зяленіву, ані дзервам, адно людзём, каторыя ня маюць пячаці на чолах сваіх. 5 І дана ёй не забіваць іх, адно мучыць пяць месяцаў; і мучэньне ад іх, як мучэньне ад скорпіёна, як укусе людзіну́. 6 І тых дзён людзі будуць шукаць сьмерці, але ніяк ня знойдуць яе; і захочуць памерці, але сьмерць уцячэць ад іх.

7 І выгляд шаранчы, як коні, прыгатаваных на вайну; і на галавах у яе быццам вянкі, падобныя да залатых, віды ж ейныя — як віды людзкія; 8 І валасы ў іх — як валасы ў жанок, а зубы ў іх былí, як у лявоў. 9 На іх былі панцыры, як панцыры зялезныя, а шум ад крыльля іхнага, як грукат ад цялежак, калі шмат коні бяжыць на вайну.

10 І ў іх былі хвасты, як у скорпіёнаў, і жыгалы; улада ж іхная ў хвастох іхных — раніць людзёў пяць месяцаў. 11 Каралём над сабою мелі яны ангіла бяздоньня; імя ягонае пагэбрэйску Аваддон, а пагрэцку Аполён. 12 Першая бяда мінула; вось, ідуць за гэтай яшчэ дзьве бяды.

13 І шосты ангіл затрубіў, і я пачуў адзін голас ад чатырох рагоў залатога аброчніка, што перад Богам, 14 Каторы казаў шостаму ангілу, што меў трубу: „Вывальні чатырох ангілаў, зьвязáных ля вялікае ракі Еўфрату". 15 І вывальнены былі чатыры ангілы, прыгатаваныя на гадзіну а дзень а месяц а год, каб забіць трайціну людзёў. 16 Лік коннага войска быў двойчы дзесяць тысячаў дзесяцёх тысячаў; і я чуў лік яго.

17 Гэтак відзеў я ў ві́дзені коні і на іх коньнікаў, што мелі на сабе панцыры агняныя а гіяцынтавыя а серкавыя; галавы ў коні, як у лявоў, і з роту ў іх выходзіў агонь а дым а серка.

18 Гэтымі трыма болькамі, агнём а дымам а серкаю, што выходзілі з роту ў іх, была забіта трайціна людзёў; 19 Бо сіла коняў у роце ў іх і ў хвастох у іх; а хвасты іхныя падобныя да гадаў, і мелі галавы, і імі яны шкодзілі.

20 Засталыя ж людзі, што ня былí забіты гэтымі болькамі, не пакаяліся з учынкаў рук сваіх, каб ня кланяцца нячысьцікам, і залатым, і срэбным, і бранзовым, і камéнным, і дзярвяным балваном, каторыя ня могуць бачыць ані чуць, ані хадзіць. 21 І не пакаяліся яны з убіўстваў сваіх ані з чараў сваіх, ані з блудства свайго, ані із зладзейства свайго.

**10** І бачыў я другога ангіла дужога, што зыходзіў зь неба, будучы адзеўшыся булаком, і над галавою ў яго былá вясёлка, і від ягоны, як сонца, і ногі ягоныя, як стаўпы агняныя; 2 І меў у руцэ сваёй сувойчык разьвіты. І пастанавіў ён правую нагу сваю на мора, а левую на зямлю, 3 І гукнуў вялікім голасам, як равець леў; і як ён гукну́ў, тады сем громаў прамовілі галасамі сваімі.

4 І як сем громаў прамовілі, я вось, зьбіраўся пісаць; але пачуў голас із неба, што казаў: „Запячатуй, што прамовілі сем громаў, і ня пішы гэтага".

5 І ангіл, што я бачыў, як стаяў на мору й на зямлі, падняў правіцу сваю да неба 6 І прысягаў на Жывучага на векі вякоў, Каторы стварыў неба й тое, што на ім, і зямлю й тое, што на ёй, і мора й тое, што ў ім, што балей адвалокі ня будзе; 7 Але ў днёх голасу сёмага ангіла, як ён затрубе, зьдзеецца тайна Божая, як Ён абясьціў Добрую навіну слугам Сваім, прарокам.

8 І тый голас, што я чуў зь неба,



ізноў гутарыў з імною, і сказаў: „Ідзі, вазьмі разьвіты сувой з рукі ангіла, каторы стаіць на мору і на зямлі". 9 І я пайшоў да ангіла, і сказаў яму: „Дай імне гэты сувойчык". І ён кажа імне: „Вазьмі й зьеж яго; ён будзе гаркí ў жываце тваім, але ў роце тваім будзе салодкі, як мёд".

10 І ўзяў я сувойчык із рукі ў вангіла, і зьеў яго; і ён у роце маім быў, як мёд салодкі; як жа я ізьеў яго, горка стала ў жываце маім. 11 І сказаў ён імне: „Ты маеш ізноў праракаць людам а народам а мовам а шмат якім каралём".

**11** І дана імне трысьцінá, падобная да прута, і сказáна: „Устань, і памерай дом Божы а аброчнік, і тых, што кланяюцца ў ім. 2 А навонны панадворак дому Божага вылуч і ня мерай яго, бо ён даны паганам: яны будуць таптаць сьвятое месца сорак два месяцы. 3 І дам сілу двум сьветкам Сваім, і яны будуць праракаць тысяча дзьвесьце шасьцьдзясят дзён, адзеўшыся ў зрэбніну".

4 Гэта дзьве аліўкі й два сьветачы, каторыя стаяць перад Богам зямлі. 5 І калі хто захоча ім шкодзіць, дык агонь выйдзе з роту ў іх і пажарэць нéпрыяцеляў іхных; калі хто захоча ім шкодзіць, гэтак мае быць забіты.

6 Яны маюць уладу зачыніць неба, каб дождж ня йшоў на зямлю за дзён прараканьня іхнага; і маюць уладу над водамі — абарачаць іх у кроў і рáзіць зямлю ўсялякай болькаю, колькі разоў захочуць.

7 І як скончаць яны сьветчаньне свае, зьвер, каторы выходзе зь бяздоньня, будзе ваяваць із імі, і пераможа іх, і заб'ець іх, 8 І трупы іхныя будуць на вуліцы вялікага места, каторае духоўна завецца Содома й Ягіпет, ідзе й Спадар нашы ўкрыжаваны. 9 І зь людаў а плямёнаў а языкоў а народаў будуць глядзець на трупы іхныя тры дні з палавіцаю, і не дазволяць пакласьці трупы іхныя да грабоў. 10 І жывучыя на зямлі будуць цешыцца з гэтага а весяліцца, і пашлюць дары адны адным, бо гэтыя два прарокі мучылі жывучых на зямлі.

11 Але просьле трох дзён із палавіцаю ўвыйшоў у іх ад Бога дух жыцьця, і яны сталі на ногі свае, і вялікі страх напаў на тых, каторыя глядзелі на іх. 12 І я пачуў вялікі голас із неба, што казаў ім: „Увыйдзіце сюды". І яны ўзышлі на неба ў булаку; і глядзелі на іх нéпрыяцелі іхныя.

13 І тае ж гадзіны зьдзеялася вялікае трасеньне зямлі, і дзясятая часьць места пала, і сем тысячаў імёнаў людзкíх было забіта ў тым землятрасеньню; і засталыя працяты былí жахам, і ўздалí славу Богу нябёснаму.

14 Другая бяда мінула; вось, ідзець уборзьдзе трэйцяя бяда.

15 І сёмы ангіл затрубіў, і разьляглíся на небе вялікія галасы, кажучы: „Гаспадарства сьвету сталася Спадара нашага а Хрыста Ягонага, і будзе гаспадарстваваць на векі вякоў.

16 І дваццаць чатырох старых, што сядзелі на пасадах сваіх перад Богам, палі на віды свае й пакланіліся Богу, 17 Кажучы: „Дзякуем Табе, Спадáру Божа Ўсемагучы, Каторы ёсьць і быў, што Ты прыняў вялікую сілу Сваю і загаспадарстваваў. 18 І ўзлаваліся народы; і прышоў гнеў Твой, і пара судзіць мертвых, і даць адплату слугам Тваім прарокам а сьвятым а тым, што баяцца імені Твайго, малым і вялікім, і загубіць тых, што губілі зямлю".

19 І рашчыніўся дом Божы на небе, і відаць скрыня ўмовы Ягонае ў доме Ягоным; і сталіся маланьні а

галасы а громы а трасеньне зямлі а вялікі град.

12 І вялікі знак быў відаць на небе: жонка, адзеўшыся ў сонца; і пад нагамі ейнымі месяц, і на галаве ў яе карона з дванаццёх гвездаў. 2 І, будучы ўцяжку, яна крычэла ў трудненьню, у болю раджэньня.

3 І другі знак быў відаць на небе: вось, вялікі чырвоны смок із сяма галавамі і дзесяцьма рагамі, і на галавах у яго сем дыядэмаў; 4 І хвост ягоны павалок із неба трайціну гвездаў і кінуў іх на зямлю.

І смок гэты стаў перад жонкаю, каторая мела радзіць, каб, як яна народзе, зжэрці дзецянё ейнае.

5 І нарадзіла яна хлопчыка, каторы меў па́сьціць усі народы зямлі прутом зялезным, і ўхоплена было дзецянё ейнае да Бога й пасаду Ягонага. 6 А жонка ўцякла на пустыню, ідзе Бог прыгатаваў ёй месца, каб яны жывілі яе там тысяча дзьвесьце шасьцьдзясят дзён.

7 І зьдзеялася на небе вайна: Міхайла а ангілы ягоныя ваявалі із смокам, і смок і ангілы ягоныя ваявалі. 8 І ён не перамог, і не знайшлося ўжо месца іхнага на небе. 9 І ськінены быў на зямлю вялікі смок, старавечны гад, званы дзявалам а шайтаном, каторы зводзіў увесь сьвет, ськінены на зямлю, і ангілы ягоныя ськінены зь ім.

10 І чуў я вялікі голас на небе, каторы казаў: „Цяпер настала спа́сеньне а магутнасьць а гаспадарства Бога нашага а ўлада Хрыста Ягонага, бо ськінены вінаваньнік братоў нашых, каторы вінаваў іх перад Богам нашым дзень і ноч; 11 І яны перамаглі яго крывёю Баранчыкавай і словам сьветчаньня свайго, і ня ўмілавалі жыцьця свайго аж да сьмерці. 12 Дык весяліцеся нябёсы і жыхарачыя на іх! Бяда зямлі й мору, бо дзявал зыйшоў да вас у вялікай злосьці, ведаючы, што мала ў яго часу!"

13 Як смок абачыў, што ськінены на зямлю, пачаў перасьледава́ць жонку, каторая нарадзіла мужчыну. 14 І да́ны былі́ жонцы два крылы вялікага арла, каб яна ляцела ад віду гадавага на пустыню на свае месца, і йдзе яе жывілі б час а часы а поў часу.

15 І пусьціў гад із ляпы свае за жонкаю ваду, як раку, каб захапіць яе ракою. 16 Але зямля памагла жонцы, і рашчыніла зямля вусны свае, праглынула раку, што пусьціў смок із ляпы свае. 17 І ўзлаваўся смок на жонку, і пайшоў ваяваць із засталымі ад семені ейнага, каторыя захоўваюць расказаньні Божыя і маюць сьветчаньне Ісусава.

13 І стаў я на пяску морскім, і абачыў выходзячага з мора зьвера зь дзесяцьма рагамі й сяма галавамі; на рогах у яго было дзесяць дыядэмаў, а на галавах ягоных імёны блявузгальныя. 2 І зьвер, каторага я бачыў, быў падобны да рыся; ногі ў яго — як у медзьвядзя, а ляпа ў яго — як ляпа ў льва; і даў яму смок магутнасьць сваю і пасад свой і вялікую ўладу. 3 І бачыў я, што адна з галоў ягоных быццам зьбіта была́ на сьмерць, але гэтая сьмяротная рана выгаілася. І дзівавалася ўся зямля, сочачы зьвера; 4 І пакланіліся смоку, бо ён даў уладу зьверу, і пакланіліся зьверу, кажучы: „Хто падобны да зьвера гэтага? і хто можа ваяваць із ім?"

5 І дана была яму ляпа, што гу́кала вялічча а блявузганьні, і дана яму ўлада дзеяць сорак два месяцы. 6 І разявіў ён ляпу да блявузганьня на Бога, блявузгаць на імя Ягонае, і на вітальню Ягоную, і на жыхарачых на небе. 7 І дана было яму ваяваць із сьвятымі і перамагчы іх; і дана была́ яму ўлада над кажным племям а людам а моваю а народам.



8 І пакланяцца яму ўсі жывучыя на зямлі, каторых імёны не напісаныя ў кнізе жыцьця ў Баранчыка, забітага ад закладзінаў сьвету. 9 Хто мае вуха, няхай чуе. 10 Хто вядзець у палон, тый ідзець у палон; хто мячом забівае, тый мае быць забіты мячом. Тут трывалкосьць і вера сьвятых.

11 І бачыў я другога зьвера, што выходзіў із зямлі; ён меў два рагі, падобныя да Баранчыкавых, і гу́каў як смок. 12 І ён дзее з усёй уладаю першага зьвера перад ім, і чыне, што зямля і жывучыя на ёй кланяюцца першаму зьверу, у каторага сьмяротная рана выгаілася. 13 І чыне вялікія знакі, ажно агонь зводзе зь неба на зямлю перад людзьмі. 14 І зводзе жывучых на зямлі знака́мі, каторыя дана яму чыніць перад зьверам, кажучы жывучым на зямлі зрабіць абраз зьвера, што мае рану ад мяча, але ажыў.

15 І дана было яму даць дух у вабраз зьвера, каб абраз зьвераў гу́каў і чыніў так, каб кажны, хто ня будзе кланяцца абразу зьвера, быў забіваны.

16 І ён учыне, што ўсім — малым і вялікім, багатым і ўбогім, вольнікам і нявольнікам — зроблены быў знак на правай руцэ іхнай альбо на чале іхным, 17 І што нікому ня можна будзе купляць альбо прадаваць, апрача тога, хто мае знак імені зьвярынага альбо лік імёнаў ягоных.

18 Тут мудрасьць. Хто мае розум, палічы лік зьвера, бо гэта лік людзкі. Лік ягоны шасьцьсот шасьцьдзясят шэсьць.

14 І глянуў я, і вось, Баранчык стаіць на гары Сыёне, і зь Ім сто сорак чатыры тысячы, што маюць імя Ягонае а імя Айца Ягонага, напісаныя на чолах сваіх. 2 І пачуў я голас із неба, як шум ад шмат водаў і як гук вялікага грому; і пачуў гук гарпістых, што граюць на гарпах сваіх,

3 І пяюць новую песьню перад пасадам, і перад чатырма жывымі стварэньнямі, і перад старымі; і ніхто ня мог наўчыцца гэтае песьні, апрача гэтых сту сораку чатырох тысячаў, выкупленых із зямлі. 4 Гэта тыя, што не забрудзяніліся із жанкамі, бо яны дзявушчыя; гэта тыя, што йдуць за Баранчыкам, куды-колечы Ён ідзець. Яны выкупленыя зь людзёў, як першакі Богу а Баранчыку. 5 І ў вуснах іхных няма маны; яны беззаганныя.

6 І абачыў я другога ангіла, што ляцеў па сярэдзіне неба, каторы меў вечную Евангелю, каб абвяшчаць жыхарачым на зямлі а кажнаму народу а племені а мове а люду; 7 І казаў ён вялікім голасам: „Бойцеся Бога і ўздайце Яму славу, бо настала гадзіна суду Ягонага, і пакланіцеся Таму, Каторы ўчыніў неба і зямлю, і мора, і жаролы водаў!"

8 І іншы, другі ангіл ляцеў за ім, кажучы: „Паў, паў Бабілён, места вялікае, каторы шалёным віном бязулства свайго напаіў усі народы".

9 І іншы, трэйці ангіл ляцеў за імі, кажучы вялікім голасам: „Хто паклоніцца зьверу й абразу ягонаму і прыйме знак на чало свае або на рукў сваю, 10 Тый таксама будзе піць віно гневу Божага, прыгатаванае нязьмешаным у чары гневу Ягонага, і будзе мучаны ў вагню а серцы перад сьвятымі ангіламі а перад Баранчыкам; 11 І дым мукі іхнае будзе ўзыходзіць на векі вякоў, і ня будуць мець воддышы ўдзень ані ночы, каторыя кланяюцца зьверу й абразу ягонаму, і калі хто прыйме знак імені ягонага". 12 Тут трывалкосьць сьвятых, каторыя дзяржаць расказаньні Божыя і веру ў Ісуса.

13 І пачуў я голас із неба, што казаў: „Напішы: Адгэтуль дабраславёныя мертвыя, каторыя паміраюць у Спадару". „Запраўды, кажа Дух, што яны супачынуць ад працаў сваіх, і ўчынкі іхныя йдуць за імі".

14 І глянуў я, і вось, сьветлы булáк, і на булаку сядзіць падобны да Сына Людзкога; на галаве ў яго залатая карона, і ў руцэ ў яго войстры серп. 15 І вышаў іншы ангіл із дому Божага, і гукнуў вялікім голасам да седзячага на булаку: „Пусьці серп свой і пажні, бо прышла пара жніва, бо жніво на зямлі насьпела!" 16 І пусьціў седзячы на булаку серп свой на зямлю, і зямля была пажата.

17 І іншы ангіл вышаў з дому Божага, што на небе, так сама з войстрым сярпом. 18 І іншы ангіл, што меў уладу над агнём, вышаў з аброчніка і вялікім голасам гукнуў да маючага войстры серп, кажучы: „Пашлі войстры серп свой і абрэж гранкі віна на зямлі, бо насьпелі на ім ягады!"

19 І пусьціў ангіл серп свой на зямлю, і зьбер віно із зямлі, і кінуў у вялікую вінную таўчэльню гневу Божага. 20 І вінная таўчэльня была тоўчана вонках места, і вышла кроў з таўчэльні аж да аброцяў конскіх на тысяча шасьсот гоняў.

**15** І бачыў я іншы знак на небе, вялікі й чудоўны — сямёх ангілаў, каторыя мелі сем апошніх боляк, бо імі канчаўся гнеў Божы.

2 І бачыў я быццам шкляное мора, зьмешанае з агнём; і тыя, што перамаглі зьвера, і абраз ягоны, і знак ягоны, і лік імёнаў ягоных, стаяць на гэтым шкляным мору, дзержачы гарпы Божыя, 3 І пяюць песьню Масеяву, нявольніка Божага, і песьню Баранчыкаву, кажучы: „Вялікія а чудоўныя ўчынкі Твае, Спадáру Божа Ўсемагучы! справядлівыя а праўдзівыя дарогі Твае, Каролю народаў! 4 Хто не збаіцца Цябе, Спадáру, і ня ўславе імені Твайго? бо Ты адзіны сьвяты, бо ўсі народы прыйдуць і паклоняцца перад Табою, бо зьявіліся суды Твае".

5 І просьле гэтага я глянуў, і вось, адчыніўся дом вітальні сьветчаньня на небе. 6 І вышла з дому сямёх ангілаў, што мелі сем болькаў, адзеўшыся ў чыстую сьветлую ляньніну і паперазаўшыся па грудзёх залатымі паясамі.

7 І адно з чатырох жывых стварэньняў дало сямём ангілам сем залатых чараў, поўных гневу Бога, Каторы жывець на векі вякоў. 8 І напоўніўся дом дымам ад славы Божае і ад сілы Ягонае, і ніхто ня моґ увыйсьці да дому, пакуль ня скончацца сем болькаў сямёх ангілаў.

**16** І пачуў я вялікі голас із дому, што казаў сямём ангілам: „Ідзіце й выліце сем чараў гневу Божага на зямлю". 2 І пайшоў першы ангіл, і выліў чару сваю на зямлю: і выніклі нягодныя а шкодныя раны на людзёх, што мелі знак зьвераў і кланяліся абразу ягонаму.

3 І другі выліў чару сваю ў мора: і сталася кроў, як мерцьвяка, і ўсе жывое памерла ў мору.

4 І трэйці выліў чару сваю ў рэкі а ў жаролы водаў: і сталася кроў. 5 І пачуў я ангіла водаў, каторы казаў: „Справядлівы Ты, Спадáру, Каторы ёсьць і быў, сьвяты, што рассудзіў так. 6 За тое, што яны разьлілí кроў сьвятых а пракокаў, Ты даў ім піць кроў: яны вартыя". 7 І пачуў я, што аброчнік казаў: „Запраўды, Спадару, Божа Ўсемагучы, праўдзівыя а справядлівыя суды Твае".

8 І чацьверты выліў чару сваю на сонца: і дана было яму паліць людзёў цяплом. 9 І людзі былí палены вялікім вадам; і блявузґалі на



імя Божае, Каторы меў уладу над гэтымі болькамі, і не пакаяліся, каб уздаць Яму славу. 10 І пяты выліў чару сваю на пасад зьвераў: і стала гаспадарства ягонае хмарнае, і з болю яны кусалі языкі свае, 11 і з боляў сваіх і ад болькаў сваіх блявузґалі на Бога нябёснага; і не пакаяліся з учынкаў сваіх.

12 І шосты выліў чару сваю на вялікую раку Еўфрат: і высахла вада ў ёй, каб прыгатавана былá дарога каралём ад усходу сонца. 13 І бачыў я выходзячых із ляпы смокавае, і зь ляпы зьверавае, і з роту хвальшывага прарокі трох духоў нячыстых, бы жабы; 14 Бо яны духі нячысьцікавы, што чыняць знакі; яны выходзяць да каралёў усяго сьвету, каб зьберці іх на вайну таго вялікага дня Бога Ўсемагучага. 15 „Гля, прыходжу, як злодзей: дабраславёны, хто чукавы і сьцеражэць адзецьці свае, каб не хадзіў голы і каб не абачылі сораму ягонага". 16 І ён зьбер іх на месца, званае пагэбрэйску Армаґедон.

17 І сёмы выліў чару сваю ў паветра: і з дому Божага, з пасаду разьлёгся вялікі голас, каторы казаў: „Сталася!" 18 І былí маланьні а галасы а пяруны, і сталася вялікае трасеньне зямлі, якога ня бывала адгэнуль, як людзі на зямлі. Такое трасеньне зямлі! Такое вялікае! 19 І вялікае места падзялілася на тры часьці, і месты паганскія палі, і Бабілён вялікі ўспомнены перад Богам, каб даць яму чару віна палу гневу Свайго.

20 І кажны абток уцёк, і гораў не засталося; 21 І град, увелькі з цэнтнар, пайшоў зь неба на людзёў; і блявузґалі людзі на Бога за болькі ад граду, бо болька ад яго надта балючая.

**17** І прышоў адзін із сямёх ангілаў, што мелі сем чараў, і гутарыў з імною, кажучы: „Падыйдзі сюды, я пакажу тэ рассудак над вялікаю бязуляю, што сядзіць на шмат водах. 2 Зь ёю бязулілі каралёве земныя, і віном бязулства ейнага ўпіваліся жыхары зямлі".

3 І павёў мяне ў духу на пустыню; і я бачыў жонку, каторая сядзела на зьверу шкарлатным, поўным імёнаў блявузґальных, із сяма галавамі й дзесяцьма рагамі. 4 І жонка была ўбраная ў пархіру а шкарлат, і мела прыборы із золата а дарагога каменьня а пэрлаў, і дзяржала залатую чару ў руцэ сваёй, поўную агіды а нечысьціні бязулства свайго; 5 І на чале ейным напісана: „Тайна, Бабілён вялікі, маці бязуляў і брыды земнае".

6 І я бачыў, што жонка ўпіўшыся крывёю сьвятых а крывёю сьветак Ісусавых, і, бачачы яе, дзіваваўся дзівам вялікім. 7 І сказаў імне ангіл: „Чаго ты дзівуешся? я скажу тэ тайну жонкі гэтае і зьвера, што носе яе, у каторага сем галоў і дзесяць рог.

8 „Зьвер, каторага ты бачыў, быў, і няма яго, і выйдзе зь бяздоньня, і пойдзе на загубу; і зьдзівуюцца тыя із жывучых на зямлі, каторых імёны ня ўпісаныя ў сувой жыцьця ад закладзінаў сьвету, бачачы, што зьвер быў, няма яго, і зьявіцца.

9 „Тут розум, што мае мудрасьць. Сем галоў — гэта сем гор, на каторых сядзіць жонка, 10 І сямёх каралёў: пяцёх упала, адзін ё, другі яшчэ ня прышоў, і як прыйдзе, часінку мае трываць. 11 І зьвер, што быў, і няма, ён восьмы, і як із тых сямёх, і йдзець на загубу.

12 „І дзесяць рог, каторыя ты бачыў — гэта дзесяцёх каралёў, што яшчэ не адзяржалі гаспадарства, але адзяржаць уладу із зьверам, як каралёве, на адну гадзіну. 13 Яны маюць адны думкі і перададуць сілу і ўладу сваю зьверу. 14 Яны будуць ваяваць із Баранчы-

кам, і Баранчык пераможа іх; бо
Ён ё Спадар спадароў і Кароль ка-
ралёў; і тыя, што зь Ім, ё пагука́ныя
а абраныя а верныя".

15 І кажа імне: „Воды што ты
бачыў, ідзе сядзіць бязуля, гэта лю-
ды а груды а народы а мовы. 16 І
дзесяць рог, каторыя ты бачыў на
зьверу, гэтыя зьненавідзяць бязулю,
і спустошаць яе, і аголяць, і зьядуць
цела ейнае, і спаляць яе агнём;
17 Бо Бог даў ім у сэрцы чыніць
заме́р Ягоны, і дзеяць із аднэй дум-
каю, і аддаць гаспадарства свае
зьверу, пакуль ня выпаўняцца сло-
вы Божыя. 18 Жонка ж, каторую
ты бачыў, ё вялікае места, што гас-
падарствуе над земнымі каралямі".

**18** Просьле гэтага я абачыў іншага
ангіла, што зыходзіў зь неба і
меў уладу вялікую. Зямля асьвяці-
лася ад славы ягонае. 2 І гукну́ў
ён вялікім голасам, кажучы: „Упаў,
упаў Бабілён, вялікая бязуля, і стаў
сялібаю чартоў і прытулам кажнага
нячыстага духа, прытулам кажнае
нячыстае ненавіднае птушкі; 3 Бо ві-
ном шалу бязулства свайго напаіла
яна ўсі народы; І каралёве земныя
бязулілі зь ёю, і купцы земныя за-
багацелі з моцы раскошы ейнае".

4 І пачуў я іншы голас із неба,
што казаў: „Выйдзі зь яе, людзе
Мой, каб вы ня мелі сяброўства ў
грахох ейных і не дасталі болькаў
ейных; 5 Бо грахі ейныя нагрудзі-
ліся аж да неба, і Бог успомнеў не-
справядлівасьці ейныя. 6 Уздайце
ёй так, як яна ўздавала, і ўдвая, уд-
вая подле ўчынкаў ейных; у чары,
у каторай яна мяшала, замяшайце
ёй удвая.

7 „Колькі славілася яна а раско-
шавала, толькі дайце ёй удвая му-
каў а не́марасьцяў, бо яна кажа ў
сэрцу сваім: ‚Сяджу каралі́цаю, я не
ўдава, ніяк не абачу не́марасьці. 8 За
тое аднаго дня прыйдуць на яе
болькі, сьмерць а не́марасьць а га-
ладоў, і будзе спалена цяплом, бо
дужы Спадар Бог, Каторы судзіў яе.
9 І заплачуць і загалосяць па ёй
каралёве земныя, што бязулілі й
раскошавалі зь ёю, як абачаць дым
ад пажару ейнага, 10 Стоячы зда́-
леку ад страху мукаў ейных, кажу-
чы: ‚Бяда, бяда, вялікае места Ба-
білён, места дужое, што аднае га-
дзіны прышоў рассудак твой'.

11 „І купцы земныя заплачуць а
засмуцяцца па ёй, бо накладаў іх-
ных ніхто ўжо ня купляе, — 12 Нак-
ладу золата а срэбла а дарагога ка-
меньня а пэрлаў а цянюсенькага па-
латна а пурпуры а шоўку а шкар-
лату а ўсялякага пахнючага дзерва
а ўсялякіх вырабаў із сланёвае ко-
сьці а ўсялякіх вырабаў з дарагога
дзерва, зь медзі а зялеза а мрамару,
13 А цынамону а пахнючых рэчаў а
масьцяў а кадзіла а віна а алівы
а чыстае мукі а пшонкі а статку а
авец а коні а вазоў а целаў а душаў
людзкіх.

14 „І сьпелая садаві́на, жаданьне
душы тваёй, адышла ад цябе, і ўсе
сытое а пазорыстае загінула ў цябе,
і ніякім парадкам яго ўжо ня знай-
дзеш.

15 „Купцы гэтага, каторыя заба-
гацелі зь яе, стануць зда́леку із
страху мукаў ейных, плачучы а
смуцячыся, 16 Кажучы: ‚Авохці,
авохці, вялікае места, каторае адзя-
валася ў цянюсенькае палатно а ў
пурпуру а шкарлат, і мела прыбо-
ры із золата а дарагога каменьня
а пэрлаў!'" 17 Бо за адну гадзіну
спусьцела такое вялікае багацьце.

І кажны штырнік, і ўсі плыву-
чыя куды-колечы ў караблёх, і ўсі
плаўбіты, і ўсі працаўні на мору
сталі зда́леку 18 І, бачачы дым па-
жару яго, загаласілі, кажучы: „Што
падобнае да места вялікага!" 19 І
пасыпалі попелам галавы свае, і га-
ласілі, плачучы а зохаючы, кажу-
чы: „Авохці, авохці, вялікае места,



каторага каштоўнасьцямі забагаце-
лі ўсі, што мелі караблі на мору!
Бо спусьцела за адну гадзіну.

20 „Цешчася зь яго, нябёсы, і
сьвятыя, і апосталы, і прарокі, бо
рассудзіў Бог суд вашы над ім".

21 І дужы ангіл узяў камень,
увелькі зь вялікі жоран, і кінуў у
мора, кажучы: „З такім размахам
будзе ськінены Бабілён, вялікае мес-
та, і ўжо ня будзе знойдзены; 22 І
голасу гарпістых а музыкаў а ду-
дароў а трубялёў наперад ніяк ня
будзе чуваць у табе; і наперад ніякі
майстра якога-колечы рамяства ні-
як ня знойдзецца ў табе, і гуку жор-
наў ніяк ня будзе чуць у табе! 23 І
наперад сьвятло сьветача не зазьзяе
ў табе; і голасу князя маладога і
княгіні маладое ніякім парадкам ня
чуваць будзе болей у табе: бо куп-
цы твае былі́ магнатамі земскімі,
і чарамі тваімі былі зьведзены ўсі
народы. 24 І ў ім знойдзена кроў
пракаў а сьвятых а ўсіх забітых
на зямлі".

**19** Просьле гэтага я чуў быццам
вялікі голас вялікага груду на
небе, каторы казаў: „Галілуя! спа́-
сеньне а слава а магутнасьць Богу
нашаму! 2 Бо праўдзівыя а спра-
вядлівыя суды Ягоныя, бо Ён засу-
дзіў тую вялікую бязулю, каторая
папсавала зямлю бязулствам сваім,
і памсьціў кроў слугаў Сваіх з рукі
ейнае". 3 І ўдру́гава сказалі: „Галі-
луя! І дым ейны ўзыходзе на векі
вякоў".

4 І дваццаць чатыры старых і ча-
тыры жывыя стварэньні палі а пак-
laніліся Богу, Каторы сядзіць на
пасадзе, кажучы: „Амін! Галілуя!"

5 І голас ад пасаду вышаў, што
казаў: „Хваліце Бога нашага, усі
слугі а баязьнікі Ягоныя, малыя й
вялікія".

6 І чуў я быццам голас вялікага
груду, і быццам шум шмат водаў,
і быццам грукат моцных пяруноў,
што казалі: „Галілуя! бо загаспа-
дарстваваў Спадар, Бог наш Усема-
гучы. 7 Цешмася а весялі́мася, і
ўздайма славу Яму, бо настала вя-
сельле Баранчыкава, і жонка Яго-
ная прыгатавалася. 8 І дана было
ёй адзецца ў цянюсенькае палатно,
сьветлае й чыстае", бо цянюсенькае
палатно ё справядлівасьць сьвятых.

9 І сказаў імне: „Напішы: дабра-
славёныя пагука́ныя на вясельную
вячэру Баранчыкаву;" і сказаў ім-
не: „Гэта праўдзівыя словы Бо-
жыя".

10 Я паў у ногі яму, каб яму пак-
ланіцца; але ён сказаў імне: „Глядзі,
не рабі гэтага; я суслугачы твой
і братоў тваіх, каторыя маюць сьвет-
чаньне Ісусава. Кланяйцеся Богу",
бо сьветчаньне Ісусава ё дух прароц-
тва.

11 І абачыў я рашчыненае неба,
і вось, конь белы, і седзячы на ім
завецца Верны а Праўдзівы, і ў
справядлівасьці Ён судзе й ваюе.
12 І вочы Ягоныя — бы полямя
агняное, і на галаве ў Яго шмат
дыядэмаў. Меў імя напісанае, като-
рага ніхто ня ведае, апрача Яго Са-
мога. 13 Ён быў адзеўшыся ў ва-
дзецьце, абмочанае ў кроў. Імя Яго-
нае: Слова Божае.

14 І войскі нябёсныя ехалі за Ім
на конях белых, убраўшыся ў белае,
чыстае цянюсенькае палатно.

15 І з роту Ягонага выходзе вой-
стры меч, каб ім цяць народы. І Ён
будзе пасьціць іх прутом зялезным;
і Ён цісьне вінную таўчэльню пал-
кага гневу Бога Ўсемагучага. 16 І
на адзецьцю і на сьцягне Ягоным
напісана імя: КАРОЛЬ КАРАЛЁЎ
і СПАДАР СПАДАРОЎ.

17 І абачыў я аднаго ангіла, што
стаяў на сонцу; і ён гукну́ў вялікім
голасам, кажучы ўсім птушкам, што
лётаюць па сярэдзіне неба: „Пры-
ляціце, зьбярыцеся на вялікую вячэ-
ру Божую, 18 Пажэрці целы кара-

лёў а целы тысячнікаў а целы дужасілаў а мяса коні а целы коньнікаў а целы ўсіх вольнікаў і нявольнікаў, і малых і вялікіх".

19 І бачыў я зьвера й каралёў земных а войскі іхныя, зьбертыя ваяваць із Коньнікам а з войскам Ягоным. 20 І схоплены быў зьвер і зь ім хвальшывы прарока, што чыніў чудосы перад ім, якімі зводзіў тых, што прынялі знак зьвера, і тых, што кланяліся абразу. Абодва жывыя кінены ў возера агняное, што гарэла серкаю; 21 А засталыя забіты мячом Коньнікавым, што выходзіў з роту Ягонага; і ўсі птушкі насыціліся целам іхным.

20 І абачыў я ангіла, што зыходзіў зь неба, каторы меў ключ да бяздоньня і вялікі ланцуг у руцэ сваёй. 2 Ён схапіў смока, гада старавечнага, каторы ё дзявал а шайтан, і зьвязаў яго на тысяча год, 3 І сьцінуў яго ў бяздоньне, і замкнуў, і запячатаваў над ім, каб ня мог ужо зводзіць народы, пакуль ня скончыцца тысяча год; просьле гэтага ён мае быць вывальнены на малы час.

4 І абачыў я пасады і седзячых на іх, і суд быў даны ім, і душы сьцятыя за сьветчаньне Ісусава а за Слова Божае, каторыя не пакланіліся зьверу ані абразу ягонаму, і не прынялі знаку на чало свае і на руку́ сваю. Яны ажылі й каралявалі з Хрыстом тысяча год.

5 Засталыя з памерлых не ажылі, пакуль ня скончыцца тысяча год. Гэта — першае ўскрысеньне. 6 Дабраславёны а сьвяты, хто мае ўчасьце ў вускрысеньню першым: над тымі другая сьмерць ня мае ўлады; яны будуць сьвятарамі Божымі а Хрыстовымі і будуць каралявацъ із Ім тысяча год.

7 І як скончыцца тысяча год, шайтан будзе вывальнены зь вязьніцы свае, 8 І выйдзе зводзіць народы, што на чатырох рагох зямлі, Гоґа, й Маґоґа, каб зьберці іх на вайну; лік іх — як пяску морскага.

9 І ўзышлі на шырыню зямлі, і абступілі табар сьвятых а ўмілаванае места; і зышоў агонь зь неба, і пажэр іх. 10 А дзявал, што зводзіў іх, укінены ў возера агняное а серкавае, ідзе зьвер а хвальшывы прарока, і будуць мучаны дзень і ноч на векі вякоў.

11 І абачыў я вялікі белы пасад і Седзячага на ім, ад Каторага віду ўцякала зямля й неба; і не знайшлося ім месца. 12 І абачыў я мертвых, вялікіх і малых, што сталі перад пасадам, і сувоі рашчынены былі, і накшы сувой рашчынены, каторы ё сувой жыцьця; і суджаны былі мертвыя за рэчы, напісаныя ў сувоях, подле ўчынкаў сваіх. 13 І аддало мора мертвых, што ў ім, і сьмерць і пекла аддалі мертвых, што ў іх; і яны былі суджаны кажны подле ўчынкаў сваіх. 14 І сьмерць і пекла кінены ў возера агняное. Гэта сьмерць другая — возера агняное. 15 І калі хто ня быў знойдзены запісаным у сувою жыцьця, быў укінены ў возера агняное.

21 І абачыў я новае неба і новую зямлю, бо першае неба і першая зямля мінулі, і мора ўжо няма. 2 І я абачыў сьвятое места, Ерузалім новы, што зыходзіў зь нябёс ад Бога, прыгатаваны, як княгіня маладая, прыбраная дзеля мужа свайго. 3 І пачуў я вялікі голас із неба, каторы казаў: „Вось, вітальня Божая зь людзьмі, і Ён будзе жыхарыць із імі, і яны будуць людам Ягоным, і Сам Бог будзе зь імі Богам іхным; 4 І Ён абатрэць кажную сьлізу з ачоў іхных, і наперад сьмерці ня будзе ані не́марасьці, ані плачу, ані болю; бо першае мінула".

5 І сказаў Тый, што сядзеў на пасадзе: „Вось, чыню ўсе новае". І кажа: „Напішы, бо словы гэтыя праўдзівыя а верныя". 6 І сказаў імне: „Сталася! Я Альфа й Омэґа, пачатак і канец; усьмягламу дам із жарала вады жывое дарма. 7 Перамагаючаму спадзець гэта, і Я буду яму Богам, а ён будзе Імне сынам. 8 Баязьлівых жа а няверных а агідных а забіўцаў а бязуляў а чараўнікоў а балвахвалаў а ўсіх манюкаў — доля ў возеру, што гарыць агнём а серкаю; гэта — сьмерць другая".



9 І прышоў адзін із сямёх ангілаў, што мелі сем чараў, поўных сямёх апошніх болькаў, і мужаваў з імною, кажучы: „Хадзі, я пакажу тэ княгіню маладую, жонку Баранчыкаву". 10 І ўзьнёс мяне ў духу на вялікую а высокую гару, і паказаў імне сьвятое места Ерузалім, што зыходзіў зь неба ад Бога; 11 Ён мае славу Божую. Зьзяньне ягонае падобнае да найдарожшага каменя, бы да каменя ясьпіса крышталападобнага. 12 Ён мае вялікую а высокую сьцяну, мае двананцаць брамаў і на брамах двананцацёх ангілаў і напісаныя ймёны двананцацёх плямёнаў сыноў Ізраелявых: 13 З усходу тры брамы, з поўначы тры брамы, з паўдня тры брамы, із заходу тры брамы. 14 І сьцяна месцкая мае двананцаць подаў, і на іх двананцаць імёнаў двананцацёх апосталаў Баранчыкавых. 15 Тый, што мужаваў з імною, меў залатую трысьціну, мерку, каб памераць места і брамы ягоныя і сьцены ягоныя. 16 А места чатыракутняе, і ўдаўжкі такое ж, як і ўшыркі. Памераў ён места трысьціною на двананцаць тысячаў гоняў; даўжыня і шырыня і вышыня яго роўныя. 17 І сьцяну ягоную памераў — сто сорак чатыры локці людзкое меры, каторая ж ангілава.

18 Сьцяна ягоная пастаўлена зь ясьпісу, а места — чыстае золата, падобнае да чыстага шкла. 19 Подзы сьцяны месцкае прыбраныя ўсялякім дарагім каменьням: под першы — ясьпіс, другі — шапір, трэйці — халцэдон, чацьверты — шмарагд, 20 Пяты — сардонікс, шосты — крывавец, сёмы — хрызоліт, восьмы — бэрыл, дзявяты — топаз, дзясяты — хрызопрас, адзінанцаты — гіяцы̆нт, двананцаты — амэтысты.

21 А двананцаць брамаў — двананцаць пэрлаў: кажная брама была́ з аднае пэрлы. Вуліцы места — чыстае золата, як прасьветнае шкло.

22 Дому Божага ж я ня бачыў; бо Спадар Бог Усемагучы — дом яго, і Баранчык. 23 І места не патрабуе сонца ані месяца, каб асьвячаць сябе; бо слава Божая асьвяціла яго, і сьветач ягоны — Баранчык. 24 І народы будуць хадзіць у сьвятліні Ягонай, і каралёве земныя прынясуць славу сваю да Яго. 25 І брамы ягоныя ня будуць замыкацца ўдзень, а ночы там ня будзе. 26 І прынясуць да яго славу а чэсьць народаў. 27 І нічога нячыстага ня ўвыйдзе ў яго ані чынячы брыду а ману, але адно напісаныя ў сувою жыцьця Баранчыкавым.

22 І паказаў імне раку вады жыцьця, сьветлую, як крышталь, каторая выцякала з пасаду Божага а Баранчыкавага. 2 Сярод вуліцы ягонае і паабапал ракі — дзерва жыцьця, што родзе двананцаць пладоў, кажнага месяца выдаець плод свой; і лісты дзерва — да ўздараўленьня народаў.

3 І нічога ўжо ня будзе праклятага; але пасад Божы а Баранчыкаў будзе ў ім, і слугі Ягоныя будуць служыць Яму. 4 І абачаць від Ягоны, і імя Ягонае будзе на чолах іхных. 5 І ночы ня будзе там, ня будуць патрабаваць сьветача ані сьвятліні сонечнае, бо Спадар Бог будзе асьвячаць іх; і будуць каралявацъ на векі вякоў.

6 І сказаў імне: „Гэтыя словы верныя а праўдзівыя; і Спадар Бог духоў прарокаў паслаў Ангіла Свай-

го паказаць слугам Сваім тое, што мае стацца неўзабаве. 7 І вось, іду неўзабаве": дабраславёны, хто заховуе словы прароцтва сувою гэтага.

8 І я, Яан, чуў і бачыў гэта. І як я пачуў і абачыў, паў у ногі ангілу, што паказаваў імне гэта, каб пакланіцца; 9 Але ён сказаў імне: „Глядзі, не рабі гэтага: я — сунявольнік твой, і братоў тваіх прарокаў, і заховуючых словы сувою гэтага; Богу кланяйся".

10 І сказаў імне: „Не запячатавай словаў прароцтва сувою гэтага; час блізка. 11 Несправядлівы няхай яшчэ чыне несправядлівасьць; і брудзяны няхай брудзяніцца яшчэ; а справядлівы няхай чыне справядлівасьць яшчэ, і сьвяты няхай усьвячаецца яшчэ".

12 „Вось, прыйду неўзабаве, і адплата Мая з імною, каб адплаціць кажнаму подле ўчынкаў ягоных. 13 Я Альфа й Омэга, першы й апошні, пачатак і канец". 14 Дабраславёныя тыя, што памыюць уборы свае, бо яны будуць мець права да дзерва жыцьця і каб увыйсьці пераз брамы да места. 15 Вонках — сабакі і чараўнікі, і бязулі, і забіўцы, і балвахвалы, і кажны, хто любе й чыне ману.

16 „Я, Ісус, паслаў ангіла Свайго пасьветчыць гэта вам у цэрквах. Я карэнь і пагон Давідаў, зорка сьветлая, ранічная".

17 І дух і князгіня маладая кажуць: „Прыйдзі!" І чуючы няхай скажа: „Прыйдзі!" Усьмяглы хай прыходзе, і зычачы няхай бярэць ваду жыцьця дарма.

18 Я сьветчу кажнаму, хто чуе словы прароцтва сувойчыка гэтага: калі хто дадасьць што да іх, таму дадасьць Бог болькаў, апісаных у сувойчыку гэтым. 19 І калі хто адыйме ад словаў сувойчыка прароцтва гэтага, адыйме Бог дзель ягоную зь дзерва жыцьця і зь места сьвятога, апісанага ў гэтым сувойчыку.

20 Тый, што сьветча гэта кажа: „Запраўды прыйду неўзабаве". Амін. Прыйдзі, Спада́ру Ісусе!

21 Ласка Спадара Ісуса Хрыста з усімі сьвятымі. Амін.